Пад парасонам часу
па вулках старажытных
Прайдуся я няспешна,
а дзе і пастаю,
І з Лідаю сам-насам
у рысах непазбыўных
Згадаю яе вечнасць
і маладосць сваю.

*Станіслаў Суднік*

УДК 94(4)
ББК 63.3
Л 96

Лаўрэш, Л.Л.

Л 96
**Шпацыры** па старой Лідзе / Лаўрэш Л.Л. – Гродна: «ЮрСаПрынт», 2020. – 342 с.

ISBN 978-985-7134-92-2

У кнізе, грунтуючыся на архіўнай інфармацыі, працах гісторыкаў, мемуарах лідзян і артыкулах старых газет, праз лёс лідскіх вуліц, будынкаў і жыхароў горада, расказваецца гісторыя старажытнага горада Ліда.

Кніга напісана як серыя вандровак па старой Лідзе. Карыстаючыся ёю і пададзенымі каардынатамі, можна самастойна вывучаць гісторыю гэтага старога павятовага цэнтра Беларусі.

Кніга будзе цікавай жыхарам Лідчыны, экскурсаводам і гасцям горада а таксама ўсім чытачам, якія неабыякавымі да беларускай мінуўшчыны.

**УДК 94(4)**
**ББК 63.3**

**ISBN 978-985-7134-92-2**

# Уступнае слова

Кніга «Шпацыры па старой Лідзе» – плён шматгадовай працы лідскага літаратара і краязнаўца Леаніда Лаўрэша, працы архіўнай, гістарыяграфічнай, але таксама і даследчыцка-палявой, менавіта апытання сталых жыхароў горада пра падзеі XX ст.

Строга падыходзячы да справы, тут не зусім пасуе слова «краязнаўства» як да кнігі, так і да яе аўтара, бо яно асацыіруецца з аматарствам. Больш дакладным будзе акрэсленне «рэгіянальная гісторыя», бо мы маем выкладзенае ў папулярнай форме навуковае даследаванне.

Кніга Лаўрэша – як вяршыня айсберга, менавіта яго частка, найбольш відочная і даступная для людскога ўспрымання. Па-за полем зроку застаецца «падводная» частка – нашмат большая як па працягласці, так і па аб'ёму праробленай працы.

Каштоўнасць кнігі менавіта ў тым, што яна ўяўляе сабой прадукт гістарычнага даследавання, даведзены да канцавой мэты – масавага чытача. Але яна – не прадукт масавай культуры. Напісаная добрай выразнай мовай у апоры на грунтоўным крыніцазнаўчым і гістарыяграфічным падмурку – кніга прэзентуе культуру прафесійную.

Лічу гэтую працу выдатным дапаможнікам для ўсіх, хто хоць нейкім чынам судакранецца з гісторыяй старажытнага горада Ліда. Для экскурсаводаў, каб мелі да дыспазіцыі большы аб'ём дакладнай гістарычнай інфармацыі і менш запаўнялі час выцечкі ўласнымі фантазіямі. Для гісторыкаў, якія пішуць гісторыю рэгіёна і ўсёй краіны. Урэшце для турыстаў, якія самастойна могуць з кнігай у руках прайсціся па ўсіх апісаных у ёй мясцінах, каб усё спраўдзіць на ўласныя вочы. Прызнаюся, што сам менавіта так і зраблю, неўзабаве пасля выхаду кнігі друкам.

*Аляксандр Краўцэвіч,*
*доктар гістарычных навук*

# Уступнае слова ад аўтара

Старажытная Лідчына гістарычна заўсёды была часткай Віленшчыны. Кароткі час, у 1920–30-я гг., Лідчына ўваходзіла ў склад Навагрудскага ваяводства. Зараз стары беларускі павятовы горад Ліда знаходзіцца ў Гродзенскай вобласці і з'яўляецца цэнтрам Лідскага раёна. Ён размешчаны ў 112 км на ўсход ад Гродна і 96 км на поўдзень ад Вільні. Горад з'яўляецца чыгуначным вузлом, ад станцыі Ліды адыходзяць чыгуначныя лініі на Гродна, Вільню, Маладзечна, Баранавічы. Плошча Ліды каля 25 км$^2$, у горадзе жыве каля 100 000 чалавек (на самым пачатку XX ст. – каля 10 000).

У горадзе працуе шэраг буйных прадпрыемстваў, маецца 17 агульнаадукацыйных сярэдніх школ, ліцэй, гімназія, каледж, музычнае вучылішча, 3 ПТВ, 41 дашкольная ўстанова. Працуюць 3 паліклінікі, цэнтральная раённая бальніца і міжабласная псіханеўралагічная бальніца «Астроўля».

Як і ўсе беларускія гарады, Ліда мае сваю працяглую і слаўную гісторыю. Паказаць гэту гісторыю праз лёс лідскіх вуліц, будынкаў і жыхароў нашага горада – мэта маёй кнігі. Аўтар паспрабаваў выкласці ўсё галоўнае і цікавае з таго, што назапасілася за дзесяцігоддзі вывучэння лакальнай гісторыі Лідчыны.

Асаблівасцю Ліды з'яўляецца тое, што большасць аб'ектаў, пра якія пойдзе гаворка ў кнізе, ужо не існуе. І таму я павяду вас па гораду-прывіду, гораду, які амаль што цалкам знік у 1941 г. Ва ўсіх главах кнігі стаяць знакі QR-кода, якія павінны выводзіць аматараў шпацыраў па Лідзе ў кропкі, у якіх, па маім меркаванні, найлепш вывучаць той аб'ект, пра які ідзе гаворка ў главе. Але самастойнасць у справе вывучэння Ліды вітаецца.

# Лідскі замак

Лідзяне не могуць уявіць свой горад без замка, іх заўсёды будзе цікавіць яго гісторыя і хваляваць яго лёс.

Дом маіх бацькоў стаяў зусім недалёка ад замка, і гэты помнік беларускай гісторыі з'яўляецца часткай майго дзяцінства. Таму, канешне ж, я пачынаю кнігу вандровак па Лідзе з замка, бо замак – сэрца і пачатак горада, наш гонар і галоўная архітэктурна-гістарычная каштоўнасць.

Лідскі замак – помнік абарончага дойлідства XIV ст., пачатак яго будаўніцтва адносяць да 1323 г. Уваходзіў у лінію ўмацаванняў Навагрудак – Крэва – Меднікі – Трокі. З пункту гледжання архітэктуры ён спалучае рысы раманскага стылю і ранняй готыкі. Пабудаваны на пясчаным узгорку (вышэй 5–6 м) і раней быў абкружаны балоцістымі берагамі рэк Лідзеі і Каменкі, а таксама ровам шырынёй каля 20 м, які злучаў абедзве рэчкі і аддзяляў замак ад горада з поўначы.

Лідскі замак у плане – няправільны чатырохвугольнік (бакі каля 80 м) з 2 вуглавымі вежамі. Сцены на невысокім падмурку (70–80 см) маюць таўшчыню: унізе – 2 м, уверсе – 1,5 м. Паўночныя сцены больш тоўстыя, бо толькі з гэтага боку можна было штурмаваць замак, які стаяў практычна пасярод балота. Верхняя частка сцен з баявой галерэяй і байніцамі вымуравана з цэглы. Вонкавыя паверхні сцен пабудаваны з вялікіх валуноў, прамежкі паміж імі запоўнены каменнымі клінамі і забутоўкай з дробных камянёў.

У першай палове XIV ст. пабудавана квадратная ў плане (9 х 9 м) паўднёва-заходняя вежа. Другая, паўночна-ўсходняя, вежа была пабудавана ў канцы XIV – пачатку XV ст. У замак вялі тры ўваходы – 2 ва ўсходняй сцяне і адзін у паўднёвай.

На працягу XIV–XVIII стст. у выніку шматлікіх аблог часткова былі разбураны вежы і ўнутраныя пабудовы замка, захаваліся толькі рэшткі абарончых сцен і веж.

У XVII ст. замак атрымаў дадатковае ўмацаванне – штучнае возера (стаў), якое прыкрывала яго з усходу. Гэта возера ёсць на планах і малюнках XVIII–XIX стст.

Воіны, якіх ахоўвалі замак, жылі ў драўляных казармах, прыбудаваных да каменных замкавых муроў з паўночнага боку. Жылыя будынкі мелі форму выцягнутых прамавугольнікаў, падзеленых перагародкамі на асобныя памяшканні. У кожным пакоі стаяла кафляная печ. Падчас шматлікіх аблог замка і пажараў драўляныя пабудовы гарэлі, а печы разбураліся. Але насельнікі замка хутка зноў аднаўлялі сваё жыллё на старых каменных падмурках, а разбітыя кафлі ішлі на адбудову новых печаў. Таму археолагі знайшлі ў замку вялікую колькасць кафлі, кухоннага і сталовага керамічнага посуду, вырабаў з металу, каменю і косці. Асабліва ўражвае пячная кафля, якой тут знойдзена некалькі тысяч фрагментаў.

Незадоўга да сваёй смерці Гедымін размеркаваў удзелы паміж сваімі сынамі, і Лідскі замак з яго воласцю аддаў сыну Кейстуту. У 1346 г. Лідская воласць была саступлена Кейстутам яго брату Альгерду, які каля 1370 г. аддаў яе на трыманне свайму ўлюбёнцу, чалавеку простага паходжання Вайдылу. Кейстут нядоўга сядзеў на вялікакняскім пасадзе. У 1382 г. Ягайла запрасіў свайго дзядзьку да сабе і адправіў у Крэўскі замак, у падзямеллі якога стары князь быў задушаны. Такая ж доля пагражала і сыну Кейстута Вітаўту, але ён паспеў збегчы да нямецкіх рыцараў, з якімі на працягу некалькіх гадоў трывожыў Літву. Са смерцю Вайдылы Лідская воласць перайшла ў валоданне Ягайлы, які ў граматах тытулаваў сябе князем віцебскім, крэўскім, лідскім.

У 1391 г. Ягайла аддаў Ліду свайму брату Зміцеру Карыбуту, а ў студзені наступнага года моцны аддзел нямецкіх рыцараў, у шэрагах якога знаходзіўся і стрыечны брат Ягайлы Вітаўт, перайшоў па лёдзе каля Аліты (зараз – Алітус) Нёман, нечакана з'явіўся ля сцен Лідскага замка, спаліў прылеглую да яго частку горада і запатрабаваў здачы яго Вітаўту. Застрашаны з'яўленнем рыцараў, Зміцер Карыбут пакінуў замак Вітаўту і без бою, у глухую поўнач спешна выступіў з замка з усім сваім аддзелам і накіраваўся ў Наваградак. Пішуць, што крыжакі вывезлі тады адгэтуль вялікія запасы зброі, правіянту і г. д. Атрымаўшы такім чынам у сваё валоданне Лідскі замак, Вітаўт у хуткім часе зноўку перабудаваў яго і зрабіў з адным з наймацнейшых умацаванняў.

4 жніўня 1392 г. у маёнтку Востраў каля Ліды паміж Вітаўтам і Ягайлам былі падпісаны ўмовы вечнага міру, прычым Лідская воласць засталася ў валоданні Вітаўта. Гэтая апошняя акалічнасць паслужыла нагодай для новай міжусобнай вайны. Карыбут запатрабаваў у Вітаўта вяртання Ліды, але атрымаў адмову. Таму на пачатку восені 1392 г. сабраў значнае наёмнае войска і выступіў з ім супраць Вітаўта. Вітаўт не дапусціў Карыбута да сцен Лідскага замка і сустрэў яго на беразе Нёмана. Ля вёскі Дакудава адбылася кароткая, але гарачая бітва. Карыбут не выстаяў і адступіў да Наваградка, але і тут не сумеў абараніцца, быў разбіты, захоплены ў палон і са ўсім сваім сямействам адасланы да Ягайлы ў Польшчу.

Крыжакі неаднаразова з'яўляліся пад мурамі Лідскага замка. Зараз я раскажу пра сусветна вядомых людзей, якія ў складзе рыцарскіх аддзелаў наведвалі Ліду ці былі недалёка ад яе ў канцы XIV ст.

Калі вывучаеш войны Вялікага Княства Літоўскага з Тэўтонскім ордэнам, сустракаеш прозвішчы замежных і ў тым ліку брытанскіх рыцараў, якія ваявалі супраць нашых продкаў на баку Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў. Сярод іх былі асобы, вядомыя па творах славутага Вільяма Шэкспіра.

Якім жа чынам яны патрапілі на беларускую зямлю?

У тагачаснай Прусіі пабывалі практычна ўсе арыстакраты Еўропы, яна, як магніт, вабіла шараговых ваяроў – усе яны жадалі стаць рыцарамі. Аднак у канцы XIII ст. Тэўтонскі ордэн усё радзей і радзей мог прапанаваць замежным рыцарам удзел у баявых дзеяннях. Часцей за ўсё прыезджыя ваяры маглі разлічваць на сумную залогавую службу альбо небяспечную і нецікавую партызанскую вайну. У 1330-х гадах вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Лютэр фон Брауншвейг (Luther von Braunschweig) прапанаваў план прыцягнення новых рыцараў. Сам Лютэр быў адораным паэтам і заахвочваў аўтараў рэлігійных і гістарычных прац пісаць пра Тэўтонскі ордэн. Ён стварыў традыцыю, у якой паходы супраць Літвы сталі неабходным складнікам рыцарскай галантнасці. Важнае значэнне мела колькасць пасвечаных у рыцары па заканчэнні паходаў. Таму пасвячэнне адбывалася, як толькі хтосьці з кандыдатаў здзяйсняў годны ўчынак. Тады вялікі магістр запра-

шаў самых адважных ваяроў за стол, падобны да Круглага стала караля Артура, і ўзнагароджваў іх. Французскі гісторык Э. Лавіс так апісаў гэтае мерапрыемства: «У пышным шатры накрываўся круглы стол, пад гукі труб і цымбал вакол яго сядалі дзесяць прызнаных найадважнейшых рыцараў, і імёны іх услаўляліся потым паэтамі ва ўсім хрысціянскім свеце. Такія рыфмаваныя аповеды таксама запальвалі мужнасць, як у мінулы час казань Пятра Пустэльніка або Святога Бернара, і, дзякуючы … гэтаму, існаванне Ордэна працягвала падавацца патрэбным».

У адрозненне ад рыцараў, якія ўдзельнічалі тады ў Стогадовай вайне на тэрыторыі Францыі, матэрыяльная зацікаўленасць крыжакоў не была для іх галоўнай. Калі параўноўваць з астатняй Еўропай, гэта ў значнай ступені тлумачылася беднасцю мясцовага насельніцтва. Адзіным багаццем тут былі коні. Дарэчы, вялікі князь літоўскі Вітаўт меў 20 000 коней. Тэўтонскіх жа рыцараў вабіла зямля, а на рухомую маёмасць яны мала звярталі ўвагу. Таму ордэн прыцягваў ваяроў не грашыма, а рыцарскімі забавамі, банкетамі і адмысловымі знакамі шляхецкага гонару. Э. Лавіс пісаў, што замежнікам карцела паглядзець зблізку на гэты ордэн, адчуць гонар рыцарства, але больш за ўсё вабіла пагоня за цікавымі прыгодамі, ну і гісторыямі, пры дапамозе якіх можна было б потым рабіць уражанне на паненак.

Не дзіўна, што шматлікія нямецкія песні пачынаюцца словамі: «Жыў аднойчы рыцар, які паехаў у Прусію», а французскія казкі часам згадваюць пра гаротнае становішча рыцара, які браў удзел «у святым паходзе ў Прусію» і апынуўся ў незайздросным становішчы ашуканага мужа. Прыклад адносін рыцарства Еўропы да крыжовага паходу ў Прусію адлюстроўвае раман Антуана дэ ла Саль «Маленькі Жан дэ Сэнтрэ», ён уяўляе сабою амаль што падручнік для тых, хто прагнуў пасвячэння ў рыцары. Па аналогіі з сучасным спортам, у той час існавалі «прафесійныя» рыцары, іх асноўным заняткам быў выклік на бой сапернікаў у чужых краях і бадзянне ад аднаго манаршага двара да іншага ў пошуках праціўнікаў, якія прынялі б іх умовы. Дзеля гэтага Жан дэ Сэнтрэ з Францыі накіраваўся ў Арагонскае каралеўства, дзе гаспадар шчодра адарыў яго. Пазней герой рамана пабываў пры двары імператара і выступаў супраць нямецкіх рыцараў, прычым імператар асабіста прысутнічаў на двубоях. Нарэшце ён перайшоў ад рыцарскіх гульняў да рэальнай вайны і адправіўся ў «крыжовы паход» на Прусію, дзе і здабыў сабе славу.

Але ж падарожжа ў Прусію было занадта дарагім для бедных рыцараў, і таму Тэўтонскі ордэн выплачваў грашовыя субсідыі. Практыка выплаты грашовых сум на дарогу стала настолькі шырока распаўсюджанай, што нават герцаг Баварскі, адзін з найбагацейшых людзей у Святой Рымскай Імперыі, прыняў грошы ад ордэна за службу ў 1322 г.

Зацішша ў Стогадовай вайне выклікала прыток французскіх, бургундскіх і брытанскіх рыцараў. Маршал Францыі Жан Бусіко (Jean Boucicaut) асабіста ўдзельнічаў у чатырох кампаніях на баку ордэна і, пакуль мужчыны ваявалі ў Прусіі, арганізаваў абарону сем'яў крыжакоў у Францыі ад разбойнікаў. З 1329 г. ангельскія рыцары сталі рэгулярна ўдзельнічаць у зімовых або летніх наездах на Літву. Кульмінацыя актыўнасці адбылася паміж лістападам 1367 г. і лютым 1368 г., калі каралеўскія ліцэнзіі на ўдзел у вайне ў Прусіі былі прадстаўлены чатырнаццаці рыцарам і іх атрадам, што ў суме склала дзевяноста сем ваяроў.

Для некаторых экспедыцыя ў Прусію стала звычкай. У 1360-х гадах там пабывалі рыцары ўсіх рэгіёнаў Англіі і розных сацыяльных узроўняў дваранства. Увогуле, у балтыйскіх крыжовых паходах удзельнічала мноства высакародных сем'яў Англіі: Warwicks, Herefords, Beauchamps, Uffords, Bohuns, Percies, Despensers, Fitz Walters, Beauchamps, Scropes, Courtenays, Montagues, Counenay. Генры Персі (Henry Percy), знакаміты Хотспур (Hotspur), сын першага графа Нартумберлен-

да (first earl of Northumberland), пра якога падрабязней я распавяду далей, быў у Балтыйскіх крыжовых паходах у 1383 г. і, верагодна, пад Лідай у 1392 г.

**Кароль Генрых IV (граф Дэрбі).** Самы вядомы ваяр, які стаў прататыпам рыцара з «Кентэрберыйскіх апаведаў», напісаных выдатным англійскім паэтам Сярэднявечча Джэфры Чосерам (1344–1400), а таксама прататыпам героя трагедый Вільяма Шэкспіра «Рычард II» і «Генрых IV», быў граф Дэрбі, будучы кароль Англіі Генрых IV. Крыніцай сюжэта для Шэкспіра з'явіліся некалькі ананімных п'ес і летапісы Холіншэда, з якімі, аднак, Шэкспір абышоўся вельмі вольна. П'еса пра валадаранне Генрыха IV складае сярэднюю частку тэтралогіі, пачаткам якой з'яўляецца «Рычард II», а канцом – «Генрых V». Усе яны звязаныя паслядоўнасцю гістарычных падзей і супольнасцю некаторых персанажаў. Дзеянне п'есы разгортваецца ў Англіі на пачатку XV ст., калі каралеўская ўлада сцвярджала сябе ў барацьбе з феадаламі.

Генрых IV Балінгброк (Henry IV Bolingbroke), вядомы таксама як Генрых Ланкасцер, кароль, заснавальнік Ланкасцерскай галіны дынастыі Плантагенетаў. Генрых нарадзіўся ў замку Балінгброк у 20 км на поўнач ад Бостана ў 1367 г. Калі яму было дзесяць гадоў, яму быў нададзены тытул графа Дэрбі і самая ганаровая ўзнагарода ў каралеўстве – ордэн Падвязкі. У 1380 г. ён ажаніўся з адной са спадчынніц графа Хэрафорда Марыяй Багун і ў 1384 г. пераняў і гэты графскі тытул, з 1397 г. Генрых стаў першым герцагам Хэрафордам. Прысвяціўшы сябе рыцарскім подзвігам, 1390–1393 гады Генрых правёў у крыжовых паходах, вандраваў па Цэнтральнай Еўропе, дабраўся да Венецыі, пабываў на Кіпры і ў Палесціне.

У 1390 г. Генрых вырашыў далучыцца да крыжовага паходу ў Літву, у якім удзельнічалі французскія рыцары. Бацька, Джон Гонт, даў яму 3533 фунты на выдаткі. Былі наняты караблі з Данцыга, каб перавезці тры сотні англійскіх ваяроў. Дэрбі 16 жніўня прыбыў у Кёнігсберг. Прускія гісторыкі прызнаюць добрую службу графа і яго паплечнікаў.

Тым часам магістр Энгельгард Рабэ, сумесна з Вітаўтам і лівонскімі рыцарамі, рыхтаваўся да вайсковага паходу. Тут трэба заўважыць, што Вітаўт змагаўся за спадчынны вялікакняскі пасад і выкарыстоўваў рыцараў як часовых паплечнікаў. У жніўні, пасля прыбыцця добраахвотнікаў з Англіі і Францыі, падрыхтоўка да вайны ў Прусіі была скончана. Войска выступіла пад камандаваннем магістра Энгельгарда Рабэ (Engelhard Rabe), бо вялікі магістр Конрад Цольнер (Konrad Zolner) быў цяжка хворы. Французамі камандаваў рыцар Бусіко, сын маршала Францыі. Пад Коўнам (зараз – Каўнас) злучыўся з галоўнымі сіламі магістр інфлянцкі са сваімі рыцарамі. Мэтай паходу быў захоп Вільні і ўзвядзенне на вялікакняскі пасад Вітаўта. Пад замкам Віссельвальдэ (Wissewalde), недалёка ад старога Коўна, са сваім войскам чакаў Скіргайла. Было вырашана бараніць пераправы. Але магістр з атрадам адборных рыцараў абышоў Скіргайлу з поўначы, пераправіўся праз раку ўброд, раптоўна напаў на ліцвінскае войска і разграміў яго. Гэтая бітва адбылася каля мястэчка Віжуны. Скіргайла страціў сто чалавек. Рыцары ўзялі ў палон трох князёў: Сымона – сына Яўнута, Глеба Святаслававіча Смаленскага і Глеба Канстанцінавіча Чартарыскага (па версіі Стрыйкоўскага, гэтыя князі былі забітыя), а таксама адзінаццаць баяраў. Перамогу крыжакі адсвяткавалі шумным баляваннем. Скіргайла з часткай свайго войска схаваўся ў замку Віссельвальдэ, другая частка войска адступіла да Вільні. Недалёка ад Вільні, пад Веркамі, адбылася іншая бітва, у якой ліцвіны зноў атрымалі паражэнне і адступілі.

4 верасня 1390 г. аб'яднаныя сілы крыжакоў і Вітаўта аблажылі Вільню. Адначасова па рэках Нёману і Віліі былі дастаўлены харчовыя прыпасы і ваенны

рыштунак. Усе вайсковыя кідальныя машыны праціўніка пачалі абстрэльваць Вільню з мэтай запаліць горад.

6 верасня пачаўся агульны штурм падпаленага горада. Верагодна, прыхільнікі Вітаўта адчынілі браму горада, і непрыяцель уварваўся ў яго, забіваючы ўсіх. Ян Длугаш (1415–1480), польскі гісторык, лічыў, што галоўнай прычынай падзення добра ўмацаванага горада была здрада. Длугаш пісаў: «...полымя з-за варожага прыступу нельга было спыніць, князь Казімір, інакш Карыгайла, родны брат польскага караля Уладзіслава, кідаецца ўцякаць з агню, але трапляе жывым у рукі ворагаў, якія ў вялікім мностве атачалі падпалены замак, і адразу ж падае абезгалоўлены; насадзіўшы галаву забітага на доўгую дзіду, ворагі паказваюць яе для застрашвання абаронцаў Верхняга замка, пераконваючы іх здацца і здаць замак...».

У лісце комтура ордэна пра вынікі штурму напісана: «...пасля першага штурму войска крыжакоў апанавала драўляны замак, у якім былі забіты тысячы людзей і згарэла шмат ваяроў пешых і конных з некалькімі русінскімі князямі, а менавіта адзін з братоў польскага караля, Карыгайла, у тым замку ўзята ў палон некалькі тысяч людзей living рознага веку».

Длугаш піша пра 14 000 забітых, Георг Фойгт (1827–1891), нямецкі гісторык, спасылаючыся на хроніку Віганда, гаворыць пра 7000 забітых. Крыжакі разышліся па ўсім краі. Дзе быў у гэты час граф Дэрбі, невядома. У лістападзе з Польшчы падышоў Ягайла з польскім войскам, але да гэтага часу крыжакі адступілі, і ўзімку 1391 г. Ягайла вярнуўся ў Польшчу.

20 кастрычніка Дэрбі вярнуўся ў Кёнігсберг, дзе заставаўся да 9 лютага 1391 г., там граф зладзіў вялікі банкет паміж Калядамі і Трыма Каралямі на ангельскі манер. Затым ён вярнуўся ў Данцыг і застаўся там да канца Вялікадня 1391 г., пры гэтым атрымаў падарункі ад новага магістра, Конрада фон Валенрода, і вёў перамовы з Польшчай пра абмен двух палонных ангельскіх рыцараў. Граф Дэрбі выкупіў палонных, атрымаў ад папы Баніфацыя IX вызваленне ад крыжацкага зароку і ў канцы сакавіка прыплыў у Англію.

**Генры Персі Хотспур.** Нартумберлэнды (Northumberland), лінія графаў, а пасля герцагаў з сямейства Персі, якая пакінула прыкметны след у гісторыі Англіі. Персі мелі значныя ўладанні ў Паўночнай Англіі. Першыя свае маёнткі, якія знаходзіліся ў Ёркшыры, яны атрымалі яшчэ з рук Вільгельма Заваёўніка.

Сэр Генры Персі (1364(?) – 1403), таксама вядомы па мянушцы Гары Хотспур (Harry Hotspur, Гарачая Шпора – Падшыванец), быў старэйшым сынам Генры Персі, 1-га графа Нартумберленда, пасвечаны ў рыцары каралём у Віндзары 23 красавіка 1377 г. Ужо ў 1383 г. Гары Хотспур першы раз бярэ ўдзел у крыжовым паходзе ў Літву.

Войскі 11 верасня сабралася каля Трокаў. У Трокскім замку была моцная залога з ваяроў Скіргайлы, якія мелі ўсё неабходнае для абароны. Крыжакі ўжылі аблогавыя прыстасаванні. Ім удалося праламіць мур. Залога дамовілася з крыжакамі аб бесперашкодным выхадзе і пакінула замак, пасля чаго ён быў прыведзены ў належны стан.

Па Літве пайшла пагалоска аб узяцці Вітаўтам Трокаў, і шляхта, якая служыла яшчэ яго бацьку, пачала сцякацца пад сцягі князя. Аб канкрэтных дзеяннях Хотспура ў гэты час нічога не вядома, але ж ёсць звесткі, што толькі напрыканцы 1383 г. Гары Хотспур вярнуўся на радзіму, але, па сведчаннях гісторыкаў, мог браць удзел у выправе пад Ліду ў пачатку 1392 г. З ліста караля Кіпра каралю Англіі Рычарду II ад 15 ліпеня 1393 г. вядома, што Генры Персі ўвесну быў на Кіпры і, магчыма, сустрэўся з графам Дэрбі, што ўскосна можа сведчыць пра яго ўдзел у

выправе 1392 г. Неабходна дадаць, што дзядзька Хотспура Томас Персі, граф Вусцер (Thomas Percy Worcester) таксама значны персанаж трагедый Вільяма Шэкспіра «Рычард II» і «Генрых IV».

Хотспур – адзін з галоўных герояў драмы «Генрых IV» Уільяма Шэкспіра. Шэкспір паказвае Хотспура выбітнай асобай, роўнай якой у атачэнні караля няма. Аднак пры ўсёй сваёй доблесці Хотспур – бунтаўшчык, якому не можа быць месца пры цэнтралізаваным дзяржаўным парадку. У Шэкспіра ён смелы і палкі, хуткі ў думках і дзеяннях, сваю рыцарскую волю ён ставіць вышэй за ўсё. Можна сказаць, што Хотспур – краса і гонар сыходзячага сярэднявечча. Хотспуру жыццё ўяўляецца арэнай бесперапынных рыцарскіх сутычак. Па ягоных словах: «Як жыць, дык каралёў зрынаць; як смерць, дык слаўная, каб прынцы гінулі з намі!» (частка I, V, 2).

Уладанні сям'і Персі знаходзіліся ў прыгарадзе Лондана – Татэнхеме. Таму футбольны клуб прэм'ер-лігі, штаб-кватэра і стадыён якога знаходзяцца ў паўночнай частцы брытанскай сталіцы, мае назву Татэнхем Хотспур. За сваю больш чым стагадовую гісторыю клуб стаў адным з самых тытулаваных на Туманным Альбіёне. Дэвіз клуба – «Адважыцца – значыць зрабіць».

З верасня 1933 г. па кастрычнік 1959 г. у Англіі друкаваўся самы папулярны дзіцячы часопіс «Хотспур» (The Hotspur). Усяго было выпушчана 1197 нумароў. З канца кастрычніка 1959 г. пачаў выдавацца часопіс-комікс для дзяцей «Новы Хотспур» (New Hotspur). На іх вырасла некалькі пакаленняў брытанцаў. А ў сучаснай англійскай мове слэнгавае слова «хотспур» абазначае халерыка са слабым кантролем над сваімі паводзінамі.

**Джон Бафорт.** Джон Бафорт (Johann Beaufort) – асоба ў гісторыі вядомая. Удзел яго ў паходзе 1394 года на Літву пацвярджаецца гістарычнымі крыніцамі, напрыклад, англійскі гісторык пачатку XX ст. А. Полард у сваім «Нацыянальным біяграфічным слоўніку» пісаў, што Бафорт у 1394 г. ваяваў на баку Тэўтонскага ордэна ў Літве. Тое ж самае пішуць і іншыя гісторыкі.

Джон Бафорт, першы граф Самерсэта (1371 (?) – 1410) быў першым з чатырох пазашлюбных дзяцей Джона Гонта, герцага Ланкасцера, і яго палюбоўніцы Кэтрын Свайнфорд (пазней яна стала яго жонкай). Бафорт нарадзіўся прыблізна ў 1371 г., і прозвішча было яму нададзена з-за феода Бафорт ягонага бацькі ў правінцыі Шампань у Францыі. Такім чынам, будучы кароль Генрых IV (граф Дэрбі) быў яго зводным братам.

Паводле А. Поларда, вайсковую службу Джон Бафорт пачаў у 1390 г. у крыжовым паходзе ў Паўночную Афрыку. Пасля законнага шлюбу свайго бацькі і маці ў 1397 г. атрымаў тытул графа Самерсэта і месца ў парламенце побач з графам Уорвікам. Праз некалькі месяцаў атрымаў тытул герцага Глостэра і маркіза Дарсэта, ордэн Падвязкі і месца намесніка Аквітаніі. У 1398 г. стаў адміралам флоту Ірландыі, канстэблем замка Дувр і лордам-намеснікам Пяці партоў. Пасля таго, як кароль Рычард II быў зрынуты ў 1399 г., новы кароль Генрых IV адмяніў тытулы, якія даваліся прыхільнікам старога караля, і Джон Бафорт стаў проста графам Самерсэтам. Аднак ён быў лаяльным да новага караля і служыў яму на розных вайсковых і дыпламатычных пасадах. У 1404 г. ён стаў канстэблем Англіі. Самерсэт памёр пасля доўгай хваробы 16 сакавіка 1410 г. у шпіталі Св. Кацярыны недалёка ад лонданскага Таўэра і быў пахаваны ў Кентэрберы.

Джон Бафорт, граф Самерсэт, – персанаж першай часткі драмы «Генрых IV» Уільяма Шэкспіра.

Магчыма, звесткі пра сляды «нацыянальных герояў» Англіі на тэрыторыі нашай старажытнай дзяржавы паспрыяюць развіццю сучаснага міжнароднага турызму на Беларусі.

* * *

Замак заўсёды з'яўляўся дзяржаўнай уласнасцю, падтрымліваўся і ахоўваўся мясцовай шляхтай, быў сховішчам для навакольных жыхароў пры з'яўленні непрыяцеля, быў складам зброі, месцам для пасяджэння судоў і збору павятовых сеймікаў, турмой і г. д.

У 1568 г. лідская шляхта прасіла вялікага князя ВКЛ Жыгімонта Аўгуста, «абы суды земские в оном повете Лидском отправованы были в замку, а не по корчмам на месте». Вялікі князь задаволіў гэтае жаданне, і пасяджэнні земскага суда пачалі адбывацца ў замку. Яшчэ ў канцы XVIII ст. у развалінах адной з вежаў замка былі бачныя сляды судовых пасяджэнняў – у самым канцы XVIII ст. Тэадор Нарбут абследаваў руіны ўмацавання і запісаў, што ў адной з кутніх вежаў на верхнім паверсе меліся шыкоўныя залы і пакоі, а на ніжнім – судовая і архіўная «ізбы».

Для захоўвання кніг Лідскага земскага суда ў 1638 г. было дазволена за кошт мясцовых жыхароў пабудаваць у замку склеп пры сцяне. Актавыя кнігі тут знаходзіліся да часоў караля Станіслава Аўгуста. Аднак трэба зазначыць, што пры археалагічных даследаваннях рэшткі склепа выявіць не ўдалося. Магчыма, будынак не меў добрага фундаменту ці архіў мясціўся ў вежах.

Турма знаходзілся ў сутарэнным паверсе паўночна-ўсходняй вежы. Існаванне замкавай турмы бачна з прысуду Лідскага гродскога суда ад 8 студзеня 1607 г., якім пан Шчасны Рэксць быў абавязаны адбыць кару «за примовку и налаяне пану Езеашу Суморoковичу тутъ в замку выконать».

17 верасня 1590 г. горад Ліда атрымаў магдэбургскае права і гарадскі герб. Лепшы ў XX ст. знаўца лідскай гісторыі Міхал Шымялевіч інтэрпрэтаваў сімволіку лідскага герба, па яго меркаванні: ключы – сімвалізуюць свабоду, леў – незалежнасць, а каралеўская мантыя – апеку караля над горадам.

Цяжкія часы наступілі для горада ў 1654–1663 гг.

У 1655 г. рускія войскі спустошылі Ліду і яе наваколлі. У 1656 і 1657 гг. мясцовасць гэтую наведаў неўраджай, а ўвосень таго ж года ў Лідзе з'явілася маравая язва, якая не перапынялася да зімы наступнага года. Усе судовыя і адміністрацыйныя ўстановы былі зачыненыя. Дзякуючы ўсеагульнаму замяшанню, у Лідскім павеце з'явілася маса вандроўнага люду: вакол адбываліся рабаванні, забойствы, наезды на чужыя маёнткі і г. д.

Улетку 1659 г. князь Хаванскі, рухаючыся з вялікім войскам з Вільні ў Гродна, падступіў да Ліды. Лідскі замак, нягледзячы на адчайную абарону, быў узяты, а горад разрабаваны і спалены. Ліда прыйшла ў поўны заняпад. Цалкам спустошаны горад не мог уносіць у скарб нават самыя малыя плацяжы. З увагі на гэта на сейме 1676 г. была выдадзена адмысловая канстытуцыя, па якой Ліда на чатыры гады вызвалялася ад усіх грашовых і натуральных павіннасцей, пастою войскаў, пастаўкі коней для перавозкі пошты і г. д.

На пачатку XVIII ст. на нашай тэрыторыі паміж сабой ваявалі чужыя войскі – рускае і шведскае. І тыя і другія выкарыстоўвалі тактыку «выпаленай зямлі» і нішчылі нашы гарады, мястэчкі і вёскі. У 1702 г. адзін з атрадаў шведскіх войскаў разрабаваў і спаліў частку горада і падарваў замкавыя вежы. У Лідзе была пакінута шведская залога, а ўтрыманне яе ўскладзена на жыхароў. У 1706 г. шведы другі раз разрабавалі горад і яго наваколлі, а затым тое самае паўтарылі і ў



Адзін з першых малюнкаў з выявай Лідскага замка і горада належыць польска-беларускаму мастаку Юзафу Пешку (19.02.1767 – 4.09.1831). Гэта каштоўнейшая акварэль паказвае замак і горад на пачатку XIX ст., на ёй бачна штучнае возера вакол маляўнічых руін замка, на поўнач ад муроў – будынак прыходскага касцёла, узведзены ў 1770 г. на месцы старога драўлянага. Гарадской забудовы вакол замка яшчэ няма.

1708 г., рухаючыся з Гродна цераз Ліду па Івейскім гасцінцы пад начальствам самога караля Карла XII.

Сейм 1717 г. з увагі на бядотнае становішча горада пацвердзіў канстытуцыю 1676 г. і дэкрэты Скарбовага Трыбунала, якімі Лідзе былі прадстаўленыя правы і вольнасці. У 1776 г. сярод нешматлікіх гарадоў Лідзе было пакінута магдэбургскае права назаўжды, а кароль Станіслаў Аўгуст прывілеем 1788 г. дараваў гораду пляц зямлі для пабудовы на ім ратушы. Зразумела, гэта была не першая ратуша ў Лідзе.

У 1772 г. Ліда была занята рускімі войскамі пад начальствам генерала графа Татлебена, які ўніверсалам ад 20 студзеня 1773 г. патрабаваў ад жыхароў Лідскага павета прыняць на сябе забеспячэнне сваіх салдат.

10 красавіка 1794 г. палкоўнік войскаў ВКЛ інжынер Ясінскі, разам з графам Несялоўскім, сабраў значную частку паўстаўшых войскаў, з 18 гарматамі выступіў з Вільні і размясціўся лагерам каля Ліды, пагражаючы рускім войскам пад начальствам князя Цыцыянава, якія стаялі ў Гродна і ў Нясвіжы пад начальствам генерала Туталміна. Але ўлетку таго ж года нашы войскі каля Ліды былі разбіты, а сам горад канчаткова заняты рускімі войскамі. Пры гэтым Лідскі замак зноў быў разбураны, а старажытны архіў, які захоўваўся ў ім, быў вывезены войскамі ў Смаленск.

Перад пачаткам вайны 1812 г. каля Ліды быў размешчаны 6-ты корпус рускіх войскаў пад камандаю генерала Дохтурава. У маі таго ж года ваколіцы горада наведаў імператар Аляксандр I і правёў агляд войскаў. Пасля адкрыцця ваенных дзеянняў корпус Дохтурава хутка ўцёк на ўсход, а ўслед за ім каля Ліды прахо-



«Лідскі замак» мастака В. В. Гразнова (? – 12.03.1909). Мастак замаляваў замак з паўднёва-усходняга боку. Малюнак датуецца другой паловай XIX ст. Беларускі археолаг Алег Трусаў лічыць, што гэта найбольш дакладны з навуковага боку малюнак з выявай замка: «Найбольшай дакладнасцю вызначаецца карціна Васіля Гразнова, дзе паказаны асобныя дэталі забудовы, у тым ліку і адзін з данскераў (прыбіральня) на ўсходняй сцяне. На той час рэшткі вежаў ужо былі ніжэйшымі, а штучнае возера пачало зарастаць чаротам». Выкладчык малявання Віленскай гімназіі, вядомы мастак і даследчык даўніны Васіль Васільевіч Гразноў у час сваіх падарожжаў замаляваў шмат помнікаў Беларусі і знайшоў знакамітае «Тураўскае Евангелле».

дзіў 8-ы корпус французскага войска пад камандаю Вандама. У канцы лістапада, пасля адступлення французаў, Ліда і Лідскі павет былі заняты карпусамі графа Ажароўскага, Васільчыкава і Давыдава.

Яшчэ ў 1878 г. лідскі павятовы прадвадзіцель дваранства Сцяпан Буткевіч хадайнічаў перад генерал-губернатарам пра знос сцен Лідскага замка, але генерал-губернатар Альбедзінскі адмовіў яму. 27 верасня 1882 г. знос замкавых сцен абмяркоўваўся гарадской думай. Пасля вялікага пажару 1891 г. лідзяне самі, без дазволу, пачалі разбіраць замак на будаўнічыя матэрыялы, але дзякуючы ўмяшальніцтву Імператарскай археалагічнай камісіі, якая прыслала вывучаць замак археолага Пятра Пакрышкіна, Лідскі замак атрымаў статус гістарычнай каштоўнасці.

Тым не менш замак працягвалі патроху разбіраць. У пачатку 1908 г. газета «Кур'ер Літоўскі» надрукавала развагі невядомага жыхара нашага горада пра адносіны гараджан да замка Гедыміна: «Маем у горадзе замак… але хутка помнік

гэты ператворыцца ў руіны, бо з-пад падмурка гараджане для сябе выгортваюць жоўты пясок, і сцены замка з-за гэтага могуць абваліцца. І робіцца гэта днём, проста на ажыўленай вуліцы, паліцыянты і дзяржаўныя чыноўнікі праходзяць каля «замініраваных» сцен замка, якія пры абвале пагражаюць смерцю тым, хто выграбае пясок, і тым, хто выпадкова будзе праходзіць побач».

У жніўні 1908 г. другі невядомы жыхар горада пад псеўданімам «Z» заўважыў у тым жа выданні: «Нарэшце і ў нас з'явілася нейкая шырэйшая думка і жаданне нешта зрабіць для агульнай карысці... На працягу многіх гадоў мы бачылі пастаяннае знішчэнне муроў замка Гедыміна, аднак ніхто і не думаў пра яго выратаванне. Калі ж мы зацікавіліся гэтай справай, то даведаліся, што руіны знаходзяцца пад апекай Імператарскай археалагічнай камісіі. Звярнуліся да камісіі з просьбай аб выдзяленні грошай і пра дазвол на правядзенне работ па кансервацыі гэтага гістарычнага помніка. Калі прыйдзе адказ і ці будзе ён станоўчым, яшчэ невядома, але, пэўна, калі дапамога і будзе аказана, дык сума будзе недастатковай. Таму гарадскія ўлады павінны пачаць збіраць прыватныя сродкі сярод жыхароў горада і землеўладальнікаў Лідскага павета». На жаль, немагчыма даведацца, хто аўтар гэтай заметкі, як звалі аднаго з першых лідзян, які пачаў бараніць галоўны помнік гісторыі і архітэктуры ў нашым горадзе. Трэба заўважыць, што ідэя аховы старых помнікаў нарадзілася ў Еўропе дастаткова позна, прыкладна ў канцы XIX ст. І як бачым, асэнсаванне каштоўнасці гістарычнай спадчыны з'явілася ў нас у пачатку XX ст.

Ужо ў кастрычніку 1909 г. «Кур'ер...» паведамляе, што Міністэрства ўнутраных спраў асігнавала 1000 рублёў на рэстаўрацыю руін замка ў Лідзе. Прарабам быў прызначаны інжынер А. Фофанаў. Але грошы паступілі толькі ў пачатку



У 1929 г. беларускі мастак Язэп Драздовіч выдаў альбом «Ліда». Ён занатаваў: «Учора і сёння меў прыемнасць аглядаць велічава прыгожыя муры, як старажытнейшы помнік нашай краёвай беларускай архітэктуры».




Замак і горад у пачатку XX ст. Знак «AFW» па паштоўцы сведчыць, што яна надрукавана выдавецтвам Кагана К. і Шэйнгальда М.

1910 г., і хутка стала вядома, што 1000 рублёў на рэстаўрацыю замка не хопіць, і таму з большага прыйшлося абмежавацца кансервацыяй муроў, але і яна была не зусім удалай.

Пасля першай у гісторыі замка ў Лідзе рэканструкцыі і кансервацыі яго абследаваў жыхар Лідчыны, член-карэспандэнт Кракаўскай акадэміі ведаў, гісторык і археолаг Вандалін Шукевіч разам з выбітным знаўцам помнікаў архітэктуры ксяндзом-канонікам Казіцкім і вядомым даследчыкам мінулага Вільні Вацлавам Студніцкім: «...мы аглядалі сцены як найпільней. Галоўным чынам пан Казіцкі, не зважаючы на сваю стомленасць, узлазіў некалькі разоў ажно на самы верх мура па драбіне, звязанай з дзвюх, якая ўгіналася пад кожным крокам».

Шукевіч са скрухай адзначае: «Незайздросны лёс помнікаў мінулых вякоў у нашым краі! Дзесьці там, у цывілізаванай Еўропе, як урады, так і грамадства атачаюць такія помнікі клапатлівай апекай, шануюць іх, амаль пакланяюцца, сцерагуць ад усялякай шкоды. У нас наадварот, калі і існуюць яшчэ нейкія абломкі, то толькі дзякуючы нечуванай іх трываласці, бо ў нас усё робіцца, каб іх знішчыць...».

Далей вучоны справядліва заўважаў, што «для нас мінулае павінна быць падвойна дарагім, бо ў ім адным мы можам чэрпаць натхненне для барацьбы за нацыянальнае існаванне». Шукевіч лічыў, што Лідскаму замку не пашанцавала яшчэ болей, чым іншым, бо «вельмі мала тут чаго засталося, а тое, што ёсць, падлягае сістэматычнаму руйнаванню не толькі хцівымі на такі адборны матэрыял, як каменне з муру, жыхарамі слаўнага града, але і нязванымі апекунамі, якія як бы задаліся мэтай знішчыць усялякія рысы ўласцівай такім помнікам прыгажосці і замяніць яе на нічога не вартыя сцены з камення».

Член-карэспандэнт акадэміі апісваў працэс паступовага разбурэння замка, які ішоў на яго вачах на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў: «Гавораць, што некато-



Здымак з самалёта, другая палова 1920-х гг. У цэнтры – замак, касцёл, былы кляштар кармелітаў (павятовае староства). Унізе злева – старыя могілкі і Вісманты.




Паўночная сцяна замка, каля 1917 г.

ры з паноў-спраўнікаў лідскіх, пранікшыся трывогай за цэласць ілбоў давераных яго апецы жыхароў слаўнага града Ліды, загадаў значную частку муру разабраць па крузе, што і было зроблена з вывазам камення на брукаванне вуліц, а цэглы, праўдападобна, на пабудову яўрэйскіх печаў». Адмоўна ацэньваў археолаг і першую рэканструкцыю: будаўнікі раскідалі ненадзейныя месцы муроў, а паверхні сцен абмазалі цэментнай рошчынай. Якасць кансервацыйных работ была дрэннай: «У цэлым можна сказаць, што ў спусташэнні замка больш вінаватыя людзі, чым разбуральны час. Спрыялі руйнаванню не толькі нядобрасумленныя людзі, але нават і асобы з самымі лепшымі намерамі. ...пасля «ўпарадкавання» па загадзе аднаго са «спраўнікаў», нібыта ў імя грамадскай бяспекі... адбылося частковае разбурэнне сцен, асабліва на поўнач і захад. ...праз дрэнную руплівасць замуравалі нават арачныя байніцы, размешчаныя ў паўночнай сцяне... муры былі пакрыты зверху цэментам. Ці можа гэтая ідэя лічыцца шчаслівай – трэба меркаваць спецыялістам. Я думаў, што так праводзіць работы па кансервацыі замка нельга. Можна нават дараваць той факт, што такім чынам былі знявечаны сцены, але самае горшае, што гэтая цэментная нашлёпка на сценах не прадухіляе пранікненне вільгаці ў сцены, а наадварот, прадухіляе выпарэнне вільгаці, што паскарае працэс разбурэння. Гэта ўжо бачна... нідзе так не захоўваюць сцены».

Але цікаўнасць гараджан да захавання замка сведчыць пра рост агульнай адукаванасці і абуджэнне грамадзянскіх і патрыятычных пачуццяў гараджан.

Пасля рэканструкцыі замак працягваў жыць сваім жыццём. Напрыклад, падчас мабілізацыі 1914 г. мабілізаваных мужчын прыводзілі ў замак, дзе іх прымалі унтэр-афіцэры, адтуль адных адпраўлялі ў казармы Лідскага палка, а іншых вялі на чыгунку і адпраўлялі ў іншыя палкі.




Лідскі замак з брамай у стылі нямецкага паляўнічага замка («Jagdschlösschen»), 1918 г.



Вялікі князь Фрыдрых II фон Бадэн з генералам
Максам фон Фабекам каля Лідскага замка, 1917 г.

Падчас першай нямецкай акупацыі ў 1915–18 гг. замак займеў браму, выкананую ў стылі брамы нямецкага паляўнічага замка. У 1929 г. была праведзена кансервацыя замка Гедыміна: «…муры пакрыты цэментам, заложаны дзюры, і замак будзе існаваць яшчэ доўгія гады. На адным з кутоў замка нават часткова рэканструяваны парэшткі вежы... забыліся аднак пра браму... мінула ўжо 10 гадоў, як сышлі немцы, але да гэтага часу не знаходзілася грошай, каб замяніць браму нямецкай работы ў стылі "Jagdschlasschen"» [стыль паляўнічага замка – Л. Л.]. Аднак пасля гэтай публікацыі нямецкая брама хутка была заменена на іншую.

У студзені 1930 г. Лідскае староства атрымала загад прыбраць з замка Гедыміна стрэльбішча. Мясцовае грамадства сустрэла гэтую навіну з незадавальненнем, і стараста вырашыў хадайнічаць аб адмене гэтага загаду. У тым жа месяцы павятовы аддзел зрабіў у замку Гедыміна каток: «Для моладзі горада ён стаў сапраўдным месцам сустрэч і адпачынку. Каля катка пабудавана пачакальня».

У наступным месяцы на пасяджэнні чальцоў «Літаратурнай серады» ў Вільні рэстаўратар і кансерватар д-р Лорэнц выступіў з дакладам аб кансервацыі сярэднявечных замкаў. Пра кансервацыю Лідскага замка Лорэнц сказаў: «Стан кансервацыі Лідскага замка нездавальняючы. Цалкам дрэнна, што муры замка па-новаму пакрылі бетонам, калі найлепшым метадам кансервацыі ёсць нанясенне новага пакрыцця толькі пасля зняцця старога. З замка прыбралі часовую драўляную браму, і хутка павінна быць прыбрана драўлянае стрэльбішча».

22 сакавіка Лорэнц прыехаў у Ліду, каб яшчэ раз агледзець замак Гедыміна. Ён пагадзіўся, каб стрэльбішча знаходзілася ў замку да канца верасня 1930 г., але паведаміў лідскім уладам, што калі работы ў вежы замка пачнуцца раней, дык стрэльбішча прыйдзецца таксама зачыніць раней. Вывучыўшы замак, д-р Лорэнц зразумеў, што фундаменты яго моцна аслаблены падкопамі зямлі з боку суседняга з замкам участка, якім валодаў нейкі Чарняўскі, прычым абвал муроў замка якраз і пагражаў маёмасці самога Чарняўскага. Кансерватар патрабаваў ад уладаў пазбавіць замак ад далейшых падкопаў наіўных суседзяў. Тым не менш 28 траўня 1930 г. Саюз стральцоў не закрыў, а адкрыў у замку стрэльбішча, але для малакаліберная зброі.

У кастрычніку 1933 г. стараста Багаткоўскі паведаміў археолагу Віленскага ўніверсітэта доктару Хелене Цэгак, што ніякай пагрозы для замка няма, малыя шчыліны замазаны, а «зараз на невялікім участку сцяны ўзмацняецца фундамент». На пытанне пра легенды аб лёхах пад Лідскім замкам стараста адказаў, што гэта – часткова легенды, а часткова факт: «Расказваў мне 80-гадовы стары, 65 гадоў таму, будучы хлопцам, ён хадзіў па падзямеллях. Тады адкрыўся ўваход у гэтыя падзямеллі. І цягнуліся яны далёка, як мовілі, ажно да Трок. Так далёка стары не хадзіў, бо яго лучыны не хапіла. Той стары, можа, часткова і мае рацыю. Падзямеллі могуць існаваць».

Лідзянін Ян Станіслаўскі пісаў у сваіх мемуарах, што ў 1936 г. быў знойдзены падземны ход з замка да фарнага касцёла, але атрымаць дадатковую інфармацыю, якая пацвердзіла б гэту знаходку, аўтар не змог. Дарэчы, цікава, што аналагічныя распаведы пра падземныя хады я чуў у 1970-я гады, у сваім дзяцінстве, часткай якога быў наш замак. Замак тады ніколі не зачыняўся, і я з сябрамі праводзіў у ім шмат часу.

У 1930-я гг. у Лідскім замку праведзена кансервацыя сцен, упарадкавана тэрыторыя звонку і ва ўнутраным двары. У 1933 г. паўднёвая сцяна замка была ўзмоцнена праз пабудову фундамента вакол шчыліны і падсыпку зямлёй звонку. На кастрычнік 1935 г., згодна са справаздачай лідскага павятовага старасты, руіны замка «не былі ў пагрозлівым стане», але на іх паднаўленне выдзелена 350 злотых.

У 1920–30-х гг. унутры замка ўлетку дэманстраваліся фільмы, праходзілі гарадскія святы, працавалі перасоўныя цыркі, а ўзімку заліваўся каток.

Да канца 1930-х гг. быў распрацаваны план развіцця нашага горада. Сярод іншага план прадугледжваў будаўніцтва водаправода, каналізацыі і цвёрдых паверхняў вуліц па ўсім горадзе, але прэса крытыкавала план за тое, што ў ім не прадугледжваліся добрыя віды на галоўны помнік Лідчыны – замак, вакол якога планавалася зрабіць парк для адпачынку.

Не апраўдаліся меркаванне, што раней на месцы замка было паселішча, старажытная Ліда знаходзілася ў некалькіх кіламетрах ад замка, на рацэ Каменка, але пра гэта я раскажу далей.

З канца 1970-х гг. пачалася павольная рэканструкцыя замка, якая з большага закончылася толькі ў 2010 г.

# На поўдзень ад замка – двор старасты і Ферма

Па сведчанні дакументаў, горад Ліда яшчэ ў XVIII ст. складаўся з замка, двара старасты, уласна горада і прадмесця Зарэчча. Уся зямля, занятая горадам, першапачаткова была ўласнасцю вялікага князя і належала да лідскага замкавага двара або фальварка, але пачынаючы з XVI ст. некаторыя часткі гэтага абшару пераходзяць у прыватную ўласнасць. Напрыклад, у 1566 г. Павел Рошчым атрымаў ад вялікага князя Жыгімонта Аўгуста прывілей на два пляцы ў Лідзе, у 1589 г. Аляхновічу было дадзена пацвярджэнне на куплю двух пляцаў у Лідзе, у 1591 г. Рафаіл Алешыс Згірскі атрымаў прывілей на адзін пляц і г. д. Раздача пляцаў адбывалася і ў больш позні час. Такім чынам у горадзе ўтварыліся цэлыя асобныя кварталы, якія належалі ў XVII–XVIII стст. Куроўскім, Францкевічам, Калясінскім і іншым. Сваю маёмасць уладальнікі здавалі ў арэнду гараджанам на правах вечнага чыншу – рэнты за карыстанне пляцам.

**Двор старасты**. Яшчэ да Дажынак 2010 г. адразу на поўдзень ад замка прыцягвала ўвагу вялікая яма – вынік нямецкай гаспадаркі падчас акупацыі 1915–18 гг. Менавіта на гэтым месцы стаяў двор лідскага старасты – рэзідэнцыя каралеўскага намесніка.




Раён «Ферма», пачатак XX ст.




Раён «Ферма», пачатак XX ст.

Дам тут скарочанае апісанне двара лідскага старасты па інвентары лідскага староства ад 1680 г.

Двор старасты (ці замкавы фальварак) знаходзіўся на поўдзень ад замка над ракой Каменкай, быў агароджаны плотам з галля і меў уязную браму. У двары фальварка, па левым баку каля брамы стаяў крыты дранкай бровар. Дзверы бровара не мелі завесаў, а адчыняліся на бегунках, усярэдзіне бровара мелася мураваная з каменю печ для вырабу піва. Далей за броварам стаяла кухня і насупраць яе лазня з дзвярыма на бегунках, з каменнай печчу і падлогай.

Трошкі далей ад бровара стаяў крыты саломай жылы дом з сенямі, дзверы ў дом зачыняліся на жалезную клямку. У доме па правым баку меўся «белы» (печ у пакоі тапілася па-беламу) пакой з каморай, у пакой вялі дзверы на завесах з жалезнымі зашчапкай і клямкай. У «белым» пакоі мелася наступная мэбля і начынне: стол сталярнай работы, дзве шкляныя скрыні ў драўляных скрынях на тры вялікія кварты (кварта – прыкладна 0,8 л.) Мелася малое акенца з застаўкай і вокны ў вялікіх рамах на завесах з зашчапкай. Печ з шэрай кафлі і адзін зэдаль.

З «белага» пакоя ў камору вялі дзверы на завесах з зашчапкай і жалезнымі прабоямі. У каморы мелася адно ў вялікай раме з клямкай, каля яго – малое акенца з зашчапкай, стаяў вялікі зэдаль. Дзверы, якія вялі з каморы ў сені, былі на завесах, з зашчапкай і жалезнымі прабоямі. У сенях меліся яшчэ адныя дзверы, яны вялі ў другі «белы» пакой з каморай. Гэты пакой асвятляўся праз два вялікія зашклёныя вокны і трэцяе малое акенца, печ тут была зложана з шэрай кафлі, на падлозе зялёныя покрыўкі (ходнікі), у пакоі стаялі дзве лавы. Як бачым – спартанская мэбліроўка.




Раён «Ферма», пачатак XX ст.

Калі выйсці з жылога дома, дык па левы бок мелася піўніца (склеп), крытая саломай. Каля піўніцы стаяў крыты саломай хлеў з галля на сохах, брама ў хлеў – з дошак на бегунках.

Далей стаяла крытае сенам гумно для ссыпання збожжа ў восем засекаў.

Калі ісці па правым боку двара, дык можна было ўбачыць крытую саломай стайню на двух слупах. Ад стайні па левым боку стаяла пякарня з галля і з сенямі. У пякарні – «чорная» печ для выпечкі хлеба, стаялі лавы для цеста, сталы, бочка для вады, вокнаў з рамамі тры.

За пякарняй мелася гумно з галля, крытае саломай, на двух слупах, брамка з жалезнай зашчапкай. За гумном – адрына з галля, а таксама малое гумно, агароджанае галля, і два агароды.

Я адмыслова прывёў падрабязнае апісанне рэзідэнцыі лідскага старасты, каб мы ўбачылі, як жылі самыя багатыя гараджане, і зразумелі, што звычайныя жыхары Ліды жылі зусім сціпла.

**Замкавы стаў**. У часы панавання караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра замак атрымаў штучнае возера, ці стаў, якое прыкрывала яго з усходу і поўдня. Гэты стаў ёсць на планах і малюнках XVIII–XIX стст. і добра бачны на малюнках замка.

У інвентары 1680 г. запісана: «Лідскі замак, агароджаны мурам вакол. Брама адна, да яе (шлях) па плаціне (праз) вялікія вароты з форткай, абабітай жалезам».

Таксама інвентар 1680 г. згадвае млын, які належаў да двара старасты і знаходзіўся на рацэ Лідзейка. Млын арандаваў лідскі яўрэй, «які здаўна яго трымае і зараз згодна з кантрактам арандуе... і абавязаны штогод плаціць па частках пяць злотых згодна з кантрактам, а месцічы горада Яго Каралеўскай Мосці Ліды і таксама яўрэі... не павінны да іншага млына вазіць збожжа, але толькі да лідскага млына».

Лідзянін Караль Ёдка пісаў пра канец XIX ст. у нашым горадзе: «Калісьці ў Лідзе, па вуліцы Гражыны[1], насупраць вуліцы Гарыстай, стаяў млын горада Ліда. А па другой старане быў зарослы балоцісты стаў, аточаны хмызам, аерам і альшынай. За некалькі гадоў да сусветнай вайны млын быў зачынены, а возера спушчана. У 1915 г. будынак млына спалены адступаючымі расійскімі войскамі. Каля 50 гадоў гэтым млынам кіраваў блаславёнай памяці Гірш Палячак, шляхетны чалавек, бацька вялікай сям'і, у якога мой бацька знайшоў працу за 30 рублёў заробку і 30 пудоў мукі штогод з памяшканнем для жытла, якое мела такое-сякое асвятленне і абагрэў. … Мелі дасыта чорнага хлеба, штогод садзілі пад гной некалькі загонаў бульбы, трымалі карову і свінню. Як кажуць, ва млыне і шчуры сытыя. Бацька на гадавую выплату за работу на млыне купляў сабе боты ці кажух, штаны для брата Тамаша і для маці боцікі. … Брат Тамаш меў ужо 12 гадоў і ва ўсім памагаў бацьку. Заўжды стругаў з цвёрдага белага грабу «кулакі» для млынарскіх колаў і ляскі для шасцерняў. Каменні «вастрыў» сталёвым молатам сам бацька. … Дзень і ноч узімку і ўлетку шумела вада на млынарскіх колах, гучалі агромністыя каменныя жарнавы і ўвесь млын дрыжаў, як жывы. Знутры млына заўсёды вісеў туман з белага пылу. Стары Гірш Палячак, сын яго Ёсель – вазніца, мой бацька і наш Тамаш заўсёды мелі акураныя белым шапкі, твары, вопратку і нават боты. Жыхары блізшых і дальшых ваколіц штодня прывозілі жыта на памол. Калі вады ў ставе было многа, а завоз жыта невялікі, заказчыкі звычайна праз некалькі гадзін ладавалі на вазы свае мяхі з мукой і ехалі дахаты. Калі ж здаралася так, што вады ў ставе было мала, а завоз выпадаў вялікі, стваралася чарга. Коней выпрагалі, ставілі пры вазах каля млына ці ў стадоле каля дзвярэй нашага дома. Усе сяляне сходзіліся тады да нас. Звычайна ўсе разам сядалі на лаву і сталёвым крэсівам высякалі са скалкі агонь для люлькі, якая смачна пахла дымам, смалілі свае люлькі са смярдзючым тытунём уласнай гадоўлі і доўга вялі гаворкі. Часам некаторы з іх драмаў і хроп, а калі-некалі падпускаў яшчэ горшы смурод, чым ягоная файка. … Улетку, калі здаралася, што праз нас праходзіла жалобная працэсія[2], сёстры хваталі мяне за рукі і мы ўсе разам выбягалі на могілкі за нябожчыкам, каб паглядзець, як хаваюць людзей у зямлю. На могілках галосна заводзілі бабы. Дзеці часамі таксама плакалі і нават некаторыя скакалі ў дол, да труны. Так моцна плакалі, што было іх шкада, вядома ж – страчвалі маці ці бацьку і заставаліся сіротамі».

У другой палове XIX ст. стаў канчаткова зарос і пачаў ператварацца ў дрыгву. Таму ў 1913 г. газета «Лідскае слова» пісала: «Абяцаюць нам водаправод, а вадзяны млын – гэты сейбіт заразы і розных хвароб – да гэтага часу стаіць непахісна, і гарадскія дзеячы не думаць пра тое, што яго трэба ліквідаваць і такім чынам асушыць наш горад».

У тым жа нумары газеты нехта знаёмы з інжынернай справай у артыкуле «Да пытання пра электрычнае асвятленне ў г. Лідзе» прапанаваў скарыстацца энергіяй нашай рэчкі Лідзейкі: «На першы погляд з'яўленне ў нашым горадзе электрычнага асвятлення малаверагоднае. Бо звычайна ўсталяванне электроўні патрабуе велічэзных грошай – сотняў тысяч рублёў, якія наш горад, які налічвае каля 20 000 жыхароў, не зможа знайсці. Самі па сабе крыніцы электрычнага току – дынама-машыны – не надта дарагія, але патрэбны яшчэ і салідныя рухавікі, якія павінны мець магутнасць нават да сотні конскіх сіл. Гэтыя апошнія ў дзясяткі разоў даражэй за дынама-машыны. І гэта не ўсё. Для працы рухавікоў патрэбна паліва – мазут ці газа. Як бачым, перспектывы не надта прыемныя». Таму аўтар

[1] Такая назва вуліцы з'явілася ў 1920-я гг., зараз вуліца Грунвальдская.

[2] Каля млына ішоў шлях да гарадскіх могілак. Пра гэтыя могілкі ў наступных частках.

артыкула прапануе замест млына ўсталяваць на рацэ Лідзейцы гідрастанцыю і такім чынам зэканоміць на рухавіках і паліве: «Трэба толькі зрабіць ачыстку гарадскога става, які хутка ўсё роўна ператворыцца ў лужыну бруду і рассаднік малярыі, і ўсталяваць новыя вадзяныя турбіны». Аўтар заўважае, што «электрычнасць знойдзе самае разнастайнае выкарыстанне ў нашым жыцці: электрычнае асвятленне вуліц (карыстаемся газавакалільнымі ліхтарамі, якія гараць «калі месяц не свеціць» ці ў афіцыйных месцах), у казённых і прыватных установах, тэатрах, клубах, крамах, у гарадскім парку, а таксама ў кватэрах заможных гараджан... Трэба нам, жыхарам культурнага горада, сур'ёзна падумаць пра выкарыстанне дармовай сілы прыроды, і тады пытанне пра электрычнае асвятленне ў г. Лідзе можна будзе лічыць вырашаным».

Улетку 1935 г. падчас земляных работ па рэгуляцыі ракі Лідзейкі каля замка Гедыміна былі знойдзены «масіўныя валы, якія, згодна тлумачэнням знаўца гісторыі адваката Шымялевіча, верагодней за ўсё з'яўляюцца рэшткамі гістарычнай дамбы, якая служыла для ўтрымання ці пуску вады ў равы вакол замка». У выніку гэтых работ узровень грунтавых вод у горадзе быў паніжаны на 1,1 м.

Гарадскія ўлады атрымалі пэўную суму грошай працы на меліярацыю з нівеліраваннем балоцістага ўчастка, які знаходзіўся амаль што ў цэнтры горада (каля замка), і заснавання тут гарадскога парку. У маі 1938 г. на месцы будучага парку ўжо пачаліся працы. Да канца чэрвеня працы былі закончаны, і прэса паведамляла: «Таварыства сяброў горада Ліда прыступіла да ўпрыгожвання горада. Лугі каля замка Гедыміна з боку поўдня да гэтага часу ляжалі без ужытку. Зараз багна часткова асушана і пачалася закладка парку. Хутка будуць закладзены дзіцячыя і гульнявыя пляцоўкі».

Лідзян Ежы Болтуць успамінаў: «Летам граў ваенны аркестр, і ў рэчцы Лідзейцы, якая тут была шырокай, купалася і бедната, і інтэлігенцыя, і нават лід-




Раён «Ферма», пачатак XX ст.




Раён «Ферма», пачатак XX ст.

ская арыстакратыя: пілоты 5-га авіяцыйнага палка... Ліда лічылася амаль што курортам, рака была чыстай...».

Выканаць работы не паспелі, і багна тут была да сярэдзіны 1980-х гг.

У 2010 г. замкавы стаў быў адноўлены.

**Раён горада Ферма**. Яшчэ у сярэдзіне XIX ст. на поўдні горад заканчваўся руінамі замка, за якім ляжала адкрытая балоцістая пустка, а далей, у бок сучаснага вакзала, цягнулася ралля.

Раён горада Ферма цягнуўся ад замка і каталіцкіх могілак да будучага чыгуначнага вакзала і сваю назву атрымаў, праўдападобна, ад досыць урадлівай зямлі, якая раней была каралеўскай маёмасцю.

Па царскаму дазволу ад 15 лістапада 1872 г. горад набыў участак зямлі, які атрымаў назву Ферма. За гэтай зямлёй перад дзяржавай меўся доўг (аброк) у 5 606 рублёў. Аброчныя грошы выплачваліся горадам з растэрміноўкай на 37 гадоў па 269 рублёў і 9 капеек у год. Падобна, выплаты былі зроблены раней тэрміна, і 29 ліпеня 1904 г. Савет Міністраў дазволіў далучыць да горада прылеглы фальварак Ферма – 34 дзесяціны і 1558 квадратных сажняў. Менавіта з гэтага часу землі на поўдзень ад замка сталі часткай нашага горада. Да гэтага часу на Ферме маглі сяліцца толькі сем'і дваран, і тут паўстаў шэраг густоўных дамоў, аточаных садамі. На карце горада 1892 г. на Ферме ўжо пазначаны вуліцы, але яшчэ і ў 1920-я гг. як паштовы адрас на канвертах замест назвы вуліцы лідзяне пісалі проста: «Ферма» – і нумар дома.

Пры канцы XIX ст. дзясяткі лідзян арандавалі тут зямлю ў гарадскіх улад. У тым ліку, напрыклад, участак зямлі каля става лідскага млына (па кантракце ад 23 сакавіка 1886 г.) за 2 рублі ў год арандаваў Сямён Федаровіч, а ўчастак зямлі

па Замкавай вуліцы (плошча ў 360 кв. сажняў па кантракце ад 28 лютага 1886 г.) за 2 рублі і 16 капеек у год арандаваў Восіп Вяжаль. У 1890 г. горад выплаціў Хаіму Сакалоўскаму 141 рубель за забрукоўку вуліц на Ферме. У 1912 г. гарадскія ўлады будуюць тут студню.

Менавіта на Ферме да 1914 г. планавалася пабудаваць гмах для Лідскай мужчынскай гімназіі, якая да таго часу арандавала чужы будынак. Газета «Лідскае слова» паведамляла, што ў красавіку 1913 г. службоўцы 15-га ўчастка Палескай чыгункі (Лідскага ўчастка) сабралі 4 руб. 50 кап. на карысць гімназіі, і «гмах для новай дзяржаўнай гімназіі будзе пабудаваны на горцы (Ферма). Гэта месца, адведзенае гарадской управай і ўхваленае кіраўніцтвам адукацыі», – прыкладна там, дзе зараз знаходзіцца падатковая інспекцыя. Газета каментавала збор грошай на гімназію: «Наколькі парадаваў факт збору грошаў чыгуначнікамі, настолькі несуцяшальным з'яўляецца агульны вынік ахвяраванняў на гімназію. А здавалася б, мы жывём у Еўропе і павінны стаяць вышэй за папуасаў, якія мала вераць у адукацыю».

28 красавіка 1913 г. у Лідзе адбылася працэсія ў памяць 1600-годдзя Міланскага эдыкту: «Працэсія з фарнага касцёла на могілкі, адтуль праз Ферму вярнулася ў касцёл».

Перад пабудовай гмаху Дзяржаўнай гімназіі ў 1928 г. Ферма зноў разглядалася ў якасці магчымай пляцоўкі, аднак ад гэта месца адмовіліся, падрабязней пра гэта я раскажу ў главе пра гімназію.

Па-старому гэты раён горада называўся да 1939 г., зараз назва Ферма лідзянамі цалкам забытая.

# Старыя дамы вакол замка

Агульнавядомай з'яўляецца думка, што старыя будынкі – галоўная каштоўнасць горада. Яны ствараюць утульнасць і адчуванне дотыку да сваёй гісторыі, выхоўваюць патрыятызм і павагу да месца, дзе нарадзіўся. Менавіта старыя дамы і старыя вуліцы ствараюць сапраўднае ўрбаністычнае асяроддзе, без іх няма горада, а значыць, і гараджан з гарадской культурай.

У гэтым сэнсе нашаму гораду моцна не пашанцавала. Два вялікія пажары – 1891 і 1941 гг. – два разы амаль што цалкам руйнавалі цэнтр нашага горада.

Першы такі грандыёзны пажар адбыўся 6 кастрычніка 1891 г., згарэла 3/5 горада, практычна ўся цэнтральная частка. «Памятная кніжка Віленскай губерні» паведамляла: «Пажарам... знішчана 444 жылыя дамы і 283 халодныя пабудовы з рухомай маёмасцю пацярпелых (страты 679 408 р.). Пры гэтым згарэлі: архіўныя справы, кнігі і некаторыя бягучыя паперы: Паліцэйскай управы, павятовага спраўніка, З'езду Міравых суддзяў, прадвадзіцеля дваранства, З'езду Міравых па-




«Дом з калонамі», Замкавая, 3



Парад 77-га палка пяхоты каля «Дома з калонамі», 1930-я гг.

срэднікаў, павятовай Прысутнасці па воінскай павіннасці, Дваранскай Апекі, Гарадской Управы, Сірочага Суда, Мяшчанскай управы і метрычныя сшыткі яўрэяў, якія захоўваліся ў казённага рабіна». І амаль што адразу пасля першага пажару, 10 кастрычніка, з-за неасцярожнага абыходжання з агнём узнік яшчэ адзін пажар, згарэлі 10 жылых і 9 халодных пабудоў з рухомай маёмасцю пацярпелых (страты 53 635 р.). Пажар 1891 г. таксама знішчыў узведзены ў XVIII ст. будынак лідскай ратушы, які стаяў на рыначнай плошчы. Ратуша служыла вайсковай гаўптвахтай, а прыбудова – адрынай для пажарнікаў. У цэнтры непарушанымі засталіся практычна толькі Свята-Міхайлаўская царква і фарны касцёл.

Стары лідзянін Іосіф Хруль (1929–2013) у свой час апавядаў мне: «Пра гэты пажар мне расказваў мой бацька (1880 г. н.). Пажар пачаўся ад дома, які стаяў недалёка ад праваслаўных могілак. У гэтым доме дзеці гулялі з мышкай, мышка схавалася ў кастрыцу. Каб злавіць мыш, кастрыцу падпалілі, пачаўся пажар, які хутка перакінуўся на ўвесь горад. Праз некалькі гадзін на конях прыехалі тушыць пажар пажарнікі з Вільні. З-за дыму нічога не было бачна, таму віленскія пажарнікі сталі на пачатку вуліцы Віленскай, якраз каля таго дома, дзе пажар пачаўся. Яны спыталі ў людзей, ці прамая вуліца далей. Дазнаўшыся, што не зусім прамая, паехалі проста ў агонь і дым у цэнтр горада. Ліда выгарала тады ўшчэнт. Гарэла сутак двое, згарэла ўся Віленская (зараз – вуліца Савецкая). Мне ў дзяцінстве было вельмі цікава, што на конях пажарнікі прыехалі Ліду тушыць з Вільні».

Але пажар прывёў да таго, што ў горадзе пачалі будавацца новыя мураваныя дамы з улікам патрабаванняў пажарнай бяспекі.

Другі раз горад цалкам згарэў пасля бамбардзіроўкі 22–23 чэрвеня 1941 г. Культурна-гістарычны цэнтр горада перастаў існаваць, засталіся касцёлы, замак, але паміж двума касцёламі (фарным і піяраў) не захавалася ніводная пабудова.




Дом, Замкавая, 8

Той жа Іосіф Хруль расказваў тое, што бачыў сваімі вачыма: «...Нямецкія самалёты Віленскую бамбілі. Яны яе не бамбілі, яны яе палілі. Кідалі нешта, людзі гаварылі, гарэла на бруку. ... Увесь цэнтр згарэў».

А вось як апісвае раніцу 24 чэрвеня лідзянка Яўгенія Ярмант у сваіх мемуарах: «...Зніклі бібліятэка, куды я часта заглядвала, і гатэль, дзе я ні разу не была, быццам растварылася ў паветры маленькая кніжная крама пані Шкоп разам са школьнымі падручнікамі. ... Зніклі кінатэатры з непранумераванымі месцамі, дзе можна было праглядзець некалькі сеансаў запар. Зруйнаваліся ўсе крамы, вялікія і малыя, тыя самыя, з элегантнымі вітрынамі, аб шкло якіх расплюшчваліся нашыя насы ў захапленні ад шакаладных зайчыкаў, абаранкаў і яек з сюрпрызамі ўнутры. І тыя, з абуткам, у якіх прадавец садзіў маленькага кліента на столік і, стоячы на каленях, прымяраў яму некалькі пар боцікаў. ... Больш не існуюць крамы з вопраткай, дзе прадавец сам адзяваў кліента, расхвальваючы тавар так, што кожная наступная рэч, па яго меркаванні, была больш шыкоўная... Толькі ва ўспамінах засталіся тэкстыльныя крамы, гаспадары якіх сустракалі кожнага патэнцыяльнага пакупніка, шмат разоў пакланіўшыся, і асабіста праводзілі да дзвярэй, запэўніваючы ў сваёй гатоўнасці служыць і далей. А гэтыя мясныя крамкі, каля якіх немагчыма прайсці з-за пахаў... Гэты свет знік... Па абодва бакі вул. Сувальскай... узвышаліся высокія завалы з абпаленай цэглы і жалеза».



Дом 1927 г., Камсамольская, 14




Дом, Замкавая, 5 да рамонту 2019 г., які змяніў яго выгляд

***

Пачнём з дамоў каля сэрца горада – Лідскага замка. На жаль, пра гэтыя дамы інфармацыі няшмат.

Каля замка захаваліся да нашага часу чатыры цікавыя будынкі (калі не лічыць «дом Таўлая»).

Насупраць замкавай сцяны стаіць, як называлі яго старыя лідзяне, «дом з калонамі» – Замкавая, 3. Дом пабудаваны ў 1926 г. У цэнтры яго галоўнага фасада паміж дзвюма калонамі знаходзіцца лоджыя. Сцены будынка завершаны карнізам, у сярэдзіне якога трохвугольны франтон порціка. Ад пачатку яго існавання тут мясцілася так званая «Сеймікавая» аптэка (вул. Крывая, 3) Левінсона і Зеліковіча. Назву атрымала таму, што яе адчыніў лідскі павятовы сеймік. Калі сеймік зачыніў сваю аптэку, новая на гэтым месцы атрымала назву «па-Сейміковая», яна належала Людвіцы Міцкевіч (адрас – вул. Мацкевіча, 3. Вуліцу Крывую пераназвалі). Лідзянін Зіновій Баляслававіч Бянько расказаў мне, што пасля Другой сусветнай вайны з паўднёвага боку «дом з калонамі» меў драўляную прыбудову, у якой мясціўся каўбасны цэх, а ў самім доме жылі людзі.

На захад ад «дома з калонамі» стаіць двухпавярховы дом канца 1920-х гг. (Замкавая, 8).

Цікавы ў архітэктурным сэнсе дом (Замкавая, 5) стаіць адразу каля замка. Дом мае складаную шматгранную канфігурацыю са скругленым вуглом, а яго агульны выгляд кажа пра тое, што архітэктар распрацаваў праект дома пад уздзеяннем моднага з канца 1920-х гг. стылю «функцыяналізм». Магчыма, гэта першая пабудова ў гэтым стылі ў нашым горадзе, і ў наступных главах гэтай кнігі я раскажу пра асноўныя пабудовы горада ў стылі «функцыяналізм», якія да нашага часу ўпрыгожваюць Ліду.

У некалькіх сотнях метраў на поўнач ад замка стаіць цікавы гмах 1927 г. – Камсамольская, 14. Верагодна, у гэтай утульнай пабудове да 1939 г. знаходзіўся гарадскі суд.

# На поўнач ад замка

Усё XIX ст. галоўнай навучальнай установай нашага горада і ўсёй Лідчыны было павятовае (потым – гарадское) вучылішча. Практычна ўсе вядомыя лідзяне той эпохі, якія пакінулі сваё імя ў нашай гісторыі, вучыліся ў ім.

Вучылішча адкрылася і пачало працаваць як піярская школа яшчэ ў XVIII ст. У сярэдзіне XIX ст. павятовае вучылішча мясцілася пры вуліцы Віленскай (сучаснай Савецкай) у доме Міцкевіча, а потым пры вуліцы Каменскай (сучаснай Ленінскай) у доме Рудніцкага. Менавіта тут вучыўся і каля 1890 г. скончыў яго найлепшы знаўца гісторыі Лідчыны XX ст., аўтар шэрагу выдатнейшых артыкулаў па гісторыі Лідчыны, якія не страцілі сваёй навуковай каштоўнасці да нашага часу, Міхал Шымялевіч. Падчас яго вучобы ў Лідскім двухкласным павятовым вучылішчы выкладалі: штатны наглядчык (дырэктар), выкладчык матэматы-



Малюнак Язэпа Драздовіча. На малюнке дзве легендарныя сосны каля замку



Здымак канца 1930-х гг., сосны каля замку




Гарадское вучылішча, знятае праз галінкі легендарных соснаў, пачатак XX ст.

кі і геаграфіі надворны саветнік Сцяпан Сямёнавіч Свідэрскі, протаіерэй Іосіф Восіпавіч Каяловіч – настаўнік праваслаўнага веравызнання, ксёндз Іосіф Дэксніс – настаўнік каталіцкага веравызнання, настаўнік рускай мовы і гісторыі Уладзімір Паўлавіч Юзафовіч, настаўнік чыстапісання, чарчэння і малявання Мікалай Канстанцінавіч Канстанцінаў.

А вось што пісаў пра вучобу ў вучылішчы 1890-х гг. былы вучань гэтай установы і сябар і аднакласнік Шымялевіча Караль Ёдка: «Ліда была ў тыя часы ціхім малым павятовым горадам, у якім не было аніводнай крамы з кніжкамі, паперу для пісьма можна было дастаць толькі ў некалькіх гандэлках, а фарбы для малявання – толькі у аптэчнай краме Эпштэйна. Вучні... набывалі неабходныя кніжкі ў самой школе. Зрэшты, падручнікі – якія-небудзь «Детский мир» ці «Родное слово» – нязменна ўжываліся на працягу некалькіх гадоў і служылі ажно да поўнага знішчэння некалькім генерацыям вучняў, пераходзячы ад старэйшага брата да малодшага ці да малодшага школьнага сябра. У кожным класе і службовым памяшканні на сцяне вісеў партрэт цара Аляксандра III і таблічка з надпісам: "Говорить по-польски воспрещается"». Караль Ёдка заўважаў, што мінімальнай адукацыяй для атрымання першага дзяржаўнага чыну – калежскага рэгістратара – была якраз двухкласная павятовая школа: «Хто меў пасведчанне аб заканчэнні такой школы, мог смела лічыць, што носіць у ранцы маршальскую булаву».

Міхал Шымялевіч, Караль Ёдка і дзед маёй жонкі Юзаф Хруль – аднакласнікі, выпускнікі Лідскага вучылішча і сябры, якія ўсё жыццё захоўвалі добрыя стасункі.

У пачатку XX ст. павятовае вучылішча стала гарадскім і пераехала ў двухпавярховы цагляны дом па вуліцы Замкавай (ці Гедымінаўскім завулку). Будынак стаяў з паўночнага боку Лідскага замка. Фасад дома быў павернуты да дзвюх памятных соснаў на паўночным схіле замка. Тут жа быў і галоўны ўваход ва ўстанову. Гэты гмах пабудаваў лідзянін Мардух Пупко і, здаючы яго ў арэнду, атрымліваў






Вучылішча каля замку, 1916 – 1918 гг.

на пачатку ад гарадскіх улад болей за 1000 рублёў арэнднай платы штогод (потым кошт арэнды паменшыўся да 800 рублёў).

Вучылішча знаходзілася каля замка і таму быццам бы было пагружана ў аўру легенд і паданняў гэтага сапраўднага гістарычнага «сэрца» нашага горада. Міхал Шымялевіч успамінаў, што на месцы вучылішча па Гедымінаўскім завулку раней «стаяла старое драўлянае гумно – склад усялякай вайсковай старызны, а завулак Гедымінаўскі – вузкі, балоцісты і цёмны – усімі гараджанамі абмінаў-

ся. Тут не раз здаралася, што жаўнер, які ўначы стаяў на варце, стрэлам з карабіна ўздымаў трывогу, тлумачачы, што сярод старых, таямнічых соснаў яму нешта здалося і настрашыла. У той час на вуліцах не толькі электрычнасці не было, а нават і звычайнай алейнай лямпы на слупе. Старыя бабы, лежачы на цёплых ляжанках, умелі апавядаць і вельмі цікава апавядалі пра розныя страшныя рэчы, якія рабіліся ў замку і пад замкам: пра замкнутага ў замкавай вежы невінаватага чалавека, пра скрыні на ланцугу са скарбам, пра страшнага сабаку, які пільнуе ўваходы ў замкавыя падзямеллі, пра замкавыя лёхі і хады, якімі можна ехаць чацвёркай коней да Вільні і Наваградка, пра каралеву, якая раз у год выходзіць з замкавых падзямелляў і просіць у першага ж сустрэтага ёй лідзяніна, каб замовіў набажэнства за ўратаванне яе пакутнай душы, – набажэнства павінна адбыцца толькі ў замку, і ксёндз павінен не забыць прынесці ўсё патрэбнае з касцёла, але ксёндз заўсёды нешта забываў ці яму перашкаджала паліцыя, пра зачараваных у тых соснах дзвюх каралевах і г. д. У тыя часы лідзяне свята верылі, што ў пэўны дзень, у 12 гадзін, у поўдзень, а можа, уначы, калі зрабіць насечкі на кары соснаў, з іх будзе пырскаць кроў. Хто з нас не спрабаваў гэта на практыцы? Колькі на кары нічым не вінных сосен засталося знакаў ад нашых сцізорыкаў?».

Ксёндз Вайшвіла, лідскі экс-піяр, у сваіх успамінах, напісаных у 1853 г., пераказаў нам легенду пра тыя сосны: «Мне вядома легенда, якую я чуў, што дзве сасны, якія і зараз растуць на самым вале замкавага мура, на галоўнай вуліцы горада, былі пасаджаны хрысціянамі на парэштках двух капланаў, забітых на гэтым месцы паганцамі. Аднак сам узрост тых соснаў паказвае беспадстаўнасць гэтай пагалоскі».

Гэтыя дзве акружаныя таямніцай сасны – найвялікшая і самая паважаная легенда Ліды – былі пасаджаны паміж 1740 і 1790 гг. У 1754–66 гг. лідскім падстарастам і адміністратарам Лідскай эканоміі (уладальнікам якой быў лідскі староста дэ Кампа Сцыпіён), г. з. фактычным гаспадаром Лідскага замка і старшынёй гродскага суда быў Францішак Гадэбскі (герб «Гадземба») – у 1754 г. тытулярны лоўчы, а ў 1762 г. лідскі войскі. Герб «Гадземба» Каспер Нясецкі апісаў так: «Мае сасну з трыма зялёнымі вяршынямі, ці галінамі, з якіх адна ў сярэдзіне, а дзве па яе баках, пад імі дзве абсечаныя галіны, адна з аднаго боку, другая з другога, дрэва мае пяць каранёў, поле чырвонае». Міхал Шымялевіч пісаў: «Хіба ж на тле калісьці чырвонага замкавага мура тры зялёныя сасны не былі натуральным гербом “Гадземба?”».

Па маім меркаванні, гэта найбольш верагодная гісторыя паходжання гэтых легендарных соснаў каля замка, пра якія пісала шмат фалькларыстаў. Сосны ля замка былі, бадай, галоўнай лідскай легендай, і лідзяне ведалі, што калі прыйдзе самы страшны вораг і жыццё стане невыносным, менавіта адсюль прыйдзе збаўца.

Не дзіва, што сосны не перажылі 1939 г.

У 1930-я гг. у будынку каля замка мясцілася гарадская агульнаадукацыйная школа № 5 імя Людвіка Нарбута (дарэчы, таксама выпускніка Лідскага паветовага вучылішча). Вучаніца гэтай школы лідзянка Яўгенія Ярмант пісала: «На першым паверсе размяшчаліся малодшыя класы з першага па чацвёрты. У глыбіні будынка знаходзілася агульная распранальня – рад кручкоў і драўляных калочкаў, убітых па ўсёй даўжыні сцяны. Направа ад распранальні была вялікая прахадная зала, дзе праходзілі ўрокі гімнастыкі і праводзіліся сходы харцэраў. У двары з задняга боку будынка вузкая і крутая драўляная лесвіца вяла на другі паверх. На галоўным фасадзе з правага боку размяшчалася шырокая, але вель-

мі крутая лесвіца, якая вяла ў настаўніцкую на другім паверсе. Ёю карысталіся толькі настаўнікі».

Другі вучань школы № 5, Ян Станіслаўскі ўспамінаў: «Мела адрас: вуліца Гедымінаўская, 10. Стары двухпавярховы будынак з чырвонай цэглы. Падлогі з дошак, цесныя калідоры, малы пляц для адпачынку дзяцей, у куце якога былі прымітыўныя туалеты. Школа не мела гімнастычнага зала, майстэрні, з кабінетаў мела толькі фізіка-геаграфічны. Вуліца Гедымінаўская з аднаго боку ўлівалася ў вуліцу Замкавую, з другога – у Мацкевіча (Крывую)». Таксама Станіслаўскі пісаў: «Перад вайной лідскім старастам быў Станіслаў Гансеўскі, былы школьны інспектар [начальнік адукацыі павета – Л. Л.]. Памятаю, як пад апекай выхавальніцы мой 5-ы клас з вуліцы Гедымінаўскай (агульнаадукацыйная 5-я школа) палоў гарод пана інспектара на далёкай вуліцы Сувальскай. Тады мы атрымалі вельмі смачны і багаты сняданак, і нашай працай інспектар быў вельмі задаволены. Праца выконвалася ў межах заняткаў па прыродазнаўстве – нас вучылі адрозніваць культурныя расліны ад пустазелля».

Адсюль, з гэтага старога школьнага гмаху, пачыналася дарога ў жыццё для некалькіх пакаленняў жыхароў нашага горада.

Будынак не захаваўся – як і ўвесь цэнтр горада, згарэў у 1941 г.



Помнік Незалежнасці ў канцы 1930-х гг.

На поўнач ад замка і былой Гедымінаўскай вуліцы зараз стаіць помнік вялікаму князю Гедыміну – заснавальніку нашага горада. Амаль што на тым жа месцы, дзе зараз стаіць помнік князю Гедыміну, у 1930-х гг. знаходзіўся помнік Незалежнасці.

**Помнік Незалежнасці.** Пры канцы 1928 г. гімназічная моладзь Ліды саматужна высунула праект пабудовы помніка Незалежнасці Польшчы. На адмысловай табліцы планавалася змясціць прозвішчы загінуўшых у баях з бальшавікамі лідзян. З выкладчыкаў і навучэнцаў гімназіі была ўтворана адмысловая камісія, якая звярнулася ў магістрат па дазвол на ўсталяванне помніка ў скверыку на плошчы Славы (паміж замкам і фарным касцёлам). Пасля атрымання дазволу для ўсталявання помніка абʼяўлены збор грошай і распачаты продаж жэтонаў на 3, 10 і 25 злотых.

29 чэрвеня 1930 г. быў асвечаны кутні камень і пачата ганаровае будаўніцтва помніка. Будаўніцтва асвяціў ксёндз-дэкан Баярунец у прысутнасці прадстаўнікоў улад, войска, вучняў школ, сяброў розных арганізацый і насельніцтва горада. У фундамент была ўмуравана цынкавая скрынка з дакументам на пергаменце наступнага зместу: «Справа зроблена 29 чэрвеня 1930 г. у старым горадзе Гедыміна Лідзе, у часы Прэзідэнта, прафесара, д-ра Ігнацыя Масціцкага, калі Маршалам Польшчы і Духоўным Правадыром народа быў Юзаф Пілсудскі, Прэм'ерам Урада – палкоўнік Валеры Славэк, а дырэктарам Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе – Вацлаў Белакоз, у прысутнасці Старасты Генрыка Багаткоўскага, прадстаўнікоў Войска, Грамадскасці, Улад, арганізацый дапрызыўнай падрыхтоўкі, а таксама розных дэлегацый, склалі гэты Ганаровы акт пабудовы «Помніка Незалежнасці». Гэты помнік, фундаваны школьнай моладдзю Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча ў Лідзе і добраахвотнымі складкамі, быў высвечаны ў памяць усіх тых, хто сваёю цяжкай працай і ахвярнай крывёй прычыніўся да нашай Свабоды. Мы, ніжэй падпісаныя, у доказ гарачай любові да Айчыны, робім гэта на вечныя часы, для прыкладу нашчадкам і для ўласных сэрцаў». Пасля выступу ксяндза-дэкана Баярунца аркестр пажарнай аховы граў гімн, і потым усе разам спявалі «Божа, што ж Польшча».

Першы праект помніка не знайшоў падтрымкі адмыслоўцаў. Аднак праз нейкі час быў зацверджаны праект студэнта-архітэктара Бараніслава Кліцкага. Гранітны помнік выканаў скульптар Трапіла-Бароўскі з Наваградка па цане 4 500 злотых. Ужо пасля ганаровай закладкі помніка віленская газета «Слова» пісала: «Праект помніка, распрацаваны студэнтам архітэктуры Варшаўскай палітэхнікі Браніславам Кліцкім, ужо зацверджаны. Ён цалкам вытрыманы ў мадэрнісцкім стылі і будзе выкананы з граніту ў трох колерах. На пярэдняй сцяне будзе табліца з надпісам: "У дзесяцігадовыя ўгодкі Незалежнасці, Тым усім, хто ахвяраваў жыццё, цярпенне, працу і гэтым прычыніўся да нашай Свабоды, на памяць будучым пакаленням, удзячная моладзь Дзяржаўнай гімназіі імя Гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе паставіла гэты помнік"».

Помнік Незалежнасці быў адкрыты 12 лістапада – у дзень Незалежнасці Польшчы – у прысутнасці міністра сельскагаспадарчых рэформ Станевіча, ваяводы Рачкевіча, прэзідэнта акруговага земскага суда Вушацкага, дырэктара Сельскагаспадарчага банка Мацулевіча і прастаяў з абдзёртымі табліцамі і без польскага арла да канца 1940-х гг.

Яшчэ раз нагадаю, што гэта быў помнік незалежнасці Польшчы.



Помнік Незалежнасці ў 1949 г. Фотаздымак з калекцыі Зіновія Бянько.

## На поўнач ад замка – аўтавакзалы Ліды

Застаемся каля помніка князю Гедыміну.

Ад пачатку з'яўлення міжгародніх аўтобусных камунікацый у 1920-х гг. прыпынкам аўтобусаў у Лідзе была плошча Славы каля фарнага касцёла, у самым цэнтры горада – месцы, недалёка ад якога знаходзіліся гарадскія ўлады, крамы і гатэлі.

У кастрычніку 1930 г. газета «Навагрудскі кур'ер» пісала: «На аўтобуснай станцыі ў Лідзе няма не толькі хоць нейкай будкі, але нават і добрай шыльды. А рух тут немалы, бывае і да 5 аўтобусаў у гадзіну».

Хутка каля фарнага касцёла пабудавалі аўтазапраўку і розныя гандлёвыя кіёскі. Лаўкі сярод кветнікаў выконвалі ролю месца чакання. Гараджане прызвычаіліся да таго, што плошча Славы была месцам прыпынку аўтобуса. Здавалася б, не трэба нешта мяняць, але гарадскія ўлады ў 1936 г. вырашылі перанесці месца прыпынку міжгародніх аўтобусаў на гарадскі рынак (сучасная цэн-



Аўтобусны прыпынак каля Фарнага касцёла, 1930-я гг.



Аўтобус «Беліца – Эйшышкі» на запраўцы, 1930-я гг.

тральная плошча). З-за гэтага людзі пачалі дарэмна траціць час, а аўтобус на 22 месцы (у той час самы вялікі) на малой рыначнай плошчы нават не мог развярнуцца. Адбылося некалькі здарэнняў: аўтобус сутыкнуўся з фурманкай, з іншым аўтобусам, былі вывернуты гандлёвыя рады і г. д. З улікам таго, што за дзень прыходзіла і адпраўлялася ў рэйсы шмат машын, усё гэта стварала невыносныя ўмовы на рынку. Кіраўніцтва ўсіх аўтобусных суполак (арганізацый, якія займаліся міжгароднімі перавозкамі пасажыраў) падпісала петыцыю да гарадскіх улад з прапановай вярнуць прыпынак аўтобусаў на старое месца, але ўлады адмовіліся. Таму петыцыю пераслалі прэм'ер-міністру, пасля чаго аўтастанцыя усё ж вярнулася на плошчу Славы. Улетку 1937 г. гарадскую аўтобусную станцыю каля фарнага касцёла абсталявалі па-новаму: «Гарадскія ўлады разам з аўтобуснымі суполкамі ўпарадкавалі аўтобусную станцыю. Праз Ліду праходзяць сем міжгародніх аўтобусных ліній. Для кожнай лініі, як у Вільні, усталявана адмысловая табліца. У будучым гарадскія ўлады плануюць пабудаваць пачакальню для пасажыраў». Праз некалькі тыдняў каля міжгародняй аўтобуснай станцыі адкрылася паштова-тэлеграфнае аддзяленне.

Да 1938 г. на гэтым месцы была пабудавана аўтастанцыя. Прэса пісала: «У Лідзе пабудавана адмысловая аўтастанцыя, на якой спыняюцца агромністыя аўтобусы. Кожны дзень аўтастанцыя прымае 60 аўтобусаў. Аўтобусны рух пачынаецца з рання і заканчваецца толькі ў 20.30. Зараз дзень кароткі, аўтастанцыя не мае электрычнага асвятлення і таму разам з усім горадам пагружаецца ў цемру. Тыя электрычныя ліхтары, якія ўсё ж свецяць у горадзе, маюць такія слабыя лямпы, што за 10 крокаў ад слупа ўжо цёмна».

У 1935 г. Лідская аўтобусная суполка вырашыла пачаць пабудову па-сучаснаму абсталяванага гаража на 20 боксаў з механічнымі варштатамі, складамі, памяшканнямі для абслугоўваючага персаналу і душавымі.

Напрыканцы 1936 г. у Лідскім павеце было 27 асабістых і 4 грузавыя аўтамабілі, 6 аўтобусаў, 28 матацыклаў – разам 65 механічных транспартных сродкаў: «Ступень матарызацыі Лідскага павета ў Навагрудскім ваяводстве знаходзіцца

на другім месцы, першае месца займае Баранавіцкі павет, які мае 95 механічных транспартных сродкаў, на апошнім месцы – Стаўпецкі павет, дзе ёсць толькі 16 машын (з іх 5 матацыклаў)».

Транспарту было няшмат, і ўдзельнікі дарожнага руху не мелі добрай падрыхтоўкі. Яшчэ 31 жніўня 1929 г. у Лідзе, па вуліцы Вызвалення (сучасная Калініна) аўтобус № 79111 «Ліда – Іўе», якім кіраваў Уладзіслаў Шымчак, на хуткасці 40 км/г урэзаўся ў дрэва. Аўтобус быў перапоўнены пасажырамі, але абышлося без няшчасных выпадкаў – толькі адна асоба страціла зуб.

Не дзіва, што практычна на тым жа месцы (бліжэй да замка, зараз тут стаіць помнік князю Гедыміну) на пачатку 1950-х гг. гарадскі аўтавакзал быў адноўлены. Лідчанка Ларыса Канчэўская ўспамінае: «Праўда, які гэта быў аўтавакзал? Так, магутны цагляны навес з касай. Там сядзець можна было толькі на ўласным багажы. Ну, можа быць, стаялі ля задняй глухой сцяны дзве паркавыя лаўкі. А вакол натоўпы беспрытульных людзей, якія чакаюць ад’езду, продажу квіткоў, перасадак, сярод дзясятка аўтобусаў, што стаялі, скасабочыўшыся, стомленыя, брудныя, каля смярдзючага сарціра на чатыры месцы (два «Ж» і два «М»). Не падумайце, што я іранізую. Гэта былі звыклыя рэаліі нашага часу пасля разбуральнай вайны. Аўтавакзал быў акурат на горцы, на якой зараз знаходзіцца астравок нашага калязамкавага скверыка, які паволі пачалі закладваць у канцы сямідзясятых гадоў XX ст. ... І над усім гэтым морам народу гучаў неразборлівы голас дыктара-дыспетчара: “Паважаныя грамадзяне пасажыры! Аўтобус “Ліда – Табала” адпраўляецца ў 12 гадзін 42 хвіліны”. Пра месца не згадвалася. Аўтобусы рыпелі і кракталі, перагружаныя людзьмі і багажом. Але гэтыя ж людзі яшчэ нядаўна пакорліва пераадольвалі дзясяткі кіламетраў пешшу. А тут – такая зручнасць! Да 1961–1962 гадоў вакзал ператварылі ў аднапавярховы будынак з дыспетчарскай, буфетам, бытоўкай для вадзіцеляў, пячным ацяпленнем». Гэты, ужо трохі павялічаны, аўтавакзал каля замка памятаю і я. Захаваліся і яго фотаздымкі.

Каля 1970 г. быў пабудаваны сучасны вялікі аўтавакзал са шкла і бетону, які пасля грунтоўнай рэканструкцыі 2010 г. служыць нам і зараз.



Аўтавакзал паміж замкам і Фарным касцёлам, 1960-я гг.



Аўтавакзал паміж замкам і Фарным касцёлам, 1960-я гг.



Аўтавакзал паміж замкам і Фарным касцёлам, 1960-я гг.

# Вуліца Замкавая і далей на поўдзень ад замка

Ад замка па сучаснай Грунвальдскай вуліцы пройдзем трошкі на поўнач.

Гэта адна з старэйшых вуліц нашага горада, раней звалася Замкавай і пачыналася каля Рынку, ішла да фарнага касцёла, праходзіла каля замка, а потым выходзіла на Навагрудскі тракт. Гэта вуліца зараз два разы праз масты перакрочвае раку Лідзейку. Раней вуліца цягнулася прыкладна да першага моста. На месцы больш дальняга, паўночнага моста знаходзіўся млын, пра які я ўжо пісаў вышэй.

З «Падымнага тарыфа Лідскага павета 1775 г.» бачна, што па гэтай вуліцы пры канцы XVIII ст. яшчэ няшмат будынкаў, і найбольшую маёмасць тут мае лідскі земскі суддзя Ян Ромер: «Ян Ромер, суддзя земскі, тры малыя двары» (адна з пабудоў Ромера была мураванай). Таксама на гэтай жа вуліцы Ромер валодаў



Вуліца Замкавая, від з замка, малюнак лідскага гімназіста, 1931 г.






Від з замка на вуліцу Замкавую, канец 1920-гг.

яшчэ двума «скарбовымі» дамамі. З таго, што дамы Гейлы і Сруля Хаімовіча сталі «на яго ж юрыдыцы[1]», бачна, што Ромер меў па гэтай вуліцы яшчэ і юрыдыку.

Шымялевіч пісаў, што «да 1785 г. кароль Станіслаў Аўгуст выдаў прывілей Паўлу і Ганне Канапніцкім на пляц па Замкавай вуліцы, а ў 1787 г. – Яну Ромеру

[1] Юрыдыка – адміністрацыйна адасобленыя часткі гарадоў ці прадмесцяў, якія былі пад уладай феадала, царквы або манастыра і на жыхароў якіх не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання.




Згарэўшы млын, 1917 г.

там жа па ленным праве». Гэта значыць, што ў канцы XVIII ст. Ромер атрымаў тут яшчэ нейкі дадатковы пляц.

Януш Сегень ва ўспамінах пра Ліду ў XIX ст. пісаў пра вуліцу Замкавую: «...вуліца “Замкавая”, шырокая, можа 8 метраў, да левага боку балота [гэта калі ісці ў цэнтр горада – Л. Л.]. На пагорку стаяў замак, а вакол яго багна (балота, гразь) і млынарскі стаў, вадзяны млын стаяў над рэчкай Лідзейкай пры Наваградскім тракце...».

У пачатку XX ст. на гэтай вуліцы адбыўся пажар, які цалкам знішчыў 12 дамоў па вуліцы Замкавай. Страты склалі 1400 руб., прычым толькі два дамы былі застрахаваныя. Паліцыя вырашыла, што верагодная прычына пажару – падпал.

Да канца 1920-х гг. гарадская агульнаадукацыйная школа № 1 мясцілася па адрасе: Замкавая, 25. Пасля таго як яна пераехала ў новы будынак, у 1930 г. сюды перавялі гімназію магістрата. Газета «Навагрудскае жыццё» пісала: «Гімназія магістрата г. Ліды была перанесена ў грунтоўна адрамантаваны гмах сп. Янушкевіча па вул. Замкавай, 25. У гмаху маецца 8 лекцыйных пакояў, вялікая гімнастычная зала, кабінеты прыродазнаўства і фізікі. Фізіку будзе выкладаць сам дырэктар гімназіі Пякарскі па навейшай методыцы, з вялікай колькасцю практычных заняткаў. Новае памяшканне значна лепшае за ранейшае па вуліцы Пілсудскага». У тым жа нумары надрукавана аб’ява наступнага зместу: «Гімназія магістрата г. Ліды з правамі дзяржаўных школ. Дырэкцыя гімназіі паведамляе, што школьны год пачнецца з 2 верасня. Збор вучняў у 9.00 на набажэнства ў новым памяшканні гімназіі. Уступныя экзамены для ўсіх класаў адбудуцца 1, 2, 3 і 4 верасня ў 16.00. Бацькі павінны заплаціць за навучанне да 30 жніўня... З пачат-




Від на Ліду, канец 1920-х гг.

кам заняткаў усе вучні абавязаны насіць форму гімназіі». Калі гімназія магістрата закралася, будынак выкарыстоўвалі розныя грамадскія арганізацыі.

У доме № 37 па вуліцы Замкавай рэгулярна адбываліся набажэнствы лідскіх баптыстаў, напрыклад 27 ліпеня 1932 г. на такім набажэнстве прысутнічала 10 вернікаў і прапаведнік Ян Пацэвіч.

Нам асабліва цікавыя лідскія адрасы, датычныя беларускага руху. У 1920-я гг. беларуская прэса рознай накіраванасці дастаткова вольна распаўсюджвалася ў горадзе. Напрыклад, паведамлялася, што ў верасні 1928 г. у Лідзе адкрыта і пачала працаваць кнігарня Беларускага гаспадарчага звязу па «Замкавай вуліцы № 8. Гэта найлепшая й самая бойкая вуліца ў Лідзе». У кнігарні прадаваліся ўсе беларускія кнігі і газеты, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі, з польскіх кніг тут прадаваліся толькі падручнікі для школ. Апрача таго, тут можна была набыць «усе пісьменныя і канцылярскія тавары і прылады. Цэны не даражэйшыя, а часта навет танейшыя, як у Вільні».

У сярэдзіне 1930-х гг. тут, па вуліцы Замкавай, 4/7, доўгі час мясцілася рэдакцыя газеты «Лідская зямля».

У 1934 г. па вуліцы Замкавай пачала вырабляць гумовыя вырабы фабрыка «Унігум». «Унігум» выпускала гумовыя сандалі, падэшвы, абцасы, штучную гумовую скуру, гуму для ровараў, вазоў і брычак, асартымент тэхнічнай гумы. З-за напружанай агульнаеўрапейскай сітуацыі ўвесну 1939 г. лідская прамысловасць мела вялікія праблемы: «Вялікая фабрыка “Дротіндустрыя”... панізіла выпуск прадукцыі да мінімуму. Хімічная фабрыка «Карона» на мяжы ліквідацыі. Фабрыка гумовых вырабаў “Унігум”, якая два гады таму пабудавала новы гмах па вуліцы Замкавай, перажывае крызіс і звольніла 60 рабочых. У апошнія дні, праз брак збыту прадукцыі, спынілася ліцейня “Поланд”».




Зарэчча з боку ракі, каля 1910 г.

**Зарэчча.** Адразу за першым мостам на ўсход адыходзіць сучасная вуліца Калініна. Раён горада вакол гэтай вуліцы мае гістарычную назву Зарэчча. Яшчэ ў XVII ст. Зарэчча складалася з трох частак – фальварка і некалькіх сялянскіх сядзіб, якія належалі Гадэбскім, а пасля перайшлі ва ўласнасць харунжага Франца-Іосіфа Масевіча, замкавай зямлі і пляцаў, якія знаходзіліся ў лідскай магдэбургіі. Фальварак Зарэчча па дароўным запісе Масевіча ад 25 красавіка 1767 г. дастаўся лідскаму кармеліцкаму кляштару, пасля скасавання якога, у 1839 г. быў прыняты ў скарб. Фальварак гэты пасля быў надзелены гораду Лідзе ў якасці выганнай зямлі, але ў 1854 г. уступлены за фальварак Куроўшчына на карысць лідскага прыходскага касцёла. Землі, якія былі ў карыстанні сялян вёскі Зарэчча, роўна як і замкавыя нівы ў 1853 г., надзелены сялянам.

У пачатку XX ст. на Зарэччы жыў 141 чалавек. У 1920-я гг. галоўная вуліца Зарэчча атрымала назву вуліца Вызвалення, таму і ўвесь раён пачалі называць Вызваленнем. У 1928 г. тут былі адкрыты дзве вытворчасці кафлі, а ў 1936 г. была пабудавана трэцяя. Кафлярню «Танур» (танур – печ, яўр.) заснавалі Ёсель Руды і Бэрка Рыбацкі. Яна знаходзілася на вуліцы Вызвалення, 66 (сёння вуліца Калініна), займала плошчу ў 0,4 га, мела 2 печы для абпальвання кафлі. Фабрыка забяспечвала працай 10 спецыялістаў і 20 рабочых. Дзённы выпуск кафлі – 400 штук. На мясцовы рынак выраблялася кафля, так званая «квадратэльная» (21 х 13 см). Для пакупнікоў з Памор'я і Вялікапольшчы выраблялася плоская, вялікая кафля, так званая «берлінская». Абарот фірмы «Танур» у 1936 г. складаў каля 48 000 злотых.

У 1937 г. пачалася забрукоўка вуліцы Вызвалення.




Зарэчча з боку ракі, каля 1910 г.

На Зарэччы ў даўнія часы (як мінімум з XVII ст.) мелася карчма. Вызначыць месца, дзе яна стаяла, можна па карце горада канца XVIII ст. У «Вопісе парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.» запісана, што на Зарэччы існуе «карчма старасты лідскага, прадмесце і плябанія ўніяцкая (ritus graci uniti)», гэта была плябанія ўніяцкай царквы Прачыстай Багародзіцы, пра якую я раскажу трошкі ніжэй.

З цікавых успамінаў Юзафа Шота «Першае пакаленне» даведваемся, што ў канцы XIX ст. карчма стаяла на ўзвышшы пры дарозе. Тут заўсёды было шматлюдна, шумна і весела. У святы з навакольных вёсак збіраліся сяляне, а па нядзелях сюды пасля касцёла заязджалі вяскоўцы, якія жылі далёка. Карчмар Арон прымаў любую плату, усё, што яму маглі даць: грошы, збожжа, палатно. Таму па вечарах людзі, хаваючыся за кустамі, краліся ў карчму цераз луг. Яны неслі сюды на плячах мерку збожжа ці кавалак палатна пад фартухом і прапівалі апошняе сямейнае майно. Два сыны Арона, не шкадуючы сілы, гралі на скрыпцы і цымбалах, калі-нікалі яны запрашалі баяніста і атрымоўвалася капэла. Тады падпітыя зарачанцы ці сяляне з навакольных вёсак не маглі ўтрымацца ад танцаў і пілі яшчэ больш. П'янства трымала ў Зарэччы ўсіх – нават і жанчын. Гэта працягвалася да таго часу, пакуль, прыраўнаваўшы сваю жонку, карчму не спаліў адзін з навакольных сялян.

**Старая ўніяцкая царква і яе могілкі.** Не пазней за пачатак XVII ст. каля сучаснага скрыжавання вуліц Калініна і Стралкоўскага стаяла Прачысценская царква. Пры царкве меліся прыходскія могілкі. У другой палове XVIII ст. Ліда пачынае інтэнсіўна развівацца. У 1765–1770 гг. паўстае новы мураваны фарны касцёл, пабудаваны замест старога драўлянага. У 1765 г. з дрэва разабранага старога фарнага касцёла («як кажуць, яшчэ добрым для сцен») паміж могілкамі царквы і млынам (недалёка ад месца старой царквы Прачыстай Багародзіцы) пабудавалі новую ўніяцкую царкву Уваскрэсення Гасподняга. Пры царкве дзейнічаў невялікі шпіталь. Гэта царква абазначана на карце горада канца XVIII ст. Пра існаванне тут могілак пры канцы XVIII ст. пісаў Міхал Шымялевіч: «...хрысціянскія магіл-



Зарэчча ў 1917 г.

кі горада Ліды знаходзіліся на ўзгорку паміж вуліцамі Гражыны[2], Вызвалення, Гарыстай3». Былая лідзянка Ярмант у 1930-я гг. жыла на месцы, дзе раней знаходзіліся ўніяцкія могілкі, яна пісала: «Наш дом знаходзіўся ніжэй вуліцы Вызвалення (цяпер Калініна), калісьці на гэтым месцы былі могілкі, таму ў агародзе знаходзілі чалавечыя косці».

Менавіта ў гэтым раёне горада жыў гэты лідскі гісторык XX ст. і лідскі радны (сябар гарадской рады) ад Таварыства беларускай школы. Яго дом стаяў бліжэй да паўночнага моста праз Лідзейку. З віленскай прэсы даведваемся, што беларускі радны Шымялевіч жыў па адрасе: вуліца Вызвалення, 82. Дом, дзе жыў Міхал Шымялевіч, захаваўся да нашага часу, лідзянка Ярмант успамінала, як было пры канцы 1930-х гг.: «На скрыжаванні вуліц Гражыны і Гарыстай стаяў дом Шымялевічаў. Дом быў драўляны, дагледжаны, адгароджаны ад вуліцы прыгожым плотам».

**Міхал Шымялевіч** (18.X.1879–11.01.1969). Лепшы лідскі гісторык XX ст. Нарадзіўся ў вёсцы Пеляса, адукацыю пачаў у Лідскай павятовай вучэльні. У 1901 г. малады Шымялевіч працаваў у Лідскай судова-міравой акрузе, канцылярыі з'езду міравых суддзяў, памочнікам сакратара.

Верагодна, першай надрукаванай працай Шымялевіча была кніга «Горад Ліда і Лідскі замак», 1905. З 1905 па 1908 г. прозвішча чыноўніка Шымялевіча знікае з даведнікаў Віленскай губерні, вядома, што малады гісторык-аматар атрымаў грант ад гістарычнага таварыства для вучобы ў Кракаве, верагодна, у знакамітым Ягелонскім універсітэце. Атрымаўшы вышэйшую гістарычную адукацыю ў еўрапейскім універсітэце, даследчык вярнуўся ў Ліду.

[2] Цяпер праспект Перамогі.
[3] Цяпер вуліца Стралкоўскага.

Ён здаў дадатковыя экзамены і з 1910 г. па 1939 г. зарабляў на жыццё прыватнай юрыдычнай практыкай. Вёў справы большасці маёнткаў вакол Ліды і меў добрыя магчымасці вывучаць гістарычныя архівы многіх сем'яў.

У 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна, і ў 1915 г. Шымялевіч пакінуў родны горад, стаў бежанцам. Пасля 1918 г. вярнуўся ў Ліду і перажыў усе навальніцы, якія прайшлі праз наш горад.

9 лістапада 1922 г. было абрана першае польскае Лідскае павятовае самакіраванне ў складзе павятовага аддзела і павятовага сейміка. Сярод 6 членаў павятовага аддзела быў і Міхал Шымялевіч. Гэта значыць, што гісторык адразу патрапіў у «вярхі» польскай павятовай улады. Але пасля стварэння ў кастрычніку 1926 г. у Лідзе гуртка Таварыства беларускай школы Міхал Шымялевіч стаў сябрам гэтай арганізацыі. У 1927 г. сябар ТБШ Міхал Шымялевіч выбіраецца ў гарадскую раду.

У 1936–39 гг. Шымялевіч быў сябрам рэдакцыйна-выдавецкага камітэта часопіса «Лідская зямля» («Ziemia Lidzka»), дзе ён апублікаваў каля 30 бліскучых краязнаўчых артыкулаў, яго матэрыялы друкаваліся ў кожным нумары. Тэксты Міхала Шымялевіча атрымалі агульнае прызнанне. Віленская прэса пры канцы 1930-х гг. адназначна вылучала Шымялевіча сярод усіх аўтараў «Лідскай зямлі» і называла «лепшым знаўцам лідскай гісторыі і нястомным збіральнікам мясцовых народных звычаяў».

У 1940 г. Міхал Шымялевіч быў вывезены ў Казахстан, ягоны дом плошчай 71,41 м2 у Лідзе канфіскаваны. Найвялікшую каштоўнасць меў велізарны архіў гісторыка, і таму адмыслова дасланыя ў Ліду выкладчыкі БДУ з Менска пачалі займацца апрацоўкай архіваў Шымялевіча. Аднак архіў згарэў разам з цэнтрам горада ў 1941 г.

Цудам выжыў. Пасля 1948 г. жыў у Сопаце. Напісаў некалькі найкаштоўнейшых прац, якія былі дэпанаваны ў Бібліятэцы імя Асалінскіх ва Уроцлаве, горадзе, дзе жыла яго дачка.

Міхал Шымялевіч – сапраўдны культурны герой Лідчыны.

* * *

На ўсходняй ускраіне Зарэчча, недзе каля сучасных вуліц Чарнышэўскага і Конава, у першай палове XX ст. існаваў невялікі засценак Мастоўшчына. У 1930-я гг. Мастоўшчына існавала як фальварак.

На поўдзень ад Мастоўшчыны паблізу Паўднёвага гарадка знаходзілася Лайкаўшчына. У пачатку XX ст. тут жыло 40 чалавек на 46 дзесяцінах. У сярэдзіне 1980-х гг. гэтая тэрыторыя з грунтамі павышанай вільготнасці была выдзелена пад прыватную забудову.

З паўднёвага ўсходу гарадская тэрыторыя зараз завяршаецца Паўднёвым гарадком, які з'явіўся ў 1907 г., калі ў Ліду была пераведзена 9-я паветраплавальная рота. Як пісаў Міхал Шымялевіч, у першую чаргу там былі пабудаваны тэхнічныя збудаванні, а ў 1910–1912 гг. вайсковая будаўнічая камісія на выкупленых дзяржавай у Івана і Міхала Садоўскіх з маёнтка Перапечыца землях пад кіраўніцтвам генерал-маёра Канабіха пабудавала казармы і жылыя дамы для афіцэраў. З тых часоў тут стала месцяцца авіяцыйныя часткі розных дзяржаў: Расійскай Імперыі, Германіі, Польшчы, зноў Германіі, СССР і, нарэшце, Беларусі.

У 1992–95 гг. на нямецкія сродкі быў пабудаваны мікраараён Новы Паўднёвы гарадок на 4 тысячы жыхароў.

# Раён горада Вісманты

Раён горада па Наваградскім тракце меў сёння цалкам забытую гістарычную назву Вісманты. Ваколіца Вісманты раней зваліся Кузьмішкамі ад імя «мысліўца» Захарыяша Кузьміча, якому ў 1507 г. вялікім князем ВКЛ Жыгімонтам І тут было нададзена 6 валок зямлі. У 1668 г. Кузьмішкі ўжо ў Давіда Гаеўскага набыў Аляксандр Вісмант. Маёмасць была раздробнена яго спадчыннікамі і ператварылася ў так званую ваколіцу Вісманты.

Немагчыма прасачыць маёмасныя справы Вісмантаў на працягу стагоддзяў, таму адразу пяройдзем у канец XIX – першую палову XX ст. Пра вывучэнне родавых папер аднаго са старажылаў Вісмантаў – Казіміра Вісманта – і працяглыя размовы з ім пісаў Міхал Шымялевіч ва ўспамінах: «Хто ў Лідзе не знаў старога Казіміра Вісманта? 50 гадоў таму [успаміны надрукаваны ў 1937 г. – Л. Л.] быў гэты чалавек у росквіце сіл, трохі сіваваты, трохі лысаваты, але шыракаплечы, румяны і да жанчын цікаўны. Яго белая хатка пад саламяным дахам стаяла на Вісмантах пад Лідай, пры абсаджаным бярозамі Наваградскім гасцінцы... У старога ў хатцы пад столлю стаяла скрынка, поўная старых пажоўклых папер, пісаных і па-славянску, і па-польску, памятаючых часы караля Аляксандра Ягелончыка... Стары Вісмант ведаў на памяць свой вялікі шматаркушовы радавод з усімі датамі і ведаў шмат цікавых гісторый». Казімір Вісмант меў сына, якога ён вучыў на арганіста, і ажно чатыры дачкі. «Да пана Казіміра вечарамі хадзіла на пасядзелкі і размовы лідская прыгарадная моладзь, вядома, у доме тры дарослыя дачкі і чацвёртая, Броня, ужо ўбіваецца ў пёры». Моладзь гуляла ў гульні, часам распавядала ўсялякія цікавыя гісторыі, анекдоты, бай-




На нямецкай паштоўцы 1917 г. замест «Вісманты» напісана «Эйсманты»



Від на замак і горад, 1916 г.

кі, жахі альбо пра чары і незвычайныя з'явы, часам дэкламавалі розныя польскія вершы, «…альбо такія вершы, як "Панскае ігрышча" ці "Адказ на панскае ігрышча" і іншыя, якія праз нейкі час былі надрукаваныя ў Кракаве ў кніжачках Мацея Бурачка». З радкоў Шымялевіча бачна, што вершы Францішка Багушэвіча на Лідчыне і канкрэтна на Вісмантах мелі папулярнасць, перапісваліся і чыталіся падчас вячорак, нават яшчэ да выдання кніжак.

Каля пляца Казіміра Вісманта знаходзіўся ўчастак яго сваяка Яна Вісманта, сына Рафала. Рафал сын Юзафа быў жанаты з Мальвінай з Болтуцяў. Калі яго сын Ян вырас, Рафал перадаў яму гаспадарку на Вісмантах, а сам перасяліўся ў ваколіцу Даліна пад Лідай. Ян Вісмант (1872–1900) быў жанаты з Ізабэлай з Багдановічаў, сужэнцы мелі дачку Зоф'ю (1897–1957) (выйшла замуж за прыехаўшага з этнічнай Польшчы чыноўніка Станіслаўскага) і сына Антона (1898–1902).

Унук Яна Вісманта Ян Станіслаўскі, па дакументах, якія ў яго захаваліся, апісаў сядзібу свайго дзеда. Паглядзім, як выглядаў гарадскі маёнтак дастаткова багатага лідзяніна ў пачатку XX ст.

Зямельны пляц уздоўж вуліцы (сучасны праспект Перамогі) меў шырыню 100 і глыбіню каля 450 аршынаў (да рэчкі Лідзейкі). Участак быў агароджаны шчыльным плотам з дошак. Адразу ад вуліцы стаяла гумно памерам 20 х 13 х 4 аршыны вартасцю 600 царскіх рублёў. Гэта гумно з'яўлялася візітоўкай усёй маёмасці Яна Вісманта, і тое, што яно мясцілася каля дарогі, дазваляла вельмі проста прывозіць і вывозіць грузы з гэтай гаспадарчай пабудовы. Каля гумна стаяла абора з хлявом памерам 18 х 8 х 2,5 аршына коштам 200 рублёў. Таксама мелася спіжарня памерам 8 х 6 х 4 аршыны коштам 150 рублёў. Усе будынкі былі пабудаваны з тоўстага прасмоленага бярвення і пакрыты саломай.

За гаспадарчымі пабудовамі рос вялікі сад, потым раслі кветкі, і бліжэй да рэчкі стаяў жылы дом памерам 12 х 6 х 2,5 аршына вартасцю 500 рублёў. У садзе раслі яблыні, грушы, вішні, слівы, роўнымі радамі кусты чорных і чырвоных парэчак і агрэсту. Маліна была пасаджана асобнай паласой.

Дом складаўся з трох пакояў, кухні і гаспадарчых памяшканняў. Электрычнасць тут з'явілася ў 1928 г. Дэтэктарнае радыё на пачатку 1930-х гг. замянілася на лямпавае. Калі вуліца мела назву Вісманты, стары дом Яна Вісманта меў № 30, калі каля 1930 года яе пераназвалі ў вуліцу Гражыны, дом атрымаў № 65.

У 1920-я гг. участак Яна Вісманта на поўдні межаваў з участкам Францішка Вісманта, сына таго самага Казіміра, пра якога пісаў Шымялевіч, далей на поўдзень ляжаў участак Насевіча, дачка якога Яніна ў 1930-я гг. лічылася самай прыгожай

дзяўчынай на Вісмантах. Яшчэ далей на поўдзень знаходзіўся ўчастак, на якім раней стаяў дом заснавальніка роду Вісмантаў у Лідзе Аляксандра Вісманта (бліжэй да сучаснай нафтабазы). Гэты ўчастак у 1920-я гг. быў прададзены нейкаму Казлоўскаму, і мае сэнс трошкі расказаць пра бізнес гэтага чалавека.

Казлоўскі займаўся справай, якая прынесла дурную славу Вісмантам. Казалі, што калі б заснавальнік роду Аляксандр Вісмант даведаўся пра ўстанову, якая мясцілася на яго пляцы, дык перавярнуўся б у труне. Ваколічныя людзі лічылі, што Казлоўскі зганьбіў дом продка ўсіх Вісмантаў, і таму пісалі бясконцыя скаргі на Казлоўскага. Сюды, да «вясёлых» жанчын вядомай прафесіі часта прыязджалі дрожкі з паднятым верхам – гэтак наведвальнікі хаваліся ад цікаўных вачэй. Падчас рэгулярных маршаў жаўнераў лідскага лётнага палка з Паўночнага гарадка ў касцёл і вяртання ў казармы ці маршу на ўсялякія святочныя парады работніцы ўстановы ўсе разам заўсёды выходзілі да плоту ці сядзелі ў вокнах дома і спаборнічалі паміж сабой у мастацтве эратычнага распранання. Расшпіленымі сукнямі і тым, што пад сукнямі, яны заваблівалі вайскоўцаў, забяспечваючы сабе кліентаў і сталую працу. Афіцэры, якія вялі жаўнераў у горад ці вярталі ў казармы, заўсёды аддавалі каманды «налева раўняй» ці «направа раўняй» – адмыслова гэтак, каб жаўнеры бачылі мілых іх сэрцу дам. І правільна рабілі – такім чынам падтрымлівалася бачнасць дысцыпліны. Бо і без каманды афіцэра жаўнеры ў шыхце ўсё роўна круцілі б галовамі і глядзелі б толькі на жанчын, што з’яўлялася б яўным парушэннем дысцыпліны.

Недзе пры канцы 1930-х гг. грамадскае абурэнне перамагло і пляц заснавальніка лідскіх Вісмантаў быў прададзены ў «добрыя рукі».

Далей на поўдзень за былым пляцам Аляксандра Вісманта стаяў дом чарговага кузэна маці Яна Станіслаўскага – Браніслава Вісманта, бацькі двух сыноў – Аляксандра і Вільгельма. За домам Браніслава знаходзіліся два дамы братоў Нікалаевых. Адзін з братоў працаваў у той час інжынерам і разам са сваімі сынамі жыў іх бацька – генерал царскай арміі. Стары генерал застаўся ў памяці лідзян як заўзяты калекцыянер паштовых марак.

Вяртаемся на ўчастак Яна Вісманта. Суседам яго ў бок горада (на поўнач) быў нейкі Уткевіч. Разам з бацькамі ў розных кватэрах вялікага дома жылі дзве дачкі з сем’ямі. Малодшая дачка была замужам за службоўцам польскай тайнай паліцыі Фідэлісам. Стары Уткевіч атрымаў вядомасць на ўсе Вісманты праз свае дзівацтвы. Напрыклад, выходзячы з хаты, ён замыкаў знутры ўваходныя дзверы сваёй кватэры на ланцугі, скобкі і вялікую колькасць замкоў. Пры гэтым сам вылазіў праз акно і толькі трошкі яго прычыняў пасля сябе. Як толькі стары сыходзіў з двара, мясцовыя хлопцы разам з яго ўнучкай Ясяй залазілі праз акно ў кватэру і раскідвалі рэчы. Уткевіч не раз мяняў замкі, але гэта не дапамагала, і стары ўпэўніўся, што злодзеі нейкім чынам заўсёды маюць ключы, і паратунку ад іх няма і не будзе.

Далей на поўнач стаялі дзве халупкі, у якіх жылі бедныя сем’і. Пасля гэтых дамкоў, бліжэй да горада, вялікі ўчастак зямлі і добры дом меў Шлёма Рубінштэйн – уладальнік крамы спажывецкіх тавараў. Шлёма гадаваў чатырох сыноў і дзвюх дачок. Адзін з сыноў Шлёмы – Рубін (1920 г.н.) – уратаваўся з лідскага гета і падчас Другой сусветнай вайны ваяваў у партызанскім атрадзе «Іскра».

На поўнач ад маёмасці Рубінштэйна знаходзіўся выган – нічыя тэрыторыя, на якой людзі прызначалі сустрэчы, а хлопцы гулялі ў футбол.

За выганам ляжала маёмасць Бузара, у 1930-я гг. гэта быў ужо немалады чалавек з дагледжанай барадой. Дачка Бузара працавала настаўніцай польскай мовы ў Гандлёвай гімназіі. Трэба сказаць, што пасля заканчэння маім татам гродзенскай трохгадовай школы машыністаў па размеркаванні ён патрапіў у Ліду. Менавіта ў Бузара тата і мама здымалі пакой, і ў 1957 г. у яго хаце нарадзіўся мой старэйшы брат

Юра (1957–1996). Памятаю, як маці неаднаразова добрым словам згадвала «дзеда Бузара», і ведаю, што мой тата любіў паразмаўляць са старым лідзянінам пра жыццё.

За поўнач ад Бузара, праз два пляцы, мясцілася чыгуначная вадакачка і вуліцу перакрочвала чыгунка, па якой на вадакачку хадзіў цягнік, зараз гэтай чыгуначнай лініі няма. У дзяцінстве я неаднаразова бываў тут, бо ў вялікім і старым памяшканні вадакачкі мелася кватэра майстра водазабеспячэння, які кіраваў справай падачы вады на чыгунку. З сярэдзіны 1950-х гг. майстрам тут працаваў Уладзімір Нядзведскі. Ён быў жанаты з сяброўкай маёй маці – цёцяй Надзеяй, і менавіта Нядзведскія дапамаглі маім бацькам зняць кватэру ў Бузара. Добра памятаю, што за вадакачкай, на беразе Лідзейкі мелася выдатнае месца для пікнікоў.

Зноў вяртаемся да ўчастка Яна Вісманта. Насупраць яго праз вуліцу домам валодаў чыгуначны машыніст Кулеш. Тут жа, на заходнім боку вуліцы, на поўдзень ад дома Куляшоў нашчадкі Яна Вісманта мелі вялікую незабудаваную дзялку, на якой вырошчвалі бульбу і нават збожжа. Праз адзін дом ад Куляшоў у бок горада знаходзіўся дом Лохача, які трымаў краму і канкурыраваў з Рубінштэйнам.

Каля Вісмантаў, па вуліцы Легіяновай, 6 (зараз вул. Клімко) жылі сыны Леона-Пятра Вісманта, у 1906–1914 гг. ён займаў пасаду бурмістра горада. Старэйшы сын былога бурмістра Францішак Вісмант быў вядомым у горадзе адвакатам, а другі сын Чеслаў служыў у лідскім авіяцыйным палку. У верасні 1932 г. прэса паведаміла пра катастрофу лідскага самалёта каля Маладзечна. Самалёт, які пілатаваўся паручнікам-пілотам Рудовічам і назіральнікам сяржантам-пілотам Вісмантам, упаў з вялікай вышыні, але, на шчасце, лётчыкі ўцалелі, Вісмант трапіў у маладзечанскі шпіталь, а Рудовіч адразу вярнуўся ў Ліду.

Дадам, што на Вісмантах меўся вадзяны млын на рацэ Лідзейка, у 1914 г. ён належаў Арону Фрыдману.

Ну і пры канцы самае цікавае. У 1920 г. Беларускі нацыянальны камітэт у Лідзе – орган, які каардынаваў і прадстаўляў дзейнасць беларускіх партый і арганізацый, мясціўся па адрасе: Вісманты, 48.

**Славойкі**. Дзе-нідзе ў Заходняй Беларусі да нашага часу драўляны туалет-шпакоўню завуць славойкай. Канструкцыйна нічога не змянілася. Славойка – невялікая будка, якая асобна стаіць над выграбной ямай з памостам, у дошках якога выразана дзірка. Дзверы славойкі замыкаюцца знутры, таксама звычайна знутры маецца цвік, на якім вешаюцца газеты ці часопісы, яны маюць двайное прызначэнне. У дзвярах ці над імі звычайна выразаецца акенца ў форме сэрца ці знака бубновай масці. Гэтая канструкцыя свайму паўсюднаму распаўсюджанню абавязана польскаму міністру ўнутраных спраў і апошняму перадваеннаму прэм'ер-міністру, генералу, доктару медыцыны, паплечніку Пілсудскага Феліцыяну Славой-Складкоўскаму.

Успамінаў пра лідскую славойку і былы жыхар Ліды Ян Станіслаўскі, маці якога была з заможнага роду лідскіх Вісмантаў. Пра сваю славойку ён пісаў: «За домам на неабходнай адлегласці стаяў добра выбелены вапнай белы дамок. Зваўся ён "славойкай" ад прозвішча прэм'ера Славоя-Складкоўскага. Ён паўсюдна, у тым ліку і ў занядбанай вёсцы, увёў абавязак пабудовы туалетаў, пабелкі платоў і іншых санітарных абавязкаў. Сучаснікі гэта ацанілі. Хвала яму за гэта. Наш адмысловы дамок рэгулярна абнаўляўся, ушчыльняўся, чысціўся і без націску ўлад. Такія ж добрыя туалеты былі і па ўсёй Лідзе, але меліся і выключэнні».

Раскажу трошкі пра гэтыя амаль што цалкам забытыя славойкі.

Неўзабаве пасля перавароту 1926 г. Пілсудскі прызначыў Славой-Складкоўскага міністрам унутраных спраў, раней ён узначальваў санітарную службу польскай арміі. Надаючы велізарнае значэнне гігіене, новы міністр распачаў энергічныя дзеянні, каб палепшыць санітарны стан у дзяржаве. Былі выдадзены прадпісанні, якія аба-

вязвалі мясцовыя органы дзяржаўнай адміністрацыі і тэрытарыяльнага самакіравання ў сціслыя тэрміны забяспечыць чысціню на вуліцах, рынках і ў прыватных дварах, арганізаваць падмятанне вуліц, іх упарадкаванне і азеляненне, забяспечыць наяўнасць у кожным прыватным уладанні туалетаў і накрытых урнаў.

Тэма славоек знайшла сваё адлюстраванне ў літаратуры, гісторыі і шматлікіх успамінах. «Польскія калоніі пачынаюцца за Рамбертовам [усходняя частка Варшавы – Л. Л.]», – казаў міністр замежных спраў Юзаф Бек. Ён меў на ўвазе, што Польшча пасля 1920 г. – край небагаты і, асабліва на ўсходзе, цывілізацыйна занядбаны. Сімвалам гэтага былі дрэнныя дарогі, а таксама паўсюдны бруд і нізкі ўзровень гігіены.

Апаненты міністра горка іранізавалі, напрыклад, пасля Другой сусветнай вайны хадзіў жарт пра адзінага сапраўднага палітыка ў былым урадзе – прэм'ера Славой-Складоўскага. «Ён загадаў фарбаваць платы і ставіць на падворках клазеты, бо ведаў, што ў Польшчы нічога лепшага зрабіць немагчыма», – пісаў пісьменнік і эсэіст Казімір Брандыс. А палітычны праціўнік Славоя-Складкоўскага рэдактар віленскай газеты «Слова» Цат-Мацкевіч, які за часы прэм'ерства Складкоўскага нават трапіў у Картуз-Бярозу, пісаў: «Калі ўся Еўропа будавала бомбасховішчы, Складкоўскі свідраваў дзіркі ў платах, дамагаючыся, каб уся Польшча мела платы з дроту ці каб сяляне бялілі свае хаты... Складкоўскі меў размах, дынамічнасць і раскрыўся ў справах, да якіх дарос, – перад усім у справах клазетаў і іншых санітарных рэчаў. Яго рэформы ў гэтай справе былі да такой ступені свавольныя і гэтак энергічна праводзіліся... што яго назвалі клазетным Пятром Вялікім».

Пакінем зласлівасць палітычным апанентам. Генерал Славой-Складкоўскі насамрэч быў энтузіястам гігіены і добра разумеў фатальны ўзровень санітарыі ў краі, дзе большасць насельніцтва свае патрэбы лацвіла «за гумном», і таму змагаўся з гэтым, чым мог – дзяржаўнымі ўказамі і асабістым кантролем. Пасля перавароту 1926 г. стаў міністрам унутраных спраў і выдаў першае распараджэнне, якое прымушала насельніцтва да элементарнай гігіены: «У туалетах неабходна часта мыць памосты і падлогі... трэба іх добра ўтрымліваць, і яны не павінны атручваць паветра навокал», – пісаў міністр унутраных спраў ваяводам у лютым 1927 г. У 1928 г. па яго ініцыятыве выдадзена распараджэнне прэзідэнта, якое абавязала мець туалет у кожнай асобнай сядзібе як у горадзе, так і на вёсцы.

Генерал-доктар, як звалі міністра, добра разумеў, што паперы не прымусяць да гігіены, і таму высылаў у ваяводствы інспекцыі, і сам ахвотна браў у іх удзел. У сваіх мемуарах, напісаных пасля Другой сусветнай вайны, пісаў, як у пагодны майскі вечар вяртаўся са старастам павета з інспекцыі: «Староста падышоў да селяніна і пасля некалькіх хвілін іх размовы я пачуў:

– Ехаў з самой Варшавы, каб пабачыць мой туалет?

Потым зноў пачуўся шэпт, і пасля гэтага гаспадар пайшоў у хату, адкуль вярнуўся з кухонным ліхтаром і павёў нас вільготнай сцежкай да славойкі. Перад яе дзвярамі аддаў ліхтар старасту, выняў з світкі малаток з долатам і пачаў адбіваць забітыя цвікамі дзверы туалета. Калі мы выказалі сваё здзіўленне, спакойна адказаў, што дзецям у школе ўбілі ў галаву глупства, і яны не жадаюць хадзіць «за гумно», а жадаюць толькі ў туалет. А туалет для камісіі павінен быць чыстым. Таму забіў цвікамі і зараз спакойны... Калі мы ад'язджалі, былі чутны ўдары малатка – гаспадар зноў забіваў дзверы».

Генерал у мемуарах дэманстраваў пачуццё гумару і не крыўдзіўся на выкарыстанне свайго імя, а нават і сам такія туалеты называў славойкамі. Пісаў таксама: «Адзін багаты селянін зачыніў туалет і трымаў у ім каўбасы і шынкі. Бывалі выпадкі, калі сяляне ставілі свае славойкі ў рад уздоўж вясковай вуліцы, бо казалі, што нейкі міністр іх патрабуе, калі ездзіць па дарогах. Такі гарадскі ў полі ср... не сядзе!».

Знакаміты пісьменнік Мельхіёр Ванькові́ч у сваёй слыннай кнізе «Дзе-нідзе» (Tędy i owędy) заўважаў: «Славой-Складкоўскі быў бічом божым для старастаў,

з якімі бязлітасна ваяваў за пунктуальны прыход на працу, пабелку парканаў і чыстату славоек». Ваньковіч, далей: «Прыціснутыя зверху, ваяводы рупліва кантралявалі справу туалетаў. Калісьці быў з віленскім ваяводам Бацянскім на інспекцыі (ён не прызнаваў беларусаў і лічыў іх за звычайных палякаў, такіх, напрыклад, як кашубаў). У кожнай гміне мы беглі адразу аглядаць славойкі».

Міністр унутраных спраў генерал Славой-Складкоўскі з рэвізіяй санітарнага стану горада прыязджаў таксама і ў Ліду. 17 кастрычніка 1928 г. яго сустракалі лідскі стараста Багаткоўскі і наваградскі ваявода Рачкевіч, але нейкіх падрабязнасцей прэса не паведамляла, магчыма, лідскія славойкі задаволілі строгага міністра.

Пісьменнік Мельхіёр Ваньковіч у кнізе «Дзе-нідзе» заўважаў: «Як там ні было, але славойкі палепшылі сітуацыю... У паважных маёнтках я, ідучы ў славойку, атрымліваў ад гаспадароў ліхтарню, парасон, галёшы і бізун, каб чым было мне адбівацца ад сабак».

Славойкі праславілі генерала, але былі толькі часткай ягонай дзейнасці. Ён выдаў распараджэнне аб санітарным стане падворкаў, гатэляў, гасцінцаў, а таксама пляжаў. У другой палове 1930-х гг. як прэм’ер выдаў загады аб пачатку праектавання і будаўніцтва каналізацыі ў гарадах і мястэчках, аб санітарным кантролі рынкаў, продажы масла ў крамах выключана са шкляных ёмістасцей, напоўненых вадой і накрытых чыстай тканінай. Але з-за Другой сусветнай вайны большасць з гэтых пачынанняў засталася на паперы. Загадваў таксама фарбаваць платы, брамы і фасады дамоў, прытым – у адзіны, узгоднены колер. Загадваў разбіраць брыдкія пабудовы, здымаць платы-пляцёнкі з лазы і ставіць платы з дарагой металёвай сеткі. А таксама брукаваць на падворках дарожкі, і я яшчэ памятаю ў нашых вёсках такія ўнутраныя брукаванкі.

Часта нават не хапала фарбы ці вапны. Віленскі пісьменнік Юзаф Мацкевіч пісаў пра злоўжыванні лідскіх войтаў-асаднікаў у нарысе «Войты пана Мальскага»: «...будуецца ў нас школа – і заўжды для будоўлі патрэбна вапна. Але ў мінулым годзе слынны акольнічы пана прэм’ера [Славоя-Складкоўскага – Л. Л.] загадаў прымусова бяліць хаты, туалеты і платы. Для пабелкі патрэбна вапна. Адкуль яе ўзяць, калі раптоўна цэлы край неабходна пабяліць і вышмараваць. Кошты ідуць уверх, яўрэі пачынаюць спекуляваць, а можа нават ужо і не маюць тавару? Што значыць не мець тавару?! Цэлы вагон вапны прыходзіць на чыгуначную станцыю Нёман для школы. Я ўжо добра не памятаю, ці той яўрэй меў прозвішча Зляцоўскі, ці нейкае іншае. У любым выпадку... вапна была ноччу прададзена яўрэям для перапродажу сялянам – бяліць платы і туалеты».

Беларус Пётра Сыч пісаў: «...каля Радашкавічаў я меў чатырнаццаць гектараў ня вельмі-ж геглай зямлі. ... Плаціў падаткі й меў супакой. Праўда, было крыху прыкрасці, як да ўлады прыйшоў нейкі звар’яцелы Славой Складкоўскі. Той пачаў рабіць нейкія рэформы, уводзіць нейкую гагіену (гігіену). Загадаў бяліць хаты, платы, будаваць адхожыя. Па-расейску гэта – нужнікі, па-польску «устэмпы», мы іх назвалі «непатрэбныя патрэбнікі». Фактычна, будынак патрэбны, але ў нашых умовах, дзе ня было каналізацыі, – даволі клапатлівы. Але хату я папэцкаў вапнай, плот таксама. Выглядала гэта гадка, злашча пасьля дажджу. Патрэбнік згарусьціў і, калі не хапіла дошчак, садраў з даху пару драніцаў. Паставіў яго пад дрэвам, каб дождж ня змываў вапны, да дзьвярэй прыбіў кручок, зашчапіў і на гэтым кончылася. Меў супакой». Аднак на фронце пад Монтэ-Касіна, дзе ён ваяваў афіцэрам, Сыч успомніў пра славойкі: «Узнікла яшчэ адна праблема, праўда, саромлівая, але істотная, людская: няма клязетаў. Нехта рэшткамі сілаў здабыўся на гумар: “Якая шкода, што з намі няма былога прэм’ера Славоя-Складкоўскага! Ён бы адразу загадаў пабудаваць “нужнікі-славойкі”, пабяліць іх вапнай...”».

# Старыя гарадскія, ці каталіцкія, могілкі

Усім вядомы могілкі на Росах у Вільні, Кальварыя ў Менску ці Лычакаўскія могілкі ў Львове. Ёсць такія ж, толькі зразумела, меншыя, у Лідзе – гэта старыя гарадскія (яны яшчэ называюцца «каталіцкія») і старыя праваслаўныя могілкі (пра іх потым). Тут, сярод соснаў, жыве мінулае нашага горада, і я, калі прыходжу сюды, рухомы сваёй цікаўнасцю да гісторыі, – найчасцей каб пашукаць магільны помнік кагосьці з тых, пра каго пішу, адчуваю тут сапраўдны подых мінуўшчыны. Але старыя лідскія могілкі – ахвяра вандалізму канца савецкай эпохі, большасць помнікаў тут была разбіта і перавернута, д'ябальская злая моц зрабіла ўсё магчымае, каб ператварыць могілкі ў пустэльню. Дзякуючы шляхетным людзям, у апошні час значныя робяцца крокі па аднаўленні гэтых святыняў.

З пачатку XVII ст. на поўдзень ад горада Ліды на замкавай зямлі і зямлі паноў Вісмантаў паўстаў прыгожы бор. Па распараджэнні губернскіх улад у 1797 г. частка гэтага бору, якая знаходзілася на замкавай зямлі, была выдзелена пад па-



Старыя могілкі і званіца, пабудаваная маршалкам лідскай шляхты Буткевічам, малюнак 1917 г.

рафіяльныя могілкі. Другая частка бору на зямлі шляхты праіснавала да 1892 г., калі пасля вялікага пажару трэба было адбудоўваць горад і дрэвы спілавалі. Потым, для будаўніцтва даходных дамоў, спілавалі і прыгожы бор, які рос непасрэдна на парафіяльных могілках. Пры канцы XIX ст. Міхал Шымялевіч лічыў гадавыя кольцы вялікіх пнёў, якія пазаставаліся на месцы гэтых сосен, і налічыў 240 кольцаў. Гэта былі пні дыяметрам у паўтара метра.

Ад пачатку могілкі не мелі дакладна акрэсленых межаў, аднак каля 1840 г. на сродкі пані Клары Якавіцкай, як належала па прадпісанні аб утрыманні такіх аб'ектаў, пахаванні былі акапаны ровам і агароджаны невысокім валам. Роў і вал, аднак, не баранілі могілкі ні ад быдла, якое пасвілася побач, ні ад непажаданых асоб. У 1886 г. на сродкі пані Лясковіч была выбудавана брама – чатыры мураваныя слупы з драўлянымі варотамі. Каля 1900 г. распачалася і праз некалькі гадоў закончылася будоўля новай мураванай агароджы могілак. У аповедзе Міхала Шымялевіча «З таго свету» дачка старога Вісманта Броня ў ноч ідзе на старыя могілкі, яна «навобмацак спусцілася ў роў, залезла на муры і слізганула па мокрых і халодных камянях муроў на могілкі». З тэксту бачна, як былі агароджаны могілкі. У памяць пра пабудову мураванай агароджы злева ад уваходу з унутранага боку была ўмуравана каменная дошка з надпісам: «Агароджана ў 1903 г. коштам парафіян, стараннем ксяндза-дэкана Юзафа Сянкевіча, М. Пацэвіча, Я. Падгайнага, каменем Стэфана Макрэцкага за якіх Здровась Марыя». Згаданы Стэфан Макрэцкі, уладальнік маёнтка Вінькаўцы, праз нейкі час, як генерал зброі Войска Польскага, быў прэм'ер-міністрам Сярэдняй Літвы.

На могілках здаўна стаяў драўляны шпіталь, невядома кім і калі пабудаваны і калі зруйнаваны, пасля яго зруйнавання жабракі не мелі дзе жыць. Панна Марыя Ле Форт, гувернантка, адпісала для тутэйшых жабракоў 66 рублёў срэбрам. Ксёндз Юзафат Вайшвіла, лідскі экс-піяр, які дажываў у лідскай парафіяльнай плябаніі, дадаў яшчэ 150 рублёў, і за гэтыя грошы ў 1845 г. пабудавалі новы драўляны шпіталь. У 1856 г. тут жылі 12 жабракоў. Калі гэты шпіталь струхлеў, пані Лясковіч пабудавала за агароджай могілак драўляны шпіталь, які існаваў яшчэ пры канцы 1930-х гг.

У 1937 г. могілкі былі павялічаны да сучасных памераў – 4,1 га. Каб расказаць толькі пра некаторых цікавых асоб, якія знайшлі тут свой апошні прытулак, трэба напісаць кнігу, спадзяюся, калісьці я яе напішу.

Сякая-такая інфармацыя пра лідскія могілкі з'яўлялася ў прэсе.

Самазабойцы часта выбіралі сабе гэта месца для апошніх рахункаў з жыццём. Так, у сакавіку 1929 г. на могілках у беспрытомным стане была знойдзена Яўгенія Скеміш. Выпадковыя людзі цудам уратавалі дзяўчыну і адвезлі ў шпіталь.

Пры канцы жніўня 1931 г. у горадзе бура паабрывала драты электрычнасці і сувязі, з-за чаго на лідскай тэлефоннай станцыі ледзь не адбыўся пажар. Таксама моцны дождж дзе-нідзе размыў дарогі і падмыў гарадскія могілкі, што прывяло да таго, што папрасядалі новыя магілы.

У ноч з 14 на 15 і з 15 на 16 студзеня 1932 г. адбыліся акты вандалізму на гарадскіх могілках, былі разбіты 16 слупкоў агароджы чатырох магіл (магілы Грабліса, Роўбы і інш.) і скрадзены жалезны дрот агароджы агульнай даўжынёй каля 40 м.

А ў чэрвені 1938 г. паліцыя шукала тых, хто пакраў жалезныя агароджы з магіл.




Абеліск на вайсковай частцы могілак, малюнак лідскага гімназіста, злева – драўляны крыж на магіле 40-ка закладнікаў, расстраляных Тухачэўскім. 1931 г.



Пахавальная працэсія ад лідскага фарнага касцёла накіроўваецца ў бок могілак, 1930-я гг.

З 1915 г. на заходняй частцы старых могілак з'яўляецца асобны вайсковы квартал – былі пахаваны першыя жаўнеры-католікі рускай арміі. У 1919 і 1920 гг. тут пачалі хаваць загінуўшых жаўнераў польскага войска.

Супольная магіла з'яднала тут і тых, каго летам 1920 г. у даліне пры збегу тракту і шашы Ліда – Гародня расстраляў асобны аддзел ЧК пры штабе арміі Тухачэўскага ў Лідзе. Надпіс на гэтай меўся магіле: «40 невядомых закладнікаў з Беластока, Гародні і Ваўкавыска, забітых бальшавікамі ў жніўні – верасні 1920 г.»

«Мой Божа! Ці ж гэты малады, але хцівы да ўлады і славы, інтэлігентны афіцэр Тухачэўскі, якога я бачыў на вуліцах Ліды ў аўтамабілі, пакрытым чырвонай палярынай з залатымі махрамі, калі зацвярджаў выракі асобага аддзела, думаў пра тое, што калісьці і сам ён будзе расстраляны ў патыліцу з браўнінга? Забіты так, як і няшчасных ахвяр забівалі па яго камандзе. Бо якім судом вы будзеце судзіць, такім і вас асудзяць, ды якою меркай вы будзеце мераць, такою вам адмераць. Мацвей VII, 2», – пісаў Міхал Шымялевіч.

Магіла расстраляных закладнікаў з крыжам і памятная табліца пра іх знішчаны.

З 1920-х гг. тут пачынаюць хаваць лётчыкаў 11-га знішчальнага і 5-га лётнага палкоў, і квартал пачаў ператварацца ў лётны. Потым быў пабудаваны 8-метровы абеліск, пастаўлены металічны плоцік.

Абеліск на вайсковай частцы старых гарадскіх могілак – праца маладога ў той час мастака Рафала Яхімовіча (Rafał Jachimowicz), пастаўлены на грошы, сабраныя лідскімі чыгуначнікамі. Прэса сцвярджала, што абеліск быў пастаўлены ў гонар палеглых у 1919 і 1920 гг. пад Лідай польскіх жаўнераў і 47 (па версіі




Магіла лідскага вікарыя Станіслава Пацынкі (памёр у 1918 г.) Помнік і сёння ляжыць каля паўднёвага боку капліцы Св. Барбары. У 1986 г., ратуючы ад варварскага знішчэння, парафіяне перанеслі яго парэшткі на Слабадскія могілкі. Але надмагілле ксяндза Пацынкі засталося на старых могілках, а на Слабадскіх могілках яго прозвішча прысутнічае на агульным помніку сярод прозвішчаў іншых ксяндзоў.

Шымялевіча – 40) расстраляных ЧК закладнікаў, а таксама загінуўшых у мірны час лётчыкаў 11-га авіяцыйнага палка (5-ы авіяцыйны полк дыслакаваўся ў Лідзе пасля 1927 г.) Помнік пастаўлены не пазней за 1924 г.

З сярэдзіны дзевяностых гадоў XX ст. розныя польскія арганізацыі з Польшчы і Беларусі ўзялі пад апеку могілкі і, адпаведна, вайсковы квартал.

Былі адрэстаўраваны крыжы, у тым ліку і помнікі лётчыкам у межах квартала. Восенню 2001 года адноўлены абеліск, які завершаны прыгожай скульптурай, дакладнай копіяй перадваеннай.

**Капліца.** У 1805 г. ксёндз Вінцэнт Нарбут, пробашч і дэкан лідскі, пабудаваў тут досыць вялікую драўляную капліцу, якую высвяціў ў гонар Св. Барбары, панны і мучаніцы, патронкі добрай смерці, абраз гэтай святой знаходзіўся ў вялікім алтары. Пасля скасавання ў Лідзе касцёла кармелітаў і пажару касцёла піяраў, падчас рамонту Фары, сюды былі часова перанесены парафіяльныя набажэнствы. У 1848 г. капліца грунтоўна адрэстаўравана. У 1905 г. невядомы злачынец падпаліў капліцу, але пажар быў патушаны. У капліцы калісьці меўся стары арган, перанесены сюды з Фары, у 1904 г. гэты арган перададзены ў Крупаваўскі касцёл, у 1919 г. ён згарэў разам з касцёлам.

У 1928 г. быў зацверджаны новы праект драўлянай капліцы, але ён не быў рэалізаваны. У 1929 г. студэнтам архітэктуры К. Раствароўскім распрацаваны новы праект, які атрымаў добрыя водгукі ад спецыялістаў. Вельмі павольнае будаўніцтва капліцы пачалося ў 1930 г. – толькі ў 1937 г. пабудова была пакрыта дахам, але да 1939 г. работы не былі скончаны. У сярэдзіне 1970-х гг., калі могілкі былі падобныя на добра засмечаныя джунглі, капліца без вокнаў і дзвярэй таямніча стаяла ў цені дрэў, і ўнутры пабудовы ляжала шматгадовае смецце. У 2000–2003 гг. быў праведзены грунтоўны рамонт, унутраная атынкоўка, устаўлены вокны і дзверы, выкананы ўсе неабходныя працы. Капліца стала дзейснай.

Міхал Шымялевіч закончыў свой артыкул пра гэтыя могілкі словамі, якія і я хачу працытаваць у канцы гэтай главы: «Не меней як дзесяць тысяч парэшткаў лідзян ляжыць тут, на 4 гектарах, і ў цені сасновага бору не памятаюць ні пра свае няшчасці, ні пра свае радасці. З праху паўсталі і ў прах вярнуліся».

# Частка 2.
# Вуліца Віленская
# (Сувальская, Савецкая)



*Вуліца, якая сёння яшчэ называецца Савецкай, у міжваеннае дваццацігоддзе мела назву Сувальская і з'яўлялася галоўнай вуліцай горада Ліды. Яна вызначала аблічча ўсяго горада. Поўная яе назва ў той час – вуліца імя 41-га Сувальскага палка. Такая назва ёй нададзена для ўшанавання 41-га палка сувальскіх стральцоў, якія вызначаліся ў баях за Ліду ў 1919 і 1920 гг.*

*Але спрадвечная назва гэтай вуліцы – Віленская, і я ведаю, што сапраўдная, гістарычная назва вуліцы вернецца.*

*Па гэтай вуліцы пралягаў стары паштовы тракт, які злучаў Мір і Наваградак з Вільняй. Даўжыня вуліцы ад падножжа замка Гедыміна да перасячэння з чыгуначнай каляёю на Маладзечна перавышала 1,5 км. Вуліца была брукаваная, вымашчаная палявым каменем, зрэдку абсаджаная дрэвамі.*

# Фарны касцёл

Гісторыя Ліды сягае ў глыб стагоддзяў. Тэадор Нарбут пісаў у сваёй «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» аб княстве Дайнова і заснаванні Ліды ў 1180 г. Зараз лічыцца, што горад заснаваны разам з замкам каля 1323 г.[1]

У першай палове XIV ст. дзякуючы замку горад быў адным з рэгіянальных ваенна-адміністрацыйных цэнтраў ВКЛ. Ліда стала цэнтрам намесніцтва, вядомага з 1382 г., а потым і павета ў складзе Віленскага ваяводства. Павет меў сваю харугву чырвонага колеру з выявай Пагоні. Пасля Крэўскай уніі 1385 г. Ліда аказалася важным, бліжэйшым да Вільні населеным пунктам, каля якога ляжаў шлях ад сталіцы ВКЛ да польскай сталіцы – Кракава. Такое геаграфічнае размяшчэнне Ліды, разам з наяўнасцю добра ўмацаванага і досыць камфартабельнага замкавага комплексу еўрапейскага тыпу, зрабіла горад месцам прыпынку Ягайлы ў яго частых паездках. Тут адбываліся важныя дзяржаўныя сустрэчы, перамовы, урачыстасці. Усё гэта вабіла ў Ліду і хрысціянскіх місіянераў з Захаду.




Лідскі фарны касцёл на пачатку XX ст

[1] У 1930-я гг. у Лідзе было знойдзена старое паселішча, якое якраз і можа быць той самай Лідай 1180 г. пра якую пісаў Нарбут. Пра гэта ў наступных главах.




Лідскі фарны касцёл у 1917 г.

Пачатак каталіцтва ў Лідзе адносіцца да часоў княжання Альгерда. Адзін з літоўскіх вяльможаў, Гаштольд, прыняўшы рыма-каталіцкую веру, узяў пад сваё заступніцтва манахаў ордэна Св. Францішка і пабудаваў для іх кляштар у Вільні. У 1366 г. трое францішканцаў прыбылі ў ВКЛ з Польшчы, каб распаўсюджваць тут хрысціянскую веру, і пасяліліся ў Лідзе. Праз тры гады місіянераў забілі паганцы. Але ў Ліду прыйшлі іншыя браты францішканцы. Над магілай сваіх папярэднікаў яны пабудавалі капліцу, каля якой пачалі жыць. Лідскім старостам тады быў хрысціянін Даўгерд. У 1376 г. колькасць місіянераў павялічылася да 9. Крыніцы паведамляюць, што яны прывезлі з сабой з Візны абраз Маці Божай, але вядома, што ў Візне ніколі не было францішканцаў, а ў той час не было нават і касцёла – каталіцкая парафія з'явілася там толькі ў 1390 г.

Такім чынам, з 1360-х гг. у Лідзе існавала францішканская місія, і горад згадваецца ў дадзеным францішканам фундушавым дакуменце 1397 г.

Новы перыяд хрысціянскай гісторыі Лідчыны пачынаецца з заключэння ў 1385 г. Крэўскай уніі. Ёсць звесткі, што ў горадзе адбылася выдача дзяржаўных грамат, звязаных з хрышчэннем Літвы. У 1387 г. была створана Віленская рыма-каталіцкая дыяцэзія, ва ўласнасць якой вялікі князь перадаў воласць Дуброўна каля Ліды.

У 1387 г. Ягайла заснаваў у Лідзе адзін з першых у ВКЛ касцёлаў і перадаў яму вёску, якая цяпер называецца Плябанцы, а таксама даход з нейкай іншай воласці, зямлю «на 6 сох», 3 пляцы, лугі і корчмы, дзесяціну з усёй каралеўскай маёмасці ў Лідскім павеце і 6 рублёў. Гэты фундуш быў пацверджаны 7 ліпеня 1616 г. каралём Жыгімонтам III. Касцёл знаходзіўся на падзамчышчы і згарэў у 1392 г. пры нападзе крыжакоў. У 1397 г. быў пабудаваны новы касцёл. Яго асвяціў вілен-

скі біскуп Андрэй, які зноў адкрыў пры касцёле францішканскую місію. Але і гэты касцёл згарэў у 1406 г. У 1414 г. ён быў узноўлены як парафіяльны і асвечаны пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі і Усіх Святых.

У Метрыцы ВКЛ лідскі касцёл згадваецца ў 1516 г. Тады намеснік лідскага дзяржаўцы Юрыя Ільініча не аддаў арыштаванага слугу гетмана Канстанціна Астрожскага, калі «тотъ нятецъ самъ прибегъ на цвинтаръ и въ костелъ Лидски, на кони звязанъ, и ноги подъ конь окованы».

Падчас спусташальнай вайны 1654–1663 гг. горад быў цалкам знішчаны. У тэксце візітацыі касцёлаў Віленскай дыяцэзіі ў 1674 г. біскупам-суфраганам Мікалаем Слупскім пра лідскі касцёл зроблены наступны запіс: «Касцёл новазбудаваны, драўляны, пабудаваны коштам мясцовага дэкана ксяндза Ігната Рэберта, асвечаны падчас знаходжання візітатара».

Пры касцёле былі капліцы: у Чэхаўцах, Перапечыцы, на гарадскіх могілках (Св. Барбары, пабудавана ў 1805 г.), у Востраве (менавіта тут у 1392 г. адбылося Востраўскае пагадненне паміж Ягайлам і Вітаўтам, капліцу на свае сродкі ў XVIII ст. фундаваў Тадэвуш Нарбут, ліквідавана ў 1866 г.) і філіяльны касцёл у Кір'янаўцах (фундаваны ў 1602 г. Марцінам Курчам, ліквідаваны ў 1866 г.). Як філіяльны ў 1460 г. Ганнай Давойнай быў фундаваны касцёл у Крупаве.

У другой палове XVIII ст., верагодна, па праекце віленскага архітэктара Глаўбіца, у Лідзе ў стылі барока быў пабудаваны з цэглы фарны касцёл Узвышэння Святога Крыжа, які дзейнічае да нашага часу.

Будаўніцтва новага мураванага касцёла пачалося ў 1765 г. і было скончана ў 1770 г. стараннямі віленскага суфрагана (вікарнага біскупа) Тамаша Зянкевіча, які выканаў тэстамэнт свайго дзядзькі, біскупа Міхала Зянкевіча († 23.01.1762, перад тым як у 1747 г. стаць віленскім біскупам, ён быў лідскім пробашчам). У тастаменце, напісаным у 1761 г., біскуп рэкамендаваў прыцягнуць да будаўніцтва Іагана Крыштафа Глаўбіца або «каго-небудзь яшчэ, добрага». Касцёл пачалі будаваць на новым месцы, але недалёка ад старой святыні. Новы касцёл быў асвечаны ў 1768 ці 1780 гг.

Свой агульны выгляд касцёл захаваў да нашага часу, аднак вядома, што першапачаткова ён меў дзве трохузроўневыя вежы. У новы касцёл былі перанесены некаторыя рэчы са старога: абразы, хрысцільня з драўлянаю статуяй Св. Яна Хрысціцеля і арган. Мураваны касцёл меў сем алтароў: тры з іх (у тым ліку і галоўны) мураваныя, размаляваныя пад мармур, бочныя алтары – у блакітна-ружовых фарбах.

У галоўным алтары знаходзіўся цудадзейны абраз Маці Божай Ружанцовай. Пра Божыя ласкі, атрыманыя праз гэты абраз, сведчылі запісы ў «Кнізе цудаў». У алтары былі чатыры драўляныя фігуры: злева Св. Пётр і Св. Станіслаў, справа Св. Павел і Св. Казімір, а над імі – чатыры стукавыя (штучны мармур) анёлкі. Другія два мураваныя алтары былі пад тытуламі Яна Непамука і Бічавання Хрыста.

Алтар Св. Яна Непамука ў верхняй частцы меў маляваны на сцяне абраз Найсвяцейшай Панны Ружанцовай, алтар Бічавання – абраз Св. Апостала Тамаша. Два алтары, якія знаходзяцца пры ўнутрыкасцёльных слупах, мелі мураваныя прастолы з абразамі Св. Антонія і Св. Юзафа, якія былі перанесены са старога касцёла. Іншыя два алтары пры бочных сценах – пад тытулам Св. Барбары і Св. Івона.

Сцены і столь прэзбітэрыя[2] пакрывалі малюнкі. Падлога выкладзена каменнымі плітамі, але пад лаўкамі і па баках была выкладзена цэглаю. Унутранае абсталяванне касцёла ў асноўным захавалася да нашых дзён.

Касцёл агароджвала мураваная сцяна, знутры якой знаходзіліся могілкі; каля касцёла стаяла званіца на чатырох слупах з двума званамі. На вуліцу вяла



Від на фарны касцёл, малюнак лідскага гімназіста, 1931 г.

брама, «бляхай крытая, на ёй вырабленае з жалеза імя Марыя з прамянямі зялёнага колеру». Адначасова з касцёлам планавалася пабудова плябаніі. Былі і два шпіталі, з якіх адзін ужо ў 1777 г. патрабаваў рамонту. У тым жа 1777 г. планавалася пабудаваць парафіяльную школу, бо шэсць вучняў да гэтага часу вучыліся ў доме арганіста.

З-за памылак у праектаванні і будаўніцтве касцёла, а таксама з-за «надта дрэннага матэрыялу» ўжо ў 1777 г. касцёл патрабаваў рамонту, што напісана і ў візітацыі 1782 года. Першымі пачалі разбурацца трохузроўневыя вежы, з якіх зваліліся бляха, тынк і нават фрагменты гзымсаў і сцен; да таго ж ветрам павыбівала шыбы і ўнутр пачала прасочвацца вада, што павялічыла небяспеку абрушэння вежаў.

У 1790 г. на грошы ксяндза Вінцэнта Нарбута быў устаноўлены новы арган.

У 1791 г. касцёл пацярпеў ад расейскага войска. Рамонт праводзіўся ў 1782–1790 гг. пробашчам касцёла Казімірам Нарбутам. Канчаткова будынак быў адрамантаваны да 1792 г. Верагодна, тэхнічную экспертызу праводзілі архітэктары, прызначаныя біскупам Масальскім. У выніку рамонту былі разабраны дзве вежы, зроблены новы шчыт, верагодна, цалкам перароблены фасад касцёла, папраўленыя пілястры і вокны, дах пакрыты гонтай, сігнатурка над прэзбітэрыем пакрыта бляхай.

Цікава было б пабачыць малюнак лідскага фарнага касцёла да перабудовы, з дзвюма вежамі, але падобна, што такога малюнка, на жаль, не існуе.

У 1794 г. значная частка касцельнага срэбра пайшла для падтрымкі паўстання, а касцёл быў яшчэ раз разрабаваны расейскім войскам.

Як і ва ўсіх гарадах Беларусі, 15 жніўня 1812 г. у лідскім фарным касцёле і горадзе прайшлі святочныя мерапрыемствы святкавання дня нараджэння На-

палеона, які ніколі не бываў у Лідзе. Тагачасная віленская прэса паведамляла: «У 10 гадзін раніцы падпрэфект Лідскага павета Ігнацы Скіндар, акружаны абывацелямі і мясцовымі службоўцамі розных ведамстваў, адправіўся з прэфектуры ў фарны касцёл для прынясення самых гарачых малітваў Каралю Каралёў за цуд, створаны Яго творчай правіцай для нашай Радзімы.

Шматлікія дамы занялі ў касцёле пярэднія месцы, а натоўп простага народу напоўніў бакавыя прыдзелы. Па знаку, дадзеным гарматным стрэлам, у касцёл увайшоў аддзел размешчанага ў горадзе 14-га палка фузілераў і пашыхтаваўся пасярэдзіне касцёла ў два шэрагі. Прыгожы выгляд жаўнераў і іх пакорлівыя паводзіны перад алтаром Усявышняга расчулілі ўсіх прысутных, якія ўжо больш за дваццаць гадоў не бачылі свайго войска.

Пасярэдзіне храма быў усталяваны транспарант з вензелем Найусеміласцівага Імператара і Караля з подпісам пад вензелем: "Magne Cesar! Vive diu felix locuplexque omnium prosperitatum".

Пасля другога гарматнага стрэлу пачалася абедня, якую служыў, са шматлікім клірам, Станіслаў Нарбут, канонік смаленскі і ён жа пробашч косаўскі. Падчас набажэнства патрыятычную і адпаведную акалічнасцям прамову сказаў ксёндз Гаўлоўскі, прафесар мясцовай вучэльні піяраў.

Пасля дабраславення Св. Дароў, пасля трэцяга гарматнага стрэлу, аддзел войска выйшаў з касцёла і пашыхтаваўся на могілках [каля касцёла – Л. Л.], дзе Вікенці Нарбут, канонік інфлянцкі, пробашч і дэкан лідскі, са шматлікім клірам праспявалі "Te Deum" пад бесперапынны салют з гармат і ручной агнястрэльнай зброі. Пасля набажэнства ўсе прысутныя запрошаны на абед да падпрэфекта…».

У першыя тры дзесяцігоддзі XIX ст. былі пабудаваны ўсе касцельныя пабудовы: шпіталь, могілкі, новая плябанія (1818 г.) і закончаны рамонты. Зроблены два новыя алтары: Св. Сымона і апостала Юды, Св. Тэклі і Св. Барбары. У той жа час у галоўным алтары быў устаноўлены абраз «Хрыстос падае пад крыжам».

У 1826 г. пажар знішчыў дах і вокны касцёла, згарэў таксама і шпіталь – страты былі вялікімі, бо яшчэ ў 1832 г. рамонт касцёла не закончыўся. Пасля пажару, у 1828 г. дах касцёла на нейкі час пакрылі саломай.

На пачатку сакавіка 1832 г. у дадатак да павятовай у Лідзе была створана і гарадская паліцыя, і ўжо 12 сакавіка 1832 г. выконваючы абавязкі лідскага гараднічага падпалкоўнік Верашчак для пакарання каталіцкага святарства за падтрымку паўстання пачаў цяжбу з лідскімі касцёламі. З архіўных дакументаў добра бачны фінансавы стан фарнага касцёла, упамінаюцца і расейскія вайсковыя рэквізіцыі. Гродзенскі губернатар 29 сакавіка піша ў Віленскую кансісторыю і выкладае ёй патрабаванні гараднічага. 12 красавіка губернатар атрымлівае адказ, што кансісторыя прадпісала лідскаму дэкану кс. Лінкіму абавязаць пробашчаў неадкладна адрамантаваць, па магчымасці, касцёлы, кляштары і агароджы, якія ім належаць, у тым ліку фарны касцёл.

Пасля скасавання ордэна піяраў у 1844 г. фарны касцёл прыняў звон, ацалелы падчас пажару піярскага кляштара.

У 1847 г. быў пабудаваны новы шпіталь для ўбогіх, а ў 1856 г. адрамантаваны арган. Вялікі рамонт усяго касцёла праводзіўся ў 1861 г.

Сапраўдным цэнтрам грамадскага жыцця стаў фарны касцёл перад паўстаннем 1863 г.

У 1878 г. быў адноўлены франтон святыні. Чарговы рамонт зроблены ў 1886–1892 гг.

У 1906–1909 гг. пры пробашчу Юзафе Шкопе былі адноўленыя тынкоўка, насценныя малюнкі, алтары.



Лідскі фарны касцёл на пачатку 1960-х гг.

У 1960-я гг. была разабрана агароджа касцёла разам з брамаю, што выклікала моцныя хваляванні сярод парафіян – відавочцы ўспаміналі, што людзі клаліся пад трактары, але намаганні вернікаў уратаваць частку святыні былі марнымі.

Сапраўднае адраджэнне фарнага касцёла і парафіі пачалося на пачатку 1990-х гг.

**Могілкі каля фарнага касцёла**. Пад прэзбітэрыюмам мураванага касцёла, пабудаванага ў XVIII ст., у скляпеннях былі падрыхтаваны месцы для пахаванняў больш заможных парафіян. У 1846 г. з гэтага склепа парэшткі раней пахаваных лідзян былі перазахаваны ў зямлю.

Касцёл агароджвала мураваная сцяна, унутры якой знаходзіліся могілкі для простых парафіян. У візітацыі 1777 г. пра гэтыя могілкі пісалі так: «Могілкі каля касцёла цалкам агароджаны мурам, прасторныя, ад вуліцы агароджа пабудавана за кошт ягамосцяў фундатараў, астатнія муры – коштам ксяндза-пробашча, пабудова мура цалкам не закончаная, не дабудавана палова стаі[2]. На заканчэнне агароджы ўжо назапашана цэгла, і вясной будоўля можа быць закончана. Брама з могілак на вуліцу крытая бляхай, пабудаваная ягамосцямі фундатарамі. Дзверы ў браме на жалезных завесах, ушчыльненне дзвярэй упала, бо было без жалезных цвікоў. У браме двое малых дзвярэй на завесах, з клямкамі і зашчапкамі. Ад бабінца[3] праз браму ажно да вуліцы намаганнямі... пробашча дарога забрукавана».

На гэтых могілках у 1794 г. былі пахаваны паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі, якія загінулі пры абароне Ліды ад расейскіх войскаў, – пра гэта меўся запіс у метрычных актах Лідскага касцёла за 1794 г.: «Усе забітыя падчас аблогі Ліды пахаваны каля касцельнай агароджы».

---

[2] Стая (staja, staje) – мера даўжыні, найчасцей каля 200 м.

[3] Бабінец – пярэдняя частка культавага збудавання, прызначаная для жанчын, з'яўляўся часткаю асноўнага аб'ёму пад хорамі. Часам бабінцам называлі прыбудову да храма з боку галоўнага фасада.

**Дэканка**. Гэтак звалася мясцовасць з лугамі і ставамі паміж фарным касцёлам і рэчкай Лідзейкай. Тут жылі лідскія дэканы і адсюль назва, якой шырока карысталіся яшчэ ў 1950–60-я гг., да пабудовы тут дзіцячага садка і гасцініцы. У гэтай мясцовасці маецца і больш старажытная назва, якая захоўвалася амаль пяць стагоддзяў, – Тахтамышаў двор.

Справа ў тым, што ў 1397–98 гг., падчас княжання Вітаўта, у адмысловым доме ці ў вялікай юрце на беразе Лідзейкі ў раёне нашага горада, які потым назавуць Дэканкай, са сваімі жонкамі, дзецьмі і дружынай жыў былы хан Залатой Арды Тахтамыш.

Многія татарскія феадалы прызнавалі Тахтамыша ханам у выгнанні. Вялікі князь Вітаўт разлічваў вярнуць Тахтамышу рэальную ўладу ў Залатой Ардзе і ўзамен атрымаць ад яго ярлык на Вялікае княства Уладзімірскае з цэнтрам у Маскве, якая заставалася васалам Арды. Аднак у бітве на Ворскле (1399 г.) войскі Вітаўта ў складзе якіх знаходзілася і дружына Тахтамыша, былі разбіты. Тахтамыш уцёк у Сібір, дзе быў забіты ханам Шадыбекам.

Наша славутая паэтка Данута Бічэль пісала:

*Пералётны хан Тахтамыш*
*начаваў пад мурамі, як мыш.*
*Тут хапала ўсяго яго войску,*
*але Вітаўт павёў іх*
*на Ворсклу...*

Дадам трошку ўспамінаў пра ўжо забыты раён Ліды Дэканку.

Яўгенія Ярмант пісала: «Па суседству з замкам размяшчаліся вялікія будынкі грамадскага прызначэння. Недалёка ад руін замка стаяў велізарны белы касцёл. Ад вуліцы яго адгароджвала доўгая белая сцяна. За касцёлам раскінуліся Дэканка – луг і сажалкі, куды мы зімой хадзілі катацца на каньках. ... Лідзейка




Дэканка, 1930-я гг.

не замярзала нават у самыя суровыя зімы. Для катання на каньках мы выкарыстоўвалі... вялікія сажалкі, якія знаходзіліся на Дэканцы, куды мы мелі доступ без усялякіх абмежаванняў. Для дарослых і тых, хто мог добра катацца на каньках, меўся каток унутры замкавых сцен».

Лідзянін Зіновій Бянько расказваў мне: «У годзе 1943 ці 44-м мы сядзелі тут, каля мураванага плоту касцёла. Якраз перад касцёлам праязджаў нямецкі вайсковы грузавік. А з намі быў адзін больш дарослы хлопец. Ён свіснуў і паказаў немцам на колы – як быццам з машынай нешта здарылася. Шафёр спыніў аўтамабіль, абышоў яго, а мы як ірванулі ў Дэканку... немцы стаялі каля машыны і смяяліся».

Ларыса Канчэўская успамінала: «...назву (Дэканка) не тое што помнілі, а яна была агульнаўжывальнай для карэнных жыхароў. Калі мы прыехалі ў Ліду ў 1954 г... я акунулася ў асяроддзе мясцовых жыхароў... і мы пасяліліся ў самым апошнім доміку справа на вуліцы Калініна ў г. Лідзе. Домік быў невялікі, ахайны, з садком і агародам. Гаспадарамі былі цётка Марыся і дзядзька Саша Тарашчук. ... Ад яе я пачула назву Дэканка. Яна, калі казала гэтае слова, паказвала ў бок, дзе цякла рэчка. І я была ўпэўнена, што ў горадзе ёсць яшчэ адна рэчка – Дэканка. Пазней я зразумела, што так называецца месца побач з галоўным касцёлам, дзе здаўна жылі ксяндзы, а частка зямлі належала Лідскаму дэканату...

За фарным касцёлам плёскалася маляўнічае возера, усё ў зяляніне. На яго беразе ў садзе стаяў стары вялікі драўляны дом, дзе жылі нашы настаўнікі: Аляксандра Мікалаеўна Сасноўская, настаўніца геаграфіі, з мужам Робертам Юр'евічам, падпольшчыкам, партызанам, і дачкой Геняй. Мы часта бывалі ў іх, рыхтуючыся да паходаў, спявалі песні з самім Сасноўскім, добрым, вельмі сціплым чалавекам. Тут жа была кватэра нашага настаўніка фізкультуры Георгія Фёдаравіча Бурака і яго жонкі Аляксандры Аляксандраўны, выкладчыцы беларускай мовы, паэткі.

Паколькі возера было праз дарогу ад нашай школы № 8 (тут цяпер музычны каледж), мы бегалі на вялікіх перапынках купацца, калі верасень або май былі цёплымі. Я ніколі не страчвала такой магчымасці. Але глыбока не заходзіла. Гэтыя вар'яты хлапчукі маглі прымусіць насёрбацца вады з глеем! Там такое тварылася! Вярталіся мы на ўрок з мокрымі галовамі, спехам нацягваючы школьную форму на мокрыя целы, майку і трусікі. Галоўнае было высушыць коскі да прыходу дадому, інакш "лупцоўкі" не пазбегнуць. Але задавальненне пакрывала ўсе ангіны, атыты, бранхіты, лішаі і ўсякую іншую хваробу».

# Дамы Яна Андрушкевіча, кінатэатр «Эдысан» і далей

Зараз пойдзем па ўсходнім боку былой Віленскай вуліцы, ад фарнага касцёла і трошкі далей. Спынімся каля помніка Францішку Скарыну – вялікаму бларускаму гуманісту, перашадрукару, мастаку-графіку, пісьменніку, вучонаму-энцыклапедысту, беларускаму асветніку і выдатнаму дзеячу культуры эпохі Адраджэння. Аўтар помніка – таленавіты беларускі скульптар Валеры Янушкевіч.

Фарны касцёл быў агароджаны мурам, з паўночнага боку каля касцёла стаяла званіца, а побач з ёю шапік з прадметамі рэлігійнага культу.

Трохі далей на поўнач, ідучы ў кірунку кінатэатра «Эдысан», у доме пад № 6 знаходзілася кнігарня Сабіны, а потым Марыі Шкоп. Заснаваная ў 1907 г., кнігарня мела турыстычны аддзел, а таксама прадавала і прадметы рэлігійнага культу. Сёння паблізу таго месца стаіць помнік Ф. Скарыну.




Перакрыжаванне вуліц Віленскай і Каменскай (сучасных Савецкай і Ленінскай), справа – дом, у двары якога мясціўся кінатэатр «Эдысан»

Напрыканцы 1850-х гг. цэнтрам грамадскага жыцця горада становіцца так званая цукерня (кандытарская) Андрушкевіча. З мемуараў Януша Сегеня мы ведаем, што «па правым баку вуліцы Віленскай... стаіць парафіяльны касцёл, могілкі і фруктовы сад за ім пляцы і дамы п. Андрушкевіча...». Такім чынам, цукерня знаходзілася недалёка ад фарнага касцёла, каля таго месца, дзе да Віленскай вуліцы падыходзіла Каменская (перакрыжвання не было, вуліца Каменская, сучасная Ленінская, не ішла ўніз да рэчкі). Ян Андрушкевіч перад паўстаннем 1863 г. з'яўляўся бурмістрам горада. Вядомы лідскі мемуарыст і паўстанец Мірон-Браніслаў Нарбут паведамляў, што лідскі бургамістр – «чалавек праўдзівы, энергічны і разважлівы».

Рускі афіцэр Любарскі, які служыў у Лідзе перад паўстаннем 1863 г., пісаў пра цукерню Андрушкевіча: «Па-за сямейнымі дамамі грамадскае жыццё па ўсталяваным звычаі... канцэнтравалася ў цукерні (кандытарскай), якая служыла прыцягальным цэнтрам для ўсёй Лідскай інтэлігенцыі. Тут можна было не толькі напіцца гарбаты ці кавы, але падсілкавацца гарэлкай з закускамі, а ў суседнім памяшканні, якое злучалася з цукерняй унутранымі дзвярыма, адпускаліся "гаспадарчыя абеды". Клуба ў гэтым горадзе не было, але кандытарская цалкам яго замяняла, тым больш што тут да паслуг гасцей былі два більярды, некалькі шахматных дошак і ў бакавым пакоі нават карты. Аматары чытання знаходзілі тут некалькі польскіх газет і адну французскую; рускай не было ні адной, хоць афіцэры былі пастаяннымі гасцямі кандытарскай. Грамадзяне, як халастыя, так і сямейныя, лічылі сваім абавязкам штодня пабываць тут; чыноўнікі забягалі ў гэтае месца, ідучы на службу, каб выпіць гарбаты і прачытаць тэлеграмы, а са службы – перакуліць чарку гарэлкі. Калі трэба было пабачыцца з некім, то ісці на кватэру было не варта; значна прасцей было сустрэць неабходнага чалавека ў кандытарскай, асабліва ў вячэрнія гадзіны. Тут абмяркоўваліся ўсе навіны і адбываліся бясконцыя і гарачыя спрэчкі з нагоды падзей... у Італіі...».

У цукерні мясцовая інтэлігенцыя ў прадчуванні будучага паўстання шукала паразумення з рускімі афіцэрамі: «Нашы шчырыя сябры і добразычліўцы спакваля імкнуліся ўносіць ідэі ў розум афіцэраў, прадстаўляючы становішча ў такім выглядзе, што нашы народы – натуральныя браты, але што ўрад над абодвума – нямецкі або... знаходзіцца пад уплывам немцаў, іх мэта – душыць славян... не даваць ім грамадзянскай свабоды і не дапускаць ніякага ў іх разумовага развіцця». Асабліва вылучаўся сярод лідзян адзін з камандзіраў будучага паўстання – Баляслаў Колышка[1]: «Асабліва гарачым прапагандыстам падобных ідэй паміж афіцэрствам выступаў у цукерні Колышка, той самы, які пасля (у 1863 годзе) камандаваў... спачатку самастойна, а потым разам з Серакоўскім і разам з ім быў узяты ў палон пасля паражэння паўстання. Колышка быў малады чалавек гадоў 25-ці, невялікага росту, мажны, з круглым і румяным тварам. Якая была яго прафесія ў Лідзе, я не цікавіўся; здаецца, ён... быў сынам забяспечанага памешчыка[2]. Гэта быў гарачы... патрыёт, цытаваў цэлыя маналогі з Міцкевіча... Ён увесь час дастаўаў аднекуль памфлеты Герцана і даваў іх афіцэрам, захоплена адклікаўся пра нібыта незвычайна светлыя і здаровыя меркаванні рэвалюцыйных лісткоў адносна палітычнай бу-

[1] Баляслаў Вікенцевіч Колышка (7.VIII.1837 – 9.VI.1863) нарадзіўся ў фальварку Карманішкі (паводле Чэслава Малеўскага – у ваколіцы Гуды) Лідскага павета. З 1860 г. вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнага студэнцтва, прапагандаваў ідэі рэвалюцыйнага саюзу народаў у барацьбе з самадзяржаўем, у 1861 г. вёў агітацыю ў Лідзе, потым удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях, сутыкненнях студэнтаў з паліцыяй. Ратуючыся ад пакарання, выехаў за мяжу, наведваў ваенную школу эмігрантаў у Італіі. У сакавіку 1863 г. сфармаваў паўстанцкі аддзел у Ковенскім павеце, меў некалькі паспяховых сутычак з царскімі войскамі. Пасля разгрому паўстанцаў узяты ў палон і павешаны ў Вільні на плошчы Лукішкі.

[2] Паходзіў з небагатай шляхты.

дучыні Расіі і Польшчы... і ўвесь час паўтараў: "Прашу вас, спадары, не змешваць палітычных паняццяў. Рускі народ гэта адно, а рускі ўрад – другое. Гэты апошні – наш агульны непрымірымы вораг. Абавязак кожнага патрыёта сваёй краіны – змагацца з ім аслабляць яго, каб зрынуць тыранію, інакш Расія ніколі не вызваліцца ад унутраных кайданоў рабства. І ў гэтых адносінах рускія могуць смела разлічваць на нашу братэрскую і энергічную дапамогу"».

Іншы рускі афіцэр, Мяжэцкі, які разам са сваім Нараўскім пяхотным палком у 1861 г. быў пераведзены на Лідчыну, таксама пісаў пра гэту цукерню: «Афіцэрства наша жыло замкнёна ў сваёй палкавой сям'і і з абшарнікамі не збліжалася. Афіцэры ж... з ліцвінаў і палякаў, якіх было даволі шмат у палку, вядома, знаёміліся з гэтымі землеўладальнікамі... Таму і нам... здаралася сустракацца з імі часам у нашых таварышаў, а часцей у адзіным у Лідзе тракціры, ці, як тутэйшыя называлі гэтую ўстанову, "цукерні"... шляхціца пана Андрушкевіча, куды паны заходзілі са сваімі знаёмымі афіцэрамі. Пры гэтых сустрэчах абшарнікі спачатку бывалі стрыманыя... але калі віно развязвала языкі, пачыналіся гарачыя запэўніванні ў неабходнасці збліжэння двух... народаў».

Проста ў тарцы вуліцы Трэцяга Мая (сённяшняга праезду ад вуліцы Савецкай да вуліцы Качана тады не існавала) па адрасе Сувальская, 12 знаходзілася крама Ёселя Ружанскага, які прадаваў швейныя машыны, ровары, музычныя інструменты і радыёпрыёмнікі. Перад самым кінатэатрам «Эдысан» знаходзілася крама Л. Цвайфуса з самымі рознымі каланіяльнымі таварамі, паўднёвымі пладамі і слодычамі. Лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч успамінаў: «Перад кінатэатрам "Эдысан" знаходзілася вялікая крама каланіяльных тавараў... Яшчэ на падыходзе да крамы ў паветры адчуваўся пах паўднёвых пладоў. У краме меўся вялікі выбар тавараў: апельсіны, лімоны, памідоры, вінаград, фінікі, ананасы, какосавыя арэхі, бананы і розныя гатункі він, а таксама бакалея. Іншай такой крамы ў Лідзе не было. Але каб стаць кліентам гэтага Цвайфуса, трэба было мець не проста шмат, але вельмі шмат грошай».

**Кінатэатр «Эдысан».** За крамай Цвайфуса мясціўся адзін з першых лідскіх кінатэатраў. Перад Першай сусветнай вайной кінатэатр «Эдысан» пераехаў сюды, у старую двухпавярховую камяніцу XIX ст., недалёка ад фарнага касцёла. У гэтым жа доме знаходзілася кавярня Маліноўскага (у 1930-я – крама дамскай галантарэі). Уваход у кінатэатр быў з двара.

У новым «Эдысане» праводзіліся розныя гарадскія мерапрыемствы. У студзені 1913 года газета «Лідскае слова» паведаміла, што «надоечы ў "Эдысане" адбыўся сеанс на карысць мясцовага дамскага дабрачыннага таварыства. Сімпатычныя мэты гэтага таварыства прыцягнулі ў тэатр такую публіку, якая рэдка бывае на дабрачынных вечарах. Вечар адбыўся. Увесь даход, 150 рублёў, цалкам паступіў у касу таварыства». У тым жа нумары газеты Лідскае дамскае дабрачыннае таварыства выказала ўдзячнасць «уладальнікам тэатра «Эдысан» спсп. Яблонскаму і Сікорскаму, якія бясплатна прапанавалі залу «Эдысана», асвятленне, музыку і ахвяравалі 25 руб., асабліва сп. Яблонскаму за яго ўдзел у арганізацыі вечара. А таксама сп. Вінаградаву за бясплатныя карціны і публіцы за спагадлівасць і ўвагу».

А 6 чэрвеня 1913 года ў «Эдысане» Лідскі аддзел добраахвотнага таварыства па барацьбе з сухотамі ладзіў «бясплатны сеанс з навуковымі мэтамі».

На паштоўцы 1916 г. бачна, што будынак з кінатэатрам і кавярняй Маліноўскага згарэў, верагодна, пры ўваходзе нямецкіх войскаў у Ліду ў верасні 1915 г. Дарэчы, Міхал Шымялевіч пісаў, што ў першы дзень вайны менавіта «ў кавярні Маліноўскага (цяпер крама Бердаўскіх каля кінатэатра «Эдысан») афіцэры Лід-

скага гарнізона пілі каву і палітызавалі на тэму, што “германцам следует побить морду”».

Будынак кінатэатра быў хутка адрамантаваны.

Галоўным месцам культурнага адпачынку гараджан у 1920–30-я гг. былі менавіта кінатэатры. Польскі пісьменнік Ежы Путрамент, які жыў у Лідзе, успамінаў пра кінатэатры горада ў сярэдзіне 1920-х: «У цэнтры горада два касцёлы і два кінатэатры. Насупраць меншага, які называўся «Эдысан», – цукерня з назвай “Амерыка”».

Тэлефонны даведнік 1934 г. дае адрас кінатэатра «Эдысан» – Сувальская, 10. Уладальнікам і дырэктарам кінатэатра «Эдысан» у той час быў Натан Левін, яго супольнікамі – М. Алькеніцкі і А. Мяснік. Гэта быў кінатэатр з балконам і буфетам.

Былы лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч пісаў пра ўладальніка кінатэатра «Эдысан» Левіна: «Гэта быў энергічны мужчына, цікаўны да прыбыткаў. З Варшавы ён заўсёды прывозіў касавыя фільмы, у асноўным вестэрны». Левіна добра ведалі ў горадзе з-за хірургічнай аперацыі, якую яму прыйшлося перанесці. У 1920-я гг. у яго кінатэатры выбухнуў пажар. Левін хацеў ўратаваць касу, але не змог і цудам выбраўся вонкі з абпаленым тварам і рукамі. «Пластычную аперацыю яму рабілі ў Варшаве. Лапік скуры з ягадзіц перасадзілі на твар з левага і правага бакоў. Скура прыжылася, што палепшыла яго вонкавы выгляд, але ўсё ж гэта было яшчэ непрыгожа, і таму ён насіў чорную павязку на правым воку. Аднак нам цікава было даведацца, адкуль паходзіць яго скура на шчацэ», – пісаў Нарушэвіч.

Напрыканцы 1930-х гг. Ліда мела кінатэатры «Эдысан», «Эра» і «Маленькае», усе знаходзіліся на вуліцы Сувальскай. Кіно было галоўным месцам адпачынку і важнай культурнай з’явай. У рэпертуары пераважалі камедыі, але былі і сур’ёзныя карціны. Паказам фільмаў звычайна папярэднічаў паказ (часопіс) ПТА (Польскага тэлеграфнага агенцтва). А вячэрнім сеансам нярэдка папярэднічала рэвю (кінаагляд). У «Эдысане» паказвалі «лепшыя фільмы нашага часу з моцным гу-




Нямецкія жаўнеры ў дворыку перад уваходам у кінатэатр «Эдысан», 1917 г.




Будынак са згарэўшай кавярняй Маліноўскага

кам», праграмы мяняліся прыблізна штотыдзень. Напрыклад, 12 сакавіка – 8 красавіка 1939 г. на экране гэтага кінатэатра паказваліся фільмы «Тыран», «Вязніца без кратаў», «Каханне ў джунглях», «Таямніца Чырвонага мора».

Будучая прафесар і габілітаваны доктар, а ў 1930-х гг. лідская гімназістка Ірэна Стасевіч успамінала, як разам са сваім сябрам Уладзіславам Нарушэвічам яны часта рабілі вандроўку па лідскіх кінатэатрах: пачыналі з «Эдысана», потым пераходзілі ў «Эру». Пасля прагляду кінафільма ў «Эры» вандроўка заканчвалася ў «камерным кінатэатры, які зваўся "Маленькае", дадам, што прыходзілася глядзець і "нямыя" фільмы пад акампанемент фартэпіяна».

Школьная моладзь мела праблемы з вячэрнімі сеансамі, бо настаўнікі не дазвалялі моладзі паказвацца на вуліцы без дарослых пасля 20 гадзін, тым больш хадзіць у кіно на вячэрнія сеансы. Толькі некаторыя смельчакі ішлі на рызыку напароцца на дзяжурнага настаўніка. Таму, каб патрапіць на вячэрні сеанс, некаторыя зухі апраналіся як дарослыя.

Месцы ў кінатэатрах не нумараваліся, купіўшы квіток, пры жаданні можна было застацца ў глядзельнай зале на некалькі сеансаў. У кінатэатрах, акрамя паказу кінафільмаў, арганізоўваліся тэатральныя пастаноўкі вандроўных труп, ладзіліся танцавальныя вечары, дабрачынныя мерапрыемствы, балі-маскарады і г. д., у якіх магло прымаць удзел да 500 чалавек.

Хоць дзённыя квіткі былі недарагімі, не кожны хлопец ці дзяўчына маглі купіць іх. Нарушэвіч пісаў, што «бедныя хлопцы з маёй вуліцы ўтварылі банду, якой кіравалі два браты Гарачовы з вуліцы Легіёнавай. Яны арганізавалі крадзеж вугалю з чыгуначных вагонаў ці з чыгуначнага склада паліва. Грошы, якія атрымліваліся пасля продажу паліва, ішлі на свае патрэбы, у тым ліку і на кіно. Хлопцы выкарыстоўвалі ўсе сродкі, каб патрапіць у кінатэатр без квітка». Адным з такіх сродкаў было «выкарыстоўваючы выступы ў муры ці па эстакадзе, якая злучала кінатэатр з суседнім будынкам, патрапіць на балкон другога паверха, а далей прайсці ў зал. Гэта было магчыма, калі стаяла цёплае надвор'е і таму дзве-




Рэклама кінатэатра «Эдысан» у 1934 г.

ры на балкон былі адчынены ці калі нехта з сяброў, які раней прайшоў з квітком, адмыслова адчыніў тыя дзверы».

Пасля пажару ў кінатэатры «Нірвана» (пра гэты пажар я раскажу ў адной з наступных глаў) у горадзе на нейкі час застаўся толькі адзін кінатэатр «Эдысан». Тым не менш у 1932 г. з-за цяжкай фінансавай сітуацыі ў горадзе і дарагой электрычнасці ўладальнік «Эдысана» Натан Левін на нейкі час закрыў свой кінатэатр.

Інспектар Звязу аховы аўтарскіх праў, які ў 1934 г. правяраў лідскія кінатэатры, лічыў, што «Эдысан» значна лепшы за іншыя кінатэатры і «...нават добры. Апрача партэра ёсць балкон і амфітэатр. Толькі дзіўная рэч – балкон і амфітэатр як лепшыя месцы зарэзерваваны за інтэлігенцыяй. Партэр жа выкарыстоўвае неперабарлівая публіка. ... Уладальнік “Эдысана” старанна адбірае фільмы, і трэба прызнаць, што яны значна лепшай вартасці, чым у іншых. Да таго ж, у “Эдысане” паказваюць два дадаткі да асноўнага фільма. Адзін анімацыйны, а другі прапагандысцкі ці штотыднёвік “Парамаўнта”. З пэўнага часу лідскія кінатэатры пачалі ў час перапынкаў забаўляць грамадскасць грамафоннай музыкай праз узмацняльнік. ... Ліда тут з’яўляецца самай вынаходлівай. Кінатэатры маюць вонкавыя дынамікі – мінакі глытаюць не толькі вулічны пыл і музыку кавярні “Амерыканка”, але і шлягеры. Наогул можна ўбачыць, што ў Лідзе больш разумеюць вартасць рэкламы».

У красавіку 1937 г. лідскі стараста Міклашэўскі падчас прыватнага прагляду кіно ў кінатэатры «Эдысан» асабіста пераканаўся, што тут паказваўся не ўзгоднены са старостам і не дазволены для моладзі фільм, а моладзь якраз і складала большасць гледачоў на гэтым сеансе. Стараста прыцягнуў гаспадара кінатэатра да адміністрацыйнай адказнасці, і ў выніку той быў аштрафаваны на 30 злотых.

«Эдысан» стаў першым гукавым кінатэатрам у горадзе.

У 1930-я гг. на вуліцы Сувальскай у тым жа доме, дзе была кавярня Маліноўскага (дом трошкі змяніў свой выгляд пасля рамонту), побач з кінатэатрам «Эдысан» працавала друкарня Я. Каплінскага.

Камяніцы стаялі блізка да скрыжавання Віленскай (Сувальскай, Савецкай) і Каменскай (3-га Мая, Ленінскай). Скрыжаванне было трохбаковым, бо Каменская не мела працягу на ўсход, да ракі Лідзейкі і далей.

Потым па ўсходнім боку вуліцы мясцілася некалькі драўляных дамоў – дом Янушкевіча, у якім да 1914 г. была фотамайстэрня Б. Браштэйна і дом Нафталі Сольца, у якім у розныя часы прадпрымальнікі арандавалі памяшканні для бізнесу.



LIDA. Ul. Suwalska.

Друкарня Каплінскага, канец 1920-х гг.

Сам Нафталі Сольц нарадзіўся ў Вільні, у вядомай сям'і Сольцаў, і яго бізнесам былі паштовыя коні. У тыя часы, калі яшчэ не было цягнікоў (а таксама пазней, у тых месцах, куды цягнікі не даходзілі), пасажыры ехалі, арандуючы коней ад адной пошты да другой. Нафталі Сольц – мужчына сярэдняга росту з не вельмі доўгай барадой. Ён часта хадзіў вакол свайго вялікага двара, які прасціраўся ад Віленскай вуліцы амаль што да ракі, і трымаў рукі на поясе штаноў. Любіў час ад часу перакуліць кілішак. Меў уплыў на ўлады, бо ў царскія часы быў «гласным» гарадской думы. Калі яго прасілі паразмаўляць з уладамі, каб палепшыць бізнес ці вырашыць прыватную справу (калі гэта нікому не пашкодзіць), ён не адмаўляўся. Аднак не ўмешваўся ў кагальныя спрэчкі. На ўласным двары Нафталі Сольц пабудаваў невялікую сінагогу (сінагога Сольца), але сам у яе хадзіў нячаста. У сакавіку 1913 г. газета «Лідскае слова» паведаміла пра сына Сольца: «Студэнт І. Сольц прыязджае ў Ліду і аднаўляе прыём урокаў». Справа ідзе пра сына Сольца, які стаў адвакатам і быў вельмі паважанай асобай у Лідзе.Памёр маладым падчас аперацыі апендыцыту.

Наступным домам на поўнач быў дом Хаіма Левінсона, у якім да 1914 г. мясціўся гатэль «Еўропа» і розныя малыя крамкі.

# Ад Замка да былога кляштара кармелітаў

А зараз вернемся да помніка заснавальніку Ліды князю Гедыміну, аўтары помніка – Вольга Нячай і Сяргей Аганаў. На горцы на поўнач ад замка, прыкладна там, дзе ў 1950–60-я гг. была аўтастанцыя, а зараз скверык з лаўкамі (каля помніка князю Гедыміну), стаяла старое лідскае казначэйства, адрас: Віленская (Сувальская), 4. Будынак казначэйства (скарбу) з характэрным дахам бачны на фотаздымках горада да канца 1930-х гг., вядома, што ён згарэў у 1941 г.

Гэты гмах ёсць на карце нашага горада 1842 г. Пабудаваў яго Ваўжынец Путкамер, уладальнік маёнтка Бальценікі, муж Марылі Верашчакі – рамантычнай дамы сэрца Адама Міцкевіча. Міхал Шымялевіч пісаў, што ў 1914 г., пасля пачатку Першай сусветнай вайны, «у Лідзе каля скарбовай касы пры казначэйстве стаяла чарга даўжынёй у паўкіламетра, якая некалькі разоў абвівала касу. Каб вярнуць свае грошы, у чарзе стаяла каля паўтары тысячы чалавек. У Вільні з вуснаў у вусны перадаваліся весткі пра тое, што запасы золата з віленскіх банкаў ужо вывезены ў Ніжні Ноўгарад, і таму ў Віленскім дзяржаўным банку быў такі вялікі натоўп адборнай публікі, што шыкоўна прыбраныя пані парвалі свае багатыя строі, страцілі брыльянты і капелюшы, падрапалі твары і пашко-




Лідскае казначэйства, пачатак XX ст.

дзілі рукі і ногі. Але банкаўскія чыноўнікі ў Лідзе і Вільні спраўна выдалі людзям іх грошы». Дзесьці ў сярэдзіне 1920-х гг. казначэйства пераехала ў будынак па адрасе: Сувальская, 13.

Аўтар кнігі “Самаабарона лідскай зямлі” Юзаф Дзічканец пісаў, што першы сход польскай Народнай рады Лідчыны адбыўся 30 лістапада 1918 г. у будынку былой касы казначэйства, потым менавіта тут знаходзілася сядзіба гэтай рады.

Пяройдзем на другі бок былой вуліцы Віленскай.

Двухпавярховы дом, які зараз мае адрас: Замкавая, 2, – пабудаваны ў самым пачатку XX ст., бо ў маёй калекцыі ёсць паштоўкі, на якіх яго яшчэ няма. Стары адрас дома – Віленская (Сувальская), 1 ці Крывая, 6. Заднім фасадам ён выходзіў на вуліцу Крывую (потым – Мацкевіча), а галоўным фасадам, праз прыгожы двор-сад – на вуліцу Віленскую (Сувальскую).

Практычна адразу пасля пабудовы гэтага гмаха ён быў арандаваны Лідскім папячыцельствам аб народнай цвярозасці і тут пачаў працаваць Народны дом. Народныя дамы адчыняліся, каб адцягнуць народ ад п’янства, і звычайна складаліся з бібліятэкі-чытальні і чайнай, у такіх дамах працавалі розныя гурткі. Акрамя Ліды, Народны дом захаваўся да нашага часу ў Гродне (ён быў пабудаваны ў 1904 г. паводле праекта Л. Лангада і М. Раманава). Такім чынам, менавіта ў гэтым будынку мясціўся першы ў нашым горадзе народны клуб.

Значную колькасць кніг перадаў бібліятэцы Народнага дома аптэкар Бергман, які потым стане бургамістрам, газета «Лідскае слова» паведамляла ў канцы 1912 г.: «Пяць гадоў таму ў Лідзе з вялікімі стараннямі і клопатамі была адкрыта бібліятэка. На самым пачатку яна мела ўсяго 600 тамоў, а зараз, праз пяць гадоў, мае ўжо 2 000 тамоў. І якія кнігі, каго тут толькі няма! Талстой і Ібсен, Гюго і Гейнэ, Бялінскі і Дабралюбаў – і шмат іншых, з вялікім розумам і гарачым сэрцам напісаных кніг... Што чытаюць і хто чытае? Гімназісткі і іешыўнікі. Першыя зачытваюцца Вярбіцкай, а другія і чытаюць, і пытаюцца, пытаюцца, і чытаюць Талстога, Дастаеўскага і Тургенева. Галоўная ж маса лідзян ставіцца да бібліятэкі абыякава...».

У пачатку бурлівых 1920-х гг. у гэтым доме мясціліся штаб-кватэры розных палітычных партый. Газета «Вызваленне Народу» пісала ў 1923 г., што тут знаходзіўся лідскі сакратарыят левай партыі «Вызваленне»: «...Толькі праз арганізацыю і прасвету, праз чытанне газет і навуку дойдзем да... сілы, з якой паны мусяць лічыцца. Дык вось складайце... гурткі... і выпісвайце толькі свае газеты “Вызвалення” з Вільні і Варшавы. ... У Лідскім павеце сакратарыят... знаходзіцца на Сувальскай вуліцы, 1, там, дзе Народны Дом. Сакратаром тамака ёсць грамадзянін Ян Ваяводскі, які дзесяць гадоў быў сакратаром суду».

У першай палове 1920-х гг. за 85 000 злотых гэты будынак быў набыты для Лідскага магістрата, і тут да 1939 г. працавалі адміністрацыя і бургамістры горада, засядала гарадская рада, якая ў 1938 г. складалася з 24 чалавек.

На аэрафотаздымку 1944 г. магістрат – адзіны дом, які захаваўся на пляцоўцы на поўнач ад замка, бачна, што будынак магістрата гарэў і не мае даху. У 1947 г. яго адрамантавалі, але пры гэтым ён страціў усе ўпрыгажэнні і быў атынкаваны. З таго часу гэта звычайны жылы дом нашага горада.



Лідскі магістрат у 1930-я гг. і сучасная Замкавая, 2 (заходні фасад) на адным здымку

Адразу каля магістрата па адрасе Сувальская, 3 мясціліся гарадская бібліятэка і, з другой паловы 1930-х гг. – першы гарадскі музей. Тут жа, у пакоях музея, працавала знакамітае Лідскае краязнаўчае таварыства і нейкі час рэдакцыя выдання «Лідская зямля» (Ziemia Lidzka).

Польская гарадская бібліятэка была заснавана ў 1922 г. Бібліятэку другі раз запачаткаваў бурмістр Ліды Рудольф Бергман, ён падараваў гораду сваю асабістую бібліятэку. Не менш за 25 % кніг прыпадала на яўрэйскую літаратуру.

У 1930-я гг. бібліятэкай кіравала Анэля Рашкоўская. Былая лідзянка Ярмант успамінала: «Бібліятэкаркай працавала маладая прыгожая брунетка. Памятаю, як аднойчы, адкрыўшы рот, каб вымавіць назву патрэбных кніг: “Дзікунка” Зажыцкай і “Пятнаццацігадовы капітан” Жуль Верна, не магла падаць голас. Магла гаварыць толькі шэптам... для такога святога месца, як бібліятэка. Паспрабавала казаць нармальным голасам, і зноў не атрымалася. ... Бібліятэкарку я сустрэла пасля вайны каля касцёла ў Мосіна (каля Познані)». Другі былы лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч пісаў: «На пачатку вуліцы Сувальскай па левым баку на поўнач быў магістрат і муніцыпальная бібліятэка з чытальнай залай. ... Нягледзячы на свой малады ўзрост, я даволі добра разбіраўся ў палітычных, на-




Лідскі магістрат у 1930-я гг. і сучасная Замкавая, 2 (усходні фасад).

цыянальных і міжнародных адносінах праз мой прыроджаны запал да гісторыі і частага чытання газет і часопісаў у чытальнай зале муніцыпальнай бібліятэкі, што дапамагло значна пашырыць мае веды аб свеце і бягучай сітуацыі ў краіне».

Працавала бібліятэка ў панядзелак, аўторак, сераду і пятніцу з 11.00 да 15.00 і з 18.00 да 20.00, у чацвер толькі з 11.00 да 15.00, у суботу з 11.00 да 13.30 і з 16.00 да 18.00. Месячны абанемент для карыстання бібліятэкай каштаваў 50 грошаў, для вучняў 20 грошаў. У 1937 г. бібліятэка мела 7023 тамы і 1250 сталых наведвальнікаў. Гэта была адна з лепшых установаў такога кшталту на заходнебеларускай зямлі. Сучаснікі адзначалі, што ў яе фондах былі навейшыя выданні сусветнай літаратуры, творы, адзначаныя высокімі ўзнагародамі: Нобелеўскімі і іншымі прэміямі. У фондзе мэтанакіравана быў выдзелены раздзел краязнаўчай літаратуры.

У канцы 1938 г. бібліятэка была грунтоўна адрамантавана і атрымала новыя пакоі. Чытальная зала засталася ў былым бібліятэчным пакоі, а кніжныя фонды перанесены ў два новыя пакоі таго ж будынка. Яўрэйскі аддзел таксама атрымаў два новыя пакоі, у першым зроблена чытальная зала, а ў другім кнігасховішча.

Рэстаран «Паляўнічы», якім кіраваў нейкі Бароўскі, знаходзіўся ў доме 5 па вуліцы Сувальскай. Рэстаран вызначаўся ўзорнай кухняй, добра ўкамплектаваным буфетам, смачнымі і здаровымі абедамі і разам з тым даступнымі цэнамі. Каля яго на перакрыжаванні вуліц быў шынок, калісьці яўрэйская кар-



Дом Замкавая, 2, від з Лідскага замка, 1959 г.

чма. Паміж дамамі № 5 і 7 па Сувальскай знаходзілася цукерня Канопкі з забаўляльнай рэкламай кручанага марожанага Пата і Паташона. У 1938 г. замест рэстарана «Паляўнічы» адчыніўся «Бар Землеўладальнікаў»: «...Сувальская, 5, каля магістрата, пад кіраўніцтвам знанага адмыслоўца Бр. Бароўскага – прапануе вядомыя па сваёй якасці сняданкі, абеды і вячэры, таксама вялікі выбар він, гарэлак і лікёраў. Цэны даступныя».

Прыблізна на месцы, дзе былі дамы № 3, 5, 7, стаіць гандлёвы дом «Юбілейны» (Савецкая, 1).

Далей на поўнач па вуліцы, насупраць касцёла, у доме па Сувальскай, 9 размяшчаўся гатэль «Гранд». Лідзянка Яўгенія Ярмант пісала, што гэта быў «вялікі імпазантны будынак з прыгожымі шклянымі дзвярыма». У гэтым доме мясцілася фатаграфія Д. Мулера і мясная крама вяндлін А. Вярсоцкага.

Газета «Лідскае слова». У доме Віленская, 13 у 1912–13 гг. мясцілася рэдакцыя першай лідскай газеты «Лідскае слова». Выдавалі гэту штотыднёвую грамадска-палітычную газету на рускай мове памочнік прысяжнага паверанага Камёнскі І. Д. разам з доктарам медыцыны Капланам С. А. Першы нумар газеты быў надрукаваны 17 лістапада 1912 г., кошт газеты – 3 капейкі. Усе нумары друкаваліся ў друкарні Падземскага («Віленская вул., у доме, дзе З'езд»).

У першым нумары рэдактар пісаў: «У жыцці кожнага горада бываюць такія дні, якія застаюцца памятнымі, незабыўнымі. І 17-га кастрычніка 1912 г. ёсць адным з такіх дзён. У гэты дзень доўгая, але бедная гісторыя роднага горада ўзбагацілася важкім фактам, у Лідзе ёсць газета, гэта значыць, што з гэтага часу Ліда атрымлівае адзін з магутных рухавікоў прагрэсу – прэсу... Ліда бедная ўражаннямі, але не патрэбамі. ...акрамя пытанняў пра тратуары і асвятленне ёсць таксама пытанні больш далікатныя, пытанні духоўныя... Абʼяўляючы нашу газету беспартыйнай і незалежнай, мы ўпэўненыя, што ў мірным суіснаванні ўсіх нацый і гарманічным злучэнні культур... палягаюць асновы існавання кожнага горада». Ад пачатку газета прадавалася ў аптэкарскай краме М. Б. Стуката-




Гатэль «Гранд» і крама вяндлін А. Вярсоцкага, 1930-я гг.

ра, а з № 3 – яшчэ і ў кіёску на рагу Віленскай і Каменскай вуліц. У Вільні газету магчыма было купіць у вінных крамах М. Айзенштата па вуліцы Завальнай і Садовай. Невядома, з якой перыядычнасцю, але з допісаў у газеце бачна, што «Лідскае слова» распаўсюджвалася таксама сярод лідскіх эмігрантаў у Амерыцы.

Газета выдавалася на чатырох старонках, у 1912 г. выйшла сем нумароў (№ 1. 17.11.1912 – № 7. 28.12.1912, у 1913 г. яшчэ 21 нумар: № 8. 4.01.1913 – № 28. 31.05.1913). У газеце публікаваліся справаздачы аб пасяджэннях Дзяржаўнай думы, асвятлялася дзейнасць гарадскога самакіравання, культурныя падзеі ў горадзе (адкрыццё гімназіі, канцэрты, лекцыі, аматарскія спектаклі). Друкаваліся вялікія праблемныя артыкулы, напрыклад, артыкул старшыні педагагічнай рады жаночай гімназіі Ф. Л. Навіцкага аб сучаснай літаратуры друкаваўся ў шэрагу нумароў і выклікаў некалькі вялікіх артыкулаў-водгукаў чытачоў. Надрукавала газета і артыкул нашага выдатнага гісторыка Міхала Шымялевіча пра піярскую школу ў Лідзе. Не абыходзілася без звычайных для газетчыкаў трагікамічных памылак, напрыклад, у «хроніцы ў № 8 наша газета паведаміла пра смерць пісара ваеннага "присутствия" Пусько. Памёр не пісар, а яго брат».

У красавіку 1913 г. газета паведаміла: «11 красавіка ў кватэры доктара Каплана ад неасцярожнага карыстання з агнём адбыўся пажар, які знішчыў рухомую маёмасць на 167 руб. Маёмасць застрахаваная». З № 19 газеты Каплан перастаў падтрымліваць газету, і Камёнскі выдаваў яе аднаасобна. Выдавалася «Лідскае слова» да 31 траўня 1913 г., апошні і перадапошні нумар, замест тыднёвага, выйшаў з двухтыднёвым перапынкам.

Пры канцы 1937 г. «Кур'ер Віленскі» паведаміў пра смерць доктара медыцыны Саламона Каплана, які быў «шматгадовым старшынёй Аб'яднаня яўрэйскіх школ, лідскім радным і знаным грамадскім дзеячам. Перад вайной [Першай сусветнай – Л. Л.] др. Каплан рэдагаваў і выдаваў першую ў Лідзе штотыднёвую газету "Лідскае слова". Нябожчык карыстаўся ў Лідзе вялікай павагай». Унучка



Управы дзяржаўнага скарбу, акцызу і манаполіі, Сувальская, 13. Канец 1920-х гг.

доктара Каплана ў свой час перадала мне сканы газеты свайго дзеда, якія вельмі прыдаліся для вывучэння гісторыі нашага горада.

У 1930-х гг. у гэтым мураваным будынку (Сувальская, 13) знаходзілася сядзіба Управы дзяржаўнага скарбу, акцызу і манаполіі.

# Былы кляштар і касцёл кармелітаў

Далей на поўнач па вуліцы Віленскай, у кірунку перасячэння з вуліцай Каменскай (3-га Мая, Ленінскай), у глыбіні стаяў былы кляштар і касцёл кармелітаў. Мураваныя кляштар і касцёл знаходзіліся ў цэнтры горада на адлегласці за 108 крокаў ад фарнага касцёла, на супрацьлеглым баку вуліцы.

20.05.1672 г. кармеліты, каталіцкі манаскі ордэн, заснаваны ў XII ст. падчас крыжовых паходаў у Палесціне на гары Кармель, атрымалі ад лідскага войскага Адама Нарбута і яго жонкі Кацярыны пляц для касцёла. Касцёл і кляштар фундаваў Мікалай Рыла. Будаўніцтва цягнулася вельмі доўга, і толькі 5 верасня 1714 г. касцёл быў асвечаны віленскім біскупам Канстанцінам Казімірам Бжастоўскім пад вызваннем Найсвяцейшай Марыі Панны і Св. Альберта. Ёсць меркаванне, што кармеліцкі касцёл моцна пацярпеў падчас Паўночнай вайны і гэта зацягнула будаўніцтва.

Цікавую інфармацыю пра яго мы даведваемся з акта візітацыі 1820 г. Кляштар – двухпавярховы будынак, крыты гонтай, меў форму літары «L» з паўночным і ўсходнім крыламі, з аднапралётным размяшчэннем памяшканняў і калідорам са двара. Ён прылягаў да сакрыстыі касцёла з поўдня і быў атынкаваны толькі з боку вуліцы. На другім паверсе кляштара былі 7 жылых памяшканняў




План былога кляштара кармелітаў



Справа фарны касцёл, злева касцёл і кляштар кармелітаў, гатэля «Гранд» яшчэ няма, канец XIX – пачатак XX ст.

і склады. Ад яго ў бок рэчкі Каменкі знаходзіліся агарод і гаспадарчыя пабудовы, ніжэй – альховы гаёк, яшчэ ніжэй – луг. Касцёл, фасадам на ўсход, быў атынкаваны і выбелены як знутры, так і звонку, у плане меў форму крыжа даўжынёй 44,5 і шырынёй 17,5 локця, пакрыты дахоўкай, над вялікім алтаром меўся купал з сігнатуркай. Бязвежавы фасад, падзелены прамымі пілястрамі, меў трохкутны шчыт. Бакавыя фасады таксама былі падзелены пілястрамі і мелі вялікія вокны. Разам касцёл меў 11 вокнаў з белага шкла і 6 алтароў.

Колькасць манахаў-кармелітаў у розныя часы была рознай. Першапачаткова, у канцы XVII ст., іх колькасць была 6–7 чалавек. У першай палове XVIII ст. лічба кармелітаў дасягнула 10 чалавек, а ў 1774 г. іх было ўжо 14, што выводзіла Ліду на трэцяе месца па колькасці манахаў-кармелітаў у літоўскай кармеліцкай правінцыі. У 1803 г. у Лідзе засталося 6 кармелітаў, у 1820 г. – 4 і ў 1825 г. – зноў 6.

Грошай на ўтрыманне школы кляштар не меў, але час ад часу, калі з'яўляліся сродкі, тут вучыліся хлопчыкі з бедных сямей. Бібліятэка кляштара мела больш за сто тамоў пераважна тэалагічнай літаратуры, некалькі дзясяткаў кніжак мелі пашкоджанні. Для ўтрымання шпіталя таксама не мелася адмысловага фундушу, і таму ён ўтрымліваўся на ўзносы ад розных дабрадзеяў.

На працягу XIX ст. першы паверх кляштара часта выкарыстоўваўся для свецкіх мэт. Акрамя павятовага архіва, тут мясціліся павятовая каса і нават суд з канцылярыяй. Перад вайной 1812 г. трапезную кляштара забралі пад царкву рускага драгунскага палка, камандзірам якога быў немец, лютаранін генерал Корф. Гэты ж генерал забраў кляштарны дом, які да яго здаваўся і прыносіў кармелітам добры даход (каля 150 руб. у год), скаргі адпаведным уладам не дапамаглі.



Касцёл кармелітаў у Лідзе, каля 1900 г.

Пасля паўстання 1831 г. кляштар і касцёл былі адабраны ў кармелітаў. У 1832 г. лідскі гараднічы меў прэтэнзіі і да ўжо нядзейснага кармеліцкага кляштара. 24 жніўня 1832 г. ён дакладваў Гарадзенскаму грамадзянскаму губернатару пра тое, што зрабіў распараджэнне аб папраўцы плота скасаванага кармеліцкага кляштара. У 1845 г. будынак кляштара быў перароблены ў вайсковы шпіталь, а касцёл кінуты і разбураўся.

У 1908 г. касцёл быў разабраны, хоць касцельныя муры ўсё яшчэ стаялі да ўзроўню даху. Цэгла выкарыстоўвалася для будаўніцтва казармаў Паўночнага вайсковага гарадка. А кляштар у тым жа 1908 г. занялі вайскоўцы. Перад 1914 г. планавалася часовая перадача гэтага капітальнага будынка пад мужчынскую гімназію, але Першая сусветная вайна перашкодзіла гэтым планам.

Падчас нямецкай акупацыі 1915–18 гг. у будынку былога кляштара мясціўся салдацкі клуб, захаваліся паштоўкі таго часу з выявамі былога кляштара.

У 1920-я гг. лідскі гімназіст, сын начальніка павятовага ваенкамата (PKU), а ў 1960-я гг. сакратар Саюза пісьменнікаў Польшчы Ежы Путрамант у сваіх успамінах пісаў: «Недзе... вясной 1926 года мы перасяліліся з драўлянага доміка ў вялікае памяшканне ў адным з нямногіх гістарычных будынкаў Ліды. Быў гэта гмах даўняга кляштара... Цяпер яго аддалі пад ваенкамат. Мы пасяліліся... па вул. Сувальскай, недалёка ад парафіяльнага касцёла, блізка ад кінатэатра "Эдысан", два крокі ад "Амерыкі", словам – у сэрцы "цэнтра" Ліды».

З 1927 г. у старажытным будынку былога кармеліцкага кляштара размясцілася староства Лідскага павета (Сувальская, 15), будынак занялі чыноўнікі, але тут праводзіліся і розныя грамадскія пасяджэнні, напрыклад, увесну 1932 г. гісторык Міхал Шымялевіч прачытаў тут цыкл лекцый аб лідскай гісторыі. Тут



3D-мадэль. Кляштар кармелітаў (без касцёла) – лідскае староства. Аўтар Віталь Бурак



адбываліся і пасяджэнні грамадска-палітычнага клуба, які ўзначальваў выкладчык (тады звалі прафесар) гімназіі Казлоўскі. На пачатку 1931 г. ён прачытаў тут лекцыю на актуальную ў той час тэму «Крызіс і інфляцыя». У дыскусіі пасля лекцыі спрачаліся лідскі стараста (глава павета) Багаткоўскі, дырэктар камунальнай ашчаднай касы Шаптуноўскі, прадстаўнік Усходняга інфармацыйнага агенцтва Кнабелсдорф і інш.

У 1938 г. лідскі павятовы стараста Станіслаў Гансоўскі распачаў рэстаўрацыю кармеліцкіх муроў. Будынку знутры быў вернуты яго старажытны прыгожы архітэктурны стыль, на калідорах першага паверха старанна адноўленыя столі, як у ранейшыя часы, зроблены ўваход у староства з боку вуліцы Сувальскай, «дзякуючы чаму павятовы аддзел атрымаў праход на першы паверх, дзе месціцца ўправа старасты. Былы ўваход з боку вуліцы Маёра Мацкевіча [ранейшая вуліца Крывая – Л. Л.] зачынены». У тым жа 1938 г. пачаліся работы па мантажы водаправода і каналізацыі ў гэтым будынку.




Кляштар кармелітаў – салдацкі клуб, 1917 г.




Зал у кляштары кармелітаў, 1917 г.

У 1941 г. будынак былога карmеліцкага кляштара згарэў, але прыблізна да першай паловы 1950-х гг. стаялі яшчэ яго сцены. Лідзянін Зіновій Бянько ўспамінае, што ў руінах кляштара быў адрамантаваны адзін пакой, ён меў столь, і ў ім гандлявалі газай. Тым не менш, атрыманыя пры пажары пашкоджанні не дазволілі аднавіць гэты адзін са старэйшых гмахаў горада.

Сёння прыкладна там, дзе стаяў карmеліцкі кляштар, знаходзіцца будынак музычнага каледжа, а на тым месцы, дзе быў касцёл карmелітаў, праходзіць паўднёвая праезджая паласа вуліцы Ленінскай. Пры дабудове да сучаснага музычнага каледжа спартыўнай залы былі ўскрыты магутныя лёхі былога кляштара са скляпеністай столлю – старая Ліда чарговы раз нагадала пра сябе.

Другія рыма-каталіцкія могілкі ў горадзе існавалі каля кляштара і касцёла карmелітаў. На невялікіх могілках, якія межавалі з кляштарным дзядзінцам, стаяла званіца. У 1829 г. была пабудавана новая званіца, якая стаяла на чатырох дубовых слупах і мела тры званы.

Захаваліся тастаменты тых, хто жадаў быць пахаваным тут, напрыклад, 20.09.1804 г. лідскім ротмістрам Каралем Янашам Жамайцелем у судзе быў прадстаўлены тастамент Эліяша Хруля, напісаны ў 1712 г. У тастаменце Эліяш Хруль прасіў «пахаваць яго ў лідскіх карmелітаў, для гэтага дае 500 злотых, на імшу дае 5 талераў». Эліяш Хруль – прамы продак маёй жонкі.

У 1929 г. пры рэканструкцыі электроўні і будаўніцтве новых размеркавальных электрычных сетак лідскі пробашч забараніў будаваць новы трансфарматарны пункт і весці земляныя работы на былых карmеліцкіх могілках. Прэса паведамляла: «Пробашч Лідскай парафіі кс. дэкан Баярунец напісаў пану ваяводзе пратэст супраць планаў будоўлі трансфарматарнага пункта на пляцы, дзе раней мясціўся касцёл карmелітаў і могілкі каля касцёла – каля сучаснага будынка лідскага староства». Як бачна з фотаздымкаў канца 1930-х гг., улады прыслухаліся да меркаванняў ксяндза, бо той самы трансфарматарны пункт 6/0,4 кВ быў пабудаваны на вуліцы Сувальскай насупраць староства (прыкладна насупраць сённяшняга помніка Скарыну). Пасля гэтага на месцы былых могілак быў усталяваны крыж.

У пачатку верасня 1937 г. падчас установкі фундамента пад кіёск Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны (LOPP) на плошчы Збаўцы былі знойдзены падмуркі былога касцёла карmелітаў. Пры канцы верасня таго ж года «Кур'ер Віленскі» пісаў: «Зноў натрапілі на сляды могілак у цэнтры горада. Нядаўна пры пракладцы каналізацыі на вуліцы 3-га Мая насупраць гмаха староства (былога будынка кляштара) знойдзены косткі людзей. Зараз зноў пры капанні равоў і ўкладцы труб для тэлеграфных кабеляў да новага будынка пошты ў некалькіх месцах па вуліцы Сувальскай знойдзены людскія косткі. З гэтага вынікае, што ў самым цэнтры горада, на перакрыжаванні вуліц 3-га Мая і Сувальскай былі старыя могілкі». Гэта і былі могілкі кляштара карmелітаў.

Пасля 1945 г. у гэтым месцы пры пракладцы і рамонтах падземных камунікацый таксама неаднаразова вяліся земляная работы і часта знаходзіліся парэшткі людзей.

Праязджаючы з жонкай на аўтамабілі каля сучаснага музычнага каледжа, мы часта ўзгадваем, што, магчыма, едзем па костках яе прашчура...

**Школа, пабудаваная на месцы кляштара карmелітаў.** Лідзянка Ларыса Канчэўская пісала ў сваіх успамінах: «У канцы жніўня 1955 г. нас чакаў сюрпрыз: у горадзе пабудавалі новую, незвычайна прыгожую і вельмі вялікую школу ў

самым цэнтры, праўда, каля балота, затое побач з касцёлам і замкам! Нумар ёй прысвоілі "8-й". ... Зараз наша мілая 8-я школа стала музычным каледжам... Ах, якая гэта была асалода ўваходзіць у прыбранае, пpасторнае фае з гардэробам, адчуваць пах фарбы і свежай вапны новага памяшкання, адкрываць вечкі парт, яшчэ зусім новых, без драпін і надпісаў! У цокальным паверсе (прасцей кажучы, у скляпеннях) – велізарная, гулкая, высокая спартыўная зала, якая выконвала функцыі актавай залы з дапамогай разборнай сцэны... Потым ужо стала ясна, што праект не прадугледжваў многага неабходнага. З першай паловы ўрачыстага фае зрабілі школьную сталоўку з буфетам, а з другой – піянерскі пакой. Гардэроб рассяродзіўся па класах у выглядзе вешалак каля задняй або бакавой сцяны – дзе як зручней. У школе не было туалета (напэўна, не было каналізацыі), і на перапынках палова школы бегла да цэментнага прахларыраванага туалета, ён быў на месцы цяперашняга дома з крамай, што звыкла клічуць "Юбілейны", таму што ўсё гэта было тэрыторыяй школы № 8. І як я цяпер успамінаю, у школе не было водапровода. Пілі мы з бачка з кубкам на ланцужку, а тэхнічкі (прыбіральшчыцы) прыносілі ваду ў вёдрах. Вось толькі адкуль? Дзе я брала ваду, калі мыла падлогу ў класе, куды вылівала брудную? Забі – не памятаю. Пасля двухгадзіннага тэлефоннага «маніторынгу» з нашай настаўніцай па англійскай мове Галінай Васільеўнай Куліковай і маёй аднакласніцай Таняй Шостак усё ж такі ўзгадала, што ў правым тарцы будынка з зямлі выходзіла водапроводная труба з кранам. Там, у двары школы, і набіралі ваду для ўсякіх патрэб, мылі рукі пасля прапалкі на школьным участку і г.д. А чаму ж здзіўляцца? Усё вакол у руінах, на гэтым участку вуліцы Савецкай быў касцёл, тры-чатыры прыватныя дамы, а з боку нашай школы – даваенны двухпавярховы дом, жывы і цяпер, наступны за крамай "Юбілейны" [былы магістрат горада – Л. Л.].

Пра якія камунікацыі магла ісці гаворка? Яшчэ і былы гаркам (цяперашняя музычная школа) не стаяў... Праўда, праз гады тры-чатыры гэтую вулічную водапроводную трубу ўсё ж такі ўмантавалі ў будынак (напэўна, ад маразоў лопнула пару разоў), і ўсе нашы тры паверхі хадзілі па ваду ў "прылазнік" – нейкі таямнічы закутак на першым паверсе справа. У мяне, вечнага "даследчыка", было падазрэнне, што гэта была закансерваваная да лепшых часоў школьная прыбіральня (такія, здаецца, былі на кожным паверсе). Але ў 1964 г. я скончыла школу, а "выгоды" так і заставаліся ў двары. У рэшце рэшт, гэтыя гістарычныя прыватнасці адбываліся шэсцьдзясят гадоў таму.

Першым дырэктарам школы быў цудоўны чалавек, эрудыт, інтэлігент – Барыс Аляксеевіч Скварцоў, ён выкладаў гісторыю. Я ведаю, што я кажу. Было, з чым параўноўваць. З намі, калі мы сталі пяцікласнікамі, Барыс Аляксеевіч размаўляў на "вы", без іроніі, без гумару. Мы гэта прынялі цалкам нармальна. Ён нас паважаў. А як мы яго паважалі! Не памятаю канфліктаў на яго ўроках. Памятаю, што я проста жыла ў Старажытнай Грэцыі і ў Старажытным Рыме, асабіста слухала вялікага Дэмасфена, перажывала за Ганібала. У Скварцова быў вельмі прыгожы голас і ўзрушальная гаворка...

Займаліся мы на трэцім паверсе ў велізарным светлым класе з батарэямі цэнтральнага ацяплення, а ў акно да нас зазіралі галінкі маладога высокага кедра, які цудам перажыў вайну і будоўлю. Цяпер бы яго абавязкова знішчылі, каб не перашкаджаў вялікім здзяйсненням... Цяпер яго і няма...

Я праз сцены адчувала прысутнасць замка і вельмі ганарылася гэтай блізкасцю. Замак надоўга стаў "вотчынай" нашай школы. На яго тэрыторыі мы хадзілі на лыжах, праводзілі свае лёгкаатлетычныя спаборніцтвы, па некалькі гадзін маршыравалі "ў шэраг па шэсць" пад металічны адлік "а-раз-два-тры" нашага ва-

енрука Валерыя Іванавіча Жазуркевіча напярэдадні святочных дэманстрацый. Мы каталіся зімой на партфелях з замкавага пагорка, калі былі малодшымі.

Побач з нашай школай быў першы пасля вайны ў Лідзе аўтавакзал…

Вядома, у дзяцінстве і юнацтве чалавеку ўласцівы максімалізм, катэгарычнасць або залішняя нясмеласць з недаацэнкай сябе. Здаецца, я прайшла праз усё і цяпер не цалкам пазбавілася ад гэтага. Але і ў дзяцінстве не любіла, і цяпер я не люблю прыстасаванства і непавагі чыёй-небудзь нацыянальнай або сацыяльнай годнасці. Мне здаецца, што традыцыі нашай школы № 8 складваліся заўсёды з гэтага, з нецярпімасці да падхалімства і чынапаклонства. Па меншай меры, настаўнікі, якія мяне вучылі, падарункаў не бралі і ставілі нам адзнакі не ў адпаведнасці з чынамі і нацыянальнасцю нашых бацькоў, колькі я памятаю. Антысемітызм забараняўся адразу. Мы занадта добра ведалі аб канцлагерах. Вайна была яшчэ побач…».

# Дамы № 19 і 21 па вуліцы Віленскай

На куце вуліц Каменскай (зараз – Ленінская) і Віленскай (зараз – Савецкая) стаяў дом пад нумарам 19, які належаў купцу ці адстаўному афіцэру Крывабокаму. Гмах меў форму літары "L", прычым ягонае большае крыло знаходзілася на вуліцы Віленскай. Меншае крыло выходзіла на Каменскую, насупраць гэтага крыла, праз гэту вуліцу, з боку кляштара кармелітаў меўся невялікі першы парк нашага горада, пра які я раскажу ў наступных главах. Дом № 19, пабудаваны напрыканцы XIX ст., шмат разоў трапляў у аб'ектывы фотакамер, і таму ягоныя выявы маюцца на шматлікіх паштоўках.

Гэта быў двухпавярховы гмах з чырвонай цэглы, крыло па вуліцы Віленскай мела трэці, мансардны паверх. На старых паштоўках бачна, што да Першай сусветнай вайны тут мясціліся крама швейных машын, ровараў і музычных інструментаў Ёселя Нэймана, склад і крама мануфактуры Айзіка Вінера, крама пісьмовых прыналежнасцей Слуцкага, фотаатэлье Тавян-




Дом Віленская, 19, да 1914 г. Злева на плоце рэклама фільма «Зігамар»



3D-мадэль дома Віленская, 19, зробленая Віталём Бураком

скага і кабінет зубнога лекара Шатэнштэйна. Тут жа працаваў доктар медыцыны Каплан С. А. («Доктар С. А. Каплан, прыём хворых штодзённа, Віленская вуліца, дом г. Крывабокава». Аб'ява ў газеце «Лідскае слова»).

Да 1914 г. на другім паверсе гэтага нядаўна пабудаванага гмаха знаходзілася ігральная ўстанова. Былы лідзянін Іосіф Далінскі пісаў: «У Лідзе быў ігральны дом – асабняк з чырвонай цэглы з высокімі вокнамі. Па вечарах у вокнах запальваліся агні, і каля зялёных сталоў ішла адчайная гульня. Распавядалі, што гаспадар гэтай установы закурваў цыгару ад дваццацірублёвай купюры. Гэта быў высокі, худы, пастаянна ахінуты клубамі цыгарнага дыму мужчына. Чалавек ён быў загадкавы. Яго баяліся: "Чорт яго ведае, што ў яго на розуме". Расказвалі, быццам ён бачыць целы людзей, іх душы, іх таемныя думы, адгадвае іх карты і таму выігрывае. Распавядалі таксама, што пад раніцу з гэтага дома выходзіць нейкая фантастычная дама-невідзімка, якая нібыта падказвае поглядам таму гульцу, як выйграць, гэта значыць, на нейкай таемнай мове паведамляе карты саперніка. Там жа, у іншым зале, гулялі ў рулетку, якая прыносіла гаспадару-афіцэру велізарныя даходы. Словам, вакол гэтага ігральнага дома луналі фантастычныя апавяданні – адно страшнейшае за другое».

Як пісалася раней, падчас першай нямецкай акупацыі 1915–1918 гг. жаўнерскі клуб мясціўся ў былым кармеліцкім кляштары па вуліцы Віленскай. Недалёка ад яго, у доме Крывабокава, з 1917 г. пачаў працаваць гатэль «Нямецкі дом». З боку вуліцы Віленскай да гатэля была прыбудавана летняя тэраса рэстарана, з якой для наведвальнікаў меліся добрыя відарысы цэнтральнай вуліцы горада. Дом па Віленскай, 19 гарэў падчас вулічных баёў 1919–1920 гг. і страціў трэці, мансардны паверх. Пасля рамонту будынак быў пафарбаваны, а летняя рэстаранная тэраса бачна яшчэ на здымках сярэдзіны 1920-х гг.

Немагчыма пералічыць усе крамы, крамкі і ўстановы, якія месціліся пасля Першай сусветнай у гэтым гмаху. Але з сярэдзіны 1920-х гг. у цокалі гэтага дома з'явілася знакамітая цукерня «Амерыка», якую лідзяне называлі «Амерыканка». Цукерня належала Б. Будыне і лічылася адной з найлепшых устаноў тако-




Гатэль «Нямецкі дом» у доме № 19. З боку вуліцы Віленскай да гатэля была прыбудаваная летняя тэраса рэстарана




Нямецкія афіцэры пад летняй тэрасай рэстарана

га кшталту ў горадзе. Асабліва ўпадабалі яго афіцэры мясцовага гарнізона. «У "Амерыканку", лепшы шынок, уваход для шарагоўцаў і падафіцэраў загадам па палку быў забаронены», – пісаў Юзаф Рыбінскі, жаўнер, які адбываў вайсковую службу ў 5-м лётным палку, які дыслацыраваўся на лідскім аэрадроме. Па вечарах, калі цукерня станавілася рэстаранам, у карты тут гралі афіцэры лідскага гарнізона. У горадзе доўга пераказвалі гісторыю адной картачнай партыі – паручнік Высоцкі не змог, як належыць, на працягу 4 гадзін аддаць ганаровы доўг і застрэліўся.

Лідзянін Ежы Болтуць лічыў «Амерыку» «найбольш эксклюзіўным рэстаранам», ён успамінаў: «Сюды прыходзіла інтэлігенцыя, лётчыкі, афіцэры, адвакаты і лекары. Памятаю тут доктара Вітольда Ста-




Дом № 19 з летняй тэрасай рэстарана ў 1926 г.



Каля цукерні «Амерыка», 1930-я гг.

севіча...». Дачка доктара, прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова пісала: «...ішлі ў цукерню "Амерыканка" на печыва або на марозіва – у залежнасці ад пары года. ... Мы падымаліся па некалькіх прыступках і сядалі за мармуровы столік. Памятаю асабліва выдатнае марозіва – шакаладнае, арэхавае, трускаўкавае ці вішнёвае. З печыва – "напалеонкі" і трубачкі з крэмам. Падчас наведвання Ліды ў 1992 г. я вырашыла паказаць майму мужу "Амерыканку". На жаль – засталіся толькі выкліканыя мной успаміны».

Чытаючы старую прэсу, цікава назіраць спаборніцтва праз рэкламу паміж лідскімі цукернямі таго часу. У кастрычніку 1931 г. прэса пісала: «Учора па адрасе Сувальская, 18 была адчынена новая цукерня, якая мае назву "Цукерня Цукерніка". Цукерня абяцае перацягнуць да сябе частку гарадской эліты з "Амерыканкі"»[1]. У супрацьвагу і ў якасці скрытай рэкламы ў верасні 1932 г. віленская газе-

[1] Цукерня Цукерніка прапаноўвала смачныя пірожныя «макагігі», булачкі з мёдам, макам і г.д. і займала памяшканне ў цокалі (крама) і на другім паверсе, дзе былі пастаўлены столікі, фартэпіяна, а госці маглі карыстацца прэсай. У цукерні быў тэлефон-аўтамат (Акрамя гэтага, каля "Амерыкі" цукерні меліся па вуліцы Сувальская, 9; Сувальская, 79; Орліч-Дрэшара, 29; Рынак, 11.)



3D-мадэль дамоў Віленская, 19 і 21, зробленая Віталём Бураком

та «Слова» пісала, што, нягледзячы на крызіс, «Ліда еўрапеізуецца. Нараканні лідзян на тое, што няма дзе правесці доўгія вечары, ужо не мае падстаў, бо 3 верасня ў павялічаным памяшканні цукерні "Амерыка" пачаў выступаць джаз-банд 77-га пяхотнага палка. Гэты знаны джазавы калектыў прыцягвае эліту горада. Таксама трэба заўважыць, што ў нашы крызісныя часы закускі і напоі маюць вельмі лагодны кошт, і таму лідзяне слушна задаволены гэтай пляцоўкай для адпачынку».

Можна не сумнявацца, што лідскі джаз-банд у другой палове 1930-х гг. выконваў тагачасны хіт Ежы Пецярбургскага «Астатняя нядзеля»[2]. Той, хто спыніцца каля месца, дзе раней мясцілася «Амерыка», і зачыніць вочы, калі пашчасціць, зможа і сёння пачуць:

To ostatnia niedziela
Moje sny wymarzone,
Szczęście tak upragnione
Skończyło się!..

З пачатку 1920-х гг. на другім паверсе, над «Амерыканкай», знаходзіўся рэстаран «Кола полек» (Гурток полек). Ежы Путрамант успамінаў: «У сярэдняй чвэрці восьмага класа мы ладзілі ўласныя забавы… галоўным чынам у недаступным раней "Коле полек" на Сувальскай. Гэта пацешнае памяшканне было рэліктам недалёкай вайны 1918–1920 гг. Нейкая там жаўнерская сталоўка перарадзілася ў нешта, што хацела б стаць клубам абываццеляў, але… выйшла з таго нікчэмная забягалаўка на другім паверсе камянічкі, зачадзелая прыпаленым алеем ці свінінай, у суботу аднак грымеўшая вальсамі і абэркамі. Канешне, нам яна падавалася верхам элегантнасці».

У 1927 г. віленскі журналіст пісаў, што ў Лідзе «ёсць толькі адна сталоўка "Кола полек"… У "Коле полек" раней быў Клуб чыноўнікаў, у якім ішло інтэнсіўнае інтэлектуальнае і культурнае жыццё і збіралася мясцовая інтэлігенцыя… Зараз клуб страціў сваё памяшканне». З 1932 г. тут, на другім паверсе, дзейнічаў літаратурны клуб. Прэса паведамляла: «У Лідзе ў рэстаране "Кола полек" пачнуць рэгулярна збірацца "Літаратурныя чацвяргі". Першы такі сход адбудзецца 25 лютага, у гэты дзень выступяць два аўтары з Вільні і Навагрудка». У першым «Літаратур-

[2] Гэта танга сталася настолькі папулярным, што пранікла нават у сталінскі СССР і атрымала там вядомасць пад назвай «Утомленное солнце». У адрозненне ад высокай паэзіі ў польскім вершы Зянона Фрэдвальда, адчуваецца «папсовасць» слоў рускага тэксту.

ным чацвяргу» прынялі ўдзел стараста Багаткоўскі з жонкай, школьны інспектар Станіслаў Рагоўскі, дырэктар дзяржаўнай гімназіі Белакоз з жонкай, бургамістр Задурскі з жонкай. Адкрыў вечар настаўнік і журналіст з Ліды Бажок, наступным выступіў Багаткоўскі, пасля яго старшыня «Звязу журналістаў і літаратараў» Навагрудскага ваяводства Гашцецкі. А літаратар Яцак Райскі выступіў з дакладам «Навагрудчына ў літаратуры».

Былы жыхар горада Лех Цехановіч таксама ўспамінаў, што над «Амерыканкай» дзейнічаў рэстаран «Кола полек», працавала закусачная з продажам спіртных напояў на разліў. Вечарамі настрой паляпшала прыемным музыка. Але нават у гэтакім добрым месцы 7 сакавіка 1938 г. лідскі памочнік пракурора Пігулеўскі зрабіў спробу скончыць жыццё самагубствам і 14 сакавіка памёр у шпіталі.

**Віленская, 21**. Фірма «Браты Вінаградавы» існавала ад 1861 г. і вяла гандаль спажывецкімі і каланіяльнымі таварамі, вінамі і лікёрамі.

Менавіта тут, у двары дома братоў у снежні 1910 г. Міхаіл Мікалаевіч Манастырскі адкрыў кінатэатр «Эдысан». Да гэтага часу ён ужо тры гады валодаў кінатэатрам у Сувалках. Да 1914 г. Міхаіл Манастырскі меў яшчэ кінатэатр у Вільні.

У кастрычніку 1910 г. Міхаіл Манастырскі падаў на імя віленскага губернатара прашэнне аб адкрыцці кінатэатра ў Лідзе па вуліцы Віленскай, у мураваным аднапавярховым доме братоў Саламона Ільіча і Майсея Ільіча Вінаградавых на вузкай вулачцы-шчыліне Чырвонай (пачыналася паміж дамамі Крывабокава № 19 і братоў Вінаградавых № 21 і заканчвалася паміж дамамі Пупко і Зальцштэйна на вуліцы Крывой). Нарэшце кінатэатр «Эдысан» і быў адкрыты ў доме, які мясціўся ў двары галоўнай двухпавярховай камяніцы Вінаградавых.

У снежні 1910 г. пасля вырашэння розных бюракратычных і тэхнічных праблем сустрэў першых наведвальнікаў кінатэатр «Эдысан» (на 118 месцаў). Кінатэатр уяўляў сабой аднапавярховы цагляны будынак, меў пярэдні пакой (4,3 х 2,1 м), глядзельную залу (11,8 х 6,3 м), два фае (9,5 х 6.3 м), будку для праектара, у якой падлога і столь былі абабіты азбестам і жалезнымі лістамі. Глядзельная зала і фае мелі вышыню чатыры метры, драўляную столь, абабітыя знутры дошкамі бэлькі. Меліся два выхады, дзверы адчыняліся вонкі. Месцы для публікі былі агароджаны адкіднымі драўлянымі балюстрадамі вышынёй каля 0,9 м. Праходы для публікі каля будкі з праектарам – шырынёй 1,5 м кожны. Сценкі ўсіх памяшканняў атынкаваныя. Памяшканні абаграваліся трыма круглымі бляшанымі печамі. Паветра вентылявалася праз адтуліну дыяметрам 35 см. Дах будынка крыты дахоўкай. Памяшканне для дынама-машыны ад глядзельнай залы аддзяляла цагляная сцяна ў паўтары цагліны. Для асвятлення памяшканняў і сілкавання токам рэфлектара ў асобным памяшканні знаходзілася дынама-машына пастаяннага току на 50 ампер пры 110 вольт, якая прыводзілася ў дзеянне праз пасавую перадачу газавым рухавіком на 7 к.с. «Отто-Дэйц». Электрычны дрот быў пракладзены на парцалянавых роліках. Памяшканні асвятляла 21 танталавая шаснаццацісвечкавая лямпа напальвання, таксама меліся дзве лямпы ў 200 свечак і 98 дзвюхсвечкавых лямп на 10 вольт кожная, якія складаліся ў слова «Эдысан» над уваходам.

На пачатку XX стагоддзя ў Лідзе жыў і вучыўся ў мясцовай яўрэйскай школе-хедары будучы выкладчык і адзін з заснавальнікаў кіназнаўчага факультэта сучаснага Усерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі імя С. А. Герасімава Іосіф Далінскі. Менавіта ў Лідзе Далінскі першы раз убачыў тое, што потым стала яго прафесіяй: «Ах, Ліда, Ліда, менавіта тут я стаў гарачым прыхільнікам новага мастацтва, якое, вядома, не магло не ўздзейнічаць на маё ўяўленне, на

маю фантазію. Менавіта ў Лідзе пачалася мая кінематаграфічная жыццёвая адукацыя», – пісаў ён. Дзякуючы мемуарам былога жыхара Ліды, мы трошкі ведаем пра пачаткі кіно ў нашым горадзе.

«Эдысан» быў ужо другім кінатэатрам горада (пра першы – у наступных главах), і прафесар Далінскі пісаў пра яго: «Але вось я ўжо больш сталы. З'явіўся новы кінатэатр на галоўнай вуліцы... Ля ўвахода буйна электрычнымі лямпачкамі назва – «Эдысан». Такая цікавая назва здзіўляе, дзівіць нават... Туды ўваход каштаваў 10 ці нават 15 капеек. Бацька ўжо рэгулярна дае мне 5 капеек. Я іх збіраю і бягу, задыхаючыся, у кінатэатр. Сюды часам хаджу бясплатна разам са сваім таварышам, бацька якога – адзін з гаспадароў «Эдысана». Тут крэслы і нават ложы. У фае развешаны афішы, стаяць крэслы, маецца нават буфет. Фае спецыяльна для чакання: сеанс вялікі – гадзіну і больш. Мы ўваходзім у глядзельную залу ўжо не па-хлапечы, а як падлеткі. Мы абодва высокія, нас нават можна прыняць за юнакоў».

Кінематограф паступова пераўтвараўся ў новы від мастацтва – змяняўся рэпертуар кінатэатраў: «Карціны тут (у «Эдысане») "сур'ёзныя": дзве драмы, дзве камедыі, а напачатку абавязкова пейзажныя. У іх нейкія незнаёмыя рэкі, горы, вадаспады, моры бязмежныя, у іх вялікія хвалі, хвалі... Асабліва дзівяць вадаспады: з вельмі вялікай вышыні, з вялікім шумам (то перадае музыка тапёра) падае велізарная, шырокая, імклівая бруя вады... Кінематограф захапляе, здзіўляе, кліча да сябе; у ім можна нечакана ўбачыць тое, што ніколі не зможаш убачыць: усё далёкае, дзіўнае. Мастацкія любоўныя драмы ўзбуджаюць, выклікаюць нейкія незразумелыя пачуцці. Пацалункі, абдымкі дарослых, якія не бачыш у жыцці, вельмі халодныя, але разам з тым яны тояць у сабе нешта прыцягальнае. Потым мы, хлопцы, гуляем (бегаем, ходзім), як у фільмах. Асаблівае ўражанне пакінула карціна "Зігамар". Гэта ўжо не адна карціна, а серыя фільмаў, колькі – не памятаю. Але вельмі добра памятаю, што нашы гульні ў "разбойнікаў" пасля "Зігамара" напоўніліся больш канкрэтным зместам. Я нават у душы музіцыраваў, як у кіно».

«Зігамар» (1911) – гэта адзін з фільмаў знакамітай французскай крымінальнай серыі паводле рамана Лявона Сазі, рэжысёр – Віктор Жасэ. Фільм апавядаў пра супрацьстаянне дэтэктыва Палена Бракэ і банды крымінальнікаў «Дзета». «Зігамар» быў вельмі папулярны ў розных краінах Еўропы, у тым ліку і ў Расіі. Цікава, што на адной са старых паштовак з выявамі горада Ліды на плоце насупраць кінатэатра «Эдысан» якраз відаць афішу «Зігамара».

Думаю, трэба трошкі расказаць пра арганізацыю справы па расклейцы розных афіш у горадзе. У 1904 г. віленскі губернатар граф Пален выдаў пастанову, згодна з якой расклейка розных аб'яў і афіш у г. Лідзе дапускалася толькі на адмысловых прыстасаваннях (відавочна, шчытах), устаноўленых гарадскімі ўладамі (домаўладальнікам на сваіх хатах дазвалялася вывешваць аб'явы толькі аб здачы жылля ўнаём). Пастанова ўступала ў сілу з моманту ўстаноўкі такіх прыстасаванняў. 29 красавіка 1909 г. лідскі сход упаўнаважаных права расклейкі аб'яў і афіш перадаў Абраму Душману за плату ў 21 руб. 30 кап. у год. Бізнес быў вельмі прыбытковы, і ў 1914 г. гэта права на тры гады было перададзена ўладальніку тыпаграфіі Падземскаму, але ўжо за 260 руб. і 50 кап. у год. Гэта гаворыць аб папулярнасці кінематографа і гастрольных тэатраў у нашым горадзе.

У 1920–30-я гг. афішы таксама расклейваліся ў вызначаных месцах і рэклама фільмаў друкавалася ў прэсе.



Вуліца Віленская, за спінай Рыначная плошча, наперадзе злева ў канцы перспектывы, – дрэвы вакол фарнага касцёла, справа – атэль «Брыстоль» братоў Вінаградавых з рэстаранам (Віленская, 15, прыкладна на гэтым месцы зараз – магазін «Дамавіты», наступны дом – № 13)

Як я ўжо пісаў раней, перад Першай сусветнай вайной кінатэатр «Эдысан» быў прададзены і пераехаў у другі дом па вуліцы Віленскай каля фарнага касцёла. А ў будынку братоў Вінаградавых, дзе раней быў кінатэатр «Эдысан», у двары дома № 21 па Віленскай вуліцы, адкрылася вытворчасць па прыгатаванні мёду.

Пры краме Вінаградавых працаваў рэстаран і гатэль «Брыстоль», адзін з лепшых у Лідзе. У зале рэстарана таксама маглі адбывацца розныя грамадскія мерапрыемствы, напрыклад, у красавіку 1906 г. віленская газета пісала пра павятовы сход курыі землеўласнікаў у зале Вінаградавых (сабралася 68 чалавек – землеўладальнікаў і ксяндзоў).

Лідскі абшарнік, уладальнік маёнтка Скабейкі Андрэй Раствароўскі пісаў пра 1930-я гг.: «Для дапаўнення вобраза трэба яшчэ дадаць краму далікатэсаў і рэстаран братоў Вінаградавых, дзе выдатна кармілі, а крама мела ўсё, што патрэбна, у найлепшым гатунку, віны прывозіліся бочкамі, а закускі і каланіяльныя тавары маглі смела спаборнічаць з аналагічнымі таварамі братоў Пакульскіх ці Гіршфельда ў Варшаве. У выпадку неспадзяванага візіту дастаткова было патэлефанаваць да Вінаградава – і пакунак, даручаны кандуктару цягніка, праз дзве гадзіны чакаў на станцыі Скрыбаўцы».

Не абыходзілі бокам братоў Вінаградавых і розныя непрыемныя выпадкі. У сярэдзіне лістапада 1931 г. газета «Слова» пісала: «Антысеміцкія эксцэсы, якія мелі месца ва ўніверсітэцкіх гарадах, прыйшлі і ў правінцыю. Пра гэта кажа ўчарашні дзень у Лідзе, дзе былі выбіты дзве шыбы ў яўрэйскіх крамах: на складзе тавараў для пісьма па вуліцы 3-га Мая Дварэцкага і ў самай вялікай і якаснай краме спажывецкіх тавараў Вінаградава па вуліцы Сувальскай. Гэта адбылося ў 18.45, за некалькі хвілін да закрыцця, калі на вуліцах панаваў моцны рух людзей і транспарту. ... Пасля гэтага ў горадзе пануе напружаная атмасфера, зачынена шмат крам. Усю ноч па горадзе хадзілі ўзмоцненыя патрулі паліцыі. Як падазроны быў затрыманы 18-гадовы вучань 5-га класа гарадской гімназіі Усевалад Ма-

леўскі. На наступны дзень яго адлічылі з гімназіі. Ягоным паплечнікам у гэтай справе быў 15-гадовы Ежы Ромер. Зараз у горадзе спакойна. Горад патрулюе паліцыя разам з грамадзянамі – сябрамі Звязу Стральцоў».

У 1930-я гг. у Лідзе купіць радыёпрымач можна было ў краме «Электрарад» па вуліцы Сувальскай, 21. Самае таннае двухлямпавае радыё каштавала каля двух добрых месячных заробкаў на «Ардалі», прымала толькі галоўныя радыёстанцыі Еўропы і мела адносна моцны і добры гук праз дынамік. Напрыклад, віленскія газеты рэкламавалі дастаткова простыя радыёпрымачы фірмы «Эха» коштам ад 170 да 270 злотых, самы танны лямпавы радыёапарат віленскага завода «Электрыт» каштаваў больш за 200 зл. Лепшыя мадэлі фірм «Філіпс» ці «Тэлефункен» каштавалі ў разы болей.

Праз чатыры дамы за «Амерыканкай» (зараз тут, прыблізна, дом Савецкая, 9) знаходзілася «Старая аптэка». Уладальнікамі аптэкі ў 1930-я гг. былі Г. Левінсон і А. Жалiковіч, а размяшчалася яна ў доме Бергмана, якому раней гэта аптэка належала. Пра лідскія аптэкі падрабязней я раскажу у адной з наступных глаў.

Далей, за крамай з мэбляй і іншымі таварамі, пачынаўся рынак.



«Старая аптэка», 1930-я гг.

# Рынак і каля яго

Далей на поўнач па вуліцы Віленскай быў рынак (зараз прыкладна на гэтым месцы плошча Леніна), дзе да 1941 г. захаваліся дамы пачатку XIX ст. з барочнымі фасадамі (тагачасны адрас – Рынак, 3 і 4).

Рыначная плошча – старажытнае сэрца горада, археолагі кажуць, што археалагічны культурны слой тут дасягае 2 метраў. На гэтым месцы спрадвеку ішоў гандаль, гандлёвым днём быў панядзелак. Лідскі рынак меў плошчу каля 2 гектараў. Менавіта тут стаяла ратуша – будынак, у якім размяшчаліся органы гарадскога самакіравання.

Справа ў тым, што, як і ўсе еўрапейскія гарады, Ліда мела самакіраванне, карысталася магдэбургскім правам, якое атрымала 17 верасня 1590 г. Кароль Станіслаў Аўгуст прывілеем 1788 г. дараваў гораду пляц зямлі для пабудовы на ім ратушы, пэўна, гэта была ўжо не першая ратуша ў горадзе. Пабудаваная ў XVIII ст., упрыгожаная порцікам з калонамі, ратуша стаяла на Рыначнай плошчы. Пры ёй існавала старадаўняя драўляная пабудова ў



Уваход на Рынак у 1930-я гг.

гатычным стылі. Сам будынак Ратушы ў XIX ст. служыў вайсковай гаўптвахтай, а прыбудова – адрынай у пажарных. Вялікі пажар 1891 г. разам з іншымі пабудовамі знішчыў і будынак былой лідскай ратушы. Зараз беларускія гарады аднаўляюць свае былыя ратушы, напрыклад, зноў адбудаваны ратушы ў Мінску, Магілёве, Мсціслаўлі. Добра было б аднавіць будынак ратушы і ў нашым горадзе.

Уяўленне пра Рыначную плошчу і яе ваколіцы ў XIX ст. даюць успаміны былога жыхара горада Януша Сегеня: «Рынак... за аптэкай злучаецца з вуліцай Віленскай. Аптэка была ў доме пана Пясецкага, дом мураваны, двухпавярховы. На тым кавалку рынку, які прылягаў да вуліцы Віленскай, быў адгароджаны невялікі пляц, а на ім невялікі дом для варты – "каравульны" будынак. Перад ім, пры самай вуліцы, стаялі паходная вайсковая каса і палкавы сцяг. Гэта пляцоўка была брукаваная і ўтрымоўвалася вельмі чыстай...

Насупраць плошчы, каля рынку, па левым баку вуліцы былі пляц і драўляны, але вельмі прыгожы дом, вялікі падворак у кветках і ружах, быў там таксама і сапраўдны, жывы, нават ненавязаны воўк, пострах для ўсіх дзяцей... Быў гэта дом пана Буткевіча, маршалка дваранскай апекі».

На рынку ў розныя часы працавала вялікая колькасць гандляроў і крам. У сярэдзіне XIX ст. недзе тут знаходзіўся шынок, пра які пісаў лідзян Браніслаў Мірон Нарбут: «Трымаў у Лідзе вінны шынок яўрэй Азік (якога я помню яшчэ з часоў, калі хадзіў у школу). Апроч тых гасцей, што прыбывалі з павета і наведвалі гэтую ўстанову, было некалькі жыхароў горада сталага ўзросту, якія цэлыя дні праводзілі ў шынку. Гэта былі так званыя агульнікі – пастаянныя наведвальнікі, якія плацілі Азіку поўную квоту і мелі права піць у яго гарэлку без разліку, зразумела, нікога не частуючы. Гаспадар шынка дасканала ведаў ступень жадання і магчымасці кожнага дарослага жыхара наваколля і таму ніколі не меў страт. Апавядалі мне і пра гульню, што праводзілася толькі ў вінярні Азіка. Кола піякаў сядалі вакол стала, у келіхі налівалася віно і ў поўным маўчанні, з напружанай увагай, пільна-



Рынкавая плошча ў 1930-я гг.

валі палёт мух: на чый першы келіх сядала муха, той выйграваў, г. зн. меў права выпіць віно з усіх налітых келіхаў. Гульня гэтая называлася “мушка”. Зусім п’яных Азік укладаў спаць у асобым алькове і адтуль выдаваў мужоў іхнім жонкам».

Адным з месцаў, дзе на пачатку ХХ ст. лідзяне адпачывалі і абмяркоўвалі свае праблемы, быў лідскі Грамадскі збор (ён жа – Дваранскі клуб). Першы вядомы будынак Грамадскага збору згарэў у 1891 г. Пры клубе меліся гурток аматараў драматычнага мастацтва і бібліятэка. Бібліятэкарам і кіраўніком гуртка працаваў калежскі рэгістратар Іван Восіпавіч Пятроўскі. Пасля пажару другое памяшканне збору мясцілася каля рынку па Віленскай вуліцы, яно таксама згарэла ў кастрычніку 1913 г. падчас пажару ў цэнтры горада. Але ў канцы 1912 г. тут віравала грамадскае жыццё: «20 лістапада ў Грамадскім зборы адбыўся першы ў гэтым сезоне вельмі ўдалы танцавальны вечар. Шмат і ад душы весяліліся. За агульнай вячэрай лілася вясёлая, шчырая свабодная гутарка...».

У Грамадскім зборы выступалі заезныя «зоркі» мастацтва і палітыкі. Напрыклад, на пачатку траўня 1913 г. было абвешчана, што «ў зале Грамадскага збору (Дваранскі клуб) адбудзецца лекцыя былога таварыша старшыні 1-й Дзяржаўнай думы прафесара Мікалая Андрэевіча Грэдзескула на тэму: “Роля інтэлігенцыі ў грамадскім жыцці”». Пасля выступу прафесара «Лідскае слова» дало вялікую справаздачу з яго лекцыі, шмат у чым не згадзіўшыся з высновамі прафесара: «Для нас, лідзян, гэта была падзея. Упершыню нас наведаў вучоны і выбітны грамадскі дзеяч... і падзяліўся з намі сваімі думкамі аб інтэлігенцыі. У першай частцы лекцыі было шмат супярэчнасцей, асабліва ў той частцы рэферата, дзе ён спрабаваў вызначыцца з тэрмінам “інтэлігенцыя”... Значна цікавей была другая частка лекцыі».

У Лідзе мелася шмат яўрэйскіх культурніцкіх і грамадскіх таварыстваў, якія збіраліся ў розных залах горада. Адным з галоўных месцаў, дзе адбываліся яўрэйскія культурніцкія мерапрыемствы, была так званая зала Ландо. Якаў Ілютовіч пісаў: «У іншым месцы рынкавай плошчы знаходзілася карчма-рэстаран “Заезд”. Яна была пабудавана пяцьдзясят гадоў да таго, у мінулым стагоддзі [у сярэдзіне XIX ст. – Л. Л.] Ісакам Ландо, род якога паходзіў ад вучоных яўрэяў Вільні, якія аднак не захацелі стаць рабінамі. У наш час уладальнікам яе быў Ісак Ландо, трэцяе пакаленне ад першага Ісака. ... “Заезд” меў стойлы для коней уладальнікаў вазоў, а пазней і залу для ўрачыстасцей, а яшчэ пазней нават сцэну для тэатральных пастановак».

Рэгулярна ў тэатральнай зале выступалі лідскія аматары тэатра і гастраліруючыя тэатры. У зале Ландо адбываліся не толькі культурніцкія мерапрыемствы, але і сходы грамадскасці ці гандлёва-прамысловых таварыстваў. А ў нядзелю 18 лістапада 1912 г. каля пад’езда тэатральнай залы сп. Ландо было знойдзена немаўля. Ніякай запіскі пры ім не было, дзіця адпраўлена ў Віленскі прытулак.

У 1930-я гг. па адрасу Сувальская, 47 касметычныя, перавязачныя і фатаграфічныя тавары прапаноўвала парфумерная крама «Астра» Ё. Барана. Крама гатовай вопраткі і галантарэі дамскай і мужчынскай «Галіна» Міхала Слюсарчака, адкрытая ў 1935 г., займала адно з памяшканняў па Сувальскай, 55. Там жа знаходзілася вялікая крама Якуба Вінера, перанесеная пасля пажару з-пад кінатэатра «Нірвана», які гандляваў «фабрычнай гатовай вопраткай: дамскай і мужчынскай, плашчамі, футрамі, а таксама ўсякімі мануфактурнымі матэрыяламі самых модных колераў і ўзораў па цэнах вельмі даступных». У цукерні (Рынак, 11) можна было скарыстацца з тэлефона-аўтамата.

Пры ўваходзе на рынак стаяў дом (Віленская, 57), якім валодаў галоўны ветэрынар павета Роберт Вільгельм Робертавіч Рэнерт. Выпускнік Юр’еўскага ўніверсітэта, лютэранін Рэнерт выконваў свае абавязкі з 24 ліпеня 1898 г. З ся-

рэдзіны 1920-х гг. ён працаваў дырэктарам гарадской рэзні, якая ў той час мясцілася тут жа, на рынку, а таксама быў зарэгістраваны як прыватны ўрач-ветэрынар.

У першую нямецкую акупацыю нейкі час у доме Рэнерта жыў камандуючы нямецкай 12-й арміяй генерал Макс фон Фабек[1]. Лідзяне памяталі, што калі стары яўрэй-рэзнік Мардэхай Аарон каля рынка не заўважыў аўтамабіля Фабека і не зняў капялюш, генерал загадаў арыштаваць старога і на нейкі час пасадзіць яго ў турму.

У пачатку 1919 г., калі бальшавікі занялі горад, менавіта ў доме Роберта Рэнерта жыў камандзір 3-га Сядлецкага палка Ф. Рупневіч і іншыя чырвоныя камандзіры, а таксама дыслацыраваўся штаб.



Ветэрынарны ўрач Роберт Рэнерт

Там, дзе рынак сваім канцом прылягаў да вуліцы Сувальскай, пад № 59, у вуглавым доме прыблізна насупраць уваходу ў кінатэатр «Эра» (ранейшая «Нірвана»), знаходзілася адкрытая ў 1923 г. крама Яна Межвы, інваліда, старшыні Саюза вайсковых інвалідаў у Лідзе і члена гарадской рады. У краме меўся багаты выбар



У краме Яна Межвы

[1] Камандаванне 12-й арміяй фон Фабек (1854–1916) атрымаў у верасні1915 г. і з гэтай арміяй быў пераведзены на Усходні фронт. У кастрычніку 1916 г. Макс фон Фабек сур'ёзна захварэў (перад хваробай у кастрычніку 1916 г. на працягу некалькіх тыдняў камандаваў 8-й арміяй) і 16 снежня 1916 г. пакончыў з сабой.




Дом Віленская, 42. Паштоўка надрукавана да 1914 г.

він і гарэлкі, тытунёвых вырабаў, а таксама слодычы Ведла і Фухса. «Межва не меў абодвух далоней, але спрытна запакоўваў і падаваў паўлітроўкі», – успамінаў лідзяін Юзаф Кардаш.



3D-мадэль дома Віленская, 42. Зроблена Віталем Бураком

Па суседству мясціўся кааператыў Суполкі спажыўцоў, кіраўніком якога быў Арэхва. Той самы адрас, г. зн. № 59, мела крама (але мясцілася бліжэй да рынку), якая належала Г. Нойману і М. Рэзніку, купцам, гандлярам мануфактурнымі таварамі (шаўковымі і баваўнянымі тканінамі).

Адным з самых прыгожых дамоў у горадзе лічыўся дом па вуліцы Віленскай (Сувальская), 42, які стаяў насупраць рынку (прыблізна там, дзе зараз аддзел рамёстваў – ранейшы кінатэатр «Кастрычнік»). Гістарычны пляц горада, на якім стаяў гэты гмах, першапачаткова належаў лідскім старастам Сцыпіёнам дэ Кампа. Міхал Шымялевіч пісаў, што ў цэнтры горада ад самага пачатку XVIII ст. Сцыпіёны мелі вялікі пляц, які з фронту прылягаў да рынка, а з тылу абмяжоўваўся ракой Лідзеяй. На гэтым пляцы з канца XVIII ст. размяшчаліся гарадская канцылярыя, турма і аптэка. Тут жа меўся жылы двор, у якім жылі лідскія старасты ў часы сваіх прыездаў у горад. Спераду, пры самой вуліцы Віленскай, насупраць рынка, стаяла буйная заезная карчма (згарэла пры пажары горада Ліды ў 1827 г.). Месцы на пляцы былі распрададзены, і на месцы карчмы ў 1840 г. Беньямін Камянецкі пабудаваў новы двухпавярховы мураваны дом, у якім да 1915 г. мясціліся шматлікія павятовыя ўстановы.

У 1872 г. уздоўж паштовага тракту Вільня – Ліда – Навагрудак – Мір пабудавана тэлеграфная лінія і ў Лідзе заснавана тэлеграфная станцыя з двума апаратамі Морзе. Першым начальнікам гэтай станцыі быў Савелій Нікіцін, тэлеграфным тэхнікам – Хрысанф Аляхновіч, які гэту лінію і будаваў. Тэлеграфная станцыя знаходзілася на першым паверсе ў гэтым жа мураваным доме (Віленская, 42), у памяшканні, якое вызвалілася пасля ліквідацыі 1 красавіка 1872 г. павятовага суда. У 1873 г. Ліда была адзіным, акрамя Вільні, горадам у Віленскай губерні, дзе працавала тэлеграфная станцыя, прымаліся і адпраўляліся краёвыя і замежныя тэлеграмы. З Вільні да Ліды, згодна з тарыфам, за тэлеграму ў 20 слоў бралі 50 капеек. Потым лідскі тэлеграф пераехаў у другі дом па вуліцы Віленскай, пра які я раскажу ў адной з наступных глаў.

У гэтым жа будынку знаходзіліся Лідская судова-міравая акруга і канцылярыя З'езда міравых суддзяў, дзе з 12 сакавіка 1898 г., пасля заканчэння Лідскага павятовага вучылішча, на пасадзе памочніка сакратара пачынаў свой жыццёвы шлях Міхал Шымялевіч. Тут жа працаваў шынок Мейлаха Пупко. З канца XIX ст. у гэтым будынку таксама мясцілася павятовая паліцыя, якой з 1906 г. кіраваў лідскі спраўнік Яўген фон Гротэ дэ Буко. Перад Першай сусветнай вайной тут быў і штаб паветраплавальнай роты.

У 1930-я гг. будынак займалі аб'яднанае тэкстыльнае прадпрыемства К. Шаблера і Л. Грохмана (галаўное прадпрыемства ў Лодзі, аддзел у Лідзе) і хрысціянская крама абутку Юзафа Ліпінскага, які прадаваў абутак уласнага вырабу: жаночы і мужчынскі, у вялікім выбары і па даступнай цане.

На напярэдадні Першай сусветнай вайны, 30 ліпеня 1914 г. менавіта перад будынкам паліцыі адбыліся падзеі, відавочцам якіх быў Шымялевіч: «На вуліцы Віленскай сабраліся групкамі гараджане, яны чыталі толькі што атрыманыя з цягніка газеты і, кожны на свой капыл, каментавалі бягучую сітуацыю ў свеце. Мабілізацыя яшчэ не пачалася, і агульным перакананнем было тое, што Расія толькі робіць дэманстрацыю сваёй магутнасці, а насамрэч вайны не будзе, бо ніхто яе не хоча. … Над Лідай, выконваючы вучэбны палёт, нізка кружыў аэраплан "Фарман". Ён зрабіў кола над рынкам і паляцеў на ўсход. Раптам аэраплан стаў хутка зніжацца і падаць. Натоўп зявак, думаючы, што аэраплан упадзе каля рэчкі Лідзейкі, кінуўся ў бліжэйшыя завулкі – Шкляны, Камерцыйны, Паліцэйскі [яны вялі ў бок рэчкі – Л. Л.]. Але пілот выраўняў машыну, і яна зноў узвілася



На фотаздымку злева «Старая аптэка», справа дом № 42 па вуліцы Віленскай



Вуліца Віленская, за спінай Свята-Міхайлаўская царква. Наперадзе
злева – дом Віленская, 42. Справа, перад уваходам на Рыначную плошчу,
аднапавярховы дом Сувальская, 59, у якім мясцілася крама Межвы.

пад аблокі. Зявакі пачалі вяртацца да цэнтра, і якраз у гэты час па Віленскай вуліцы на дрожках да паліцэйскай управы імчаўся, трымаючы ў руцэ дэпешу, павятовы паліцэйскі спраўнік Гротэ дэ Буко. Адразу вуліца зразумела: мабілізацыя! У імгненне вока вуліца апусцела. Да позняй ночы горад не спаў. Кожны зразумеў, што вайна непазбежна і нікога яна не абміне». Для паўнаты карціны трэба дадаць, што лета 1914 г. выдалася неверагодна спякотным, тэмпература паветра набліжалася да 40°».

Усе вышэйапісаныя будынкі згарэлі ў 1941 г. і засталіся толькі на старых паштоўках.

Успаміны з 1945 г. пра згарэўшую ў 1941 г. сучасную вуліцу Савецкую пакінуў лідзянін Эльяш Дэмчак: «Я глядзеў вакол, спрабаваў зарыентавацца, ледзь пазнаючы вуліцы. Я сказаў сам сабе: "Вось тут, насупраць будынка магістрата, стаяў скарб і рос гарадскі сад. Насупраць гэтага саду ў драўляным будынку размяшчалася гарадская бібліятэка. Гэта месца былі крыху лягчэй распазнаць, бо яно каля руінаў замка Гэдыміна".

Іду далей і бачу фарны касцёл, ён не згарэў, бо акружаны тоўстымі сценамі і да таго ж вялікія дрэвы абаранілі яго ад агню.

Выйшаў на цэнтральную вуліцу Віленскую, потым Сувальскую. Руіны кінатэатра "Эдысон" насупраць гарадскога парку на вуліцы Каменскай, потым 3-га Мая. Іду далей каля двара Сольца насупраць месца, дзе стаяў дом братоў Вінаградавых – у іх была і вялікая фірма. Далей, насупраць Турэцкай вуліцы, раней была вуліца Чырвоная. Потым убок адыходзяць вуліцы: Шкляная, насупраць уваходу на рынак вуліца Камерцыйная, і далей Паліцэйская (пераназвана ў вуліцу Пераца). Яшчэ трохі на поўнач і на ўсход, у бок Раслякоў, адыходзіць вуліца Лідская. На яе пачатку разваліны вялікага будынка, у якім знаходзіўся кінатэатр "Нірвана". Гітлераўскія забойцы не разабралі гэтыя руіны, бо яны належалі вядомаму паляку Длускаму. Тут яны арганізавалі кухню для яўрэяў, якія выконвалі прымусовыя работы, тут для іх кіпяцілі ваду і варылі гнілую бульбу. ... Далей па невялікай вулачцы я прыходжу ў двор сінагогі. Вулачка пустая, усё вакол разбурана, але ўжо ачышчана ад друзу. Я бачу вялікую плошчу, дзе раней стаяла гарадская сінагога – вялікі, сучасны гмах і дом малітвы, пафарбаваны ў белы колер. З аднаго боку насупраць яе была хасідская сінагога... і вялікі будынак талмуд-торы, дамы для састарэлых і дамы, дзе мясцілася самакіраванне яўрэйскай абшчыны, – усе яны знішчаны. Зараз гэта вялікае пустое месца...».

**Паліцыя ў Лідзе да 1915 г.** Службы аховы грамадскага парадку ў беларускіх гарадах пачалі з'яўляцца разам з магдэбургскім правам. У Лідзе – у канцы XVI ст., калі горадам пачаў кіраваць выбарны магістрат. Статут 1566 г. Вялікага Княства Літоўскага ўвёў пасаду вознага. Возны – гэта адначасова судовы следчы і выканаўца. Статут 1588 г. пашырыў паўнамоцтвы вознага як следчага і падрабязна рэгламентаваў, якім чынам возны павінен складаць пратакол. Як і на суддзяў, падсудкаў і пісараў Вялікага Княства, на возных распаўсюджвалася асабістая недатыкальнасць. Аднак да другой паловы XVIII ст., як і ў большасці нашых суседзяў, цэнтралізаванай службы па ахове парадку не існавала, і толькі пасля рэформ караля Станіслава Панятоўскага пачалі ствараццa спецыялізаваныя камісіі, якія сталі прататыпамі сучасных міністэрстваў.

Цэнтральная камісія паліцыі Вялікага Княства Літоўскага была створана ў 1791 г., а на месцах былі арганізаваны ваяводскія і павятовыя цывільна-вайсковыя камісіі. Гэтыя камісіі сачылі за парадкам. Дарэчы, найбольшыя праблемы ў тыя часы ў гарадах стваралі «валацугі, лайдакі і цыганы». Павятовыя камісіі складаліся з 5-6 мясцовых шляхцічаў, якія працавалі на сесіях на працягу адна-

го месяца. Яны выконвалі выключна канцылярскую працу, разглядалі звароты, выдавалі мемарандум. Пасады паліцэйскага ў той час яшчэ не было. Замест іх выкарыстоўвалі вайскоўцаў, але па дапамогу жаўнераў звярталіся толькі ў крайнім выпадку. Пра ўсё гэта можна прачытаць у кнізе выдатнага беларускага гісторыка Юрыя Гардзеева «Цывільна-вайсковыя парадкавыя камісіі ў Вялікім Княстве Літоўскім у часы Чатырохгадовага сойму (1789–1792)».

У складзе Расійскай Імперыі ў нас з'явілася павятовая паліцыя. А пасля паўстання 1831 г., у пачатку сакавіка наступнага 1832 г., у дадатак да павятовай у Лідзе была арганізавана яшчэ і гарадская паліцыя. Дакументы аб стварэнні гарадской паліцыі я знайшоў у Гродзенскім архіве. На ўтрыманне «паліцэйскай каманды» ў 1832 г. горад выдаткоўваў 900 срэбных рублёў. Адной з першых спраў выконваючага абавязкі лідскага гараднічага падпалкоўніка Верашчака (12 сакавіка 1832 г.) была справа супраць лідскіх касцёлаў, якія караліся за падтрымку паўстання.

З другой паловы XIX ст. лідская паліцыя мясцілася ў арандаваным у Камянецкіх доме па вуліцы Віленскай, 42, які быў пабудаваны насупраць рынка (прыблізна там, дзе зараз аддзел рамёстваў – ранейшы кінатэатр «Кастрычнік»). Гэты дом стаяў на рагу з вуліцай Паштовай, якая па прычыне суседства з паліцыяй у 1892 г. стала Паліцэйскай (спачатку завулкам, потым вуліцай). У доме Камянецкіх знаходзілася шмат дзяржаўных устаноў, і ў 1885 г. «Сары Камянецкай за арандаванае ў яе памяшканне» горад плаціў 250 руб. у год.

Паліцыяй павета кіраваў спраўнік. Спраўнік – вышэйшая паліцэйская ўлада ў павеце. Павятовае паліцэйскае кіраванне складалася з павятовага спраўніка і яго памочніка. Павятовы спраўнік прызначаўся і звальняўся губернатарам і быў абавязаны назіраць за аховай грамадскай бяспекі, за дакладным выкананнем усімі «вернападданніцкага абавязку», за правільным і хуткім вядзеннем спраў, якімі займаюцца чыноўнікі павятовай паліцыі. Спраўнік стала знаходзіўся ў павятовым горадзе, але не меней як два разы ў год ён павінен быў агледзець увесь павет. Пры гэтым спраўнік кантраляваў працу падначаленых яму станавых прыставаў і садзейнічаў ім у выкананні іх абавязкаў, асабліва па прывядзенні ў падпарадкаванне непаслухмяных, па пераследзе злодзеяў, разбойнікаў, ваенных дэзерціраў і ўсіх уцекачоў, па спагнанні падаткаў, па спыненні заразных хвароб. Аглядаючы павет, спраўнік звяртаў увагу на спраўнасць дарог, на якасць будаўніцтва дамоў і г. д. Спраўнік павінен быў «наводзіць на розум сельскіх абывацеляў, каб яны добра выконвалі свае абавязкі, і заахвочваць іх да працавітасці, паказваючы ім выгады распаўсюджвання і ўдасканалення земляробства, рамёстваў і гандлю, асабліва ж у захаванні імі добрых нораваў і парадку».

Гарадской паліцыяй кіраваў гарадскі наглядчык, які падпарадкоўваўся павятоваму спраўніку. Напрыклад, у 1894 г. выканаўцам абавязкаў гарадскога наглядчыка быў Сцяпан Цімафееў.

14 красавіка 1887 г. быў прызначаны штат лідскай паліцыі: 2 старшыя з акладам 132 руб. і 10 малодшых з акладам 108 руб. у год. Паліцэйскаму наглядчыку выплачвалася 100 руб., а ніжнім чынам па 90 руб. кватэрных у год.

У 1890 г. на ўтрыманне паліцыі горад выдаткоўваў 1844 руб., з гэтай сумы заробак – 1344 руб., абмундзіраванне – 300 руб., наём памяшкання з ацяпленнем і асвятленнем – 200 руб. На наём памяшкання для паліцэйскага наглядчыка г. Ліды за 1889 і 1890 г. – 200 руб.

31 студзеня 1906 г. быў вызначаны новы штат лідскай паліцыі: 4 старшыя з акладам 330 руб. і 17 малодшых з акладам 240 руб. у год. Паліцэйскаму наглядчыку выплачвалася 150 руб., а ніжнім чынам па 90 руб. кватэрных у год. У тым

жа 1906 г. удаве лідскага паліцэйскага Соф'і Камар прызначана аднаразовая дапамога ў памеры 10 руб.

З 1867 г. павятовым спраўнікам у Лідзе быў Аляксандр Ланскі, былы армейскі штаб-ротмістр, выпускнік Калужскай гімназіі, на момант прызначэння на пасаду меў узрост 33 гады. Яму быў прызначаны аклад у 1500 руб. у год – добрыя па тым часе грошы.

Галоўным паліцэйскім з 1888 па 1899 г. быў лідскі спраўнік Сцяпан Мацвеевіч Ляўданскі. За сваю службу атрымаў розныя адзнакі і быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра ІІІ ступені.

27 кастрычніка 1899 г. губернатар прызначыў на пасаду лідскага спраўніка былога памочніка віленскага павятовага спраўніка надворнага дарадцу Махцэвіча. Пра Аляксандра Уладзіміравіча Махцэвіча вядома, што ён скончыў Віленскае пяхотнае вучылішча і служыў у 107-м Траецкім пяхотным палку (Вільня). Быў першым мужам Веры Сяргееўны Махцэвіч (у дзявоцтве Шыльдар-Шульдар), якая потым узяла шлюб з Ф. Л. Навіцкім і разам з другім мужам стала заснавальніцай Лідскай прыватнай жаночай гімназіі. Надворны дарадца Махцэвіч нядоўга быў нашым спраўнікам і ўжо 18 лістапада 1900 г. быў пераведзены ў Віцебскую губерню.

Надворны дарадца Мікалай Іванавіч Салаўёў скончыў Уладзімірскую духоўную семінарыю, на пасадзе лідскага спраўніка знаходзіўся з лістапада 1901 г. З прэсы даведваемся, што лідскі павятовы спраўнік Салаўёў у 1901 г. атрымаў падзяку ад губернатара за дбайнае стаўленне да службовых абавязкаў.

31 студзеня 1905 г. загадам № 14 па Віленскім губернскім кіраванні «начальнік земскай варты Новамінскага павета [Мінск-Мазавецкі павет. – Л. Л.] капітан фон Гротэ дэ Буко, згодна з яго прашэннем, прызначаецца часовым выканаўцам абавязкаў лідскага павятовага спраўніка». З «Памятных кніжак Віленскай губерні» бачна, што з 1906 г. па пачатак 1914 г. ён узначальвае павятовую паліцыю.

Чыны ў царскай паліцыі адпавядалі цывільным чынам Расійскай Імперыі. Пры гэтым, у адрозненне ад сучаснай беларускай міліцыі, яны не з'яўляліся званнямі, але пры пераходзе з аднаго ведамства ў іншае захоўваліся за іх уладальнікамі. Таму некарэктна было б казаць, напрыклад, «калежскі асэсар паліцыі». Тым не менш, у адрозненне ад чыноўнікаў большасці цывільных ведамстваў, якія мелі знакі адрознення на пятліцах, чыноўнікі паліцыі насілі пагоны. Але ад пагонаў службоўцаў іншых ведамстваў, напрыклад чыгуначнікаў, гэтыя пагоны таксама адрозніваліся: пагоны паліцэйскіх чыноўнікаў былі падобныя на вайсковыя і адрозніваліся ад іх шырынёй, якая складала тры чвэрці ад шырыні армейскага пагона. Але пры пераходзе ў паліцыю з вайсковай службы за афіцэрам захоўваўся яго вайсковы чын, і ён насіў пагоны армейскага ўзору. Лідскі спраўнік Гротэ дэ Буко насіў, канешне, армейскія пагоны.

У красавіку 1911 г. «Кур'ер Віленскі» пісаў: «Да Ліды прылягаюць і складаюць з ёй адно цэлае наступныя прадмесці: Дварцовая Слабада, Зарэчча, Каменка і Вісманты. Яны карыстаюцца ўсімі прывілеямі горада акрамя аднаго – паліцэйскага нагляду. Для далучэння іх да горада неабходна ўзяць на службу аднаго афіцэра, трох унтэр-афіцэраў і 8 шараговых паліцэйскіх. Афіцэр будзе штогод зарабляць 726 руб., 200 руб. кватэрных, 500 на канцылярыю – разам 1425 руб. Унтэр-афіцэр – 400 руб. зарплаты і 100 кватэрных, шарагоўцы – па 240 руб. зарплаты. У суме – 4846 руб. у год. У сувязі з гэтым віленскі губернатар звярнуўся да гарадскіх уладаў з пытаннем, якую частку гэтай сумы яны могуць узяць на сябе». Растлумачу, што Дварцовая Слабада – гэта раён горада, які зараз называецца проста Слабада, Зарэчча – раён вуліцы Калініна, Каменка – у канцы вуліцы Каменскай (зараз Ленінскай), а Вісманты – за старымі каталіцкімі могілкамі.

Пасля адкрыцця Полацк-Седлецкай чыгункі Ліда стала буйным чыгуначным вузлом, горад пачаў хутка расці, узняліся кошты на жыллё. Лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко 17 чэрвеня 1909 г. напісаў рапарт пра тое, што паліцэйскім не хапае прызначаных грошай на арэнду жылля. Таму лідскі сход упаўнаважаных вырашаў павялічыць кватэрныя выплаты і, акрамя гэтага, прызначыць 100 руб. на закупку рэвальвераў і шабляў. У выніку да раней выдаткаваных сум горад пачаў даплачваць павятовому спраўніку 100 руб. і ягонаму памочніку 50 руб. у год. Паліцэйскаму наглядчыку Ліды даплачвалася 60 руб. у год.

Спраўнік Гротэ дэ Буко як мог узмацняў дысцыпліну сярод падначаленых. Газета «Беларус» у лютым 1913 г. пісала аб яго загадзе: «Ліда. У загадзе па павятовай паліцыі спраўнік звяртае ўвагу на тое, што стражнікі паліцыі прымушаюць сялян і крамнікаў даваць хабар і купляць ім гарэлку. Спраўнік папярэджвае, што калі паступіць ад каго такая скарга, дык абвінавачаны ў хабары ўраднік ці стражнік будзе выгнаны са службы без тлумачэння прычын, а калі будзе даказана, што прымушаў даваць хабар, дык тады будзе аддадзены пад суд».

Інфармацыі пра дзейнасць праваахоўнай сістэмы на Лідчыне ў пачатку XX ст. у прэсе няшмат, аднак я мог бы апісаць шмат цікавых ці страшных выпадкаў злачынстваў, якія адбыліся на Лідчыне ў той час. Але напішу толькі пра першае дарожна-транспартнае здарэнне з удзелам аўтамабіля на Лідчыне, якое адбылося 4 кастрычніка 1911 г.: «…каля 17.00 пані Чачот ехала на брычцы па дарозе Ліда – Вільня. Не даязджаючы да Беняконяў, конь быў напалоханы аўтамабілем пана Вагнера з Вялікіх Салечнікаў, які абагнаў брычку без папераджальнага сігнала. Конь кінуўся ўбок, перавярнуў брычку, і пані Чачот была выкінута з яе на дарогу. Конь з брычкай без гаспадыні памчаўся ў бок мястэчка, дзе і быў злоўлены. Пані Чачот атрымала цялесныя пашкоджанні і не магла сама падняцца з зямлі, аднак кіроўца і пасажыры аўтамабіля не звярнулі на яе ўвагу».

Пра агульны ўзровень злачыннасці на Лідчыне ў «Кур'еры Віленскім» пісаў адзін з самых адукаваных людзей таго часу на Лідчыне гісторык і археолаг, член-карэспандэнт акадэміі Вандалін Шукевіч. Адзін з яго артыкулаў, пра чарговую сесію выязнога віленскага акруговага суда, пачынаўся так: «Разгледжаныя справы не былі складанымі. У Лідзе, у адрозненне ад вялікіх гарадоў, няма крадзяжоў, для расследавання якіх патрэбны Шэрлак Холмс, няма заблытаных забойстваў. Злачынствы здзяйсняюцца ў асноўным простымі людзьмі, сякерай або калом. Народная цемра падлівае алей у лямпу злачыннасці, агонь якой усё ж час ад часу абпальвае. Бягучая кадэнцыя суда разглядзела 15 спраў. Улічваючы, што акруговы суд збіраецца ў Лідзе 4 разы ў год, няцяжка падлічыць сярэднюю колькасць злачынстваў – 60 у год. А паколькі ў Лідскім павеце жыве амаль 200 000 чалавек, злачыннасць у нас невысокая. Тут, вядома, трэба ўлічыць, што частка спраў не даходзіць да суда прысяжных і г. д.». Такім чынам, злачыннасць на Лідчыне была ўсё ж справай рэдкай.

Сумным быў лёс лідскіх паліцэйскіх. Да канца верасня 1915 г., перад уваходам нямецкіх войск у горад, усе ўстановы Ліды былі эвакуяваныя на ўсход. Часовы выканаўца абавязкаў спраўніка А. Н. Пешкаў 28 жніўня 1916 г. праз свайго бацьку генерал-лейтэнанта Н. Н. Пешкава, які ў ліпені 1916 г. быў прызначаны ваенным генерал-губернатарам заваяваных абласцей у Турцыі, арганізаваў распараджэнне № 26086 дзяжурнага генерала штаба Вярхоўнага галоўнакамандуючага: «...камандзіраваць да генерал-губернатара абласцей Турцыі... Пешкава в.а. лідскага павятовага спраўніка стацкага дарадцу Пешкава, паліцэйскага наглядчыка г. Ліды губернскага сакратара Лявіцкага... а таксама 18 пешых стражнікаў Лідскага павета». Ці вярнуўся хто з шараговых лідскіх паліцэйскіх дахаты?

Трэба яшчэ раз вярнуцца да асобы Яўгена Аляксандравіча Гротэ дэ Буко.

У 1915 г. ён добраахвотна ідзе на фронт, і 9 верасня 1915 г. Яўгена Аляксандравіча ўзнагароджваюць ордэнам Св. Георгія 4-й ст. за асабістую храбрасць. Свечын – камандзір 6-га Фінляндскага палка, у якім служыў Гротэ дэ Буко, – пісаў у сваёй кнізе «Мастацтва кіравання палком...»: «Афіцэрскі склад у маім палку быў надзвычай удалы. У мяне было некалькі выдатных памочнікаў у асобах камандзіраў батальёнаў. ...выдатным камандзірам з'яўляўся... Гротэ дэ Буко. Гэта быў бясхітрасны стары, перад вайной лідскі спраўнік, які па сваёй добрай волі прамяняў сваю спакойную паліцэйскую пасаду на цяжкую прафесію – спачатку камандзіра роты, потым батальёна. Добрая воля, добразычлівасць, досыць моцныя нервы, а затым сівізна рабілі на салдат захапляльнае ўражанне. Салдаты яшчэ не вызваліліся ад кайданоў патрыярхальных уяўленняў, і для іх дзядуля Гротэ з'яўляўся несумненным правадыром-старэйшынам; слухалі яны яго з глыбокай павагай і любоўю, і пасля штурму афіцэры 1-га батальёна распавядалі пра тое, што яны назіралі салдат, якія хапалі дзядулю ў крытычную хвіліну за фалды і хавалі яго ў вырву, салдаты баранілі яго сваімі целамі. Маладосць – сіла, але ў пэўнай абстаноўцы сівая барада, прыстаўленая да добрай галавы, таксама з'яўляецца буйной маральнай сілай пры ўмове непасрэднага судакранання з салдацка-сялянскай масай».



Генерал-маёр Гротэ дэ Буко

26 сакавіка 1916 г. былы лідскі спраўнік атрымлівае званне палкоўніка. 9 кастрычніка 1917 г. Яўген Гротэ дэ Буко «за заслугі ў справах...» атрымлівае званне генерал-маёра.

Лёс фон Гротэ дэ Буко на працягу 2 гадоў, да канца 1918 г., невядомы, але найбольш верагодным горадам, дзе ён мог зблізіцца з дзеячамі беларускага руху, быў Менск. Верагодна, пасля развалу арміі ў 1917 г. былы лідскі спраўнік жыў у гэтым горадзе, але ніякай дакладнай інфармацыі я не маю. З'явіцца ў Лідзе генерал фон Гротэ дэ Буко зноў мог толькі пасля заключэння так званага Брэсцкага міру, раней ён быў бы неадкладна арыштаваны.

Немцы не маглі вызначыцца, каго прызнаць пасля сябе ўладай у павеце, таму што, апрача палякаў, свае прэтэнзіі на ўладу адначасова выказвалі бальшавікі, беларусы і літоўцы. Польскі дзеяч Юзаф Дзічканец, аўтар кнігі «Самаабарона Лідскай зямлі» і відавочца тых падзей, пісаў: «Самым небяспечным канкурэнтам для палякаў у справе атрымання зброі ад немцаў побач з яўрэямі быў арганізатар беларускага руху ў Лідзе былы расійскі "исправник" фон Гротэ-дэ-Буко, які па прычыне свайго нямецкага прозвішча меў пэўныя перавагі ў штадтгаўптмана (начальніка павета). Толькі ён мог прыняць рашэнне аб выдачы зброі. Досыць доўгі час працягваліся спробы атрымання зброі... Дзіўна, што рускіх, якія перад вайной мелі прэтэнзіі да Ліды як да "истинно русского города", у гэты час у Лідзе

не было. За выключэннем толькі невялікай групкі, амаль усе “истинно русские люди” пакінулі чужы для іх край і горад, накіроўваючыся да сапраўднай сваёй бацькаўшчыны – Расіі. Былы лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко і той пакінуў шэрагі расіян. ...фон Гротэ дэ Буко пачаў арганізоўваць беларусаў, каб стварыць Беларускую народную партыю».

Потым генерал Яўген фон Гротэ дэ Буко ў 1920-х гг. жыў у Вільні. Загінуў у Варшаве ў 1944 г.

Такім чынам, былы паліцэйскі спраўнік узначаліў беларускую палітычную партыю ў Лідзе і стаў першым вядомы лідарам беларускага руху ў нашым горадзе. Менавіта таму ён назаўжды застаўся ў нашай гісторыі.

**Будынак былога кінатэатра «Кастрычнік»**. Як толькі я падрос, дык неаднаразова бываў у гэтым кінатэатры. У канцы 1970-х гг. «Кастрычнік» казаўся мне маленькім і несучасным у параўнанні з кінатэатрам «Юбілейны».

Ларыса Канчэўская ўспамінала: «Пасля кінатэатра “Кастрычнік” вырас Дом афіцэраў (сучасная школа мастацтваў) у цэнтры горада. Проста грэцкі храм! Вакол яго з’явіліся пяціпавярховікі. Пабудавалі раскошную лазню. ... Калі пабудавалі ў 1958 г. кінатэатр “Кастрычнік” – гэта быў такі падарунак гараджанам! Памятаю, з якім трапятаннем уваходзіла першы раз у фае, дзе завяршаўся насценны роспіс копіі карціны “Ленін у кастрычніку”. (Да гэтага часу добра памятаю прозвішчы мастакоў, якія распісвалі і афармлялі там усё. Гэта былі сапраўдныя, вельмі добрыя спецыялісты – Парфёнаў і Ларыёнаў). У той дзень над роспісам працаваў Парфёнаў. Прычасаны ён быў пад стыльны “кок” – высокі чуб, зачасаны назад, нізка падстрыжаная патыліца (у адрозненне ад нашых татаў, падстрыжаных пад “бокс” і “паўбокс”), над губой – вузенькая палоска вусоў. Шыю ахоплівала хустка, канцы якой хаваліся за каўняром кашулі. Ён часта насіў барэт. Гэта быў сапраўдны немалады стыль-арт, або ў прастамоўі “стыляга”, і быў падобны на ракавых герояў з замежных фільмаў (зрэшты, “малады” – “немалады”... Мастак – гэта асаблівая істота па сваёй прыродзе). Але я была маленькая правільная савецкая піянерка і “буржуазных замашак” не ўхваляла ў тыя суровыя аскетычныя (а дакладней – жабрацкія) часы!».

Сучасныя чатырох- пяціпавярховыя дамы каля цэнтральнай плошчы. Гэтыя дамы пабудаваны для афіцэраў ракетнай дывізіі, якая стаяла каля Ліды. Я памятаю, што ў 1970-я гг. людзей у ваеннай форме ў гэтым раёне горада часамі было больш, чым цывільных. Старажыл горада Зіновій Бянько расказваў мне: «Гэта адбывалася так. Увесь цэнтр быў пабудаваны ваенным будаўнікамі... каля Паўночнага гарадка дыслацыравалася будаўнічая воінская частка – “стройбат”, яна мясціліся там у двух вялізных бараках. Вось гэты “стройбат” пабудаваў цэнтр горада, сюды пасяліліся афіцэры з сем’ямі. Да вайны ў нас тут не было рускіх... а пасля вайны гэтыя афіцэры тут пасяліліся і засталіся. Дарэчы, шмат іх засялілася па нашай Чырвонаармейскай вуліцы, бо з 1946 г. адтуль многа мясцовых рэпатрыіравалася ў Польшчу і дамы стаялі пустыя. Памятаю, як ганарова адчынялі Дом афіцэраў...».

# Насупраць Савецкай, 16

Пройдзем трошкі на поўнач.

Насупраць сучаснага дома па вуліцы Савецкай, 16 старых будынкаў сёння няма. А раней тут стаяў двухпавярховы дом братоў Стукатараў (Віленская, 63), ён добра бачны на старой паштоўцы. У доме, акрамя кватэр, размяшчаліся аптэка і кабінет дантыста.

Тут жа здымала кватэру сям'я Іосіфа Далінскага. Нехта з братоў Стукатараў меў адзіную дачку Сонечку, пра якую Далінскі пісаў: «Жыла ў нас у двары, у кватэры на другім паверсе, дзяўчынка, вельмі своеасаблівая, але, як мне здавалася, няшчасная. Яна была вельмі добрая: трохі круглаваты твар з чырванню і цёмнымі вачыма. У яе была цудоўная, добрая ўсмешка з ямачкамі на шчоках, твар разумны і кемлівы. Няшчасце яе было бачна ўсім... Абедзве яе ножкі былі ў нейкіх спружынах, і яна вельмі дрэнна, з дапамогай дзвюх палак, перасоўвалася на іх, дакладней, з цяжкасцю клыпала. Імя яе і прозвішча я запомніў на ўсё жыццё: Сонечка Стукатар. Яна была дачкой замож-




Паштоўка 1917 г., справа дом Віленская, 58 (зараз Савецкая, 16), злева дом Стукатараў (Віленская, 63)

ных бацькоў. Унізе, на вуліцы, была ў іх аптэка, і яшчэ адна дзесьці на ўскрайку горада. Яны мелі яшчэ зубалячэбны кабінет. І бацька, і маці Сонечкі не толькі лячылі зубы, але і рабілі для кліентаў зубныя пратэзы. Вырабляў гэтыя ўстаўныя сківіцы малады чалавек, які працаваў у іх. Гэта быў добры, ціхі юнак, які, хутка і спрытна працуючы, любіў са мной пагаварыць. Я дзівіўся, як ён спакойна робіць гэтыя мёртвыя, страшныя зубы.

Дык вось, з гэтай Сонечкай мы часта гулялі ў двары. Яна заўсёды мяне клікала гуляць, а я не мог адмовіцца. Справа ў тым, што хваробу яе звязвалі са мной. Калі я захварэў шкарлятынай, каб Сонечка не заразілася, яе адвезлі ў вёску да бабулі. Там яе выкупалі і, разгарачаную, босую, выпусцілі бегаць па сырой траве. І яна застудзіла ножкі. Спачатку яе лячылі нашы лекары. Але паколькі лячэнне не дапамагала, маці адвезла дзяўчынку за мяжу. Лячылі і там доўга, некалькі гадоў. Але яна так і засталася калекай. Глядзець мне на яе было балюча: прыгожая, усмешлівая, разумная, жывая, ні ў чым не мае патрэбы, але "без ног". Перасоўвалася яна, абапіраючыся на дзве палкі, пакутліва, і не любіла, каб у гэты час на яе глядзелі. А тут яшчэ атрымлівалася, што я вінаваты ў яе хваробе. Сонечку кожную раніцу вазілі ў гімназію на дрожках. ... Што сталася з Сонечкай, калі яна стала дарослай? І ці дапамаглі грошы яе бацькоў, якія яны сваёй працай нажывалі, зрабіць яе шчаслівай?!».

Развітваючыся з домам Стукатараў, дзе жыў будучы прафесар Далінскі, не магу не прывесці яго словы пра вуліцы нашага горада. Вуліцы «не былі яшчэ асфальтаваныя ў той час, але камяні былі не вельмі вялікімі, і таму пралёткі і вазы, якія па іх бегалі, не выдавалі вялікага шуму; чуваць было цоканне капытоў, што надавала гораду нейкую музычнасць». Далінскі пакінуў наш горад у 1915 г. і больш ні разу тут не быў, але праз 70 гадоў з захапленнем пісаў пра Ліду пачатку XX ст.: «Гарадок наогул быў чысты: я не памятаю ў ім бруду, п'яных, якія валіліся б, нейкіх неахайных куч і лужын, дрэнных пахаў. І вуліцы, і дамы, і людзі, і зеляніна (а яе было шмат) – усё, усё было ахайным. Не памятаю брудных двароў, якіх і цяпер шмат нават у Маскве. У Лідзе проста не было двара без зеляніны: траўка, агрэст, чорныя і чырвоныя ягады, дрэвы пладовыя – адкуль жа возьмецца ў горадзе бруд? Рэдка ўспамінаю бяздомных сабак, якіх хлопцы асабліва памятаюць. Іх было, мабыць, так мала, што я іх не запомніў. Запомнілася чысціня. Чысценькі, светлы гарадок, які стаяў на рацэ Лідзейцы, пры мне ўжо дробнай, амаль высахлай».

У глыбіні квартала, за домам Стукатараў, знаходзіўся Школьны двор. Так звалася месца, дзе стаялі лідскія сінагога і іешыва. Школьны двор з поўдня выходзіў на Рыначную плошчу – з дакументаў бачна, што прыбіраў рынак і Школьны двор адзін дворнік.

З дакументаў таксама бачна, што Школьны двор існаваў у Лідзе як мінімум з XVII ст. З інвентара Лідскага староства 1745 г. бачна, што тут жылі Ізраэль Лейбовіч і Мэгер Хаімавіч – магчыма, рабін і настаўнік. У 1775 г. тут жылі: лідскі рабін Янкель Ясялевіч, удава яўрэйскага суддзі і яшчэ 5 чалавек – верагодна, настаўнікі яўрэйскай школы і служкі сінагогі. Цікава, што сінагога не плаціла ніякіх падаткаў, рабін жа плаціў 3 злотыя ў год падымнага падатку. Усе іншыя тутэйшыя жыхары таксама плацілі па 3 злотыя ў год. Школьны двор ёсць на карце горада канца XVIII ст. У 1843 г. пажар, які распачаўся з яўрэйскай лазні, знішчыў увесь Школьны двор, частку дамоў Рыначнай плошчы і ўсю вуліцу Віленскую. Пажар 1891 г. зноў знішчыў Школьны двор з амаль што ўсім горадам. Згарэла і старая сінагога, якая існавала і выкарыстоўвалася па прызначэнні каля 300 гадоў.

Новая мураваная лідская сінагога была пабудавана тут у 1896 г. у неамаўрытанскім стылі. Адным з першых будынкаў у гэтым стылі ў Беларусі быў будынак



Лідская сінагога

гарадской яўрэйскай бальніцы ў Мінску, узведзены ў 1828 г. Сёння ў гэтым значна перабудаваным мінскім будынку знаходзіцца адзін з карпусоў 3-й гарадской бальніцы (ён страціў прыкметы гэтага свайго стылю). Сінагогі ў маўрытанскім стылі былі пабудаваны таксама ў Магілёве і іншых месцах Беларусі. Адным радком трэба заўважыць, што неамаўрытанскі стыль знаходзіўся ў рэчышчы эклектыкі XIX – пачатку XX ст., з'явіўся на хвалі пошукаў ідэнтычнасці і, канешне ж, не быў аўтэнтычнай маўрытанікай, якая будавалася ў сярэднявеччы.

Новая лідская сінагога ўяўляла сабой двухпавярховы прамавугольнік памерамі 23 х 28 м і вышынёй у 30 метраў са сценамі метровай таўшчыні. Унутры меліся чатыры апорныя квадратныя слупы. У двух'яруснай сінагозе другі ярус быў вышэйшы за першы. Цэнтральны партал будынка ўпрыгожвала падковападобная арка, над ёй – акно-ружа. Галоўны ўваход быў праз двухстворкавыя дзверы. Сінагога мела 43 акны, з якіх 8 – фасадныя, з вітражамі. Пакрываў яе чатырохсхільны дах, на якім стаяў шасцігранны светлавы барабан з круглымі вокнамі. У вокнах меліся мазаічныя рознакаляровыя зоркі Давіда. Барабан завяршаўся купалам са спічаком.

Будавалі Вялікую лідскую сінагогу 4 гады, будаўніцтва было завершана ў жніўні 1896 г., а набажэнства дазволена распачаць у снежні 1896 г. Зімой 1941–42 гг. па распараджэнні гебітскамісара Ханвега згарэўшая ў 1941 г. сінагога была цалкам разабрана. Будаўнічае смецце пайшло на адсыпку дарогі па забалочаным участку вуліцы Міцкевіча ад сучаснага праспекта Перамогі да вуліцы Савецкай.

**Іешыва Рэйнеса**. У 1905 г. пры садзейнічанні буйных дзеячаў Мізрахі і фінансавай дапамозе барона Д. Гінцбурга лідскі рабін Іцхак Якаў Рэйнес (1839–1915) адкрыў у Лідзе ўмерана рэфармаваную іешыву, разлічаную на шэсць гадоў навучання.

Змяніліся ўмовы жыцця – і яўрэйскія супольнасці пачалі імкнуцца да таго, каб адукацыя прыносіла сродкі для жыцця. Таму рабінам Рэйнесам у Лідзе была адкрыта іешыва новага тыпу. Праграма новай іешывы стала шасцігадовай і апрача Талмуда і яўрэйскай граматыкі складалася з ўсіх прадметаў па курсе павятовага вучылішча. Але традыцыі былі захаваны: вывучэнне Торы засталося галоўнай мэтай навучання. Рэйнес упершыню ўвёў вызначаную праграму заняткаў, падзяліў іешыву на класы, наладзіў перыядычныя іспыты вучням. Першыя чатыры гады прысвячаліся вывучэнню Талмуда і яго каментатараў, апошнія два – выключна азнаямленню з дзейснымі рэлігійнымі кодэксамі. Лідская іешыва неўзабаве стала вельмі папулярнай. У 1908 г. яна атрымала зацверджаны статут. Грашовыя ўнёскі дасягнулі 20 000 руб., а колькасць вучняў перавысіла 300. Лідская іешыва павінenna была выпускаць не толькі рабінаў і настаўнікаў, але і «купцоў, дасведчаных у яўрэйскіх навуках», таму з 1909 г. у апошнім падрыхтоўчым класе сталі выкладаць вучням некаторыя камерцыйныя навукі. Іешыва Рэйнеса ў пачатку Першай сусветнай вайны была зачынена. Навучанне адноўлена ў 1923 г. з удзелам камітэта дапамогі іешывам у Вільні.

Трэба заўважыць, што першасная назва вуліцы Кірава – Школьная – паходзіць якраз ад Школьнага двара. Сімвалічна, што зараз у пачатку і пры канцы гэтай вуліцы знаходзяцца Лідскі каледж і СШ № 1. Можа, пара вярнуцца да аўтэнтычнай назвы вуліцы?

Далей на поўнач па вуліцы Віленскай, за домам Стукатараў, на рагу з сучаснай вуліцай Кірава да 1914 г. знаходзіўся гатэль «Варшаўскі».

Пакуль мы яшчэ знаходзімся ў цэнтры горада, думаю, трэба расказаць, як была ў той час арганізавана вельмі важная для лідзян справа асвятлення вуліц.



Рэклама напальных ліхтароў фірмы «Люкс» якія свяцілі ў нашым горадзе

Ужо ў 1832 г. Ліду па начах асвятлялі 16 ліхтароў, што каштавала гораду 20 срэбных рублёў. Дадатковую пастанову пра паляпшэнне вулічнага асвятлення ў Лідзе гарадскія ўлады прынялі ў 1896 г. На ўтрыманне вуліц, плошчаў, маставых, тратуараў грамадскіх паркаў і асвятленне горада ў 1897 г. прызначалася сума ў 300 руб. Дадаткова на ўтрыманне і рамонт слупоў і ліхтароў выдзялялася 200 руб.

У 1903 г. было ўстаноўлена 10 новых ліхтароў, столькі ж у 1904 г. Таму ў 1904 г. горад асвятляла ўжо 60 ліхтароў.

Вынікам далейшага ўдасканалення ліхтароў на газе стаў газава-напальны ліхтар. Ён уяўляў сабой доўгі цыліндр, які ўнізе заканчваўся шкляным каўпаком з рэфлектарам. Рэзервуар для газы быў у верхняй частцы ліхтара. Адсюль гаручае па трубцы сцякала ўніз, у выпарнік. Пары газы

выходзілі струменем з фарсункі і, змяшаўшыся з паветрам, згаралі ўнутры напальнай сеткі. Пры гэтым сетка распальвалася і давала моцнае святло.

З 1908 г. пастановай збору гарадскіх упаўнаважаных для асвятлення горада ўводзяцца менавіта гэтыя, газава-напальныя, ліхтары. Ужо ў 1911 г. горад асвятлялі 18 напальных ліхтароў. На адзін ліхтар горад аплачваў 25 пудоў газы ў год па 1 руб. 60 кап. за пуд на суму ў 40 руб. – 720 руб. на 18 ліхтароў. Ліхтаршчыку-манцёру, які абслугоўваў абсталяванне, выплачваўся добры гадавы заробак у 300 руб. Закупка напальных сетак і спірту для распальвання ліхтароў, а таксама само распальванне ліхтароў кожны вечар абыходзілася ў 1000 руб. штогод.

Абыходжанне з напальным ліхтаром патрабавала добрага спрыту. Перш чым запаліць яго, трэба было разагрэць выпарнік. Для гэтага ў спецыяльны кубак, які знаходзіўся каля выпарніка, наліваўся спірт, які потым падпальвалі праз асаблівую адтуліну ў сценцы ліхтара.



Калільны ліхтар,
для запавальвання апушчаны ўніз

Як жа запальвалі ліхтары? Ліхтаршчыкі не лазілі на слупы, бо ліхтар падвешваўся на металічным кранштэйне, які ўстанаўліваўся на верхавіне высокага драўлянага слупа. Кожны вечар ліхтар спускалі ўніз на тросе пры дапамозе лябёдкі, ён запраўляўся газай, праціралася шкло, а потым ліхтар распальвалі і ўздымалі. Ліхтаршчыкі мелі ключы ад лябёдкі і каляску для перавозкі ёмістасці з газай. Кожны вечар, у любое надвор'е, у прапахлай газай вопратцы яны кацілі свае каляскі ад слупа да слупа. Запаліць і пагасіць ліхтары трэба было ў строга вызначаны час. Гэтыя ліхтары добра бачны на некаторых старых здымках горада.

У 1912 г. дадаткова да існуючых планавалася ўстанавіць «8 новых звычайных газавых ліхтароў на слупах на кранштэйнах». У той жа год лідскі спраўнік Яўген фон Гротэ дэ Буко закупіў для горада яшчэ 17 самых сучасных на той час напальных ліхтароў рыжскай фірмы «Люкс». А ў наступным годзе ў Лідзе ўстанаўліваецца яшчэ 8 новых ліхтароў.

І толькі са з'яўленнем у 1916 г. лідскай электрастанцыі, паступова, асвятленне горада стала электрычным.

Зноў вяртаемся да сучаснага дома № 16 па вуліцы Савецкай.

На поўнач ад яго знаходзілася ўніяцкая царква Св. Мікалая.

На працягу першай паловы XVII ст. у горадзе дзейнічалі чатыры грэка-каталіцкія царквы: Св. Яна, Св. Мікалая (каля рынкавай плошчы), Св. Спаса (у горадзе), царква Прачыстай (на Зарэччы). Лічачыся з патрабаваннямі праціўнікаў

царкоўнага аб'яднання з ліку шляхты, кароль і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV у 1633 г. дазволіў перадаць у Лідзе «неўніятам» царкву Св. Спаса ў Лідзе праваслаўнаму прыходу.

Пра стан лідскіх цэркваў у другой палове XVII ст. можна даведацца з акта візітацыі 1681 г. У горадзе мелася дзве царквы: «пад вызваннем Св. Мікалая, каля рынку... і іншая на прадмесці, пляцы для цэркваў святлейшай фундацыі Каралёў Ягамосцяў». Каралеўскі фундуш на пляцы загінуў падчас страшнай для нашага края вайны за Расіяй 1654–1667 гг., ці, як напісана ў акце візітацыі, падчас «маскоўшчыны», у час якой горад і ўсе лідскія цэрквы некалькі разоў цалкам знішчаліся. Лідскі павет страціў у тую вайну 24,7 % свайго насельніцтва (уся Беларусь да 50 %).

Пасля той вайны абедзве наноўадбудаваныя цэрквы былі драўляныя і вельмі бедныя, толькі царква Св. Мікалая была «абразамі аздоблена». З дакументаў бачна, што царква Св. Мікалая мела сігнатурку з малым і званіцу з больш вялікім звонам. Царква цалкам не мела жалезных рэчаў (завесаў, зашчапак і інш.) Пры царкве Св. Мікалая мелася «плябанія – белая хата, коштам самога айца пабудаваная», а таксама яшчэ «хата чорная з сенямі, гумно, хлеў галля». З боку рынку каля царквы Св. Мікалая меўся шпіталь (у бок сучаснага дома № 16) для старых адзінокіх прыхаджан, што кажа пра тое, што лідскія ўніяцкія цэрквы выконвалі свае сацыяльныя абавязкі.

У 1702 г. і 1710 г. Ліду спалілі шведы, і царква Св. Мікалая прыйшла ў заняпад. З акта візітацыі 1732 г. бачна, што ў царкве ў цэнтры горада служыць святар Скаромскі, і сама царква знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане: «Царква старая, малая, без столі і падлогі, дах быў крыты дранкай, але дзіравы».

У другой палове XVIII ст. Ліда пачынае інтэнсіўна развівацца і ў дакументах канца XVIII ст. на месцы былой царквы Св. Мікалая мы бачым ужо новую царкву пад тытулам Міхала Архангела. У канцы XVIII ст. – на пачатку XIX ст. горад меў два цэнтры, размешчаныя на восі, якой была вуліца Віленская. У адным цэнтры знаходзіўся замак, фарны касцёл, кляштар кармелітаў, у другім – ратуша, сінагога, уніяцкая царква Міхала Архангела і кляштар піяраў, пра якія я раскажу ў наступнай главе гэтай кнігі.

Новая царква Міхала Архангела была пабудавана на падмурку, крытая гонтай, мела фацыяту і купал з жалезным крыжам па-над царквой, акрамя вялікага купала, меўся яшчэ і «другі малы купал з крыжам жалезным». Трэба адзначыць што купалы нашых ўніяцкіх цэркваў не мелі цыбулепадобнага выгляду, як у маскоўскіх цэрквах. Пачынаючы з сярэдзіны XVIII ст. нашы цэрквы мелі фігурныя грушападобныя гранёныя купалы, якія зваліся «бані» ці «банькі»[1], у залежнасці ад памераў. Так называецца купальнае пакрыццё паўкруглай формы або круглы купал у завяршэнні вежаў ці вярхоў. У адрозненне ад гладкіх купалоў-цыбулін маскоўскіх праваслаўных храмаў, банькі мелі складаны сілуэт і падзел на грані, «банькі» рабілі шмат'яруснымі, на васьмігранных і шасцігранных шыйках, што было вельмі прыгожа і стварала кантрасныя светлаценевыя эфекты.

Пры царкве Міхала Архангела таксама меўся шпіталь і пабудовы плябаніі: хата святара з каморай, пякарня, клецць (амбар), гумно, хлеў. Плябанія «часткова плотам, а часткова жэрдкай агароджана, з брамай, стараннем двара [лідскага старасты – Л. Л.] і святароў пабудаванай». Наяўнасць брамы ў той час – прыкмета багатай парафіі, таму ў акце візітацыі запісана, кім яна пабудавана. Тут жа каля царквы знаходзіліся старажытныя могілкі: «Пляц, дзе пабудаваны царква

[1] Назва паходзіць ад лацінскага слова baneum (так зваўся пуката-ўвагнуты посуд, якім карысталіся для абмывання ў тэрмах і купальнях, пазней – у баптыстэрыях пры абрадзе хрышчэння.

са шпіталем і дзе знаходзяцца могілкі, мае паўтара морга[2]». Пры капітальным рамонце вуліцы Сувальскай (зараз – Савецкай) і пракладцы тэлефонных кабеляў да будаванай у той час новай пошты па вуліцы Міцкевіча, у 1937 г. тут знойдзены парэшткі XVIII ст. «лідскіх месцічаў, якія былі пахаваны на могілках пры ўніяцкай царкве, якая згарэла ў першай палове XVIII ст… Потым праваслаўныя святары прадалі пляц былых могілак каля царквы пад участкі для будаўніцтва, і тут былі пабудаваны дробныя крамы».

Калі знікла царква Міхала Архангела, невядома, але на карце горада 1842 г. яе ўжо няма.

Зараз прыкладна там, дзе стаяла ўніяцкая царква са шпіталем, плябаніяй і могілкамі, знаходзіцца будынак лідскага каледжа.

Старшыня Лідскага гарвыканкама ў 1962–1969 гг. Аляксей Сямёнаў успамінаў: «У сувязі з тым, што будынак, у якім размяшчаўся індустрыяльны тэхнікум, знаходзіўся на тэрыторыі забудовы завода “Лідсельмаш” [пра гэты будынак я раскажу ў наступных главах – Л. Л.], за кошт сродкаў завода намячалася пабудаваць новы будынак тэхнікума на вуліцы Савецкай побач з касцёлам піяраў. На пляме забудовы аказаўся драўляны будынак вайсковай сталоўкі і некалькі іншых пабудоваў, што стрымлівала пачатак будаўнічых работ. Работнікі гаркамгаса не змаглі своечасова вызваліць пляму забудовы, і будаўнікі пачалі работы на яшчэ не падрыхтаванай пляцоўцы. Давялося адначасова з выкананнем будаўнікамі работ нулявога цыклу зносіць пабудовы, якія аказаліся на пляме забудовы, што стварала сур’ёзныя ўскладненні ў правядзенні работ. Надалей ніякіх іншых цяжкасцей не ўзнікала, і будынак тэхнікума быў своечасова здадзены ў эксплуатацыю». Гэта было ў канцы 1960-х гг.

[2] Морг – адзінка вымярэння плошчы зямлі ў сярэднявечнай Еўропе, роўная прыблізна 0,71 гектара. У выдадзеным у 1884 г. томе VI «Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін» напісана: «Морг (ням. Morgen – раніца) азначае плошчу зямлі, якую адзін чалавек можа на працягу 1 дня скасіць або ўзараць».

# Савецкая, 16, ранейшая Віленская, 58

Пяройдзем на другі бок старажытнай вуліцы Віленскай.

Месца, на якім стаіць сучасны дом па вуліцы Савецкай, 16, мае даўнюю гісторыю. Інвентар Ліды 1798 г. апісваў дамы па вуліцы Віленскай: «Ад фарнага касцёла з правага боку знаходзіўся дзедзічны дварок яснавяльможнай пані Едка, у якім пошта». Гэты двор знаходзіўся па абодвух баках вуліцы Віленскай, у тым ліку і на месцы, дзе зараз стаіць дом № 16 па вуліцы Савецкай. На плане горада Ліды 1832 г. у доме Едкі таксама паказана пошта. Праз нейкі час гэта нерухомая маёмасць становіцца ўласнасцю прапаршчыка Дарожнага. У 1842 г. двор быў знішчаны пажарам і пошту перанеслі ў дом Камянецкіх, пра якія я пісаў у папярэднай главе. Пасля чарговага пажару на гэтым пляцы будуецца цэлы комплекс двухпавярховых будынкаў, сярод іх – дом па вуліцы Віленскай, 58, які належаў Фларэнтыну Длускаму.




Дом Сувальская (Віленская), 58, 1930-я гг. Зараз – Савецкая, 16



3D-мадэль дома Сувальская (Віленская), 58, зробленая В. Бураком

З гэтага комплексу да нашага часу дажыў дом па вуліцы Савецкай (дабудаваны да яго ў бок каледжа дамок быў нядаўна разбураны). Менавіта ў гэтым комплексе будынкаў у 1909 г. быў адчынены першы лідскі кінатэатр «Ілюзіён». Ён мясціўся ў двары дома па адрасе Віленская, 58, які належаў Длускаму (сучасная Савецкая, 16). «Ілюзіён» Яблонскага быў перароблены са стайні, зала не мела ніводнага акна, і пасля сеансаў у ёй было цяжкае і вільготнае паветра, адчуваўся пах неперагарэлага спірту ад спіртовых лямп, з дапамогай якіх кінатэатр асвятляўся, апаратны пакой з тонкіх дошчачак быў дабудаваны да гмаха былой стайні.

Будучы прафесар-кіназнаўца І. Далінскі пісаў: «Вельмі рана, не памятаю з якіх гадоў, я пачаў наведваць кінатэатр «Ілюзіён». У ім не было нават крэслаў, і, па меншай меры, у самых першых радах мы, хлапчукі, сядзелі на лаўках. Каштаваў нам квіток вельмі танна, усяго 5 капеек. Але як іх дастаць? Я пачаў прасіць у таты, ён быў – я адчуваў – вельмі добры, на цукеркі даваў дзве-тры капейкі. Я нічога не купляў або на адну-дзве капейкі купляў цягучку і спецыяльна смактаў яе на вачах у таты, каб ён бачыў, як я марную яго грошы на прысмакі. Больш за тое, я дзяліў цягучку паміж сабой і братамі, цягучкі былі доўгія і салодкія. Астатнія грошы збіраў на «Ілюзіён». Калі збіралася 5 капеек, я днём ішоў у кінатэатр. «Ілюзіён» мне здаваўся даволі вялікім, з шырокім калідорам, вялікай і доўгай глядзельнай залай. Уваходзілі мы туды нясмела, як у сінагогу: жарт сказаць, цуд, белы экран, і на ім раптам жывыя людзі, розныя звяры, вуліцы, лес, возера і нават дзіўнае бяскрайняе мора, тады мне абсалютна невядомае».

Помніць Іосіф Далінскі і змест фільмаў пачатку мінулага стагоддзя: «У змесце фільмаў усё ж разбіраўся. Памятаю: бацька і сын з сабакам ідуць на паляванне. У іх стрэльбы. Але ў лесе сын адстае ад бацькі, хоча самастойна пастраляць зайца, нават ваўка, і птушак. Паляўнічыя з сабакам паглыбляюцца ў лес. Сустракаюцца птушкі, заяц, воўк – паляўнічыя і сабака шукаюць іх, але сын хоча самастойна (я яму спачуваю) пастраляць. Ён апынаецца ўжо насупраць бацькі, але бацька яго не бачыць, і сын не бачыць бацьку. Нечакана гучыць стрэл: сын страляе ў бок бацькі, але ні ў каго не трапляе. Бацька… ужо забіў некалькі птушак… апошні стрэл (ён думае, у зайца) цэліць і забівае насмерць сына. Страшнае ўражанне стварыла падзенне сына і момант, калі бацька паварочваецца і бачыць, што забіў яго. Гэта




Кінатэатр у доме Савецкая, 16, 1950-я гг.

вельмі страшна для маленькіх гледачоў, якія ўжо разумеюць смерць: гібель чалавека ўспрымаецца як трагедыя. У мяне тады памёр дзед – бацька майго бацькі. Якая трагедыя ў маленькага гледача! Колькі перажыванняў! І нават ёсць патрэбная мараль: слухайся бацьку, а то здарыцца нешта сумнае, нават жудаснае. Запомніў і назву гэтай карціны – “Трагічнае паляванне”». Фільма з такой назвай у каталогу фільмаў той эпохі няма, але вядома, што ў тыя часы адзін і той жа фільм нярэдка выпускаўся пад рознымі назвамі.

«Трагічнае паляванне» моцна ўсхвалявала юных гледачоў: «Мы, яшчэ маленькія хлапчукі, хаваліся пад лаўкамі ці за цёмнымі фіранкамі вокнаў і дзвярэй; заставаліся, каб паглядзець другі і трэці раз: а можа, у гэты раз бацька прамахнецца? Часам удавалася: мы вылазілі з таемных месцаў, калі зала пачынала запаўняцца новай публікай».

Паказвалі і камедыі: «Памятаю і камічнае: бясконцыя пагоні, кіданні нейкіх прадметаў і нават цеста адно ў аднаго, нават у твар... памятаю, што былі надпісы, якія мы ледзь паспявалі прачытаць, але гэта было не так важна. Змест мы ведалі часам загадзя ад іншых хлапчукоў або разумелі яго з першага кадра. Гэта была велізарная асалода, нейкае асаблівае, загадкавае бачанне... Гэты кінатэатр, як я потым даведаўся, працаваў на газе... Потым у двары мы гулялі ў нямыя карціны: мы бегалі адно ад аднаго або штурхаліся, і заўсёды чамусьці ўсё заканчвалася пагоняй... Гэта было самае ранняе дзяцінства».

Дзесьці перад Першай сусветнай вайной ці падчас яе кінатэатр «Ілюзіён» быў перайменаваны ў «Нірвану». Можна сказаць, што кінатэатры «Эдысан» і «Нірвана» зачыняліся толькі тады, калі вайна прыходзіла на вуліцы горада, бо маюцца звесткі, што 31 снежня 1918 года рэўком правёў гарадскі мітынг менавіта ў будынку кінатэатра «Нірвана».




Рэклама фільма ў кінатэатры «Нірвана»



Lida.

JAKÓB WINER i S-ka
LIDA, Suwalska 58, tel. 90 (obok kino teatru Nirwana)
Poleca: jedwabie, wełny, korty, sukna, płótna, oraz futra i okrycia damskie i męskie. 8730

Wzorowo i po europejsku urządzona mechaniczna przetwórnia mięsa
ALEKSANDRA WERSOCKIEGO
w Lidzie poleca szanownej klijenteli bezkonkurencyjne pod każdym względem swe wyroby jak: najrozmaitsze kiełbasy, szynki i t. p. 8731
Sklep: ul. Suwalska Nr. 9. Przed Świętami otwarty do g. 9 wiecz.

Рэклама крам Якуба Вінера (Сувальская, 58)
і Аляксандра Вярсоцкага (Сувальская, 9)

Усе 1920–30-я гг. кінатэатр «Нірвана» не толькі дэманстраваў фільмы, але і быў месцам збораў лідскай грамадскасці і пляцоўкай, дзе выступалі гастрольныя тэатральныя трупы, напрыклад, знакаміты тэатр «Рэдута»[1]. 20 лістапада 1928 года гэты тэатр паказваў у Лідзе спектакль «Цар Павел I» паводле п’есы Меражкоўскага, а ў верасні 1929 года камедыю «Прыяцелі». Спектакль адбыўся «ў перапоўненай зале, чаго Ліда ўжо даўно не бачыла». 14 і 15 студзеня 1930 года ў Лідзе гастраліравала Варшаўская опера. На сцэне кінатэатра «Нірвана» былі паказаны два яе спектаклі – «Галька» і «Кармэн».

«Нірвана» з’яўляўся і цэнтрам яўрэйскага культурнага жыцця. У 1931 годзе «25 кастрычніка адбыўся першы выступ яўрэйскага драматычнага гуртка ў кінатэатры “Нірвана”, рэжысёр тэатра – Бузган». У канцы 1931 года «інжынер Любес з Палесціны ў кінатэатры “Нірвана” распавёў яўрэям Ліды пра жыццё ў Палесціне. Сабралася каля 200 чалавек».

Уладзіслаў Нарушэвіч пісаў: «Памятаю часы нямога кіно, калі ілюстрацыі да сюжэту выконваў піяніст... Лідская грамадскасць вельмі хваліла гэту натуральную музыку... Калі з’явілася гукавое кіно, людзі яшчэ доўгі час не маглі прызвычаіцца да гэтай інавацыі і ўзгадвалі часы нямога кіно з мілым для вуха музычным акампанементам на піяніна». Аднак тэхніка кіно хутка развівалася, і ў 1932 г. сярод уладальнікаў кінатэатраў у Лідзе пачаліся «гонкі» – хто першы адкрые ў Лідзе гукавое кіно. Першым імкнуўся стаць уладальнік кінатэатра «Нірвана»: «Нарэшце ў Лідзе будзе кіно з гукам. Уладальнік кінатэатра “Нірвана” Яблонскі сказаў, што праз некалькі дзён пачне паказваць у сябе кіно з гукам. Першым гукавым фільмам будзе сусветна вядомы баявік “Парада кахання”... Гэта будзе сенсацыяй у Лідзе».

[1] Рэдута (Reduta) – эксперыментальны тэатр-лабараторыя, існаваў у 1919–1939 гг. У 1925 г. тэатр з Варшавы пераехаў у Вільню, размяшчаўся ў тэатры на Пагулянцы, у 1931 г. вярнуўся ў Варшаву.



Дом Савецкая, 16. Здымак зроблены ў 1990-я гг.

Аднак першым гукавым кінатэатрам у горадзе стаў «Эдысан»: «У пятніцу з гукам пачаў працаваць кінатэатр "Эдысан", уладальнік Левін. Першы гукавы фільм – "X 27". "Нірвана" з гукам пачне працаваць праз некалькі дзён».

У красавіку 1931 г. падчас кінасеанса ў «Нірване» ад праекцыйнай лямпы загарэлася кінастужка. Узнікла паніка, але кінамеханік Мозель Віцільд хутка загасіў узгаранне.

13 ліпеня 1932 г. у цэнтры горада адбыўся моцны пажар. «Горад у моры агню», – паведамляла прэса. Пажар пачаўся з дома на Сувальскай, 54. Спачатку агонь ахапіў дах, потым перакінуўся на кінатэатр «Нірвана». З-за моцнага ветру полымя хутка ахапіла суседнія дамы – і загарэўся цэнтр горада. Гарэла «Нірвана», крамы і цэлы шэраг жылых дамоў у кірунку ракі Лідзеі. Пажар тушылі добраахвотныя пажарныя дружыны, пажарныя службы абодвух лідскіх палкоў і чыгункі, прыехалі нават пажарныя машыны з Гродна. Недалёка ад месца пажару натоўпы пагарэльцаў, якія страцілі ўсю маёмасць, стварылі сапраўдны бівак. Да 20.00 агульнымі намаганнямі пажар лакалізавалі. Галоўнай цяжкасцю быў недахоп вады, якую даводзілася падвозіць з Лідзеі, бо толькі гродзенскія пажарныя мелі адмысловы шланг даўжынёй у 300 м і наўпрост пампавалі ваду з ракі. Агонь гарэў да вечара наступнага дня. У час пажару загінуў жаўнер 5-га лётнага палка Ян Валюкевіч, былі цяжка параненыя добраахвотныя пажарныя Кацэнеленбоген, Баярскі, Лебедзь і Вацлаў Мілан з Гродна.

Згарэлі дамы №№ 54, 56, 58, 60 па вуліцы Сувальскай (належалі Фларэнтыну Длускаму, Бералю Дваржэцкаму, Фруме і Гіршу Таўшынскім) і шмат дамоў у бок ракі Лідзеі, згарэлі кінатэатр «Нірвана» і шмат крам і складоў: гарэлачны склад Міхала Баркоўскага, крама капелюшоў Ядвігі Яўген, піўярня Макса Левіна, піўярня Антона Ляховіча, галантарэйная крама Якаба Брэма, склады «Сельскагаспадарчага сіндыката», рымарня Чайкоўскага, склады мануфактуры Якуба Вінера, крама шкла Абрама Флякса, крама швейных машын «Зінгер», памяшканне Таварыства польскіх купцоў.

Страты ад пажару ў цэнтры горада склалі 712 000 злотых. Найвялікшыя страты панёс Длускі, уладальнік дамоў №№ 56 і 58, – каля 500 000 злотых, пры

тым што гэтыя дамы былі застрахаваны толькі на 145 000 злотых. Кінатэатр «Нірвана» меў страты ў 15 000 доларaў, Якаб Вінер – 40 000 злотых, Юзаф Гальперын – 35 000 злотых, уладальнік «Нірваны» Яблонскі асабіста – 18 000 злотых. Тое, што страты «Нірваны», у адрозненне ад іншых, пазначаны ў доларах, можа казаць пра кошт апаратуры і рэканструкцыі будынка пасля пераходу кінатэатра на гукавы фармат.

Праз нейкі час на месцы кінатэатра «Нірвана» быў збудаваны больш сучасны кінатэатр «Эра», які меў найбольшую глядзельную залу ў Лідзе – 450 м2 і 610 месцаў («Эдысан» меў 300 м2 і 250 месцаў). Гаспадарамі кінатэатра з'яўляліся Юльян і Менард Тамашэвічы – родныя пляменнікі ўладальніка дома № 58 па вуліцы Сувальскай Фларэнтына Длускага. Праўдападобна, кінатэатр пачаў працаваць у 1935 г.

Лідзянін Анатоль Кулеш расказваў: «Кінатэатр "Эра" адразу здзівіў сваім інтэр'ерам. У холе на сценах ад столі да падлогі былі прымацаваны люстэркі. З-за гэтага адбываліся розныя выпадкі, бо яны стваралі аптычны эфект вялікага хола і вялікай колькасці наведвальнікаў».

Міжваенныя кінатэатры былі сапраўднымі цэнтрамі не толькі культурнага, але і грамадска-палітычнага жыцця. Уладальнікі кінатэатраў абавязаны былі прадастаўляць глядзельныя залы па зніжанай цане ці бясплатна для сходаў разнастайных грамадскіх палітычных арганізацый, таварыстваў, партый і г. д.; напрыклад, у 1936 г. падчас знакамітай лідскай забастоўкі кінатэатр «Эра» выкарыстоўваўся для сходаў і мітынгаў рабочага актыву, а штрэйкбрэхераў, каб арганізаваць свой прафсаюз, сабралі на мітынг у кінатэатр «Маленькае»; пісьменнік Путрамант пісаў, што з'явілася каля 30 чалавек. 2 мая 1937 г. у кінатэатры «Эдысан» у межах тыдня асветы працоўных чыталі лекцыю пра шубраўцаў і інтэлектуальныя рухі ў Вільні першай паловы XIX стагоддзя.

У 1930-я, як і ў 1920-я гг., у кінатэатрах горада праходзілі гастролі тэатральных труп. Напрыклад, 20 жніўня 1936 г. у кінатэатры «Эра» выступала знакамітая трупа Віленскага гарадского тэатра. Гралася лёгкая эратычная камедыя ў трох актах «Каханне ўжо не ў модзе». На пачатку 1937 г. «Кур'ер Віленскі» пісаў: «...у Лідзе працуюць тры кінатэатры: два меншыя і адзін пад назвай "Эра" з вялікай залай на 750 месцаў. Калі ў Ліду завітвае выязны віленскі тэатр ці ансамбль "Рэдута" з новым рэпертуарам – зала кінатэатра бывае нават перапоўнена публікай. Санітарныя нормы патрабуюць, каб у такіх месцах былі публічныя туалеты, а ў гэтым кінатэатры туалеты ад пачатку яго эксплуатацыі заўжды "на рамонце". Такія адносіны кіраўніка кінатэатра "Эра" Тамашэвіча да санітарных норм не могуць не здзіўляць грамадскасць. Трэба, каб ён адказаў нарэшце, калі закончыцца гэты вечны рамонт туалетаў».

Праз некалькі нумароў дырэкцыя кінатэатра адказала рэдакцыі: «Рамонт туалетаў даўно закончаны, але з-за маразоў размёрзліся водаправодныя трубы, і туалеты былі зачынены. Аднак падчас гастроляў тэатральных труп туалеты былі чынныя. Зараз туалеты таксама працуюць». У тым жа нумары друкуецца аб'ява аб гастролях з 1 сакавіка 1937 г. віленскага тэатра пад кіраўніцтвам вядомай артысткі і заснавальніцы тэатра Ніны Младзеёўскай-Шчуркевіч: «У кінатэатры "Эра" ў 16 гадзін будзе паказана камедыя Стэфана Кедрынскага "Замужняя панна", у 20.30 – п'еса Самерсэта Маэма "Святы прамень"».

У тую ж вясну, у красавіку, выязны віленскі тэатр дэманстраваў у «Эры» камедыю Якуба Дэвала «Стэфак» і камедыю Стэфана Кянджынскага «Стары кавалер». А ў маі варшаўскія артысты ў кінатэатры «Эра» паказалі тэатральную

камедыю «Цётка Караля»; у ролі цёткі – знакаміты кінаартыст таго часу Яўген Бадо. Пра выступленне знанага Яўгена Бадо[2] пісаў адзін з гледачоў, былы лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч: «Запомніў яго аднак не ў гэтай тытульнай для яго ролі, а падчас шпацыру па Сувальскай у таварыстве асістэнтаў. Паводзіў сябе вельмі свабодна, бесклапотна і са сваім прыроджаным шармам адорваў мінакоў артыстычнай усмешкай».

У жніўні 1938 г. у кінатэатры «Эра» выступала тады ўжо славутая Іда Камінская[3] са сваёй камандай (квіткі прадаваліся ў цукерні «Амерыканка»).

Наогул практычна кожны тыдзень у кінатэатры «Эра» акрамя паказу кіно адбываліся культурныя імпрэзы ці грамадскія мерапрыемствы.

Летам 1939 г. у кінатэатры «Эра» змяніўся дырэктар: замест К. Тамашэвіча пачаў працаваць Ежы Длускі, які для гэтага адмыслова пераехаў жыць у Ліду.

Кіно ў горадзе было такое папулярнае, што на пачатку 1939 года ў гарадской управе «падчас штэмпелявання было скрадзена 48 квіткоў у «Эру». Аднак кантралёр кінатэатра Рулько падчас праверкі квіткоў вызначыла тры крадзеныя. Дырэктар Длускі заявіў у паліцыю».

[2] Сапраўднае імя і прозвішча – Багдан Эжэн Жуно (па-польску Eugeniusz Bodo; 1899–1943) – польскі кінаакцёр, эстрадны артыст, рэжысёр, сцэнарыст, танцор, спявак, канферансье і прадзюсар.

З 1917 г. пачаў выступаць у якасці спевака і танцора на сцэне Познанскага, а з 1919 г. – Варшаўскага рэвю ў вядомых сталічных кабарэ.

У 1925 г. дэбютаваў у кіно, зняўшыся ў фільме «Rywale», і з гэтага моманту пачаў заваёўваць у гледачоў велізарную папулярнасць. Усяго Бадо выканаў ролі больш чым у 30 фільмах. Выступаў на экране ў ролі герояў-палюбоўнікаў, здымаўся ў трагічных, камедыйных і музычных фільмах. Стаў зоркай польскага кіно міжваеннага перыяду. Валодаючы добрым голасам, часта спяваў у фільмах – і яго песні адразу ж станавіліся шлягерамі. У 1932 г. ён атрымаў тытул неафіцыйнага караля польскіх акцёраў, а ў 1936 г. – караля стылю.

Незадоўга да пачатку Другой сусветнай вайны пачаў пісаць кінасцэнарыі і рэжысіраваць фільмы, у якіх ён граў галоўныя ролі.

Увесну 1939 г. адкрыў у Варшаве прэстыжнае «Кафэ Бадо». Падчас нападу немцаў на Польшчу і абароны Варшавы арганізоўваў канцэрты для салдат і грамадзянскага насельніцтва сталіцы. У час нямецкай акупацыі, калі тэатры і кінакампаніі Варшавы былі зачынены, яго кафэ працягвала працаваць, у асноўным з мэтай матэрыяльнай падтрымкі іншых вядомых польскіх артыстаў.

Неўзабаве пераехаў у Львоў. Свабодна валодаючы рускай мовай, уладкаваўся канферансье і пачаў выступаць у тэатральным калектыве «Тэа-джаз» Генрыка Варса, рабіў грамзапісы сваіх песень на рускай мове (запісы захаваліся).

Гастраліраваў па СССР. Пасля вяртання з адной з паездак па Саюзе вырашыў эміграваць у ЗША і падрыхтаваў неабходныя для гэтага дакументы. У чэрвені 1941 г. быў арыштаваны НКУС. Утрымліваўся некаторы час у перасыльных турмах Уфы і Масквы. Наконт яго вызвалення безвынікова завіхаліся польскія эміграцыйныя ўлады. Пасля Масквы быў адпраўлены ў лагер у Котласе, дзе, паводле архіўных звестак, памёр ад знясілення і голаду 7 лістапада 1943 года.

У 1938 г. Я. Бадо быў узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі з мячамі.

2 кастрычніка 2011 г. у Котласе на мемарыяльных могілках «Макарыха» быў адкрыты помнік Я. Бадо.

[3] Іда Камінская (Ida Kaminska, 1899–1980) – польская актрыса. Нарадзілася ў Адэсе 18 верасня 1899 г. у сям'і акцёраў яўрэйскага тэатра (на мове ідыш). Яе маці Эстэр-Рухл Камінская была знакамітай актрысай, бацька – Аврум-Іцхак Камінскі – тэатральным акцёрам, рэжысёрам і прадзюсерам. Іда была сястрой музыканта Юзафа Камінскага і стрыечнай сястрой акцёра Дэні Кея. Тэатральную кар'еру пачала ў 1904 годзе ва ўзросце пяці гадоў. На кінаэкранах дэбютавала ў 1912 г. у польскім фільме, дзе таксама здымалася яе маці і сястра. За ўсю сваю кінакар'еру з'явілася толькі ў 11 фільмах, і толькі адзін з іх зрабіў яе вядомай. У 1965 г. Камінская знялася ў чэхаславацкім фільме «Крама на плошчы», роля ў якім прынесла ёй у 1966 г. намінацыю на прэмію «Оскар» у якасці лепшай актрысы.

Іда Камінская была ўганаравана шэрагам нацыянальных польскіх узнагарод, у ліку якіх ордэн Адраджэння Польшчы 4-й ступені, ордэн «Сцяг Працы» 1-й ступені, ордэн «Сцяг Працы» 2-й ступені, медаль «10-годдзе Народнай Польшчы» і медаль «1000-годдзе Польшчы».

Апошні раз у кіно яна з'явілася ў 1970 г., пасля чаго працягвала тэатральную кар'еру, шмат гастралюючы па свеце. Іда Камінская памерла ў Нью-Ёрку 21 мая 1980 г. ад сардэчна-сасудзістай хваробы.

Увогуле кінапракат у той час быў добра развіты, што адлюстроўваюць наступныя лічбы: за другі квартал 1939 г. у Наваградскім ваяводстве, часткай якога была Ліда, прайшло ў пракаце 216 фільмаў польскай вытворчасці і 251 замежны фільм (у першым квартале таго ж года – 209 польскіх і 249 замежных).

22–23 чэрвеня 1941 года пасля бомбавых удараў і пажараў культурна-гістарычны цэнтр горада перастаў існаваць. Будынак кінатэатра «Эра» згарэў і не быў адноўлены. Дом, у двары якога ён знаходзіўся, згарэў таксама, але падчас вайны ў яго сценах мясцілася кухня, што карміла яўрэяў лідскага гета, калі яны пад канвоем выконвалі работы па разборцы згарэўшага цэнтра горада. Таму гмах не быў разабраны і быў адноўлены толькі пасля вайны.

Зараз гэта дом № 16 па вуліцы Савецкай. У гэтым будынку пасля невялікага рамонту адразу пасля 1945 г. пачаў працаваць гарадскі кінатэатр. Лідзянка Ларыса Канчэўская ўспамінае: «У маім дзяцінстве тут быў кінатэатр з глядзельнай залай на другім паверсе. Пасля сеанса гледачы спускаліся з боку двара па арматурнай, стромкай, амаль пажарнай лесвіцы. Памятаю, я, першакласніца, там упершыню была з татам. Мы глядзелі фільм «Адмірал Ушакоў». Было вельмі нязручна ў цеснай зале з нізкай столлю, дзе стаялі масіўныя квадратныя калоны, якія вельмі перашкаджалі глядзець фільм. І падлога там была без узвышша, хлапчукі сядзелі на спінках крэслаў – проста бяда! Я палову фільма не бачыла, а толькі чула, нават плакала ад незадаволенай цікаўнасці».

Лідзянін Зіновій Бянько расказаў мне, што пасля Другой сусветнай вайны «насупраць сучаснага дома 16 стаяў піўны кіёск і тумба для расклейвання афіш. На месцы былога Дома культуры [будынак знесены ў 2010 г.] раней быў кілбасны цэх, ад яго пасля вайны засталіся толькі сцены. З гэтых сцен у 1950-я гг. і пачалі будаваць Дом культуры».

Пра кінатэатр 1950-х гг. у д. № 16 Бянько паведаміў: «…з усходняга боку будынка была прымацавана драўляная лесвіца і па ёй мы хадзілі ў кіно. Унутры не было крэслаў, а стаялі звычайныя лаўкі з дошак. Трафейныя фільмы паказвалі. Дом культуры тут будавалі вельмі марудна. Я прыйшоў сюды, калі за сцэнай меўся толькі адзін пакой – грымёрка. Дом культуры яшчэ будаваўся, і мы яго ганарова адчынялі. На адкрыцці мы давалі сваім самадзейным калектывам канцэрт. Выканалі 16 песняў – усе было ў выглядзе мантажу. Стаялі па краях два чытальнікі – Пеця Паварга і Пеця Радкевіч – сапраўдныя самародкі, выдатныя дэкламатары. А потым у фае быў банкет і там мы весяліліся. Потым тут пачалі працаваць гурткі... У горадзе было толькі тры музыканты. За (домам № 16) каля тэхнікума і зараз стаіць малы будыначак – мы здавалі тут малако. А вось гэта – былая вячаровая школа (зараз вуліца Таўлая, 3)».

Гісторыя першага лідскага кінатэатра цягнулася да канца 1950-х гадоў.

У 1955 г. адчынены кінатэатр «Кастрычнік», і будынак па Савецкай, 16 рэканструявалі, на першым паверсе размясцілі дзіцячую бібліятэку і некалькі крам, на другім – гарадскую бібліятэку.

Каля дома № 58 ад вуліцы Віленскай (Сувальскай) на ўсход адыходзіла вуліца Лідская (сучасная Таўлая). Гэта вуліца вяла да вёскі Раслякі. На пачатак ХХ ст. вёска Раслякі мела 61 жыхара з 123 дзесяцінамі зямлі. У 1929 г. тут 11 жылых хат.

У верасні 1931 г. падпаручнік 5-га лётнага палка Казімір Кузьніцкі вечарам вяртаўся з Раслякоў у свой полк і быў цяжка паранены некалькімі кулямі з рэвальвера. Прэса пісала, што, верагодна, гэта была асабістая помста падпаручніку, як кажуць, cherchez la femme... [шукайце жанчыну, фр. – Л. Л.]




Вуліца Лідская ў 1930-я гг.



Кааператыўныя дамы па вуліцы Лупава. Здымак 1967 г.

У красавіку 1936 г. ваяводская ўправа зрабіла ўнёсак у Міністэрства ўнутраных спраў аб пашырэнні межаў Ліды праз далучэнне вёскі Раслякі. Тады ж газета «Кур'ер Віленскі» пісала, што «вёску Раслякі аддзяляе ад горада рака Лідзейка. Мост на рацэ замалы, але ні гарадскія ўлады і ні самакіраванне вёскі яго не рамантуе. Жыхары Раслякоў напісалі калектыўнае пісьмо павятовым уладам пра тое, што неабходна пабудаваць новы мост».

Пасля далучэння да Ліды вёскі Раслякі вуліца Лідская мела вялікае значэнне для горада, бо была адзінай артэрыяй, якая злучала новы раён Раслякі з горадам. «Аднак стан вуліцы і ходнікаў вельмі дрэнны, вялікія лужыны знікаюць тут толькі падчас засух».

У 1939 г. гарадскія ўлады пачалі будаваць бетонны мост па вуліцы Лідскай праз раку Лідзейку.

Забудова гэтага мікрараёна пяціпавярховікамі пачалося разам з будаўніцтвам лакафарбавага завода. У 1966 г. па вуліцы Лупава з двухпавярховых дамоў быў пабудаваны кааператыў горада № 1, у кожным доме меліся чатыры двухузроўневыя трохпакаёвыя кватэры з кухняй і каморай. 1 верасня 1972 г. пачала працаваць новая 8-я школа.

# Школа і гімназія піяраў

Пойдзем па вуліцы Віленскай далей на поўнач.

У першай трэці XVIII ст. у Лідскім павеце з'явіліся піяры. У 1756 г. па прапанове лідскага старасты Ігната Сцыпіёна піярскі калегіум, які быў створаны ў 1730 г. у Воранаве, перанеслі ў Ліду. Мясцовая шляхта ахвяравала піярам фальварак Пастаўшчыну і юрыдыку ў Лідзе.

Юрыст і гісторык, піяр, ксёндз Мацей Догель, лідзянін па паходжанні і хатні настаўнік лідскіх старастаў Сцыпіёнаў, першым падаў думку перанесці верэнаўскі калегіум «у шляхетны каралеўскі горад Ліду». І ў 1756 годзе па прапанове лідскага старасты Ігнація Сцыпіёна піярскі калегіум, створаны ў 1730 годзе ў Воранаве, быў перанесены ў Ліду. Верагодна, менавіта ў Лідзе, а не ў Воранаве 12 снежня 1756 года стараста ў прысутнасці Францішка Александровіча, пісара земскага, і Самуэля з Кастравіц Кастравіцкага, пісара лідскага гродскага, падпісаў акт пераносу, які пакідаў воранаўскі касцёл піярам і замацоўваў за гэтай рэзідэнцыяй фундушовую суму ў 20 000 злотых, забяспечаных маёнткам Мерач Франскевічаўская. Астатнія ж фундушы пераносіліся на лідскі калегіум, прычым Сцыпіён дадаў яшчэ свой пляц у Лідзе каля вуліцы Віленскай, набыты ў 1749 годзе ў Людвікі Гадэмбскай, пінскай стольнікавай. Таксама ва ўласнасць калегіума ён запісаў яшчэ свой фальварак Асава Лапацінская. Летам таго ж года піяры пераехалі ў Ліду і першапачаткова спыніліся ў драўляным будынку шынка, які знаходзіўся на іх пляцы. Па легендзе павесіць школьны званок на карчму прапанаваў бургамістр горада.



Касцёл піяраў са званіцай і двухпавярховы будынак купецкай гімназіі (злева)



340. Lida, kościół Pijarów. Pomiar T. Tyszeckiego, 1842. Elewacja pn.



339. Lida, kościół i klasztor Pijarów. Pomiar T. Tyszeckiego, 1842. Rzut założenia.

Планы касцёла піяраў пасля пажару 1842 г.

Як бы там ні было, але піярская школа адразу пачала працаваць, сюды пераехала большасць вучняў з Воранава, агульнай колькасцю каля 50 чалавек. Таму адразу паўсталі і старэйшыя класы. Узначальваў кляштар і калегіум рэктар. Навучальна-выхаваўчым працэсам у калегіуме кіравалі прэфекты.

А ў 1758 г. тут ужо стаяў драўляны будынак школы і невялікі касцёл Св. Юзафа Каласантага. На працягу трох наступных гадоў быў пабудаваны драўляны кляштар на 12 законнікаў.

Пляц піяраў павялічваўся праз далучэнне двух суседніх пляцаў – адзін ахвяраваў Юзаф Барымоўскі, суддзя земскі лідскі, другі піяры абмянялі з уладальнікамі Воранава Францішкам і Дамінікам Аляксандравічамі, на пляц у гэтым мястэчку. У выніку пляц піяраў працягнуўся на ўсход ажно да рэчкі Лідзейкі.

У 1762 г. лідскія піяры атрымалі ад Аўгуста III зацвярджэнне фундушоў, а ў 1774 г. – ухвалу сейма на нованабытую маёмасць. Для ўтрымання кляштара і школы ў фундуш былі запісаны фальварак Лапацішкі, наданы Сцыпіёнам дэль Кампа, вёска Віскунцы і фальварак Пастаўшчына з вёскай Расլякі, купленыя ў 1778 г. у Тамаша Умястоўскага, рэгента земскага лідскага.

Піяры ў той час атрымлівалі грашовыя ўнёскі ад розных ахвярадаўцаў. У 1762 г. яны атрымалі запіс на 7 000 зл., які за пазыку ў 1773 г. быў перададзены Аляксандру Міхалу Сапегу, атрымлівалі працэнты ад 15 000 зл., прынялі 10 000 зл. ад Ганны Агінскай з Юдыцкіх. На пабудову мураванага кляштара ў 1781 г. ад Тамаша і Бенядзікта Мігдалаў атрымалі 1000 зл. гатоўкай і працэнты ад 10 000 зл., а ў 1789 г. на пабудову новага мураванага касцёла – 20 000 зл. ад Ежы Адамовіча, суддзі земскага лідскага. Толькі атрымаўшы ўсе неабходныя фінансавыя рэсурсы, у 1792 г. піяры пачалі будоўлю мураванага кляштара.

Вядома, што лідскі староста Юзаф дэ Кампа Сцыпіён чынна выступаў супраць таргавічан і расійскіх войскаў, ажно да апошніх дзён бараніў вольнасць і незалежнасць Рэчы Паспалітай, а падтрыманыя ім лідскія і шчучынскія піяры верна дапамагалі свайму пратэктару і таму выклікалі супраць сябе пераслед акупантаў. Рускае войска для сваіх мэтаў час ад часу забірала школу, ціснула піяраў рэквізіцыямі і нават адзін раз забрала піярскі касцёльчык пад ваенную царкву. Зразумець, як лідскія піяры аднесліся да інкарпарацыі Рэчы Паспалітай у Расею, можна з загаду расейскага генерал-губернатара Літвы Рапніна ад 1 красавіка 1795 г.: «…у горадзе Лідзе 19 мінулага сакавіка месяца па новым стылі піяр, названы Лаўрынец [Ваўжынец – Л. Л.] Адамовіч, адважыўся ў пропаведзі замест павучання закону Божаму, супраць правілаў евангельскіх і апостальскіх і насуперак сваёй прысязе, непрыстойна ганьбіць паводзіны гасудароў і ўмешвацца ў справы палітычныя, якія да духоўнага сану і закону Боскага не належалі; за такую дзёрзкасць той не варты свайго сану манах быў узяты пад варту і пазбаўлены свайго месца, ён будзе за гэта злачынства пакараны па ўсёй строгасці законаў». Разам з манахам Адамовічам быў узяты пад варту і рэктар лідскага вучылішча Фларыян Крушэўскі, але «пасля разгляду справы высветлілася, што ён бязвінны бо не ведаў, што такую пропаведзь той манах казаць будзе: таму гэты Крушэўскі адпушчаны без усялякага спагнання, хоць ён і знаходзіцца не на сваім месцы з-за слабага ўтрымання падначаленых, ад чаго і адбылася такая дзёрзкасць, гэтак жа вінаваты і ў тым, што супраць сваёй прысягі адразу не прыняў залежных ад яго мер да спынення падобнага злачынства і не паведаміў пра яго, куды трэба».

**Першы тэатр у горадзе**. Дакументы калегіума даюць нам інфармацыю пра існаванне ў горадзе школьнага тэатра. У 1771 г. у віленскай друкарні піяраў кніжкай на 22 старонкі была надрукавана п’еса прэфекта калегіума Антона Мікуцкага, у якой ён высмейваў скаргі на недасканаласць сучаснага сусвету. 4 ліпеня 1772 г. лідскі тэатр паставіў яшчэ адну трагедыю гэтага ж аўтара, яна была прысвечана Юзафу Пацу[1]. У 1779 г. творы некалькіх лідскіх піяраў – Міхала Харкевіча, Міхала Аляхоўскага і іншых патрапілі ў зборнік панегірыкаў, выдадзеных у Вільні, у гэтым жа зборніку вядомы віленскі піяр Феліцян Выкоўскі славіў лідскага старасту Сцыпіёна.

Тэатральная дзейнасць піяраў – цікавы эпізод гісторыі нашага горада.

[1] Юзаф Пётр Пац (1736–1797) – дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, генерал-маёр літоўскіх войскаў (1757), з 1758 года або раней – генерал-ад’ютант, староста вілейскі. Удзельнік паўстання 1794 г. Уладальнік маёнтка Ражанка, цяпер – Шчучынскі р-н.

* * *

У канцы XVIII стагоддзя найлепшым будынкам Ліды лічыўся недабудаваны яшчэ піярскі калегіум. Ён служыў месцам, дзе спыняліся розныя высакародныя асобы. Так, вядома, што ў 1797 г. цар Павел І рабіў агляд «новадалучанага да Расіі краю». Разам з ім наш край аглядалі вялікія князі Аляксандр і Канстанцін і вышэйшыя расійскія саноўнікі: Аляксандр Безбародка, Фёдар Растапчын, Дзмітры Трашчынскі, Грыгорый Кушчалеў[2], Аркадзь Нялідаў, флігель-ад'ютант, князь Галіцын, Кутузаў, Нелядзінскі, Пётр Абрэшкаў, Аляксей Аракчэеў і асобы світы. Усе гэтыя асобы перанachавалі ў Лідзе.

Пра той начлег у Лідзе апавядае ў сваіх запісах рэктар піяраў ксёндз Вайшвіла: «Павел І, агледзеўшы літоўскія правінцыі, 16 мая 1797 г. прыбыў у Ліду. Начаваў разам з вялікімі князямі Аляксандрам і Канстанцінам у тутэйшым калегіуме і пакінуў пасля сабе добрую памяць – ахвяраваў на касцёл 5 000 рублёў. Займаў тры пакоі на другім паверсе. Сам адпачываў у тым, у якім дзверы насупраць большага калідору, якім уваходзяць з нізу, каля яго пакоя, з правага боку, у кутнім пакоі адпачываў вялікі князь Аляксандр, а з левага – вялікі князь Канстанцін. Удзячныя піяры зрабілі памятную дошку, якая была галоўнай асаблівасцю і аздобай гэтай пабудовы. Авальная тарча з дрэва была прымацавана на калідоры над дзвярамі пакоя, дзе адпачываў цар, на тарчы меўся надпіс залатымі літарамі.

Гэта дошка згарэла пры пажары 1842 г.

Цар вырашыў даць грошы для заканчэння пабудовы мураванага касцёла і запытаў гаспадара: "Колькі на гэта трэба?". Той, парадзіўшыся з калегамі і каб не прасіць болей, указаў суму ў 5 000 рублёў. Адразу найяснейшы пан уласнай рукой напісаў цыдулку да падскарбія...».

Цікавая далейшай гісторыя царскіх грошай. Падскарбі згадзіўся выплаціць грошы, толькі калі ён атрымае з гэтай сумы хабар у 100 рублёў. Піяры адмовіліся даваць хабар і тады з'явілася другая праблема – цар меў на ўвазе 5 000 рублёў золатам, але не ўказаў гэта ў цыдулцы (4 рубля асігнацыямі тады былі роўны 1 рублю золатам). Пакуль піяры шукалі тлумачэння, цара Паўла І забілі, і ім прыйшлося задаволіцца асігнацыямі. Вось такой можа быць царская ласка.

Вайшвіла пісаў і пра другі царскі начлег у лідскіх піяраў: «У часы пабудовы касцёла пануючы цар Аляксандр І наведаў калегіум і выказаў нам сваю ласку. Як мне расказваў кс. Антон Паеўскі, які сам тады быў вучнем школы, адбылося гэта ў маі 1802 г. Найяснейшы пан адпачываў у зале над сталовай, якая апрача іншых упрыгожанняў, была высыпана ружамі (у маі?), а калідор рознымі іншымі кветкамі».

Акрамя таго, ксёндз Вайшвіла, не падаючы даты, коратка піша пра яшчэ аднаго госця піяраў у той час: «Кніга агульных здарэнняў горада, пачатая ў 1793 г., не змяшчала нічога, акрамя адной ведамасці, што аўстрыйскія эрцгерцагі ў свой прыезд з Вены ў Пецярбург на адваротным шляху бавілі час і балявалі ў тутэйшым калегіуме»[3].

Гасцілі ў піяраў не толькі цары, але і прыезджыя павятовыя дыгнітарыі, напрыклад, 3 лютага 1800 г. была «склікана сесія каб вырашыць, што рабіць з лекцыямі падчас сейміка, бо адзіная школа была занятая панам падкаморым, і ці

[2] Грыгорый Грыгоравіч Кушаль (1754–1883) – адмірал, граф, фактычны камандуючы расійскім ваенным флотам у эпоху Паўла І.

[3] У 1798 г. у Пецярбург прыбылі браты імператрыцы Марыі Фёдараўна (жонкі імператара Паўла) Фердынанд і Аляксандр (яны служылі ў аўстрыйскай арміі). Зацікаўленая ў саюзніку Аўстрыя прапаноўвала заключыць саюз супраць Напалеона, а для ўмацавання саюзу заключыць шлюб паміж Аляксандрай Паўлаўнай (дачка імператара Паўла) і эрцгерцагам Іосіфам, братам імператара Франца.

маюць вучні бываць на сесіях?». Аднак такія пастоі звычайна прыносілі грошы ад гасцей. Значна больш цяжкімі былі вайсковыя пастоі. Руская армія не рабіла ніякіх паслабленняў для школьных ці кляштарных будынкаў, а таксама і для памяшканняў, у якіх жылі вучні. Ужо падчас першага побыту рускага войска 18 мая 1793 г. было «склікана пасяджэнне школьнай рады з прычыны раскватаравання рускага войска ў пакоях вучняў... Бо жаўнеры ў вучнёўскіх пакоях робяць перашкоду, і трэба, каб прэфект паразмаўляў пра гэта з палкоўнікам».

Наогул, умовы існавання школы ў Расійскай Імперыі былі цяжкімі. 14 кастрычніка 1799 г. зроблены такі запіс у «Дзеях лідскіх піяраў»: «...пасля заняцця школы пад царкву для палка Эсэна 2-га, лекцыі пачалі даваць з вялікім перапынкам, прэфект пытаўся, ці не лепей было адмяніць лекцыі па палову тыдня? Аднагалосна з гэтым пагадзіліся, лічачы гэта эканоміяй часу». Ксёндз-рэктар Вайшвіла дадае да гэтай інфармацыі наступнае: «...праваслаўны вайсковы капелан адправіў набажэнства ў піярскім касцёле, не пытаючыся пра дазвол, наш рэктар быў абвінавачаны біскупам у тым, што ён гэта дапусціў, і таму зняты з пасады».

22 кастрычніка 1803 г. «на агульным сходзе абмяркоўвалася, як зрабіць так, каб дом, прызначаны для летняй адукацыі і гвалтоўна забраны гарадской камандай, быў вернуты. Ухвалілі: падаць просьбу да гараднічага Ліды пра падпаручніка Мернага, які супраць указаў манарха аб каталіцкім духавенстве, якія вызвалялі ад пастояў усе памяшканні законаў і асабліва памяшканні, прызначаныя для адукацыі, 21 дня прыйшоў з жаўнерамі і дзясятнікамі і гвалтоўным чынам забраў школьны дом, замкі пазбіваў, кафедры і лаўкі з класаў павыкідваў». 26 таго ж кастрычніка «кс. прэфект сабраў сход, каб абмеркаваць адбор школы вайсковай камандай... Школьны сход неаднаразова звяртаўся да васпана выконваючага абавязкі гараднічага, камісара лідскага Ельца, але не дачакаўшыся ягонага выраку па справе аб заняцці школьнага дома, пастанавіў: даслаць рапарт да Імператарскага Віленскага ўніверсітэта». Але не дапамог і рапарт да ўніверсітэта, 22/24 мая 1804 г. візітатар эзопавым стылем запісаў: «Пад палкавую капліцу забраны школьны дом, таксама за правіну пошуку дапамогі ва ўніверсітэце робяцца перашкоды і забрана бюро».

Падобна, мясцовыя ўлады нават змагаліся з піярскай школай. 15 красавіка 1806 г. «была сабрана сесія, каб абмеркаваць свае паводзіны з васпанам гараднічым Каралінам з-за гвалтоўнага, супраць указу імператара, прымусу распусціць на час вучняў і каб яны пакінулі свае пакоі. Ухвалілі: як хутчэй даслаць аб гэтым здарэнні рапарт у Галоўную Школу [Віленскі ўніверсітэт. – Л.Л.]». Універсітэт дапамог праз чатыры гады, толькі 25 мая 1810 года візітатар пісаў: «Дзякуючы дапамозе ўніверсітэта школа вызвалена ад павіннасці пастою ў кляштары і школе».

У 1803 г. піярскі калегіум ператвораны ў 4-класную павятовую вучэльню, але арганізацыя вучэбнага працэсу і праграма навучання пры гэтым не змяніліся, і піяры па-ранейшаму лічылі яе сваёй справай.

У 1799 г. рэктарам калегіума стаў кс. Себасцьян Дамброўскі – лепшы архітэктар сярод піяраў таго часу. З дазволу ўлад у 1800 г. пачалося будаўніцтва муравана касцёла, у 1801 г. сцены ўзняліся на палову праектаванай вышыні, яшчэ за некалькі гадоў сцены ўдалося ўзняць да ўзроўню гзымсаў. А ў 1805 г. будаўніцтва спынілася з-за недахопу грошай.

Будаўніцтва касцёла аднавілася ў 1817 г., гэта справа капітулам ордэна піяраў была даручана таму ж самаму кс. Дамброўскаму, у той час – ваверскаму пробашчу. Ён «зрабіў з лапацінскіх лясоў рыштаванні і дах, прыступіў да адбудовы муроў. Але ў гэты момант здарылася наступнае: чыноўнік Чаховіч патраба-

ваў, каб яму былі пазычаны значныя грошы, але, вядома, без вяртання. Рэктар, маючы вялікую патрэбу ў грошах гатоўкай, не мог даць чыноўніку «ў лапу». Пакрыўджаны чыноўнік цішком паскардзіўся ўладам, што піяры нішчылі казённы лес, у якасці доказу ўказаў на стосы лесу каля касцёла. У выніку піяры заплацілі больш за 300 рублёў срэбрам штрафу. Хутка рэктар памёр. Таму ў 1819 г. будаўніцтва зноў спынілася.

Яшчэ доўга набажэнствы адбываліся ў драўляным касцёле, пра які ў візітацыі 1820 г. пісалася, што ён «годны толькі для руйнавання». Наступныя 5 гадоў набажэнствы праходзілі ў трапезнай, якая з дазволу Віленскага біскупа была пераробленa ў капліцу і мела 3 алтары, перанесеныя сюды з драўлянага касцёла.

У 1820 г. новым рэктарам абраны кс. Каласанты Санкоўскі, ён прадоўжыў будаўніцтва. Рэктар нарыхтаваў неабходныя матэрыялы і заключыў з яўрэем з Расіенаў Лейзарам Давыдавічам Цясельскім кантракт на дабудаванне і атынкоўку муроў. Працы пачаліся ўвесну 1823 г. і былі закончаны ў 1824 г., што дазволіла заняцца абсталяваннем храма. Старыя алтары былі малыя і не падыходзілі ў новы храм, але, не маючы грошай, рэктар вырашыў устанавіць іх і закрыць вялікімі абразамі, выкананымі ў 1824–25 гг. мясцовым мастаком Глыбоўскім. Дзеля эканоміі сродкаў усталявалі старыя арганы з піярскага касцёла ў Віцебску.

Касцёл асвечаны 4 ліпеня 1825 г. літоўскім біскупам-правінцыялам Ізідарам Сяклюцкім.

Пасля паўстання, у 1832 г., касцёл піяраў меў цяжбу з лідскім гараднічым.

З дакладу чарговага рэктара Язафата Вайшвілы ад 1831 г. да біскупа бачна, што будаўнічыя працы зроблены няякасна, будынак мае патрэбу ў істотным рамонце гзымсаў, а дрэнна пабудаваны порцік (ганак) патрэбна разабраць і пабудаваць нанава. Таму новы рэктар у 1836–37 гг. правёў грунтоўны рамонт касцёла. У 1838 г. быў адрамантаваны кляштар: дах пакрыты новай гонтай, часткова памяняны вокны, зроблены ўнутраны рамонт, усё пафарбавана алейнай фарбай.

Кляштар складаўся з касцёла, арыентаванага фасадам да вуліцы Віленскай і злучанага з усходняга боку з двухпавярховым кляштарам, які меў два крылы: фасадам на поўнач і фасадам на ўсход, усходняе крыло мела рызаліт[4], у якім на другім паверсе была трапезная, а на першым зала капітулы. У 1831–32 гг. ад вуліцы і з паўднёвага боку пабудавана мураваная агароджа, якая складалася з квадратных слупоў, злучаных кратамі. Каля кляштара ў 1837 г. была пабудавана драўляная званіца. На поўнач ад кляштара знаходзілася драўляная школа, а на ўсход – драўляная жылая афіцына (флігель), гаспадарчыя пабудовы, а далей, ажно да ракі Лідзейкі, ляжаў падзелены дзвюма алеямі гарод і сад.

Указам ад 3 студзеня 1834 года была заснавана вучэльня для мяшчан у Лідзе і зацверджаны штаты. Але ўжо 22 лістапада 1835 года вучэльня была скасавана і ператворана ў «пяцікласную павятовую для шляхты вучэльню».

У нядзелю, 23 жніўня 1842 года, пажар знішчыў дах і купал касцёла піяраў, значна пашкодзіў жылыя будынкі і знішчыў усе драўляныя пабудовы, непашкоджанымі засталіся толькі рэчы, якія знаходзіліся ў сакрыстыі. Былы рэктар піярскага вучылішча Вайшвіла пісаў, што пажар адбыўся з-за таго, што прагарэла печ у лазні аднаго з лідскіх яўрэяў. Каб не плаціць штраф, яўрэі самі пацiху пачалі тушыць пажар. Каталікі горада якраз былі на службе ў касцёле піяраў і фарным. Пасля службы яны, «склаўшы рукі, назіралі за тым, як гарыць лазня». Аднак агонь хутка перакінуўся на дахі суседніх дамоў, а потым загарэліся лёхі з

[4] Рызаліт – частка будынка, якая выступае за асноўную рысу фасада і ідзе па ўсёй вышыні будынка.

гарэлкай. Пажар хутка ахапіў горад, знішчыў піярскія будынкі і каля 80 яўрэйскіх і 40 хрысціянскіх дамоў. Згарэла вялікая бібліятэка, якая ў 1830 годзе налічвала 1464 тамы, а пасля пераносу ў 1841 годзе сюды кніг з калегіумаў Воранава і Вільні – 1787 тамоў.

Нягледзячы на намаганні рэктара Язафата Вайшвілы, губернскія ўлады не дазволілі пачаць рэканструкцыю. У 1843 г. гродзенскі губернатар загадаў перадаць касцёл праваслаўнай царкве, прылеглае крыло кляштара – пад праваслаўную плябанію, а асноўную частку (усходняе крыло) – пад павятовую дваранскую вучэльню і жытло настаўнікаў.

У тым жа годзе па распараджэнні віленскага біскупа касцельная маёмасць, што яшчэ засталася, была падзелена паміж лідскім фарным і навакольнымі піярскімі касцёламі.

Спробы перарабіць касцёл на царкву былі адкладзены на працяглы час, па меншай меры да 1855 г., у гэтым годзе быў складзены каштарыс пераробкі, як аказалася, замалы, таму ў 1862 г. быў прадстаўлены новы каштарыс на 4 313 рублёў. У выніку перабудовы было знесена ўсходняе, найвялікшае, крыло будынка. Быў аднаўлены купал, унутраны інтэр'ер атрымаў новае абсталяванне, але, верагодна, захаваў сваё першапачатковае архітэктурнае аблічча. Разам з аднаўленнем і адаптацыяй будынка з поўначы пабудавана званіца з цэглы, магчыма, у тым жа месцы, дзе была папярэдняя з дрэва.

«Литовские епархиальные ведомости» ў 1863 г., № 17, далі інфармацыю пра асвячэнне храма: «18 жніўня тут праходзіла ўрачыстае асвячэнне... храма ў імя Св. Архістраціга Міхаіла. Новы храм пабудаваны з былога піярскага касцёла, які пасля пажару заставаўся доўгі час у поўным разбурэнні. З... гэтага... касцёла на працягу апошніх 3 гадоў створана благалепная праваслаўная царква ў візантыйскім стылі. Без перабольшання можна сказаць, што новая праваслаўная царква – мураваная з вялікім зялёным купалам – першы па прыгажосці будынак у Лідзе




Праваслаўная царква з надмагільнымі помнікамі перад ёй. Магчыма, перад царквой мясцілася майстэрня па вырабу помнікаў, але магчыма, што старыя ўніяцкія могілкі захаваліся да канца XIX ст.

і з'яўляецца лепшым упрыгажэннем горада. Асвячэнне храма здзейснена, па даручэнні Высокапраасвяшчэннейшага Мітрапаліта Літоўскага Іосіфа ковенскім епіскапам Аляксандрам, вікарыем Літоўскай епархіі....

17 жніўня ў новым храме адбылося ўсяночнае чуванне пры ўдзеле архірэя з саборам 10 святароў: мясцовых і якія прыбылі з навакольных прыходаў. Выдатныя спевы архірэйскага хору прыцягвалі не толькі рыма-каталікоў (праваслаўныя ўсе былі ў храме), але і нехрысціян.

18 жніўня пасля літургіі ў ранейшай дамавой царкве ў новым храме здзейснена асвячэнне вады. З прыбыццём у храм правялебнага ў пачатку 11-й гадзіны, пачалося асвячэнне самога храма... Сход народа быў велізарны... па асвячэнні храма быў хрэсны ход па св. мошчы ў старую царкву».

А ў 1886 г. «Литовские епархиальные ведомости» пісалі: «Наш гарадок 26 снежня сціпла святкаваў 20-гадовы юбілей служэння... святара, настаяцеля лідскага Міхайлаўскага сабора а. протаіерэя Іосіфа Каяловіча. Да прыняцця ім гэтага месца прыход не меў нават царквы, і набажэнства здзяйснялася ў аднапавярховым драўляным доміку ў тры вокны. Хатка і да сёння стаіць насупраць пышнага мураванага храма, пабудаванага а. Іосіфам са згарэлага касцёла. Сам жа прыход, які лічыў тады вернікаў дзясяткамі, у цяперашні час налічвае іх больш за 1 500».

Заўважым, што ў абодвух тэкстах адзначаецца, што праваслаўны Свята-Міхайлаўскі храм адбудаваны з былога піярскага кляштара.

Пра вялікі лідскі пажар 1891 г. протаіерэй Іосіф Каяловіч 9 кастрычніка пісаў віленскаму архіепіскапу: «Страшнае бедства спасцігла горад Ліду з 6-га на 7-е кастрычніка. У цэнтры горада, у густа населенай і скучана забудаванай драўлянымі дамамі частцы горада па невядомых прычынах успыхнуў пажар. Велічэзнае полымя ў адзін момант ахапіла драўляныя дамы і яны загарэліся. Полымя хутка разраслося ў агністы струмень, які пад напорам заходняга ветру пераўтварыўся ў парывісты ўраган, ён пажыраў на сваім шляху ўсё будынкі. Сабор засыпала агнём і іскрамі. Здавалася, ужо немагчыма было выратаваць... святыню, ды і дапамогі ніякай не было. Пакінуўшы сваю кватэру з хворай жонкай і захапіўшы ключы, з адным толькі царкоўным вартаўніком Юрыем Кур'янавым, пад напорам полымя, увайшоў у сабор. Услед за намі ўвайшлі ляснічы Бяляўскі, яго памочнік Самсонаў і псаломшчык Карскі. Сабраўшы спехам у адзін вузел каштоўныя сасуды і начынне, узяўшы ў рукі запасныя Святыя Дары і антымінс, з аналойным храмавым абразом Архістраціга Міхаіла і ортасам, са спевам трапара архангелу Міхаілу мы вышлі з храма на агорнуты полымем дзядзінец. Каля яго, у 3 сажнях ад сабора, гарэў вялікі заезны дом. З... малітвай мы абышлі вакол сабора і – о цуд літасці Божай! У адзін момант ад сабора падзьмуў моцны паўночны вецер і накіраваў страшны струмень полымя, які быў гатовы знішчыць наш храм, на паўднёвы ўсход. ... У Лідзе зрабіліся грудай развалін і попелу больш за 500 дамоў і, за выключэннем казначэйства з паштовай канторай, загінулі ўсе ўрадавыя ўстановы...».

Дадам, што псаломшчык Сяргей Ігнацьевіч Карскі – стрыечны брат заснавальніка беларускага мовазнаўства акадэміка Яўхіма Карскага. А протаіерэй Іосіф Каяловіч – родны брат гісторыка заходнерускай плыні Міхала Каяловіча.

Аднак пажар не абышоў бокам Каяловіча, які стаяў за саборам. У канцы верасня 1907 г. «Кур'ер Літоўскі» пісаў: «20 верасня ўвечары выбухнуў велізарны пажар. Агонь пачаўся ў доме праваслаўнага святара Каяловіча. З-за моцнага ветру агонь быў перанесены на суседнія дамы, і праз паўгадзіны гарэла ўжо шмат будынкаў. Агонь патушаны толькі на раніцы. Страты папярэдне ацэньваюцца ў 150 000 рублёў».



Званіца царквы, від з вуліцы Віленскай, пачатак XX ст.




Царква ў 1917 г.

Да 1919 г. храм функцыянаваў як праваслаўная царква Святога Архангела Міхаіла. У выніку рэстытуцыі храм быў зноў перароблены ў касцёл і аддадзены піярам, якія вярнуліся ў Ліду. У 1929 г. наваградская ваяводская адміністрацыя асігнавала лідскаму праваслаўнаму прыходу 3 000 злотых як кампенсацыю за страту храма.

У садзе вакол касцёла на поўдзень стаяў драўняны будынак (зараз не існуе), у якім з 1927 года размяшчалася прыватная школа піяраў. У 1930 г. заснавана 4-класная мужчынская гандлёвая школа, якая ў 1936 г. пераўтворана ў 4-класную гандлёвую гімназію. У 1930-я гг. для гэтай гімназіі на поўнач ад касцёла піяраў быў пабудаваны адмысловы гмах.

У гандлёвай (купецкай) гімназіі разам з агульнай сярэдняй адукацыяй давалася і адмысловая эканамічная адукацыя, вывучаліся

рахункаводства, тавазнаўства, арганізацыя гандлю. Вучняў вучылі хуткаму падліку, даваліся практычныя веды ў галіне рэкламы, якую пачыналі вывучаць ужо ў першым класе гімназіі. Дзеля практычных ведаў у гэтай галіне дырэкцыя гімназіі знаходзілася ў пастаянным кантакце з лідскім саюзам купцоў. Старшыня гэтага саюза Баркоўскі прызначыў пэўную суму за лепшую вучнёўскую рэкламу для лідскіх фірм, і шмат вучняў узялі ўдзел у гэтым конкурсе. У адрозненне ад дзяржаўнай гімназіі, дзе навучанне вялося сумесна, у купецкай хлопчыкі і дзяўчынкі займаліся ў асобных будынках з розных бакоў касцёла піяраў і не мелі права сустракацца ці нават сумесна паказвацца на вуліцы.

З ініцыятывы дырэктара купецкай гімназіі піяраў Генрыка Жалігоўскага ў гімназіі ўтварыўся гурток аўтааматараў. У гурток запісалася каля 50 вучняў і некалькі настаўнікаў. У гуртку вывучалася канструкцыя аўтамабіля і атрымліваліся практычныя навыкі кіравання. Настаўніца купецкай гімназіі Яўгенія Багуцкая першай сярод вучняў і настаўнікаў здала экзамены і атрымала правы на ваджэнне аўтамабіля.

У 1937 г. купецкую гімназію закончылі 49 чалавек. 16 чэрвеня ў гімназіі адбылося выпускное свята, пасведчанні аб заканчэнні гімназіі вучням уручыў дырэктар Жалігоўскі, пасля чаго адбылося ўрачыстае шэсце вучняў па горадзе. На гэтым свяце адзін з настаўнікаў гімназіі ксёндз Людвік Русак прапанаваў стварыць вучнёўскі фонд, куды павінны былі збірацца грошы для краязнаўчых вандровак. Хутка ў першую ж вандроўку паехала 45 вучняў. Яны пабывалі ў Варшаве, Кракаве, Катавіцах, Закапане, Гдыні, Львове і іншых месцах. Падчас вучэбнага 1937–38 г. дзве экскурсіі з Ліды пабывалі ў Вільні. Вучні наведалі выставу радыётэхнікі, краму Яблыкоўскіх, дамініканскія муры, універсітэт імя Стэфана Баторыя, касцёлы Св. Ганны, Св. Пятра і Паўла і Замкавую гару.

У лістападзе 1937 г. пры дапамозе павятовага краязнаўчага таварыства ўтварыўся Юбілейны камітэт ушанавання памяці Людвіка Нарбута ў Лідзе. Камітэт вырашыў заснаваць адну стыпендыю імя Людвіка Нарбута для вучняў купец-



Вучні гандлёвай школы падчас экскурсіі, 1935 г.

кай гімназіі, «бо народны герой пачынаў вучыцца ў лідскай па-піярскай павятовай школе».

Пасля Новага года, 5 студзеня 1938 г., Таварыства вучнёўскай моладзі ў Лідзе, у зале дзяржаўнай гімназіі правяло навагодні баль. Тады ж спартыўны гурток вучняў купецкай гімназіі на ставе, які быў выкапаны на зямельным надзеле піяраў каля Лідзейкі, адкрыў каток. Гэта коўзанка прымала аматараў канькоў з 9.00 да 20.00. Тут нават усталявалі радыёрупар і зрабілі электрычнае асвятленне. У канцы лютага 1938 г. адбыўся выпадак, пра які шмат пісалі розныя газеты: «Два сямігадовыя хлопчыкі каталіся на катку гімназіі піяраў. Адзін з іх, Жаброўскі, упаў у палонку і пачаў тануць, другі сямігадовы хлопчык – Пятнуць – з рызыкай для ўласнага жыцця выцягнуў тапельца з вады».

А 23 траўня 1938 г. адбыліся выпускныя экзамены апошняга класа гімназіі. «Скончылі гімназію 20 вучняў і вучаніц: Бедраўскі, Гербядзёўская, Ілютовіч, Іваноўскі, Яхніс, Камянецкая, Клышэйка, Малахоўская, Міцкінеўскі, Нарушэвіч, Прасмыцкі, Савонь, Шварцбрам, Урбановіч, Воранава, Урублеўская, Прус, Маняконўская, Здановіч».

1 верасня 1938 г. пачаўся апошні мірны вучэбны год.

Увосень 1938 г. Таварыства выпускнікоў гандлёвай школы піяраў у Лідзе прыступіла да арганізацыі адмысловай бібліятэкі: «Жыццё паказала неабходнасць спецыяльнай бібліятэкі для развіцця гандлю і прамысловасці ў горадзе. Управа таварыства звярнулася ў розныя выдавецтвы па патрэбныя кнігі». Праз некалькі месяцаў у купецкай гімназіі па адрасе Сувальская, 68 гэтая гандлёвая бібліятэка пачала працаваць.

8 мая 1938 г. на фасадзе была прымацавана бронзавая дошка з профілем Людвіка Нарбута і надпісам: «1832–1863 | Вучню былой школы | кс. піяраў у Лідзе | Людвіку | Нарбуту | камандзіру студзеньскага паўстання | да 75-годдзя гераічнай смерці | 1863–1938 | З павагай | лідская зямля». Аўтарам праекта быў лідскі скульптар Юры Кацяшчэнка, адліўку выканаў Савул Пупко з Вільні, каменную гранітную пліту выканаў камнярэз з Міра Антон Грыневіч. 17 верасня 1939 г. ноччу, перад прыходам Чырвонай Арміі, мемарыяльную дошку замуравалі жыхары горада.

Летам 1939 г. прыватная купецкая гімназія ў Лідзе атрымала юрыдычныя паўнамоцтвы дзяржаўнай гімназіі, і таму «гімназія пашырае набор вучняў, бо ў мінулым годзе гімназія не магла ўзяць усіх ахвотных. Будуць пабудаваны крамы, дзе вучні будуць атрымліваць практычныя веды».

Пасля нямецкіх авіяналётаў на горад у першыя дні вайны 1941 г. згарэў практычна ўвесь цэнтр горада. Пачаў гарэць і касцёл піяраў. Будучы пробашч фарнага касцёла, а ў той час ксёндз-піяр Станіслаў Роек пісаў у сваім дзённіку: «Агонь, які разносіўся ветрам, дабраўся да даху касцёла праз адчыненыя вокны над хорамі. Наш касцёл пачаў гарэць. Прыступілі да тушэння. Я і ксёндз-рэктар Чабаноўскі ўзяліся за ручную помпу. Брат Фелікс Урбаля, надзеўшы маску са шлангам, пачаў тушыць агонь. Працаваў нядоўга, бо ад дыму ўпаў, не падаючы прыкмет жыцця. З'явіўся тады садоўнік Бадрых і выцягнуў яго з дыму. Потым разарваў некалькі лістоў бляхі, і тады дым, маючы выхад, не перашкаджаў у тушэнні. Брат Фелікс, ачуняўшы, пачаў тушыць пажар разам з садоўнікам. Калі пажар быў патушаны, то брат Фелікс, абследуючы месца пажару, праваліўся разам з часткай спаленай столі на хоры. Яму нічога не сталася. Загінуў пазней ад асколкаў снарада, падчас захопу Ліды нямецкай пяхотай». Іншых пашкоджанняў у гады Другой сусветнай вайны касцёл не меў.

Пасля арышту пробашча і рэктара лідскіх піяраў Клеменса Мар’яна Чабаноўскага ў 1945 г. касцёл быў закрыты. Пробашч і ксёндз-рэктар у 1926–37 гг. Фердынанд Казлоўскі ў 1956 г. вярнуўся з лагераў і да сваёй смерці ў 1972 г. быў пробашчам касцёла на Слабадзе.

У 1958 г. лідскі касцёл піяраў быў перададзены краязнаўчаму музею і планетарыю.

Старшыня Лідскага гарвыканкама ў 1962–1969 гг. Аляксей Сямёнаў пісаў: «Па ініцыятыве былога старшыні Ушацкага набыта абсталяванне для планетарыя і на 1963 г. БУ-53 уключана ў план падрадных работ правядзення неабходных будаўнічых работ і мантаж абсталявання і механізмаў планетарыя ў касцёле па вуліцы Савецкай. Будаўнікі ў 1963 г. да працы не прыступілі, а звяртацца з просьбамі пра выдзяленне ліміту на 1964 год не мела сэнсу, таму што нам бы справядліва адказалі, што трэба своечасова асвойваць выдзеленыя сродкі. Давялося мне ўзяць грэх на сваю душу і падпісаць акт на быццам бы ўжо цалкам выкананыя работы (фактычна зрабіць прыпіску), што пагражала сур’ёзнымі непрыемнасцямі. І ўсё-такі планетарый у наступным годзе быў зманціраваны і пачаў працаваць».

Лідскі планетарый у былым храме пачаў працаваць у 1964 г. Гэта быў адзін з трох планетарыяў у Беларусі і 26-ці ў СССР. У 1976–1978 гг., яшчэ школьнікам, аўтар наведваў астранамічны гурток пры планетарыі, які вёў яго дырэктар Уладзімір Дзмітрыевіч Столмаў, высокаадукаваны і інтэлігентны чалавек. Другім супрацоўнікам была ягоная жонка. Уладзімір Дзмітрыевіч, былы вайсковец (падпалкоўнік запасу, які падчас службы меў справы з космасам), высока цаніўся сярод дырэктараў планетарыяў у былым СССР, сябраваў з тагачасным дырэктарам Маскоўскага планетарыя Б. А. Максімачовым, меў вялікія планы на будучыню. Да 1978 г. ужо быў распрацаваны праект перабудовы званіцы ў абсерваторыю, і для гэтага атрыманы прафесійны тэлескоп АВР-3 (рэфрактар з дыяметрам аб’ектыва 130 мм). Лідскі планетарый і астранамічны гурток хутка набіралі папулярнасць сярод аналагічных устаноў былога СССР. Але пасля трагічнай гібелі адзінага сына сям’я Столмавых пакінула Ліду, і астранамічны гурток распаўся.

Памятная дошка, прысвечаная памяці Нарбута, была зноў адкрыта ў 1989 г., а ў 1990 г. дапоўнена перакладам на беларускую мову.

7 сакавіка 1996 г. касцёл па рашэнні гарадскіх улад, якое было ўзгоднена з касцельнымі ўладамі, быў перададзены праваслаўнай парафіі. 17 чэрвеня 1996 г. з муроў храма ноччу гвалтоўна была сарвана мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута. Яна знайшла свой прытулак у гарадскім музеі, а ў 1997 г. з ведама тагачаснага дырэктара музея Рыгора Жалезнага дошку вывезлі і схавалі на тэрыторыі аднаго з касцёлаў. 21 красавіка 2013 г. у лідскім мікрараёне Індустрыяльны каля новапабудаванага касцёла піяраў у адмысловай капліцы была адкрыта і асвечана тая самая адноўленая мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута – вайсковага начальніка Лідскага павета падчас паўстання 1863 года, паўстанцкага палкоўніка, прызначанага за некалькі дзён да смерці галоўнакамандуючым войскаў ВКЛ.

Многія, з тых, хто змагаўся за вяртанне памятнай дошкі, не дажылі да гэтага дня, і таму яна з’яўляецца помнікам не толькі Людвіку Нарбуту, але і ўсім лідзянам – патрыётам Бацькаўшчыны і горада.

У 1996, 2000 і 2010 гг. праводзіліся рамонты праваслаўнага храма.

**Спартыўная зала гімназіі**. Будынкі гандлёвай гімназіі і агульнаадукацыйнай школы не захаваліся, але і зараз стаіць спартыўная зала гандлёвай гімназіі. У канцы 1937 г. віленская прэса пісала: «Хутка будзе скончана будаўніцтва вялікай гімнастычнай залы пры купецкай гімназіі. Гэта будзе адна з самых вялікіх залаў у горадзе. Адсутнасць залаў для арганізацыі культурных і спартыўных мерапрыемстваў – вялікая праблема горада». Ужо 6 снежня ў Лідзе адбылося ганаровае асвячэнне новай гімнастычнай залы. Прэса паведамляла: «Адбылося адкрыццё самай вялікай у горадзе (калі не лічыць кінатэатра «Эра») гімнастычнай залы пры купецкай гімназіі. Зала мае памеры 22 х 10,5 м. У ёй зроблена сцэна для правядзення культурных мерапрыемстваў. Тут адразу адбылася традыцыйная школьная ўрачыстасць, на якой выступілі кіраўнікі гімназіі і калегіума».

Зіновій Бянько расказаў мне, што адразу пасля Другой сусветнай вайны ў гэтым спартыўным зале за касцёлам піяраў знаходзіўся Дом культуры, да таго часу, пакуль яго не пабудавалі па вуліцы Таўлая.

У 1970-х гадах у гэтай зале мясцілася падлеткавая спартыўная школа. Выгляд будынка моцна зменены рамонтамі.

**Карчма піяраў і гісторыя пра тараканаў**. На пачатку XIX ст. горад заканчваўся адразу на поўнач за кляштарам піяраў і тут, на паўночнай ускраіне горада, стаяла карчма, якая належала манахам-піярам. У лістападзе 1822 г. правінцыял ордэна дамініканцаў запісаў у сваім дзённіку: «Ранні выезд праз Мыто. Мыто калісьці было прыгожым і добра ўладкаваным мястэчкам... паснедалі ў крупаўскай карчме. Нікчэмна, належыць Скіндарам. Ліда засталася па правай руцэ. Начавалі мы ў карчме ксяндзоў піяраў, карчма была б цалкам зручнай, калі б не прусакі – казуркі, занесеныя з глыбіні Расіі ў Літву. Гэтыя казуркі завуцца прусакамі таму, што яны тут з'явіліся гэткім чынам: былі прынесены азіяцкімі ордамі




Былы спартыўны зал гімназіі ў наш час

падчас паходу рускіх на Прусію [Руска-пруская вайна 1757–1762 гг. – Л. Л.] у валадаранне царыцы Лізаветы».

Закончым главу трошкі нестандартна і падсумуем дастаткова цікавую інфармацыю пра агульна вядомых нам казурак – тараканаў.

Як бачым, на пачатку XIX ст. тараканаў у нас добра ведаюць, яны моцна дапякаюць жыхарам гістарычнай Літвы, але людзі памятаюць, адкуль яны тут з'явіліся.

Пачнём здалёк.

Вядома, што рускі цар Пётр І ніколі не ўваходзіў у хату, пакуль нехта з яго служак не агледзіць усе пакоі і не ўпэўніцца ў тым, што ў доме няма розных гнюсных насякомых. Расказваюць, што аднойчы цара частаваў у сваім доме нейкі афіцэр. Калі госці селі за стол і пачалі баляванне, Пётр падазрона спытаў у гаспадара:

- Ці чысты твой дом ад прусакоў?

- Амаль што, – адказаў гаспадар, – а каб мне зусім ад іх пазбавіцца, я аднаго тут прыбіў жыўцом.

І ён паказаў на сцяну, дзе яшчэ перабіраў лапкамі і варушыў вусамі прыбіты цвіком прусак. Убачыўшы таракана, цар здрыгануўся і ўскочыў з-за стала, потым даў гаспадару добрую аплявуху і ўцёк. Падобнага кшталту гісторыі пра Пятра І пераказваюць розныя расейскія аўтары.

Жыхар Лідчыны, гісторык Юстын Нарбут (не блытаць з Тэадорам Нарбутам) захаваў, а ў сярэдзіне XIX ст. Адам Кіркор апрацаваў і надрукаваў успамін пра знаходжанне Пятра І ў Лідскім павеце.

Тры дні ў пачатку верасня 1705 г. Пётр гасцяваў у гаспадара маёнтка Трабушкі (што паміж Эйшышкамі і Радунню) лідскага шляхціца Ільцэвіча. Зразумела, што перад друкам той успамін быў моцна адрэдагаваны, каб паказаць веліч, добрасумленнасць і шляхетнасць гэтага цара, які, як вядома, меў няўстойлівую псіхіку і розныя, мякка кажучы, дзіўныя схільнасці. Але ва ўспамінах Ільцэвіча ёсць яўна аўтэнтычны кавалак тэксту, які я і прыводжу ніжэй – дазволю сабе дастаткова вялікую цытату:

«Аднойчы, перад поўднем, кавалерыя, пяхота і артылерыя наляцелі як гром на Трабушкі... афіцэры агледзелі іператрэслі ўсё ў доме Ільцэвіча і загадалі яму перайсці з сямействам у стадолу, пасля чаго пачалі паляпшаць памяшканне... У святліцы сцены пакрылі парчой, падлогу выслалі дыванамі. ... Да вечара пад'ехалі свежыя казакі і драгуны, разам з імі прыехала карэта, запрэжаная шасцю коньмі. ... З карэты выйшлі двое мужчын: адзін высокага росту з вусамі... другі сярэдняга росту, тоўсты і старэйшы за першага...

Ледзь яны ўвайшлі ў дом, як загадалі паклікаць гаспадара. "Я ўвайшоў, – распавядаў Ільцэвіч, – калі адзін са старэйшых дварэцкіх даваў справаздачу аб сродках на кухню...". Ільцэвіч нізка пакланіўся абодвум. ... Высокі мужчына гучна запытаў:

- Як цябе завуць?

- Бедны шляхціц Леў Ільцэвіч да вашых паслуг.

- Ці ёсць у тваім доме прусакі?

Такое пытанне Ільцэвіч раней чуў ужо некалькі разоў, і, не ведаючы, навошта ім патрэбныя гэтыя брыдкія істоты, адказаў:

- На жаль, ні ў нас, ні ва ўсёй Літве не водзяцца гэтыя звяркі...

Засмяяўшыся, высокі спадар сказаў:

- Але ж гэта, друг мой, не звяры, а агідныя і шкодныя чорныя жукі.

Ільцэвіч адказаў:

- Можа быць, але мы іх не ведаем».

Потым гаспадар дома даведаўся, што высокі мужчына – гэта сам цар Пётр I, а тоўсты – царскі фаварыт Шафіраў.

Як бачым, на пачатку XVIII ст. ніхто ў нас і не ведаў пра існаванне гэткіх непрыемных казурак.

У Расіі сёння мае распаўсюд легенда пра тое, што тараканаў (ці іх разнавіднасць – прусакоў, рыжых тараканаў) занеслі з Прусіі рускія салдаты падчас руска-прускай вайны (1756–1763 гг.), а раней гэтых кузурак там і не было. Але тады адкуль узялася фобія на тараканаў у рускага цара?

Дарэчы, у Германіі і Чэхіі рыжых тараканаў (прусакоў) і зараз называюць «рускімі» (па-нямецку: russen; па-чэшску: rus). А біёлагі цвердзяць, што ў XIX ст. тараканы менавіта з Азіі былі занесены ў Еўропу.

На пачатку XXI ст. па невядомай прычыне тараканы амаль што цалкам зніклі з нашых гарадоў (як надоўга?), і маладыя беларусы таксама, як і шляхціц пачатку XVIII ст. Леў Ільцэвіч, ужо не ведаюць гэтых «брыдкіх жывёл».

# Дом Савецкая, 26 (Віленская, 74) і вакол яго

На фотаздымку, зробленым пасля 1945 г. каля яшчэ разбітага дома па вуліцы Савецкай, 16, бачна, што на поўнач па гэтай вуліцы захаваліся толькі храм і два дамы – Савецкая, 23 і 26.

На поўнач за саборам, па адрасе: Віленская, 70 (уладальнік дома Душман), – знаходзілася вядомая ў горадзе друкарня Зяльдовіча, яна займала два пакоі ў гэтым доме. Шымон Зяльдовіч меў друкарню, майстэрню штэмпеляў і пераплётаў. У 1930-я гг. тут друкаваліся лідскія газеты «Лідскія ведамасці», «Лідская зямля», літаратурны альманах «Вясковы лірнік», кнігі «Кароткі турыстычны праваднік па Лідскім і Шчучынскім паветах» А. Грымайлы-Прыбыткі, «Прыпавесці» лідскага паэта І. Альбірта і часопісы на мове ідыш.

24 чэрвеня 1932 г. прэса паведамляла пра смерць Зяльдовіча – чалавека, які пакінуў свой след у гісторыі нашага горада: «Сёння ў 13-й гадзіне Зяльдовіч, уласнік адной з друкарняў Ліды, пасля таго як выйшаў са свайго дома, памёр ад сардэчнага прыступу. Нябожчык карыстаўся вялікай павагай грамадства». Сын



Здымак зроблены каля дома Савецкая, 16. Пасля 1945 г.

заснавальніка друкарні Шалом Зяльдовіч у 1939 г. жыў па адрасе Сувальская, 76 і меў тэлефон № 57.

Недзе тут, магчыма, у былой друкарні Зяльдовіча, у перыяд 1939–1941 гг. знаходзілася рэдакцыя газеты «Уперад», у якой працаваў Валянцін Таўлай.

Першы прамысловы бровар Ландо і Камянецкага з'явіўся ў Лідзе ў 1863 г. і знік у 1870-х гг. За друкарняй Зяльдовіча знаходзіліся бровар, млын і лесапілка Я. Папірмейстара, які займаў плошчу 2,5 га. Мелася паравая машына ў 48 к.с. У 1936 г. на гэтым бровары працавала каля 40 рабочых і 10 чалавек інжынерна-тэхнічнага персаналу. Прадпрыемства ў міжваеннае дваццацігоддзе развівалася не так хутка, як перад Першай сусветнай вайной. У першай палове 1935 г. бровар пачаў вытворчасць газаваных напояў. Рабіліся спробы вырабляць піва з ячменю мясцовага паходжання замест прывазнога з цэнтральнай Польшчы (хмель завозіўся з Любельшчыны). Пастаўшчыком бутэлек была гута шкла «Нёман» у Бярозаўцы.

Бровар Папірмейстара ў 1944 г. перапрафіляваны ў камбінат харчовых канцэнтратаў, і галоўны будынак былога бровара стаіць на тэрыторыі камбіната і зараз. Нядаўна насупраць галоўнага будынка бровара Папірмейстара каля вуліцы Савецкай паставілі помнік – піўнога мядзведзя.

Іосіф Далінскі пісаў пра Папірмейстараў: «У горадзе быў мільёншчык. Ён багацеў ад сваіх заводаў – піваварнага і лесапільнага. У яго, гэтага мільёншчыка, быў адзіны сын, які і павінен быў усё атрымаць у спадчыну. Яго выхоўвала гувернантка, ён ведаў добра французскую мову, іграў на раялі, апранаўся багата. Але час ад часу гэты сынок мільёншчыка таемна ўцякаў з дому да грузчыкаў, дапамагаў ім разгружаць вагоны з мяшкамі мукі і солі. Яго доўга шукалі, знаходзілі, адводзілі дадому, але ненадоўга. Сынок зноў уцякаў да грузчыкаў і жыў у іх таемна месяцамі.



Былы галоўны будынак бровара Папірмейстара

Я бачыў яго, гэтага малога гадаванца. Я бачыў, як ён еў каўбасу з белай булкай дакладна як нейкі герой. Як мне ўсё гэта падабалася: я таксама марыў уцячы з дому да грузчыкаў, каб атрымаць асалоду ад вольнага жыцця ва ўсю моц. Але мары мае заставаліся марамі, і не больш.

Аднойчы раніцай, калі ішоў у школу, я пабачыў сына мільёншчыка ў рамантычнай вопратцы грузчыка, абсыпанага мукой. На твары юнака гарэлі цёмна-карыя вочы, якія асвятлялі ўсю таямнічую постаць гэтага "парушальніка спакою". Я чамусьці спалохаўся, апынуўшыся сам-насам з ім. Усё ж спыніў яго, просячы ўзяць з сабой. Але той наадрэз адмовіўся. "Навошта табе гэта? – сказаў ён. – Не варта, пашкадуй сваіх бацькоў, яны ў цябе хоць і небагатыя, але затое добрыя-добрыя і сумленныя. Не засмучай іх, не трэба". "А як жа ты?" – спытаў я ў сваю чаргу. "У мяне іншае: бацька – мільёншчык-крывасмок, маці – злая-злая, я іх ненавіджу і таму бягу з дому. А табе навошта?".

Я пагадзіўся. І юнак пайшоў, не ўзяўшы мяне з сабой. Размоў пра гэтага юнака было шмат. Але аднойчы апавяданні спыніліся: сын мільёншчыка знік, ён збег ад бацькоў у Амерыку. Скандал у нашай маленькай Лідзе. Сталі шукаць. Але мы больш пра юнака нічога не чулі. Бацькі казалі мне: "Вось бачыш, што бывае з дзецьмі, якія не слухаюць бацькоў".

Па начах гэты юнак мне сніўся: быццам таемна ад бацькоў я ўцёк з ім. Мы блукалі дзесьці далёка ў лесе. Было шмат ягад, якімі мы сілкаваліся. Так у Лідзе, простай і мілай, нараджаліся фантастычныя гісторыі. Вельмі ўжо ў дзяцінстве хацелася рамантыкі.

Праз некаторы час мы даведаліся, што юнак, сын мільёншчыка, збег з нейкай дзяўчынай у Амерыку і там яны зажылі новым жыццём. Я марыў, што калі-небудзь я сустрэну куміра майго дзяцінства. Але, на жаль...».

На пачатку 1885 г. сярод лідскіх яўрэяў былі сабраны грошы, якія пайшлі на заснаванне паселішча Мазкарэт Бація (Mazkeret Batiya) у Палесціне. Першыя крокі ў арганізацыі дзейнасці сіяніцкай арганізацыі ў Лідзе моладзь зрабіла на хвалі энтузіязму, які выклікаў у яўрэйскім свеце Першы сіяніцкі кангрэс[1]. Пры садзейнічанні сіяніста з Вільні Шэйнюка, які тады кіраваў броварам Папірмейстара (яго зяць з'яўляўся сіяністам), у Лідзе была заснавана арганізацыя «Сіяніцкая моладзь». Калі ў арганізацыі стала многа маладых жанчын, яны стварылі сваю арганізацыю пад назвай «Дочкі Сіёна», якая з'яўлялася часткай «Сіяніцкай моладзі».

Шэйнюк здаў у арэнду арганізацыі вялікую драўляную пабудову (тры вялікія пакоі і кухня) у двары бровара – «Чайную». Сіяністы тады не мелі права працаваць легальна, але маглі легальна піць чай. Хутка «Чайная» стала называцца «Кітай» (ад напісання на лацінцы слова «Chinaya»). Кожны вечар шмат чалавек прыходзіла ў «Кітай», і колькасць сіяніцкай моладзі расла. Вечарамі ў пятніцу і суботу «Кітай» перапаўнялі наведвальнікі. Прыходзілі аратары, і можна было пачуць жывыя выступы з размовамі, у 1900 г. у Лідзе налічвалася ўжо каля 1 000 актывістаў арганізацыі «Сіяніцкая моладзь».

У 1902 г. у Лідзе з'явіўся вядома дзеяч Мойша Коган, ён быў запрошаны лідскім рабінам Рэйнесам. Мойша стаў рэгулярна выступаць у «Кітаі». У 1904 г. у «Кітаі» ў якасці госця быў сусветна вядомы яўрэйскі дзеяч Уладзімір (Зееў) Жабацінскі. Гэта было яго першае з'яўленне ў нашым краі.

---

[1] Першымі сіяністамі ў Лідзе былі Мардэхай Крупскі, Вольф Сакалоўскі, Навум Разенштайн, Ізраіль Арон Шалоўскі, Гілінскі (нарадзіўся не ў Лідзе), браты Якаў і Броін Ілютовічы. Акрамя гэтага, да руху далучылася група дзяўчат: Штэрна Лейтхаўс (пазней Крупская), Гітл Левін, Рыўка Пупко, Фрума Юдзялевіч і іншыя.

Дом па вуліцы Віленскай, 74, пра які пойдзе далейшая размова, захаваўся да нашага часу, зараз гэта двухпавярховы цагляны дом па адрасе Савецкая, 26. Дом мае пакаты дах, сіметрыя галоўнага фасада падкрэслена двума рызалітамі (часткамі будынка, якія выступаюць за асноўны фасад). Лучковыя і прамавугольныя аконныя праёмы дэкараваны замкавым каменем. Завяршальны карніз вырашаны ў выглядзе рытмічнага шэрагу дэнтыкул (шэраг выступаў, якія размешчаны на карнізе будынка), выкладзеных з цэглы.

Гэты дом, пабудаваны ў пачатку XX ст., мае цікавую гісторыю. Да Першай сусветнай вайны ў будынку і на ўчастку, які прымыкаў да яго, знаходзілася тытунёва-махорачная фабрыка Зэліка Віленчыка-Капштэйна, якая выраблялa махорку, нюхальны і курыльны тытунь. Фабрыка мела рухавік унутранага згарання (25 к/с), і на ёй працавала больш за 100 чалавек.

Віленчык пацярпеў падчас першай рускай рэвалюцыі: у лістападзе 1906 г. некалькі маладых людзей, прыкрываючы твары, увайшлі да яго ў дом і, пагражаючы рэвальверамі, забралі 100 рублёў – вялікія на той час грошы.

У 1925 г. па ініцыятыве інжынера Станкевіча ў Лідзе была арганізавана дзяржаўная рамесна-прамысловая школа. Гэтая школа ад пачатку мясцілася ў наёмным будынку былой тытунёвай фабрыкі Віленчыка па вуліцы Сувальскай, 74. Будынак меў 2 вучэбныя класы, 3 класы з варштатамі, памяшканне для настаўнікаў, канцылярыю, пакой-склад для гатовых вырабаў, пакой-склад для сыравіны і пакой, у якім знаходзіўся рухавік. У рамесна-прамысловай школе мелі магчымасць вучыцца 80 вучняў, але ў 1927 г. школа мела 53 навучэнцы. Ад пачатку выкладаўся толькі разлічаны на 3 гады курс навучання сталяроў. Прымаліся хлопцы, якія мелі пасведчанні аб 4-гадовай, пачатковай адукацыі.

Школа не мела інтэрната, і таму ў ёй маглі вучыцца толькі жыхары Ліды ці прыгарадаў. Заняткі пачыналіся ў 8 гадзін раніцы і працягваліся да 18.00 з вялікім перапынкам у 1,5 гадзіны на абед. Аплата за навучанне складала 90 злотых штогод. Акрамя агульнаадукацыйных прадметаў, вучні вывучалі тэхнало-




Дом Савецкая, 26 (Віленская, 74), здымак да 2010 г.

гію матэрыялаў, эканоміку, чарчэнне, курсы будаўнічага і мэблевага сталярства і атрымлівалі стандартную адукацыю як у 7-гадовай дзяржаўнай школе. Агульныя навукі выкладалі дырэктар школы, настаўнік і ксёндз-піяр. Прафесійныя навукі і курсы практычных заняткаў у класах варштатаў вялі тры настаўнікі.

Школа мела рухавік унутранага згарання з адмысловай трансмісіяй, які застаўся ад тытунёвай фабрыкі. Планавалася выкарыстоўваць гэты рухавік для мэт вытворчасці. Штогод для закупу сыравіны школа атрымлівала дзяржаўны крэдыт, за які потым на працягу навучальнага года расплачвалася, прадаючы свае вырабы.

Аднак нават пасля і рамонту, і неабходных пераробак былы фабрычны будынак не адпавядаў патрабаванням школы. Таму на пасяджэнні гарадской рады 5 ліпеня 1928 г. было вырашана перадаць пад рамесна-прамысловую школу дом, які будаваўся для адзінокіх старых па вуліцы Сувальскай (каля праваслаўных могілак, недалёка ад чыгуначнага пераезда), і хутка школа пераехала ў гэты новы будынак.

У канцы 1932 г. віленскія газеты паведамілі: «Уладальнік кінатэатра "Нірвана", які, як вядома, згарэў 13 ліпеня, сп. Яблонскі хутка адчыніць новае кіно па вуліцы Сувальскай, у доме Віленчыка (у былых варштатах дзяржаўнай рамеснай школы). Кінатэатр будзе мець гукавую апаратуру, тэатральную сцэну і іншае сучаснае абсталяванне». Так у гэтым доме з'явіўся трэці лідскі кінатэатр – «Маленькае».




Рэклама кінатэатра «Маленькае»

Так у горадзе з'явіўся трэці кінатэатр – «Маленькае» (Сувальская, 74): «Кіно знутры выглядала прыгожа, у ім маглі змесціцца 250 чалавек... Акрамя экрану мае маленькую сцэну».

Я ўжо пісаў у ранейшай главе, што будучая прафесар, а ў 1930-х гг. лідская гімназістка Ірэна Стасевіч успамінала, як разам з сябрамі яна рабіла вандроўку па лідскіх кінатэатрах і вандроўка заканчвалася ў «камерным кінатэатры, які зваўся «Маленькае», дадам, што прыходзілася ёй глядзець і «нямыя» фільмы пад акампанемент фартэпіяна».

У студзені 1933 г. на сцэне «Маленькага» выступіў нават ансамбль кубанскіх казакаў у колькасці 16 асоб пад кіраўніцтвам Альжбеты Гагарынай, у зале сабралася каля 200 гледачоў.

Але бізнес не пайшоў, і ўжо на пачатку 1937 г. «Маленькае» быў зачынены. Скарбовая ўправа налажыла секвестр на яго мэблю.

Развітваючыся ў гэтай кнізе з тэмай кінатэатраў, хачу нагадаць словы былога лідзяніна Ежы Болтуця: «Якія ў Лідзе былі кінатэатры! На Сувальскай, галоўнай вуліцы горада, мелася "Эра", якой загадваў Тамашэвіч. Недалёка працаваў "Эдысан" – маёмасць сімпатычнага старазаконнага яўрэя Левіна і... кіно "Маленькае", якім таксама валодаў яўрэй з мясцовым прозвішчам Яблонскі. Квіткі былі

дарагія: 50 грошаў на прэм’еру, іншыя сеансы па 25. Вядома, у кінатэатрах былі буфеты. Можна было запрасіць сімпатыю на скромны пачастунак з ліманадам. Фільмы паказвалі розныя, але прэм’еры ў Лідзе адбываліся адначасова з Варшавай. Варшаўскае прадстаўніцтва “Метро Голдвін”[2] дбала пра свайго кліента».

У маі 1935 г. сюды, у дом па вуліцы Сувальскай, 74, перасялілася ўправа знамітага ў той час лідскага яўрэйскага спартыўнага клуба «Макабі». Пасля закрыцця кінатэатра сюды ж перамясцілася спартыўная зала гэтага таварыства. У красавіку 1938 г. тагачасны «энергазбыт» выкрыў самавольнае падключэнне да электрычнай сеткі спартыўнага таварыства «Макабі» і перадаў справу ў суд.

У ліпені 1937 г. у Лідзе пачала працаваць фабрыка цукерак і шакаладу «Рэкорд»: «Яна месціцца па адрасе: Сувальская, 74, – дзе раней быў кінатэатр “Маленькі”. Фабрыка перанесена з Беняконяў», – паведамлялі газеты. У гэтым жа доме пасяліўся і ўладальнік фабрыкі Казімір Інгялевіч (тэлефон № 206).

У 1934 г. у гэтым зусім невялікім гмаху мелі кватэры: натарыус Баляслаў Чыжэўскі (тэл. № 126), натарыус Дваракоўскі (тэл. № 77). У 1939 г., акрамя Інгялевіча тут жыў іпатэчны пісар Станіслаў Майер (тэл. № 2), той жа натарыус Дваракоўскі і натарыус Вінцэнт Папкоўскі (тэл. № 131).

У доме жылі нябедныя людзі, здараліся кватэрныя крадзяжы. Напрыклад, у 1937 г. жыхар кватэры № 7 (Сувальская, 74) лідскі землямер Генрык Пашкоўскі заявіў у паліцыю аб крадзяжы з ягонай кватэры 100 злотых.

Дом перажыў вынішчальны пажар 1941 г., і з 1944 г. у ім жывуць людзі.

Вось такую гісторыю мае звычайная лідская пабудова.

Нагадаю, што гэты будынак уваходзіць у «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць» (Мінск, 1986 г., с. 231) і не павінен падвяргацца ніякім перабудовам.

[2] «Metro-Goldwyn-Mayer» – амерыканская кампанія, якая спецыялізавалася на вытворчасці і пракаце кінапрадукцыі. З 1924 па 1942 гг. – безумоўны лідар галівудскай кінаіндустрыі.

# Савецкая, 23 і далей

Дом па вуліцы Савецкай, 23 стаіць насупраць дома па Савецкай, 26. Пабудаваны з цэглы, прамавугольны ў плане, з двухскатным дахам. Архітэктурны дэкор на галоўным фасадзе выкананы сродкамі мастацкай цаглянай муроўкі. На рызалітах (частках будынка, якія выступаюць за асноўны фасад) раней меліся шырокія балконы з фігурнай жалезнай агароджай. Зараз балконы з будынка зняты. Архітэктурнае аблічча завяршае карніз складанага арнаментальнага малюнка. Дом раней меў адрас: Віленская (Сувальская), 73. Яго пабудаваў для сваёй сям'і лідскі фельчар Зэлік Зарцын (1866 г. н.).

Зарцыны ў Лідзе мелі нерухомасць яшчэ да пажару 1891 г. – за здачу памяшканняў для ніжніх чыноў для расkватараванага ў г. Ліда 2-га чыгуначнага батальёна і 4-га Данскога казацкага палка Зарцыну ад казны плацілі 132 руб. штогод. Добрыя па тым часе грошы. Даходы ад медыцыны і здачы нерухомасці ў арэнду і дазволілі Зэліку Зарцыну ашчадзіць неабходную суму і пабудаваць гэты прыгожы дом.



Дом Савецкая, 23 (раней – Віленская (Сувальская), 73)



Дом з брандмаўэрам, Савецкая, 30б




Будынак пошты, 1916 г. За поштай – аднапавярховы дом з ганкам, удальнік – Пупко. Паштоўка да 1914 г.



3D-мадэль будынка пошты, праца Віталя Бурака

У спісе фельчараў 1939 г. Зэлік Зарцын яшчэ прысутнічае як практыкуючы медык. Жыхары Ліды памяталі, што прыкладна з 1910 г. у гэтым доме знаходзіўся прыватны яўрэйскі радзільны дом. Гэту медыцынскую ўстанову і ўтрымліваў гаспадар дома. У людской памяці Зарцын застаўся як чалавек педантычны, строгі, але справядлівы. Людзі казалі, што Зарцын любіў кожны дзень апранаць свежыя накрухмаленыя кашулі. Жонка яго была добрай жанчынай і па святах дарыла прыслузе модныя панчохі і сукенкі.

Фельчар меў трох сыноў: Ноталя (25.08.1890 г. н.), Рахмеля (23.11.1893 г. н.) і Макса (21.02.1899 г. н.). Усе яны закончылі Юр'еўскі (зараз – Тартускі) універсітэт.

Ноталь Зарцын пасля ўніверсітэта, верагодна, не жыў у Лідзе.

Макс Зарцын да вучобы ва ўніверсітэце скончыў гімназію ў Магілёве, у 1920–30-я гг. жыў у Лідзе. Вядома, што ў першай палове 1920-х гг. ён выкладаў рускую мову ў Лідскай яўрэйскай гімназіі, якая знаходзілася ў арандаваным будынку па вуліцы Крывой, 16. Потым выкладаў у іншых яўрэйскіх навучальных установах горада. У 1941 г. настаўнік Зарцын увайшоў у склад юдэнрата – створанай акупантамі яўрэйскай рады – і потым быў забіты нацыстамі разам з іншымі лідскімі яўрэямі.

Рахмель Зарцын – урач-акуліст, у 1930-х гг. ён уваходзіў у склад кіраўніцтва Саюза лекараў Віленска-Навагрудскага рэгіёна і нейкі час выконваў абавязкі старшыні яўрэйскага самакіравання ў Лідскім павеце. Жыў у адным доме з бацькам.

Пасля вайны ў адрамантаваным доме па вуліцы Савецкая, 23 знаходзіўся інтэрнат камбіната харчовых канцэнтратаў. Насупраць дома, на другім баку вуліцы, стаяла прахадная гэтага камбіната, які сярод іншых займаў і стары будынак бровара Папірмейстара.



Служачыя лідскай пошты, канец 1920-х гг.

Вучоны-хімік Ірэна Рубінава (працавала ў Акадэміі навук Беларусі, зараз пенсіянерка, жыве ў Мінску) у дзяцінстве жыла разам з бацькамі ў гэтым інтэрнаце. Яна памятае, што дом, у якім яны жыла, лідзяне па старой памяці звалі домам Зарцына. Ірэна Рубінава расказала, што ў 1950-я гг. дом яшчэ не быў атынкаваны, але быў агароджаны прыгожай жалезнай агароджай, за якой меўся двор – невялікі з боку вуліцы і вялікі, «ажно ўніз да балота ззаду дома. А знутры, я добра памятаю, – даўжэзны цёмны калідор праз увесь дом і асобныя пакойчыкі паабапал яго». Зараз Савецкая, 23 – жылы дом у цэнтры горада.

Далей на поўнач па вуліцы, у доме Сувальскай, 79 у сярэдзіне 1930-х гг. мясцілася цукерня Абрамовіча. Швагерка гаспадара, камуністка Блюма Левін працавала афіцыянткай і рэгулярна вяла размовы з жаўнерамі, якія заходзілі пасядзець у цукерню. Падчас размоў яна даведвалася пра час і месца вайсковых манеўраў, пра новую зброю, муштру і настроі ў войску. Інфармацыю Блюма перадавала інструктару Віленскай акругі КПЗБ Хане Пудзінскай ці сакратару лідскага гаркама КПЗБ Каплану.

Яшчэ далей на поўнач меў свой дом (Віленская, 83) другі лідскі ўрач, Эдмунд Фёдаравіч Рэнерт, брат ветэрынара Роберта Рэнерта, якога я згадваў у адной з папярэдніх глаў.

Доктар медыцыны, надворны дарадца, Эдмунд Рэнерт (04.07.1862–05.07.1934) з 12 лютага 1891 г. быў гарадскім лекарам. У 1879 г. ён скончыў Віленскую шасцікласную прагімназію, а ў 1881 г. – 1-ю Віленскую гімназію з сярэбраным медалём. Выпускнік Юр'еўскага ўніверсітэта, лютэранскага веравызнання. Працаваў у клінічнай лабараторыі прафесара Ф. І. Пастэрнацкага ў Санкт-Пецярбургу. Абараніў дысертацыю «Аб параўнальным уплыве газіраванага і простага малака на кішэчныя закісанні здаровага чалавека (пры чыста малочнай дыеце)». Працаваў лекарам у лідскіх гарадскім і яўрэйскім шпіталях. Пахаваны на праваслаўных могілках, магіла і помнік захаваліся да нашага часу.




Шыльда лідскай пошты, канец 1920-х гг.



На пасляваенным фотаздымку бачны: дамы Савецкая, 23 і 26, прыватная забудова каля сучаснага піўзавода, моцна перабудаваны зараз дом Савецкая, 27 і дом Савецкая, 32 насупраць яго. Абодва гэтыя дамы пабудаваны пры канцы 1930-х гг. у стылі функцыяналізму. Каля дома Савецкая, 32 бачны новы дом, пабудаваны для працаўнікоў электрастанцыі.

На другім баку вуліцы Савецкай, за сучасным домам № 30 да нашага часу захаваўся дом з брандмаўэрам – Савецкая, 30б, у якім жыла сям’я былога гаспадара лідскага піўзавода Пупко. За паціпавярховікам па Савецкай, 28 стаіць дом з брандмаўэрам № 28а.

У Лідзе маецца больш за два дзясяткі будынкаў гэтай своеасаблівай архітэктуры: увесь дом драўляны, а адна сцяна мураваная, яна называецца брандмаўэр і неабходна для аховы ад распаўсюджвання пажару. Лідскія дамы з брандмаўэрамі ўяўляюць сабой цікавая ўзоры гарадскога будаўніцтва канца XIX – пачатку XX ст.

Некалькі слоў пра дом, якога ўжо даўно няма. На сучасным перакрыжаванні вуліц Савецкай і Міцкевіча насупраць сучаснага дома № 31 стаяў вялікі драўляны дом з мансардай – старая гарадская пошта.

У 1885 г. Лідская павятовая паштовая ўправа і тэлеграфная станцыя былі аб’яднаны ў паштова-тэлеграфную ўправу 6-га класа і пераехалі ў вялікі драўляны дом па вуліцы Віленскай, 90. Дом быў пабудаваны Антонам Малеўскім на выдзеленую яму віленскай паштова-тэлеграфнай акругай субсідыю, якую ён павінен быў вярнуць за 12 гадоў. Будынак меў 6 вокнаў па падоўжаным баку і 4 – па папярэчным, вокны зачыняліся аканіцамі, мелася вялікая зашклёная веранда з балконам.

У 1890 г. паштова-тэлеграфная ўправа ўзнялася да 5-га, у 1906 г. – да 4-га, а ў 1913 г. – да 3-га класа. Па штаце 1911 г. тут, акрамя паштальёнаў і ганцоў, працавала 17 чыноўнікаў, а ў 1913 г. – ужо 22 чыноўнікі. Начальнікамі паштовай управы былі: з 31 сакавіка 1889 г. – Сямён Грачышчаў, з 21 сакавіка 1894 г. – Якуб Булгакаў, з 1904 г. – Васіль Смірноў, з 1909 г. – Мелітон Бярыдзе, а з 1913 г. – Канстанцін Каланкоўскі. У 1915 г., перад першай нямецкай акупацыяй, персанал Лідскай паштова-тэлеграфнай управы эвакуіраваны ў Каломну Маскоўскай губерні.

Да 1938 г. гарадская пошта знаходзілася ў гэтым будынку.

Пры канцы 1925 г. віленскі журналіст газеты «Слова», наведаўшы наш горад, напісаў наступны тэкст: «...пакінулі пакункі на вакзале і пайшлі ў павятовы горад Ліда. Мінаем рэйкі, пасля іх праходзім дзве нейкія цёмныя і балоцістыя вуліцы – і мы ў “цэнтры горада”. ...кіруемся ў бок пошты. Трэба скамунікавацца з Наваградкам і Вільняй».

У 1930 г. прэса паведаміла пра гераічны ўчынак аднаго з чыноўнікаў лідскай пошты падчас пажару ў ноч на 25 чэрвеня ў доме па Пастаўскай, 33 (стаяў недалёка ад яўрэйскіх могілак): «Агульнай увагі заслугоўвае геройскі ўчынак чыноўніка лідскай пошты Міхала Лісецкага, які вынес з палаючага дома цяжка параненую Ядвігу Бутурлю, якая, аднак, праз гадзіну памерла ў бальніцы». Аднак ужо 9 лютага 1931 г. «гераічны» чыноўнік лідскай пошты Міхал Лісецкі знік з сумай у 10 200 злотых. У той жа дзень паліцыя арыштавала яго ў цягніку на станцыі Ліда. Злодзей меў пры сабе толькі 7 000 злотых, вялікую суму, каля трох добрых

гадавых заробкаў. Больш за тры тысячы злотых ён паспеў растраціць у нашым горадзе за некалькі гадзін!

А ў верасні 1931 г. ад будынка пошты і тэлеграфа ў Лідзе скрадзены ровар служачага пошты Вінцэнта Русіновіча маркі «Нёман» № 02682 коштам у 280 злотых.

Пасля пераезду пошты ў новы будынак па вуліцы Міцкевіча стары будынак планавалі перадаць пад гімназію асаднікаў, але не перадалі, і ён згарэў у 1941 г.

Думаю, тут дарэчы паведаміць, што першай тэлефоннай лініяй на Лідчыне была лінія паміж фабрыкамі «Нёман А» (стары шклозавод) і «Нёман Б» (новы шклозавод), якая пачала працаваць у 1894 г. У маёнтках Жалудок і Ліпічна тэлефонная сетка пабудавана ў 1902 г. А ў горадзе Лідзе першая тэлефонная сувязь з'явілася паміж бровамі Папірмейстара і Пупко ў 1907 г.

**Бровар Пупко.** Бровар пад назвай «Бровар, саладоўня і вытворчасць газаванай вады» (Browar, Slodownia i Wytwornia Wod Gazowanych) належаў братам Марку і Сымону Пупко. Гэты бровар заснаваў Носаль Пупко ў 1876 г. Бровар знаходзіўся пры вуліцы Сувальскай, 88. Статутны капітал складаў 10 000 злотых. Бровар меў некалькі электрычных рухавікоў і электрычны генератар, а таксама паравы млын і тартак. У 1936 г. у бровары працавала 28 рабочых і 8 чалавек інжынерна-тэхнічнага персаналу. У 1936 г. было перапрацавана 157,3 т ячменю, 950 кг хмелю і 87,7 т соладу і выраблена 4 797 гекталітраў піва. Фірма «Браты Пупко» мела свае прадстаўніцтвы ў гарадах Навагрудскага ваяводства (Баранавічы, Навагрудак, Гарадзея), Віленскага (Вільня, Маладзечна), Палескага (Бяроза Картузкая, Лунінец, Пінск) і Беластоцкага (Ваўкавыск). У 1938 г. бровар выпрабляў чатыры гатункі піва ў аб'ёме 6 135 гекталітраў: светлае (5 780), «Дубэльтавае» (191), «Хмельнае» (29), «Цёмнае» (135), а таксама 1 104 гекталітраў розных напояў: ліманад (801), квас у бутэльках (116) і газаваную ваду (187). Акрамя гэтага перапрацоўваў 2 093 м$^3$ лесу.

У 1937 г. у Польшчы было 165 бровараў, і лідскія бровары былі сярод іх невялікімі. Гадавая вытворчасць піва на абодвух лідскіх броварах (Пупко і Папірмейстара) у 1932/33, 1933/34, 1934/35 гг. была адносна невялікая: каля 10 728 гекталітраў піва. У адносінах да агульнай вытворчасці ў Польшчы гэта складала 0,9 %.

Пасля спынення вытворчасці піва броварамі братоў Любецкіх у Нясвіжы лідскія бровары ў 1930-х гг. засталіся адзінымі ў Навагрудскім ваяводстве. Толькі ў 1938 г. распачаў выпуск піва наноў збудаваны бровар А. Брахоцкага ў Малым Мажэйкаве. Дзякуючы адпаведнай вадзе, лідскае піва па якасці не было горшым за піва з віленскіх бровараў (віленскае піва «Шапэн» разлівалася ў Лідзе па вуліцы 3 Мая) і гродзенскіх (бровары Марголіса, Слуцкага) ці беластоцкіх («Дойліды»).

Перадваенная «Лідская зямля» паведамляла: «За якасць выробленага піва бровары атрымліваюць медалі і дыпломы, прызнаныя на розных выставах у краі і за мяжой». Станіслаў Адляніцкі-Пачобут у сваім апісанні Навагрудскага ваяводства пісаў: «Мясцовае піва з лідскіх бровараў у параўнанні з півам бровараў цэнтральных і іншых ваяводстваў з пункту гледжання нізкай цаны знаходзіць вялікі попыт сярод гараджан і гарадскога пралетарыяту не толькі ў гэтым ваяводстве, але і ў суседніх ваяводствах, перш за ўсё – у Віленскім. Аднак, разам з тым, для гурманаў завозіцца шмат піва лепшай якасці і значна даражэйшага».

# Савецкая, 27, 32, 34.
# Функцыяналізм

Дом па вуліцы Савецкай, 31, так званы «дом з калонамі», захаваўся да нашага часу. Ён быў пабудаваны купцом Гурэвічам на пачатку ХХ ст. У 1920–30-х тут размяшчаўся Лідскі школьны інспектарат. У 1960–80 гг. – гарадская ваенная камендатура і бібліятэка, а зараз – аддзел садзейнічання занятасці насельніцтва.

Гэты аднапавярховы дом з высокім мансардавым дахам пабудаваны з цэглы ў класічным стылі. Будынак П-падобны ў плане, галоўны фасад мае сіметрычна-восевую кампазіцыю з двума двухкалоннымі порцікамі. Галоўны цэнтральны высунуты наперад порцік не захаваўся, але добра бачны на старых здымках. Зараз замест гэтага порціка цэнтральны ўваход фланкіраваны пілястрамі. У задняй частцы будынка маецца тэраса з высокім паўкруглым ганкам. Верагодна, таму ў першай палове ХХ ст. лідзяне звалі гэты дом «лідскім бельведэрам» (belvedere – «прыгожы від» – асобнае збудаванне ў парку на ўзвышшы). Дом стаяў адасоблена, і з тэрасы адкрываўся прыгожы від на яшчэ не забудаваную частку горада. Ранейшы адрас гэтага дома – Віленская (Сувальская), 103.




Дом купца Гурэвіча на пачатку ХХ ст. У наступным, драўляным доме арандаваў кватэру бацька пісьменніка Ежы Путраманта



Дом абутковай фабрыкі і крама № 12. Сярэдзіна 1950-х гг.

Пісьменнік Ежы Путрамант, чый бацька быў пераведзены з Вільні ў Ліду на пасаду каменданта павятовага ваенкамата (PKU), у сваіх мемуарах пакінуў яскравае апісанне гэтага раёна горада ў 1925 г.: «Бацька наняў для нас памяшканне на другім паверсе аднаго з драўляных домікаў пры вуліцы Сувальскай, бліжэй да Закасанкі. Што гэта быў за горад – няхай засведчыць наш падворак. Пачынаўся ён каля галоўнай вуліцы. Насупраць быў дом Вітажэнцаў, драўляны, аднапавярховы. За ім адразу было балота, рэчка Лідзейка і ўжо нічога болей, палі. Наш падворак заканчваўся вялікай кучай вольхаў, якімі зарасло другое балота. За ім была пустая гарадская паша, якую называлі Выган. І ўжо канец горада. Вельмі далёка – можа за паўтара кіламетра – некалькі асобных гаспадарак. Каляя на Маладзечна, каляя на Вільню, якія перасякаліся, далей яшчэ казармы, так званага Сім-Сім, або 77-га палка пяхоты Ковенскіх стральцоў, якія хадзілі з мядзведзем – гербам Коўні – на пагонах».

А зараз пройдзем да будынкаў у стылі функцыяналізм каля скрыжавання вуліц Савецкай і Міцкевіча.

Напачатку аб тым, што такое функцыяналізм.

Функцыяналізм як архітэктурны стыль сфармаваўся ў 1920-х гг. як адна з плыней мадэрнізму. Асновай ідэалогіі функцыяналізму ў архітэктуры стала стварэнне самымі сучаснымі спосабамі і канструкцыямі такіх формаў, якія павінны забяспечыць найлепшае функцыянаванне аб'екта, пры гэтым усё лішняе адкідалася. Будынак павінен атрымаць найболей зручную і тэхналагічную «абалонку» і матэрыяльную базу. «Форма павінна адпавядаць функцыі» – вось лозунг функцыяналізму.

Асноўным практычным цэнтрам функцыяналізму стаў творчы цэнтр «Баўхаўс» (праектна-даследчы цэнтр дызайну) у Германіі, пачынаючы з 1920-х гг. тут вяліся тэарэтычныя даследаванні і прыкладное праектаванне. Стваральнік і кіраўнік «Баўхаўса», найбуйнейшая постаць функцыяналізму Вальтар Гропіюс (Gropius, Walter, 1883–1969) быў аўтарам шматлікіх помнікаў гэтага рэвалюцыйнага стылю. Класічны прыклад гэтага кірунку – будынак самаго «Баўхаўса» ў Дэсау (Bauhaus, Dessau) архітэктара В. Гропіюса, пабудаваны ў 1925–26 гг. Французскі архітэктар Ле Карбюзье, адзін з найбольш вядомых творцаў функцыяналізму, зрабіў галоўны ўклад у тэорыю і практыку гэтага стылю. Яго ідэі ў горадабудаўніцтве, у тэорыі масавага індустрыяльнага жылля, рэалізаваныя ў будынках і праектах, актуальныя і дагэтуль. Гэты па-сапраўднаму вялікі архітэктар сучаснасці напоўніў тэорыю функцыяналізму ідэалагічна і практычна, яго знакамітыя прынцыпы пабудовы масавага індустрыяльнага жылога дома (дом на апорах, плоскі дах-сад, стужкавае шкленне і г. д.) выкарыстоўваюцца і сёння. Функцыяналізм патрабаваў строгай адпаведнасці формы будынка яго функцыям і адмове ад усяго, што не патрэбна для ўжытку. Архітэктурныя формы павінны былі адпавядаць будаўнічым канструкцыям і матэрыялам. Па-новаму выбудоўвалася мастацкая выява архітэктурнага твора. З эстэтычнага пункту гледжання новая архітэктура, пазбаўленая ўпрыгожвальніцкіх празмернасцей, павінна была ўспрымацца чалавекам падчас руху ў ёй і вакол яе (адзінства прасторы і часу). Значнае шкленне стварала магчымасць яднання чалавека з навакольнай прыродай. Сэнс фунцыяналізму ў лаканічнай і яснай пабудове. Характэрныя для функцыяналізму архітэктурныя формы – плоскія дахі, буйныя плоскасці шкла, поўная адсутнасць таго, што канструктыўна непатрэбна. Трэба сказаць, што аналагам функцыяналізму ў Еўропе быў канструктывізм у СССР.







Фотаздымкі 1930-х гг. Будаўніцтва дома Ёдкі

З канца 1920-х гг. функцыяналізм як архітэктурны стыль з’явіўся і ў Цэнтральнай Еўропе. У Лідзе захавалася некалькі жылых дамоў і некалькі публічных гмахаў у гэтым стылі. На жаль, знешні выгляд усіх гэтых будынкаў незваротна зменены падчас сучасных рамонтаў.



Дом № 27 па вуліцы Савецкай (Сувальская, 93). Дом Вітольда Ёдкі

У канцы 1937 г. газета «Кур’ер Віленскі» пісала: «Разбудова горада Ліды ідзе хуткімі тэмпамі. … Хутка з’яўляюцца прыватныя дамы. У апошні час з’явілася ў Лідзе некалькі ладных, эстэтычных і ў сучасным стылі пабудаваных дамоў. ...у тым ліку... прыгожы трохпавярховы будынак пры вуліцы Сувальскай, які зойме Сацыяльнае страхаванне (Сацыяльнае забеспячэнне)». Будынак былога Сацыяльнага страхавання – гэта надбудаваны на адзін паверх і дабудаваны з абодвух бакоў дом № 27 па вуліцы Савецкай. Прэса паведамляла пра пераезд Сацзабеспячэння ў новы будынак па вуліцы Сувальскай, 93, які належаў віцэ-бургамістру горада магістру права Вітольду Ёдку.

Аматар лідскай даўніны Станіслаў Лямнёў успамінаў пра свае кантакты ў 1960-я гг.: «Пазнаёміўся і распытваў былога намесніка бургамістра г. Ліды 30-х гадоў Ёдку. Унучкі яго жывыя. Адна... унучка працуе ў школе. Захаваўся ягоны дом на вуліцы Савецкай насупраць “Камсамольскай крамы”, самога яго высялілі на торфазавод».

Два дамы па вуліцы Сувальскай (Савецкай, 32, 34) каля бровара пабудавалі напрыканцы 1930-х гадоў. Дом па вуліцы Сувальскай, 92 (Савецкай, 32) належаў Малеўскім, дом па адрасе: Сувальская, 94 (Совецкая, 34) – пабудаваў лідскі радны і землеўладальнік Баляслаў Вітажэнец. Два гэтыя дамы да нядаўняга часу былі аднымі з лепшых у горадзе. Ёсць інфармацыя, што падчас вайны ў доме па Сувальскай, 92 на першым паверсе жыў нямецкі гебітскамісар Герман фон Ханвег.

Лідзянін Зіновій Бянько ўспамінаў, што ў доме Савецкая, 32 мясціўся першы пасля Другой сусветнай вайны гаркам камсамола (прыкладна з 1946 г.), потым тут пасяліўся начальнік турмы (другі паверх), а на першым паверсе нейкі Вераніцын. Потым тут жылі першыя сакратары гаркама і райкама, старшыні гарвыканкама і г. д. Старшыня Лідскага гарвыканкама ў 1962–1969 гг. Аляксей Сямёнаў жыў якраз у гэтым доме, ён успамінаў: «Пасля зносу плоту каля дома, дзе мы з Фамічовым [першы сакратар гаркама – Л. Л.] жылі, у садзе па вечарах паступова ўзнік прытон п’яных мужчын і жанчын, балазе цераз дарогу працаваў магазін № 12, у якім можна было набыць піва і гарачыцельныя напіткі. Па вечарах у садзе раздаваліся




Савецкая, 32, 34. Дамы Малеўскага і Вітажэнца

п'яныя віскі і лаянка, адбывалася ўсялякая непатрэбшчына. Па ўказанні Фамічова начальнік міліцыі Дзяргай высылаў сюды міліцэйскія нарады. Нічога не дапамагала. Тады я ўзяў у міліцыі некалькі чалавек, так званых "дэкабрыстаў", якія адбывалі арышт, будаўнікі па маёй просьбе падвезлі бетон і даставілі металічную агароджу з партыі, нарыхтаванай для парку, і за паўдня з абеду да вечара з двух знешніх бакоў дома быў зманціраваны металічны плот. Прытон перастаў дзейнічаць. Фамічоў прамаўчаў. Па-мойму, гэты плот стаіць і зараз». Плот стаяў тут да 2010 г.

За домам Савецкая, 32 у бок бровара знаходзіцца хлевушок, перад якім засталася дарожка, выкладзеная пліткай-брэкчыяй (ад італьянскага breccia – горная парода, складзеная з вуглаватых абломкаў і сцэментаваная). Такая плітка выраблялася ў горадзе ў рамках адмысловай праграмы па барацьбе з беспрацоўем. У лютым 1938 г. прэса паведамляла: «Дзве прамысловыя суполкі (кааператывы), якія будуць рабіць бетонныя і брукарскія работы, пачынаюць працаваць у горадзе. Фонд працы даў пазыку ў 4 000 зл. для будаўніцтва і закупу абсталявання для бетанярні і 2 000 зл. на арганізацыю брукарскай суполкі».

Цікавы лёс сына былога ўладальніка дома па вуліцы Савецкай, 34 Стэфана Вітажэнца (15.01.1908–30.12.1994). У 1929 г. ён скончыў Лідскую дзяржаўную гімназію імя гетмана Хадкевіча, потым вучыўся ў школе падхарунжых лётнага рэзерву (1930 г.), у Цэнтры падрыхтоўкі афіцэраў авіяцыі ў Дэмбліне (1932 г.), на курсах вышэйшага пілатажу пры Лётнай школе ў Грудзензе (1933 г.). Да 1939 г. служыў інструктарам у лётнай школе.

Удзельнік Другой сусветнай вайны. Здзейсніў 208 баявых вылетаў. За два месяцы паветранай бітвы над Вялікабрытаніяй збіў 5 нямецкіх самалётаў, адным з іх кіраваў нямецкі ас Хорст Тэтзен. Камандаваў эскадрылляй, дывізіёнам, знішчальным крылом. Скончыў вайну падпалкоўнікам.

У 1945 г. быў камендантам Школы пачатковага пілатажу, затым два гады да расфарміравання камандаваў Другім польскім знішчальным крылом. У 1948 г. вярнуўся ў Польшчу, пасяліўся з бацькамі ў Лодзі. У 1957 г. ізноў быў прызваны ў Польскае Войска. Служыў у апараце камандавання Паветраных Сіл, 9 гадоў быў камендантам Цэнтра падрыхтоўкі лётчыкаў у Модліне. Узнагароджаны ордэнам «Віртуці Мілітары», Ганаровым Лётным Крыжам Вялікабрытаніі, Срэбным Крыжам ордэна «Віртуці Мілітары», трохразова Крыжам за доблесць, Крыжам Баявых Дзеянняў на Захадзе.

У 1968 г. у званні палкоўніка выйшаў на пенсію. Доўгія гады ўзначальваў Саюз польскіх лётчыкаў. Памёр 30 снежня 1994 г. Пахаваны ў Варшаве на могілках у Павонзках сярод вайсковых лётчыкаў. Пасмяротна ўзнагароджаны Камандорскім крыжам з Зоркай ордэна Адраджэння Польшчы. Правёў у паветры 4 238 гадзін, лётаў на 31 тыпе самалётаў.

Лідскія дамы, пабудаваныя да 1939 г. у стылі функцыяналізму – стыльныя гмахі, якія ўпрыгожваюць наш горад. У нашым горадзе з 1930 г. захаваліся некалькі цудоўных будынкаў у гэтым стылі. Пра большасць з іх – у наступных главах.

# Вуліца Савецкая (Віленская, Сувальская) далей на поўнач

Рухаемся далей на поўнач ад сучаснага перакрыжавання вуліц Савецкай і Міцкевіча. З правага боку размяшчаўся ліцейны завод братоў Штэйнбергаў і Ландо. За заводам ад вуліцы Віленскай (Сувальскай) у бок ракі Лідзеі адыходзіла вуліца Пастаўская, яна ішла да яўрэйскіх могілак і далей да моста праз Лідзейку, а потым ператваралася ў дарогу, якая вяла ў бок Дворышча.

У 1898 г. на рагу вуліц Віленскай і Пастаўскай яўрэйская грамада горада пабудавала свой шпіталь (яўрэйскі шпіталь існаваў у горадзе з 1868 г.). Новы шпіталь быў дастаткова вялікім для таго часу цагляным будынкам. У 1937 г. было вырашана на старых падмурках дабудаваць другі паверх яўрэйскага шпіталя і такім чынам значна павялічыць колькасць шпітальных ложкаў. Пасля надбудовы, у пачатку 1939 г., у лідскім яўрэйскім шпіталі пачаў працаваць аддзел гінекалогіі на 20 ложкаў.

Лідзянін Юзаф Кардаш пісаў: «За бельведэрам далей на поўнач стаялі драўляныя дамы. Двор бабулькі Халецкай і драўляныя гаспадарчыя пабудовы мелі адзін дах. Яшчэ далей на поўнач з левага боку стаяў ладны мураваны будынак. Гэта была крама кааператыва «Сполем», у якой працаваў Любкевіч. У глыбіні за крамай знаходзіліся гараж і вежа пажарнай стражы. Шкада было гэтых бедных механікаў, якія адказвалі за тэхнічны стан пажарнай тэхнікі… і бясконца рамантавалі стары спрацаваны шэўрале. Адсюль управа адыходзіла вуліца Пастаўская, на рагу Пастаўскай і Сувальскай стаяў дастаткова вялікі мураваны будынак – яўрэйскі шпіталь, заложаны ў 1898 г. Згарэў 23 чэрвеня 1941 г.»

Умоўна збочваем з галоўнай вуліцы і крочым па вуліцы Пастаўскай. З правага боку гэтай вуліцы раней стаяла брама на яўрэйскія могілкі. Ад паловы вуліцы Пастаўскай у левы бок адыходзіла вуліца Халодная. Перад вайной тут стаяла крамка яўрэя Шмуйлы, дзе можна было купіць усё: хлеб, булку, селядцы, запалкі, мыла, газу, змазку для воза і г. д. Насупраць крамы стаялі тартак і млын.

**Яўрэйскія могілкі**. Яўрэі пасяліліся ў Лідзе ў XVI ст.

Кароль Стэфан Баторы ў 1579 г. выдаў лідскім яўрэям прывілей на права пабудовы новай сінагогі і рамонт старой, аднак з умовай, каб новая сінагога не была вышэйшая за касцёл і цэрквы.

Упершыню лідскі кагал узгадваецца ў 1623 г., у гэты год ён быў падпарадкаваны гарадзенскаму. Да таго ж часу належыць і перапіска паміж лідскім кагалам і суседнімі яўрэйскімі супольнасцямі. Як толькі ў горадзе з'явілася яўрэйскае насельніцтва, дык акрамя сінагогі, зразумела, з'явіліся і яўрэйскія могілкі. Прэса ў сакавіку 2009 г. пісала пра цікавыя знаходкі на былых лідскіх яўрэйскіх могіл-

ках, якія дазваляюць датаваць гэты аб'ект канцом XVI ст.: «Падчас пракладкі кабелю сувязі ў горадзе Ліда рабочыя знайшлі габрэйскую магілу з помнікам 1872 г. Яўрэйскія могілкі знаходзяцца ў цэнтры Ліды, але былі разбураны савецкай уладай, каб зрабіць жылыя дамы. Сёння надмагіллі і парэшткі часта знаходзяцца падчас будаўніцтва. Некалькі гадоў таму былі выяўлены два надмагіллі, датаваныя 1605 г., яны былі дададзены да існага мемарыяла Халакосту. Рабін Іцхак Кофман з Гародні разам з чальцамі яўрэйскай грамады перапахавалі парэшткі, знойдзеныя нядаўна...».

На плане горада 1842 г. гэтыя могілкі займаюць каля двух гектараў, і бачна, што плануецца іх пашырэнне. На яўрэйскіх могілках меліся надмагіллі рознай вышыні, сустракаліся там таксама і наземныя вялікія цагляныя пахавальні з трохвугольным дахам і плітамі з эпітафіяй, якія прымацоўваліся да сцяны.

Трэба адзначыць традыцыйны яўрэйскі прынцып "магілы непарушныя". Гэта значыць, што парэшткі памерлых павінны назаўсёды застацца ў тым месцы, дзе былі пахаваны. Хрысціянскае разуменне дазваляе парушаць існыя пахаванні пасля пэўнага часу, хрысціянскія могілкі, якія не выкарыстоўваецца на працягу доўгага часу, могуць быць ліквідаваны. Згодна з прынцыпам іўдаізму, кожнае надмагілле і ўсе могілкі недатыкальныя да таго часу, пакуль вядома, што ў пэўным месцы знаходзяцца пахаванні. Выключэннем можа быць выпадак, калі эксгумацыя робіцца для пераносу парэшткаў на Святую Зямлю альбо ў сямейную магілу, для пераносу парэшткаў з неяўрэйскіх могілак ці калі могілкам пагражае прафанацыя альбо падмыў вадой.

Могілкі пачалі разбурацца з 1941 г. Былы жыхар Ліды І. Рубіновіч успамінаў: «Адразу пасля акупацыі горада Ліды немцамі пачалася ліквідацыя яўрэйскіх могілак. Сяляне пачалі пасвіць тут сваіх кароў, а потым пачалося разбурэнне надмагілляў, іх пачалі вывозіць для гаспадарчых мэт. Так працягвалася і пасля вайны... У сярэдзіне 1950-х гадоў гарадскі савет забараніў некалькім яўрэйскім сем'ям, якія жылі ў Лідзе, хаваць сваіх нябожчыкаў на гэтых старых могілках. У якасці альтэрнатывы яны маглі хаваць сваіх нябожчыкаў у горадзе Іўе. У 1960-х гадах у Лідзе пачалася хуткая ліквідацыя яўрэйскіх могілак. Па-першае, была разбурана частка, бліжэйшая да берага Лідзейкі: тут, на беразе штучнага возера, былі пабудаваны розныя канструкцыі і памяшканні для лодак, катэраў і персаналу... Пасля гэтага была таксама разбурана частка магіл, якія межавалі з былой вуліцай Пастаўскай, тут зламалі магільныя пліты, якія ўсё яшчэ заставаліся. Усё гэта было зроблена, нягледзячы на пратэсты яўрэяў, якія да гэтага часу жылі ў горадзе. Многія чалавечыя косці былі раскіданы па паверхні зямлі. Яўрэі сабралі іх у мяшок і закапалі на частцы могілак, якая яшчэ захоўвалася ў той час. Пры канцы студзеня 1966 года толькі ў цэнтры могілак засталіся некалькі надмагілляў – яны былі знішчаны пазней. Такім чынам, апошнія сляды, якія сведчылі пра існаванне вялікай і квітнеючай яўрэйскай супольнасці ў горадзе Ліда, былі разбураны і знішчаны».

Лідзянка Ларыса Канчэўская ўспамінае: «Возера ў канцы вуліцы Міцкевіча "стварылі" ў 1962 годзе. Паставілі плаціну і загаварылі пра "Лідскае мора". Падзея была не шараговая! Горад быў поўны азёраў, а купацца ўсур'ёз няма дзе. І вось адбылося! З першымі цёплымі днямі народ накіраваўся на пляж, які быў завалены... магільнымі плітамі габрэйскіх могілак, што знаходзіліся здаўна на беразе Лідзейкі і ёю ж затопленыя... Вельмі проста загаралі на замшэлых плітах з экзатыч-

ымі старажытнымі пісьмёнамі. І гэта цягнулася даволі доўга: гадоў пяць, калі не даўжэй. Атэізм і вайна надоўга зрабілі людзей неадчувальнымі да сакральных рэчаў быцця, і таму яны не задумваліся аб рознага роду блюзнерствах».

Да 1960-х гадоў яўрэйскія могілкі мясціліся каля сучаснай вуліцы Фрунзе. Зараз на тэрыторыі гэтых могілак пабудаваны жылыя дамы, могілкі сталі часткай вадасховішча.

У 1930-я гг. на поўнач ад пажарнай аховы, на куце вуліц Сувальскай і Крупаўскай (сучасная 8-га Сакавіка), знаходзілася півярня Рэцькі, па водгукам наведвальнікаў – «вельмі прыстойная».

**Пажарная ахова нашага горада.** Праз год пасля пажару 1891 г., у ліпені 1892 г., была створана Лідская гарадская добраахвотная пажарная дружына. У пачатку XX ст. пажарная дружына мела 4 помпы і 6 пажарных бочак. Пажары былі, верагодна, самай вялікай праблемай для горада.

Яшчэ ў 1832 г. за наём коней са збруяй для пажарных прыстасаванняў і аплату людзям горад плаціў 50 срэбных рублёў штогод. Каштарыс расходаў горада ў 1885 г. паказвае, што для барацьбы з пажарамі горад выдаткоўваў 800 руб. у год. Меўся абоз з пажарнымі прыстасаваннямі. Гэты пажарны абоз мясціўся каля мясных лавак на Рыначнай плошчы ў адмысловай адрыне, адрыну ахоўваў вартаўнік, якому плацілі 96 руб. у год. За рамонт пажарных інструментаў, вадзяной гарадской гаспадаркі і наём людзей і коней горад штогод плаціў 50 руб. Пасля вялікага пажару 1891 г. за адбудову згарэўшай пажарнай адрыны гарадскія ўлады заплацілі 500 руб. Гэткую ж суму некалькі гадоў горад выдаткоўваў «розным гаспадарам за адчужэнне ў іх зямлі падчас перапланіроўкі горада пасля пажару ў 1891 г. для пашырэння і правядзення зноў пракладзеных вуліц» – пры адбудове пасля вялікага пажару мянялася нават тапаграфія горада.

Для ўзмацнення пажарнай аховы ў 1892 г. набылі двух коней са збруяй, гэтыя коні стаялі ў новай пажарнай адрыне. Пакупка коней матывавалася «забудо-



Конная пажарная помпа на вуліцы Віленскай, 1917 г.



Будынак Лідскай добраахвотнай пажарнай дружыны ў 1930-я гг.

вай горада пасля пажару 2-павярховымі дамамі і адсутнасцю коней для падвозу пажарных прыстасаванняў… Гэта заўважана спадаром начальнікам губерні падчас рэвізіі горада летам 1897 г.»

Сход гарадскіх упаўнаважаных 24 сакавіка 1898 г. дамовіўся з утрымальнікам пошты Сольцам, што ў выпадку пажару ён даваў бы 4 коней з фурманамі, за што атрымліваў 200 рублёў штогод. Выдаткоўваліся грошы і на рамонт пажарнага абсталявання.

5 жніўня 1897 г. міністр унутраных спраў Расіі зацвердзіў «Нармальны статут добраахвотнай пажарнай дружыны». І ўжо ў 1899 г. «Памятная кніжка Віленскай губерні» друкуе інфармацыю аб Лідскім добраахвотным пажарным таварыстве. Старшынёй таварыства і начальнікам пажарнай каманды стаў надвор-


Паказальны выступ лідскіх добраахвотных пажарных у замку Гедыміна, другая палова 1930-х гг.




Аўтамабіль Лідскай добраахвотнай пажарнай дружыны (OSP Lida), 1930-я гг.

ны дарадца Ігнат Сабаткоўскі (скончыў Кобрынскае духоўнае вучылішча), ягоным намеснікам – Аляксей Копцаў (скончыў Лідскае павятовае вучылішча), загадчыкам маёмасці – ветэрынарны ўрач Роберт Рэнерт (скончыў Юр'еўскі ўніверсітэт). Потым на працягу гадоў кіраўнікі таварыства і ягоная структура мяняліся, што лёгка прасачыць па «Памятных кніжках Віленскай губерні» розных гадоў. Пачалі працаваць пажарныя таварыствы і ў мястэчках павета.

Згодна з пастановай гарадскіх упаўнаважаных ад 12 лютага 1901 г. горад прыняў на сябе абавязкі штогод выдаткоўваць гарадскому пажарнаму таварыству 300 руб. на рамонт прыстасаванняў, наём коней і страхоўку добраахвотнікаў ад няшчасных выпадкаў у адмыслова створаным для гэтага Усерасійскім таварыстве Блакітнага Крыжа. У 1904 г. для пажарнага таварыства на той жа Рыначнай плошчы будуюцца стайні і памяшканне для вознікаў.



*Лідскія пажарнікі каля свайго новага будынка, 1917 г.*

Звычайна добраахвотную пажарную ахову ўзначальваў паліцэйскі спраўнік. З 1906 г. па канец 1914 г. лідскім спраўнікам быў Яўген фон Гротэ дэ Буко, ён узначальваў павятовую паліцыю і Лідскую пажарную ахову, г. зн. адказваў за пажарную бяспеку горада, які часта гарэў.

У такім стане Лідскае добраахвотнае пажарнае таварыства праіснавала да 1915 г.

У 1916 г. нямецкія акупацыйныя ўлады пабудавалі ста-

лае памяшканне – фахверкавы будынак для пажарнай аховы па адрасе вуліца Віленская, 189, на заходнім боку вуліцы, недалёка ад перакрыжавання з сучаснай вуліцай 8 Сакавіка (у той час Крупаўскай). Фахверк (Fachwerk) – тып канструкцыі будынка, заснаваны на запаўненні муроўкаю драўлянага каркаса. Звычайна каркас застаецца бачны, ён раздзяляе фасад на панэлі рознай формы і надае будынку характэрны маляўнічы выгляд.

З успамінаў лідзян даведваемся, што нямецкія ўлады стварылі ў горадзе «правільна абсталяваную пажарную частку з прафесійным, ваенізаваным персаналам», менавіта таму на фотаздымках часоў першай нямецкай акупацыі мы бачым лідскіх пажарных у вайсковай форме.

У лютым 1929 г. павятовыя ўлады вырашылі пачаць закупкі спецыялізаваных аўтамабіляў для пажарнай аховы, і ўжо ў канцы верасня гарадскі магістрат купіў першы ў горадзе спецыялізаваны пажарны аўтамабіль.

У пачатку жніўня 1931 г. прэса пісала аб бухгалтары «Ардаля» (зараз – абутковая фабрыка) Хаіме Ківялевічы. Ён ўратаваў жанчыну, якая танула ў рацэ Моўчадзь каля Наваельні. Да гэтага выпадку Ківялевіч ужо два разы ратаваў людзей: у 1914 г. ён выцягнуў з вады дзіця, якое ўпала з моста ў раку, а ў 1920 г. у Лідзе вынес дзіця з полымя пажару. Ківялевіч быў членам Лідскай добраахвотнай пажарнай дружыны.

Для папярэджання лідзян аб пажарах і другіх надзвычайных сітуацыях у 1928 г. у цэнтры горада была ўсталявана адмысловая пажарная сірэна.

23 і 24 ліпеня 1932 г. горад святкаваў 40-гадовы юбілей заснавання добраахвотнай пажарнай аховы ў Лідзе. У межах 1-х ваяводскіх спаборніцтваў пажарных каманд, якія праходзілі ў гэты час у нашым горадзе, адбыліся паказальныя выступы добраахвотных пажарных, узнагароджанне лепшых пажарнікаў, паказ у кінатэатры «Эдысан» фільма «Рыцары агню» і г. д.

Жыхары горада знаходзілі для пажарных дружын горада і іншыя мэты, акрамя тушэння пажараў. У чэрвені 1934 г. нехта з лідзян пісаў у віленскай газеце «Слова»: «Тое, што ў горадзе не паліваюцца вуліцы, ёсць вялікая бяда. Таму паўсюдна ў нас уздымаецца пыл, які замаруджвае паветра. У Лідзе ёсць... пажарныя дружыны. Ці не можа магістрат загадаць, каб яны час ад часу прыязджалі з бочкамі вады і палівалі вуліцы?».

У кастрычніку 1937 г. каля будынка пажарнай аховы па вуліцы Віленскай, 189 закончылася будаўніцтва новай 20-метровай пажарнай вежы. Штат Лідскай пажарнай аховы складаўся з добраахвотнікаў, але некалькі чалавек займаліся справай прафесійна. Як і належыць, пажарныя мелі свой аркестр. На ўзбраенні пажарнай аховы мелася некалькі конных павозак і пажарных аўтамабіляў.

У 1930-я гг. у лідскай пажарнай ахове стала збіраліся члены КПЗБ. Сярод актыўных лідскіх камуністаў быў добраахвотны пажарны Абрам Гельман, пасля Другой сусветнай вайны ён напісаў цікавыя ўспаміны пра пажарную справу ў горадзе.

У першай палове 1939 г. прэса інфармавала пра тое, што лідскія пажарныя ў замку Гедыміна вучылі насельніцтва тушыць запальныя бомбы.

Памяшканне пажарнай аховы згарэла ў 1941 г.

# Лідская гарадская электроўня

У 1916 г. па распараджэнні нямецкіх акупацыйных улад да прыватнай электроўні пастаяннага току магутнасцю 50 к.с., якая працавала ў вінакурні Крыгера, былі падключаны будынкі, дзе мясцілася гарадская ўлада, і часткова дамы жылога сектара ў цэнтры горада. Тады ж пачалося будаўніцтва гарадской электроўні сталага току, і ў тым жа годзе горад атрымаў энергетычны аб'ект з двума лакамабілямі, якія прыводзілі ў дзеянне дынама-машыны пастаяннага току. На станцыі былі ўсталяваны: два лакамабілі па 150 і 80 к.с. (фірм «Assman et Stocker» і «Lanc») і дзве дынама-машыны магутнасцю 71 і 52 кВт (фірм «Siemens-Schuckert» і «Lahmer et C°, Frankfurt»).

Нягледзячы на тое, што ў 1920-я гады ў горадзе працавалі дзве адносна вялікія электроўні – чыгуначная і гарадская – жыхары Ліды мелі праблемы з асвятленнем. Частка горада каля чыгуначнага вузла асвятлялася ад чыгуначнай электроўні. Спажыўцы плацілі па 60 гр. за кілават-гадзіну. Увесь астатні горад забяспечваўся гарадской прыватнай электроўняй, арандатарам якой быў нейкі Цыдзяровіч. Электрычнасць у гэтай, большай, частцы горада часта знікала, лямпы гарэлі няроўна і пры гэтым абаненты плацілі 1 зл. 16 гр. за кілават-гадзіну. «Не далей як учора, г. зн. 15 студзеня, цэнтр горада да 10-й гадзіны вечара быў пагружаны ў цемру, разам з жыхарамі святла не мелі паліцыя, турма і г. д.» – пісаў карэспандэнт «Слова» ў артыкуле «Нашы балячкі» на пачатку 1926 г. Праз паўгода газета «Слова» зноў звярнулася да гэтай тэмы: «Нягледзячы на тое, што каштуе [электраэнергія – Л. Л.] значна болей, чым у Вільні, электрычнасць часта псуецца і гараджане сядзяць пры свечках ці газавых лямпах. Адзіная надзея, што здзей-




Паштоўка 1917 г., злева ідзе электрычная лінія сталага току, якая мае два драты (+ і –).



Адзіны захаваны да нашага часу трансфарматарны пункт фірмы «Ганц» па вуліцы Варшаўскай

сняцца энергічныя захады бургамістра горада Рудольфа Бергмана і гарадская электроўня пяройдзе з рук нейкага Цыдзяровіча ў маёмасць горада».

У красавіку 1928 г. «Навагрудскае жыццё» папярэдзіла аб тым, што Лідзе пагражае «егіпецкая цемра», бо «лакамабілі лідскай электроўні знаходзяцца ў такім стане, што прадстаўнік нагляду за катламі інж. Лябецкі забараніў іх далейшую эксплуатацыю. Але каб не пазбавіць лідзян электрычнасці на велікодныя святы, ён дазволіў электроўні працаваць яшчэ нейкі час. Прычына хуткага псавання катлоў – неадпаведная вада, якую патрэбна было апрацоўваць адмысловымі хімікатамі».

Гарадскія ўлады дабіліся свайго, у ліпені 1928 г. прэса паведамляла, што «дзякуючы шматгадовым намаганням магістрата, лідская электроўня, якая з'яўлялася дзяржаўнай маёмасцю, але была перададзена ў арэнду прыватнікам, 13 ліпеня за невялікія грошы стала гарадской маёмасцю». Аднак пераход электроўні на баланс магістрата спрыяў не зніжэнню, а павышэнню цэн на электрычнасць. На пачатку кастрычніка 1929 г. павышэнне цэн тлумачылася тым, што магістрат пачаў траціць вялікія грошы на будаўніцтва гарадскіх размеркавальных сетак і на будаўніцтва новага гмаху станцыі, яшчэ праз тры тыдні тарыфы на электрычнасць зноў павялічыліся.

У ліпені 1928 г. на пасяджэнні гарадской рады было вырашана ўзяць пазыку для будаўніцтва новай электроўні ў горадзе. У сакавіку 1929 г. газета «Навагрудскае жыццё» паведаміла: «З пачатку мая 1929 г. пачнецца будаўніцтва новай электроўні па вуліцы Сувальскай, недалёка да праваслаўных могілак. Кошт будоўлі склаў 800 000 зл. Станцыя павінна будзе атрымаць два рухавікі ў 260 і 150 к.с., у канцы зімы першы з рухавікоў ужо быў закуплены ў Варшаве». І насамрэч, у маі 1929 г. пачалося будаўніцтва новай электроўні коштам 800 000 злотых на старым месцы па вуліцы Сувальскай. У канцы жніўня прэса пісала: «Гмах гарадской элек-

троўні надбудоўваецца другім паверхам, працы будуць закончаны да канца восені». 28 жніўня на гэтай будоўлі павалілася рыштаванне і прыціснула аднаго з будаўнікоў – Пятра Цярпілоўскага, у якога ў шпіталі канстатавалі пералом рэбраў.

Разам з рэканструкцыяй электроўні горад пераходзіў з пастаяннага на пераменны ток, таму трэба было будаваць новыя размеркавальныя электрычныя сеткі з трансфарматарнымі пунктамі. Таму былі пабудаваны тыпавыя трансфарматарныя пункты на гарадскім рынку, каля старых могілак, па вуліцах Сувальскай і Варшаўскай, размеркавальны пункт насупраць вайсковага шпіталя. Гэты размеркавальны пункт з абсталяваннем фірмы «Ганц» існаваў да канца 1960-х гадоў. А тыпавы трансфарматарны пункт (падстанцыя 6/0,4 кВ) па вуліцы Варшаўскай захаваўся да нашага часу. Гэты тэхнічны будынак створаны па тыпавым праекце таго часу – на фотаздымках 1930-х такія ж трансфарматарныя пункты, крытыя дахоўкай, бачны каля рынкавай плошчы, старых могілак і каля староства.

У красавіку 1930 г. венгерскай фірмай «Ганц» была закончана рэканструкцыя. На фотаздымку машыннага зала лідскай электроўні таго часу добра бачна шыльда фірмы «Ганц». Прэса паведамляла: «Ліда мае электрычнасць. Нарэшце прыйшоў дзень, калі магістрат горада ў прысутнасці ваяводскіх улад афіцыйна адчыніў новапабудаваную гарадскую электроўню. На ёй усталяваны два дызелі агульнай магутнасцю 410 к.с. Выкладзена кабельная размеркавальная сетка класа 6 кВ, якая аб’яднала шэсць трансфарматарных пунктаў. Гэта павінна забяспечыць нармальнае электразабеспячэнне і ўзровень напружання. Вонкавыя размеркавальныя сеткі 0,4 кВ таксама рацыянальна перабудаваны. Галоўная і бакавыя вуліцы, на якіх апошнім часам павялічыўся дарожны рух, атрымаюць добрае асвятленне. Замест былых 75 ліхтароў на вуліцах горада зараз усталявана 185 і магістрат плануе ўсталяваць яшчэ 35 ліхтароў дадаткова.

Мантаж абсталявання, размеркавальных сетак і трансфарматарных пунктаў выкананы фірмай «Ганц», якая згадзілася зрабіць для нашага горада работу ў крэдыт на 4 гады і, верагодна, гэты крэдыт будзе пралангіраваны яшчэ на паўгода». На пачатак 1931 г. паведамлялася пра 6 714 м кабельных ліній 6 кВ у горадзе.

Трэба адзначыць, што будаўніцтвам электроўні трохфазнага пераменнага току Ліда ў тэхналагічным сэнсе апярэдзіла суседнія гарады. Напрыклад, прэса паведамляла, што толькі ў 1932 г. Гродна пачынаў пераход на пераменны ток, адным з першых праектаваўся трансфарматарны пункт па вуліцы Дамініканскай гэтага горада, а ў Вільні толькі ў жніўні 1933 г. паведамлялася пра пераход з пастаяннага на пераменны ток па вуліцы Міцкевіча (ад 3-га Мая да моста).

Але ўжо ў 1936 г. два дызельныя рухавікі гарадской электроўні адпрацавалі свой рэсурс, патрабавалі амаль штодзённага рамонту і шмат вельмі дарагіх запасных частак. Энергія, якая выпрацоўвалася ёй, мела высокі сабекошт. Таму стала зразумела, што замест пастаяннага рамонту неабходна закупляць новае энергетычнае абсталяванне. Ужо ў красавіку 1937 г. паведамлялася, што «гарадская электроўня атрымае новы камплект абсталявання. Зараз гарадская электроўня мае два дызель-рухавікі агульнай магутнасцю 220 кВт. З-за зносу гэтых машын і росту ўжывання электрычнасці гарадскія ўлады вырашылі купіць новы рухавік у 550 конскіх сіл. Новае абсталяванне будзе закуплена... на грошы з доўгатэрміновай пазыкі ад Фонду працы». З пачаткам мадэрнізацыі насельніцтва па-



Фотаздымак 1930-х гг., на электроўні бачна абсталяванне фірмы «Ганц».

пярэдзілі, што могуць быць перапынкі ў падачы электрычнасці, і таму неабходна мець у запасе рэзервовыя сродкі асвятлення. Прэса даводзіла, што пасля заканчэння работ гарадская электроўня зможа забяспечыць электрычнасцю ўсе прадпрыемствы горада, а насельніцтва зможа карыстацца электраэнергіяй не толькі для асвятлення жытла, але нават для кухонных мэт. Павінен быў зменшыцца і сабекошт кілават-гадзіны.

1 ліпеня 1938 г. адбыўся пробны пуск новага энергетычнага абсталявання, які закончыўся выбухам. Праз некалькі дзён адпаведная камісія высветліла, што з-за дрэннай зваркі труб і збору газу ў паліўнай апаратуры сістэма была негерметычнай, таму ўтварылася выбуховая газавая сумесь. Шкоду ад выбуху ў некалькі сотняў злотых пакрыў вінаваты за выбух інжынер Трок з Вільні. Такім чынам, першы этап рэканструкцыі закончыўся пры канцы лета 1938 г. Інфармацыі пра другі этап няма, найверагодней, што з-за пачатку вайны далейшыя работы пачаць не паспелі.

Дарэчы, пасля рэканструкцыі электроўні кошт электрычнасці для спажыўцоў у горадзе панізіўся з 1 да 0,8 злотага за 1 кілават-гадзіну, аднак ён заставаўся вышэйшым, чым у суседніх гарадах. Трэба адзначыць, што ў параўнанні з нашым часам электрычнасць адносна заробкаў была надзвычай дарагой. Напрыклад, сярэднія сучасныя 100 і болей кілават-гадзін на кватэру за месяц абышліся б рабочаму з «Ардаля» (зараз – Лідская абутковая фабрыка) у яго добры па тым часе сярэдні заробак – 80–100 злотых. Таму людзі абыходзіліся запальваннем слабых электрычных лямпачак толькі ў вячэрні час, а пра выкарыстанне электранагравальнікаў не магло ісці гаворкі. Не дзіўна, што і пасля рэканструкцыі гарадскія ўлады эканомілі на асвятленні нават публічных месцаў: «У Лідзе пабудавана адмысловая аўтастанцыя, на якой спыняюцца агромністыя аўтобусы. ... Зараз дзень кароткі, аўтастанцыя не мае электрычнага асвятлення і таму разам з усім горадам пагружаецца ў цемру. Тыя электрычная ліхтары, якія ўсё ж свецяць у горадзе, маюць такія слабыя лямпы, што за 10 крокаў ад слупа ўжо цёмна. Таму абяцанне,

што пасля рэканструкцыі электроўні “Ліда будзе зіхацець”, не выканана».

З прэсы можна даведацца пра некаторыя здарэнні, якія датычылі супрацоўнікаў электроўні.

У канцы жніўня 1929 г. чыноўнік лідскай электроўні Фішар у дрэнным настроі вярнуўся апоўдні дадому і патрабаваў у жонкі, каб тая яго накарміла. Калі жонка трохі прамарудзіла, ён, пакрыўдзіўшыся, выпіў бензін з бутэлькі, якая стаяла каля стала. Урач канстатаваў апёкі горла і кішак. Нервовая была праца ў энергетыкаў у тыя часы... А ўзімку 1938 г. знік без вестак гарадскі кантралёр электроўні Лейба Леў. Па словах крэўных, кантралёр стаў ахвярай кахання без узаемнасці.



Лідская электроўня ў 1930-я гг.

Не абыходзілася і без кур’ёзаў. У канцы 1937 г. суд прыгаварыў чыноўніка адміністрацыі горада, наглядальніка за гарадскімі работамі Палтарацкага да штрафу ў памеры 15 злотых за тое, што падчас начной змены на гарадской электроўні ён збіў работніка Уладзіслава Вільбіка: «Гэта вынікі ўхвалы гарадской радай выдачы работнікам гарэлкі падчас працы».

6 мая 1932 г. па Лідчыне прайшла магутная вясенняя бура, якая паваліла тэлефонныя слупы і парвала правады на чыгуначным шляху Ліда – Маладзечна (адразу за мостам праз Лідзею). Маланка патрапіла ў гарадскую электроўню, яе кіраўнік і дзяжурны манцёр часова страцілі прытомнасць, таму да 19.30 горад апынуўся ў цемры. З-за моцнага дажджу на 1 метр паднялася рака Лідзея і месцамі выйшла з берагоў.

Тады ж, падчас работы на дзядзінцы плябаніі ксяндза Баярунца рабочыя абарвалі электрычны провад. Адзін з рабочых, Юзаф Місюра, вырашыў провад адкінуць і ўзяўся за яго рукой. «Пацярпелы ў цяжкім стане трапіў у шпіталь».

Энергетыкам заўжды трэба было быць гатовымі выканаць неабходныя аварыйныя работы: «13 ліпеня [1937 г. – Л. Л.] каля староства, на вуліцы Сувальскай, армейскі аўтамабіль збіў слуп электрычнай размеркавальнай сеткі».

У любой энергасістэме важным полем дзейнасці з’яўляецца ўлік адпушчанай спажыўцу электраэнергіі. У красавіку 1938 г. гарадская ўправа афіцыйна перадала паліцыі справу на Станіслава Чаплю (Легіяновая, 20), які самавольна падключыўся да электрычнай сеткі і краў энергію. Такім жа незаконным чынам карысталіся электрычнасцю ўладальнікі спартыўнай залы яўрэйскага спартыўнага таварыства «Макабі» (Сувальская, 74), пра што я ўжо пісаў вышэй. Але як паліцыя пакарала парушальнікаў, невядома.

# Вуліца Савецкая каля перакрыжавання з чыгункай



Лідскія праваслаўныя могілкі, малюнак 1917 г

Мы падышлі амаль што да перакрыжавання вуліцы Віленскай (Савецкай) з чыгункай Ліда – Маладзечна і тут закончым вандроўку па старажытнай вуліцы.

**Свята-Георгіеўская царква і праваслаўныя могілкі**. Лідская Свята-Георгіеўская царква пабудавана з дрэва ў 1875 г. на сродкі А. Васнеўскага. З 1919 па 1990-я гг. гэта царква была адзінай у горадзе. Лідскі гісторык Міхал Шымялевіч пісаў, што праваслаўныя могілкі арганізаваны каля 1865 г., таму могілкі на гэтым месцы з'явіліся раней, чым царква, якая, дарэчы, будавалася як капліца на могілках.

Жыхар г. Ліды пісаў у 1923 г. у беларускай газеце «Новае Жыццё»: «З прыходам сюды польскай улады была адабрана ад праваслаўных беларусаў адзіная ў месце царква [Святога Архангела Міхаіла – Л. Л.]... Праваслаўных парахвіян Лідскае царквы налічваецца да 4 000 чалавек, яны... прымушаны сілай рэчаў маліцца ў невялічкай цэркаўцы-каплічцы на могілках, якая знаходзіцца ад цэнтра места, пры выездзе з Ліды, і ў ранейшыя часы была толькі местам адпявання нябожчыкаў».

Мемуарыстка Яўгенія Ярмант пісала, што ў Лідзе была «маленькая праваслаўная царква на могілках. У гэтую царкву з нашага дома трэба было ісці праз усю Сувальскую вуліцу. На могілкі ўваходзілі праз вялікія драўляныя вароты з разьбой блакітнага колеру. Ад варот, якія падчас службы былі адкрытымі, шырокая алея сярод высокіх дрэў на могілках вяла да самога храма.



Свята-Георгіеўская царква ў 1970-х гг.

Уздоўж галоўнай алеі стаялі лаўкі, якія абапіраліся на старыя металічныя магільныя агароджы. Старажытныя шэрыя помнікі выглядалі велічна. Я не баялася гэтых магіл. Наадварот, любіла гуляць па алеі сярод іх.

Адразу за царквой знаходзіліся магілы бацькоў маёй мамы. Мама неяк прывяла нас сюды і патлумачыла, хто ляжыць пад гэтым велізарным драўляным крыжам. Пазней мы заўсёды, калі прыходзілі ў царкву, ішлі да гэтых сціплых магіл. Царква была занадта малая, каб у нядзелю змясціць усіх вернікаў. Усярэдзіне было цесна, усе стаялі прыціснуўшыся адзін да аднаго, у кожнага было сваё звычайнае месца. Служба цягнулася да бясконцасці, таму некаторыя спецыяльна прыходзілі пазней і прабіраліся наперад. Наадварот, тыя хто стаяў наперадзе, прагнулі глынуць свежага паветра. Так што перакартоўка і таўкучка працягваліся бесперапынна.

Наша царква была драўлянай, пафарбаванай у блакітны колер і з двума цудоўнымі купаламі-цыбулінамі. З-за яе невялікіх памераў хор размяшчаўся з правага боку ад царскіх варот. Як вядома, служба ў царкве праходзіць выключна ў суправаджэнні хору. У харыстаў быў асобны ўваход на кліраc праз вузкія дзверы. Гэтыя дзверы, кліраc і харысты былі для мяне чымсьці незвычайным і недасягальным. Я адчувала іх нейкую святасць.

Я звычайна стаяла каля кліраса, услухоўваючыся ў асобныя галасы і адчувала праўдзівую асалоду. Ва ўрачыстыя хвіліны, калі, стоячы на каленях, глядзела на свет у высокім акне купала, а мелодыя падымалася ўсё вышэй і вышэй, я адчувала, што мая душа выносіцца разам з ёй. Моцныя галасы пеўчых дасягалі кожнага кутка скляпення, кружыліся там і чароўным дажджом абсыпаліся на галовы людзей, стаўшых на калені – і на маю таксама…

Зімы тады былі марозныя. Халадней за ўсё станавілася на Вадохрышча, г. зн. 6 студзеня па старым юліянскім календары, або па так званым старым стылі. У той дзень з царквы ў бок Лідзейкі адпраўляўся хрэсны ход. Натоўп рухаўся павольна, з харугвамі над галовамі. Бацюшка Багаткевіч ішоў пад балдахінам, акружа-

ны вернікамі. Высока над галавой ён трымаў абедзвюма рукамі крыж. Памятаю яго чырвоныя ад марозу далоні і здзіўленне – як ён мог вытрымліваць такі мароз. Дарога была доўгай. З царквы ішлі праз усю Сувальскай вуліцу, затым па Замкавай у наш бок міма замкавых руін выходзілі на вул. Гражыны да алтара, пабудаванага перад другім мостам над ракой. Мама казала, што бацюшка засцерагае рукі ад марозу, шаруючы іх спіртам. Але я ўсё роўна дзівілася і вельмі яго шкадавала. Пазней ён прыходзіў да нас на Каляды».

Пра свята лідскае Вадохрышча ў 1939 г. пісаў «Кур'ер Віленскі»: «Свята Вадохрышча ў Лідзе. У праваслаўнай царкве адбылося ўрачыстае набажэнства. Пасля набажэнства вернікі працэсіяй прайшлі па галоўнай вуліцы горада да берага ракі Лідзейкі па вуліцы Гражыны, дзе адбылася цырымонія Вадохрышча. У працэсіі акрамя людзей бралі ўдзел прадстаўнікі ўлады і войска».

Вялікая колькасць надмагілляў на праваслаўных могілках была знесена пры будаўніцтве завода электравырабаў. Тыя, што засталіся, планавалася знішчыць для будаўніцтва дарогі, для чаго ў 1980-х гг. быў таемна прывезены атрад навагрудскіх камсамольцаў, якія ўначы пазбівалі на зямлю каменныя крыжы з надмагіллямі. Уцалела толькі частка некропаля.

Гісторыя гэтых цікавых могілак у комплексе яшчэ не даследавалася.

Тут пахаваны былы лідскі дабрачынны Іосіф Каяловіч, быў пахаваны (зараз перазахаваны ў Воранаве) генерал ад інфатэрыі міністр абароны БНР Кіпрыян Кандратовіч, заснавальніца першай лідскай жаночай гімназіі Марыя Навіцкая, цэлая плеяда ваенных і парафіяльных святароў Літоўскай і Віленскай епархіі, урач Рэнерт, беларускія грамадска-палітычныя дзеячы Юльян Саковіч і Леанід Маракоў і інш.

Трэба выказаць падзяку святарам Свята-Георгіеўскага храма за ўсталяванне дошак, на якіх выбіты прозвішчы ўсіх вядомых на гэты час асоб, пахаваных на праваслаўных могілках.

**Марыя Навіцкая**, народжаная Снітко, нарадзілася 3 чэрвеня 1865 г. Атрымала адукацыю ў Віленскай Марыінскай вышэйшай жаночай вучэльні. Мела годнасць хатняй настаўніцы. У Лідзе жыла з 22 лістапада 1899 г. З'яўляецца заснавальніцай лідскай жаночай прагімназіі. Памерла 26 лістапада 1908 г. ад разрыву сэрца, не дажыўшы менш двух гадоў да канчатковага здзяйснення сваёй мары – адкрыцця ў г. Лідзе жаночай прыватнай гімназіі. Пахавана на старых праваслаўных могілках каля Свята-Георгіеўскай царквы.

**Кіпрыян Кандратовіч** (28 красавіка 1859 г., в. Зіневічы (Лідскі раён) – 31 кастрычніка 1932 г., маёнтак Гародна, Лідчына). Удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1877–78 гг. у шэрагах грэнадзёрскага корпуса. Праз некалькі гадоў пасля вайны, падчас навучання ў акадэміі, Кандратовіч напісаў кнігу «Плеўна і грэнадзёры 28 лістапада 1877 г.» Кніга атрымала шырокі розгалас і добра вядома гісторыкам руска-турэцкай вайны 1877–78 гг.

У 1884 г. Кандратовіч К. А. скончыў Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба па 1-м разрадзе (г. зн. – быў сярод лепшых). Удзельнічаў у кітайскай кампаніі 1900 г., у падаўленні паўстання «баксёраў». У 1900 г. з фармулёўкай «за баявыя адзнакі» раней тэрміну Кандратовічу прысвоена званне генерал-маёра.

Удзельнічаў у руска-японскай вайне. 13 студзеня 1905 г., падчас наступу расійскага 1-га Сібірскага корпуса генерала Штакельберга Кандратовіч быў паранены на камандным пункце. 7 ліпеня 1906 г. узнагароджаны ордэнам Св. Георгія 4-й ст. «За вызначэнне ў справах супраць японцаў».

06.12.1910 г. Кандратовічу нададзена годнасць генерала ад інфантэрыі (поўны генерал), найвышэйшае вайсковае званне Расійскай Імперыі ў мірны час.

З 15.08.1913 г. камандзір 23-га армейскага корпуса 2-й арміі. Прымаў удзел ва Усходне-Прускай аперацыі. Па выніках баёў усе камандзіры карпусоў расійскай арміі, у тым ліку і Кандратовіч, былі адхілены ад сваіх пасад.

08 мая 1917 г. Кандратовіч прыняў пасаду камандзіра 75-й пяхотнай дывізіі. З чэрвеня 1917 г. генерал ад інфантэрыі К. А. Кандратовіч камандаваў 3-м Сібірскім корпусам.

У 1917 г. на з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту генерал ад інфантэрыіі Кіпрыян Кандратовіч быў абраны ў Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). На пачатку траўня 1918 г. была створана Рада міністраў пад кіраўніцтвам Р. Скірмунта. Міністрам вайсковых спраў у гэтай радзе быў прызначаны генерал Кандратовіч.

Перад 2-й сусветнай вайной, пасля пераводу ў Варшаўскую акругу, сям'я генерала купіла маёнтак Гародна ў Лідскім павеце: 500 га зямлі і лесу, дзе генерал пасяліўся разам з дачкой Верай і жонкай Адай.

Апошнія гады Кандратовіч правёў у інвалідным крэсле, хварэючы стратай каардынацыі руху. Ён не мог хадзіць, і жонка наняла сталую прыслугу. Памёр генерал Кандратовіч 31 кастрычніка 1932 г. і быў пахаваны ў мундзіры, у якім быў паранены ў 1905 г. Пахаванне адбылося на лідскіх праваслаўных могілках.

* * *

На захад ад царквы знаходзілася фабрыка «Дротіндустрыя», ці, як яе яшчэ называлі ў горадзе, «фабрыка цвікоў». Фабрыка была заснавана ў 1926 г. і месцілася каля «Ардаля», па адрасе Фабрычная, 6. «Дротіндустрыя» належала таварыству, у якое ўваходзілі: Гірш Чарток, Гдалія Чарток, Сымон Савіцкі і Мардух Езіміцкі. Статутны капітал складаў 280 000 зл. (1936 г.) Фабрыка мела свой электрычны рухавік у 150 к. с. і давала працу 90 рабочым, 4 чалавекам інжынерна-тэхнічнага персаналу і 3 кіраўнікам. Тут выраблялі светлы жалезны дрот (каля 36 т), жалезныя цвікі (каля 280 т), жалезныя навугольнікі, арматуру і скобы для будоўлі, падкоўкі для абутку і г. д. «Дротіндустрыя» згарэла восенню 1936 г. Гэты пажар прынёс шкоды на 200 000 зл., шмат працаўнікоў страціла працу. Зноў адбудаваная «Дротіндустрыя» мела будынак у 6 350 м$^3$. У канцы жніўня 1937 г. газета «Кур'ер Віленскі» пісала: «Фабрыка дроту і цвікоў "Дротіндустрыя" ў Лідзе адбудавана пасля пажару. На тэрыторыі спаленай фабрыкі пабудаваны мураваны гмах, які значна большы за папярэдні. Зараз тут будзе працаваць значна больш рабочых, чым да пажару. Наогул, развіццё прамысловасці ў Лідзе набірае тэмп. Некалькі месяцаў таму паўсталі фабрыка цукру і фабрыка мыла, зараз у горадзе 15 вялікіх прадпрыемстваў».

«Дротіндустрыя» паклала пачатак сучаснаму заводу электравырабаў.

На ўсходнім баку вуліцы размяшчаўся ліцейны і машынабудаўнічы завод братоў Якава і Эбера Шапіраў. Заснаваны завод быў іх бацькам Юдалем-Лейбам Мендзялеявічам Шапірам у 1901 г. На заводзе выраблялiся розныя сельскагаспадарчыя машыны. Зараз гэта завод, вядомы сярод лідзян як «Лідсельмаш».

На пасяджэнні гарадской рады 5 ліпеня 1928 г. было вырашана перадаць пад рамесна-прамысловую школу дом, які будаваўся для адзінокіх старых па вуліцы Сувальскай, 130 (каля праваслаўных могілак, недалёка ад чыгуначнага пераезда), і хутка школа з будынка па вуліцы Сувальскай, 74 (зараз Савецкая, 26) пераехала ў новы будынак.



Будынак рамесна-прамысловай школы ў 1964 г.

У жніўні 1928 г. прэса паведамляла пра праблемы ў гэтай школе: «Школа існуе ў Лідзе трэці год і мае сталярнае аддзяленне. ... Ёсць у школе шмат дрэннага... і вінаваты ў гэтым яе дырэктар. Трэба дадаць, што раней за скандальны характар ужо быў звольнены папярэдні дырэктар. Але лепей не стала. Што бачаць у гэтай школе вучні? Яны бачаць, як іх дырэктар, па адукацыі дарожны інжынер, пагарджае рамяством, але пры тым з’яўляецца дырэктарам рамеснай школы, трымаецца па магчымасці надалей ад майстэрань і выражае ўсяму гэтаму сваю пагарду».



Будынак рамесна-прамысловай школы ў 1964 г.

22 верасня 1929 г. да візіту прэзідэнта Масціцкага ў новапабудаваным будынку рамесна-прамысловай школы была адкрыта выстава сталярных і слясарных вырабаў вучняў за 1928–29 навучальныя гады.

Яшчэ ў лютым 1926 г. прэса пісала пра пачатак працы гуртка авіямадэлістаў і планерыстаў у Лідзе, кіраваў гуртком нехта з афіцэраў авіяцыйнага палка. У пачатку 1934 г. прэса паведамляла: «Стараннямі ўправы гуртка планерыстаў у Лідзе і дзякуючы дырэкцыі і вучням дзяржаўнай рамеснай школы ў варштатах школы пабудаваны два планёры "Варона". Урачыстае асвячэнне планёраў адбудзецца 30 студзеня ў 13.30 на плошчы Збаўцы ў Лідзе».

Лідскія планёры былі першымі лятальнымі апаратамі, пабудаванымі ў Заходняй Беларусі. Абодва планёры прайшлі сертыфікацыю, былі прыняты ў эксплуатацыю міжнародным бюро «Верытас» і прызнаныя прыдатнымі для палётаў.

У 1937 г. недалёка ад Ліды праходзіў летні лагер, дзе сабраліся добраахвотнікі, каб атрымаць практычныя навыкі пілатажу планёра. Стала працаваў гурток планерызму і парашутнай справы: «15 студзеня 1938 г. у памяшканні Саюза цывільных працаўнікоў лідскага аэрадрома адбылося ўрачыстае адкрыццё пятага тэарэтычнага курсу планерызму і парашутнай справы. Гэтыя курсы праводзіць мясцовы гурток планерызму пры Таварыстве падтрымкі супрацьпаветранай абароны (LOPP), які ўзначальвае знаны інструктар планерызму інжынер Міхал Багатыроў. Гурток планерызму ў Лідзе таксама займаецца выхаваннем моладзі і авіямадэлізмам». Гурток Багатырова наведвала 70 чалавек.

Улетку 1937 г. рамесна-прамысловая школа ў Лідзе была перайменавана ў Дзяржаўную рамесную (механічную) школу. Сталярныя варштаты ліквідаваны, уведзены курсы навук і практычных заняткаў у кавальскіх, слясарных і тэхніка-механічных справах.

Увесну 1939 г. дырэкцыя рамеснай школы ў Лідзе арганізавала пры школе курсы вадзіцеляў аўтамабіля і матацыкла. На курсах вывучалася тэорыя і даваліся практычныя веды ў галіне аўтамабільнай справы. Дырэкцыя школы хацела,



Лідскі планёр, здымак з віленскай газеты «Слова» таго часу




Пры канцы вуліцы Віленскай, 1916 г.

каб кожны выпускнік акрамя пасведчання аб адукацыі атрымаў веды ў аўтамабільнай справе і правы вадзіцеля. Першы аўтамабільна-матацыклетны курс сабраў 60 слухачоў.

Драўлянаму будынку школы не пашанцавала, яшчэ ў верасні 1937 г. паведамлялася, што «будынку рамеснай (механічнай) школы па вуліцы Сувальскай патрэбны рамонт. Драўляны будынак школы пабудаваны да 1930 г. і патрабуе сталага дарагога рамонту, бо дрэва точыць грыбок, акрамя гэтага, некалькі разоў перарабляліся печы. Розныя рамонты ўжо каштавалі 60 000 зл., гэтых грошай хапіла б на мураваны будынак амаль такога ж памеру. Можа, лепей, чым ратаваць драўляны будынак ад грыбка, пабудаваць на тым жа месцы новы?».

Будынак былой рамеснай школы існаваў да 1965 г. і быў знесены ў сувязі з пашырэннем пляцоўкі завода «Лідсельмаш». Пасля Другой сусветнай вайны тут мясціліся розныя навучальныя ўстановы горада.

На поўнач па Віленскай (Сувальскай) за сучаснымі праваслаўнымі могілкамі ў другой палове XIX ст. стаяла некалькі драўляных дамкоў, у апошнім з іх была карчма нейкага яўрэя Закса, і таму карчма атрымала назву «Закасанка». Калі ж горад працягнуўся далей на поўнач, стварыўся раён горада ўздоўж сучаснай вуліцы Віленскай (Сувальскай, зараз гэта вуліца Свярдлова), які таксама атрымаў назву Закасанка. Стаялі тут прыватныя дамы і невялікія крамы, на пачатку XX ст. тут жылі 612 лідзян.

16 красавіка з 1919 г. падчас штурму нашага горада на Закасанцы адбыўся моцны бой паміж польскімі і чырвонымі вайсковымі аддзеламі. У гэты дзень польскі 1-ы батальён 2-га палка быў спынены ў прыгарадзе Закасанка, тут дзейнічаў бальшавіцкі бронецягнік. Аднак легіянеры прарваліся цераз чыгуначную лінію і ўварваліся ў Ліду з поўначы, у вулічных баях кожны дом у чырвоных адбіваўся штыкавымі атакамі, бронецягнік быў падбіты артылерыяй.

Вясна 1932 г. вызначылася моцным паводкам, на пачатку красавіка вада ў Лідзейцы і Каменцы паднялася на 3 метры і заліла шэраг дамоў, у тым ліку і на Закасанцы. Справа дайшла да эвакуацыі людзей з затопленых дамоў.

13 верасня 1937 г. на адну крам на Закасанцы адбыўся ўзброены налёт – у лаўку Пэсі Мейнбург удзень уламаліся 5 невядомых. Яны разбілі шкляную ёмкасць з печывам і забралі 100 злотых. З'язджаючы, адзін з нападнікаў стрэліў у паветра і сказаў, што не баіцца паліцыі.

# Частка 3. Раён горада каля сучаснага парку, ранейшая «Вялікая Ліда»



*Вернемся па вуліцы Савецкай (Віленскай) да перакрыжавання з сучаснай вуліцай Кірава (Школьнай) і па гэтай вуліцы дойдзем да сучаснай паліклінікі на рагу вуліц Перамогі і Кірава. Перад намі раён горада, які ў канцы 1930-х атрымаў назву Вялікая Ліда, а раней гэта быў Выган – месца, на якім гараджане пасвілі сваю жывёлу. Да 1914 г. Выганам быў увесь раён паміж сучаснымі вуліцамі Кірава – Перамогі – 8 Сакавіка і чыгункай.*

*У 1920–30-я гг. Выган быў асушаны і на яго тэрыторыі вырас мікрараён – гонар тагачасных гарадскіх улад. Тут былі пабудаваны першы корпус бальніцы, жылыя дамы для лідскіх чыноўнікаў, школы № 1 і № 2 (сучасная СШ № 1), гімназія (сучасны каледж), пошта, паліклініка. Пра гэтыя і іншыя аб'екты горада я расскажу ў гэтай частцы кнігі.*

# Ранейшыя вуліцы Школьная і Фалькоўскага

Працягваем нашы шпацыры.

Спынімся пакуль на ранейшых вуліцах Школьнай і Фалькоўскага.

Пра вуліцу Школьную я ўжо расказваў, калі апавядаў пра лідскую сінагогу. Вуліца атрымала назву ад Школьнага двара – так зваўся комплекс будынкаў каля сінагогі. На карце горада 1914 г. вуліца ад сучаснай Савецкай (Віленскай) да сучаснай вуліцы Перамогі мае назву Школьны завулак, а далей на захад ідзе вуліца Вісманта. Пастановай сходу гарадскіх упаўнаважаных ад 19 сакавіка 1909 г. гарадскому старасце было даручана забрукаваць Школьны завулак.

У 1920-х гг. уся гэта вуліца атрымала назву Школьная. Сінагога і яўрэйскае самакіраванне мелі адрас Школьная, 31. Вядомы ў горадзе чалавек, доктар медыцыны, галоўны ўрач гарадскога шпіталя ў




Вуліца Школьная, 1915 г. Здымак зроблены прыкладна з сучаснага перакрыжавання вуліцы Кірава і праспекта Перамогі.




Вуліца кс. Фалькоўскага, скрыжаванне са Школьнай. Паштоўка 1930-х гг. Будынак справа – крама, да пачатку 1980-х гг. гэта лідскі ўнівермаг (пасля 2-й сусветнай вайны дабудаваны другі паверх). Наступны будынак – дом урача А. Казубоўскага (Школьная, 54). Далей будынак паліцыі. Злева – будынак друкарні Леона Трабінскага.

1921–39 гг. Стэфан Казубоўскі жыў у доме па вуліцы Школьнай, 54. У яго доме на рагу сучасных Кірава і Перамогі доўгі час мясцілася гарадское фотаатэлье, зараз на гэтым месцы стаіць будынак суда.

Факт з тагачаснай праваахоўнай хронікі. У ноч з 26 на 27 кастрычніка 1930 г. невядомыя злачынцы абрабавалі дом доктара Казубоўскага па вуліцы Школьнай. Былі выняты дзве шыбы верхняй паловы дзвярэй, якія вялі ў сад, і скрадзены восеньскі плашч, гумовая палярына і 400 злотых. Акрамя таго, была скрадзена (на 300 злотых) вопратка хатняй работніцы Казубоўскіх.

18 ліпеня 1928 г. каля 3-й гадзіны ночы загарэліся дамы каля рынка, пажар пачаўся з вуліцы Завальнай. Гарадская добраахвотная пажарная варта не змагла патушыць пажар, і пачалася паніка. На дапамогу прыехалі чыгуначныя пажарныя і жаўнеры авіяцыйнага палка. Сумеснымі намаганнямі пажар патушылі толькі да паўдня 19 ліпеня. Згарэла 9 дамоў, сярод якіх некалькі двухпавярховых. Давід Левін, уладальнік дома № 11 па вул. Завальнай, ад якога пачаўся пажар, быў арыштаваны. Падчас пажару ў Якаба Шмуйловіча (Школьная, 29) злодзеі скралі скрыню з вопраткай, 2 залатыя гадзіннікі і 5 000 злотых. У Эльяша Ілютовіча (Завальная, 15) скралі два футры і адзенне. У кастрычніку 1931 г. прэса пісала: «У самым цэнтры горада, па вуліцы Завальнай, 30, у Зуселя Ілютовіча знойдзены самагонны апарат. Апарат меў вельмі дасканалую канструкцыю і фільтры з актываванага вугалю, ваты і пяску. Апарат знаходзіўся ў прыбудове да стаенкі, і, каб туды ўвайсці, трэба было зрушваць сцяну».

У апошні перад сусветным эканамічным крызісам 1929 год вуліцы Школьная, Фалькоўскага былі зноў забрукаваны.



1950-я гг. Будынак рэдакцыі газеты «Уперад», зараз тут размяшчаецца ГУП ЖКГ

Дом, у якім зараз знаходзіцца псіханеўралагічны дыспансер (Кірава, 16), пабудаваны ў 1920-я гг., з 1944 г. тут знаходзіўся гарвыканкам Ліды. Потым гарвыканкам пераехаў у прыгожы гмах па вуліцы Перамогі, 40.

Пасля 1945 г. інтэрнат педвучэльні месціўся ў будынку насупраць школы № 1, там, дзе потым знаходзіўся Дом піянераў (Кірава, 27).

Вуліца Перамогі раней называлася вуліца Фалькоўскага, на карце горада 1914 г. яна мае назву вуліца Свянцянская. У лістападзе 1932 г. газета «Слова» надрукавала артыкул «Брава, пан Задурскі», у якім дзякавала лідскаму бургамістру за новыя каменныя ходнікі па вуліцы Фалькоўскага, «бо школьная дзятва і жыхары вуліцы зараз ужо не тонуць у балоце па калена».

У 1935 г. дзякуючы дапамозе Фонду працы «ў горадзе пачаліся важныя работы, якія маюць першараднае значэнне для гаспадарчага і культурнага жыцця горада. Між іншым, пачалася грунтоўная перабудова вуліцы Школьнай. Перабудова надасць вуліцы еўрапейскі выгляд і праз нівеляванне і перабрукоўку ездні, агароджу брусам, забрукоўку чатырохграннай пліткай ходнікаў і залажэнне траўнікаў зробіць з яе галоўную вуліцу горада. У бліжэйшы час па абодвух баках ходнікаў тут будуць пасаджаны два рады дрэваў».

А ў 1936 г. гарадскія ўлады вырашылі пачаць будаваць у Лідзе каналізацыю: «Гарадская ўправа, жадаючы павысіць санітарны стан, пастанавіла пабудаваць каналізацыю па ўсіх вуліцах горада. Першай будзе вуліца Фалькоўскага. Пастанову ўправы вітаюць усе жыхары горада».

Па дыяганалі ад дома доктара Казубоўскага ў 1937 г. пачалі будаваць новы прыгожы гмах, зараз – стары корпус гарадской паліклінікі. Гэты будынак на карце горада 1939 г., надрукаванай у кнізе ўспамінаў Я. Ярмант, пазначаны як «паліклініка», але ўпэўненасці ў гэтым няма, бо ў 1938–39 гг. новая павятовая паліклініка будавалася каля сучаснай бальніцы, на месцы сучаснай санстанцыі. Гмах па вуліцы Кірава (Школьнай) будаваўся для іншых мэт. У лістападзе 1937 г.



1950-я гг. Будынак рэдакцыі газеты «Уперад», зараз тут размяшчаецца ГУП ЖКГ

віленская газета «Слова» паведаміла: «Будзе паважны гатэль. Пры збегу вуліц Школьнай і Фалькоўскага жыхар Жалудоцкай гміны Ян Урбановіч, у адпаведнасці з апошнімі архітэктурнымі патрабаваннямі, прыступіў да пабудовы вялікага мураванага чатырохпавярховага гмаха, у якім плануе размясціць кіназал, рэстаран і гатэль для прыезджых. Трэба адзначыць, што гатэльная справа ў Лідзе з'яўляецца вялікай балячкай, бо дагэтуль гатэляў не хапае». У адным з памяшканняў гэтага будынка да нашага часу захаваўся гатэльны камін.

Насупраць паліклінікі, у гмаху, дзе сёння месціцца ГУП ЖКГ, знаходзілася друкарня Леона Трабінскага. Так сталася, што іншыя тры лідскія друкарні знаходзіліся ў цэнтры горада і таму згарэлі ў 1941 г. А друкарня Трабінскага працавала і пасля вайны. Лідзянка Ларыса Канчэўская ўспамінала: «У двухпавярховым доме, у якім зараз плённа працуе калектыў ЖКГ (тады – не такім прыгожым і камфортным, а з жоўтай цэглы, цесным, з драўлянымі рыпучымі стромкімі лесвіцамі), былі рэдакцыя газеты "Уперад" (папярэдніцы "Лідскай газеты") і малюсенькая кніжная крама, якая неяк размясцілася на першым паверсе і мела вельмі цікавы асартымент. У гэтую краму заходзілі сапраўдныя інтэлігенты і кнігалюбы. Тут жа, на самым рагу, стрымана ляскатала друкарскімі станкамі друкарня».

Далей на поўнач, за сучасным ваенкаматам, да 1939 г. працаваў паравы тартак Я. Палячака і таварышаў (вуліца Фалькоўскага, 33).

І зноў цікавы факт. У сакавіку 1938 г. увечары фурман Якімовіч вёз на дрожках № 55 павятовага віцэ-старасту Завадскага. Каля тартака Палячака па вуліцы Фалькоўскага дрожкі трапілі ў яму і былі моцна пашкоджаны (у раёне сучаснага ваенкамата). Праз некалькі тыдняў на перакрыжаванні вуліц Фалькоўскага і Новай Юзаф Комінч з Браніславай Акуневіч упалі з матацыкла на брук, у цяжкім стане іх адвезлі ў бальніцу.



1950-я гг. Будынак рэдакцыі газеты «Уперад», зараз тут размяшчаецца ГУП ЖКГ

Адразу за тартаком перад Другой сусветнай вайной пачалі будаваць яўрэйскую школу. Гэты будынак існуе і зараз, у ім знаходзіцца дзіцячая школа мастацтваў. Раскажу пра яго трохі падрабязней.

У канцы мая 1933 г. на пасяджэнні гарадской рады была ўхвалена пастанова аб выдзяленні яўрэйскаму культурна-асветніцкаму таварыству «Тарбут» пляца для будаўніцтва 7-гадовай яўрэйскай агульнаадукацыйнай школы: «Як стала вядома, “Тарбут” набудзе пляц пры вуліцы Касцюшкі па льготным кошце ў 50 гр.». Вуліца Касцюшкі ў той час – гэта праспект Перамогі на адрэзку ад вуліцы Міцкевіча да сучаснай вуліцы 8 Сакавіка.

Але будаўніцтва гэтай школы пачнецца толькі ў 1939 г. Прэса пісала: «Новая школа ў Лідзе. Па вуліцы Касцюшкі адбылася ўрачыстая закладка каменя пад гмах яўрэйскай школы, якую будуе Аб’яданне яўрэйскіх школ у Лідзе». Былы жыхар Ліды Якаў Ілютовіч успамінаў: «Будаўнічы камітэт быў абраны з прадстаўнікоў “Тарбута” і бацькоў... Будаўнічая пляцоўка набыта бясплатна ў магістрата недалёка ад дзяржаўнай школы. Яўрэйскае насельніцтва Ліды давала грошай, колькі магло. Сегал даваў цэглу са сваёй фабрыкі, тартакі давалі дрэва, жалеза дала фабрыка Чартка-Штэйнберга. Мецэнаты-купцы Шымон Пупко і Пінхас Рабіновіч далі цэмент... З вялікім напружаннем была пабудавана трохпавярховая школа з залай для гімнастыкі і цёплым туалетам. Адбылося вялікае наваселле, на якое было запрошана шмат гасцей, асобна для бацькоў зрабілі пасядзелкі з “тортам і каньяком”... Гэта было вялікае свята... Школа перажыла вайну... і адразу пасля вайны тут была нейкая савецкая ўстанова. Гэта разбіла мне сэрца».

Адразу пасля Другой сусветнай вайны ў гэтым гмаху быў інтэрнат ФЗА і тэхнікума (які сам мясціўся яшчэ за «Сяльмашам», каля чыгункі, у драўляным доме, пра яго я пісаў вышэй). А потым тут пачала працаваць 2-я школа. Да гэтага 2-я школа (звалася беларускай) займала заходняе крыло былой гімназіі, а потым педвучэльні (ва ўсходнім крыле была педвучэльня).

А сучасны ваенкамат перабудаваны з двух старых дамоў, з якіх паўночны меў назву Дом сяржанта, бо будаваўся ў канцы 1920-х гг. па адмысловай праграме будаўніцтва жылля для падафіцэраў.



Будынак пабудаваны ў 1920-я гг. У ім з 1944 г. знаходзіўся гарвыканкам Ліды. Зараз тут псіханеўралагічны дыспансер (Кірава, 16). Фотаздымак 1959 г.




«Стары ўнівермаг», зараз Праспект Перамогі, 32



Былая «Тарбут-школа», зараз школа мастацтваў. Фотаздымак 1970 г.




Будынак сучаснай паліклінікі,  уваход у яе, 1943 г.





Будынак сучаснай паліклінікі. Першы здымак – будынак у 1959 г., апошні – паліклініка ў 2013 г.

# Польская паліцыя ў Лідзе

Пройдзем трошкі па сучаснай вуліцы Перамогі бліжэй да будынкаў, якія займае міліцыя.

Ад пачатку польская паліцыя ў горадзе мясцілася там жа, дзе і царская, – у доме па вуліцы Віленскай, 42. Новая польская паліцыя пачала стварацца ў 1920 г., аднак у спісе асабістага складу лідскай паліцыі знаходзіліся асобы, якія пачалі служыць яшчэ ў 1918 і 1919 гг. У сярэдзіне 1920-х гадоў ва ўсёй павятовай паліцыі (у 1922 г. павет мае 6 500 км$^2$ і 212 000 насельніцтва) служыла каля 250 чалавек. У 1922 г. камендант (начальнік) лідскай павятовай паліцыі дакладваў свайму кіраўніцтву: «Стан падрыхтоўкі недастаткова належны. Малодшыя паліцэйскія ў агульнай колькасці 218 чалавек прадстаўляюць сабой мала прыдатны матэрыял для прафесійнай падрыхтоўкі. Каля 35 % з іх недастаткова адукаваныя, а каля 10 % малапісьменныя. Акрамя гэтага ёсць праблема з ужываннем малапісьменнымі паліцыянтамі чыстай польскай мовы, але ў гэтай справе стан падрыхтоўкі значна палепшыўся, бо павятовая камендатура выдала загад аб арганізацыі сістэматычных моўных заняткаў у пастарунках, якія вядуць іх кіраўнікі, – заняткі па пісьму, мове, прафесійнай падрыхтоўцы і выкарыстанню карабіна. Падчас наведвання пастарункаў бачу паляпшэнні з-за навучання. З лічбы 218 чалавек 29 закончылі паліцэйскую школу».

У 1926 г. комендант дакладваў: «Паліцыя ўзброена старымі кароткімі аўстрыйскімі карабінамі сістэмы "Манліхер 0,95", якія цяжка ўтрымліваць у добрым стане. Вялікую праблему робяць багнеты без пахваў, якія немагчыма насіць на пасе. Кожны функцыянер паліцыі мае па 75 набояў. Вельмі дрэнная справа з абмундзіраваннем. Не хапае 236 пар портак, 221 мундзіра і 82 паліто. Маральны стан паліцыянтаў нядрэнны. З 261 чалавека, якія зараз служаць, 191 прайшоў адпаведную падрыхтоўку».

І ў 1930-я гг. шараговыя паліцыянты былі ўзброены карабінамі. Прэса паведамляла, што ў красавіку 1930 г. гаспадары дома № 70 па вуліцы Школьнай Альбяртына і Аляксандр Лычковы паспрачаліся з «іх кватарантам, знаным тутэйшым авантурыстам і панажоўшчыкам Леанам Рубашуком (узрост 26 гадоў) і ягонай каханкай прастытуткай Соняй Флінкель. Каб супакоіць бойку, па выкліку суседзяў на месца прыбыў паліцыянт Ян Пякарскі, узброены карабінам з багнетам. Паліцыянт вырашыў адправіць Лычкова ў шпіталь, а Рубашука забраць у пастарунак. Але Рубашук усчаў бойку з паліцыянтам, а Соня Флінкель перадала яму кухонны нож. Тады паліцыянт ударыў авантурыста багнетам у левую частку груднной клеткі. ... Рубашук памёр у шпіталі... Флінкель была арыштавана, а гаспадар дома Лычкоў у непрытомным стане перавезены ў шпіталь». Праз некалькі дзён у шпіталі, не прыходзячы ў прытомнасць, Аляксандр Лычкоў памёр.

У канцы 1920-х гг. паліцыя пераехала па адрасе вуліца Фалькоўскага, 25. З гэтага часу ўсе арганізацыі падобнага кшталту ў нашым горадзе знаходзяцца тут.

Зіновій Бянько разказваў мне: «Нямецкая паліцыя знаходзілася там жа, дзе зараз міліцыя. Гэбітскамісар жыў у будынку, дзе зараз КГБ. У 1-й школе быў шпіталь. Памятаю, калі да гэбітскамісара прыехала жонка, яны разам вярхом на конях у адмысловых гарнітурах і шляпах выехалі ў бок Паўночнага гарадка. Мы першы раз убачылі жанчыну на кані». Былы лідзянін Юзаф Кардаш пісаў: «У 1941 г. НКВД мясцілася ў доме Грабліса па вуліцы Фалькоўскага. ...па вуліцы Фалькоўскага таксама мясцілася і нямецкая жандармерыя».

Зараз міліцыя ў нашым горадзе месціцца па адрасе вуліца Перамогі (раней – Фалькоўскага), 36. Пад адным нумарам аб'яднаны некалькі дамоў, з якіх самы паўдзённы – былы дом Граблісаў.

У пачатку 1926 г. быў зняты з пасады і аддадзены пад суд камендант паліцыі Лідскага павета Ян Кулага, «кім быў і што рабіў – пакажа судовае разбіральніцтва. Не быў гэта надта разумны чалавек, але меў "арганізацыйны" талент, гэта бачна хоць бы з таго, што ён прыказваў паліцыянтам купляць за свае грошы кнігі кшталту "365 абедаў" Л. Цверцякевіч ці "Сяброўскія звычаі" Сарнецкага». Суд над былым камендантам паліцыі адбыўся толькі ў студзені 1927 г.: «...з 1924 г. надкамісар Кулага быў камендантам паліцыі павета. Амаль ад пачатку яго камісарства падначаленыя пачалі шаптацца пра злоўжыванні Кулагі. Нарэшце ім зацікавіўся лідскі судовы следчы Скіндар і пачаў праводзіць энергічнае следства. ... Падчас суда стараста Здановіч і інспектар вучэбнай акругі Альшанскі далі найлепшыя характарыстыкі былому камісару...». У выніку «жыхар горада Брэста Ян Кулага, узрост 41 год, асуджаны да 6 месяцаў турмы».

Аднак хутка паўторны суд прызнаў Кулагу невінаватым. Газета «Кур'ер Віленскі» пісала, што калі надкамісар Кулага добраахвотна прыехаў «на Крэсы» ў Ліду, «паліцэйскія справы тут былі вартыя жалю. П'янства, ухіленне ад службы, бандытызм і г. д. меліся тут паўсюдна. Надкамісар Кулага, праводзячы санацыю падначаленых, у першыя ж 6 месяцаў звольніў каля 100 паліцыянтаў. Аднак сярод звольненых знайшоўся чалавек з нячыстымі рукамі, раней выяўлены Кулагам як хабарнік і шантажыст па прозвішчу Рэва... Рэва пачаў ужываць супраць надкамісара старыя расійскія метады – правакацыі і фальшывыя абвінавачанні. Ён знаходзіць для судовага следчага Скіндара 30(!) фальшывых сведкаў супраць свайго былога начальніка». Прэса пачала пісаць пра тое, што лідская мясцовая «мафія» адмыслова дыскрэдытуе былога начальніка паліцыі. Але, як бачым, усё ж мясцовая лідская «мафія» абламала свае зубы аб прыезджага надкамісара паліцыі.

З пачатку 1920-х гг., у час, калі на нашай тэрыторыі дзейнічаў рэжым ваеннага стану, у паліцыі меўся адмысловы палітычны аддзел. Потым яго функцыі ўзяў на сябе следчы аддзел, але палітычны ціск і пераслед заўсёды ўваходзіў у функцыі тагачаснай паліцыі. Напрыклад, 20 лістапада 1925 г. акружны суд у Лідзе разглядаў справу Кастуся Светавастокава, агітатара за спіс № 16 на выбарах. Паліцыя вінаваціла яго ў распаўсюдзе беларускіх газет «Беларускі звон» і «Крыніцы» і склала пратакол. Таксама актывіста абвінавачвалі ў тым, што ён раней пісаў у газету «Наша будучыня» пра тое, як паліцыя забівала каваля ў адной з лідскіх вёсак і збірала даніну з сялян цыбуляй, бульбай і г. д. У судзе актывіста апраўдалі.



Дом Грабліса сёння

Паліцыя шчыльна займалася страйкамі і страйкоўцамі, змагалася супраць Беларускай Грамады[1]. Напрыклад, 4 жніўня 1926 г. камендант паліцэйскага пастарунка ў Дакудаве адабраў у даверанай асобы Цэнтральнага сакратарыята Грамады жыхара вёскі З. Сарокі грамадоўскія дакументы, якія той атрымаў па пошце, і сказаў, што яго «zapakuc do wiazienia». Для сваіх мэт паліцыя мела сярод насельніцтва канфідэнтаў, якія гадамі рабілі даносы на сваіх сяброў, калег і суседзяў. Асабліва многа канфідэнтаў працавала ў шэрагах палітычных партый.

26 ліпеня 1936 г. лідскую паліцыю правяраў галоўны камендант дзяржаўнай паліцыі брыгадны генерал Мар'ян Кордан-Заморскі. Пры канцы лета 1937 г. паліцыю Лідскага павета ўзначаліў камісар Вацлаў Гейнрых, былы камісар Здзіслаў Эльяшэвіч быў пераведзены ў Бярозу.

У 1930-х гг. лідская паліцыя мела матацыкл маркі C.W.S. і некалькі вазоў. На пачатку лютага 1937 г. газета «Ку'ер Віленскі» друкуе фотаздымак 65-гадовага старога Міхала Янкоўскага, возніка павятовай камендатуры дзяржаўнай паліцыі, у палонцы рэчкі Лідзейкі пры марозе -22 гр. «Незвычайная фізічная загартоўка з'яўляецца вынікам сістэматычных, нягледзячы на надвор'е, заняткаў спортам». Вось такія фурманы працавалі ў лідскай паліцыі.

Верагодна, менавіта на гэтым самым матацыкле C.W.S. у жніўні 1937 г. ехаў апрануты ў цывільнае адзенне камісар лідскай паліцыі Е. Акаловіч па шашы Ліда – Гародня. На восьмым кіламетры ад Ліды ён пачаў абганяць аўтобус «Ліда – Сабакінцы». Аўтобус узяў управа, прапускаючы на вузкай дарозе матацыкліста, але калі матацыкл параўняўся з аўтобусам, шафёр аўтобуса прыняў улева і выпхнуў матацыкл у роў. У апошні момант камісар паліцыі саскочыў з матацыкла, і, магчыма, гэта ўратавала яму жыццё, ён толькі зламаў нагу. Шафёр аўтобуса, імя якога не паведамлялася, прыйшоў да камісара паліцыі ў бальніцу і прасіў яго не караць, бо ён «не пазнаў у матацыклісце камісара паліцыі». З размовы камісар даведаўся, што шафёр наўмысна сапхнуў яго з дарогі і лічыць сябе вінаватым толькі ў тым, што не пазнаў начальства.

[1] Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ) – масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная і нацыянальна-вызвольная арганізацыя Заходняй Беларусі ў 1925–1927 гг.

Транспарту было няшмат, і ўдзельнікі дарожнага руху не мелі добрай падрыхтоўкі, да таго ж амаль што не было кантролю паліцыі за дарожным рухам. Верагодна, таму паводзіны ўдзельнікаў дарожнага руху вызначаліся дрэнным выкананнем правіл: «Калі вы ездзілі аўтамабілем на нашых дарогах, дык ведаеце... як ігнаруюць усе правілы дарожнага руху вясковыя вазы. Таму з поўным разуменнем мы аднесліся да акцыі лідскага староства, якое звярнула пільную ўвагу на ўпарадкаванне руху на публічных дарогах. 12 ліпеня на галоўных дарогах каля Ліды была арганізавана аблава на "карсараў дарог", кіраваў аблавай сам стараста Міклашэўскі. Рэферэнт бяспекі ў старостве маёр Арлоўскі, павятовы інжынер Дамброўскі, кіраўнік камісарыята паліцыі Акаловіч на працягу некалькіх гадзін кантралявалі рух фурманак і аўтатранспарту на публічных дарогах. У выніку за парушэнні яны пакаралі 145 чалавек (за парушэнні правіл руху, адсутнасць нумароў, няправільную вупраж каня і г. д.). Таксама былі пакараны 40 шафёраў перапоўненых аўтобусаў».

18 мая 1937 г. у Лідзе аўтобус нумар NW 14091, якім кіраваў Гірш Лістоўскі, сутыкнуўся з вайсковым возам. Жаўнер Віктар Дубіцкі выпаў з воза на брук і атрымаў пашкоджанні. Кіроўца спрабаваў з'ехаць з месца здарэння, аднак відавочцы прымусілі яго забраць ахвяру здарэння і адвезці яго ў гарнізонны шпіталь.

Пры канцы 1937 г. грузавая аўтамашына нумар 50177 на дарозе Ліда – Гародня сутыкнулася з возам Адольфа Місюкевіча з Радівонішак. Верагодна, праз тое, што сяляне не прытрымліваліся нават элементарных правіл кіравання вазамі на дарогах, прэса часта друкавала інфармацыю пра сутыкненні сялянскіх вазоў з аўтамабілямі.

На пачатку вясны 1938 г. праз галалёд каля нашага горада аўтобус Вільня – Ліда вылецеў з дарогі.

Паліцыя таксама змагалася з нелегальнай зброяй у насельніцтва, якой пасля вайны было шмат. Напрыклад, у красавіку 1936 г. у лесе каля Дакудава быў знойдзены карабін у добрым стане, але гаспадара карабіна так і не адшукалі. У лютым 1937 г. у Лідскім павеце праводзілася адмысловая паліцэйская аперацыя па вышуку зброі. Вынікам стала канфіскацыя 50 карабінаў, якія прыхоўваліся з часоў Першай сусветнай вайны. Пры канцы 1937 г. паліцыя зноў шукала зброю па вёсках.

Як і ўсюды, на Лідчыне квітнела махлярства, і прэса пісала пра махляроў, якім пазайздросціў бы сам Астап Бэндэр. Перакажу некалькі гісторый.

Пэўна, такіх махляроў, як Баляслаў Правальскі, у нашым горадзе да яго яшчэ не было. Да 1922 г. Правальскі служыў інтэндантам у Гародні і быў звольнены з войска. Перабраўшыся ў наш горад, Баляслаў сам сябе прызначыў шэфам крымінальна-следчага аддзела вайсковай экспазітуры ў Лідзе. Пры гэтым махляр прадставіў усім зацікаўленым бакам неабходныя, але падробленыя дакументы. Афера цягнулася са жніўня 1922 г. па май 1924 г. Спачатку ён атрымліваў заробак чыноўніка VIII класа, але хутка сам сябе падвысіў да VII класа, як пісала газета: «...стаў чыноўнікам VII класа, што ў Лідзе рабіла з яго сапраўднага дыгнітарыя [саноўніка – Л. Л.], і сваімі прэрагатывамі ён карыстаўся ўсюды, дзе толькі мог». Акрамя высокага заробку, Правальскі стала атрымліваў камандзіровачныя грошы. А сваім сябрам Гэнзалю і Нядведчуку ён выдаў даведкі аб тым, што яны з'яўляюцца яго інфарматарамі – гэта моцна дапамагала ім у жыцці. Купцам Штайману і Цукерману выдаў даведкі сталых пастаўшчыкоў ягонай установы, гэта вызваляла купцоў ад непатрэбных турбот з уладамі. «Цяжка нават пераказаць усё, што нарабіў Правальскі падчас свайго знаходжання "на пасад-

зе", але ў красавіку 1924 г. яго пачалі падазраваць і 5 мая паручнік жандармерыі арыштаваў махляра», – пісала газета «Слова». У выніку, суд прысудзіў авантурыста да 2,5 гадоў пазбаўлення волі.

А ў 1929 г. у Лідзе з'явіўся граф Генрых Грабоўскі, «палкоўнік у рэзерве, уладальнік маёнткаў па ўсёй Польшчы» і г. д. Такі саноўны чалавек адразу трапіў у «вяршкі» лідскага грамадства, апынуўся ў коле сяброў і прыхільніц, «грошы самі ішлі ў рукі пана Грабоўскага, і ніхто гэтаму не дзівіўся, бо трансакцыі, якія ён праводзіў, давалі яму сталы і значны прыбытак». Галоўным новым бізнесам, ці, як зараз бы сказалі, «стартапам» графа была арганізацыя аўтобусных ліній па тэрыторыі ўсёй Польшчы. Пад гэтую ідэю, якая як быццам ужо давала і павінна была даць яшчэ большы даход, «уплывовы чалавек» збіраў вялікія грошы з прыватных асоб і фірм пад гарантыі высокіх адсоткаў. Сабраўшы вялікія грошы, Грабоўскі аб'явіў пра адкрыццё новай аўтобуснай лініі і адначасова, як блізкаму сябру, прадаў свой элегантны аўтамабіль кельнеру рэстарана пры «Коле Полек» Казіміру Гушчу за 3 000 злотых. На наступны дзень граф знік, затое прыехаў адвакат князя Палубінскага з Слоніма, які паказаў маёмасныя дакументы і адабраў аўтамабіль у кельнера – спрытны аферыст не купіў, а пазычыў на нейкі тэрмін машыну ў свайго папярэдняга сябра – князя Палубінскага. Паліцыя пачала росшукі Грабоўскага, ён быў арыштаваны ў Роўне, але да арышту паспеў правярнуць яшчэ некалькі афер.

Хапала і звычайных злодзеяў і хуліганаў.

Рэкардсменам сярод лідскіх злодзеяў лічыўся жыхар вёскі Астроўля Казімір Гурын. У кастрычніку 1937 г. ён у 15-ты раз быў асуджаны за крадзеж. Апошнім разам Гурын скраў розную дробязь на суму 61 злоты, за што і атрымаў 5 гадоў турмы. А прафесійны злодзей Леон Вінча скраў нават пісталет сістэмы Маўзер у паліцыянта Левандоўскага. Калі яго арыштавала лідская паліцыя, за Вінчам лічылася кража службовага ровара ў паштальёна Кавальскага і рабунак у Шчучыне. Раней неаднаразова асуджаны Баляслаў Чабан атрымаў год турмы за крадзеж сабакі.

Ровар у той час быў вялікай каштоўнасцю і таму з'яўляўся добрай здабычай для злодзея. Так, улетку 1937 г. Алойзы Вісмант (вул. Гражыны, 73) скраў ровар у Яна Завалы, за што трапіў у турму, тады ж лідская паліцыя шукала злодзея, які скраў ровар фірмы «Рапід» коштам 159 злотых у жыхара вёскі Мікунцы Жырмунскай гміны. Пэўна, рэкордным быў дзень 5 верасня 1937 г., калі ў Лідскім павеце за адзін дзень зарэгістравалі 3 выпадкі крадзяжу ровараў. Усе гэта не пакідала паліцыю без працы.

Прэса друкавала шмат інфармацыі пра ўсялякія бойкі. Прычым бойкі адбываліся нават на працы, напрыклад, у кафлярні Пупко (вул. Сувальская, 22) паўстала спрэчка паміж Эліяшам Клімдарам і Янам Кучынскім. Спрэчка перайшла ў бойку, і Кучынскі быў моцна збіты. А ўладальніка гатэля «Рыга» (вуліца 3 Мая) Дварэцкага нейкія Альбін Іжыцкі (уладальнік пахавальнага бюро) і ягоны сябар Вітольд Астроўскі пачалі збіваць проста ў гатэлі. Дварэцкі нейк зачыніўся ў пакоі і так ўратаваўся, але нападнікі перад тым, як пайсці з гатэля, узялі з ягонага партфеля 25 долараў і 50 злотых (у той час 1 долар каштаваў прыкладна 5 злотых). Паліцыя затрымала хуліганаў.

Ахвяра лідскай жанчыны «першай старажытнай прафесіі» жыхар Мейшголы Францішак Багдановіч зранку недалічыўся 62 злотых і падаў заяву ў паліцыю на Веру Курчук, з якой ён выдатна правёў папярэдні вечар. Пры канцы 1937 г. акруговы суд разглядаў справу лідскіх сутэнёраў Мар'яны Скарынскай і Вінцэнта Адамоніса (жылі разам па адрасе: вул. Вызвалення, 14). У выніку Адамоніс быў асуджаны да 3 гадоў, а Скарынская да 8 месяцаў турмы.

Здараліся і іншыя злачынствы на сексуальнай глебе. Улетку 1938 г. у «Кур'еры Віленскім» з'явілася заметка «Небяспечны тарзан у ваколіцах Ліды»: «Некалькі дзён таму пад Лідай у прыдарожным хмызняку з'явіўся нейкі мужчына, высокі і з моцнай пабудовай цела. Людзям ён паказваецца ў строі Адама. На дарозе Ліда – Бельскія ён напаў на 16-гадовую Казіміру Пуйдак, паваліў пасярод дарогі, засыпаў вочы і рот пяском, ударыў вялікім каменем. Але з'явіліся людзі, і "тарзан", прыкрыўшы твар далонямі, збег у лес. Хутка такі ж выпадак адбыўся з жонкай сяржанта Спевака ў лесе каля вайсковай часткі». Газета «Слова» пісала, што Казіміру Пуйдак уратаваў Ян Бянько з вёскі Бельскія, а жонку сяржанта – лідзянін Пётр Цыбульскі. Пра далейшы лёс «лідскага тарзана» прэса не паведамляла.

Сенсацыю ў горадзе выклікаў арышт нейкага П., які з 1923 г. «меў пэўныя стасункі з сваёй 23-гадовай дачкой Сабінай. Рознымі пагрозамі ён змушаў сваю дачку выконваць ягоныя прымхі і забараняў ёй каму-небудзь расказваць пра іх адносіны. Таямніца выйшла на паверхню, калі ахвяра бацькі-збачэнца нарадзіла дзіця. ...П. быў арыштаваны, а справа перададзена ў суд».

Хутка ўвагу грамадскасці прыцягнула падобная, але яшчэ больш нялюдская гісторыя. Ота Ян Вільчынскі, жыхар вёскі Перапечыца, у 1929 г. меў 65 гадоў. Пачынаючы з 1909 г. ягоная каханка, Эмілія Пятроўская (у 1929 г. ужо не жыла), нарадзіла ад яго 4 дачкі, якія жылі разам з бацькам. У 1921 г. ён пабоямі і пагрозамі прымусіў старэйшую дачку Багумілу, якой было тады 13 гадоў, да сужыцця. У выніку гэтай звыродлівай сувязі нарадзіўся хлопчык. Праз некалькі гадоў збачэнец пайшоў на штурм наступнай дачкі Феліцыі, якой было тады 15 гадоў, і дабіўся свайго. Нарэшце, 17 жніўня 1929 г. ён, падараваўшы наступнай дачцы, 15-ці гадовай Сабіне, новую бялізну, паспрабаваў яе згвалціць. Сабіна здолела вырвацца ад звыродлівага бацькі і ўцячы ў горад. У Лідзе Сабіна знайшла сабе працу і кватэру, але калі прыйшла ў «родную» хату, каб забраць асабістыя рэчы, дык была зноў збіта бацькам і ледзь уцякла. Пасля гэтага дзяўчына ўсё расказала дзяжурнаму Лідскага камісарыята паліцыі. Акруговы суд прыгаварыў Вільчынскага да 12 гадоў турмы.

Як бачым, на жаль, вычварэнцы былі ва ўсе часы.

Пасля 1939 г. паліцэйскія з сем'ямі, якія не паспелі збегчы, былі рэпрэсаваны –патрапілі ў турмы і лагеры, з якіх мала хто выйшаў, ці былі вывезены ў Сібір ці Казахстан.

Тэлефоны паліцыі ў Лідзе 1939 г.

21 – Камендант павятовый Дзяржаўнай паліцыі, хатні, Калонія дзяржаўных дамоў.

36 – Павятовая дзяржаўная паліцыя, Фалькоўскага, 25, праз дадатковы нумар – камендант, кабінет.

32 – Камісарыят дзяржаўнай паліцыі, Фалькоўскага, 25, праз дадатковы нумар – кіраўнік, кабінет.

179 – Акаловіч Яўген, аспірант паліцыі, хатні, Сувальская, 103.

160 – Піўкоўскі Юліян, кіраўнік следчага аддзела, хатні, Калонія дзяржаўных дамоў.

102 – Пастарунак дзяржаўнай паліцыі Лідскай гміны, Варшаўская, 53.

255 – Следчы аддзел пры камендатуры паліцыі ў Лідзе, Школьная, 56.

# Выган – раён горада

Ад будынкаў міліцыі пройдзем у сучасны гарадскі парк.

Значная частка лідзян раней жыла з зямлі: мела зямельныя надзелы каля горада, трымала хатнюю жывёлу. Пра раён горада, які меў назву Ферма, я ужо пісаў. Але і вялікі кавалак балоцістай зямлі на паўночным захадзе горада, дзе гараджане пасвілі сваю жывёлу, здаўна меў назву Выган. Гэта тэрыторыя прымыкала да рэчкі Каменкі і мела плошчу ў 377 гектараў. Заходнія межы Выгану прыблізна супадалі з сучаснай чыгункай, на поўдні – з месцам, дзе знаходзіцца сучасны стадыён, на ўсходзе Выган падыходзіў да сучаснай вуліцы Перамогі, на поўначы мяжой Выгану была дарога на Крупава, якая потым стала вуліцай Крупаўскай (сучасная вуліца 8 Сакавіка). Часткай былога Выгану з'яўляецца сучасны гарадскі парк. Гэтая глава – непасрэдна пра Выган.




Выган на карце горада 1914 г.




Выган і стадыён на карце 1937 г.

Вось якія факты дайшлі да нас дзякуючы старой прэсе. Да 1914 г. частка Выгану, блізкая да горада, выкарыстоўвалася як месца правядзення святаў з удзелам войскаў. Напрыклад, падчас сяткавання 300-годдзя царавання дома Раманавых, 21 лютага 1913 г., у 12 гадзін дня, хрэсны ход ад сабора Міхаіла Архангела ў суправаджэнні ваеннага аркестра накіраваўся да Выгану, дзе ўжо стаялі мясцовыя войскі. У адмыслова ўстаноўленай і расфарбаванай альтанцы быў адслужаны малебен і зачытаны царскі маніфест. Камандзір 192-га Лідскага палка павіншаваў войска са святам, пасля чаго яно прайшло цырыманіяльным маршам і хрэсны ход вярнуўся ў Міхайлаўскі сабор.

У жніўні 1912 г. раней судзімы Паўлюкевіч у публічным доме нейкага Вайна на Выгане ў запальчывасці і раздражненні цяжка параніў шараговага Лідскага палка Жыліна, ад чаго той памёр. 7 сакавіка 1913 г. у судзе слухалася справа аб забойстве ў публічным доме. Паўлюкевіч быў прыгавораны да арыштанцкіх рот на 2 гады і 2 месяцы. Гэта газетная інфармацыя – адзінае згадванне ў прэсе аб месцы, дзе ў той час знаходзілася такая спецыфічная ўстанова.

У 1913 г. прэса паведамляла, што наймальнікі кватэр нашага горада скардзіліся на рост арэнднай платы за кватэры, і выказвала надзею на новае будаўніцтва: «Ужо некалькі гадоў кажуць пра тое, што Выган падзелены на ўчасткі, якія будуць прадаваць з таргоў. Але гэтага не робіцца». І насамрэч, на карце горада 1914 г. Выган ужо падзелены на вуліцы. Продажу зямельных надзелаў гараджанам перашкодзіла вайна.



Выган і стадыён на аэрафотаздымку 1944 г.

Падчас мабілізацыі ў пачатку Першай сусветнай вайны на Выгане была адна з пляцовак горада, на якіх ішоў адбор коней у войска. Большасць людзей спакойна прадавалі сваіх коней, бо цэны дзяржаўнага закупу былі добрыя. Аднак былі і такія, хто, прадаючы, плакаў.

Нягледзячы на наяўнасць спартыўнай пляцоўкі ў замку Гедыміна, у 1929 г. было вырашана пачаць будаўніцтва новага стадыёна на 1000 чалавек з тэнісным кортам і бегавой дарожкай, але з-за сусветнага эканамічнага крызісу новы стадыён быў пабудаваны толькі ў 1937 г. Тым не менш ужо ў красавіку 1931 г., пасля вывучэння розных пляцовак, было вырашана будаваць стадыён на вуліцы Школьнай (сучасная вуліца Кірава), «насупраць гімназіі і школ № 1 і № 2». Там ён знаходзіцца і зараз.

У 1920-я гг. ішло будаўніцтва ў заходняй і паўднёвай частках Выгану. Тады ж пачалося асушэнне ўсяго Выгану. У канцы 1933 г., падчас работ на зямлі, якая належала настаўніку М. Міхальчыку, была знойдзена вялікая колькасць старажытных керамічных чарапкоў, раскіда-




Пляцоўка, на якой будаваўся кінатэатр «Летні»

ных па вялікай тэрыторыі. Чарапкі таксама былі знойдзены ў іншай частцы Выгану. Абодва месцы знаходзіліся па краях аднаго ўчастка. Інжынер, які кіраваў работамі, пераслаў чарапкі ва ўпраўленне рэстаўрацыі ў Вільні і прыпыніў работы. Лідскі стараста Багаткоўскі выклікаў у Ліду асістэнтку кафедры археалогіі Віленскага ўніверсітэта д-ра Алену Цэгак-Галубовіч (хутка яна стане вядомым і аўтарытэтным навукоўцам, атрымае званне прафесара).

З прыездам археолагаў плошча раскопак была пашырана, і былі знойдзены новыя керамічныя чарапкі. Д-р Цэгак выказала здагадку, што з XI па XIII ст. тут магло існаваць славянскае паселішча, сляды якога потым былі амаль цалкам знішчаны. Чарапкі мелі «славянскі стужкавы арнамент, які адносілі да плямённых груп, што ішлі з усходу… На археалагічнай карце… з’явіцца новы знак, які будзе абазначаць сляды побыту славян на лідскім Выгане». У Лідзе Алена Цэгак была разам са сваім мужам, таксама вядомым археолагам, Уладзімірам Галубовічам, які і напісаў газетны артыкул пра старажытную Ліду.

Верагодна, паселішча на Выгане – гэта і ёсць тая Ліда, пра якую пісаў Тэадор Нарбут, Ліда, заснаваная ў 1180 г. Старажытная Ліда сёння – у самым цэнтры сучаснага горада і ніяк не пазначана на турыстычнай карце. Але менавіта тут, недалёка ад старажытнай Ліды, пастаўлены знак «нулявога кіламетра». Адсюль адлічваюцца кіламетры, і можа, адсюль варта адлічваць нашу гісторыю?

Дарэчы, у тым жа артыкуле археолаг Галубовіч пісаў: «Выган – тэрыторыя, на якую Ліда вядзе экспансію ўжо некалькі гадоў, запаўняючы яе зграбнымі мураванымі дамкамі. Выган – узвышша, да нядаўняга часу аточанае гразкім балотам, а цяпер перарэзанае сухімі вуліцамі і ўжо амаль усё перакапанае».

На Выгане бярэ пачатак рэчка Каменка, на якой стаяла старажытная Ліда. Ларыса Канчэўская пісала: «Так складваўся навакольны мікрасвет вакол ракі, якую прыніжальна звалі “Смыроднік” тыя людзі, якія зняважылі гэты цуд прыроды і канчаткова яго загубілі сцёкавымі водамі з дрэнна абслугоўванай каналізацыі гарадскога шпіталя, Паўночнага гарадка, мясакамбіната і г. д. Каменка доўга



Пачатак будаўніцтва кінатэатра «Летні»

змагалася за сваё існаванне. Вясной яна, разліваючыся, сілкавала будучы багаты сенакос, лашчыла ў цёплай плыткай вадзе распешчаных спеўных жаб; а колькі птушак было вакол яе! А колькі закаханых сядзела сярод дрэў і кустоў... Засыпалі яе ў сярэдзіне васьмідзясятых гадоў. Эх, ёй бы дажыць да 2010!.. І пачысцілі б яе, небараку, і пліткай беражкі б яе абліцавалі, і мосцікі б пабудавалі...».

У 1937 г. было вырашана дабудаваць працяг вуліцы Перацкага (вуліца ад сучаснай Ленінскай да бульвара Гедыміна, зараз яе няма) і злучыць яе з Выганам. Гарадская магістраль злучыла чыгуначны вакзал з Выганам – раёнам горада, які хутка рос, – і Новай Лідай.

У студзені 1937 г. «Кур'ер Віленскі» пісаў: «Выган – участак горада, зарослы хмызняком і забалочаны, – зараз хутка забудоўваецца. Яшчэ ў 1920-я гг. тут у багне танула жывёла, якую выводзілі сюды пасвіцца, а тых людзей, якія хацелі прайсці напрасткі, чакаў такі ж лёс. Аднак пасля ўрэгулявання рэчкі і меліярацыі балота тут была пабудавана калонія дамоў для дзяржаўных чыноўнікаў, паўсталі прыгожыя гмахі школы і гімназіі, пачалося будаўніцтва найвялікшага ў Навагрудскім ваяводстве стадыёна плошчай 3,85 га з бегавой дарожкай працягласцю ў 500 м, пачалося будаўніцтва прыгожага будынка пошты агульным аб'ёмам у 10 000 м$^3$, які будзе па-сучаснаму абсталяваны. Сюды ж плануецца перанесці гарадскі рынак». Рынак быў перанесены за Выган (на тэрыторыю базы сучаснага завода электравырабаў) у 1938 г. На старым рынку ў цэнтры горада засталіся толькі кіёскі і гандаль расліннымі і малочнымі прадуктамі. Падчас Другой сусветнай вайны на Выгане, у будучым парку, працаваў рынак.

У пачатку восені 1937 г. скончылася будаўніцтва новага гарадскога стадыёна. У нядзелю, 26 верасня, стадыён быў урачыста адчынены, на ім былі праведзены спартыўныя мерапрыемствы. Сярод ганаровых гасцей былі чыноўнікі высокага рангу і вядомыя спартсмены-цяжкаатлеты з Вільні: Вайткевіч, Крым, Маліноўскі, Рымовіч. Галоўным арганізатарам мерапрыемства і творцам прыгожага стадыёна з'яўляўся капітан Грывач. На наступны дзень пасля спартыўнага свята ў Лідзе газеты пісалі: «Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел навагрудскі ваявода Адам Сакольскі і палкоўнік Адам Квацішэўскі з Вільні. У 10.15 перад ваяводам



Кінатэатр «Летні» ў 1960-я гг.

пачаўся выступ спартсменаў на стадыёне, потым стадыён асвяціў ксёндз-дэкан Баярунец. Пасля дэфіле, у якім, між іншым, браў удзел гурток планерыстаў і парашутыстаў, ваявода абвясціў фармальны акт адкрыцця стадыёна».

У пачатку 1939 г. для будаўніцтва новых дамоў Ліда атрымала 3 000 000 злотых. Увесну на Выгане, недалёка ад калоніі дамоў для чыноўнікаў, планавалі пачаць будаўніцтва вялікага дома на 100 кватэр з усімі выгодамі: вадой, ацяпленнем, каналізацыяй. Да пачатку вайны паспелі набыць пляцоўку пад гэтае маштабнае для нашага горада будаўніцтва і пачаць першасныя работы. Лідзяне казалі, што кінатэатр «Летні», якога ў нашым парку ўжо няма, будаваўся на ўжо гатовай пляцоўцы. Магчыма, гэта і была пляцоўка 100-кватэрнага дома.

На карце горада 1937 г. Выган зноў разбіты на вуліцы. Гэтыя вуліцы без дамоў і круглая плошча ва ўсходняй частцы бачныя на вядомым аэрафотаздымку горада 1944 г.

Лідзянка Канчэўская ўспамінала: «Парк... у маім дзяцінстве быў маладым, густым і вельмі добра скампанаваным. Разбівалі яго адразу пасля вайны на месцы, дзе навакольныя сяляне прадавалі жывёлу – кароў, коней, свіней, авечак – і корм для яе. Там жа ў часы нямецка-фашысцкай акупацыі праводзіліся пакаранні для запалохвання жыхароў горада, прылеглых вёсак і хутароў. Бывала (асабліва зімой), павешаных не здымалі з шыбеніц цэлымі тыднямі. Натуральна, людзям пасля вызвалення хацелася ачысціць памяць і вярнуць вуліцы Міцкевіча яе прэстыж самай добраўпарадкаванай і сучаснай... Карэнны лідзянін Георгій Квінта, муж маёй старэйшай сяброўкі (на жаль, абодва памерлі), які нарадзіўся дзесьці каля 1930 г., апавядаў, як у канцы саракавых гадоў школьная і рабочая моладзь горада... удзельнічала ў пасадцы дрэў гэтага парку. Асноўнымі дрэвамі, якія складалі парк таго часу, былі цалкам бясплатная таполя (калы ад яе восенню глыбока ўкопвалі ў самыя сырыя месцы, а ўвесну яны ўжо ўкараняліся, пускалі галінкі, хутка раслі), гібрыднае дрэва клён-ясень, якое, відавочна, у вялікай колькасці было завезена ў горад з нейкага гадавальніка, – верагодна, яшчэ пры Польшчы.



Помнік Сталіну ў гарадскім парку, 1950-я гг.

Гэтае дрэва вельмі густое, цяністае, кучаравае, лёгка размнажаецца самасевам і таксама даволі хутка расце (яго асобнікі, даволі сталыя, з арыгінальнымі наростамі (капамі) унізе ствалоў яшчэ да нядаўняга часу ўпрыгожвалі вуліцу Савецкую па правым боку да перасячэння з вуліцай Міцкевіча)».

Па вечарах парк запаўняўся моладдзю. Уваход у яго быў з перакрыжавання вуліц Міцкевіча і Перамогі праз трыумфальную арку з драўляных рэек вышынёй каля 7 метраў. Праз 20–30 метраў за ўваходам, справа да плота прымыкаў летні адкрыты тэатр. Сцэна была з дахам, грымёрнымі і кінаэкранам. Абнесены ён быў плотам вышынёй у два чалавечыя росты з вузкага шчыльнага штыкетніка. Унутры меліся драўляныя лавы са спінкамі, стаялі яны двума сектарамі і дзялілі залу на дзве часткі. Калі цямнела, там ішлі кінасеансы, і на плоце і на дрэвах сядзелі кучы хлапчукоў.

Галоўная алея ішла ад уваходу, і праз пяцьдзясят метраў за ўваходам публіку сустракала статуя Леніна на пастаменце. У сярэдзіне пяцідзясятых гадоў не было яшчэ Дома афіцэраў (цяперашняя школа мастацтваў), і помніка Леніну каля яго таксама не было. Каля помніка галоўная алея зварочвала пад тупым вуглом і вяла міма трох драўляных павільёнаў з пачастункамі, якія стаялі справа (адзін нават быў з адкрытай верандай і столікамі) да цяперашняй лесвіцы.

Зноў Ларыса Канчэўская: «Але быў яшчэ адзін помнік у парку – на самым высокім месцы, дзе потым стаяла чаша фантана. Да татэму эпохі, якая толькі што адышла, трэба было падымацца! Ён быў больш маштабны і велічны за ніжні. Гэта была “срэбная” фігура ў доўгім шынялі і фуражцы з рукой, закладзенай за глухі борт. “Бацька народаў” быў хмуры і суровы, што вельмі адпавядала тым пацяплеўшым гадам пасля выкрыцця культу асобы. Вакол весялілася моладзь, за яго спіной грукатала духавым аркестрам танцпляцоўка (яшчэ тая, першая, драўля-

ная, з высокім дашчаным памостам, значна бліжэй за цяперашнюю, на месцы сцэны), а ён стаяў, абцяканы гаманкім натоўпам, які не звяртаў на яго ўвагі... Чаму так доўга стаяў гэты "стод", цяжка сказаць. Нават мы, дзеці, у сем'ях якіх абмяркоўваліся палітычныя пытанні, здзіўляліся на гэты конт. Таварыш Сталін знік вясновай ноччу 1961 года. Восем гадоў яго помнік яшчэ грэў нечыя сэрцы».

**Магіла ксяндза Адама Фалькоўскага.** Казакі расстралялі на Выгане ксяндза з мястэчка Ішчална ў 1863 г. за чытанне вернікам маніфеста паўстанцаў. Быў арыштаваны 2 сакавіка 1863 г. і расстраляны 24 (13) чэрвеня. Відавочца так апісваў падзею: «Калі яго прывезлі ў Ліду, ахоўваючы як вялікага злачынцу, ксёндз яшчэ не разумеў, што яму можа пагражаць смерць. Упэўніўся толькі тады, калі ў турму ў апошнюю хвіліну прыйшоў мясцовы пробашч ксёндз Свірскі, каб спавядаць Фалькоўскага перад смерцю, было трохі больш за 50 гадоў.

З каменным спакоем ішоў каплан да месца пакарання на Выган за горадам, дзе пасвіліся яўрэйскія козы. Ішоў сам, нягледзячы на значную адлегласць, і толькі раз падкасіліся калені. Камандаваў атрадам казакаў Перасвет-Солтан, ён прапанаваў вязню сесці на вазок, якім ехаў сам. Асуджаны адмовіўся. Хацеў як Хрыстос данесці свой крыж да канца. Бледнымі вуснамі шаптаў пацеры... а калі голас яму здраджваў, ламаўся, прадоўжыць малітву дапамагаў ксёндз Свірскі, які суправаджаў Фалькоўскага.

Каля слупа быў ужо выкапаны дол. Тлум з простага народу атачаў месца пакарання. Ксёндз Фалькоўскі штосьці прамовіў каля слупа, але барабаны заглушылі яго словы... Прагучала каманда і выбухнуў залп. Цела, якое яшчэ торгалася, скацілася ў дол. У горадзе зараз жа пачалі біць касцельныя званы, і ва ўсіх касцёлах пачалася жалобная імша. Магілу, насыпаную на месцы пакарання, казакі зраўнялі з зямлёй капытамі коней. Жаўнеры штыкамі разганялі тлум людзей, якія ціснуліся да магілы, каб узяць пясок, прапітаны крывёй расстралянага ксяндза. Ліда віравала болем і жахам».

Другі відавочца расказваў: «...каля 6 гадзін раніцы с.п. ксёндз Адам Фалькоўскі ішоў на месца страты засяроджаны і чытаў малітвы з кантычкі. Яго прывялі з лідскай вязніцы да месца, дзе была выкапана яма і падрыхтавана свежая вапна ў вялікай бочцы. ...зачыталі смяротны прыгавор... грымнуў залп з казацкіх карабінаў. ...укінулі цела без труны ў яму і залілі вапнай. Магілу закапалі, эскадрон казакаў на конях зацёр усялякі след магілы. Наш люд ціха назіраў і, стоячы ў розных пунктах, перасячэннем ліній акрэсліў месца магілы, а пасля адходу катаў аблажыў магілу камянямі. Паліцыя шматкратна раскідвала каменне, але наш добры народ заўсёды пазначаў тое месца чатырохвугольнікам з камянёў...».

У 1919 г. лідскія чыгуначнікі разам з іншымі лідзянамі задумалі ўшанаваць магілу ксяндза і паставіць помнік: «Чыгуначнік Стэфан Лоўкіс прыняў тую справу блізка да сэрца, зрабіў крыж з жалезных труб і падрыхтаваў цэмент для помніка. ...наступіла хвіліна, калі трэба было адшукаць магілу. Людзі – жывыя ў 1919 г. сведкі падзеі... [расстрэлу і пахавання ксяндза – Л. Л.] – сталі на тыя самыя месцы, як і ў 1863 г., і на скрыжаванні ліній знайшлі магілу. Пры капанні ямы пад фундамент помніка натрапілі на камяні, а глыбей – на вапну. Месца гэтае – бясспрэчна, магіла расстралянага ксяндза».

Памяць пра 1863 г. жыве і сёння – помнік на магіле Адама Фалькоўскага, зламаны ў 1939 г. пасля працяглай барацьбы лідзян з нашчадкамі Мураўёва-вешальніка, адноўлены і з'яўляецца адной з галоўных кропак гістарычнай памяці нашага горада.

**Касцёл на крыві.** У 1914 г. у Лідзе ўжо ўсё было гатова да будаўніцтва касцёла на Выгане (тэрыторыя сучаснага парку), каля магілы расстралянага ў 1863 г. ксяндза Фалькоўскага. Можна не сумнявацца, што каб не Першая Сусветная вайны, дык касцёл быў бы пабудаваны. Прэса «патрыятычнага» рускага накірунку назвала гэты касцёл «Касцёлам на крыві». Для мяне гэта была цалкам новая інфармацыя, да гэтага было толькі вядома, што другі касцёл у Лідзе з 1910-х гг. планавалася пабудаваць на Слабадзе.

Газета «Северо-Западная жизнь» летам 1914 г. пісала: «У Лідзе даўно ўжо ладзіцца пабудова другога, непатрэбнага касцёла. Сродкі на яго збіраюцца ў выглядзе патаемных складак. Кажуць, што ксёндз-дэкан прывёз з Аўстрыі ад езуітаў вялікую суму грошай. Вядомы фанатык, банкір Янушкевіч і абшарнік Іваноўскі, які займае вельмі важнае месца ў Пецярбургскім чыноўным свеце, таксама зрабілі вельмі вялікія ўнёскі.

Лідская гарадская грамадская ўправа некалькі месяцаў таму пачала хадатайнічаць перад віленскім губернатарам аб надзяленні 3 дзесяцін грамадскай зямлі пад пабудову касцёла, які праектуецца. Пад касцёл адводзіцца занадта шмат зямлі, і да таго ж моцная ў Лідзе польская партыя выбрала сябе самы лепшы ўчастак для гэтай пабудовы: ... на гэтым пляцы, за Віленскай заставай, быў пакараны смерцю мяцежны ксёндз Фалькоўскі за супрацьурадавую прапаганду сярод народных мас супраць рускага войска».

«Абшарнік Іваноўскі» – гэта ўладальнік маёнтка Лябёдка, бацька 4 сыноў і 1 дачкі Леанард Іваноўскі. Другі сын Леанарда – Вацлаў Іваноўскі, адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху, чалавек, які адным з першых пачаў думаць пра Беларусь і ў значанай ступені, заклаў падмуркі нацыянальнай культуры. Дачка Леанарда Алена Скіндар Іваноўская, першая перакладчыца з беларускай на англійскую мову, у 1914–1924 гг. у чатырох нумарах лонданскага часопіса «Folk-Lore» яна надрукавала дзесяткі беларускіх народны песняў з перакладамі на англійскую мову. Кожнай публікацыі папярэднічаў вялікі ўводны артыкул, у якім Іваноўская расказвала пра гісторыю і культуру Беларусі. У 1916 г. яна стала, калі не першай, дык адной з першых беларускіх настаўніц на Лідчыне.

Пра «фанатыка, Янушкевіча», якому ў Лідзе належала банкаўская кантора, вядома менш. У 1918 г. у яго доме па адрасе: вуліца Палескай, дом № 19/15 (зараз гэта перакрыжаванне вуліц Радзюка і Камсамольскай) месцілася польская Самаабарона ў Лідзе.

Цікава, што руская «патрыятычная» прэса пацвярджае шматгадовае шанаванне лідзянамі месца расстрэлу ксяндза: «Старажылы Ліды памятаюць гэтую справу. Шмат гадоў на месцы пакарання ксяндза нечай нябачнай рукой выкладваўся з камянёў крыж. Толькі нядаўна, каб пазбегнуць падазрэння, гэты крыж знік – верагодна таму, што распачалося хадатайніцтва аб атрыманні зямлі пад касцёл. Паміж старымі жыве легенда, што тут па начах, патаемна маліліся ксяндзы і іншыя "патрыёты" – тутэйшыя і прыезджыя. Вось якое месца выбралі пад касцёл – ён будзе пабудаваны на костках і крыві пакутніка. З гэтым месцам звязаны яшчэ жывыя ўспаміны ... . Сюды пацягнуцца тысячы багамольцаў з багатымі дарамі. Мяркуецца пабудаваць велічны касцёл з усімі неабходнымі пабудовамі і сцяной вакол яго. Гэта будзе сапраўдная цвердзь. Для такой вялікай пабудовы патрабуецца 3 дзесяціны зямлі. Лідская гарадская ўправа ў складзе 12 упаўнаважаных мае 9 католікаў, 2 праваслаўных і 1 яўрэя».

Прэса такога гатунку не можа не пераказваць чуткі: «Абшарнік Іваноўскі, які толькі збіраў даведкі ў Міністэрстве асветы па справе мужчынскай гімназіі, прадстаўлены лідскай гарадской управай у ганаровыя грамадзяне г. Ліды, а насамрэч

атрымаў гэтую годнасць за новы касцёл. Стараста Вісмант, па настойлівым патрабаванні прадвадзіцеля дваранства графа Грабоўскага, за выдзяленне добрага ўчастка зямлі пад пабудову касцёла, зараз выбраны ў ганаровыя міравыя суддзі Лідскага павета. Сарока і іншыя будуць узнагароджаны, зразумела, таксама».

Дадам, што Леанард Іваноўскі і насамрэч з'яўляецца ганаровым грамадзянінам нашага горада за дзейсную працу па адкрыцці вельмі неабходнай гораду Лідскай мужчынскай гімназіі. А газеты, якія я цытую, раздзімалі полымя нацыянальнага супрацьстаяння ў нашым горадзе за некалькі тыдняў да пачатку Вялікай вайны, што цяжка назваць разумным падыходам.

# Дом лідскага старасты – сучасны ЗАГС

У парку рухаемся да будынка, які займае сучасны ЗАГС.

На пачатку 1920-х гг. польскія ўлады сутыкнуліся з неабходнасцю больш-менш прыстойна размясціць чыноўнікаў адноўленай дзяржавы ў гарадах Заходняй Беларусі і Украіны. За часы ваеннага ліхалецця жылы фонд гарадоў прыйшоў у заняпад, шмат дамоў было разбурана. Напрыклад, у Лідзе падчас так званай «Бітвы на Нёмне» ў 1920 г. баі ў межах горада ішлі з выкарыстаннем артылерыі.

Каб вырашыць праблему, была распачата дзяржаўная акцыя па будаўніцтву спецыяльных комплексаў адміністрацыйных і жылых будынкаў – так званых калоній дзяржаўных дамоў. Агульная падрыхтоўка будаўніцтва калоній дамоў пачалася з 1923 г. 28 мая 1924 г. Міністэрства скарбу пачало фінансаванне гэта праекта. Для арганізацыі такой маштабнай будоўлі 12 мая былі ўтвораны ваяводскія будаўнічыя камітэты, а 6 чэрвеня ў Брэсце створана «экспазітура» на чале з галоў-



Дом лідскага старасты




Дом лідскага старасты і яго малюнак з праекта

ным кіраўніком будоўлі на «Крэсах усходніх», які быў прамым прадстаўніком Міністэрства скарбу. На гэту пасаду быў прызначаны Аляксандр Прачніцкі.

Адразу, у чэрвені, пачалі распрацоўвацца архітэктурныя праекты будучых дамоў для чыноўнікаў. Да ўдзелу ў акцыі былі прыцягнуты архітэктары з Варшавы і іншых гарадоў Польшчы. Архітэктарам давалася замова на распрацоўку тыпавых дамоў для забудовы, сітуацыйных планаў, даручаўся нагляд за ажыццяўленнем праектаў. Сярод патрабаванняў да архітэктараў было і такое, каб новыя калоніі гарманічна спалучаліся з мясцовымі забудовамі і адпавядалі сучаснаму ўзроўню ўрбаністыкі. Праектаваліся муры павялічанай таўшчыні, прыстасаваныя для больш халоднага клімату.

Планавалася амаль што адначасова пачаць будоўлю дамоў у 44 гарадах і мястэчках, пераважна ў цэнтрах паветаў, у тым ліку ў Навагрудскім ваяводстве, у склад якога ўваходзіў Лідскі павет. Кіраўнікамі работ у Лідзе, Баранавічах і Стоўбцах прызначаны: інжынеры-архітэктары Вітольд і Зыгмунт Выганоўскія.

Для будаўніцтва калоній дзяржаўных дамоў у Лідзе быў куплены пляц за горадам, на так званым Выгане. Калонія дзяржаўных дамоў у Лідзе, як і ў іншых гарадах Заходняй Беларусі, была пабудавана ў сціслыя тэрміны: «Працы вяліся з амерыканскай хуткасцю».

У верасні 1924 г. ганарова асвяцілі закладны камень першага дома ў калоніі дамоў чыноўнікаў. На мерапрыемстве выступілі лідскі стараста Здановіч і бургамістр горада Рашкоўскі. Стараста сказаў, што пасля Расійскай Імперыі засталіся толькі турмы і гарэлачныя манаполіі, і таму трэба будзе будаваць шмат новага, будоўля калоніі недарагіх дамоў дасць узор стылю і ўзніме агульную культуру. Бургамістр дадаў, што з гэтай калоніі пачынаецца новы, прыгожы раён горада. Стараста і бургамістр падпісалі акт пачатку будоўлі, ксёндз-дэкан Баярунец




Праект дома старасты

асвяціў закладны вуглавы камень, пасля чаго староста замураваў у гэты камень капсулу з актам.

Дом лідскага старасты пабудаваны ў модным у той час «закапанскім» стылі, аўтар праекта інжынер-архітэктар Ежы Беіл (Jerzy Beill). Па гэтым жа праекце будаваліся дамы для стараст у Баранавічах, Драгічыне, Глыбокім, Нясвіжы, Навагрудку, Слоніме, Стоўбцах, Валожыне, і аўтару вядома, што як мінімум у Валожыне і Глыбокім гэтыя дамы захаваліся і не былі перабудаваны, як у Лідзе. Па праектах Ежы Беіла (нарадзіўся ў 1885 г.) пабудавана палітэхніка ў Гданьску, гімназія імя Стэфана Баторыя ў Варшаве (1925) і, што істотна для лідчан, дзяржаўная гімназія імя Караля Хадкевіча ў Лідзе, будынак якой і зараз упрыгожвае наш горад.

Каля дома старасты меўся дамок для прыслугі, вугальная адрына і адкрыты басейн. У паўпадвальным памяшканні дома мясцілася кухня.



Дом піянераў, былы дом старасты. Здымак канца 1950-х гг.

Газета «Слова» ў 1932 г. пісала пра раён горада, у якім жыло ўсе кіраўніцтва павета: «…добра, што пасля нашай скаргі для маладых дрэў у калоніі дзяржаўных дамоў зрабілі належныя падпоркі. ...добра было б, каб яшчэ бургамістр парупіўся аб нейкім асвятленні калоніі дзяржаўных дамоў, бо там пануе такая егіпецкая цемра, што ўвечары цяжка патрапіць дахаты, не ўлезшы па калена ў балота альбо не праваліўшыся ў "воўчую яму". Калі не памыляюся, асвятленне тут з'яўлялася толькі тады, калі прыязджаў у Ліду міністр асветы і веравызнанняў на асвячэнне агульнаадукацыйнай школы, але ж ужо назаўтра ліхтары знялі».

Праз тыдзень тая ж газета паведаміла: «Некалькі дзён таму мы пісалі пра неадпаведнае асвятленне калоніі дзяржаўных дамоў – тады свяціла толькі адна лямпачка, і з-за цемры жыхары калоніі неаднаразова прымалі "балотныя ванны", не кажучы ўжо пра разбітыя насы, калені ці іншыя часткі цела. Каб пазбегнуць такіх прыгод, шмат хто з нас закупіў сабе паходні. Пасля артыкула чакалі, што пан бургамістр палепшыць асвятленне, але дзе ж там! Адбылося найгоршае: два дні таму перастала свяціць апошняя лямпа». Трэба адзначыць, што гэты раён горада лічыўся самым фешэнебельным, і ў калоніі дзяржаўных дамоў жыло толькі кіраўніцтва павета.




План часткі лідскай калоніі дзяржаўных дамоў, састаўлены Ларысай Канчэўскай. У цэнтры яе дом «на 4 сям'і», справа – дом старасты (вышэй яго – басейн), злева два дома «на 2 сям'і»; таго, які стаяў каля санстанцыі, зараз няма, а ў ніжнім месціцца лідскае радыё

У 1950-я гг. дом старасты ў парку зваўся ў горадзе палацам – ён рэзка вылучаўся сваёй архітэктурнай прыгажосцю ад іншых пабудоў невялікага горада. Ларыса Канчэўская пісала: «Палац сваім суседствам рабіў нас шчаслівымі, здзіўляў прыезджых. Мой дзед, калі гасцяваў у нас, не пераставаў любавацца гэтай пярлінай "у балоце", у напаўдраўляным і напаўразбураным горадзе. Налюбаваўшыся палацам, ён цягнуў нас да муроў замка і паўтараў, што такія збудаванні дзеляцца з чалавекам сілай, прыгажосцю і любоўю, якія заклалі ў іх стваральнікі, але дзеляцца толькі з тымі, хто ўмее ўсё гэта ўбачыць… Мне вельмі пашанцавала яшчэ папрацаваць у палацы мастаком-афарміцелем парку і знаходзіцца пад яго скляпеннямі, любавацца флорай вакол яго з балкона галоўнага фасада... У 1974 годзе палац пачалі перабудоўваць. ...Атрымалася, што рэдкі па прыгажосці будынак не пражыў і пяцідзесяці гадоў, таму што пабудаваны быў у сярэдзіне 1920-х гадоў. А колькі архітэктурных вырадкаў і недарэкаў стаяць стагоддзямі».

Дачка афіцэра Ларыса Канчэўская жыла каля «палаца» ў «доме на 4 сям'і», пра які я раскажу ў наступнай главе. Вось як яна апісвае свае першыя дзіцячыя ўражанні ад дома старасты. Выбачаюся перад чытачом за вялікі фрагмент тэксту гэтага цудоўнага аўтара:

«Палац аказаўся і на самой справе Палацам… піянераў. У яго было чатыры фасады дакладна па чатырох баках свету. Галоўны (з калонамі і высокім ганкам), паўднёвы, глядзеў на вуліцу Міцкевіча "ў спіну" будынка, дзе быў тады інтэрнат (а раней – педагагічнае вучылішча з базавай школай № 2, цяпер – педагагічнае аддзяленне Лідскага аб'яднанага каледжа). З вуліцы да палаца вяла металічная брамка, а за ёй – бетонныя прыступкі, якія вядуць уверх, таму што будынак быў

на ўзвышшы. Прыступкі вялі да помніка на брацкай магіле загінуўшых у час вызвалення горада ад фашыстаў у 1944 годзе. ...Ля падножжа помніка віўся вечназялёны барвенак, які квітнеў з сакавіка па чэрвень светла-сінімі кранальнымі кветкамі. Злева ад мемарыялу рос сад з дзясятка яблынь. Лесвіца заканчвалася і пераходзіла ў нешырокую тратуарную дарожку. Злева, адразу за помнікам, пачыналіся клумбы з кветкамі, ззаду якіх ішоў шэраг кустоў чорных і чырвоных парэчак. Справа ад дарожкі расло некалькі дэкаратыўных кустоў з чырвонай карой, на іх восенню з'яўляліся блакітныя ягады (не сінія, не чорныя, а блакітныя "парасоны", я перагледзела шмат каталогаў дэкаратыўных раслін, але нічога падобнага ў іх не знайшла). За кустамі на ўсход раслі бярозы, дуб, ясені і клёны (сёе-тое там цяпер засталося). За імі ішоў невысокі, але круты спуск у лагчынку паміж палацам і паркам, як і цяпер. Па спуску ад вуліцы Міцкевіча да месца танцпляцоўкі (якой тады не было) паласой рос асіннік, восенню ён палаў чырванню. Там мы збіралі сапраўдныя грыбы-чырвонагаловікі ў немалой колькасці да таго часу, пакуль усё паступова не было высечана.

Справа ад дарожкі, бліжэй да палаца, была круглая альтанка з акуратна падстрыжанага кустоўя з кучаравымі белымі суквеццямі. У цэнтры яе ляжаў гранітны валун вышынёй з зэдлік, але даволі шырокі. Там добра было марыць, чытаць, пісаць дзённік, па душах гаварыць з сяброўкамі, спяваць песні, або проста хавацца.

Дарожка, перпендыкулярна набліжаючыся да палаца, ішла скрозь быццам бы кулісы з мноства кустоў markdown рознага бэзу. Гэта было падобна на падвойныя парцьеры, якія хавалі ад чужых вачэй жыццё палаца і тое, што адбывалася паблізу ад яго. Бэзавыя кусты раслі ў два паралельныя шэрагі, паміж імі ішла грунтовая вузкая сцяжынка да самага спуску ў парк. Даўжыня гэтых бэзавых "кулісаў" была па 15 метраў налева і направа ад дарожкі-тратуара.

Паўночны фасад палаца быў акружаны дрэвамі ружовых чарэшняў (3 шт.), груш (3 шт.) і яблынь, а ў густой траве разрасталіся здзічэлыя кусцікі трускалак. Я іх перасадзіла на агарод і за два гады акультурыла (падрэзвала вусы, угнойвала). Ягады выраслі з кулачок і былі смачныя. Мама дзялілася з суседзямі расадай.

Заходні фасад палаца (левы) глядзеў на наш двор. Яго дзверы вялі ў дзіцячую бібліятэку, цесную, маленькую, але поўную цудоўных нязведаных кніг, голад на якія ніколі не канчаўся. Чамусьці памятаю раніцу, калі я вучылася ў другую змену і бегла займаць чаргу ў бібліятэку крыху раней. ...Мы стаялі каля дзвярэй з ніцянымі сеткамі-авоськамі, поўнымі старых, зацёртых папяровых скарбаў, і прагна назіралі за тым, што будзе здаваць сусед па чарзе, і чакалі, калі бібліятэкарцёця Тоня Кукліна, вельмі прыгожая, як Фея з фільма "Папялушка", пакліча нас.

Дык вось, заходні фасад быў упрыгожаны высокімі кустамі, якія цвілі кветкамі, падобнымі да бела-ружовых камароў, якія потым ператвараліся ў буйныя белыя ягады. Перад ганкам стаяла парная скульптура піянера і піянеркі на пастаменце, а ўнізе – Ленін у дзіцячым узросце. Гэта было месца шыхтавання "піянерскай лінейкі" ў дні правядзення агульнагарадскіх злётаў і шторанічных рапартаў летам, калі Палац піянераў станавіўся гарадскім піянерскім лагерам. За "лінейкай" таксама была "заслона". Падзеі ў лагеры хаваў ад пабочнага погляду паўкруглы густы гаёк з грабаў, які жывы і па сённяшні дзень. Управа ад гаю, бліжэй да нашага двара, дзве галінастыя, высачэзныя дуплаватыя грушы яшчэ лепей берагли ад лішніх вачэй падзеі вакол палаца. Улетку гэтыя старыя дзічкі былі для нас і "караблямі", і "горнымі вяршынямі", і схованкамі для "казакоў-разбойнікаў", і месцам, дзе можна таемна выплакацца ад хатніх альбо дваровых крыўдаў.

Налева, праз метраў дваццаць на поўнач ад гаю стаяў аднапавярховы домік, аднаго колеру з палацам, толькі зусім цацачны [былы дом прыслугі – Л. Л.] У ім

жылі дзве маладыя дзяўчыны. Адна была дырэктарам гэтай піянерскай установы – Нэлі Міхайлаўна Трубяцкая. Пазней, праз шэсць гадоў, яна, выкладаючы ў нас у адзінаццатым класе гісторыю, навучыла нас аналізу гістарычных бягучых падзей і шмат каму прышчапіла павагу і цікавасць да філасофіі. Другую, памятаю, звалі Броня. Яна была музычным работнікам. Мініяцюрная, казачна прыгожая і ветлівая, яна нават не ўяўляла, як яе любіла здалёку ўся малеча суседняга двара.

За маленькім домікам ішоў зусім незвычайны аб'ект для невялікага горада. Гэта быў адкрыты плавальны басейн, які ўлетку запаўнялі вадой і праводзілі спаборніцтвы паміж піянерамі лагера. А пасля таго, як яны разыходзіліся па дамах, да басейна збягаліся мы – нашы таты, дзятва з суседніх двароў і вуліц. Свята доўжылася да цемры. Басейн быў бетанаваны, з трубамі, па якіх залівалі ваду, і з трубамі для спуску вады. У левым куце заходняга кантавага боку была лесвічка для апускання і пад'ёму. Збудаванне было даволі вялікім, гэта значыць цалкам падыходзіла для спартыўных спаборніцтваў. Па сваёй даўжыні басейн арыентаваўся з усходу на захад. Да шасцідзясятых гадоў яго закінулі і паступова запаўнялі смеццем: спілаванымі галінкамі, выкарчаванымі распілаванымі дрэвамі, сухім лісцем. Хлапчукі скакалі ў яго, што пагражала не абы-якімі бедамі. У сямідзясятыя гады наш гонар засыпалі і зрабілі на гэтым месцы валейбольную пляцоўку, акружаную высокай драцяной сеткай, дзе праводзіліся гарадскія спаборніцтвы. У дзевяностыя гады там быў платны тэнісны корт. Але гэта ўжо сумная і нецікавая гісторыя».

Добра памятае басейн за домам старасты і Зіновій Бянько: «Вялікі басейн быў, метраў 25. Адкрыты басейн, я хадзіў сюды купацца, на лета налівалі ваду, і ніхто яго не кантраляваў, хто хацеў – прыходзіў і купаўся».

Пасля перапланіроўкі і перабудовы, да непазнавальнасці сказіўшай выгляд дома старасты, у ім размясціўся гарадскі ЗАГС.

# Іншыя дамы калоніі дзяржаўных дамоў




Праект дома «на чатыры сям'і» архітэктара Тэадора Буршэ

Ад дома, які займае ЗАГС, пяройдзем трошкі на захад, да дома № 3 па вуліцы Міцкевіча.

Дом «на чатыры сям'і» захаваўся да нашага часу амаль што без пашкоджанняў. Ён пабудаваны па праекце архітэктара Теадора Буршэ (Teodor Bursze). Аднатыпныя лідскаму дому «на чатыры сям'і» былі пабудаваны дамы ў Пінску, Луцку і Роўна. Гэты будынак, на 4 кватэры кожны, плошчай у 100 м$^2$, і зараз прыемна ўражвае сваім выглядам і выразна вылучаецца з «шэрых» двухпавярховых дамкоў савецкай забудовы 1950–60-х гадоў. Каля дома «на чатыры сям'і» меўся малы дамок для прыслугі і адрыны.

Гэты гмах лічыўся другім па ступені «элітнасці» пасля дома старасты ў Лідзе 1920–30-х гг. У ім стала жылі віцэ-стараста, начальнік (камендант) павятовай паліцыі, павятовы інспектар адукацыі (ён узначальваў адукацыю павета) і суддзя. Інфармацыя пра гэты будынак некалькі разоў з'яўлялася ў прэсе 1920–30-х гг. У папярэдняй главе ўзгадвалася «егіпецкая цемра» – дрэннае асвятленне калоніі дзяржаўных дамоў. Менавіта з гэтай цемры ў лістападзе 1932 г. нехта праз шыбу стрэліў у начальніка павятовай паліцыі Баляслава Кабенскага. Куля прабіла шкло і патрапіла ў сцяну, нікога не параніўшы. А ў канцы лютага 1931 г.



Дом «на чатыры сям'і» ў 1983 г., вуліца Міцкевіча, 3 (здымак Ларысы Канчэўскай)

у гэтым доме «ў адной з кватэр чыноўнікаў выбухнуў пажар... Пажар паўстаў у выніку неасцярожнасці: прыслуга выносіла перагарэўшы вугаль у драўляным посудзе ў камору... але праз некалькі гадзін у каморы вугаль зноў разгарэўся, загарэлася падлога і ўзняўся пажар. Калі дым выбіўся на вуліцу, сярод суседзяў узнікла паніка, і былі выкліканы пажарныя. Але калі яны прыехалі, пажар ужо быў цалкам патушаны сваімі сіламі».

Перад Другой сусветнай вайной у доме «на чатыры сям'і» жыла сям'я віцэ-старасты Крэнтоўскага, яго дачка Данута Тхажоўская ўспамінала: «Месца, дзе мы жылі, называлася "калонія ўжэдніча" – сучасны парк. Сучасны ЗАГС – гэта быў дом старасты, у двухпавярховым доме за басейнам [сучасным басейнам, пабудовай канца 1960-х гадоў – Л. Л.] жылі 4 сям'і, у тым ліку і наша. Сям'я Невяроўскага – адваката (ці суддзі), Кажаноўскага і начальніка паліцыі. Бацьку арыштавалі раніцай 24 верасня 1939 г... Тры дні ў турме, дзе зараз тыпаграфія, прымалі перадачы, на чацвёрты сказалі, каб больш не прыносілі. І з тых часоў ніякіх слядоў. Спачатку нас выселілі з дома, а 13 красавіка 1940 г. далі час на зборы і вывезлі. Жаўнер, які забіраў нас, сказаў, каб мы бралі бульбу і ежу, а кнігі і добрая вопратка нам не спатрэбяцца... Вывезлі ў Паўночна-Казахстанскую вобласць... Лідскі староста Гансеўскі адразу ўцёк у Літву, мы потым з ім сустракаліся ў Польшчы, вельмі дзівіўся з таго, што мы не выехалі ў першыя ж дні... Падчас вайны ўступіла ў дывізію імя Касцюшкі, капітан рэзерву». Дзеля дакладнасці трэба адзначыць, што Гансеўскі ўсё ж патрапіў у Сібір, але гэта было ў 1941 г.

А вось успаміны Казіміра Казлоўскага, сына школьнага інспектара: «Нарадзіўся я ў Лідзе. У павятовым горадзе Навагрудскага ваяводства. Мой бацька нарадзіўся ў горадзе Асвенцім і пасля заканчэння Кракаўскага ўніверсітэта прыехаў у Ліду выкладаць у гімназіі. Маці – з лідскай радзіны Касакоўскіх... 1 верасня 1939 г.




Праект дома «на дзве сям'і» архітэктара Зыгмунта Тарасіна

вельмі нізка, так, што можна было каменем патрапіць, над горадам праляцеў самалёт. Аказалася, што самалёт, які праляцеў над нашым домам, быў нямецкі. Жылі мы ў "калоніі ўжэднічай". Гэта было месца, дзе жылі ўсе функцыянеры дзяржаўных інстытуцый. Гэта былі ладныя дамкі. Дужы сад...». Бацьку Казлоўскага папярэдзіў кватарант, капітан Чырвонай Арміі Капейкін, і бацька паспеў уцячы ў Варшаву, дзе жыла яго маці, таму і не быў арыштаваны.

Зіновій Бянько ўспамінаў, што падчас Другой сусветнай вайны ў гэтым доме было нешта накшталт турмы.

З 1956-я гг. у гэтым доме «на чатыры сям'і» па вуліцы Міцкевіча, 3 жыла сям'я Ларысы Рыгораўны Канчэўскай, дачкі маёра Савецкай арміі: «...дом быў перанаселены: у нашай кватэры жылі дзве сям'і. На другім паверсе, над намі, у кватэры жылі дзве сям'і, у кватэры насупраць другога паверха жылі дзве сям'і, і ў кватэры на нашай пляцоўцы першага паверха жылі тры сям'і. Тры кватэры былі заселены сем'ямі афіцэраў Паўднёвага гарадка, чацвёртая – Паўночнага. А калі мы толькі пераехалі, наверсе жыў камандзір татавага палка Качанкоў. Ён сям'ёй з шасці чалавек займаў усю кватэру».

З 1920-х гг. дом не рамантаваўся, пад'езд дома быў скразны, і на дзвярах заходняга ўвахода, які пасля 1945 г. стаў запасным, да канца 1980-х гг. меўся надпіс па-нямецку «Durchgang» (выхад).

«У доме было велізарнае гарышча, на якім сушылі бялізну. Яно прасторнае, высокае і светлае. Адчуванне, быццам ты на караблі. Мы гулялі там у "дзяцей капітана Гранта". Вельмі глыбокі склеп. У ім доўга заставаліся пасля немцаў акенцы з кратамі на дзвярах і нямецкія адтрафарэчаныя надпісы. Хадзілі чуткі, што ў вайну там утрымліваліся зняволеныя. Распавядалі, што на сценах былі надрапаны пасланні: "Нас вядуць забіваць", – і яшчэ што-небудзь такое. Пра гэта казалі дарослыя, я сама не бачыла – туды мы доўга баяліся лазіць», – успамінала Канчэўская. Падвалы былі падобныя на турэмныя камеры: «Магутныя дзверы і перагародкі. Дзверы з такіх тоўстых плах».



Дом «на дзве сям'і», вуліца Чарняхоўскага, 5

Да ўсталявання ў доме цэнтральнага ацяплення ў кватэрах паліліся печы. «Я навучылася паліць і чысціць печы, пілаваць і калоць дровы з чацвёртага класа! Усе іншыя выгоды былі ў доме: ванная, туалет, халодная вада, старыя польскія тытаны, наогул, уся сантэхніка была польскай да 1980-х гадоў. На кранах было напісана "ciepła" і "chłodna", і на ўсім польская маркіроўка. Усё служыла доўга і вельмі нядрэнна. Адно было цяжка – дом быў халодны. Печы дапамагалі выжыць вясной і ўвосень, і сырым летам. ...Тэхнічны прагрэс літаральна ўсё змятаў на сваім шляху: дзесьці ў годзе 1961-м нам паставілі газавыя пліты і пачалі прывозіць газ у балонах. Але печ на кухні заставалася, часам мы яе запальвалі, бо часам холад быў невыносным. Толькі ў 1970-м годзе (прама зімой!) нам правялі цэнтральнае ацяпленне і газ. З двара знікла палова латаных, страшных хлявоў з "падсобных матэрыялаў", дзе захоўвалася паліва», – пісала Ларыса Рыгораўна.

**Два дома «на дзве сям'і».** У Лідзе былі пабудаваны два дамы «на дзве сям'і» па праекце архітэктара Зыгмунта Тарасіна (Zugmunt Tarasin). Да нашых часоў дажыў толькі адзін з дамоў, пасля капітальнага рамонту і ўнутранай перабудовы ў ім зараз заходзіцца рэдакцыя Лідскага радыё і тэлебачання.

Вось што пісала Ларыса Канчэўская пра гэтую частку горада: «Яны ўсе – і наш двухпавярховы чатырохкватэрны, і два аднапавярховыя двухкватэрныя дамы, і адзін аднакватэрны домік [дом прыслугі – Л. Л.] з драўлянай атынкаванай прыбудовай з малюсенькімі неўладкаванымі пяццю кватэркамі, як вагоннае купэ (яго знеслі ў канцы 1970-х) – былі ружовыя, з чырвонымі чарапічнымі дахамі і складалі адзіны архітэктурны ансамбль.

Дом... (другі двухкватэрны, сіметрычны цяперашняму дому радыё і тэлебачання) быў на месцы сённяшняга будынка санэпідэмстанцыі. Яго знеслі таксама на пачатку 1980-х гадоў. Гэты домік мы называлі "генеральскім". Там жылі




Праект дома «на шэсць сямей» інжынера-архітэктара Стэфана Тамаровіча

ў 1950-я гады генерал Кірпічэнка і палкоўнік Хозаў з сем'ямі. Гэта былі афіцэры Паўночнага гарадка. Вакол быў немалы фруктовы сад (ён увайшоў у тэрыторыю цяперашняй санстанцыі), акружаны плотам. Мы туды (а нас, дзяцей, было ў двары больш за дваццаць чалавек), натуральна, арганізоўвалі набегі. З хаты вылятаў люты Хозаў у падцяжках і пагражаў нам "дать по шеям". Мы разбягаліся ў розныя бакі. А самыя малодшыя ад страху нават плакалі.

Пазней там жылі больш простыя людзі – капітаны, прапаршчыкі. У другім доме (цяпер "Дом радыё") жыў з сям'ёй афіцэр Паўночнага гарадка маёр Кірэеў. У іх было два сыны і дачка Таня, аднагодка і любімая сяброўка маёй малодшай сястры. Яны разам выраслі, пайшлі ў адзін клас у 8-й школе, якая ў той час ужо стала "англійскай", сталі першымі "англічанамі"-выпускнікамі і сябруюць да гэтага часу. … Маёр Леанід Кірэеў быў вельмі цікавым чалавекам. … Я была здзіўленая, калі слухала яго выступ, ці, дакладней, тэмпераментную глыбокую прамову да юбілею М. Ю. Лермантава для нас, старшакласнікаў усяго горада ў Доме афіцэраў. Дзядзька Лёня, рослы, атлетычнага складу данскі казак з зычным голасам, якога ўсе лічылі салдафонам, натхнёна, пранікнёна, з вялікай эрудыцыяй распавядаў пра асаблівасці творчасці паэта... Зала замерла... Выходзячы на вуліцу, многія бурчалі: "Вось каб у школе так выкладалі!"… На грунце кніг і літаратуры мы

з дзядзькам Лёнем і пасябравалі… Апошні раз мы гутарылі з ім у павольным бясконцым рэйсе нашага няўтульнага прыгараднага цягніка “Мінск – Ліда” ў канцы студзеня 1968 года. Мы з мужам ехалі пасля сесіі на вакацыі, а яго вёз сын з Бараўлянаў... паміраць. Спаць ён не мог ад болю, і мы цэлую ноч, не перарываючыся, размаўлялі аб паэзіі. Ён чытаў мне свае любімыя вершы… Распавядаў, як усё жыццё шукаў рэцэпт “стварэння сапраўдных чалавечых вершаў” у адрозненне ад звыклай хадульнай псеўдапаэзіі, якая запаўняла часопісы, газеты і кнігі яго маладосці. З горыччу казаў, што толькі цяпер прыйшлі да чытача Барыс Пастэрнак, Ганна Ахматава. Я ўзахлёб чытала яму вершы Уладзіміра Высоцкага… Дык вось, Кірэевы займалі невялікую частку “Дома радыё” з задняга фасаду. Большую частку дома з боку вуліц Чарняхоўскага і Міцкевіча займала КЭЧ – кватэрна-эксплуатацыйны аддзел Лідскага вайсковага гарнізона».

У свой час, перад тым, як былы будынак КЭЧ пачалі рамантаваць і пераабсталёўваць для размяшчэння радыё, я там пабываў і ўважліва вывучыў яго.

**Тры дома «на шэсць сямей».** Праз вуліцу ад дамоў «на дзве сям’і», на «бальнічным» баку вуліцы, былі пабудаваны тры двухпавярховыя дамы «на шэсць сямей» па праекце інжынера-архітэктара Стэфана Тамаровіча (Stefan Tomorowicz). З сітуацыйнага плана бачна, што двор гэтых дамоў быў падзелены на 6 пляцовак пад сад-агарод для жыхароў дома. Аднатыпныя дамы павінны былі быць пабудаваны і ў Вілейцы. Усе тры дамы дажылі да нашага часу, але пры канцы 1990-х былі перабудаваны ў трохпавярховыя. Зараз гэта дамы № 12, 16 і 18 па вуліцы Чарняхоўскага.




Два з трох дамоў «на шэсць сямей», г. Ліда, вуліца Чарняхоўскага, 12, 16, 18

# Будынак лідскай пошты

Па прыгожай вуліцы Міцкевіча падыдзем да лідскай пошты.

Сапраўднай архітэктурнай пярлінай у нашым горадзе з’яўляецца будынак пошты. Неаднаразова чуў ад знаўцаў, што гэты прыгожы будынак са стылёвымі кратамі на вокнах лёгка ўявіць сабе на самай фешэнебельнай вуліцы еўрапейскага горада. Нават больш позняя мазаіка ўнутры перакрытай зверху светлавымі вокнамі аперацыйнай залы арганічна ўпісалася ў інтэр’ер будынка. І самае галоўнае – рамонты покуль не надта сапсавалі гэты будынак.

У сярэдзіне 1930-х гг. паштовыя гмахі ў стылі функцыяналізму былі пабудаваны ў Гдыні, Быдгашчы, у заходнеўкраінскім Луцку і заходнебеларускай Лідзе. Паштовыя будынкі ў Быдгашчы і Луцку – родныя браты лідскага, але, нягледзячы на тое, што гэтыя гарады ў той час, як і цяпер, мелі большую колькасць насельніцтва, чым Ліда, лідская пошта ўсе ж большая па памерах і прыгажэйшая. Цікава, што, згодна з гарадской легендай, будынак пошты ў Быдгашчы, як і ў Лідзе, быццам бы будаваўся па праекце англійскіх архітэктараў.




Лідская пошта, 1938 г.



Лідская пошта, 1959 г.

Насуперак гарадскім легендам, будынак быў спраектаваны ў 1936 г. Вандай Баэрнер-Пшэўлоцкай, якая таксама спраектавала шэраг іншых будынкаў у іншых гарадах. Верагодна, заказ на праектаванне будынка пошты ў Лідзе архітэктар атрымала праз адпаведныя кантакты – яе дзядзька Ігнат Баэрнер у 1929–33 гг. быў міністрам пошт і тэлеграфаў Польшчы.

З пункту гледжання архітэктуры гмах пошты складаецца з кубічных аб’ёмаў з элементамі, тыповымі для стылю Ле Карбюзье: першы паверх знаходзіцца трошкі ў глыбіні, што падкрэслена больш цёмным колерам, і на першым плане бачныя канструкцыйныя слупы. У галоўным аб’ёме будынка знаходзіліся паштова-касавая зала і бакавая тэлеграфна-тэлефонная зала з агульным вестыбюлем. Вакол паштова-касавай залы мясціліся памяшканні розных паштовых службаў. Для работнікаў пошты меліся асобныя выхады з боку і тылу будынка. На другім-чацвёртым паверхах знаходзіліся розныя офісныя памяшканні, а таксама тэлефонная і тэлеграфная станцыі, у бакавым крыле пошты – кватэры.

Першае паведамленне пра пачатак будаўніцтва новай лідскай пошты я знайшоў у жніўеньскім нумары газеты «Кур’ер Віленскі» за 1936 г. У гэтым нумары Дырэкцыя пошт і тэлеграфаў Віленскай акругі абвясціла публічныя таргі на будаўніцтва гмаху лідскай пошты, а праз некалькі месяцаў, у снежні 1936 г., тая ж Дырэкцыя абвясціла таргі на выкананне работ па мантажы сістэмы цэнтральнага ацяплення, каналізацыі і водаправода.

Віленская прэса зноў паведамляла, што будаўніцтва плануецца закончыць у 1937–38 гг. Да 1937 г. ужо былі пабудаваныя два паштовыя гмахі ў Вільні, пачалося будаўніцтва новай пошты ў Баранавічах агульным аб’ёмам 13 000 $м^3$, планаваліся новыя будынкі пошты ў Гродне, Друскеніках, Шчучыне, Гарадзеі, Клецку і Маладзечне.

Ажыўленне ў эканоміцы, якое назіралася ў другой палове 1930-х, спрыяла развіццю і тэлефонных сетак на Лідчыне. За 1937 г. колькасць тэлефонных абанентаў на Лідчыне вырасла на 1/5 і дасягнула колькасці ў 218 абанентаў. Штомесячны грашовы абарот лідскіх тэлефаністаў дасягнуў 10 000 зл., усе пашкоджанні на лініі рамантаваліся не болей чым за 4 гадзіны, на тэлефоннай станцыі працавала 6 высокакваліфікаваных тэлефаністак.

У красавіку 1937 г. заказчык будаўніцтва – Дырэкцыя пошты і тэлеграфа ў Вільні – абʼявіў таргі на мантаж электраабсталявання ў новым будынку Лідскай пошты.

Будаўніцтва гмаху пошты рухалася наперад. У маі 1937 г. паведамлялася, што «ў найбліжэйшыя месяцы ў новым раёне горада каля гімназіі паўстане другі гмах коштам больш за мільён злотых [першы «мільённік» – гэта будынак гімназіі. – Л. Л.]. Тут будзе ліставая пошта, тэлеграф і тэлефон. У памяшканнях вышэй ад першага паверха размесціцца персанал ліставой пошты, аддзелаў тэлеграфа і тэлефона, кіраўнікоў гэтых аддзелаў». Ужо ў кастрычніку 1937 г. корпус гмаху пошты быў зроблены «пад дах» і накрыты. Узімку планавалі пачаць унутраныя работы, таму частковае адкрыццё новай пошты магло адбыцца яшчэ ўвесну 1938 г. Але будаўнічыя работы затрымліваліся.

Разам з будаўніцтвам новай пошты пракладваліся падземныя камунікацыі: «Ліда будзе мець падземныя тэлефонныя кабелі. Як і ў вялікіх гарадах, у Лідзе закладваюцца трубы для пракладкі тэлефонных сетак. Гэтыя работы выконваюцца на галоўных вуліцах горада».

Бліжэй да заканчэння будаўніцтва гмаху, у маі 1938 г., паштавікі пачалі атрымліваць новую тэхніку: «Матарызацыя пошты. Управа пошты і тэлеграфа ў Лідзе атрымала 5 аўтамабіляў маркі “Польскі Фіят”. Цяпер конны воз для дастаўкі пошты будзе служыць толькі там, дзе аўтамабіль не зможа праехаць».

У чэрвені 1938 г. пачаліся ўнутраныя работы, здача новага шматпавярховага паштова-тэлеграфнага гмаху ў эксплуатацыю чакалася ў жніўні ці верасні таго ж года. Будаўнікі павінны былі закончыць работы да 1 верасня, бо ў старым драўляным будынку пошты па вуліцы Сувальскай (зараз – Савецкая) планавалася размясціць новую гімназію. Але хутка стала зразумела, што да 1 верасня здаць у эксплуатацыю новы паштовы гмах не паспеюць: «Пошта ў гатэлі? Будаўніцтва паштовага гмаху ў Лідзе марудна прасоўваецца наперад. Паштовыя ўлады ўсімі сіламі руліяцца паскорыць тэрмін адкрыцця новай пошты, з-за хуткага развіцця горада даўно пара было б вырашыць гэтую праблему. Калі ўсё ж будоўля затрымаецца, лідскія паштовыя ўлады будуць змушаны браць за ўзор вырашэнне праблемы з зацягваннем будаўніцтва пошты № 2 у Вільні – там новая пошта часова пераехала ў гатэль. Здаецца, такі самы лёс чакае і пошту ў Лідзе».

Гарадскія ўлады да моманту адкрыцця новай пошты рыхтавалі вуліцу Міцкевіча: «Запраектаваная ў свой час на Выгане вул. Адама Міцкевіча дачакалася ўладкавання і цвёрдага дарожнага пакрыцця. Забрукоўка вуліцы ідзе ў паскораным тэмпе з-за хуткага заканчэння будаўніцтва і адкрыцця новай гарадской пошты. З моманту перанясення пошты ў новы гмах частка руху з вуліцы Сувальскай аўтаматычна скіруецца на Выган, таму вуліца Міцкевіча, на якой стаіць новая пошта, ажыве».

У другой палове жніўня будоўлю новага гмаху наведаў міністр пошт і тэлеграфаў Польшчы Калінскі. Было вырашана, што новая пошта пачне працаваць да 7 верасня 1938 г.

Адразу пасля пачатку работы выявілася нечаканая праблема: «Барыкада з ровараў каля новай пошты. З моманту перанясення бюро паштова-тэлеграфнай

управы ў новы будынак па вуліцы Міцкевіча ў час перад поўднем рух кур'ераў з розных арганізацый значна вырас, прычым кожны з іх карыстаецца роварам. Таму на вуліцы перад новай поштай заўжды ляжыць барыкада з ровараў».

Тым не менш у нашым горадзе з'явілася, магчыма, самая прыгожая вуліца, якая, аднак, у першыя месяцы не мела нават вулічнага асвятлення: «Самая новая вуліца Ліды без асвятлення. Да часу пераносу пошты ў новы гмах на Выгане гарадскія ўлады парупіліся аб поўнай перабудове вуліцы Міцкевіча. Вуліца ўпарадкавана па ўзоры цэнтральных вуліц горада, перад гмахам пошты нават заасфальтавана, што з'яўляецца абсалютнай навінкай для Ліды. Ходнікі вельмі шырокія і з прыгожымі газонамі. Вуліца Адама Міцкевіча ў Лідзе сваім выглядам можа канкурыраваць з лепшымі вуліцамі Вільні. Але толькі ўдзень, бо ўвечары пануе на ёй егіпецкая цемра. Няма аніводнай лямпы. Чаму кіраўніцтва гарадской электроўні не звяртае на гэта ўвагі?». Дарэчы, з гэтага тэксту выцякае, што першай заасфальтаванай вуліцай горада была вуліца Міцкевіча.

Пасля пераносу гарадской пошты ў новы будынак паштовая ўправа выпрацавала новы план дастаўкі карэспандэнцыі. Горад быў падзелены на 10 раёнаў (да гэтага часу пошту разносілі 8 паштальёнаў, стала 10), прычым карэспандэнцыя жыхарам горада пачала дастаўляцца два разы ў дзень. Часы дастаўкі пошты сінхранізаваліся з прыбыццём варшаўскіх і віленскіх цягнікоў у Ліду, дзякуючы чаму кожны жыхар атрымліваў цэнтральныя газеты і астатнюю пошту першы раз каля 9 раніцы. Гэта было вельмі значнае паляпшэнне паштовай справы горада. За добрую арганізацыю працы начальнік лідскай пошты Батаровіч карыстаўся вялікай павагай у гараджан.

Урачыстае адкрыццё новага будынка пошты адбылося толькі ў пачатку мая 1939 г. Верагодна, толькі да гэтага часу быў цалкам закончаны мантаж абсталявання. «Кур'ер Віленскі» пісаў: «У межах святкавання свята 3-га Мая [Дзень Канстытуцыі 1791 г. – Л. Л.] адбылося ўрачыстае асвячэнне пабудаванага коштам 524 000 зл. гмаху паштовай управы. Пасля асвячэння будынка ксяндзом-дэканам Г. Баярунцам прадстаўнік міністэрства пошт і тэлеграфаў пан дырэктар Шпачынскі сказаў прыгожую прамову. За ім выступіў дырэктар Віленскай акругі пошт і тэлеграфаў пан Навіцкі, які расказаў пра ўмовы будаўніцтва гмаху і адзначыў, што Ліда ляжыць на лініі, якая злучае паўночны ўсход са сталіцай. Ад імя гараджан выступіў дырэктар гімназіі асаднікаў пан Мэнжык».

Адзначым, што замест першапачатковай сумы ў мільён злотых новы будынак з абсталяваннем абышоўся ў 524 тысячы. Цікава, на чым сэканомілі?

Працаваць на пошце было прэстыжна, бо работнікі добра зараблялі. Мемуарыстка Яўгенія Ярмант, дачка лідскага чыгуначніка, пісала пра знаёмую лідскую сям'ю: «Пан Коркут займаў няндрэнна аплачваемую пасаду на пошце. Ён спачатку працаваў у старым будынку на вуліцы Сувальскай, а пазней у новым прыгожым будынку пошты на вуліцы Міцкевіча. Яго ні разу не скарачалі, і сям'я Коркут была лепш, чым мы, забяспечана матэрыяльна».

Будынак лідскай пошты – сапраўдны шэдэўр стылю функцыяналізму і вельмі добра, што гэты помнік архітэктуры першай паловы XX ст. знаходзіцца пад дзяржаўнай аховай.

# Сучасная школа № 1

А зараз пра вядомы ўсімі лідзянамі будынак сярэдняй школы № 1.

У чэрвені 1928 г. магістрат горада Ліды аб'явіў тэндар на будаўніцтва гмаху агульнаадукацыйнай школы аб'ёмам каля 12 610 м$^3$.

Будынак лідскай агульнаадукацыйнай школы з'яўляецца цікавай ілюстрацыяй праблемы каадукацыі (сумеснага навучання хлопчыкаў і дзяўчынак) у міжваенны перыяд. Праблема мела вялікі ўплыў на праектаванне школ. Першыя каадукацыйныя школы з'явіліся ў другой палове XIX ст. Але каадукацыя яшчэ доўга заставалася дыскусійнай праблемай, таму школы часта праектаваліся ў адным будынку, але ў архітэктурным сэнсе былі падзелены на дзве паловы з асобнымі ўваходамі. У вёсках і малых мястэчках сумеснае навучанне мела і эканамічны сэнс з-за невялікай колькасці вучняў. Некаторыя, рэдка ўжываныя, памяшканні – гімнастычная зала, спецыялізаваныя навучальныя класы ці адміністрацыйныя



25 верасня 1929 г. прэзідэнт Ігнацы Масціцкі ганарова адчыняе школу,
за спінай прэзідэнта пляцоўка, дзе хутка пабудуюць стадыён.



Школа ў дзень урачыстасцей з прэзідэнтам




Выгляд школы ў пачатку 1930-х гг.

памяшканні – рабіліся супольнымі, але так, каб хлопцы не маглі патрапіць на жаночую палову. Такія «сіметрычныя» школы добра атрымлівалася праектаваць у стылі неакласіцызму, дастаткова папулярным у 1920-х гг. у Еўропе. Адно крыло школы было мужчынскім, а другое – жаночым, яны мелі свае ўваходы, а ў частцы, якая злучала два крылы школы, мясціліся пакоі настаўнікаў, гімнастычная зала, тут жа быў галоўны ўваход у школу.



Выгляд школы ў пачатку 1930-х гг.

Лідская агульнаадукацыйная школа – ідэальны ўзор такога праекта. У новым гмаху размясціліся школы №№ 1 і 2, левае крыло – для хлопчыкаў, правае – для дзяўчынак. Аналагічныя архітэктурныя ідэі былі рэалізаваны ў шмат якіх школьных будынках таго часу.

Да канца 1928 г. будаўнікі павінны былі выканаць земляныя, цяслярскія работы і пабудаваць сцены. «Камень і цэглу дае магістрат. Да тэндара будуць дапушчаны толькі зарэгістраваныя будаўнічыя фірмы. ... Праект школы і варункі тэндара знаходзяцца ў магістраце. ... Ліда, 21 ліпеня 1928 г.» Так пачыналася будаўніцтва гмаху сучаснай школы № 1 г. Ліды.

У канцы жніўня 1929 г. прэса пісала: «На будаўніцтве вялікага падвоенага будынка агульнаадукацыйнай школы імя прэзідэнта Рэчы Паспалітай ужо цалкам скончаны вонкавыя работы. Таксама заканчваецца будаўніцтва вялікага будынка новай дзяржаўнай гімназіі». Яшчэ да канца будаўніцтва будучай школе было нададзена імя прэзідэнта Габрыэля Нарутовіча, забітага тэрарыстам у 1922 г.

Раніцай 25 верасня 1929 г. тагачасны прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі прыехаў у Ліду. Павітаўшыся і паразмаўляўшы з лідзянамі, прэзідэнт наведаў фарны касцёл, потым прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні ўправы Народнага банка. У 13 гадзін Масціцкі паехаў да гмаху толькі што пабудаванай школы імя Габрыэля Нарутовіча і прыняў удзел у яе ўрачыстым асвячэнні і адкрыцці. Потым у актавай зале школы прэзідэнт паабедаў з прадстаўнікамі грамадскасці Ліды.

Пасля абеду вышэйшая службовая асоба наведала выставу ў рамеснай школе і выехала ў Беняконі. Прэса паведаміла, што, акрамя агульнаадукацыйнай школы, дзякуючы магістрату, у новым будынку «з пачаткам навучальнага года адкрыецца... школа павышэння кваліфікацыі рамеснікаў».

Як гэта бывае, адкрыццё школы прэзідэнтам яшчэ не азначае заканчэнне будаўніцтва. Праца будаўнікоў працягвалася, і толькі ў пачатку красавіка 1930 г. школьны гмах імя прэзідэнта Нарутовіча быў прыняты адмысловай камісіяй, якая прызнала, што будынак узведзены якасна і цалкам адпавядае свайму прызначэнню. Было вырашана зрабіць яшчэ агароджу і школьны стадыён. Першыя ўрокі ў новым будынку адбыліся толькі 10 красавіка 1930 г. Гэты дзень можна святкаваць як дзень нараджэння сучаснай школы № 1 горада Ліды. Першай пачала працаваць мужчынская школа.

На левым порціку школы быў пазначаны 1928 г. (пачатак будаўніцтва школы), на правым – 1929 г. (год ганаровага адкрыцця школы прэзідэнтам Масціцкім).

У маі 1930 г. у новы гмах імя прэзідэнта Нарутовіча пераехала і жаночая школа. «Зараз школьная моладзь зможа карыстацца самым новым абсталяваннем школы, і мы не памылімся, калі скажам, што вучні будуць мець усё самае лепшае. Школа мае вялікія класы, дасканалую вентыляцыю, шырокія вокны, замест былых лавак – столікі з пюпітрамі, і для кожнага вучня – зручнае крэсла. Таксама ёсць адмысловы гімнастычны зал і майстэрні». А з «Навагрудскага жыцця» дазнаёмся, што «ў новы школьны гмах на Выгане жаночая школа перанесена з вуліцы Замкавай».

Адразу ў школе пачаў працаваць краязнаўчы музей. У пачатку сакавіка 1930 г. у Забалацкай гміне былі знойдзены 2 малаткі з часанага каменю, якія праз нейкі час былі перададзены ў музей школ №№ 1 і 2.

Газета «Навагрудскае жыццё» пісала: «Адкрылася агульнаадукацыйная школа. ...гмах памерам 13 300 $м^3$ пабудаваны за 801 000 злотых згодна з найноўшымі патрабаваннямі і складаецца з дзвюх школ-блізнятаў, мае 7 класных пакояў для агульнага выкладання, 1 залу прыродазнаўства, 1 залу ручной працы і 1 гімнастычную залу».

У канцы 1930-х гг. дырэктарам школы № 1 быў Юзаф Міхнеўскі. Настаўнікі: Уладзіслаў Бочак, Дуброўнікава, Ян Казлоўскі, Казлоўская, Тэадозія Каметава, Калокшча, Юзэфа Міхнеўская, Эдвард Крыстафовіч, Ганна Аляхновіч, Вінцэнт Новак.

Лідзянін Уладзіслаў Нарушэвіч пісаў пра настаўнікаў: «Таксама перайшлі са старой у гэтую новую школу ксёндз-прэфект Лявонці Касперак і настаўнік спеваў Міхал Драмовіч – самы сімпатычны і любімы класам, навучыў нас мноству песенек, пераважна з часоў студзеньскага паўстання, вялікім знаўцам якога быў. Польскай мове і гісторыі вучыла нас Тэрэза Тарашэвіч, прыстойная бландзінка ў веку Талімены... Настаўнікам матэматыкі, якая называлася ў той час лічэннем, быў Яўген Абуховіч, высокі хударлявы мужчына з лысінай, якая ўсё павялічвалася. Вучыў нас таксама фізіцы... Настаўнікам ручной працы і малявання быў Станіслаў Філіповіч, бландзін сярэдніх гадоў і прыемнай знешнасці. Пачаў піць пасля смерці жонкі, якую вельмі кахаў. Настаўнікам гімнастыкі быў Ян Сякула, высокі, са спартыўнай фігурай, смуглым тварам... У нашай школе, як і ў іншых агульнаадукацыйных школах, хлопцы павінны былі быць стрыжаныя пад нуль. Гэта рабілася для барацьбы з вашывасцю і ні ў каго не выклікала супраціўлення».

У 1930-я гг. падчас выбараў у школе мясцілася выбарчая камісія 3-й выбарчай акругі горада.

Зараз у будынку былых школ № 1 і № 2 знаходзіцца СШ № 1. Падчас вайны тут працаваў шпіталь. У 1970-х школа № 1 славілася сваім матэматычным класам, які скончыла шмат цікавых і вядомых людзей.

Нядаўна школьны будынак быў перабудаваны і ў значнай ступені страціў рысы свайго першапачатковага архітэктурнага стылю – неакласіцызму. Падчас рэканструкцыі на школьным гарышчы быў знойдзены школьны сцяг з імем Габрыэля Нарутовіча. Сцяг з аднаго боку белы, з другога – чырвоны, на ім вышыты абраз Маці Божай і герб у выглядзе арла з каронай. Сцяг школы знайшлі паміж кроквамі, калі пачалі капітальны рамонт даху, ён быў у нядрэнным стане і пасля кансервацыі захоўваецца ў школьным музеі. Пры рэканструкцыі школы былі знойдзены і савецкія дакументы, выдадзеныя перад вайной у Казахстане і Узбекістане, іх маглі схаваць у пачатку вайны, у 1941 г.

**Дом павятовага лекара Вітольда Стасевіча**. Трэба сказаць пра цікавы жылы дом (яго сучасны адрас – вул. 7 Лістапада, 4), які стаіць каля школы. Гэта дом павятовага лекара Вітольда Стасевіча (1900–1975), быў пабудаваны да 1935 г. (тагачасны адрас – вуліца 11 Лістапада, 4). Дом мае выразныя рысы «новазакапанскага» стылю – малыя пакойчыкі на паддашшы і высокі «ламаны» мансардны дах з выгнутымі кроквамі. Дачка лекара Стасевіча – прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова (1929–2011) – пісала пра гэты дом: «Бацькі вырашылі пабудаваць уласны дом, прыстасаваны да іх патрэб. Акрамя жылых пакояў, у ім павінен быў быць асобны лекарскі кабінет з пачакальняй, каля дома быў пабудаваны гараж [сям'я доктара валодала аўтамабілем «Фіят» – Л. Л.], быў сад-агарод... Не ведаю, у якім годзе паўстаў дом, але памятаю, што ў 1935 годзе мы ўжо жылі ў ім і бацька займаў пасаду павятовага лекара... Як выглядаў той мураваны дом па вуліцы 11 Лістапада? Ён стаяў на невялікім прыгорку і меў два ўваходы. Перад двума ўваходнымі дзвярамі было некалькі прыступак, адны дзверы вялі ў чатыры жылыя пакоі з кухняй і ваннай, другія – у маленькі калідорчык, з якога быў уваход у лекарскую пачакальню, а з пачакальні – у кабінет лекара, дзе працаваў мой бацька... Ён працаваў практычна цэлы дзень, з кароткім перапынкам на абед і гадзінным адпачынкам».



Дом павятовага лекара Вітольда Стасевіча

Лідзянка Ларыса Канчэўская ўспаміналa пра гэты дом: «У нашым коле ў 1950–1960-х гадах усе называлі гэты дом... «генеральскім». ...У... доме, глуха агароджаным высокім плотам, адзін час жыў генерал Ігнацьеў, вельмі высокі, прыгожы стары, Герой Савецкага Саюза. Ён часта выступаў на гарадскіх піянерскіх злётах, вельмі цікава апавядаў аб тым, як ваяваў у партызанскай кавалерыйскай брыгадзе Каўпака, і аб многім іншым. Па-мойму, ён ваяваў і ў грамадзянскую вайну. Мне і маім аднагодкам ён здаваўся вельмі старым, а ён быў равеснікам стагоддзя – гэта значыць, у 1957-м яму было 57 гадоў... Увесь наш раён лічыўся элітным для таго часу. І сапраўды: паблізу – ні адной развaліны, акуратныя тратуары, усё ў зеляніне, дарогі забрукаваныя, а зусім побач – прамавугольнік паміж вуліцамі Перамогі, Савецкай, Кірава і Ленінскай – руіны, бітая цэгла, заваленыя камянямі падвалы, варонкі ад бомб. Улетку яны зарасталі крапівой, лопухам, высокай лебядой. Так добра было там хавацца, гуляць у вайну!».

# Дзяржаўная гімназія імя Караля Хадкевіча і гімназія асаднікаў

Ад школы № 1 падыдзем да будынка лідскага каледжа.

У 1922 г. пачала працу дзяржаўная Лідская гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча, менавіта гэта навучальная ўстанова мела самы высокі ранг у горадзе. У канцы 1920-х гг. было вырашана пабудаваць для яе новы гімназічны гмах.

Архітэктурны праект новай гімназіі быў распрацаваны варшаўскім архітэктарам Ежы Бэйлем (Jerzy Beill). Першасны праект лідскай гімназіі Ежы Бэйля не дачакаўся рэалізацыі, бо, верагодна, быў занадта дарагі. Аднак планы пабудовы гімназіі не былі адкладзены, і Бейл зрабіў пэўную карэктуру праекта. Памеры будынка былі паменшаны, зменены формы фасадаў. Замест прыгожага, класічнага будынка з цэнтральным рызалітам і багатай дэкарацыяй сцен быў спраектаваны і потым пабудаваны больш сціплы будынак з выразным ухілам у мадэрнізм. Уплыў функцыяналізму адчуваецца ў бакавых фасадах, апаясаных гарызанталь-





Уверсе – першасны праект паўночнага фасада гімназіі, унізе – праект фасада будынка які існуе



Лідская гімназія імя Караля Хадкевіча з гімнастычным залам, 1930-я гг.

нымі пасамі вокнаў. Гэта яшчэ не ёсць стужкавыя вокны ў стылі Ле Карбюзье, аднак аконныя праёмы кожнага з паверхаў злучаны гарызантальнымі ліштвамі ў форме паласы – гэта і стварае выгляд вокнаў Ле Карбюзье. Ідэі функцыяналізму праяўляюцца і ў выкарыстанні прынцыпу залежнасці функцыі ад формы. Гэта добра бачна на прыкладзе пабудовы паўдзённага фасада, дзе ад абрысаў агульнага будынка выразна аддзелены аб'ём гімнастычнага зала. З прэсы бачна, што першапачаткова на будоўлю новага гмаху гімназіі ўрадам было прызначана 1 400 000 зл., але потым сума зменшана да 800 000 зл. Верагодна, менавіта гэта і прывяло да скасавання шэрагу прыгожых архітэктурных рашэнняў.

У красавіку 1928 г. была афіцыйна аб'яўлена пастанова Міністэрства асветы і рэлігійных веравызнанняў аб пачатку будаўніцтва новага гмаху гімназіі ў Лідзе коштам 800 000 злотых. Адразу, на пачатак будаўніцтва, выдзялялася 400 000 злотых. «Будова гмаху пачнецца на пляцы кс. Фалькоўскага, недалёка ад вуліцы Школьнай. Трэба заўважыць, што ў гэтым годзе Ліда ёсць адзіным горадам, які атрымае такія вялікія грошы для будаўніцтва гімназіі». Прэса адзначала, што новы будынак будзе адпавядаць усім патрабаванням «сучаснай культуры». Ужо пры канцы красавіка паведамлялася, што «на днях у Ліду прыбывае інжынер Сарока з Дырэкцыі публічных работ, каб пачаць будоўлю новай дзяржаўнай гімназіі».

У канцы мая 1928 г. на пасяджэнні бацькоўскага камітэта гімназіі была абрана новая ўправа, якая патрабавала перанесці пляцоўку гімназіі з Выгану, «які знаходзіцца далёка ад хрысціянскай часткі горада, на пляц, які знаходзіцца недалёка ад існай гімназіі, – пры вуліцы, якая лучыць вуліцы 3-га Мая і Пілсудскага, каля месца, на якім хутка павінны пачаць будоўлю новага гмаху гарадскога суда». Сярод прычын неабходнасці выдзялення новай пляцоўкі бацькі назвалі дрэнны балотны мікраклімат на Выгане, вялікія прамысловыя прадпрыемствы ў гэтым раёне і планаваны перанос сюды гарадскога рынку. Цікава, што супраць



LIDA. Gimnazjum Państwowe

Лідская гімназія, паўночны фасад, 1930-я гг.

будаўніцтва гімназіі па вуліцы Школьнай выступалі лідскія чыноўнікі высокага рангу, якія самі жылі тут у калоніі дзяржаўных дамоў на Выгане, але лічылі гэтае месца дрэнным. З чэрвеня Лідская гарадская рада разглядзела пытанне замены гімназічнага пляца з Выгану на вуліцу Дварцовую, зараз гэта месца, дзе знаходзіцца падатковая інспекцыя. Аднак было вырашана будаваць гімназію «на Выгане». Цікава, што ў якасці аргументаў супраць пераносу гімназіі даводзілася, што на меркаваны гімназічны двор па вуліцы Дварцовай будуць заходзіць і вытоптваць яго яўрэйскія козы, якія ў вялікай колькасці пасвіліся тут у тыя часы.

Новая гімназія будавалася хутка, і ў сакавіку 1929 г. ваяводскія ўлады абвясцілі тэндар на заканчэнне будоўлі гмаху лідскай гімназіі. Але памеры гмаха былі ўжо 15 829 м$^3$. Як бачым, нават ад будаўнічага праекту, па якім пачыналася будоўля, наша гімназія ў выніку паменшылася амаль што на 450 м$^3$ (ці прыкладна на 100 м$^2$). Цікава, на чым сэканомілі?

У красавіку 1930 г. будаўніцтва гімназіі падыходзіла да канца, пачаўся мантаж цэнтральнага ацяплення, водаправода і каналізацыі.

Ганаровае адкрыццё і асвячэнне новага будынка гімназіі адбылося ў адзін дзень з адкрыццём помніка на плошчы Славы – 12 лістапада 1930 г.

Ужо ў снежні 1930 г. шмат вучняў захварэлі на грып і не хадзілі ў школу. Хварэлі і выкладчыкі: «У самой Лідзе ў дзяржаўнай гімназіі захварэла палова выкладчыкаў і шмат вучняў і ёсць намер спыніць заняткі».

У канцы 1931 г. у Лідзе на 10 старонках выйшаў першы нумар часопіса гімназічнай моладзі «Малады лес». Часопіс змяшчаў два артыкулы («І зноў да працы» і «Шанаванне Эдысона»), два вершы, хроніку, з якой чытач мог даведацца, што ў гімназіі ёсць аб'яданні «Братняя дапамога», «Кола паланістыкі» і «Кола дакладных навук імя Ньютана». Часопіс заканчваўся раздзелам вучнёўскага гумару. Рэдактар – прафесар гімназіі Мар'ян Ганус, а таксама вучні С. Шалюбскі і М. Ілютовіч. Часопіс добра прыняла гарадская інтэлігенцыя. Восенню 1935 г. вучні старэйшых класаў пад кіраўніцтвам прафесара В. Маеўскага выдалі ў друкарні Зяльдовіча школьны часопіс «Творым», рэдактар – Юры Дунько (8 клас), сакратар – Саламея Воранава.



Лідская гімназія, паўночны фасад, 1930-я гг.

Летам 1932 г. святкавалася дзесяцігоддзе дзяржаўнай гімназіі: «11 і 12 чэрвеня дзяржаўная гімназія ў Лідзе будзе адзначаць дзесяцігоддзе. Ва ўрачыстасцях будуць удзельнічаць куратар вучэбнай акругі Шалангоўскі, ваявода Костка-Бярнацкі, генерал Літвіновіч. У першы дзень пройдзе набажэнства за памёршых выкладчыкаў і вучняў і таксама спартыўныя спаборніцтвы. На другі дзень пасля набажэнства адбудзецца адкрыццё памятнай шыльды, святочная акадэмія і сустрэча з выпускнікамі, на заканчэнне – бал. У сувязі з 10-годдзем гімназіі будзе выдадзена багатая манаграфія пра гімназію на тле гісторыі горада». Здаецца, гэту манаграфію не выдалі, бо я пра яе нічога не ведаю.

15 кастрычніка 1932 г. у дзяржаўнай гімназіі ў межах Дня Шапена прайшоў музычна-вакальны вечар: «Пра вялікага музыканта расказала прафесар гімназіі А. Калокша. Пасля чаго камерны ансамбль гімназіі выканаў прэлюдыю. Вучань Жукоўскі прадэкламаваў “Тастамент” Славацкага, жаночы квартэт пад акампанемент камернага ансамбля выканаў “Зычэнне” і “Мары”. Мужчынскі хор спеў кантату, вучань Якуціс спеў “Жаль”. Вучань Драмовіч выступіў у жанры меладэкламацыі, вучань Пупко сыграў на скрыпцы “Накцюрн”. Пры канцы змешаны хор разам з сімфанічным аркестрам 77-га палка выканаў A-dur».

Дзяржава падтрымлівала развіццё краязнаўства, у канцы 1930-х гг. прэса пісала: «Віленскі школьны інспектар даручыў лідскім настаўнікам... (і не толькі лідскім) збіраць матэрыял і рыхтаваць да друку манаграфіі пра мясцовасці, дзе знаходзяцца гэтыя школы. Падобна, не гістарычныя манаграфіі, якія рэканструююць агульныя падзеі нашага краю, а менавіта такія працы маглі бы стаць... падмуркамі рэгіяналізму».

У суботу 26 лістапада 1938 г. у дзяржаўнай гімназіі прайшла першая краязнаўчая вечарына, якую арганізавалі вучні другога класа: «Краязнаўчы гурток знаходзіцца пад апекай спадарыні-прафесара Юзэфы Кляйндэнст, якая заахвоціла моладзь да збору інфармацыі пра мясцовыя звычаі вясковых людзей. Сабраны непасрэдна ў вёсцы матэрыял і стаўся асновай для правядзення вечарыны. Рэшту тэм для вечарыны моладзь узяла ў артыкулах найвыбітнейшага лідскага краязнаўца Міхала Шымялевіча з газеты “Лідская зямля”. Прыгатаваная праграма



Хакейная каманда гімназістаў на ўроку фізкультуры

вечара прынесла сабраным у зале шмат вясёлых і прыемных хвілін. Інфармацыя, сабраная і апрацаваная вучнямі, трапна падабраныя строі, добрая аматарская акцёрская ігра паказалі выдатнае знаёмства з прадметам. Беларускі акцэнт песенек разам з прыгожымі мелодыямі вельмі спадабаліся гледачам. Трэба заахвоціць моладзь, каб была зроблена версія гэтага вечара для віленскага ці баранавіцкага радыё».

Пры канцы 1930 гг., з 1936 па 1939 г., дырэктарам гімназіі быў гісторык Казімір Мятлевіч. Былая вучаніца гімназіі Ванда Летка ўспамінала, што ў тыя гады польскай мове вучыў Маеўскі па мянушцы Пацучок (атрымаў гэту мянушку з-за доўгага носа), матэматыцы – Каляцінскі – высокі прадстаўнічы мужчына, бацька двух сыноў, якія загінулі падчас вайны ў партызанах. Настаўнікам гімнастыкі ў дзяўчынак была Папко, Садзевіч пасвячаў вучняў у таямніцы латыні. Выкладчыкі нямецкай мовы – Сабаньскі па мянушцы Фальш і Юлій Кляйндэнст (закончыў гімназію ў Варшаве і Дерпцкі ўніверсітэт, свабодна валодаў рускай, польскай, нямецкай мовамі, ведаў французскую і беларускую мовы). Выкладчыца лацінскай мовы – Ядвіга Мастовіч (сястра вядомага польскага пісьменніка Даленгі-Мастовіча, у будучым жонка польскага прэм'ер-міністра Славоя-Складкоўскага). Выкладчык фізікі – Яўген Шулакевіч, хіміі – Зыгмунт Манке, геаграфіі – Руткоўскі (мянушка Кукса). Катэхізм выкладаў ксёндз Вітольд Нелюбовіч. Гісторыю вяла прафесар Садоўская – «прыгожая, элегантная, мудрая і дасціпная... Шмат вандравала і цікава распавядала пра свае ўражанні ад Індыі».

Сярэдняя гімназічная адукацыя працягвалася 8 гадоў і дзялілася на дзве ступені. Першая ступень – 1–3 класы, другая ступень – 4–8 класы гімназіі. Прычым 1–3 класы гімназіі адпавядалі 5–7 класу агульнаадукацыйнай школы. Каб патрапіць у гімназію, трэба было здаць уступны іспыт. За навучанне штогод бацькі плацілі па 220 злотых, нямала каштавалі і падручнікі. У чатырохгадовай агульнаадукацыйнай дзяржаўнай гімназіі вучні насілі адмысловую форму. Напрыклад, дзяўчаты мелі цёмна-сінюю плісаваную спаднічку і белую льняную блузку, да блузкі прымацоўвалася стужка, а на рукаве насілі блакітную павязку. На берэце таксама быў блакітны кант. У двухгадовым ліцэі, куды паступалі пасля заканчэн-

ня гімназіі, кант, бант і павязка былі бардовага колеру. Прыналежнасць да гэтай навучальнай установы і нашэнне формы вучні лічылі гонарам для сябе.

Для паступлення ва ўніверсітэт і атрымання поўнай сярэдняй адукацыі неабходна было пасля гімназіі яшчэ два гады працягваць вучобу ў ліцэі, які знаходзіўся ў тым жа гімназічным будынку.

Пачынаючы з 1938 г. у публікацыях прэсы адчуваецца набліжэнне вайны: «Вучні 8-га класа дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча 80 % ад даходаў (69 зл.), атрыманых ад розных мерапрыемстваў, перавялі на рахункі Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны».

У маі 1939 г. адбыўся апошні ў гісторыі дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча ў Лідзе выпуск ліцэістаў – г. зн. людзей, якія атрымалі поўную сярэднюю адукацыю. Апошні выпускны ліцэйскі клас меў 13 вучняў. «Пасведчанні атрымалі ўсе навучэнцы, гэта: Дабравольская Марыя, Гарноўская Лілея, Гурвіч Юдыта, Яцэвіч Ян, Карчман Навум, Кляйндэнст Ірэна, Маслянка Збігнеў, Радзеўская Бэця, Ракіцкі Яраслаў, Станкевіч Яна, Стукатар Ева, Путрамант Марыя, Шаваховіч Соня». Як заўжды, улетку галоўны зал гімназіі прымаў розныя выставы, і 19 чэрвеня 1938 г. урачыста адкрылася выстава вучнёўскіх прац.

Шмат выпускнікоў Лідскай дзяржаўнай гімназіі загінулі падчас Другой сусветнай вайны.

**Гімназія асаднікаў.** Зімой 1938 г. прэса пісала пра недахоп месцаў у лідскіх гімназіях. І ўжо ўлетку 1938 г. пачаўся запіс у першы клас новай гімназіі Звязу асаднікаў[1], якая адчынілася ў былым будынку школы № 4 на Слабодцы. Як вядома, гэта школа пераехала ў новы будынак, які існуе і сёння.

Аўтар у сваёй калекцыі мае фотакопію паштоўкі-паведамлення, якую дырэкцыя рассылала сваім вучням. Паштоўка, адпраўленая ад імя «Прыватнай каадукацыйнай гімназіі Звязу асаднікаў, вуліца Белагрудская, 28», нагадвае пра тое, што заняткі ў чарговым навучальным годзе (1939–40 гг.) пачнуцца 11 верасня 1939 г., і што да пачатку заняткаў будуць дапушчаны толькі тыя вучні, за якіх на наступныя паўгода будзе выплачана 125 злотых за вучобу і 30 злотых у фонд матэрыялаў для практычных заняткаў і вандровак (разам 155 злотых). Паштоўка была адпраўлена 9 жніўня 1939 г. на адрас: вуліца Шкляная, 30-1, вучню гімназіі Піліпу Касперу.

Кіраўніцтва Звязу асаднікаў вырашыла будаваць свой сталы гмах новай прыватнай гімназіі. Першапачаткова пляц для будаўніцтва новай прыватнай гімназіі атрымаў Стралецкі звяз – добраахвотная арганізацыя дапамогі войску. Аднак звяз не змог знайсці неабходнае фінансаванне для будаўніцтва вучэбнай установы.

Увосень 1938 г. газета «Кур'ер Віленскі» пісала: «Ліда будуе новую гімназію. Гімназія, пабудаваная 10 гадоў таму за больш чым 1 000 000 зл., аказалася замалой для горада. У гэтым годзе некалькі сотняў вучняў, здаўшых экзамены, не трапілі ў гімназію. Каб даць магчымасць моладзі атрымаць сярэднюю адукацыю ў Лідзе, Звяз вайсковых асаднікаў адкрыў прыватную гімназію. Зараз гімназія месціцца ў памяшканні былой школы № 4. Гэта памяшканне не адпавядае патрабаванням адукацыйнага працэсу, і таму Звяз звярнуўся да ўлад з просьбай ахвяраваць пляц пад новы будынак. Гарадская рада ахвяравала вялікі пляц

[1] Асаднікі – польскія каланісты (але былі сярод іх і мясцовыя людзі), былыя ваенныя, якім урад міжваеннай Польшчы паводле спецыяльнага закону 1920 г. выдзяляў зямлю на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

каля дзяржаўнай гімназіі. Калі справы пойдуць добра, дых хутка горад будзе мець другую агульнаадукацыйную гімназію».

У красавіку 1939 г. на ахвяраваным гарадскімі ўладамі пад пабудову гімназіі пляцы адбылося геалагічнае вывучэнне грунту. Вывучэнне паказала, што новы гмах не запатрабуе занадта моцнага фундамента. Будову планавалася пачаць у найбліжэйшы час, «новая гімназія будзе будавацца каля існай дзяржаўнай гімназіі».

У жніўні 1939 г. прэса паведаміла: «Каля гмаху дзяржаўнай гімназіі і ліцэя вядзецца будаўніцтва новай гімназіі Звязу асаднікаў. Гэта будзе другі школьны будынак вартасцю болей за мільён злотых. Работы часткова фінансуе Фонд працы. Кіраўніцтва будоўлі знаходзіцца ў руках гарадскога архітэктара інжынера Вацлава Галіка».

Да пачатку вайны – 1 верасня 1939 г. – паспелі пабудаваць гімназію трохі вышэй за першы паверх. Зіновій Бянько расказваў мне: «У гімназіі асаднікаў быў пабудаваны толькі першы паверх, нашы хлопцы туды выбягалі курыць». Дом быў дабудаваны ў 1949–50 гг. для афіцэраў Савецкай Арміі і сёння мае адрас Міцкевіча, 2.

Лідзянка Ларыса Канчэўская, якая ў 1950-я гг. жыла побач, піша: «...адчуваецца ў гэтым будынку неадпаведнасць вышыні і агульнай масіўнасці. Мы яго заўсёды называлі «белым домам», хоць ён быў жоўтым. Даўным-даўно ён быў цытрынавага колеру. У горадзе яго нават клікалі ў шасцідзясятыя гады «Пентагонам»... Гэта быў дом афіцэраў Паўночнага гарадка і іх сем'яў. Там жылі мае сяброўкі, аднакласнікі і пазней – сем'і сяброў. Цяпер, пасля вашай гістарычнай даведкі [пасля інфармацыі, што гэта недабудаваная гімназія – Л. Л.] я разумею, з-за чаго там такая недарэчная планіроўка некаторых кватэр: адзін пакой вялізны і два маленькіх, мабыць, лабаранцкая і кабінет выкладчыка.

У хаце было шмат камунальных кватэр, у іх – халодная вада, каналізацыя, тытаны і, здаецца, таксама пячное ацяпленне. Ну, у кухнях – дык дакладна. Бо прыроднага газу ў горадзе не было да сямідзясятых гадоў, толькі з 1962-га года ў балонах. У камунальных кватэрах жылі па дзве сям'і, зрэдку – па тры. Сем'і афіцэраў больш высокага звання (падпалкоўнікаў, палкоўнікаў, генералаў) займалі асобныя кватэры. Вядома, у тыя часы гэта была нечуваная раскоша, і чуткі пра кватэры хадзілі самыя неверагодныя: і пра падземныя паверхі, і падземныя хады з сейфамі, набітымі скарбамі. Пазней некаторыя мае знаёмыя прагна распытвалі мяне пра гэта.

У «белым доме» некалькі гадоў размяшчаўся (у пяцідзясятых – пачатку шасцідзясятых гадоў) маленькі філіял ваенгандлеўскага прадуктовага магазіна. Адначасова знаходзіцца ў ім маглі пяць-шэсць пакупнікоў, астатнія чакалі ў калідоры і на вуліцы. Мама раніцай ішла займаць чаргу (за смятанай, за алеем). Потым па будзільніку ўставала я і ішла яе мяняць. Мама адпраўлялася рыхтаваць нам сняданак. Калі тавар прывозілі раней, то ў цісканіну трапляла я. Каб пабольш ўзяць прадуктаў, людзі прыходзілі з усімі сваімі дзецьмі, ды яшчэ суседскіх пазычалі... Так было ва ўсіх крамах таго часу. Пасля вайны ўсяго было мала. Народ быў нервовы. У чэргах заўсёды былі скандалы, часта – бойкі». Дадам, што гэтакія чэргі былі звычайнай з'явай ва ўсе савецкія часы.

# Лідская бальніца і ахова здароўя ў горадзе

Першая вядомая нам медыцынская ўстанова ў Лідзе – аптэка, адчыненая ў 1626 г. Аднак, як і ва ўсіх еўрапейскіх гарадах, лідскія ўніяцкія цэрквы і касцёлы мелі свае шпіталі, у якіх за кошт парафіі ці за кошт розных фундушоў утрымліваліся хворыя і старыя людзі.

На пачатку 1830-х гг. у павятовых гарадах былі адчынены гарадскія ваенна-часавыя шпіталі, у якіх правам на лячэнне карысталіся «ніжнія воінскія чыны і члены іх сем'яў». Лячэнне хворых уваходзіла ў абавязкі павятовых лекараў і аплачвалася ваенным ведамствам з разліку 31 капейкі ў суткі на 1 хворага.

Падчас эпідэмій халеры, якая ў 1831 г. з'явілася на нашай тэрыторыі, пачалі працаваць павятовыя халерныя камітэты. Так, лідскі павятовы лекар у 1848 г. прадставіў у губернскі халерны камітэт Віленскага губернскага кіравання рахунак для аплаты за лекі, выкарыстаныя для лячэння халерных хворых у Лідскім ваенна-часавым шпіталі на суму 158 руб. 71 кап.

На падставе дазволу Міністэрства Унутраных Спраў ад 1844 г. віленскаму губернатару было паведамлена, што ў кожнай павятовай гарадской лякарні трэба прызначыць адмысловага фельчара, які будзе займацца наглядам за хворымі. У лідскую лякарню прызначалі фельчара А. А. Цімакоўскага.

Падчас эпідэміі халеры ў 1856 г. у Лідскім ваенна-часавым шпіталі зноў было адчынена халернае аддзяленне. Сродкі на яго ўтрыманне склалі 370 руб. 97 кап., у тым ліку на медыкаменты, узятыя з вольнай аптэкі – 116 руб. 28 кап.,




Шыльда лідскага шпіталя, пабудаванага ў 1922–1923 гг.




Казубоўскі Стэфан (крайні справа) са сваімі падначаленымі каля шпітальнага корпуса, пабудаванага ў пачатку 1920-х гг. Злева два хлопчыкі, з іх меншы – сын медсястры, Яраслаў Ягадаўскі, а большы – сын доктара Казубоўскага, Рышард Казубоўскі.



Удзельнікі з'езду лекараў на прыступках толькі што адчыненага эпідэмічнага корпуса шпіталя. Люты 1938 г.

на розныя рэчывы, якія ўваходзяць у склад лекаў – 42 руб. 80 кап. і г. д. У 1874 г. падчас эпідэміі пранцаў у ваенна-часавым шпіталі лячыліся ў асноўным сіфілітыкі – рускія вайскоўцы.

У справаздачы афіцэра Генеральнага штаба А. Корава (1861 г.) апісаны стан лячэбнай справы ў Віленскай губерні: «Наогул просты народ не давярае лекарам і навуковай медыцыне, а ў галечы звяртаецца да варажэй і знахараў. У шматлікіх заможных і чалавекалюбных абшарнікаў маюцца свае аптэкі і фельчары, якія клапоцяцца аб народным здароўі, але, нягледзячы на гэта, вельмі часта сяляне не любяць лекаў і лячэння, асабліва дыеты, і становяцца ахвярамі сваёй насцярожанасці і недаверу да лекаў. Простыя лекі мае кожны гаспадар: гэта рамонак, мята, рута, нагаткі (календула) і ліпавы цвет. Гарэлка, як універсальны сродак, ужываецца пры ўсіх хваробах, яна нават прапісваецца знахарамі ад рэўматызму. Апёк лечаць дробна сцёртай бульбай, кіслым малаком і мёдам. Крывацёк ад разрэзу або ўдару спыняюць прыкладаннем павуціння, раны абкурваюць дымам ад запаленай анучы. Пры ўкусе змяі даюць піць зелле, званае венгравік, а да раны прыкладваюць кіслае малако. Акрамя гэтага, рану выпальваюць распаленым цвіком, кладуць у яе тытунь і льюць гарэлку з перцам. Ад катару трымаюць галаву над парам, які выходзіць з чыгунка, нюхаюць пот паміж пальцамі на нагах. Ад страўнікавых боляў ужываюць пераважна гарэлку з перцам або чарнічны настой. Крыклівым дзецям даюць піць макавае малако. Ад рэўматызму лечаць адварам сена і пацярухі, прыкладваючы да хворага месца, а ўнутр на ноч даюць добрую порцыю гарэлкі. Кровапусканне і шклянкі тут у вялікай павазе. Выклікае здзіўленне, што гэтае лячэнне часта паспяхова дзейнічае, што падтрымлівае ў народзе давер да знахароў, якія тлумачаць прычыну шматлікіх хвароб тым, што "падвеяла". Ніхто не мог растлумачыць значэння гэтага слова, знахары пры ад-



Былы эпідэмічны корпус шпіталя ў 1959 г.

казе на пытанне, што значыць "падвеяла", адказваюць часцей за ўсё, што "ўжо гэта так, падвеяла і ўсе"».

У Віленскім адрас-календары інфармацыя пра лідскаю гарадскую бальніцу з'яўляецца толькі ў 1890 г. Урачом бальніцы працаваў тады Карл Пятровіч Аржапоўскі (закончыў Дэрпцкі ўніверсітэт, на пасадзе з 16 ліпеня 1889 г.), наглядчыкам бальніцы быў Аляксандр Львовіч Сцепурынскі (хатняя адукацыя, на пасадзе з 10 студзеня 1889 г.). Верагодна, з даты прызначэння наглядчыка – 10 студзеня 1889 г. па старым стылі – можна пачынаць адлік гісторыі лідскай гарадской бальніцы.

З адрас-календара за 1891 г. даведваемся пра лідскіх урачоў: павятовы лідскі ўрач – Раймунд Станіслававіч Гузэ (закончыў Пецярбургскую медыцынскую акадэмію, на пасадзе з 1879 г.), лідскі гарадскі ўрач, той жа Карл Пятровіч Аржапоўскі, лідская «павівальная бабка» (павітуха) Юлія Лісіцкая (вытрымала іспыты Варшаўскага ўніверсітэта, на пасадзе з 1873 г.). Акрамя іх, у горадзе практыкуюць два прыватныя ўрачы – Гешаль Шабшэлевіч Пінскер і Павел Восіпавіч Савіцкі.

Прэса пачатку 1920-х гг. паведамляла, што гарадскі шпіталь на 60 ложкаў у Лідзе быў пабудаваны ў 1922 г. на грошы Амерыканскага Чырвонага Крыжа. Аднак на шыльдзе гэтага будынка было напісана, што ён пабудаваны на грошы Лігі Нацый і польскай дзяржавы, з чаго можна дапусціць, што грошы Амерыканскага Чырвонага ішлі праз Лігу Нацый. Гэты шпітальны корпус існуе і зараз.

На пачатку 1930 г. у Лідзе па адрасе Шаптыцкага, 2 (зараз вуліца Астроўскага) пачаў працаваць рэнтгенаўскі апарат. Падчас сваёй працы апарат выпраменьваў радыёшумы, і на адлегласці да 1 000 м ад яго людзі не маглі слухаць радыё. Акрамя таго, праца апарата прыводзіла на паніжэння напружання ў электрычных сетках, бо апарат спажываў ток у 60 А, што для размеркавальных сетак таго часу, бясспрэчна, зашмат. Распараджэннем лідскага старасты быў вызначаны час працы рэнтгенаўскага апарата, але медыкі працавалі з рання да позняй ночы, псуючы



Былы эпідэмічны корпус шпіталя, зараз оталарынгалогія

радыёпрыём і напружанне ў сетках. Праз некалькі дзён персанал рэнтгенаўскага кабінета праз прэсу аспрэчыў інфармацыю аб шкодзе для сваіх суседзяў па вуліцы Шаптыцкага. Як вырашылася гэтае пытанне, невядома.

Лідскі шпіталь, пабудаваны ў 1922 г., быў заўсёды перапоўнены. Маючы 60 штатных месцаў, шпіталь фактычна заўжды ўтрымліваў 85 і болей хворых, калідоры былі застаўлены ложкамі. Тры лекары, якія працавалі ў шпіталі (галоўны лекар і ардынатар мелі восьмую службовую ступень, трэцім доктарам быў малады практыкант), перагружаны працай. Акрамя сталай працы кожны дзень праводзілася 3–6 аперацый, часта вельмі складаных: «У дзень, калі тут быў аўтар артыкула, былі зроблены аперацыі: на матцы, апендыцыт, завароту кішок і выдаленне пухліны. Пры гэтым па калідорах немагчыма прайсці ад вялікай колькасці хворых людзей, якіх таксама неабходна было прыняць. ... Цяжка ўявіць сабе, што ў такім горадзе, як Ліда, няма хуткай дапамогі, і, калі гэта патрэбна, яе выклікаюць з Вільні».

Пры канцы 1937 г. Лідскі аддзел Чырвонага Крыжа атрымаў санітарны аўтамабіль для перавозкі хворых.

Горад і павет мелі патрэбу ў пашырэнні шпіталя, і таму ў кастрычніку 1935 г. староства Лідскага павета аб'явіла таргі на дастаўку будаўнічых матэрыялаў для новага корпуса, а ў ліпені 1936 г. – таргі на выканне работ па будаўніцтву эпідэмічнага корпуса шпіталя.

Новы шпітальны гмах, прызначаны для лячэння заразных захворванняў, быў адчынены ў лютым 1938 г., калі ў Лідзе праводзіўся з'езд лекараў. Новы будынак меў кубатуру каля 3 000 м$^3$, сучасны еўрапейскі выгляд і найлепшае медыцынскае абсталяванне. Каштаваў ён

каля 130 000 злотых. Новы шпітальны корпус падзяляўся на 4 аддзелы. Першы з іх, даглядны аддзел, складаўся з кабінета лекара, пачакальні і трох ізалятараў, астатнія тры аддзелы прызначаліся для лячэння інфекцыйных хворых. На другім паверсе знаходзіўся аддзел хворых на сухоты на 12 ложкаў. На плоскім даху шпіталя была запраектавана і дзейнічала веранда для лёгачна-хворых. Новы шпіталь меў памяшканні для 2 медсясцёр і 3 санітарак. Уся інфекцыйная бальніца была разлічана на 22 асобы, але пры неабходнасці без пагаршэння агульнага камфорту тут магло лекавацца 39 хворых.

Пад шпіталем збудавана жалезабетонная супрацьпаветраная сховань са скляпеннямі, якія мелі 35 см таўшчыні. Плоскі дах быў пакрыты адмысловым найноўшым на той час будаўнічым матэрыялам «Конга». Над дахам мясціліся вадазборнікі, з якіх у той час давалася вада ва ўсе бальнічныя карпусы.

Новы шпіталь меў цэнтральнае ацяпленне і сучаснае электраабсталяванне з двума сістэмамі асвятленя – вячэрняй і начной. Да кожнага ложка была падведзена разетка радыёфікацыі.

Будаўніцтвам новага гмаху кіраваў павятовы архітэктар Вацлаў Галік. Шпітальны корпус быў пабудаваны ў стылі функцыяналізму, захаваўся да нашага часу і выгодна адрозніваецца ад іншых карпусоў сваім еўрапейскім абліччам.

Дырэкцыя шпіталя ў Лідзе пасля пераводу хворых у новапабудаваны корпус на 22 ложкі прыступіла да грунтоўнага рамонту старога шпітальнага корпуса, пабудаванага на грошы Амерыканскага Чырвонага Крыжа. У старым корпусе ў трох памяшканнях планавалася абсталяваць рэнтгенаўскі кабінет, а ў астатніх – амбулаторыю, якой у горадзе пакуль не было. Амбулаторыя павінна была мясціцца тут ажно да часу, пакуль не будзе пабудавана новая паліклініка.

У Лідзе трэба было будаваць вялікую паліклініку. Ужо ў 1937 г. прэса паведаміла, што паліклініка пачне будавацца ў 1938 г. на Выгане. Новы гмах будзе каштаваць 150 000 злотых. Паліклініку павінны былі будаваць на пляцы каля шпіталя, будоўлю планавалі закончыць у 1939 г.

Гарадская паліклініка ў той час утрымлівалася павятовымі ўладамі. Тут стала працавалі адзін лекар, медсястра і вартаўнік, меліся наступныя аддзелы: агульны, сухотаў, венерычны і акуліста. На прыёме хворых розныя дактары працавалі ў адным пакоі, але ў розныя гадзіны. Аднак паліклініка не карысталася вялікай павагай, і бывала так, што нават у працоўныя дні (па выхадных паліклініка не працавала) тут нікога не было. Таксама ў горадзе вельмі не хапала сапраўднай амбулаторыі, а ў той, якая існавала, на палову стаўкі працавала толькі адна лекарка Меер (яна таксама працавала і школьным лекарам), і таму амбулаторыя не магла выконваць свае функцыі.

Таму не дзіўна, што пры такім стане рэчаў адзіным месцам, дзе людзі маглі атрымаць у любы час кваліфікаваную дапамогу, быў гарадскі шпіталь. Там заўжды знаходзіўся дзяжурны лекар, і таму заўсёды можна было атрымаць медычную дапамогу, прэса пісала: «Дзяржаўны шпіталь з галоўным лекарам Казубоўскім для Ліды і Лідчыны (і нават для больш далёкіх месцаў, напрыклад, сюды прывозяць хворых нават з ваяводскага Наваградка і іншых гарадоў) ёсць адзіным медыцынскім цэнтрам. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова толькі прыйсці сюды ў любы дзень і пабачыць тлумы хворых, якія чакаюць дапамогі ў пачакальнях і нават у калідорах. Пры тым, што ў паліклініку ніхто не ідзе».

Для паліклінікі ўлады далі пляц коштам 19 000 зл. недалёка ад карпусоў гарадскога шпіталя. На пачатку 1938 г. стала вядома, што фінансаваць будову часткова будзе Фонд працы, а часткова Міністэрства аховы здароўя і сацыяль-

най апекі. «Паліклініка будзе будавацца з улікам апошніх патрабаванняў гігіены і будзе разлічаны таксама для газавай атакі падчас вайны».

Улетку 1938 г. газета «Слова» пісала: «Ініцыятыва ваяводскіх улад пачаць пабудову гмаха паліклінікі ў Лідзе знайшла падтрымку ў гарадскіх улад, якія выдзелілі на гэтыя мэты 20 000 зл. Такую ж суму даў і Фонд працы, і гэта толькі першы ўнёсак Фонду. Кошт будынка – 140 000 злотых. Новы будынак праектуецца з улікам апошніх патрабаванняў гігіены і будзе мець самае сучаснае абсталяванне – рэнтгенаўскі апарат і кварцавыя лямпы. У новай паліклініцы будуць аддзелы: афтальмалагічны, венералогіі, сухотны. Паліклініка павінна была абслугоўваць горад і пяць вясковых гмін каля Ліды».

Тады ж «Кур'ер Віленскі» пісаў, што «міністр Касцялкоўскі, акрамя іншага, цікавіўся станам медыцыны ў горадзе. Ён ухваліў праект гмаха новай паліклінікі, якая пачынае будавацца, і асігнаваў на гэтыя мэты 20 000 зл. з Фонду працы». Увосень 1938 г. прэса паведамляла, што будаўніцтва паліклінікі «рухаецца з кожным днём» .

Паліклініку па вуліцы Нарутовіча (зараз вуліца Чарняхоўскага) да 1939 г. пабудаваць не паспелі, але ў ліпені 1939 г. ужо былі аб'яўлены таргі на выкананне ў будынку паліклінікі работ па мантажы сістэм ацяплення, каналізацыі, водаправода, што кажа пра тое, што будаўніцтва гмаху падыходзіла да канца. Верагодна, пасля пера- і дабудовы тут зараз знаходзіцца гарадская санстанцыя.

У снежні 1938 г. прэса паведаміла, што шматгадовы дырэктар дзяржаўнага шпіталя «выбітны грамадскі дзеяч» Стэфан Казубоўскі пайшоў на пенсію. У ліпені 1939 г. доктар Казубоўскі ўзнагароджваецца Залатым Крыжам Заслугі.

Увесну «Кур'ер Віленскі» пісаў пра стан аптэчнай справы ў горадзе: «Праз рост Ліды існыя ў цэнтры горада аптэкі не могуць забяспечыць лекамі ўсіх хворых. На Слабодцы існуе аптэчны склад, але праз свой статут гэтая ўстанова можа гандляваць толькі самымі неабходнымі лекамі. Таму пачалася падрыхтоўка да адкрыцця ў горадзе чацвёртай аптэкі».

Да 1933 г. пасаду павятовага лекара займаў родны пляменнік нашай паэткі Алаізы Пашкевіч (Цёткі) доктар Рамуальд Сапоцька. У лістападзе 1933 г. на яго месца быў прызначаны доктар Ямялкоўскі з Баранавічаў. У жніўні 1935 г. на пасаду лідскага павятовага лекара з Маладзечна перавялі доктара Стасевіча, які выконваў свае абавязкі да 1939 г.

Пры канцы 1930-х гг. у Лідзе працавалі дзве бальніцы, якія сумарна мелі 105 ложкаў, насельніцтва абслугоўвалі 27 лекараў (11 тэрапеўтаў, 1 хірург, 2 акулісты, 1 псіхіятр, 2 педыятры і 10 лекараў іншых спецыялізацый).

І пры канцы трошкі інфармацыі з артыкула 1937 г. у «Кур'еры Віленскім» пад назвай «Прадмесце Ліды пад акупацыяй вар'ятаў», у якім паведамляецца пра цікавыя метады ўтрымання псіхічна хворых у Лідзе: «Перад 1935 г. тут [на поўначы Ліды, каля Малэйкаўшчыны – Л. Л.] была ўстанова для псіхічна хворых, якую трымаў Ліўшыц. А пасля закрыцця гэтай установы з'явіліся праблемы. У 1936 г. тут паўстала таварыства, якое апекавалася над гэтымі хворымі людзьмі: установа Ліўшыца была ліквідавана, а вар'ятаў, якіх яна ўтрымлівала, падзялілі паміж чальцамі таварыства, якія і апекаваліся імі. 30–40 вар'ятаў, якіх пасялілі на тэрыторыі ў некалькі кіламетраў і па неабходнасці дазволілі вольна гуляць, надае гэтай ваколіцы спецыфічна-адмоўны характар, з гэтай пары Малэйкаўшчына і вёскі вакол яе займелі досыць непрыемны статус у меркаваннях лідзян. Вядома ж, сустрэць вар'ята на дарозе – не надта прыемная рэч. Некалькі месяцаў таму

адбылося забойства Стэфановіча з Малэйкаўшчыны. Стэфановіч – член таварыства, трымаў у сябе аднаго вар'ята, чалавека звычайна спакойнага... Аднак нешк, працуючы разам з гаспадаром у стадоле... хворы, не перастаючы быць спакойным, ударыў Стэфановіча граблямі па галаве, ад чаго той хутка памёр, а вар'ят ужо праз некалькі дзён зноў пасвіў быдла ў ваколіцах. ...На дарогах адбываюцца выпадкі збіцця вар'ятамі выпадковых людзей, напады на жанчын і дзяцей. Некаторыя вар'яты б'юць сваіх гаспадароў ці гаспадынь. ... За ўтрыманне і апеку над адным вар'ятам гарадская ўправа ці сваякі плацяць 50 злотых штомесяц. Відавочна, што ўтрыманне, напрыклад, 2 хворых дае гаспадару на вёсцы, які і так мае сродкі для жыцця, надта добры дадатак к сямейнаму даходу, таму шмат ахвочых займацца гэтай справай. ... Можа, варта адсунуць калонію вар'ятаў далей ад горада, вызваліўшы такім чынам прыгожыя мясціны ад іх акупацыі?».

Не абыходзілася і без кур'ёзаў. Улетку 1935 г. у Лідзе выкрылі псеўдалекара Касы сацыяльнага забеспячэння Казіміра Парноўскага. Выкрыў яго павятовы доктар, які заўважыў, што калега не мае элементарнай кваліфікацыі. Выкрыты псеўдалекар уцёк з Ліды, прыхапіўшы пры гэтым некалькі дзясяткаў тысяч злотых. Стала вядома, што дыплом Парноўскага быў падроблены. Уцекача аб'явілі ў вышук, але «магчыма, махляр ужо перайшоў літоўскую мяжу».

**Брацкая магіла на тэрыторыі шпіталя.** У заходняй частцы тэрыторыі шпіталя, каля віядука, была брацкая магіла – на захад ад сучаснай магілы НКУСаўцам і да шпітальнага плота. Стары лідзянін Юзаф Хруль успамінаў пра канец чэрвеня 1941 г.: «А потым прыходзіць цётка, бацькава сястра, мая хросная, і гаворыць: "Ліда гарыць!". ...яны пасажырскі цягнік разбілі, вось тут на пераездзе... Цягнік спыніўся ў лесе, каля Малэйкаўшчыны, калі станцыю бамбілі, а потым, як закончылі, рушыў наперад, але з'явіўся адзін самалёт, і ён гэты цягнік двума заходамі разбіў ушчэнт. Потым ляжалі толькі каркасы згарэлага цягніка. Тады людзей (чалавек 40) пахавалі на тэрыторыі бальніцы. Між іншым ехала Маладзечанская футбольная каманда ў Беласток, гуляць».

Зіновій Бянько таксама памятае той цягнік: «Каля тыдня нябожчыкі ляжалі, а потым іх тут жа і пахавалі. Тут вельмі шмат людзей пахавана, цэлы цягнік разбомблены. А зараз тут толькі чэкісты аказаліся, на помніку: «Чекисты – жертвы варварских бомбардировок», – 10 прозвішчаў. Маці майго сябра Толіка Новікава загінула ў гэтым цягніку і тут жа пахавана. Бацька застаўся жывы. Ён потым знайшоў бацьку недзе на поўдні, у Краснадары ці дзе, паехаў да яго, але ў бацькі ўжо новая сям'я, і ён з ім не застаўся. Прыехаў сюды, закончыў з залатым медалём школу, у яго не было правай рукі да локця, ён яе страціў менавіта ў гэтым цягніку. Потым паступіў у МГУ, правучыўся там некалькі гадоў і кінуў, пасля чаго пайшоў у музвучэльню. Паступіў і закончыў з адной рукой! Граў без рукі і закончыў вучэльню з залатым медалём. Жаніўся на сакурсніцы. Памятаю, на танцах Толік садзіцца і грае ўсе танцы на баяне. Здаецца, ужо памёр, быў ён з 1935 г.»

Вось такая гісторыя.

# Частка 4. Вуліца Каменская (3-га Мая, Ленінская)



*Зноў вяртаемся ў цэнтральную частку горада, да перакрыжавання сучасных вуліц Савецкай і Ленінскай. Сучасная вуліца Ленінская ад самага пачатку нашага горада мела назву вуліца Каменская ад рэчкі Каменка – рэчкі з балоцістымі берагамі і з заліўнымі лугамі, якая перасякала гэту вуліцу. Гараджане называлі вуліцу і рэчку аднолькава – Каменка. Вуліца пачыналася з цэнтра горада, ад перакрыжавання з Віленскай, і выходзіла на дарогу ў бок Гродна.*

*Старажытная лідская вуліца Каменская ў 1921 г. была пераназвана ў вуліцу 3-га Мая. У часы першай нямецкай акупацыі Ліды ў 1915–1918 гг. вуліца атрымала назву Гродзенскай, а ў часы гітлераўскай акупацыі ў 1941–1944 гг. – назву Танненберг-штрасэ (Tannenberg-strasse) у гонар гарадка на Мазурах (зараз – Stebark), каля якога ў 1914 г. была разгромлена расійская армія.*

# Пачатак вуліцы Каменскай (3-га Мая, Ленінскай)

Жыхар Ліды Януш Сегень так апісаў гэту вуліцу ў XIX ст.: «...вуліца, якая ідзе на захад, – Каменка, таксама досыць вялікая і густа забудаваная. Павятовая школа была пры вуліцы Каменскай у доме пана Рудніцкага. Пры той жа вуліцы Каменскай мелася і турма, толькі далей на захад, амаль пры канцы горада, гэта быў дзяржаўны будынак, існуе і зараз... Ні адна вуліца, акрамя Віленскай і часткі Каменскай, не была брукаванай...».

Брукаваная Каменская вуліца ад перакрыжавання з вуліцай Віленскай ішла паступова ўніз, да мастка на рэчцы Каменцы (знаходзіўся на ўсход ад сучаснага кінатэатра «Юбілейны») і даходзіла да чыгуначнага пераезду. Дамы, якія стаялі бліжэй да Віленскай, былі пераважна аднапавярховыя і двухпавярховыя камяніцы, на першым паверсе якіх мясціліся розныя крамы. Чым далей ад цэнтра, тым меней было мураваных дамоў.

**Першы гарадскі парк.** Не вядома, калі ў Лідзе на скрыжаванні вуліц Віленскай і Каменскай (сучасных Савецкай і Ленінскай) узнік гарадскі сквер, але вя-




Вуліца Сувальская, злева плот гарадскога парка і пачатак вуліцы 3-га Мая, 1920-я гг.




Пачатак вуліцы 3-га Мая, злева плот гарадскога парка, 1920-я гг.

дома, што ён існаваў яшчэ да вялікага пажару 1891 г. Гарадская ўправа 2 ліпеня 1881 г. надае тут Янкелю Германішскаму участак зямлі для будаўніцтва «будкі для продажу мінеральнай вады», і ў 1885 г. ён плаціць 6 руб. у год за гэта месца ў гарадскі скарб. У 1890 г. Германішскі гандлюе ў гэтым павільёне ўжо не мінеральнай вадой а «штучнымі водамі», магчыма, мінеральныя вада была для лідзян занадта дарагой. Пасля пажару 1891 г. гарадскія ўлады выдзяляюць 80 руб. на «на пабудову плота вакол гарадскога сквера з новага матэрыялу замест згарэўшага». З 1912 г. першая газета нашага горада «Лідскае слова» прадавалася ў кіёску, які стаяў у скверы на рагу Віленскай і Каменскай вуліц.

На паштоўках бачна, што гэты невялічкі парк быў агароджаны плотам з дошак. На поўдні ён даходзіў да закінутага касцёла і кляштара кармелітаў. У 1908 г. касцёл быў разабраны, хоць касцельныя муры ўсё яшчэ стаялі да ўзроўню даху. Цэгла выкарыстоўвалася для будаўніцтва Паўночнага вайсковага гарадка.

Пасля разборкі касцёла яго тэрыторыя разам з могілкамі стала тэрыторыяй парка, які паралельна вуліцы 3-га Мая, па яе паўночным боку, ішоў уніз да перакрыжавання з вуліцай Крывой (у 1920–30-х – вуліца Мацкевіча).

На месцы былога кармеліцкага касцёла і могілак у 1920-я гг. паставілі крыж. Стары парк рэгулярна выкарыстоўваўся для розных гарадскіх мерапрыемстваў. Напрыклад, у 1932 г. «стараннямі Стралецкага звязу ўчора на так званай плошчы адпачынку (стары парк) па вуліцы 3-га Мая адкрыта сусветная панарама. Наведаць выставу можна штодзень зранку. Кіраўнік панарамы п. Сеўрук».



Гімназістка з мамай каля кіёска Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны

З прэсы даведваемся і пра стан парку ў 1930-х гг.: «Каля гмаху старостваа [былы кляштар кармелітаў – Л. Л.] на перакрыжаванні вуліц Сувальскай і 3-га Мая ёсць дастаткова ладны публічны сад з крыжам, які стаіць пасярэдзіне сада як памяць пра тое, што тут раней пры кармеліцкім кляштары былі могілкі. Гарадскі сад – адзінае месца для шпацыру і адпачынку лідзян, пазбаўленых іншага парку. Гэты сад больш-менш даведзены да ладу і мае добрыя газоны і клумбы каля крыжа, а таксама маладыя дрэвы, у цені якіх можна схавацца ў сонечны дзень.

Гэта публічны парк, але я бачу, як там па цэлых днях зграі падлеткаў гуляюць у футбол, лазяць па маладых дрэвах і ламаюць іх, бегаюць і вытоптваюць газоны, вечарамі не сядзяць на лаўках, а ляжаць на газонах, нягледзячы на таблічкі, якія гэта забараняюць. Час ад часу ладзяць “вайну”, кідаючы камяні ва ўсе бакі і час ад часу выбіваюць вокны ў навакольных крамах, апошнія ахвяры – рэстаран “Паляўнічы” і крама Урыцкага.

Тэрыторыя сада засыпана розным смеццем і таму падобна на занядбаны сметнік. Каб давесці да ладу і эстэтычнага выгляду адзінае месца шпацыру і адпачынку, трэба для пачатку звярнуць увагу на наяўнасць праблемы».

У 1920-я на скрыжаванні вуліц Сувальскай і 3-га Мая паставілі макет авіяцыйнай бомбы вышынёю больш за 2 м, гэтая бомба рэкламавала Лігу супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны. Па іншай версіі, гэта бомба была пастаўлена тут, бо не разарвалася, калі яе скінуў на наш горад нямецкі дырыжабль-цэпелін.

У сярэдзіне 1930-х парк добраўпарадкавалі, быў прыбраны драўляны плот, які аддзяляў парк ад вуліц, і гэта месца атрымала назву плошча Збаўцы. Былыя лідзяне Лех Ціхановіч і Рычард Межва пісалі: «Ідучы ад вуліцы Сувальскай у кірунку вуліцы Пяскі, найперш з левага боку была прылеглая да старостваа плошча Збаўцы, на якой стаяў вялікі крыж як памяць пра месца, дзе раней стаяў касцёл кармелітаў, разабраны ў 1908 г. па камандзе царскіх улад».

Паміж паркам і вуліцай Сувальскай быў пабудаваны кіёск Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны. На пачатку верасня 1937 г. падчас устаноўкі фундамента пад кіёск у гэтым парку былі знойдзены падмуркі былога касцёла




Вуліца 3-га Мая на перакрыжаванні з Сувальскай (Савецкай). Камера павернута на захад, добра бачны макет бомбы, 1930-я гг.

кармелітаў. Пасля 1945 г. тут неаднаразова вяліся земляная работы пры пракладцы і рамонтах падземных камунікацый і часта знаходзіліся парэшткі людзей.

Зараз прыкладна там, дзе стаяў кармеліцкі кляштар, знаходзіцца будынак музычнага каледжа, а на тым месцы, дзе быў касцёл, праходзіць паўдзённая праезджая частка вуліцы Ленінскай.

Тэрыторыя насупраць парка, на другім баку вуліцы 3-га Мая, у 1920-х гг. мела дрэнную славу. З пратакола нарады паміж начальнікам павятовай паліцыі і павятовым доктарам, якая прайшла на пачатку 1924 г., даведваемся наступнае: «Заўважана, што кабеты, якія займаюцца прастытуцыяй і жывуць у Лідзе, прагульваюцца па вуліцы Сувальскай ці, пераважна, па 3-га Мая ад вугла вуліцы Крывой да вуліцы Сувальскай (тут парк і гатэлі), дзе на ходніках затрымліваюць мужчын і сваімі паводзінамі звяртаюць увагу мінакоў. Трэба забараніць ім знаходзіцца ў гэты месцы, але дазволіць хадзіць і працаваць па вуліцы 3-га Мая ад вуліцы Садовай да чыгуначнага пераезду». Як бачым, паліцыя вырашыла трошкі адсунуць ад цэнтра горада «жрыц кахання».

З таго ж пратакола нарады даведваемся, што «Згодна з… патрабаваннямі… санітарны агляд гарадскім лекарам асоб, якія займаюцца прастытуцыяй, павінен адбывацца 2 разы на тыдзень у гарадской паліклініцы па вуліцы Крывой у Лідзе. Калі будзе знойдзена венерычнае захворванне, лекар павінен паведаміць пра гэта ў санітарную камісію для прымусовага накіравання ў шпіталь для лекавання. Падчас медыцынскага агляду для падтрымання парадку павінен прысутнічаць паліцэйскі. …калі будзе знойдзена венерычнае захворванне, хворых трэба накіроўваць у паліцыю і трымаць там да шпіталя».

Заўважу, што да паліклінікі на вуліцы Крывой было зусім недалёка.

# Вуліца Каменская да вуліцы Крывой і вуліца Крывая

Нумарацыя дамоў правага боку вуліцы пачыналася ад мураванага дома Віленская (Сувальская), 19, у якім знаходзілася ўжо вядомая нам знакамітая цукерня «Амерыка» (якую звычайна звалі «Амерыканка»). За цукерняй па вуліцы 3-га Мая дом № 2b належаў Шлёме Ясіноўскаму, у доме № 4 мясціўся рэстаран «Аазіс» Аляксандра Тамасіка, адчынены на пачатку 1930 г., і цырульня К. Гавенскага.

У доме № 6, які належаў Ісаку Глаўберману, знаходзіўся гатэль «Еўрапа» (да 1930-х гатэль меў назву «Пецярбургскі»). Лідзянін Андрэй Раствароўскі ўспамінаў пра гэты гатэль: «Вельмі чысты гатэлік, прыходзілася тут падчас з’ездаў, баляў ці іншых аказій рэзерваваць сябе пакой. Уладарка, пані Глаўберман – дзедзічка гатэля, паходзіла са старой лідскай сям’і Цыдзяровіч, выйшла замуж за добра маладшага за сябе яўрэя з Пінска Глаўбермана. Ён выконваў абавязкі пакаёвага, парцье, пасыльнага і выкідалы. Неяк пані Глаўберман




Пачатак Крывой вуліцы, вуліца пайшла ўлева, правей бачны фарны касцёл, па правым боку ад фатографа, нябачны на здымку – Лідскі замак. Пачатак XX ст.




Тое самае, што і на першым здымку, але з’явіўся дом № 6 па вуліцы Крывой, дзе мясціўся Народны дом і, потым, магістрат горада. Здымак 1917 г.

устанавіла новы клазет са спускам вады, і таму заахвочвала ўсіх пастаяльцаў карыстацца ім, каб ацаніць выгоды. Казала: «Што значыць не патрэбна? Пану Ваньковічу таксама было не патрэбна, але як сеў, дык гадзіну сядзеў!». Наступным разам вітала мяне словамі: «Уй, каб пан ведаў, якую я мела непрыемнасць! Учора ўвечары прыехаў з Вільні цягніком пан адвакат Ю. Вы яго ведаеце. А за ім ідзе такая вымаляваная, такая стройная, такая ўся ў парфуме. І я кажу: “Пан адвакат, я вас вельмі шаную і паважаю, але гэта ў мяне нельга”. “Што нельга?”. “Гэта”, – і я пальцам паказваю на яе. І што вы думаеце, гэта была ягоная жонка! Дык я мела такую непрыемнасць. Я яшчэ і сёння з-за гэтага хворая».

А згаданы вышэй Ваньковіч – гэта насамрэч знакаміты пісьменнік Мельхіёр Ваньковіч – таксама запомніў новы клазет лідскага гатэля і нават напісаў пра яго ў сваёй кнізе «Дзе-нідзе» (Tędy i owędy): «...у Лідзе пані Глаўберман, уладальніца гатэля “Пецярбургскі”, уладаваўшы на кухні клазет са злівам вады, лопалася ад гонару. Яна горача ўгаворвала мяне скарыстацца ім. Калі сказаў, што не жадаю, яна аргументавала свой націск: “Хай пан толькі паспрабуе. Пан В. з Пэцяшы таксама не хацеў, а як паспрабаваў, дык адразу захацеў”. Для Ліды гэта быў люкс і камфорт. У гатэлі стала жылі лётчыкі, і пані Глаўберман перад святамі без цырымоній забірала ў маладых афіцэраў грошы, тлумачачы, што “ўсё роўна прап’юць”...».

Таксама ў доме № 6 мясціліся: фірма па экспедзіраванні грузаў Ханона Пупко і цырульня Давіда Цыгілінскага.

Недалёка ад Віленскай (Сувальскай) і паралельна з ёй вуліцу Каменскую (3-га Мая) перакрочвала старажытная вуліца Крывая. Жыхар горада Януш Се-



Вуліца Крывая на пачатку XX ст.

гень пісаў: «Паралельна Віленскай вуліцы з заходняга боку была вуліца Крывая, ішла ад рынку каля развалін замка на Ферму».

На перакрыжаванні гэтай вуліцы з вуліцай 3-га Мая па левым боку (паўдзенным) знаходзілася стаянка дрожак. Збочым з вуліцы Каменскай (3-га Мая) і паглядзім улева, у бок замка. Як пешаходная гэта вуліца жыве і сёння, яна ідзе за дваром музычнага каледжа (ён стаіць на месцы былога кляштара кармелітаў) у бок замка.

Я часта гуляю па гэтай пешаходнай вуліцы нашага горада, прыгадваючы пры гэтым ранейшыя здымкі вуліцы Крывой. З заходняга боку былую вуліцу шчыльна ціснуць пяціпавярхоўкі. А з усходняга боку, з часоў да 1941 г., захаваўся толькі дом, які зараз з'яўляецца нейкай гаспадарчай пабудовай музычнага каледжа і, бліжэй да замка, на шчасце, усе яшчэ стаіць былы Народны дом і магістрат горада (Крывая, 6), пра які я пісаў у першай частцы кнігі. Тое, што засталося да вуліцы Крывой, добра бачна на фотаздымку пачатку 1960-х. Пасля былога магістрата вуліца ішла каля заходняга мура замка, тут захаваліся дамы № 3, 5, 8 па сучаснай Замкавай.

Гэтая частка вуліцы Крывой, ад замка да вуліцы Каменскай, з'явілася толькі ў першай палове XIX ст. і першапачаткова мела назву Нова-Кармеліцкай вуліцы. Да яе з'яўлення сад і агарод кармеліцкага кляштара спускаўся ўніз (на захад) да рэчкі Каменкі. У 1920-х гг. у вуліцу Крывую пераназвалі ў вуліцу імя маёра Мацкевіча.

На пачатку вуліцы Мацкевіча ў доме № 1 у 1930-я гг. размяшчаўся паліцэйскі пастарунак Лідскай гміны. У 1920-х на другім баку вуліцы, насупраць магістрата, па адрасе Крывая, 8 мясціўся Звяз яўрэйскіх купцоў, потым тут працаваў млын «Таханова», а Звяз яўрэйскіх купцоў пераехаў у суседні дом № 12.

У лютым 1937 г. у «Доме горада Ліда» па вуліцы Мацкевіча, 11 пачалі працаваць курсы кіроўцаў матацыкла, наведвальнікі плацілі за поўны курс на-




Вуліца Крывая, дом № 6 (справа). Да 1939 г. тут будзе магістрат горада, гэты дом захаваўся да нашага часу. Здымак 1916 г.

вучання 60 злотых. У тым жа будынку потым адчыніліся курсы для кіроўцаў аўтамабіляў, вучоба праводзілася штодзённа, плата – 90 злотых.

Бліжэй да вуліцы Каменскай (3-га Мая), уніз да рэчкі Каменкі ад вуліцы Крывой, дзесьці з канца XIX ст. працавала гарадская лазня Арона Будзіна. Менавіта пра гэту ўстанову, якая ў 1930-х з’яўлялася лазняй яўрэйскай гміны «Гігіена» па вуліцы Мацкевіча, пісала прэса ў 1939 г.: «вельмі непрыгожая, невядома колькі гадоў не рамантаваныя сцены, пакрытыя шматгадовым пластом мокрага бруду, шмат пары, якой людзі дыхаюць, і, як для жарту, лазня мае назву “Гігіена”».

Гэта старая лазня працавала да канца 1950-х гг., пра яе ўспамінала лідзянка Ларыса Канчэўская: «...маленькая старая аднапавярховая лазня стаяла з краю таго самага балота [маецца на ўвазе тэрыторыя гарадскога парка на месцы кінатэатра “Юбілейны”, пра гэты парк у наступных главах – Л. Л.], якое мы асушвалі (у двары крамы “Ластаўка” на месцы сучаснай аўтамабільнай стаянкі)... Раз у тыдзень наша мама брала мяне і маленькую сястрычку, эмаляваны тазік, дзве сумкі з бялізнай, ручнікамі, адзеннем, і мы ішлі ў лазню, дзе была бясконцая чарга. Памятаю, як у пачакальні залівала падлогу брудная вадой па костачкі з мыйных аддзяленняў. Мы чакалі па дзве-тры гадзіны, калі вызваляцца шафкі, куды вешалі вопратку. Гэта быў жудасны дзень для нас, дзяцей... А як было маме? На зваротным шляху сястра засынала, захутаная, цяжкая, у мамы на руках. Дадому мы ледзь дабіраліся па лужынах, канавах у дрэнна асветленым горадзе, асабліва калі жылі на вуліцы Калініна. Але так жылі амаль усе».

У канцы 1950-х на месцы былога перакрыжавання вуліц Каменскай і Крывой з’явілася новая гарадская лазня: «Пабудавалі раскошную лазню. Яна і ця-




Вуліца Крывая, наперадзе Рынак, здымак 1916 г.

пер, на мой погляд, з'яўляецца адным з самых гарманічных будынкаў у горадзе па архітэктурным абліччы», – пісала тая ж Канчэўская.

Каля перакрыжавання з вуліцай Каменскай па адрасе Крывая, 16 мясцілася яўрэйская гімназія Дварэцкага. У 1926 г. прэса пісала пра ліквідацыю гэтай гімназіі і адкрыццё гарадской гімназіі, ці гімназіі магістрата. Але гімназія Дварэцкага працавала яшчэ да 1929 г. Гэта яўрэйская каадукацыйная навучальная ўстанова паўстала ў Лідзе пры канцы 1921 г. У арандаваным будынку вуліца Крывая, 16 было толькі 4 пакоі пад класы, і таму навучанне ішло ў дзве змены. Ніякага лепшага памяшкання ў горадзе знайсці было немагчыма. Уладальнік гімназіі – Мойша Дварэцкі, першы дырэктар – Эдвард Вахмут, у 1923 г. дырэктарам стаў інжынер Фронкель, у 1925 г. – Максіміліян Грынберг. Пры гімназіі дзейнічалі вучнёўскія аб'яднанні: «Братняя дапамога» (дапамагала бедным вучням), літаратурны гурток, школьная гміна (самакіраванне – існавала ў кожным класе). У розныя часы гімназію наведвала ад 300 да 350 вучняў.

Далей на поўнач вуліца Крывая перакрочвала вуліцу Каменскую і ішла да Рынкавай плошчы.

Па адрасе вуліца Мацкевіча, 38 недалёка ад перакрыжавання з Каменскай (3-га Мая) стаяў гатэль «Дагмара» Гецеля Бердаўскага.

У доме № 41 размяшчаўся будынак клуба, які меў назву «Польскі рэсурс» (Resursa Polska). 7 сакавіка 1938 г. лідскі памочнік пракурора Пігулеўскі ў зале гэтага клуба спрабаваў скончыць жыццё самагубствам і памёр ад раны ў шпіталі 14 сакавіка.

8 чэрвеня 1938 г. у 9.30 у гэтым раёне выбухнуў пажар. Пажарная ахова імгненна прыехала на месца і пачала тушыць. Агонь пагражаў лазні, тром жылым дамам, «Польскаму Рэсурсу», гатэлю «Дагмара» і бюро меліярацыі. Падчас тушэння шэраг пажарных атрымаў апёкі. Агонь знішчыў тры склады,




Здымак зроблены з перакрыжавання вуліц Каменскай і Крывой, наперадзе Рынак, здымак 1916 г.




Тое самае, што і на папярэднім здымку, але ў 1930-я гг.

якія належалі Будзіну, «Польскаму Рэсурсу» і Арэхву і пашкодзіў дахі некалькіх жылых дамоў. Пажар пачаўся ад кухні клуба-рэстарана «Польскі Рэсурс».

У чэрвені 1939 г. у Лідскай гарадской радзе адбылася дыскусія. Справа ў тым, што клуб «Польскі рэсурс», падаў заяўку на пакупку новага зямельнага пляца па льготным кошце. У заяўцы апісвалася роля «Рэсурса» ў развіцці грамадскага жыцця горада і народнай асветы, у Радзе клуб горача прадстаўлялі дэпутат Зыгмунт Стасевіч (ад народнай дэмакратыі) і Ізідор Керзнер (ад яўрэйскай супольнасці горада). Аднак у разгарэўшыхся спрэчках, высветлілася, што гэта ўстановы з’яўляецца «звычайнай кнайпай», сталымі кліентамі якой ёсць 60 «старанна адабраных інтэлігентаў, якія маюць прыемнасць у любы час дня і ночы ўжываць тут моцныя напоі». У якасці аргументу супраць «Рэсурсы», дэпутаты таксама казалі, што нават паважанай фірме, якая дае шмат рабочых месцаў і плаціць вялікія падаткі ў скарб горада, толькі што прадалі зямельны надзел па 50 злотых за 1 м$^2$. І Гарадская рада адхіліла просьбу «кнайпы».

Аднак у клубе не толькі пілі моцныя напоі. 6 красавіка 1938 г. Лідскае краязнаўчае таварыства правяло ў памяшканні «Польскага рэсурсу» вечарыну, даход ад якой пайшоў на выданне лідскіх кніг.

Нейкі час у доме па адрасу Мацкевіча, 53 знаходзіўся лідскі аддзел газеты «Кур'ер Віленскі» і рэдакцыя «Лідскай Зямлі». У канцы гэтай вуліцы, у сярэдзіне 1920-х гг. месціўся карэспандэнцкі пункт газеты «Слова»,



«Новая» лазня, 1959 г. Злева – будуецца Дом афіцэраў

журналіст гэтай газеты: «...пакінулі пакункі на вакзале і пайшлі ў павятовы горад Ліда. Мінаем рэйкі, пасля іх праходзім дзве нейкія цёмныя і балоцістыя вуліцы – і мы ў «цэнтры горада». На адным з дамкоў пры слабым асвятленні чытаем шыльду газеты «Слова». Разумеем, што гэта вуліца м-ра Мацкевіча, на якой знаходзіцца наш аддзел. Адсюль кіруемся ў бок пошты».

Недзе недалёка ад Рынку знаходзілася ўстанова, якая мела назву «Паноптыкум». Прывожу фрагмент артыкула, надрукаванага ў 1932 г. у віленскай газеце «Слова»: «Ад вакзала ідзе вуліца Мацкевіча. Не Міцкевіча, а Мацкевіча. На гэтай вуліцы ёсць Гістарычны паноптыкум. Ведаеце гэтыя гукі катрынак, якія бываюць у паноптыкумах і луна-парках? Яны неабходны – утрымаць чалавека, паралізаваць волю, уцягнуць унутр. У лідскім паноптыкуме ляжыць паміраючы марак. Памятаю яго з часоў дзяцінства. Ляжыць, як і тады, з ранай у грудзях, з марацкай бародкай, але без вусоў. Нахілімся над ім. Ні хрыпаў, ні цяжкага дыхання, і з цёмнай раны не струменіцца кроў. “Марак сапраўды памёр, – думаю, – праз столькі гадоў!..”. Але ўласнік паноптыкума нешта памайстраваў у скрынцы з мараком: старая рана закіпела. О, несмяротны, паміраючы марак! О, незнішчальная трываласць мёртвых рэчаў! І цябе памятаю, капітан Дрэйфус у чырвоных портках[1]. І цябе таксама, дзіцё з двума галовамі. Эміль Заля, слаўны французскі пісьменнік, Абрам Лінкольн, знакаміты прэзідэнт

[1] Герой знакамітай «Справы Дрэйфуса» – судовага працэсу ў Францыі (снежань 1894 г.), які ўзняў сацыяльны канфлікт з-за справы аб шпіянажы на карысць Германскай Імперыі афіцэра французскага генеральнага штаба, яўрэя з Эльзаса (на той момант тэрыторыі Германіі) капітана Альфрэда Дрэйфуса (1859–1935), разжалаванага ваенным судом і прысуджанага да пажыццёвай ссылкі пры дапамозе фальшывых дакументаў на хвалі моцных антысеміцкіх настрояў у грамадстве. Справа адыграла велізарную ролю ў гісторыі Францыі і Еўропы канца XIX – пачатку XX стст.



Аэрафотаздымак канца 1920-х. На ім добра бачны замак, сеймікавая аптэка (дом з калонамі каля замка), злева ад замка магістрат і вуліца Крывая (маёра Мацкевіча), а таксама фарны касцёл на вуліцы Віленскай (Сувальскай) і былы кляштар кармелітаў (староства).



Здымак пачатку 1960-х гг. За аўтамабілістам – сучасны музычны каледж, гаспадарчая пабудова каледжа (засталася пасля пажару 1941 г.), фарны касцёл і былы магістрат горада.

Злучаных Штатаў, эрц-герцаг Рудольф на ложку смерці – мне таксама як сваякі. Спаткаўся ўпершыню з вамі ў Лідзе. Меў чатырнаццаць гадоў.

Калі выходзіў, затрымала мяне тоўстая вусатая касірка:

– Кавалер хоча ўбачыць нешта цікавае?

І адразу стала горача, першы раз у жыцці... Пазнаў стэрэаскоп.

Выйшаў з лідскага паноптыкума, і ніхто мяне не затрымаў.

Потым бачыў рынак і цесныя, крывыя але прыгожыя і маляўнічыя завулкі каля яго. Дзень быў смутны, дождж падаў без перапынку. Сялянскія лапці, жаночыя чаравікі і яўрэйскія доўгія боты хлюпалі ў чорным, размазаным балоце».

# Вуліца Каменская (3-га Мая, Ленінская) да вуліцы Садовай і Тарбут-школы

Ад перакрыжавання з былой вуліцай Крывой пройдзем трошкі па вуліцы Каменскай на захад. У мураваных дамах па гэтай вуліцы знаходзіліся два гатэлі: «Еўропа» (дом № 6, да 1930-х гг. гатэль меў назву «Пецярбургскі», пра яго я пісаў у папярэдняй главе) і «Варшава» (дом № 7, належаў Быхвіту), у адным будынку з гатэлем «Варшава» ў 1930-я гг. працаваў рэстаран. У сакавіку 1932 г. газета «Наваградскі кур'ер» аптымістычна пісала: «Можа дзе і ёсць крызіс, але ў нас, у Лідзе – няма. Аб гэтым кажуць новыя прадпрыемствы, рэстараны, вялікія крамы ў еўрапейскім стылі і з'яўленне гуку ў кіно. Не хачу быць галаслоўным і прыводжу факты. А менавіта: пачала працаваць алярня Голдберга, інвалід Юзаф Пеляк праз некалькі дзён адкрывае па-еўрапейску абсталяваны рэстаран па вуліцы 3-га Мая (пад гатэлем "Варшава")».

Калі глядзець за захад, дык па левым боку вуліцы 3-га Мая (Каменскай) у 1930-я знаходзіліся:




Вуліца Каменская на перакрыжаванні з вуліцай Крывой. Камера павернута на захад, паштоўка часоў нямецкай акупацыі ў Першую сусветную вайну.




Вуліца 3-га Мая, месца здымкі недалёка сучаснага Дома Гандлю, камера павернутая на захад

У доме № 7 – Арон Глазман і хімічная пральня «Экспрэс»;

№ 9а – друкарня «Магата» і рэдакцыя яўрэйскай газеты «Lider Lebn»;

№ 11 – каапературыў «Польская механічныя пякарня»;

№ 13 – Сельскагаспадарчы сіндыкат і Камунальная ашчадная каса;

№ 13а – жыў Беньямін Цыдзяровіч, адвакат;

№ 15 – жыў Беньямін Мелуп, прамысловец, прэзідэнт кіравання абутковай фабрыкі «Ардаль».

А па правым боку вуліцы знаходзіліся:

У доме № 8 – доктар Ліхтмахер-Ліпнікова, акушэрыя і жаночыя хваробы, механічная майстэрня Ю. Баранчыка прымала ў рамонт ровары, розныя машыны і часткі да іх;

№ 12 – вытворчасць мэблі Уладзіслава Лугіна, адкрыта з 1927 г.;

№ 16 – склад будаўнічых матэрыялаў Пінхаса Рубіновіча;

№ 22 – крама дзіцячага адзення Яна Бабіча, каля самай рэчкі Каменкі, адкрыта ў 1937 г.

Калі ісці ад былой вуліцы Крывой на захад, дык праз некалькі дзясяткаў метраў у бок Рынку ад вуліцы Каменскай (3-га Мая) адыходзіла вуліца Садовая (у 1914 г. яшчэ Садовы завулак).

Вуліца Садовая ў Лідзе, з’явілася толькі пасля вялікага пажару 1891 г., і яна была прарэзана ад галоўнай сінагогі да вуліцы Каменскай. На ўсім участку, дзе ішла вуліца, раней рос вялікі фруктовы сад, які належаў фармацэўту Юстыну Шымкевічу. За плотам з невялікіх драўляных пралётаў стаяла аптэка



Вуліца 3-га Мая, месца здымкі каля сучаснага Дома Гандлю, камера павернутая на ўсход

фармацэўта і яго дом. Пасля пажару фармацэўт страціў сад і прадаў свой участак яўрэям для забудовы. У 1899 г. Шымкевіч атрымаў 35 рублёў за зямлю, якая адчужалася ў яго для правядзення Садовай вуліцы. А пасля пажару 1941 г. вуліца знікла. Аднак калі ісці па сучаснай вуліцы Ленінскай (ранейшай Каменскай ці 3-га Мая) з усходу на захад і, не даходзячы да Дома гандлю, павярнуць на поўнач у арку паміж пяціпавярховікам Ленінская, 12 і бібліятэкай, дык пешаходная дарожка нейкі час будзе паўтараць хаду былой Садовай вуліцы.

Здані былых вуліц Садовай і Крывой ніяк не хочуць знікаць з карты нашага горада.

У 1920–30-я гг. па вуліцы Садовай жылі і працавалі рамеснікі амаль што ўсіх прафесій, працавала фабрыка Ілютовіча па вырабе мыла, табачныя фабрыка Шпількоўскага і Даршона выраблялa махорку (Садовая, 15), гасцей сустракаў тракцір Ю. Вайнштэйна.

У доме № 14 па вуліцы Садовай жыў вядомы лідскі паэт і пісьменнік Іосіф Альбірт (нарадзіўся ў 1907 г. у Лідзе), да 1939 г. ён выдаў чатыры томікі паэзіі. Пасля 1950-х быў членам Саюза пісьменнікаў, жыў у Маскве. Аўтар кніг «Зорка майго пакалення», «Іскры», «Сэрца маёй зямлі». У 1970 г. эмігрыраваў у Ізраіль. Тут жа, па адрасе Садовая, 14, кв. 2 у Альбірта здымаў пакой рэдактар яўрэйскай газеты «Lider Wolksblat» Разеталь, па гэтым адрасе была зарэгістравана і рэдакцыя газеты. А газету «Lider Wolksblat» яны выдавалі разам з Альбіртам.

На заходнім боку вуліцы Садовай, у глыбіні забудовы (таму яе не бачна на старых фотаздымках) знаходзілася Тарбут-школа. Адразу на захад ад яе цякла рэчка Каменка. У наш час за сучаснай бібліятэкай стаіць моцна перабудаваны будынак Ленінская, 10а. Паўднёвы мур гэтага будынка – рэшта былой прыватнай сінагогі лідскай Тарбут-школы.




Вуліца Садовая, 1916–1918 гг.

**Тарбут-школа.** З 2000 г. я хацеў даведацца, якому будынку належала дзіўная сцяна (падобная на барочную), што стаяла ў цэнтры горада і да якой быў прылеплены сціплы будынак 1950-х. У 2001 г. першай лічбавай камерай, якая патрапіла мне ў рукі, зрабіў здымак гэтай сцяны. З тых часоў яна не змянілася, толькі сцяну разам з будынкам адрамантавалі і пафарбавалі ў іншы колер. А да рамонту заходні край сцяны знізу не меў тынку, і была добра бачна цэгла, адну цагліну я нават выняў і патрымаў у руках. Гэты была вялікапамерная старая гладкая цэг-




Вуліца Садовая, 1916–1918 гг.

ла даўжынёй прыкладна 30 см. На жаль, я не зрабіў абмераў вынятай цагліны і паклаў яе на месца.

І толькі нядаўна, падчас аналізу пабудоў старога цэнтра горада пры стварэнні 3D-мадэлі гэтую загадку праясніў мой добры знаёмы Віталь Бурак, за што аўтар выказвае яму шчырую падзяку. На гэтым месцы па вуліцы Садовай з 1920-х гг. знаходзілася лідская Тарбут-школа другой ступені. Тарбут (яўр. – культура) – яўрэйская свецкая асветніцка-культурная арганізацыя, пад эгідай якой у перыяд паміж двума сусветнымі войнамі была створана сетка свецкіх адукацыйных устаноў на іўрыце.

Яўрэйская свецкая Тарбут-школа ў горадзе стала выконвала ролю культурнага цэнтра. У канцы кастрычніка 1931 года ў «яўрэйскай школе "Тарбут" па вуліцы Садовай лектарам з Вільні быў зачытаны рэферат пра гісторыю сіянізму за апошнія 50 гадоў. Падчас дыскусіі абмяркоўваліся яўрэйска-арабскія стасункі ў Палесціне і справы каланізацыі. Прысутнічалі 60 чалавек – у большасці яўрэйская моладзь з сіяніскіх арганізацый». 26 ліпеня 1932 года ў зале Тарбут-школы (вуліца Садовая, 11) адбыўся сход навуковага яўрэйскага таварыства горада Ліды. Была абрана новая ўправа таварыства ў складзе: Гірша Палячака, Абрама Гурвіча, Адольфа Левінсона, Гірша Альпяровіча і Ільы Зайгера – і рэвізійная камісія. У 1933 годзе заснаваны гістарычны камітэт, які збіраў матэрыялы па гісторыі лідскіх яўрэяў для выдання манаграфіі, аднак гэтая праца не была выканана да канца.

Па адрасе Садовая, 11 знаходзіўся пляц вядомай і разгалінаванай лідскай сям'і Ілютовічаў. Якаў Ілютовіч пісаў: «Мой бацька Ерамія Ілютовіч па сваёй маці належаў да сям'і Пупко – Ханчыкаў, ад імя заснавальніка сям'і, чыё імя было Хана. Усе Ханчыкі мелі вялікую вагу ў справах кагалу. З-за свайго радаводу мой бацька нават змог выслізнуць ад каманды лаўцоў рэкрутаў, якія павінны былі выхапіць яўрэйскіх дзяцей у салдаты на 25 гадоў. Гэта такая гісторыя: "Калі мой бацька быў яшчэ толькі маленькім хлопчыкам, ён зімовым вечарам выйшаў з ешывы, дзе вучыўся. Раптоўна каманда лаўцоў, якая толькі што ўвайшла ў горад, акружыла




Вуліца Садовая, 1916–1918 гг.

яго. Мясцовы паліцэйскі, які прымаў удзел у лоўлі, асвятліў яго твар ліхтаром, і сказаў: “Адпусціце яго. Ён адзін з Ханчыкаў”».

Сам Якаў Ілютовіч быў адным з заснавальнікаў руху сіяністаў у Лідзе. Сіяністы лічылі, што самае галоўнае трэба рабіць у сферы адукацыі – іх ідэалам была




Вуліца Садовая пры канцы 1930-х гг.

поўная яўрэйская школа. Піянерамі яўрэйскай школы ў Лідзе былі малады студэнт Матаціс Рубін, сын Руба-Хана Рубіна, і пазней – яго будучая жонка Нота, да замуства – Рабіновіч. Яны першымі адкрылі клас на іўрыце. У іх не было грошай на арэнду памяшкання, і таму з адабрэння папячыцеляў сінагогі яны вучылі ў пакоі для абслугоўваючага персаналу пры малельным доме канторы пахаванняў. З гэтага вырасла школа на іўрыце, якая вучыла да 6-га класа па праграме гімназіі. Далей павышаць узровень адукацыі не дазволілі фінансавыя абмежаванні, бо асноўныя высілкі засяроджваліся на ўмацаванні становішча класаў Народнай школы для непісьменных.

Дырэктарам Тарбут-школы быў Ханан Ілютовіч. Яе наведвала 500 вучняў, у канцы 1930-х стары будынак стаў замалы, і яўрэйская грамада пачала будаваць трохпавярховую новую Тарбут-школу ў іншым раёне горада, гэты гмах захаваўся да нашага часу (пра гэта я пісаў вышэй).

Можна з адноснай упэўненасцю сказаць, што ў Лідзе захавалася сцяна малельнага дома пры канторы пахаванняў, якую трымалі Ілютовічы. Гэтая сцяна былой прыватнай сінагогі – адзінае, што засталося ад пабудоў старога цэнтра горада. Сцяна малельнага дома мае рысы, характэрныя для яўрэйскіх сінагог Беларусі. Асабліва яна нагадвае так званую «халодную» сінагогу ў Менску, якая з'явілася ў XVII ст.

Для нашага горада гэты адзіны парэштак «затануўшай Атландыты» яўрэйскага свету мае гістарычнае і культурнае значэнне, і трэба думаць пра ахову яго дзяржавай.

Раён горада на поўнач ад сучаснай вуліцы Ленінскай, як і ўвесь цэнтр горада, згарэў і пачаў адбудоўвацца толькі ў 1960-х. Ларыса Канчэўская пісала: «… прастакутнік паміж вуліцамі Перамогі, Савецкай, Кірава і Ленінскай – руіны, бітая цэгла, заваленыя камянямі падвалы, вырвы ад бомбаў. Улетку яны зарасталі крапівой, лапухамі, высокай лебядой. Так класна было там хавацца, гуляць у вайну!… Будаўнічы бум пачаўся ў 1960 годзе (магу памыліцца на год-паўтара). Літаральна на вачах расчышчаліся завалы руін і будаваліся грамадскія будынкі, жылыя дамы. Пачалося ўсё з вуліцы Савецкай. Паралельна пачалі прыводзіць у парадак і вуліцу Перамогі. Тут таксама з'явіліся першыя пабудовы». У 1960 г. Канчэўская на шляху ў школу яшчэ хавалася ў разваліна́х: « зайшла ў бліжэйшыя разваліны (прыблізна на цяперашнім рагу Савецкай і Ленінскай, толькі глыбей, далей)…».

# Вуліца Каменская (3-га Мая, Ленінская) да вуліцы Перацкага – Фалькоўскага (праспекта Перамогі)

Адразу пасля вуліцы Садовай вуліцу Каменскую (3-га Мая, Ленінскую) перакрочвала рэчка Каменка. Цераз рэчку праз невялікі масток, злева, за шэрагам драўляных дамоў знаходзіўся «новы» гарадскі парк.

**Новы гарадскі парк**. Гэты парк з’явіўся на месцы, якое мела назву Альховы гай, прыкладна там, дзе зараз знаходзіцца кінатэатр «Юбілейны».

Парк ёсць ужо на карце горада 1892 г., але стварэнне новай зоны адпачынку на былым балоце цягнулася доўгі час. З надрукаваных успамінаў лідзян вядома, што ідэя стварыць новы парк з’явілася ў лідскага воінскага начальніка, які характарызаваўся лідзянамі як адукаваны і прадпрымальны чалавек з добрым густам (да 1892 г. гэту пасаду займаў падпалкоўнік Іван Мацвеевіч Карыцкі, пасля 1892 г. падпалкоўнік Іван Аляксандравіч Мілавідаў, хто з іх быў ініцыятарам стварэння




Масток праз рэчку Каменку і драўляныя дамы (злева), за якімі гарадскі парк. Каля мосту тэлеграфныя слупы і дошка аб’яў. Здымак 1917 г.




Амаль што той жа ракурс, што і на папярэднім здымку, нямецкія войскі ідуць праз масток. Справа бачны камяніцы. Здымак 1917 г.




Здымак зроблены з мастка праз рэчку Каменку, аб'ектыў камеры павернуты на ўсход, у бок вуліцы Віленскай. Злева бачны камяніцы, з якіх рабіліся папярэднія здымкі, каля 1917 г.

парка, на жаль, невядома). Воінскі начальнік вырашыў асушыць балота, якое знаходзілася каля цэнтра горада, і выкарыстаў для гэтага армейскія вазы, ён высыпаў у балота тысячы тон пяску, а для лепшага дрэнажу балота выкапаў сажалку.

У 1900 г. у каштарысе расходаў Ліды з'яўляецца артыкул: «Асушыць Альховы гай і ператварыць яго ў парк, правесці новую вуліцу, якая з'яднала б Каменскую і




Лідскі парк, каля 1910 г.

Ферму. Зняць план мясцовасці – 300 руб.». Аднак горад не меў грошай, і таму гэты артыкул дубліраваўся ў каштарысе яшчэ некалькі гадоў. Да 1904 г., у асноўным, парк быў пабудаваны, але ў 1905 г. выдадзена 50 руб. для «прывядзення ў належны стан гарадскіх паркаў па Віленскай і Каменскай вуліцах», меліся на ўвазе стары і новы паркі. Таксама ўлады выдзелілі 350 руб. на «выпраўленне маставых на гарадскіх плошчах, а таксама ўтрыманне набярэжнай з ачысткай Каменскага ручая і пракопкі канаў». Рака ці ручай Каменка цякла праз новы гарадскі парк і, як бачна на старой паштоўцы, упрыгожвала яго.

У 1906 г. лідзяне працягвалі паляпшаць свой «гарадскі сквер і парк», выдаўшы на гэтыя мэты 100 руб., працягвалася і ачыстка Каменкі. Тыя ж працы выконваліся і ў 1907 г. У 1909 г. «на прывядзенне ў належны стан і ўтрыманне гарадскога парку і сквера, а таксама на наём вартаўніка для назірання за паркам і скверам» выдзяляецца 150 руб., горад працягваў траціць грошы на ўтрыманне набярэжнай і ачыстку «Каменскага ручая».

Але гарадскі бюджэт не спраўляўся з утрыманнем паркаў у належным стане і таму, па выраку сходу лідскіх упаўнаважаных ад 28 сакавіка 1911 г., гарадскі парк быў аддадзены ў 3-гадовае арэнднае ўтрыманне Браніславу Міцкевічу з правам карыстання паркам на працягу двух гадоў бязвыплатна, пры ўмове правядзення неабходнага рамонту паркавых будынкаў за свае грошы.

Зімой на штучным возеры парка, які выкапаў яшчэ лідскі воінскі начальнік, працавала гарадская коўзанка, прэса пісала, што 4 лютага 1913 г. на коўзанцы ў гарадскім парку ўпала і зламала нагу вучаніца 6 класа мясцовай жаночай гімназіі, а 5 лютага на той жа коўзанцы зламаў левую руку нехта Кац.




Парк разам з гарадскім тэатрам у часы нямецкай акупацыі 1915–1918 гг. Малюнак В. Рэймана.

На пачатку ХХ ст. у парку з'яўляецца летні тэатр – зробленая з дошак пабудова з лаўкамі без даху. Тэатр існаваў да 1939, а можа і да 1941 г. Да 1914 г. улетку па вечарах у парку граў ваенны аркестр, і таму менавіта тут было любімае месца адпачынку лідзян.

Летні тэатр у гарадскім парку з'яўляўся адной з пляцовак тэатральных гастроляў. Да таго ж на пачатку ХХ ст. у горадзе існавала некалькі аматарскіх тэатральных труп, якія дастаткова актыўна працавалі. Так, 5 жніўня 1907 г. у летнім тэатры гарадскога парку адбылося аматарскае прадстаўленне і частка прыбытку ад яго пайшла на рамонт мясцовага касцёла.

У маі 1908 г. невядомы жыхар горада пісаў у газеце «Кур'ер Літоўскі»: «У суботу 10 мая ў гарадскім тэатры прайшло прадстаўленне тэатральнай трупы Арлоўскага. Гараджане задаволены тым, што ў горадзе гастраліруе тэатр... Сярод гледачоў, акрамя суддзі (рускага), двух землеўладальнікаў, лекара і аптэкара, у асноўным былі небагатыя людзі. Яўрэі дэманстратыўна шпацыравалі па парку каля тэатра, не рызыкуючы, за выключэннем 2-3 старазаконных, купіць квіток. Зал быў запоўнены не больш чым на траціну. Нядзельная ж п'еса «Мэдор» была адменена з-за адсутнасці гледачоў. Такую абыякавасць з боку лідзян да мастацтва і тэатра можна растлумачыць толькі адсутнасцю або прытупленнем усялякіх вышэйшых інспірацый духу...». Пэўна, як і заўжды ў гэты час, гараджане працавалі на палетках...

Паралельна з пастаяннымі кінатэатрамі, якія на пачатку ХХ ст. толькі пачалі з'яўляцца ў нашых гарадах, існавалі і перасоўныя, яны пераязджалі з горада ў горад. Пра адзін з такіх кінатэатраў у 1908 г. паведамляла прэса. «Кур'ер Літоўскі» змясціў заметку лідзяніна, пра, магчыма, першую дэманстрацыю кінематографа ў нашым горадзе: «Ліда. (Глядач). Тэатр "Фантазія" ёсць сапраўдным адбіткам фантазій пана дарэктара кінематографа, якія зусім не стасуюцца з грамадскімі меркаваннямі. Вечарам 1 снежня ў 21.30 я з кампаніяй знаёмых прыйшоў у гэтую "Фантазію", мы купілі квіткі, якія тут не танейшыя, чым у Варшаве, і не паспелі мы прагледзець усе 10 карцін, як раптоўна стала цёмна, і мы пачулі нечы голас, што сеанс закончаны. Не дапамаглі пратэсты нас і яшчэ некалькіх гледачоў, нехта



Стаў у парку, 1927 г.

сказаў: “Але ж гэта сапраўдная фантазія”. Тыя карціны, якія мы паспелі разгледзець, былі зроблены так дрэнна і невыразна, што часам немагчыма было зразумець іх сэнс... часам выявы былі, як у тумане. Калі пан дырэктар кінематографа лічыць, што грамадскае меркаванне, як заўжды, не паспявае за прагрэсам, дык хай загадае не прадаваць білетаў тым “tarde venientibus” [лаціна, «тым, хто спазняецца» – Л. Л.]». Паказ фільмаў ішоў якраз у летнім тэатры.

На пачатку Першай сусветнай вайны рэгістрацыя і агледзіны мабілізаваных жаўнераў адбываліся ў гарадскім парку па вуліцы Каменскай, месцы, дзе раслі стагадовыя вольхі. Тут, у летнім тэатры, размясцілася вайсковая камісія, якая аглядала мабілізаваных, а пісары вялі рэгістрацыю. У тыя дні з парку даносіліся енкі жанчын і дзіцячы плач – сем'і развітваліся з сваімі кармільцамі. Людзі памяталі, што ад прызыву ў войска на руска-японскую вайну ў 1904 г. вызваляліся жаўнеры запасу, якія мелі чацвёра і больш малых дзяцей, таму некаторыя на вазах везлі з сабой усю сям'ю.

Пасля рэгістрацыі мабілізаваных мужчын пераводзілі ў замак, дзе іх прымалі унтэр-афіцэры, адтуль адных адпраўлялі ў казармы Лідскага палка, а іншых вялі на чыгунку і размяшчалі па вагонах для перавозкі ў іншыя палкі.

Гарадскі парк увесь час забалочваўся, і вядома, што падчас нямецкай акупацыі 1915–18 гг. тут праводзіліся меліярацыйныя работы. Гэты парк разам з летнім тэатрам у часы нямецкай акупацыі 1915–1918 гг. намаляваў мастак В. Рэйман.

Вярнуцца да аднаўленчых прац у гарадскім парку новыя польскія ўлады змаглі толькі ў 1928 г., прэса паведамляла, што павятовае самакіраванне планавала пачаць меліярацыю былога парку каля вуліцы 3-га Мая.

У 1929 г. папулярная газета «Кур'ер Віленскі» надрукавала амаль што дакументальны нарыс пра «арыгінальны» крадзеж, які адбыўся каля мастка праз рэчку Каменку насупраць парка: «Кемлівы злодзей. Стаіць сабе пан Т., наглядчык



Будынак «Народнага супольнага банка» ў 1930 г.

Лідскай турмы, на рагу вуліцы Садовай іназірае Сусвет Божы. 9-я гадзіна вечара, але рух яшчэ значны – людзі збіраюцца ў тэатр, трупа Качароўскага прыехала з гастролямі. Раптам летуценні Т. спыняе нейкі гучны голас:

- Выбачайце, калі ласка, не маглі б вы сказаць, якая зараз гадзіна?

- Гадзіна? Вядома, дзявятая.

- Не можа быць! – кажа незнаёмец.

Тады, каб даказаць, што ён кажа праўду, Т. дастае стары, памятны з часоў, калі Т. яшчэ служыў у рускай артылерыі, гадзіннік і падае яго незнаёмцу. Той толькі гэтага і чакае. Хваць за гадзіннік і «ў ногі».

- Ай-ёй, мой гадзіннік, хапайце злодзея, хапайце яго, мой дарагі гадзіннік, – крычыць Т. і бяжыць за злодзеем. Але той ужо скіраваў у бакавую вулачку і знік.

Бядуе зараз Т. і ходзіць да ночы па лідскіх вулачках, марыць злапаць злодзея. Але дарма...».

У 1920–30 гг. гарадскі парк працягваў з'яўляцца сталым месцам гастроляў. Лідзяне памяталі, што сюды прыязджалі вандроўныя цыркі (напрыклад, «Карона» братоў Станеўскіх) са звярынцам і каруселямі, якія звычайна круцілі ўручную тыя, хто хацеў пакатацца бясплатна. Пры канцы чэрвеня 1934 г. у Лідзе гастраліраваў цырк Зрулоўскага, «які разбіў свае намёты ў парку пры вуліцы 3-га Мая».

Прайшлі гады. Пасля Другой сусветнай вайны парк зноў стаў балотам.

Зіновій Бянько расказваў мне: «А вось тут (паказвае ўлева ад кінатэатра «Юбілейны») была ванючка. Ад былога гарадскога парку нічога не засталося, усё забалоцілася. Тут быў застрэлены мой знаёмы... Недзе ў 1947 г. у іх банда была... яны хадзілі па афіцэрскіх дамах – афіцэраў, якія служылі ў Германіі. Яго застукалі на Варшаўскай вуліцы, дзе ён начаваў на гарышчы, і гналі ажно дасюль, пры гэтым ён забіў аднаго міліцыянера. Тут у дрыгве зразумеў, што яму нікуды ўжо не збегчы, і застрэліўся. Труп аблілі бензінам і тут жа спалілі. Такі Ванька Навіцкі, у мяне здымак ёсць, ён працаваў у авіямайстэрнях Паўднёвага гарадка. А вось тут (паказвае па дыяганалі) на месцы 9-павярховіка пры немцах быў базар».

Ларыса Канчэўская пісала: «У маім дзяцінстве гэта было топкае і бруднае балота. Самае цікавае, што мы, пяцікласнікі, з усімі вучнямі нашай школы № 8 прымалі ўдзел у 1957 годзе ў яго асушванні. Вельмі проста! З дапамогай таполевых калоў... Нас паставілі ў вызначаным парадку на балоце перад дробнымі прыгатаванымі ямкамі. Настаўнік працы Анатоль Пракопавіч Клімовіч (ах, які быў чалавек!) растлумачыў нам сутнасць справы. Мы, вядома, не вельмі ў гэта паверылі, але калы старанна ўкапалі. Увесну балота зазелянела маладымі дрэўцамі – цэлы лес! Раслі яны хутка, і дрыгва пératваралася ў мокры луг. Гэты гай магутных таполяў быў знішчаны цалкам у... 2010–2014 гады».

Як бачым, стагадовыя вольхі Альховага гая змянілі таполі, а зараз Каменка працякае тут у трубах, і моладзь нічога не ведае пра дрыгву, а пра былы парк ужо даўно ніхто не памятае.

Але вернемся да вуліцы Каменскай (3-га Мая, Ленінскай).

Далей за паркам, на перакрыжаванні, да вуліцы 3-га Мая з поўдня падыходзіла вуліца Перацкага, а на поўнач адыходзіла вуліца Фалькоўскага. Каля перакрыжавання з аднаго боку былі пякарня і цукерня «Памаранка», а з другога, ля абочыны, знаходзілася бензінавая заправачная станцыя «Мабіл Ойл».

На гэтым жа скрыжаванні (сучасных праспекта Перамогі і вуліцы Ленінскай) да канца 1960-х гадоў стаяў дыхтоўны драўляны двухпавярховы дом, у якім у Савецкія часы мясцілася гарадская ашчадная каса. Да 1939 г. гэты будынак належаў лідскаму аддзелу «Народнага кааператыўнага банка». Газета «Лідская зямля» ў 1936 г. пісала: «З атрыманага прыбытку было вырашана стварыць адмысловы фонд для пабудовы ўласнай нерухомасці. У 1926 г. агульны сход акцыянераў ухваліў рашэнне адлічваць для будоўлі 6 % прыбытку. У тым жа годзе ў магістраце горада Ліды, пры збегу вуліц 3-га Мая і Перацкага, быў набыты пляц. У 1928 г. за-



«Народны супольны банк» сярод выпаленага горада, 1941 г.


Ашчадкаса ў былым будынку «Народнага супольнага банка», 1960-я.

кладзены фундамент, а ў 1933–34 гг. пабудаваны дом, у якім на першым паверсе мясціліся бюро банка і кватэры для персаналу, а на другім – Сельскагаспадарчае таварыства з секцыямі, Таварыства фабрыкантаў коней, бюро фінансавых спраў сельскагаспадарчай суполкі, праўленне справамі крэдытавання малой сельскай гаспадаркі, павятовы аддзел Саюза асаднікаў і лідскі аддзел саюза пажарнай варты».

Юзаф Кардаш успамінаў: «На рагу вуліц Перацкага і 3 Мая, з паўднёвага боку, стаяла сапраўдная перла драўлянага дойлідства – будынак, у якім мясціўся Народны банк. Будынак быў пафарбаваны ў цёмна-сіні колер з белымі вокнамі, якія выглядалі, як карункі. Быў у Лідзе яшчэ адзін такі будынак, нават большы і прыгажэйшы. Гэта рамесная вучэльня паміж вуліцамі Сувальскай, Вясковай і Халоднай, каля чыгуначнай лініі на Маладзечна».

А Ларыса Канчэўскай пісала: «Прыгожым домам… была цэнтральная ашчадкаса (драўляны будынак з другім жылым паверхам), дзе мой бацька пасля выхаду ў запас з вайсковай службы доўгія гады працаваў загадчыкам (потым установу перанеслі на вуліцу Кірава, а стары будынак знеслі)».

Я добра памятаю, як яшчэ дзіцём наведваў гэты будынак – ашчадную касу – разам з маці.

# Вуліцы Перацкага і Фалькоўскага, пазнейшая вуліца Перамогі

Вуліца Перацкага[1] паўстала ў другой палове 1930-х. Ад вуліцы 3-га Мая гэта вуліца ішла на поўдзень. Прэса пісала, што ў лютым 1937 г. гарадскія ўлады для рамонту вуліц Ліды атрымалі ад Фонду працы 20 000 злотых. Першай пачалі рамантаваць вуліцу Пілсудскага (зараз праспект Гедыміна), «потым планавалі дабудаваць працяг вуліцы Перацкага і злучыць яе з Выганам. Такім чынам добрая гарадская магістраль павінна была злучыць чыгуначны вакзал з хутка росшым раёнам горада, які зваўся Выган, ці Новая Ліда». Працы па перабудове, укладцы ходнікаў і забрукоўцы вуліцы Перацкага пачаліся ў чэрвені і ўжо пры канцы ліпеня 1937 г. былі закончаныя. Горад атрымаў новую вуліцу.

Ад вуліца Перацкага на захад адыходзіла вуліца Сокала (на гэты месцы зараз ніякай вуліцы няма), і Юзаф Кардаш пісаў, што падчас Другой сусвет-



Вуліца Перамогі, свята развітання з зімой, 1970-я гг., справа – магазін «Чайка».
Я мог быць адным з гэтых трох хлопцаў, справа ад вершнікаў

[1] Бранiслаў Перацкі – міністр унутраных спраў Польшчы, 15 чэрвеня 1934 г. быў забіты Рыгорам Мацейкам ад імя Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН).



Дом, у якім спыняўся Пілсудскі, 1930-я гг.

най вайны «ў адлегласці ў 80 м ад пачатку вуліцы [Сокала – Л. Л.] за 3-метровым драўляным плотам з працягнутым над ім калючым дротам стаяў вялікі драўляны барак. Падчас вайны немцы трымалі тут прымусовых работнікаў. Я быў злоўлены немцамі 5 чэрвеня 1944 г., 15-ватная лямпачка свяціла ўсю ноч (камары менш атакуюць пры свеце), двухпавярховыя нары, на іх дробная стружка, адна дзіравая коўдра, якая адначасова і падушка. На сняданак «гарбата», якая мае смак запаранага сена. Пасля працы талерка супу з гнілой бульбы і з некалькімі ніткамі цяляціны, а на вячэру 250 г хлеба, 30 г маргарыну і чвэрць літра кіпеню. ... На захад ад Раслякоў мы будавалі супрацьтанкавыя равы...». Яшчэ нядаўна заставаліся сляды гэтых равоў на ўсход ад кургана.

Пасля Другой сусветнай вайны вуліцы Перацкага і Фалькоўскага з'ядналі ў адну вуліцу, якая атрымала назву вуліца Перамогі. Гэтай вуліцы зараз практычна няма.

Паспрабуем успомніць вуліцу Перамогі 1960-х, якую ўжо памятаю і я. Мая добрая старэйшая сяброўка Ларыса Канчэўская, на шчасце, апісала гэту вуліцу. Пачнём з яе самай паўночнай часткі: «...правы бок вуліцы Перамогі, калі стаяць тварам на поўнач, быў увесь "дзяржаўным" – міліцыя, суд, ДАІ, гарвыканкам; на другім боку (ад парку) – вуглавая аптэка, жылы двухпавярховы дом (не памятаю дакладна, але там цяпер архіў), потым быў хлебны магазін – мураваны, аднапавярховы, ну а далей – гаспадарка друкарні. На паліклініцы і былым універмагу канчаліся мураваныя пабудовы вуліцы Перамогі і ішлі драўляныя домікі з верандамі, кветнікамі, садамі ззаду за дамамі, з адрынамі для дроваў, гародамі, куратнікамі, хлявамі з парасятамі... На вуліцы Перамогі быў участак мураваных будынкаў ад парку да перасячэння з вуліцай Кірава. На другі бок

скрыжавання толькі перабраўся даваенны будынак паліклінікі з дзіўным збудаваннем праз дарогу – двухпавярховым універмагам, які нагадваў колавы параход на рацэ Місісіпі часоў Тома Соера. Побач з ім ужо ў XXI ст. пабудавалі не менш дзіўны шкляны будынак банка з арыентацыяй на сучасны праспект Перамогі».

Далей на поўдзень, «…на месцы цяперашняга ўніверсама [зараз крама «Алмі» – Л. Л.] стаяла невялікая цагляная крамка, пабеленая вапнай, з шыльдай “Сельгаспрадукты”. Мама называла гэтую ўстанову “крама каля мастка”, там бывалі добрыя мясныя прадукты, але мала і рэдка. Перад самымі яго дзвярыма выходзіла з зямлі труба, з якой выбягаў меншы рукаў Каменкі, які бег аднекуль з-за чыгункі ў раёне бальніцы. Гэты рукавок пятляў праз цяперашні раён Касманаўтаў (тады – прыватны сектар) і затапліваў паўднёвую частку стадыёна, потым зварочваў у ліўнёўку на месцы сённяшняга Дома паляка. Потым рэчка зноў трапляла ў трубу і выскоквала за перасячэннем вуліцы Перамогі і Ленінскай, дзе ў пачатку XX ст. яна была падпёрта невялікай плацінкай і была, кажуць, цудоўным возерам (на месцы кінатэатра “Юбілейны” і прылеглых дамоў), з летнім тэатрам, з аркестрам, з лодкамі і адпачываўшай публікай».

На ўчастку ад сучаснай крамы «Алмі» да перакрыжавання з вуліцай Ленінскай: «побач з нашым… універмагам [зараз крама спартыўных тавараў – Л. Л.] стаяў аднапавярховы жылы домік з верандай, потым ішла нейкая ледзь не драўляная аднапавярховая будыніна, якая перыядычна выконвала функцыі філіяла паліклінікі (зубных кабінетаў, потым дзіцячай кансультацыі, а потым жаночай). Дык вось, за ім пабудавалі аднапавярховы белы мураваны куб, у якім было не больш за два вокны і рэльефная арка пад плоскім дахам (відаць, гэта быў той “дэкаратыўны” мінімум, які дазволілі праектоўніку). Там размясцілася фотаатэлье. Напэўна, таму і на вокны паскупіліся. … Пасля фотаатэлье быў таксама пабудаваны маналітны лапідарны харчовы магазін “Чайка” на тым жа боку вуліцы. Ён таксама выконваў ролю “размеркавальніка” дэфіцытных прадуктаў з задняга ходу для начальства ўсіх родаў (партыйнага і савецкага), ну і “для сваіх”, вядома. Прывозілі туды самыя смачныя далікатэсы ледзь не з Масквы… За “Чайкай” вырас таксама шэры маналітны аднапавярховы будынак банка з высокім ганкам. Цяпер бы ўсе гэтыя тры “новабудоўлі” стаялі б у цэнтры праезнай часткі цяперашняга праспекта Перамогі. Нейкі час так і было. Яны абцякаліся дзвюма дарогамі (адна – тагачасная вуліца Ламаносава, другая – вуліца Перамогі). Потым гэтыя звышкапітальныя пабудовы сумнеўнай архітэктурнай годнасці знеслі, хоць у іншым выпадку іх не знішчылі б і стагоддзі».

Пасля будынка банка, далей на поўдзень, стаяў будынак кніжкай крамы, які архітэктурна не вылучаўся ў шэрагу гэтых новабудоўляў 1960-х. «Чайку», банк і кніжную краму – усе гэтыя будынкі, якія былі падобныя адзін да аднаго, я ўжо добра памятаю. Кніжную краму я рэгулярна наведваў, маючы надзею знайсці нешта цікавае, а паміж «Чайкай» и банкам заўсёды летам стаяла бочка са смачным квасам.

Далей, «…за скрыжаваннем з вуліцай Ленінскай было шмат двухпавярховых драўляных дамоў, якія стаялі на суцэльным балоце. Мажа, я грашу, грэбліва кажучы пра драўляныя двухпавярхоўкі. У іх была свая ўтульнасць і нейкае казачнае характво ў стромкіх рыплівых лесвіцах. І былі гэтыя дамы прыгожыя і ўтульныя, але лідская

вільготнасць іх вельмі хутка старыла: абсыпалася фарба, пад шалёўкай падгнівалі бярвёны. А багністая глеба хадзіла ходырам пад імі ад праязджаўшых міма машын. Час быў цяжкі, бедны...».

Вуліца Перамогі на гэтым участку ішла каля сучаснай пешаходнай дарожкі паралельна пяціпавярховікам № 38–42 па праспекце Перамогі. Дзе праходзіла тая вуліца, можна ўбачыць па старых дрэвах. Добра памятаю, як хадзіў гэтай вуліцай з цэнтра горада ў свой раён (каля 11-й школы), на ўсход ад вуліцы была суцэльная дрыгва, а на заходнім боку стаялі гэтыя двухпавярховыя драўляныя дамы, пра якія пісала Канчэўская. Нейкі час гэтыя дамы існавалі разам з суседнімі пяціпавярховікамі.

Сучасная вуліца Чапаева і бульвар Гедыміна мелі першую назву – вуліца Дварцовая (потым вуліца Пілсудскага). Вуліца з'явілася да 1910 г. пасля пабудовы новага чыгуначнага вакзала (ён і зараз стаіць на гэтым месцы) і злучыла вакзал з горадам. Назву атрымала ад таго, што зямля на захад ад замка раней належала «дварцу» – двару лідскага старасты.

26 мая 1911 г. былі выдадзены грошы на куплю прыватных палос зямлі для правядзення дарогі да станцыі Ліда ад Дваранскай вуліцы да пераезду. Прыкладна на месцы сучаснай вуліцы Труханава меліся сельскагаспадарчыя землі Дварцовай слабады (зараз проста Слабады), і жыхары Слабады не жадалі, каб вуліца даходзіла да чыгункі, бо трацілі свае агароды. У 1913 г., не выкупіўшы зямлі, гарадская ўправа пачала «перамовы з тэхнікамі аб нівеляванні Дваранскай вуліцы [зараз бульвар Гедыміна – Л. Л.] да шашы. За нівеляванне просяць 3 000 руб. З правядзеннем гэтай вуліцы, згодна з планам, да Слабады не згодныя сяляне, участкі якіх месцяцца за домам сп. спраўніка і не павінны адчужацца». З гэтай заметкі бачна, што лідскі спраўнік Яўген фон Гротэ дэ Буко – будучы генерал-маёр і кіраўнік лідскага беларускага нацыянальнага руху ў 1918 г. – меў дом на сучасным бульвары Гедыміна, недзе насупраць аўтавакзала.

Каля перакрыжавання старой вуліцы Перацкага з вуліцай Пілсудскага (першая назва – вуліца Дварцовая, зараз – бульвар Гедыміна, і вуліцай Чапаева) стаяў аднапавярховы драўляны дом, у якім падчас ваенных дзеянняў польска-савецкай вайны 1919–1920 гг. спыняўся Юзаф Пілсудскі. Таму ў 1920–30-я гг. сучасныя вуліцы Чапаева і бульвар Гедыміна атрымалі назву вуліца Пілсудскага.

Тагачасны лідскі ксёндз-дэкан Гіпаліт Баярунец пісаў: «Дня 29 верасня (1920 г.) у 11 гадзіне прыехаў у Ліду пан Начальнік Дзяржавы Юзаф Пілсудскі. Па-хуткаму сабраў дэлегацыю з лідскіх абывацеляў, шаўцоў, краўцоў, чыгуначнікаў, інжынера, які ўцёк з няволі, двух ксяндзоў, рушыў з імі на вуліцу «Пілсудскага» і падзякаваў яму за вызваленне Ліды. У суботу дня 02.X.1920 г. пан Начальнік Дзяржавы а 12-й гадзіне паснедаў у мяне ў плябаніі вельмі сціпла, правёў нараду з генераламі і адправіў у Вільню ўзбунтаванага генерала пана Жалігоўскага, легіянераў узнагародзіў Крыжамі валечных». Як бачым, з гэтай хаты пачынаўся паход генерала Жалігоўскага на Вільню і стварэнне Сярэдняй Літвы.

З 1926 па 1934 г. у горадзе працавала гарадская ці магістрацкая гуманітарная гімназія, да 1930 г. яна мясцілася ў доме па вуліцы Пілсудскага. Улетку 1928 г. гарадская гімназія атрымала ад улад права адчыніць 8-ы клас, «што з'яўляецца добрай адзнакай для прыватнай установы, якая існуе два гады». У чэрвені 1928 г. прэса змяшчае аб'яву, у якой 8-класная каадукацыйная гуманітарная гімназія магістрата горада Ліды аб'явіла прыём вучняў ва ўсе класы. На пачатку снеж-

ня 1929 г. у памяшканні гарадской гімназіі дырэктар гэтай навучальнай установы Генрык Пякарскі прачытаў лекцыю аб тэорыі адноснасці А. Эйнштэйна. Пры канцы жніўня таго ж года газета «Наваградскае жыццё» пісала: «Гімназія магістрата г. Ліды была перанесена ў грунтоўна адрамантаваны гмах п. Янушкевіча па вул. Замкавай, 25. ... Новае памяшканне значна лепшае за ранейшае па вуліцы Пілсудскага».

Да 1929 г. вуліца Пілсудскага ўжо была забрукавана.

На пачатку 1931 г. была заліта гарадская коўзанка пры збегу вуліц Пілсудскага і 17 красавіка (сучасная вуліца Камсамольская). Коўзанка працавала кожны дзень з 12 да 22 вечара, меўся гардэроб, а ўвечары электрычнае асвятленне.

У 1937 г. вуліцу грунтоўна адрамантавалі. І ў тым жа годзе ў прэсу патрапіла інфармацыя, што ў мясной краме Станіслава Чакана (Пілсудскага, 8) уначы было скрадзена ажно 200 кг сала! У сакавіку 1938 г. суд прыгаварыў паліцэйскага Алозія Лаўнічка да 3 гадоў турмы. Лаўнічак, падчас канваіравання з лідскага суда ў турму афіцыянткі Ушаковай (абвінавачвалася ў крадзяжы), зайшоў з арыштаванай у піўную на вуліцы Пілсудскага. У піўной паліцыянт добра выпіў з маладой жанчынай і, пэўна, не разлічыў свае сілы, бо Ушакова ўцякла.

# Другая палова вуліцы Каменскай (3-га Мая, Ленінскай). Будынак гімназіі Навіцкай

Пасля перакрыжавання з вуліцамі Перацкага і Фалькоўскага, па вуліцы 3-га Мая (былой Каменскай) у доме № 43 знаходзіліся: майстэрня мясніка і крама Яна Івуця, адчыненыя ў 1937 г.; гастранамічны бар Элеаноры Вячарковай, адчынены ў 1936 г., над барам – кватэра чыгуначнага касіра Ягейлы. У доме № 45, будынку былой жаночай гімназіі знаходзіўся аддзел Пракуратуры Акруговага Віленскага суда і Карны аддзел Акруговага суда. Зараз мураваны будынак гімназіі з'яўляецца часткай Лідскага ліцэя. Спынімся на гісторыі гэта месца.

14 красавіка 1901 г. дырэктар Віленскай дырэкцыі народных вучэльняў звярнуўся з хадайніцтвам да папячыцеля Віленскай навучальнай акругі з нагоды заявы жонкі штатнага наглядчыка Лідскай павятовай вучэльні Марыі Навіцкай (у дзявоцтве Снітко) аб дазволе ёй адчыніць у горадзе Лідзе прыватную 3-х класную з падрыхтоўчым класам жаночую вучэльню. Да хадайніцтва быў прыкладзены водгук Віленскага губернатара аб тым, што «жонка штатнага наглядчыка




Будынак жаночай гімназіі, пасля 1910 г.




Будынак жаночай гімназіі, пасля 1910 г.

Лідскага павятовай вучэльні Марыя Канстанцінаўна Навіцкая за час пражываньня ў г. Лідзе з 22 лістапада 1899 года пад судом і следствам не была і маральнай ды палітычнай неблагадзейнасці не праяўляла». Такім чынам, у дадатак да існых дзяржаўных, 7 кастрычніка 1901 г. у Лідзе была адкрыта прыватная жаночая трохкласная вучэльня з падрыхтоўчым класам. Арганізавала і ўтрымлівала вучэльню Марыя Канстанцінаўна Навіцкая – выпускніца Віленскай вышэйшай Марыінскай вучэльні.

Захавалася апісанне дома, складзенае Навіцкай М. К., у якім размяшчалася вучэльня: «Дом стаіць на Каменскай вуліцы і размешчаны ў двары, у 8 сажняў ад вуліцы. Ён абнесены плотам і абсаджаны з боку вуліцы кустамі бэзу і дрэвамі: ясенем, пірамідальным таполям і клёнамі. Тут жа за плотам, перад домам, невялікі вішнёвы садок і побач з ім кветнік. Шырыня двара 20 саж, даўжыня 28 саж. За домам, на поўдзень пачынаецца вялікі, нядаўна пасаджаны малады сад, шырынёй 20 саж, даўжынёй 62 саж. Сярод двара размешчаны будынак вучэльні. Дом аднапавярховы, драўляны, з мезанінам і шыкарным ганкам. Як дом, так і брама перад ім пабудаваны ў расейскім стылі. Плот, брама і дом пафарбаваны ў зялёны колер. Страха чырвоная. Аканіцы – шэрыя, рамы цёмна – карычневыя. Даўжыня дома – 38 арш., шырыня – 22 арш. У доме 8 пакояў і вітальня. Вокны і дзверы вялікія, столь высокая, у класах 5 арш. – 4 вярш., у зале 5 арш. – 8 вярш. Самы вялікі пакой – рэкрэацыйная зала, даўжынёю 19 арш., шырынёю 11 арш. У ёй знаходзяцца навучэнкі пад час перапынкаў і ў час урокаў танцаў ды музыкі. Зала асвятляецца 8 вокнамі, што выходзяць на двор, на сад і кветнік, (2-гі) насаджаны перад залай. Клазеты двух відаў: нутраныя, у доме, цёплыя і надворныя – халодныя. Суседнія дамы і справа з шырокім дваром: садам, злева – з агародам, Са сказанага бачна, што вакол дома шмат прасторы, зелені і, адпаведна,




Будынак жаночай гімназіі, злева бачны мураваны корпус гімназіі, каля 1914 г.

чыстага паветра. Дзякуючы насаджэнням ад вуліцы няма пылу і гразі». Гэтага драўлянага дома даўно ўжо няма, зараз тут стаіць Лідскі гарадскі ліцэй. Ад садоў і агародаў не засталося нічога.

15 лютага 1906 года бацькі звярнуліся да «спадарыні ўтрымальніцы» Лідскай прыватнай 4-хکласнай жаночай вучэльні з заяваю, у якой адзначаецца, што «вучэльня за чатыры года існавання зарэкамендавала сябе з добрага боку, многія выпускніцы вучэльні паступілі ў сярэднія жаночыя установы Вільні, Коўні, Кіева і др. Горад Ліда стаў вузлом дзвюх бойкіх чыгунак і таму колькасць жыхароў паступова павялічваецца, а з ім расце патрэбнасць у адукацыі". Бацькі просяць Марыю Канстанцінаўну ўзбудзіць хадайніцтва перад начальствам аб пераўтварэнні даверанай ёй вучэльні з будучага года ў прыватную 7 класную гімназію з усімі правамі. Пад гэтай заявай пастаўлены подпісы больш 30-ці бацькоў. Сярод бацькоў, якія падпісалі заяву за адкрыццё гімназіі быў і лідскі гарадскі стараста, губернскі сакратар Леон Вісмант. Прэса паведаміла, што ў красавіку 1906 г. «прыватная жаночая школа ў Лідзе спадарыні Навіцкай хадайнічае аб пераўтварэнні ў прагімназію». У верасні 1906 г. года М. Навіцкая і М. Палу яшчэ раз «падалі прашэнне куратару навучальнай акругі аб дазволе адкрыць у Лідзе 4-х класную прагімназію». І ў выніку – вучэльня пераўтвараецца ў прагімназію.

1 красавіка 1908 г. кіраўніцтва Лідскай прыватнай жаночай 7-класнай навучальнай установы звярнуўся з прашэннем да Папячыцеля Віленскай Навучальнай акругі, у якім хадайнічала аб ператварэнні жаночай гімназіі ў паўнапраўную прыватную жаночую гімназію. У прашэнні было зазначана:

1) Навучальная ўстанова існуе з 1901 г. і дала 4 выпускі да 1906 г., калі яна была ператворана ў прагімназію з правамі для навучэнак і дазволам штогадовага адкрыцця старэйшых класаў да складу поўнай гімназіі.

2) У выніку гэтага ў 1907 г. утрымальнікі адмыслова пабудавалі для гімназіі каменны двухпавярховы дом коштам 15 100 руб.

3) У 6-класным складзе ўстанова таксама выявіла сваю працаздольнасць – дэпутацкія экзамены прайшлі з поўнай паспяховасцю, не вытрымаўшых не было.

4) Каб паўнапраўна ўтрымліваць сваю гімназію, Ф.Л. Навіцкі, пакінуўшы педагагічную дзяржаўную службу паступіў у С. Пецярбургскі ўніверсітэт і атрымаў неабходны адукацыйны цэнз.

На працягу ўсяго дзевяцігадовага існавання навучальнай установы ўтрымальнікамі звярталася асаблівая ўвага на ўзмацненне хрысціянскага элементу і таму штогод вызваляліся ад платы за навучанне 9-12 хрысціянскіх дзяўчынак з беднага насельніцтва.

З гэтага дакумента ды даведваемся, што мураваная двухпавярховая гімназія была пабудавана каля 1907 г.

6 лістапада 1908 года ад разрыву сэрца памірае стваральніца Лідскай прыватнай жаночай прагімназіі Марыя Канстанцінаўна Навіцкая, але назва «Прагімназія Навіцкай» працягвае выкарыстоўвацца – у сувязі са смерцю жонкі, Фёдар Людвігавіч Навіцкі і выкладчыца прагімназіі Вера Сяргееўна Махцэвіч (у дзявоцтве Шыльдар, памочніца ўтрымальніцы) звярнуліся 1 снежня 1908 г. да Папячыцеля Віленскай Навучальнай акругі з прашэннем пакінуць назаўжды навучальнай установе назву «Прагімназія М. К. Навіцкай» з размеркаваннем абавязкаў; Ф. Л. Навіцкаму аддаць агульную адміністрацыйную ролю, г. з. старшынства ў педагагічнай радзе, запрашэнне на работу выкладчыкаў вядзенне канцылярыі і гаспадаркі, а В. С. Махцэвіч – вядзенне і кіраўніцтва навучальна-выхаваўчай часткай у прагімназіі. Пры канцы лістапада 1909 г. Фёдар Людвігавіч Навіцкі здаў іспыты ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце і атрымаў годнасць настаўніка гімназій і прагімназій з правам выкладаць гісторыю і геаграфію, пра што яму выдадзена пасведчанне за № 702 ад 8 сакавіка 1910 г. 17 верасня 1910 г. «Кур'ер Літоўскі» напісаў, што «25 жніўня ў Лідзе адкрыта прыватная гімназія Навіцкай з правамі дзяржаўнай школы».

Памяшканне гімназіі выкарыстоўвалася і як месца для гастроляў, з прэсы даведваемся, што ў верасні 1908 г. у зале гімназіі Навіцкай адбыўся «толькі адзін вечар гумару, прадстаўленне вядомага драматычнага артыста з Кракава Юзафа Харонжага». У нядзелю 31 сакавіка 1913 года «ў зале сп. Навіцкіх адбудзецца канцэрт вядомага гумарыста і аўтара, артыста СПБ-тэатраў Д. Багемскага. Разам з ім ў канцэрце прыме ўдзел тэнар Д. А. Растан, лірычныя песні і цыганскія рамансы выканае О. В. Мірава, акампанемент на піяніна — Г. З. Зіноўеў. Квіткі можна набыць у краме "Труд"».

У 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна. У жніўні 1914 г. для мабілізаваных жаўнераў часова быў рэквізаваны будынак жаночай гімназіі Навіцкіх па вуліцы Каменскай. «Памятная кніжка Віленскай губерні на 1915 год» надрукавала апошнюю інфармацыю пра «Лідскую прыватную жаночую гімназію Ф. Л. і В. С. Навіцкіх» (існуе з 21 чэрвеня 1910 г.): «Папячыцельны савет гімназіі. Сталыя члены: заснавальнік гімназіі Фёдар Людвігавіч Навіцкі і Вера Сяргееўна Навіцкая. Старшыня савета Лідскі павятовы прадвадзіцель дваранства, граф Людвіг Уладзіслававіч Грабоўскі. Члены: удава сапраўднага стацкага саветніка Ніна Георгіеўна Смальян, Елізавета Дзмітрыеўна Скосырава, Екацярына Пятроўна Пятухова, Эміль Сцяпанавіч Буткевіч, калежскі саветнік Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко, надворны саветнік Леў Вісмант.

Настаўнікі гімназіі: Старшыня педагагічнага савету, выкладчык гісторыі і геаграфіі, ганаровы грамадзянін горада Ліда, калежскі саветнік Фёдар Людвігавіч Навіцкі, начальніца гімназіі Вера Сяргееўна Навіцкая, законавучыцелі: праваслаўнага веравызнання, святар Іоан Якаўлевіч Цэбрыкаў, рыма-каталіцкага – ксёндз Франц Ратынскі, іудзейскага – Абрам Маркавіч Шэйнгольд. Выкладчыцы рускай

мовы і гісторыі Аляксандра Васільеўна Абаімава, выкладчык матэматыкі і фізікі Віталій Дамінікавіч Булат, выкладчык рускай мовы ў малодшых класах Антаніна Вітальеўна Павецкая, выкладчыца французскай мовы Людміла Уладзіміраўна Кузьмінская, выкладчык нямецкай мовы Элізабет Карлавіч Віганд, выкладчыца рукадзелля Анна Гаўрылаўна Ярмаловіч, выкладчыца чыстапісання Мікалай Васільевіч Сямёнаў, класныя назіральніцы: Аляксандра Кіпрыянаўна Лебедзева, Анна Пятроўна Цэбрыкава, Антаніна Іванаўна Павецкая, Анна Гаўрылаўна Ярмаловіч, вакансія настаўніка музыкі не занята».

Вера Сяргееўна Навіцкая да Першай сусветнай вайны атрымала вядомасць як дзіцячая пісьменніца. Менавіта ў Лідзе, паміж 1909 і 1914 гадамі, Навіцкая піша большасць сваіх кніг. Усе яны друкуюцца ў Санкт-Пецярбургу: «Заветные уголки: рассказы для детей» (1911), «Безмятежные годы» (1912), «Первые грезы» (1913), «Басурманка» (1914), «Наташа Славина» (1914), «Галя» (1914). Вера Сяргееўна пісала ў часы, калі адцвіталі апошнія кветкі сімвалізму, таму яго ўплыў не абышоў і яе. Кнігі яе зразумелыя, чыстыя і на першы погляд немудрагелістыя: дзеянні іх адбываюцца ў своеасаблівым дзіцячым раі. У апошніх кнігах фон трохі змяняецца — гераіня паступае ў гімназію, вучыцца, наведвае оперу, спасцігае жыццё. Вера Сяргееўна Навіцкая супрацоўнічала з дзіцячым часопісам «Крыніца», дзе друкаваліся яе апавяданні. Апошнім часам усе кнігі лідскай аўтаркі перавыдадзены.

У верасні 1915 г. як і большасць іншых установаў горада жаночая гімназія эвакуіруецца ў глыб Расіі. Навіцкія больш ніколі не вернуцца ў Ліду.

З пачатку 1920-х гг. у мураваным двухпавярховым будынку былой гімназіі Навіцкай да 1932 г. размяшчалася дзяржаўная Лідская гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча (3-га Мая, 45). Гімназія пачала працаваць ў 1921-х г. хутка да цаглянага будынка была прыбудавана драўляная аднапавярховая спартзала.




Дзяржаўная гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча, 1920-я гг.



Дзяржаўная гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча, 1920-я гг.

Гэта навучальная установа мела самы высокі ранг у горадзе. Галоўным корпусам гімназіі быў корпус па вуліцы 3-га Мая (сучасны лідскі ліцэй), а філіял размяшчаўся «пры адной з кароткіх і вузкіх вулачак, якія адходзілі ад Сувальскай і ўжо праз некалькі дамоў утыкаліся ў бліжняе балота. Быў гэта цесны двухпавярховы дом з цэглы. Класы былі невялікія, парты стаялі адна пры адной. Праходы паміж імі былі вузкія, кафедра напірала на першую з лавак, словам нязручнасцяў было вышэй галавы. Вучыліся тут мужчынскія класы ад першага па пяты. Тры старэйшыя – агульныя – і жаночыя класы размяшчаліся ў т. зв. галоўным корпусе, на вуліцы Трэцяга Мая» – пісаў пісьменнік Ежы Путрамент, выпускнік лідскай гімназіі. З яго мемуараў можна даведацца шмат цікавага пры гімназістаў і настаўнікаў.

Пасля выпускных экзаменаў 1928 г. у Лідскай гімназіі газета «Слова» пісала пра строгасць дырэктара гімназіі Мяноўскага: з 57 выпускнікоў гімназію з атэстатам яе закончылі толькі 37 чалавек, астатнія не здалі выпускныя іспыты, што газета тлумачыла лянотай саміх вучняў. Але «Кур'ер Віленскі» прысвяціў Лідскай гімназіі вялікі артыкул, у якім паказваліся сапраўдныя прычыны правальных экзаменаў. Нехта з лідзян у гэтым артыкуле пісаў «пра дрэнны настрой і зло», якія пануюць ў галоўнай навучальнай установе павета: сярод вучняў стымулюецца шпіёнства і даносніцтва, шэраг настаўнікаў з Малапольшчы не мае неабходнай адукацыі, але лічаць нармальным для сабе «ўжываць пустапарожнюю фразеалогію і публічна ганарыцца сваім высокім генеалагічным паходжаннем ... . Гэтыя настаўнікі прывезлі з Малапольшчы (не ідзе размова аб усіх настаўніках з Малапольшчы) спецыфічныя адносіны да нас, жыхароў Усходніх земляў ...». Вучні, якія адмаўляліся шпіёніць за сваімі сябрамі, атрымлівалі ад такіх настаўнікаў мянушку «бандыт» і правальваліся на экзаменах. «Апякунская рада гімназіі і бацькі вучняў павінны патрабаваць замены часткі настаўнікаў і расказаць, чаму гімназія мае такія вынікі ... экзаменаў. Для нас, жыхароў Ліды гэта вельмі важная справа павінна быць вырашана як найхутчэй». Бацькі гімназістаў падзяліліся на два лагеры – у адным лагеры падтрымлівалі «строгасць» дырэктара Мяноўскага і экзаменацыйнай камісіі, у другім бацькоўскім лагеры лічылі вінаватымі педагогаў-прыхаднях. У студзені і лютым 1929 г. гімназію праверыла адмысловая камісія



Корпус гімназіі Навіцкай, здымак 2010 г.

і Тэадор Мяноўскі з пасады дырэктара гімназіі быў пераведзены выкладчыкам у Віленскі ўніверсітэт. А ўвечары 13 траўня 1929 г. адбылося дзіўнае здарэнне, якое, было працягам экзаменаў 1928 г.: нехта паклаў гранату са знятым засцерагальніка каля дзвярэй кватэры настаўніка гімназіі Калісевіча (вул. Пілсудскага, 9, сучасны бульвар Гедыміна): «Паліцыя пачала расследаванне».

З 26 па 30 мая 1930 г. у Дзяржаўнай гімназіі праходзілі экзамены выпускнікоў. Экзаменамі кіравалі начальнік II аддзела Кураторыюма адукацыі Ян Бобка і новы дырэктар гімназіі Вацлаў Белакоз. На гэта раз скаргаў бацькоў не было.

Месца з старых будынках не хапала і ўжо у 1925 г. з'явішся першасны праект новай лідскай гімназіі. Праз нейкі час будаўніцтва было закончана і 12 лістапада 1930 г. адбылося ганаровае адкрыццё і асвячэнне новага будынка гімназіі – сучаснага каледжа па вуліцы Міцкевіча. Але пра гэты будынак я пісаў ў папярэдніх главах.

Пасля перасялення Дзяржаўнай гімназіі, Гарадская рада перадала два былыя будынкі гімназіі (па вул. 3-га Мая, 45 і Камерцыйнай, 14) агульным коштам 54 000 злотых лідскай філіі Віленскага Акруговага суда. І тут адбыўся скандал. Справа ў тым што ўладальнікам гэтага дома была заснавальніца Лідскай жаночай гімназіі Марыя Канстанцінаўна Навіцкая. Пасля яе смерці ў 1908 г. дом перайшоў у пажыццёвую ўласнасць яе мужу але, і верагодна, Навіцкі не меў права прадаць ці здаць у арэнду гэтую маёмасць. Адразу пасля ўсталявання польскай улады ў гэтым доме пачала працаваць гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча. Пасля 1920 г. маёмасць часова не мела ўладальніка бо Навіцкі жыў ў Маскве. Будынак гімназіі курыраваўся дзяржавай – над ім была прызначана апека ў асобе дырэктара. У 1927 г. Фёдар Навіцкі, праз пасрэдніка, былога лідскага спраўніка і свайго сябра Гротэ дэ Буко (які з 1930 г. жыў у Вільні) прадаў віленскаму адвакату Слаўцілу за 3 000 даляраў.

У 1930 г. у газеце «Навагрудскае жыццё» з'явіўся выкрывальніцкі артыкул, у якім сцвярджалася, што ўся справа ў Лідзе знаходзілася ў руках «прыяцеляў, калег і крэўных» Навіцкага і Слаўцілы. Магістрат Ліды за 3 гады арэнды гмаха

гімназіі (з 1927 па 1930 гг.) выплаціў 30 000 злотых – больш за кошт яго продажу, таму каб не незаконны па меркаванню газеты, продаж будынку, дык гэта маёмасць па-закону аўтаматычна сталася б дзяржаўнай з 1 студзеня 1931 г. Адбыўся суд які стаў на бок адваката Слаўцілы і газета была пакараная за паклёпніцтва.

16 сакавіка 1931 г. у Ліду з Вільні, для кантролю рамонту ў будынках, дзе меў размесціцца суд, прыехаў віца-пракурор Акруговага суда. Ён агледзеў гмахі на вуліцах Камерцыйнай і 3-га Мая. На пачатку кастрычніка таго ж года з удзелам прэзідэнта віленскага Акруговага суда Кадушкевіча будынкі лідскай філіі суду былі асвечаны, суд пачаў працаваць, непасрэдна пасяджэнні суда адбываліся ў драўлянай прыбудове – былым спартыўным зале гімназіі. Да 1939 г. года будынак быў маёмасцю адваката Слаўцілы які здаваў яго ў арэнду суду.

З 1939–41 гг. у гэтым будынку размяшчалася СШ № 3 з беларускай мовай выкладання.

З ліпеня 1941 па лета 1944 г. ў былым будынку гімназіі немцы арганізавалі лагер, для бежанцаў з Ленінградскай і Смаленскай абласцей. Інфармацыі пра гэты лагер вельмі мала.

З верасня 1944 г. тут працавала няпоўная сярэдняя школа № 3 з польскай мовай выкладання. З 1 верасня 1945 г. школа стала называцца рускай няпоўнай сярэдняй школай № 3. У 1951 г. школа стала 9-ці класнай а потым і сярэдняй. У 1958 г. да усходняга боку будынка была збудаваная двухпавярховая прыбудова са спартовай залай на першым паверсе і класнымі пакоямі на другім а ў 1964 г. была пабудаваная другая заходняя прыбудова, там размясцілі другую лесвіцу, якая злучала першы і другі паверхі, і туды ж зрушылі ўваход.

У 2010 г. былы будынак быў цалкам рэканструяваны і зараз у ім немагчыма пазнаць былую гімназію Навіцкай. У гэтым гмахе сёння працуе гарадскі ліцэй.

# Заканчэнне вуліцы Ленінскай (Каменскай, 3-га Мая). Будынак турмы

У 1930-я гг. далей на захад, за будынкам гімназіі па вуліцы 3-Мая (Каменскай, Ленінскай) у доме № 53 прадавалася разліўное піва віленскага бровара «Шапэн» – галоўнага канкурэнта лідскага бровара Пупко. У доме № 69 мясцілася канцылярыя адваката Баляслава Баярчыка. Дом № 73 належаў сям'і Карповічаў, а жыў у ім Міхал Станкевіч, легіянер, сяржант рэзерву, цывільны супрацоўнік раённага ваенкамата (Rejonowej Komendy Uzupelnien). У драўляным доме № 75, апошнім перад турмой, у канцы 1930-х гадоў і ў пазнейшы час жыў доктар Баляслаў Дзічканец.

Управа турмы і гмах карна-следчай турмы мелі № 77. Дом начальніка турмы знаходзіўся ў глыбіні тэрыторыі, за агароджай турмы.

**Лідская турма.** У Гродзенскім гістарычным архіве захоўваецца справа аб будаўніцтве ў Лідзе першай турмы. Справа распачата ў 1820 і закончана ў 1825 г., на будаўніцтва было выдадзена 128 311 руб. 1½ кап. асігнацыямі. Аднак падобна на тое, што турма была пабудавана толькі пасля паўстання 1831 г., бо менавіта ў сакавіку гэтага года віленскі і гродзенскі генерал-губернатар атрымаў загад: «...знайсці магчымасць будаўніцтва ў павятовым горадзе Лідзе астрога для размяшчэння палонных інсургентаў». Месца пад астрог было выбрана ў канцы вуліцы Каменскай, на Гродзенскім тракце (цяпер гэта комплекс будынкаў лідскай друкарні, адрас: Ленінская, 23). На плане горада ад 1842 г. ужо пазначаны «Гарадскі астрог», і бачна, што ён складаўся з двух будынкаў рознага памеру, агароджаных агульным плотам. Вядома, што паводле «Будаўнічага Статуту Расійскай Імперыі» турэмныя будынкі і астрогі ў абавязковым парадку павінны былі абносіцца мураванай сцяной.

Будынак, які стаяў на паўночным боку астрога, пазначаны на генплане 1869 г. і апісаны як мураваны вартавы дом з трыма пакоямі. Зараз гэты будынак не існуе. На тым жа плане быў пазначаны «новазбудаваны мураваны будынак кухні, пральні, лазні і склада». Гэты гмах часткова адпавядаў аднаму з будынкаў, які існаваў да 2010 года.

Недзе з канца 1869 г. астрог перароблены і пачынае называцца лідскім турэмным замкам. На тэрыторыі турэмнага замка з'яўляюцца новыя будынкі: двухпавярховы мураваны і аднапавярховы (з усходняга боку ўчастка). З паўночнага боку ўчастка стаіць стары аднапавярховы мураваны будынак. Пазней, да канца XIX ст., на адлегласці 8 м ва ўсходнім кірунку ад галоўнага будынка з'яўляецца яшчэ адна пабудова. Пасля ўсіх гэтых даробак у Лідскай турме могуць адбываць пакаранне да 100 вязняў.



Лідская турма на аэрафотаздымку, жнівень 1944 г.

У 1903–1908 гг. колішні комплекс лідскай турмы падвяргаўся рамонту, галоўны двухпавярховы будынак злучылі ў адно цэлае з пабудовамі на ўсход ад яго. У гэты час справа ад уваходу на турэмны двор з'явілася вартавая мураваная вышка са шкляной страхой і зашклёнымі бакавымі шыбамі. Вартавы быў захаваны ад ветру і мог бачыць увесь двор і тэрыторыю за сцяной.

Тым не менш на пачатку XX ст. было здзейснена некалькі ўцёкаў з лідскай турмы. Газета «Кур'ер Літоўскі» пісала пра спробу ўцёкаў 24 верасня 1906 г.: «Шасцёра зняволеных, якія знаходзяцца пад следствам, скарыстаўшыся невялікай колькасцю ахоўнікаў, здзейснілі спробу ўцячы з турмы. ...калі дзяжурны ахоўнік адкрыў дзверы камеры, усе яны кінуліся на яго, уцягнулі ў камеру, забралі рэвальвер і ключы і выпусцілі ўсіх зняволеных. Падняўся вялікі шум, які пачуў другі ахоўнік. Ён закалоў штыком узброенага рэвальверам арыштанта і прымусіў астатніх зняволеных разысціся па камерах. Аднак адзін са зняволеных, нехта Пятроў, паспеў збегчы з турмы». А 28 сакавіка 1911 г. з лідскай турмы ўцяклі Пётр Мілашэвіч (17 гадоў) і Караль Альшэўскі (19 гадоў).

У нумары ад 22 лютага 1913 г. газета «Лідскае слова» пісала: «19-га лютага святкаваўся дзень вызвалення сялян ад прыгону, а 21-га – дзень 300-годдзя дома Раманавых... 21 лютага па амністыі з-за 300-годдзя дома Раманавых з лідскай турмы былі вызвалены 80 чалавек...».

З пачаткам Першай сусветнай вайны злачыннасць павялічваецца. У снежні 1914 г. «...абакралі... краму купца Кагана, з якой выцягнулі розных мануфактурных тавараў (аксаміты, паркалі і інш.) на тысячы рублёў. Злодзеяў не злавілі». А на пачатку 1915 г. газеты паведамілі: «Ліда. Адсюль уцёк банкір Янушкевіч, зрабіўшы на мільён рублёў даўгі. Пра гэта піша «Утро России». А праз месяц арыштавалі начальніка лідскай турмы: «Ліда. Начальнік лідскай турмы С. Пяткевіч абвінавачаны за прысваенне сабе 824 рублёў 96 капеек, з якіх частка прыназначана была на прыбаўку жалавання надзірацелям, частка належала арыштантам, а частка з прададзенай мукі, якая павінна была ісці арыштантам. Справу будзе разбіраць Віленская судовая палата, а тым часам начальніка турмы пасадзілі ў турму».

У 1926 г. у Лідскай турме пачынаў адбываць пакаранне за ўзброены напад з рабаваннем непакорлівы Сяргей Пясецкі. Лідская турма ў канцы 1925 г. была адрамантавана, і прэса пісала, што яна «можа задаволіць нават суровую інспекцыю». Але інспекцыю Пясецкага турма не прайшла. Асуджаны выведнік і перамытнік, убачыўшы дрэннае стаўленне да вязняў, крадёж і махлярства кіраўніцтва турмы,

узняў бунт, пасля падаўлення якога, як лідар і падбухторшчык, тры месяцы насіў кайданкі. За далейшыя падбухторванні да бунту ён быў пераведзены з лідскай турмы ў турму горада Равіч, што ў Заходняй Польшчы. Але і тут ён пачаў рыхтаваць бунт вязняў і таму быў пераведзены ў турму горада Каранаў. Далей як лідар паўстання ў Каранове трапіў у турму з самым строгім у Польшчы на той час рэжымам – у Свенты Крыж. З усяго свайго турэмнага тэрміну Пясецкі два гады адбыў у ізалятары. На яго асабістай справе было напісана: «Небяспечны». Потым ён атрымаў славу як аўтар сенсацыйных аповесцей, напрыклад «Каханак Вялікай Мядведзіцы» ці сатырычнага рамана «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі».

На пачатку 1930 г. за спробу ўцячы судзілі вязняў лідскай турмы Іпатава, Казакоўскага і Груздоўскага. Уцекачы прабілі ход з сваёй камеры на другім паверсе ў памяшканне, якое знаходзілася пад імі, – у кухню. Тут на іх натрапіў турэмны наглядчык Шмігін. Вязні ўтрох кінуліся на наглядчыка, прычым Казакоўскі ўхапіў кухонны нож. Але на шум прыбеглі іншыя наглядчыкі турмы, і ўсе трое зноў апынуліся за кратамі. Акруговы суд у Вільні прысудзіў Казакоўскаму 10, а астатнім па 9 гадоў турмы. Апеляцыйны суд у два разы паменшыў тэрміны, а вышэйшы суд у Варшаве пакінуў вырак апеляцыйнага суда.

25 красавіка 1932 г. па выраку ваенна-палявога суда да смерці праз павешанне былі прыгавораны савецкія шпіёны Іосіф Турбач і Міхал Чаховіч. Позна ўначы 26 красавіка прыйшла адмова прэзідэнта Польшчы памілаваць шпегаў, і раніцай 27 красавіка кат, што прыехаў з Варшавы, павесіў абодвух на дзядзінцы лідскай турмы.

21 верасня 1933 г. тут быў павешаны Манькоўскі Міхаіл Міхайлавіч, 56 гадоў, прыгавораны ваена-палявым судом да смяротнай кары за выведніцкую дзейнасць на карысць СССР.

У 1932 г. некалькі краёвых газет надрукавалі наступную цікавую аб'яву: «Лідская турма просіць прыносіць ёй кнігі для зняволеных на польскай, беларускай і рускай мовах».

Да канца 1930-х беларускі рух у Лідзе быў практычна ліквідаваны. Кампартыя Заходняй Беларусі дзейнічала ў падполлі. У 1937 г. віленскае «Слова» перадрукоўвала з газеты «Польскі Меркурый» фрагмент характэрнага ліставання двух маладых камуністаў з Ліды. Нейкі Апанас піша да Восіпа, які ў гэты час служыць у войску (ліст напісаны па-беларуску): «...арыштавалі Мішку, Голдэнберга, Віцьку, але ты, Осіпка, не бядуй, у турме іх толькі трошкі патаўклі, а ў морду ніхто не даў, дык ніхто і не прызнаўся. Дзела не такое і кепскае...».

Розныя выпадкі здараліся падчас канваіравання вязняў па горадзе. Увосень 1937 г. на вуліцах горада памёр вязень турмы Ян Запаснік, паліцэйскі вёў яго з турмы ў суд. У сакавіку 1938 г. падазраваны ў крадзяжы ровара Вінцэнт Агар уцёк ад канваіра, калі той вёў яго з допыту ў турму. Паліцыянт Казлоўскі стрэліў тры разы ў аматара ровараў, але не патрапіў. Пры канцы 1937 г. з лідскай турмы ўцёк нейкі Уладзіслаў Чак, ён адбываў кару ў 8 гадоў за крадзёж.

Трэба заўважыць, што злачыннасць у Заходняй Беларусі ў той час была невысокая. Найчасцей здараліся розныя бытавыя злачынствы. Пра гэта кажа інфармацыя газеты «Слова»: «Сярод злачынцаў, якія адбываюць кару ў лідскай турме, 80 % вязняў – людзі з вёскі. 60 % з іх пакараныя за нелегальныя плантацыі тытуню і выраб самагонкі».

Адразу за будынкам турмы стаялі дзве драўляныя хаты, гаспадаром якіх быў расіянін Лебедзеў. У адной з хат быў яўрэйскі сіроцкі прытулак. Далей, па вуліцы 3-га Мая, да чыгуначных рэек, знаходзілася яшчэ некалькі драўляных аднапавярховых дамоў. У адным з гэтых дамоў, у доме з агародам пад № 85, жыў спадар Анастас Д. Рудзецкі, дзяржаўны чыноўнік. Блізкімі суседзямі Рудзецкага былі спадарства Мізгальцы і Зянталавы.

Лёс апошняга начальніка польскай турмы, падкамісара Яна Карбоўніка пасля ягонага арышту савецкай уладай невядомы.

У 1939–1941 гг. пры «першых Саветах» турма была перапоўненая, праз яе прайшла значаная колькасць лідзян. У студзені 1940 г. савецкія ўлады змянілі назву вуліцы 3-га Мая на вуліцу Ленінскую. У гэты час у турме сядзела шмат лідскай інтэлігенцыі. Сведка тых падзей Мечыслаў Пуйдак успамінаў: «Бачыў тых арыштаваных… у турме на Каменскай (па вуліцы 3-га Мая), чаргу гараджан, якія жадалі аддаць перадачу вязням ці даведацца пра лёс сваіх родных».

23 чэрвеня 1941 г. начальнік пункта супрацьпаветранай абароны ў Лідзе капітан-зенітчык Сумараў, сярод іншага, дакладваў свайму кіраўніцтву: «Пасля бамбардзіроўкі горада ўсё кіраўніцтва: гарсавет, РК і гаркам ВКП(б), дырэктары прадпрыемстваў, міліцыя і НКУС пакідалі свае пасты і збеглі. Горад застаўся без усякага кіравання… Варожыя элементы пачалі расцягваць ваенныя склады, якія пакінуты… без усякай аховы… Турма была распушчана. Палітвязні былі таксама распушчаны. … Паведамляю, што кіраўнікі складоў… камендант станцыі, камендант горада, райваенкам пры першай бамбардзіроўцы збеглі з горада, пакінуўшы склады, станцыю… Мясцовае кіраванне НКУС распусціла з турмы палітзняволеных…». Як бачым, героі-НКУСаўцы разам з усёй новай уладай збеглі пасля першага ж стрэлу і, на шчасце лідзян, не выканалі інструкцыю – не расстралялі палітзняволеных у турме (у шмат якіх гарадах яны гэту інструкцыю выканалі).

Лідзянін Вітольд Драмовіч сядзеў у лідскай турме ў 1942 г. З яго мемуараў вядома, што брама ў турэмным плоце была жалезнай, з малым зачыняемым акенцам. У маленькіх камерах меліся нары з дошак, столік на металічных ножках і табурэтка каля яго. У куце камеры вісеў прымітыўны ўмывальнік. Таксама ў камеры меўся вялікі бляшаны збан і два старыя вядры. Адзінай слабай крыніцай святла было закратаванае акенца высока ўгары. Турэмны паёк складаўся з кавы, кавалка чорнага хлеба і супу. Пасярод турэмнага двара мясціўся барак на 200 месцаў, у якім трымалі яўрэяў. Яны ўвесь дзень працавалі ў горадзе, а на ноч пад наглядам вартаўнікоў вярталіся ў гэты барак. Вось як Драмовіч апісаў яго: «Унутры барак на абодва яго бакі запаўнялі два рады дошак, пакладзеных адна пры другой па ўсёй даўжыні барака. На дошках ляжалі ў беспарадку часткі вопраткі, нейкія скруткі, лахманы». На турэмным двары стаяла мураваная вартавая вежа.

Падчас нямецкай акупацыі турма была запоўнена. У былой краме спадарыні Жакевіч (удава афіцэра 5-га лётнага палка), якая мясцілася насупраць турэмнай брамы, праводзіўся прыём прывезеных і ўлік вывезеных вязняў, бо вялікія грузавікі, якімі іх прывозілі, не маглі праехаць праз вузкую і невысокую браму. Тут жа, у доме Сеўрука, была піўная для немцаў, а ў адным з дамоў каля турмы Сямак трымаў рэстаран.

У 1947–51 гг. у турме знаходзілася дзіцячая працоўная калонія для малалетніх злачынцаў. Тут збіралася беспрытульная моладзь з усяго Савецкага Саюза.



Будынкі Лідская тыпаграфіі (справа), якіх ужо няма, здымак сярэдзіны 1970-х гг.

У 1964 г. увесь былы комплекс гарадской турмы быў перададзены лідскай друкарні, якая займае яго і зараз. У 1965 г. у будынках правялі рамонт і прыстасавалі памяшканні пад друкарню. Была знесена сцяна і ўваход з аркай. Паступова двухпавярховы будынак аброс прыбудовамі, быў пабудаваны аднапавярховы будынак пад гараж і склад. Аднапавярховы будынак былога лідскага астрога другой паловы XIX ст. быў знесены, ад астрога застаўся толькі двухпавярховы будынак, у якім зараз размяшчаюцца асноўныя вытворчыя магутнасці лідскай друкарні.

# Паўночны бок вуліцы 3-га Мая (Каменскай, Ленінскай)

Ад турмы па супрацьлегламу боку вуліцы вяртаемся назад.

Зараз на гэтым боку вуліцы захаваўся толькі двухпавярховы дом, пабудаваны ў 1928 г., зараз – дом № 22 па вуліцы Ленінскай. На гэтым доме да нашага часу маецца знак «Дом магістрата г. Ліда», у 1928 г. прэса пісала: «У горадзе з'явіліся толькі што набытыя і адрамантаваныя дамы з знакам "Дом магістрата"».

Далей на захад ад дома магістрата па паўночнаму боку вуліцы стаялі:

дом № 38 – шавецкая майстэрня Міхала Саўкі, адкрыта ў 1935 г.;

дом № 48 – хімічная пральня Р. Шатроўскай, дзейнічала з 1934 г.;

дом № 50, тут жыў Міхал Багатыроў, інжынер, пілот паветраных шароў, лётчык.




Рэпартаж з пажару пры канцы вуліцы Каменскай (у той час Гродзенскай), 1917 г.



Рэпартаж з пажару пры канцы вуліцы Каменскай (у той час Гродзенскай), 1917 г.

Пра гэтага жыхара Лиды трэба расказаць падрабязней.

Лётчык-інжынер Міхаіл Багатыроў (1887–1964) нарадзіўся ў Вільні. Лётную кар'еру пачаў у 1908 г. у паветраплавальных частках. Афіцэр царскай арміі, інжынер Міхаіл Багатыроў пабудаваў у 1910 г. у Моньках каля Беластока самалёт па схеме «качка», які атрымаў назву «Качка Надзея», тады ж прадставіў увазе публікі ў Пецярбургу планёр уласнай канструкцыі. У гэтым жа годзе прыняў удзел у рэкордным палёце паветранага шара з Гатчыны пад Пецярбургам да ўзбярэжжа Белага мора (950 км).

Доўгі час прымаў актыўны ўдзел у працы аэра- і аўтамабільнага клубаў. У 1913 г. выкладаў тактыку паветранага флоту афіцэрам Генеральнага штаба. У 1915 г. быў лётчыкам Асавецкай крэпасці. Потым займаў пасады начальніка школ механікаў, аэрафатаграфіі і авіямайстэрняў, якія абслугоўвалі ўвесь рускі Заходні фронт. Уганараваны шматлікімі ўзнагародамі часоў Першай сусветнай вайны.

З 1918 г. працаваў у польскай прамысловасці. У 1920-х гг. жыў у Познані, быў канструктарам самалётаў на фабрыцы «Самалёт». У 1925 г. сканструяваў планёр «Мядзведзь» («Miś»). Ён заняў першае месца на II Усепольскім конкурсе планёраў. Для гэтага ж конкурсу пад кіраўніцтвам М. Багатырова быў пабудаваны і планёр «Матылёк» («Motyl»). Адным з першых пачаў распрацоўваць турбарэактыўныя авіяцыйныя рухавікі.

У 1930-я гг. Міхаіл Багатыроў жыў у Лідзе, працаваў у 5-м авіяцыйным палку. Аўтар шэрагу патэнтаў у галіне авіяцыі, напрыклад, 24 лютага 1939 г. атрымаў патэнт на прыстасаванне для навучання парашутыстаў. У часы Другой сусветнай вайны ваяваў у Англіі.

Дом № 68 – Вытворчасць мэблі Юзафа Хадарука, адкрыта з 1935 г.
Дом № 90 – Краёвы кааператыў чыгуначнікаў, адкрыты ў 1922 г.
Дом № 100 – Доктар Станіслаў Візгірд і капітан Міхальскі.




Рэпартаж з пажару пры канцы вуліцы Каменскай (у той час Гродзенскай), 1917 г.

Пры канцы, з правага боку вуліцы 3-га Мая жыло спадарства: Дзічканцы (Юзаф, землямер, удзельнік вайны 1918–1920 гг., аўтар кнігі «Самаабарона лідскай зямлі»), Ёнкайцісы, Нарушэвіч, Сямашка (краўчыха), Валошкі (капітан жандармерыі), Ратушынскі – падпалкоўнік, камендант раённага ваенкамата, Чучманаў – інвалід вайны, Шагуноў і іншыя. Юндзіл меў тут фотамайстэрню, Цыгельскі – цырульню.

Тут жа жыў і апошні бургамістр Ліды Юзаф Задурскі (1886–1976).

Юзаф Задурскі меў гімназічную адукацыю. У часы Першай сусветнай вайны з 1914 г. служыў у 1-м пяхотным палку легіёнаў, потым у 5-м пяхотным палку легіёнаў, належаў да Польскай вайсковай арганізацыі. З 1918 г. служыў у польскай арміі. У 1922 г. стаў вайсковым асаднікам. Пасля заканчэння вайны прымаў актыўны ўдзел у сельскагаспадарчых арганізацыях, абіраўся прэзідэнтам розных аддзелаў Асацыяцыі легіянераў польскіх войскаў і Федэрацыі польскага Саюза абаронцаў Айчыны.

У 1930-я гг. Юзаф Задурскі быў бургамістрам Ліды. У 1935 г. ад выбарчай акругі № 50 (Лідскі і Валожынскі паветы) ён быў абраны паслом 4-й кадэнцыі Сейма РП (1935–1938 гг.). У Сейме працаваў у юрыдычнай камісіі.

Падчас Другой сусветнай вайны трапіў у савецкія лагеры. Быў вызвалены для службы ў польскай арміі і служыў афіцэрам пры штабе польскага II корпуса на Блізкім Усходзе. Атрымаў чын маёра. Перайшоўшы ў запас, працаваў у Лонданскай бібліятэцы. Памёр у Лондане.

Паралельна вуліцы 3-Мая ішла вуліца Маргі. Тэрыторыя сучаснага мікрараёна Касманаўтаў з сярэдзіны XVI ст. называлася Куроўшчына (Кураўшчызна). Каля 1550 г. вёска Куроўшчына належа-



Рэпартаж з пажару пры канцы вуліцы Каменскай (у той час Гродзенскай), 1917 г.

ла Куроўскім. На працягу XVII ст. яна пераходзіла ва ўласнасць Кулешаў, Гадэбскіх і нарэшце дасталася мсціслаўскаму ваяводу Аляксандру Масевічу, які ў 1696 г. запісаў яе на карысць лідскага касцёла. У 1854 г. Куроўшчына перайшла ва ўласнасць горада Ліды ў абмен на фальварак Зарэчча. Лідскі дэкан ксёндз Дзіянісі Хлявінскі (дарэчы, сябар Адама Міцкевіча і філамат) зямельную маёмасць з Куроўшчыны перанёс у Зарэчча. У 1920-х назва Куроўшчына знікла, з'явілася новая – Маргі (морг – участак зямлі плошчаю 0,71 га). Пісьменнік Ежы Путрамент успамінаў пра Ліду 1920-х гг., якая, як быццам, складалася з вёсачак: «…Была яшчэ чацвёртая




Рэпартаж з пажару пры канцы вуліцы Каменскай (у той час Гродзенскай), 1917 г.

вёска, самая цікавая, якая называлася Маргі. Злучалася яна з вуліцай 3-га Мая, але заставалася звычайнай вёскай з "жураўлямі" на студнях, хатамі, пакрытымі саломай, сваім статкам жывёлы, які пасвіўся на выгане...».

У кастрычніку 1937 г. жыхары вуліцы Моргі прасілі гарадскія ўлады адрамантаваць іх вуліцу, каментуючы гэтую просьбу, прэса пісала: «У бягучым годзе, дзякуючы пану бургамістру горада, вуліца Маргі была пашырана і знівеліравана, а ходнікі падсыпаны жвірам. Далейшы рамонт вуліцы быў спынены з-за адмовы ўладальнікаў прылеглай да вуліцы зямлі Франца Стасевіча і Мойшы Рыбацкага. Аднак рамонт і падаўжэнне гэтай вуліцы да вуліцы 29 студзеня неабходны з-за павелічэння руху транспарту па ёй пасля пераносу рынка за Выган».

Вуліца Каменская заканчвалася каля чыгуначнага пераезду, улева ад яе адыходзіла вуліца Чыгуначная (Каляёвая, зараз – Труханава). За чыгункай вуліца Каменская (3-га Мая) працягвалася вуліцай Пяскі (потым пераназвана ў вуліцу генерала Орліч-Дрэшара, зараз – Камуністычная). Назва Пяскі паходзіць з-за таго, што за чыгуначным пераездам пры выездзе з Каменкай на Гродзенскі тракт быў круты пясчаны пад'ём, па якім коні з цяжкасцю выцягвалі нават пустыя вазы. Відавочна, гэту тэрыторыю назвалі Пяскі з-за агульнай пясчанасці ці з-за пясчанага кар'ера, які тут мог быць.

На вуліцы Пяскі не было ніякіх устаноў ці прамысловых прадпрыемстваў, а меліся толькі невялічкія фірмы рамеснікаў. Тым не менш у 1929 г. вуліца Пяскі была забрукавана.

Па адрасе вуліца Пяскі, 19 знаходзіўся павятовы Саюз вайсковых асаднікаў. Па адрасу Пяскі, 4 жыў сакратар гаркама КПЗБ Ліды ў 1936 г. бляхар Абрам Гельман (сын Юдаля, 1911 г. н.) У 1937 г. ён быў асуджаны на 8 гадоў турмы і на 10 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў.

# Лідская чыгунка і казённы вінны склад

Я сын чыгуначнага машыніста лакаматыва. У канцы 1960 – 1970-х гг. мой бацька вадзіў паравоз серыі «Л» («элка») і чамусьці менавіта яго паравоз меў адрозны ад іншых гудок-акорд высокага тону, які немагчыма было зблытаць з іншымі. На ўездзе на станцыю паравозы павінны былі даваць гудок, і я, яшчэ малы, пачуўшы гудок свайго таты, бег папярэдзіць маму, каб рыхтавала сняданак…

У 1860–1862 гг. цераз паўночна-заходні ўчастак Лідскага павета была пракладзена чыгуначная лінія Санкт-Пецярбург – Варшава праз Вільню, на якой былі пабудаваны станцыі Вільня, Ландвараў, Руднікі, Алькенікі, Араны, Марцінканцы, Парэчча і Гродна. Пытанне аб пабудове разгалінаванай сеткі ваенна-стратэгічных чыгуначных ліній на Палессі было прынята на сакрэтных нарадах расійскага Генеральнага штаба яшчэ ў 1873 г. Работы па ўзвядзенні чыгункі Вільня – Ліда – Баранавічы – Лунінец пачаліся ў маі 1883 г. Восенню гэтага ж года быў пабудава-




Першы лідскі вакзал, канец XIX ст. Фотаздымак Давіда Візуна




Лідскі Мікалаеўскі вакзал, каля 1910 г.

ны чыгуначны мост праз раку Дзітва ў Даржах. У кастрычніку 1884-га завершаны мост праз раку Нёман у вёсцы Сялец.

Пад будаўніцтва станцыі Ліда пад яе адышло 6 дзесяцін зямлі (6,83 га). Лідская станцыя будавалася паміж горадам і вёскай Дварцовая Слабада. Пасля будаўніцтва чыгункі горад пачаў пашырацца ў бок вакзала, а Дварцовая Слабада стала месцам жыхарства чыгуначнікаў і паступова ўлілася ў Ліду.

З-за ўдзелу ў будаўніцтве чыгункі ў 1887–1891 гг. у Лідзе кватараваў 2-гі чыгуначны батальён царскага войска, які потым быў пераведзены ў Баранавічы, камандзір – палкоўнік Сахацкі Аляксей Антонавіч (на пасадзе з 4 жніўня 1879 г.)

Сярод інжынераў-чыгуначнікаў, якія будавалі Палескую дарогу, быў граф Ваўжынец Путкамер (1859–1923), унук знакамітай Марылі з Верашчакаў. Чыгунка прайшла ў некалькіх кіламетрах ад яго радавога маёнтка Бальценікі і была апошняй дарогай, у будаўніцтве якой ён прымаў удзел. Ваўжынец Путкамер нарадзіўся ў Бальцэніках, скончыў гімназію ў Вільні і Інстытут інжынераў шляхоў зносін у Пецярбургу. Дзесяць гадоў адпрацаваў інжынерам, будаваў Уральскую і Бакінскую чыгункі. Пабудаваўшы магістраль каля свайго маёнтка, у 1890 г. граф выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў Бальценіках. Потым актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці краю, быў сябрам сельскагаспадарчага таварыства і куратарам Евангелісцка-рэфарматарскага сінода ў Вільні. Два разы выбіраўся ў Дзяржаўную думу Расіі: Другую і Чацвёртую. У складзе Другой думы ён уваходзіў у «польскае кола», а ў Чацвёртай – у беларуска-польска-літоўскую групу і быў сябрам Савета старэйшын думы.

Участак Вільня – Лунінец (з адгалінаваннем Лунінец – Пінск: усяго 353 вярсты) адкрыўся для рэгулярнага руху 30 снежня 1884 г. У гэты дзень з боку Вільні цераз Ліду на Баранавічы прайшоў першы цягнік. У 1885 г. у Вільні пачала працаваць управа Палескіх чыгунак. У 1886 г. Вільня-Ровенская і Пінская чыгункі перайменаваны ў Палескія чыгункі.




Лідскі Мікалаеўскі вакзал, каля 1910 г.

З'яўленне чыгункі змяніла спрадвечны лад жыцця на Лідчыне. Стала магчымым з Ліды ехаць на поўдзень, ва Украіну і далей. Ці, даехаўшы да суседняй Вільні, простым шляхам праз Гродна – Варшаву наведаць Еўропу або, наадварот, ехаць на ўсход, у Пецярбург ці Маскву. І рабіць усё гэта з неверагоднай па тым часе хуткасцю.

Квіткі на цягнік былі нятанныя. З «Віленскага каляндара» за 1899 г. можна даведацца, што нават пасля зніжэння коштаў за праезд, якое адбылося 1 снежня 1894 г., квіток ад Ліды да Вільні каштаваў: у першым класе 3 рублі 20 капеек, у другім – 1 рубель 92 капейкі, у трэцім – 1 рубель 28 капеек. Пры тым што ў Еўрапейскай Расіі ў 1900 г. гадавы даход на чалавека складаў 63 рублі – гэта сярэдняя лічба, шмат хто не зарабляў і столькі, а ў Беларусі сярэдні заробак быў яшчэ меншы. У 1896 г. чалавек, які адназначна быў часткай гарадской эліты Ліды, наглядчык (дырэктар) найлепшай на той час навучальнай установы ў горадзе – павятовай двухкласнай вучэльні – Свідэрскі С. С. зарабляў 500 рублёў у год (звыш таго яму выплачвалі грошы за арэнду кватэры)[1], гэта значыць, трошкі больш за 40 рублёў у месяц. Паездка ў Вільню з вяртаннем дахаты і для яго таксама каштавала нямала.

Чарговы план будаўніцтва чыгунак быў зацверджаны ўказам цара Мікалая II ад 1 верасня 1901 г. Расія не мела ўласных сродкаў для такога маштабнага і дарагога будаўніцтва ваенных, стратэгічных, а значыць – стратных дарог. За-

[1] Для параўнання: 1 кг хлеба каштаваў не больш за 37 капеек, батон белага здобнага хлеба 300 грам – 7 капеек, «чырвонагалоўка» (чырвоны корак) – гарэлка, якую звалі ў народзе «казёнка», каштавала за бутэльку (0,61 літра) 40 капеек. «Белагалоўка» (белы корак) – гарэлка двайной ачысткі, каштавала 60 капеек. Піва танных гатункаў на разліў каштавала ад 6 да 10 капеек за 1 літр (бутэлькавае піва з-за кошту шкла было даражэй у сярэднім на 20 капеек за бутэльку). У карчме горада, заплаціўшы 5 капеек, можна было выпіць 50 грамаў таннай гарэлкі і закусіць салёным агурком за 1 капейку. Наесціся ў такой карчме можна было за 10 капеек. У сярэднім за поўны абед з алкаголем у рэстаране Вільні трэба было заплаціць 1,5–2 рублі, у Лідзе, вядома ж, менш.




Лідскі Мікалаеўскі вакзал, каля 1910 г.

тое Францыя, занепакоеная суседствам з Германіяй, настойвала на больш хуткім вырашэнні пытанняў будаўніцтва шляхоў зносін.

Стратэгічная чыгунка Балагое – Сядлец будавалася з 1902 па 1907 г. Часткай гэтай дарогі была лінія Полацк – Сядлец (590 вёрст), якая прайшла праз Вілейку, Маладзечна, Ліду, Масты, Ваўкавыск, Свіслач і мела адгалінаванне з Мастоў на Гродна. Галоўным прызначэннем дарогі з'яўлялася перакідка падчас вайны расійскага войска ў Польшчу. Адсюль шматлікія пакгаўзы, вайсковыя пляцоўкі, стайні, хлявы, забеспячэнне аб'ектаў харчавання, патрабаванні павышанай бяспекі на выпадак ваенных дзеянняў. «Дадатковыя патрабаванні» датычыліся вузлавых станцый, якіх на трасе было шмат, у тым ліку Полацк, Маладзечна, Ліда, Ваўкавыск, Масты. Кожная з іх абавязкова павінна была мець злучальныя чыгуначныя каляі, з дапамогай якіх можна было трапіць з адной дарогі на другую, не мяняючы галавы цягніка (у выпадку Ліды: з Полацка-Сядлецкай лініі на Палескую і наадварот). Прапускная магчымасць лініі Полацк – Сядлец пры рабоце ўсіх тэхнічных блакіровак на станцыях – 1 пара пасажырскіх і 47 пар ваенных цягнікоў у суткі.

Трэба адзначыць, што ў 1905–1907 гг. на будаўніцтве чыгункі Балагое – Сядлец у Лідзе працаваў дзясятнікам грамадскі дзеяч, беларускі паэт, празаік, драматург, аўтар першых беларускіх падручнікаў Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі). Прывёз сюды жонку і дваіх дзяцей – Янку і Мірона. Свой «Беларускі лемантар...» ён напісаў менавіта ў Лідзе, падчас працы на чыгунцы. Непасрэдна ў Лідзе сям'я жыла да 1906 г.

У асноўным будоўля чыгункі была закончана ўжо да канца 1905 г. Лідскі вакзал быў пабудаваны да 1906 г., бо менавіта ў гэтым годзе гісторык Міхал Шымялевіч напісаў: «У г. Лідзе размешчаны злучаны вакзал Палескай і Балагое-Сядлецкай чыгунак».



Лідскі Мікалаеўскі вакзал, каля 1910 г.

«Кур’ер Літоўскі» ў апошнім нумары 1905 г. пісаў, што працоўны рух на дарозе Полацк – Сядлец пачнецца ўжо 7 студзеня 1905 г., спачатку будуць курсіраваць толькі тры цягнікі на тыдзень. Лінія ўжо падзелена на тры дыстанцыі: Ваўкавыск – Ліда, Ліда – Маладзечна, Маладзечна – Полацк, прычым кожная дыстанцыя спачатку будзе мець свой расклад руху, які аднак будзе каардынавацца з рухам цягнікоў па Палескай дарозе праз Ліду і з рухам па Лібава-Роменскай дарозе ў Маладзечне.

Але новая чыгунка пачала працаваць толькі ў студзені 1907 г., «Кур’ер Літоўскі» паведамляе: «Ад 1 студзеня лінія Балагое – Ваўкавыск з адгалінаваннем на Гродна далучана да Мікалаеўскай дарогі. Па ёй адкрыты рэгулярны рух цягнікоў. Часова курсуе толькі адна пара паштова-пасажырскіх цягнікоў, з якіх кожны складаецца з аднаго вагона першага класу, аднаго – другога класу і двух вагонаў трэцяга класу.

Цягнік выходзіць з Балагое ў 04.30, з Полацка – у 19.41, з Маладзечна – у 01.45, з Ліды – у 05.51, прыбывае ў Ваўкавыск у 09.00.

З Ваўкавыска выходзіць у адваротны бок у 22.45, з Мастоў – у 23.45, з Ліды – у 01.40, з Маладзечна – у 05.20, з Полацка – у 11.27. У Балагое цягнік прыбывае ў 02.50.

З Гродна цягнік выходзіць у 19.15, прыбывае ў Масты ў 20.55. З Мастоў на Гродна адпраўляецца ў 11.10 і прыбывае ў 12.50».

Ад пачатку эксплуатацыі чыгункі (з 1 жніўня 1906 г.) участак ад Балагое да Ваўкавыска передаецца Мікалаеўскай дарозе, а ад Ваўкавыска да Сядляца – Прывісленскім дарогам. У 1909 г. у сувязі з будаўніцтвам чыгункі Полацк – Сядлец планавалася поўная перабудова станцыі Ліда. З адкрыццём новай лініі меркавалася «перанесці карэннае дэпо з Вільні ў Ліду і зрабіць у Вільні абаротнае дэпо»[2]. Але вайна перашкодзіла гэтым планам. У 1910 г. участак Ваўкавыск – Полацк уключаны ў склад Палескіх дарог.

---

[2] Карэннае дэпо з’яўлялася цэнтрам цягавага ўчастка (цягавага пляча). За даўжыню кожнага ўчастка прымалася адлегласць паміж карэннымі дэпо. Да такіх дэпо для рамонту і абслугоўвання былі прыпісаны грузавыя і пасажырскія паравозы. У прамежках паміж карэннымі размяшчаліся абаротныя дэпо, дзе знаходзіліся рэзервовыя паравозы на выпадак паломкі лакаматываў.




Віядук на месцы перакрыжавання Палескай і Балагое-Сядлецкай чыгунак, за сучаснай бальніцай, каля 1910 г.

Заробкі на чыгунцы былі ў сярэднім у два разы большыя за заробкі на іншых прадпрыемствах. У 1913 г. стаўкі зарплаты на Палескай дарозе былі наступныя: інжынеры атрымлівалі 1 800–2 400 руб. у год, тэхнікі – 1 200 руб. у год, дарожныя майстры – 480–720 руб. у год, машыністы, у залежнасці ад класа – 742–2 000 руб. у год, качагары – 255–270 руб. у год, счэпшчыкі вагонаў – 240–468 руб. у год, стрэлачнікі – 240–156 руб. у год, шараговыя калейцы – 144–228 руб. у год. У 1882 г. на Палескай дарозе было зацверджана «Палажэнне аб абмундзіраванні...». Абмундзіраванне атрымлівалі тэлеграфісты і тэлефаністы, машыністы і памочнікі машыністаў паравозаў, качагары і дарожныя майстры і шматлікія іншыя катэгорыі чыгуначнікаў, у сярэднім на абмундзіраванне аднаго работніка трацілася 11 руб. 43 капейкі ў год. Выплочвалі грошы на здыманне кватэры (некаторым катэгорыям работнікаў давалася бясплатнае жыллё), розныя прэміі, у выпадку працы за межамі сваёй зоны – камандзіровачныя і сутачныя выплаты, розныя грашовыя дапамогі.

А прадстаўнікі вядучых прафесій – паравознікі, ці дзвіжэнцы, у перыяд 1900–1914 гг. наватператварыліся ў прывілеяванае працоўнае саслоўе. Іх бытавая забяспечанасць перад рэвалюцыяй наблізілася да ўзроўню адміністрацыйных служачых-кіраўнікоў.

Дастаткова сказаць, што сярэдні заробак паравознага машыніста I класа на казённай дарозе ў 1914 г. – болей за 2 000 рублёў у год разам з прэміяльнымі. На прыватных дарогах гэты заробак быў яшчэ вышэй. Для параўнання: жалаванне прафесара сталічнага ўніверсітэта тады складала каля 3 000 рублёў у год. Пры гэтым не трэба забываць аб пашане і высокай прэстыжнасці, якімі карысталася прафесія чыгуначніка, звязанага з рухам цягнікоў, а тым больш машыніста, начальніка станцыі або галоўнага кандуктара.




Лідскі вакзал падчас нямецкай акупацыі, паштоўкі 1916–1917 гг.

25 ліпеня 1914 г. на лідскай чыгуначнай станцыі была вывешана аб'ява пра тое, што дарога здымае з сябе ўсякую адказнасць за тэрміны перавозу грузаў. Гэта быў першы знак будучай вайны. Ужо 26 ліпеня войскі ўзялі пад узмоцненую ахову ўсе чыгуначныя аб'екты: масты, водаправоды і іншыя тэхнічныя сродкі абслугоўвання, а таксама сувязь. Усюды стаялі ўзброеныя салдаты, забараняўся нават выхад на перон вакзала. З 31 ліпеня былі адменены ўсе пасажырскія цягнікі, і чыгунка пачала ліхаманкава перавозіць адмабілізаваныя войскі. З іншых чыгунак у Ліду былі перагнаны дадатковыя лакаматывы, прыбылі новыя лакаматыўныя брыгады і іншыя спецыялісты-чыгуначнікі. Яшчэ 14 ліпеня 1914 г., да пачатку Першай сусветнай вайны, пры дырэкцыі Палескай чыгункі быў створаны адмысловы камітэт для падтрымання належнага вайсковага парадку на дарозе.

Вайна толькі пачалася, але ўжо 10 і 13 верасня нямецкі дырыжабль Z-12 скінуў на чыгуначныя станцыі Ліда і суседнюю Вілейку 4 000 кг бомбаў.

Пры адступленні рускіх войскаў з Ліды ў 1915 г. у горадзе былі знішчаны будынак вакзала, віядук на скрыжаванні Палескай і Полацка-Сядлецкай чыгунак каля сучаснай бальніцы і воданапорная вежа. Рускія войскі ўзарвалі ўсе чыгуначныя масты, у тым ліку і праз раку Гальшанку на перагоне Юрацішкі – Вайгяны. Немцы не аднаўлялі мост, а блізка ад яго ўладкавалі станцыю перагрузкі з шырокай і вузкай каляямі.

З 18 мая па 3 чэрвеня 1916 г. кайзер Германіі Вільгельм II быў у паездцы (Гамбург – Берлін – Мітава (Елгава) – Вільня – Ліда – Слонім – Гродна – Марыебург). Захаваліся паштоўка і шэраг здымкаў, якія адлюстроўваюць знаходжанне кайзера на лідскім вакзале.

З 1920 г. чыгункі Лідчыны ўваходзілі ў склад Віленскай акруговай дырэкцыі Польскіх дзяржаўных чыгунак на правах рэгіянальнага аддзела. Лідскі аддзел меў 703 км чыгункі і 2 226 супрацоўнікаў, і, дарэчы, чыгунка з'яўлялася найбуйней-




Лідскі вакзал падчас нямецкай акупацыі, паштоўкі 1916–1917 гг.

шым працадаўцам у рэгіёне. Большая частка каляі яшчэ немцамі была перашыта на еўрапейскі стандарт (з 1524 на 1435 мм), што спрыяла хуткай інтэграцыі ў польскую транспартную сетку.

Прэса таго часу неаднаразова пісала пра неабходнасць будаўніцтва пешаходнага моста над чыгункай, каб злучыць лідскія раёны Слабодка і Пяскі з цэнтрам. Адсутнасць моста прыводзіла на няшчасных выпадкаў, бо толькі адзіны пешы пераход злучаў раён Ферма са Слабодкай, прытым што дзеці з горада хадзілі ў чыгуначную школу, якая ў той час мясцілася каля сучаснай школы № 10.

Замест пешаходнага моста насупраць вуліцы Пілсудскага быў зроблены пераход цераз чыгунку. Да гэтага чыгунку можна было перайсці толькі па пераездзе па вуліцы 3-га Мая (сучасная вуліца Ленінская – Л. Л.). Цікава, што гэты наземны пераход насупраць вуліцы Пілсудскага (каля сучаснага аўтавакзала) дзейнічаў да 2010 г., калі быў пабудаваны новы пешаходны мост цераз чыгунку.

У канцы 1930-х у раёне горада пад назвай Слабодка з'явілася чыгуначная лазня. Але рабочыя чыгункі, хоць і мелі сваю лазню, не маглі туды трапіць, бо кіраўніцтва чыгункі трымала яе закрытай ці пускала невядома каго. Скаргу на немагчымасць трапіць у лазню чыгуначнікі ўзнялі падчас агульнага прафсаюзнага сходу, і, здаецца, вырашылі праблему.

У 1929 г. у Лідзе працавалі дзве адносна вялікія электроўні: гарадская па вуліцы Сувальскай і чыгуначная (180 кВт). У маі 1938 г. пачалася пракладка новых электрычных ліній у раёне Слабодкі. Пашырэнне электрычных сетак дазволіла злучыць у Лідзе чыгуначную і гарадскую электроўні.

Пры самым канцы 1920 г. чыгуначныя ўлады паведамілі пра намер пусціць маторныя вагоны (продкі сучасных дызель-цягнікоў) па маршруце Ваўкавыск –




Вуліца каля чыгункі, сучасная вуліца Труханава, падчас нямецкай акупацыі, паштоўка 1917 г.

Слонім – Баранавічы і Ваўкавыск – Ліда. Але такія вагоны з'явіліся толькі ўлетку 1935 г., калі Віленская дырэкцыя чыгункі атрымала 5 двухвосевых вагонаў з рухавікамі ў 100 к. с. для абслугоўвання ліній ад Вільні да Ліды, Гродна і Нова-Вілейкі; «гэтыя вагоны зменяць сучасныя цягнікі з паравозамі». Паводле раскладу руху цягнікоў на 1939 г. маторны дызельны вагон SBCix-098 курсіраваў па маршруце Вільня – Ліда – Нёман. Да маторнага вагона дачапляліся яшчэ 1–2 вагоны без рухавікоў і, такім чынам, увесь цягнік меў 2–3 вагоны.

Вакзалы. У 1885 г. у Лідзе будуецца першы вакзал – драўляны. Большасць вакзалаў Палескай чыгункі XIX стагоддзя былі з дрэва, яны будаваліся па тыпавых праектах і адрозніваліся адзін ад аднаго ў асноўным памерамі.

Да старога вакзала вяла вуліца, якой зараз няма; вакзал стаяў прыкладна там, дзе зараз у былых чыгуначных пакгаўзах знаходзіцца мэблевая крама. Да 1915 г. на картах Ліды абазначаны два вакзалы – новы, пабудаваны ў 1906-м (ёсць і цяпер), і стары, які існаваў з 1885 г., з часу пабудовы першай Палескай чыгункі. На схеме Лідскага чыгуначнага вузла перад старым вакзалам пазначана вялікая клумба.

Акрамя драўлянага вакзала першая станцыя мела: 60 сажняў пасажырскіх платформ, 10 пагонных сажняў крытых і 20 закрытых таварных платформ (пасажырскія платформы былі зроблены з друзу і бітай цэглы, залітых вапнавым растворам), водапрыёмны (на рацэ Лідзеі) і водапад'ёмны будынкі, жылыя дамы.

Да 1906 г. у Лідзе быў пабудаваны новы вакзал, амаль што аднатыпны з вакзаламі ў Маладзечне і Ваўкавыску (гэтыя вакзалы мелі плошчу 203 кв. саж., лідскі вакзал – 232 кв. саж.) Усе гэтыя вакзалы былі аднапавярховыя, цагляныя, кры-



Кайзер Вільгельм II на вакзале ў Лідзе, 1916 г.

тыя жалезам. Кожны быў забяспечаны водаправодам і ватэрклазетам. Вакзалы і платформы мелі не электрычнае, а газавае асвятленне па сістэме варшаўскага інжынера Кржамінскага (з выкарыстаннем распыленага бензіну). Чыгуначная электроўня ў Лідзе пачала працаваць у будынку першага лідскага дэпо каля 1916 г.

Новы цагляны вакзал «астраўнога» тыпу ў Лідзе пабудаваны для сумеснага карыстання абедзвюх дарог. З паўднёвага боку лідскага вакзала размяшчаліся кухня і рэстаран (буфет). Падземная лядоўня круглай формы для захоўвання прадуктаў знаходзілася прыкладна ў 50 метрах на поўдзень ад кухні, яшчэ далей на поўдзень мясціўся будынак для захавання бензіну для асвятлення.

Зала чакання для пасажыраў I і II класа займала паўднёвае крыло будынка вакзала (межавала з буфетам), а зала чакання для пасажыраў III класа – паўночнае. Усю сярэднюю частку будынка займала адміністрацыя. З праекта бачна, што вакзал меў толькі адну звычайную і адну багажную касу з прыёмам багажу (з боку залы чакання III класа). З паўночнага боку вакзала некалькі пакояў займалі ваенны камендант і яго канцылярыя.

Пасажырскія платформы на вузлавых станцыях мелі даўжыню 75 і шырыню 2 сажні і часткова брукаваліся цэментнымі пліткамі, а часткова рабіліся з каменнага друзу або бітай цэглы, якую залівалі вапнавым растворам. Платформы былі абсыпаныя пяском і ўтрамбаваныя «да шчыльнасці добрай садовай дарожкі». Па краях і пасярэдзіне платформы ўкладваліся дарожкі з дошак. Каля кожнага вакзала ўладкоўваліся «садочкі», разбіваліся кветнікі. Плошчу і вуліцу каля вакзала масцілі каменем. Усе жылыя і службовыя памяшканні да адкрыцця дарогі былі «цалкам мэбляваныя і забяспечаныя білетнымі скрынямі і штэмпелямі,



Кайзер Вільгельм II на вакзале ў Лідзе, 1916 г.

вагавым абсталяваннем, брызентам, вогнетушыльнымі прыборамі, сігнальным інвентаром, інструментамі, качэргамі, венікамі...».

Пасажыры на невялікіх станцыях елі ў буфетах – яны называліся «буфетны стол», а на вялікіх станцыях, напрыклад, у Лідзе, – у рэстаранах. Буфеты, як і вагоны, таксама былі розных класаў. Буфеты і рэстараны ўтрымліваліся прыватнымі асобамі па дамове з чыгункай і падпарадкоўваліся непасрэдна начальніку станцыі. Вагонаў-рэстаранаў у большасці цягнікоў не было, і таму да падыходу кур'ерскага або паштовага цягніка па тэлеграфе даведваліся пра лік пасажыраў і загадзя накрывалі сталы. Рэстаран на лідскім вакзале працаваў да пачатку 2000-х.

Па ўспамінах відавочцаў, на пачатку 1920-х, пакуль не быў адноўлены будынак вакзала, замест яго выкарыстоўвалася таварная кантора чыгункі – зараз адзін з будынкаў паліклінікі па вуліцы Труханава.

У верасні 1928 г. віленская прэса паведаміла, што рамонт лідскага чыгуначнага вакзала закончаны. Вакзал быў адноўлены па праекце вядомага архітэктара Тадэвуша Раствароўскага[3]. Дарэчы, па праектах гэтага архітэктара была адноўлена большасць вакзалаў на тэрыторыі Віленскай дырэкцыі чыгунак. Найбольш вядомыя вакзалы ў Бялай Падлясцы, Пінску, Лідзе, Ваўкавыску. Таксама ён спра-

---

[3] Тадэвуш Раствароўскі (1860–1928) – архітэктар, мастак, землеўладальнік. У 1885 г. атрымаў ступень архітэктара 2-га класа ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, пасля дадатковай вучобы за мяжой пасяліўся ў Вільні, будаваў дамы, палацы, касцёлы, а пасля 1921 г. – чыгуначныя станцыі. Пабудаваў палац Путкамераў у Бальценіках, Ваньковічаў у Рудакове, прымаў удзел пры праектаванні палаца ў Белавежы, пабудаваў гатэль «Св. Георг» у Вільні (зараз «Grand Duke Palace»), касцёлы ў Ландвараве і Салечніках, праектаваў будынак чыгуначнага вакзала ў Бялай Падлясцы, сцэнамі з міфалагічнымі сюжэтамі аздобіў плафоны палацавых залаў у Нароўлі і Добасні, маляваў партрэты і акварэлі, праектаваў эмблемы Літоўска-Беларускага фронту Сярэдняй Літвы. Быў уладальнікам маёнтка Лесна ў гміне Лейпуны (зараз – Lejpalingis) парафіі Лішкаў (зараз – Liskiava) з прыгожым дамініканскім касцёлам. Пасля 1-й сусветнай вайны жыў у Вільні ў сваёй віле па Мантвілаўскім завулку. Памёр у Вільні, пахаваны на могілках Роса.




Вакзал у 1930-я гг.

ектаваў шэраг меншых вакзалаў на лініях Вільня – Ліда – Ваўкавыск – Сядлец (напрыклад, вакзал у Бастунах), Вільня – Маладзечна, Ліда – Баранавічы – Лунінец.

Пасля аднаўлення вакзал быў пафарбаваны ў светла-крэмавы колер і пакрыты чырвонай дахоўкай. Пасярэдзіне вакзала меліся зала білетных кас і памяшканне для захоўвання багажу. Дзяцей прыцягвалі 2 аўтаматы, што прадавалі смачны шакалад: малая плітка каштавала 20, а вялікая – 50 грошаў. Направа ад цэнтральнай залы вакзала была зала чакання, у якой мясцілася паштова-тэлеграфнае аддзяленне Ліда-2 з тэлефонам-аўтаматам. Злева ад цэнтральнай залы размяшчалася вялікая зала чыгуначнага рэстарана 1-га класа з буфетам: «У рэстаране можна было смачна пад'есці, а ў буфеце атрымаць розныя вытанчаныя халодныя закускі, найлепшую вяндліну, фаршыраванага шчупака, галярэту ці селядца з рознымі салатамі. Да ежы падавалася гарэлка, віно і піва лідскага бровара ці віленскага бровара «Шапэн». Алкаголь пілі культурна і няшмат, ніколі не бачыў я, каб хтосьці валіўся з ног ці ладзіў сваркі».

Летам 1944 г. лідскі вакзал быў спалены і разбураны. Яго аднавілі толькі ў 1949 г. Апошняя рэканструкцыя лідскага вакзала адбылася ў 2010 г.

**Дэпо.** З пачаткам эксплуатацыі чыгунак з'яўляюцца і першыя будынкі для абслугоўвання лакаматываў і вагонаў – дэпо (французскае слова depot – літаральна «склад», «сховішча»). Яны будаваліся на буйных станцыях, там, дзе фармаваліся і адпраўляліся ў дарогу грузавыя і пасажырскія цягнікі. У дэпо абавязкова меліся кузня і станочны парк.

Першае лідскае дэпо прамавугольнага тыпу пабудавана да 1884 г., яно добра бачна на схеме лідскай станцыі 1903 г. Гэтае паравознае каменна-цаглянае дэпо на тры паравозы серыі «ЧН» (ці, як кажуць чыгуначнікі, – на тры стойлы) было пабудавана восенню 1884 г. Будынак першага лідскага дэпо мае па тры паравозныя брамы з паўночнага і паўднёвага тарцоў. Гэта значыць, што рэйкі праходзілі



Канец чэрвеня 1941 г., кінутыя танкі КВ-2 на лідскай станцыі

праз дэпо і заканчваліся трохі на поўдзень ад яго. Будынак з цёсанага каменю раней меў двухскатны дах, зараз мае надбудаваны другі паверх. На тэрыторыі дэпо размяшчаліся воданапорная вежа (будынак знаходзіўся паміж старым дэпо і сучаснай вуліцай Труханава) і паліўны склад.

Першае лідскае дэпо захавалася, у ім з 1916 г. знаходзілася чыгуначная электроўня, а потым электрычны размеркавальны пункт. Гэты будынак, якому ўжо амаль што 140 гадоў, – цікавейшы ўзор тэхнічнага дойлідства XIX стагоддзя. Пасля рэстаўрацыі тут мог бы адкрыцца цудоўны чыгуначны музей.

Па ўсёй чыгунцы Балагое – Сядлец на вузлавых станцыях былі пабудаваны новыя паравозныя дэпо веернага тыпу столлю з бетонных пліт на жалезных бэльках. Дэпо мелі жалезныя вокны і брамы, керамічныя трубы вентыляцыі. Лідскае дэпо на 16 стойлаў для паравозаў было пабудавана ў 1906 г. Перад нашым дэпо меўся паваротны круг сістэмы Сэлерса дыяметрам 64 футы. На схеме Лідскага чыгуначнага вузла бачна, што каля новага дэпо планавалася пабудаваць яшчэ адно, на 24 стойлы. Першая сусветная вайна не дазволіла рэалізаваць гэты план.

У такім выглядзе дэпо праіснавала да Другой сусветнай вайны. Памятаю, мой тата, спасылаючыся на старых чыгуначнікаў, казаў: «Царскае дэпо было значна большае за сучаснае, у яго хаваліся ўсе паравозы-авечкі[4]». Падчас Другой сусветнай вайны старое дэпо было моцна пашкоджана, і на тым жа месцы ўзноўлены значна меншы будынак сучаснага дэпо.

Трохі на поўнач ад паваротнага круга Сэлерса пабудавалі новую воданапорную вежу, якая, верагодна, працавала разам са старой водапад'ёмнай вежай каля старога дэпо па сучаснай вуліцы Труханава. Новая цагляная цыліндрычная двухпавярховая вежа мела два вадзяныя бакі, якія ўзімку падаграваліся. Вежа ўзарвана адыходзячымі рускімі войскамі ў 1915 г. Замест яе немцы часова ўлад-

[4] Паравоз «Авечка» (па-руску «Овечка») – паравоз серыі «О».

кавалі бакі для вады на зрубе, складзеным са шпалаў. Новую воданапорную вежу каля дэпо адбудавалі ў 1920-х, але ў Другую сусветную яна была зноў парушана.

На пачатку XX ст. для пашыранай чыгункі была пабудавана новая водапрыёмная станцыя на рацэ Лідзея (існуе да нашага часу). Уся сістэма водападрыхтоўкі магла забяспечыць 210 куб. сажняў адмыслова ачышчанай для паравозаў вады ў суткі.

У 1990-я каля дэпо быў пабудаваны прамысловы комплекс па рамонту цягнікоў.

**Лідскі № 3 казённы вінны склад і турма.** Пакуль мы яшчэ не адышлі далёка ад чыгункі, мае сэнс расказаць пра будынкі казённага віннага склада. Маленькі артыкул у газеце «Лідскае слова» ўказвае нам месца, дзе знаходзіўся вінны склад і стаяў першы лідскі вакзал: «Па дарозе, якая вядзе да старога вакзала, каля вокнаў казённага віннага склада растуць тры дрэвы – клёны. У Лідскую паліцэйскую ўправу паступіла... прашэнне ад загадчыка канторы віннага склада, у якім ён просіць ссекчы дрэвы, спасылаючыся на тое, што яны сваім ценем перашкаджаюць выконваць работы па разліве пітва і працаваць у канторы, а таксама вільгаццю псуюць дах».

Такім чынам, Лідскі № 3 казённы вінны склад (ці так званая алкагольная манаполія), пачаў працаваць у сакавіку 1897 г. Казённы вінны склад – гэта месца захоўвання і разліву моцных спіртных напояў. Загадчыкам быў прызначаны Аляксей Іванавіч Далгоў, на пасадзе з 6 сакавіка 1897 г., праваслаўны; яго памочнік Віктар Георгіевіч Пакроўскі, на пасадзе з 13 сакавіка 1897 г., праваслаўны. Да казённага віннага склада была пралажана чыгуначная лінія. Гмахі манаполіі былі пабудаваны яшчэ ў царскія часы і на тэрыторыі дрэваапрацоўчай фабрыкі захаваліся да нашага часу.

У 1938 г. вырашана пачаць прыстасаванне параманапольнага гмаху па адрасе вуліца Сыракомлі, 2 пад патрэбы акруговага суда ў Лідзе. Гэтак у горадзе з'яўляецца турма, якая атрымала назву следча-карнай. Гэта турма ў лідзян атрымала назву «Турма на Сыракомлі», бо стаяла па вуліцы Сыракомлі. Вязнем гэтай турмы быў вядомы паэт Валянцін Таўлай. Сёння на верхніх паверхах былой гарэлачнай манаполіі, а потым турмы – мэблевая фабрыка, а склепы засталіся аўтэнтычнымі.

# Слабада і Сойкішкі

З выдатнага артыкула Уладзіслава Абрамовіча ў перадваеннай газеце «Лідская зямля» мы ведаем, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай усе прылеглыя да горада каралеўскія землі перайшлі ў скарб Расійскай Імперыі. Недалёка ад былой рэзідэнцыі намесніка старасты пачалі сяліцца сем'і расійскіх дваран. Паўстаў шэраг шыкоўных дамоў, аточаных садамі, і так пачаўся вялікі зараз раён горада, які завецца Ферма. Пра гэты раён горада я ўжо пісаў.

Каля 1860 г. было вырашана заснаваць у Лідзе другую калонію, на землях вёскі Дварцовая Слабада. Расійская адміністрацыя не мела дакладных указанняў пра тое, якія сем'і трэба сяліць у новай калоніі, і спачатку пасялілі там чатыры яўрэйскія сям'і. З іх дзве сям'і Ліпнішскіх, адну Баруховічаў, а прозвішча трэцяй сям'і ўдакладніць ужо немагчыма. Праз некаторы час, калі справа пра пасяленне яўрэяў на Дварцовай Слабадзе дайшла да Пецярбурга, адтуль была зроблена заўвага пра памылку – пасяленне яўрэяў у новай калоніі, бо папярэдне гэтая калонія прызначалася для засялення праваслаўных сем'яў. Патрэбна было выселіць яўрэйскія сем'і, якія да таго часу там грунтоўна абжыліся. Каля 20 дзесяцін зямлі для кожнай сям'і ўяўлялі немалую каштоўнасць, таму яўрэі павінны былі пайсці на кампраміс і прынялі праваслаўе. Пасля хрышчэння Ліпнішскія прынялі прозвішча Ліпінскіх, Баруховічы сталі Барысевічамі, а чацвёрты яўрэй стаў Крыжаноўскім. У 1866 г. выдзеленыя землі былі аддадзены на выкуп.

Да часу, калі праз Ліду прайшла чыгунка, пасяленцы займаліся сельскай гаспадаркай. Аднак рост Слабодкі непарыўна звязаны з чыгункай. Пры будаўніцтве чыгункі сем'і жыхароў Слабодкі мелі добрыя заробкі, а прыгожыя дзяўчаты знайшлі сабе мужоў сярод чыгуначных жандараў. Пастуепова пачалі з'яўляцца новыя сямейныя саюзы, усё новыя і новыя дамы і пабудовы. Па меры падрастання моладзі жыхары Слабодкі змянялі характар сваёй дзейнасці, пераходзячы ад сельскай гаспадаркі на чыгунку. Калі разбудоўвалася чыгуначная станцыя, некаторыя сем'і перанеслі свае дамы ўглыб поля. Раён пачаў пашырацца, колькасць дамоў з кожным годам павялічвалася.

На пачатак XX ст. вёска Дварцовая Слабада мела 328 жыхароў з 19 дзесяцінамі зямлі. Пасля заканчэння будаўніцтва чыгункі Полацк – Сядлец, да 1906 г., на Слабадзе з'явілася шмат жылых і службовых будынкаў, якія стаяць і зараз.

У красавіку 1911 г. газета «Кур'ер Віленскі» пісала: «Да Ліды прылягаюць і складаюць з ёй адно цэлае наступныя прадмесці: Дварцовая Слабада, Зарэчча, Каменка і Вісманты. Яны карыстаюцца ўсімі прывілеямі горада, акрамя


Від на жылыя дамы чыгуначнікаў на Слабадзе і чыгуначны вузел, каля 1910 г.

аднаго – паліцэйскага нагляду. Для далучэння іх да горада неабходна ўзяць на службу аднаго афіцэра, трох унтэр-афіцэраў і 8 шараговых паліцыянтаў. Афіцэр будзе штогод зарабляць 726 руб., 200 руб. кватэрных, 500 на канцылярыю – разам 1 425 руб. Унтэр-афіцэр – 400 руб. зарплаты і 100 кватэрных, шараговыя – па 240 руб. зарплаты. У суме – 4 846 руб. у год. У сувязі з гэтым віленскі губернатар звярнуўся да гарадскіх улад з пытаннем, якую частку гэтай сумы яны могуць узяць на сябе».

З сярэдзіны мая 1926 г. да 6 ліпеня ў свайго сябра Яна Шэўчыка па адрасе Слабодка, 62 жыў знакаміты кантрабандыст і пісьменнік Сяргей Пясецкі і, дарэчы, лідская Слабодка згадваецца ў яго аповесці «Пяты этап».

У 1929 г. Слабада і вуліца Пяскі былі часткова забрукаваны.

Сучасная вуліца Горкага ў 1930-я гг. мела назву Райская. Прэса паведамляла, што 16 студзеня 1931 г. жыхар Ліды шавец Міхал Мікалайчык павесіўся з-за здрады жонкі ва ўласным доме па вуліцы Райская, 29. На пачатку верасня 1938 г. падчас буры маланка ўдарыла ў дом Галіны Роўбы (Райская, 83), ад чаго дом загарэўся. Праз некалькі месяцаў па гэтай жа вуліцы (Райская, 57) у Караля Багдзюна згарэла абора: «Страты 2000 злотых. Выяўлена, што 14-гадовая Зоф'я Масей хадзіла ў абору са свечкай».

Здараліся і прыемныя выпадкі. У сакавіку 1937 г. прэса пісала, што да настройшчыка музычных інструментаў Антона Поляка (вул. Варшаўская, 15–2) стары сляпы прынёс для рамонту скрыпку. «Падчас працы настройшчык знайшоў знутры скрыпкі надпіс "Antonius Stradivarius Cremonensis Faciebat Anno 1773". Уладальнік скрыпкі Юзаф Паўлоўскі, вясковец з-пад Ліды, не ведае пра антыкварную вартасць скрыпкі і не памятае, як і дзе набыў інструмент».

Менавіта пры канцы 1930-х гг. на Слабодцы з'явіліся крамы, аптэчны склад, добраахвотная пажарная ахова, пастарунак паліцыі (Варшаўская, 53), чыгунач-



Злева ад кінутага на лідскай станцыі танка КВ-2 – школа на Слабадзе, лета 1941 г.

ная лазня. Над усім раёнам узвысіліся гмах агульнаадукацыйнай 7-класнай школы (сучасная СШ № 10) і пажарная вежа, якая зараз не існуе.

Як заўсёды, асаблівую ўвагу трэба звярнуць на беларускія адрасы Слабодкі.

У 1926 г. лідскі аддзел Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), масавай легальнай арганізацыі Заходняй Беларусі, меў кватэру па адрасе Слабодка-2, дом № 72. Тут рэгулярна адбываліся сходы і выступалі дзеячы Грамады, якія наведвалі Ліду.

А недалёка, у доме № 45 Антона Ліпінскага, таксама па вуліцы Слабодка-2, мясцілася галоўная кватэра Таварыства беларускай школы. Тут жа працавала і беларуская бібліятэка-чытальня.

**Школа на Слабодцы**. Старая драўляная школа № 4 на Слабодцы існавала ў 1920–30-х гг. Новую школу № 4 (сучасная школа № 10) пачалі будаваць у 1936 г. Улетку 1937 г. газета «Кур'ер Віленскі» паведамляла, што два паверхі ўжо пабудаваны, «у школе будзе 12 аўдыторных памяшканняў, лабараторыі, кабінеты настаўнікаў, пакой адпачынку, гардэроб, прыбіральні і памяшканне для вартаўніка. Кошт будынка 135 000». Тады ж на будаўніцтва школы гарадскія ўлады дадаткова атрымалі ад Фонду працы 10 000 злотых. У лістападзе 1937 г. «гарадскія ўлады дадаткова атрымалі 10 000 ад Фонду працы для заканчэння будаўніцтва школы № 4».

У ліпені 1938 г. гарадскія ўлады вырашылі «нарэшце закончыць будаўніцтва школы на Слабодцы», і першых вучняў гэтая школа прыняла 1 верасня 1938 г.

Новая школа, пабудаваная ў стылі функцыяналізму, была самай прыгожай у павеце.

На пачатку вуліцы Варшаўскай захаваўся цікавы жылы дом-крама 1930-х у стылі функцыяналізму, зараз тут магазін «Варшавянка».

Калі не памыляюся, з 1930-х гг. толькі дзве вуліцы горада – Варшаўская і Міцкевіча – захавалі свае назвы да нашага часу.

Пажарная ахова на Слабодцы. Пажарная ахова мела адрас: вуліца Варшаўская, 31. Лідскі добраахвотны пажарны і член Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Абрам Гельман пісаў у сваіх успамінах: «Невялікая дысгармонія ў сумеснай працы яўрэйскіх і неяўрэйскіх пажарных у Лідзе была выклікана братамі Граблісамі і некалькімі іншымі членамі, настроенымі антысеміцкі, якія жадалі атрымаць кантроль над таварыствам. Яўрэі не дапусцілі гэтага, і праз вялікую колькасць часта бурных судовых пасяджэнняў было прынята рашэнне, якое падзяліла асацыяцыю на дзве каманды: «Група 1» была адказная за тэрыторыю горада да чыгункі, а «Група 2» пад кіраўніцтвам Мікалая Грабліса адказвала за тэрыторыю Слабодкі па другі бок чыгуначных шляхоў. Гэта была маленькая і менш навучаная група. У гэтай групе амаль што не было яўрэяў. У выпадку моцнага пажару на Слабодцы першую, гарадскую групу не адзін раз выклікаў туды бургамістр Задурскі альбо камендант паліцыі».

**Лідскі Слабадскі касцёл**. Пабудаваны ў 1933 г. Аднак яшчэ да Першай сусветнай вайны віленскі губернатар зацвердзіў дазвол лідскага магістрата ад 15 снежня 1909 г. аб выдзяленні 3 дзесяцін гарадской тэрыторыі на будаўніцтва «другога каталіцкага касцёла». У красавіку 1913 г. «Лідскае слова» таксама паведамляла пра новы касцёл на Слабадзе: «Праектуецца пабудова другога касцёла. Для гэтай мэты горад даў 3 дзесяціны».

Парафія створана ў 1932 г. ксяндзом Станіславам Мажэйкам, які ў 1933 г. стаў яе першым пробашчам. У 1935 г. налічвала 6817, а ў 1939 г. ужо 7582 вернікі. Пасля Мажэйкі пробашчам стаў ксёндз Вацлаў Нуркоўскі, а ў 1937 г. ксёндз Вінцэнт Лабан, які разам з вікарыем Люцыянам Мрачкоўскім быў расстраляны 10 сакавіка 1943 г.

Першы драўляны касцёл, які стаіць да нашага часу, лічыўся часовай капліцай, яго праект зацверджаны 26 жніўня 1933 г., і ўжо 3 снежня 1933 г. цалкам пабудаваны касцёл быў асвечаны. З 1936 г. планавалася пабудова мураванага касцёла. Падчас Другой сусветнай вайны драўляны касцёл захаваўся, але з-за блізкага ўзрыву бомбы яго статыка была парушана і сцены паступова пачалі нахіляцца.

У 1992–2002 гг. быў пабудаваны новы мураваны парафіяльны касцёл, а ў 2004 г. драўляны касцёл быў грунтоўна адрамантаваны.

**Слабадскія могілкі.** На пасяджэнні гарадской рады пры канцы мая 1933 г. была ўхвалена пастанова аб выдзяленні 9 гектараў зямлі на Слабодцы для будаўніцтва касцёла, школы і пастарунка, а таксама абшар пад плошчу, сад і сквер агульнага карыстання. Тады ж Рада вырашыла звярнуцца да Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай зацвердзіць гарадскі герб 1590 г. з львом і ключамі на тарчы.

У 1936 г. гарадская рада даравала Слабадской парафіі 2 гектары гарадской зямлі для заснавання могілак. Падчас геадэзічных работ і работ па агароджванні будучых могілак адзін з работнікаў пацікавіўся меркаваннем другога пра тое,

хто з іх першы ляжа на новых могілках. Так здарылася, што той, хто пытаўся, і стаў першым нябожчыкам на гэтых могілках. Весткі пра гэта імгненна разышліся па парафіі, і вернікі зрабілі яму ўрачыстае пахаванне. Міхал Шымялевіч пісаў, што парафіяльныя рыма-каталіцкія могілкі на Слабадзе заснаваны на зямлі, якая мела гістарычную назву Перхураўскі клін.

Ад пачатку могілкі мелі радыяльна-праменевую пабудову, на старой частцы могілак яна бачана і зараз. Галоўная брама нечым нагадвае герб Калюмны. Самая старая магіла, якую я знайшоў на гэтых могілках, – з 1936 г., на бетонным помніку напісана: «Антаніна Шурмей, жыла 36 гадоў, памерла 7.XII.1936 г., каханай мамусі ад дзяцей».

На Слабадскіх могілках знаходзіцца пахаванне 9 каталіцкіх святароў, якія былі расстраляны немцамі на заходняй ускраіне Паўночнага гарадка 10 сакавіка 1943 года. На гранях саркафага – імёны пакутнікаў: Дабравольскі Стэфан, 44 гады, пробашч з Беліцы; Бароўскі Альфонс, 51 год, пробашч з Лацка; Цыбульскі Францішак, 58 гадоў, пробашч з Трабаў; Ажароўскі Ежы, 31 год, пробашч з Ліпнішак; Стжасьнеўскі Вінцэнт, 34 гады, пробашч з Юрацішак; Лабан Вінцэнт, 45 гадоў, пробашч лідскі; Мрачкоўскі Люцыян, 34 гады, вікары лідскі; Снягоцкі Стэфан, 29 гадоў, вікарый фарнага касцёла; Аўгустыновіч Аляксандр, 53 гады, пробашч з Няцечы. У красавіку 1943 г. сяляне вёскі Дайнава ноччу выкапалі расстраляных святароў з агульнай магілы на месцы расстрэлу і перазахавалі ў агародзе сям'і Ухто. У 1960 г. парэшткі расстраляных былі ўрачыста перазахаваны на могілках Слабадской парафіі.

**Сойкішкі.** Урочышча Сойкішкі, зараз раён вуліцы Хасанаўскай – гэта старадаўняя зямля горада. У 1885 г. тут было месца для выпасу жывёлы і меліся два ўчасткі зямлі, у 4 і 7 дзесяцін, апошні ўчастак зваўся Даліна. З 1897 г. горад пачаў выдаткоўваць грошы на ўтрыманне вартаўніка «ў гарадскім лесе Сойкішкі».

Да 1934 г. тут было балота і рос хмызняк, а зямля ніяк не выкарыстоўвалася. У 1934 г. у Сойкішках адбылася меліярацыя, і сюды пачалі завозіць дрэва для пабудовы дамоў. Каля чыгуначных рэек быў укапаны слуп, на якім вісеў вялікі плакат з надпісам: «Фонд працы будуе тут дамы для беспрацоўных рамеснікаў». Пасля некалькіх газетных артыкулаў і радыёперадач сюды пачалі прагульвацца цікаўныя жыхары горада, каб паглядзець на будоўлю новага раёна горада.

Да 1937 г. тут было пабудавана шэсць двухкватэрных дамоў і два дамы на адну сям'ю. Будаваліся ладныя двухпакаёвыя дамы, у якіх было многа паветра і святла. Кожны дом меў дзялку ў чвэрць гектара, гаспадарчы будынак і студню. Беспрацоўныя, атрымоўваючы такую сядзібу, пачыналі выплачваць яе кошт толькі праз тры гады. Пасля выплаты сядзіба пераходзіла ва ўласнасць таго, хто жыў у доме.

Улетку 1934 г. сюды прывезены сем'і рамеснікаў з Заверця[1], горада ў заходняй частцы Польшчы. Аднак практычна адразу, у 1935–36 гг., некалькі сямей вярнулася назад, а потым з Ліды выехалі на радзіму яшчэ некалькі сямей. Таму ў 1937 г. тут жыло толькі дзевяць

[1] Заверце (Zawiercie) – горад у Польшчы, уваходзіць у Сылескае ваяводства.

сямей перасяленцаў – «завярцякаў». Гэта адбылося таму, што ўзровень жыцця і заробкаў у Заходняй Беларусі на той час быў непараўнальна ніжэйшы за Заходнюю Польшчу, і нават беспрацоўныя перасяленцы не жадалі заставацца жыць у практычна бясплатным жытле.

Будаўніцтва дамоў было прыпынена. Віленская прэса справядліва заўважала, што «ў Лідзе хапае сваіх беспрацоўных. Фонд працы ўклаў у меліярацыю і пабудову дамоў каля 100 000 злотых, а карыстаюцца гэтым некалькі сямей, нежылыя дамы знішчаюцца, зарэзерваваныя будаўнічыя матэрыялы псуюцца».

У траўні 1937 г. ваяводскае бюро працы прапанавала свайму лідскаму аддзелу ўрэгуляваць справы з засяленнем калоніі Сойкішкі. Калонія была перададзена лідскаму Таварыству засялення прыгарада. Гэта таварыства запрасіла ў Фонда працы грошы на будаўніцтва пякарні, паравой лазні, пральні і павелічэнне агульнай плошчы на 2 000 $м^2$. Фонд працы згадзіўся на гэтыя ўмовы і вырашыў перадаць калонію Сойкішкі ва ўласнасць лідскім уладам. У ліпені 1937 г. пачалі пасяляць у Сойкішках лідскія сем'і беспрацоўных: «Эксперымент з перасяленнем беспрацоўных з заходніх тэрыторый не атрымаўся, тут будуць паселены мясцовыя беспрацоўныя. Зараз гарадскія ўлады будуюць два паселішчы для беспрацоўных: Боры і Сойкішкі. Ёсць спадзяванне, што праблемы з беспрацоўем у Лідзе будуць вырашаны».

Калі не памылюся, дык тыя дамы ў Борах (канец сучаснай вуліцы Дакучаева, каля дач) існуюць і да нашага часу.

# Паўночны ваенны гарадок

З пачатку XIX ст. у Лідзе стала дыслацыраваліся расійскія войскі.

Напрыклад, у 1806 г. у горадзе стаяў 2-і лейб-драгунскі Пскоўскі полк, пад царкву для рускага драгунскага палка забралі трапезную кляштара кармелітаў. Адразу пасля паўстання 1830–31 гг. у горадзе кватаруе Эстляндскі егерскі полк.

Перад паўстаннем 1863 г. і пасля яго горад і павет былі нашпігаваны рознымі часткамі расійскага войска.

У 1872–1887 гг. у Лідзе знаходзіўся штаб 4-га палка данскіх казакоў. Лідзянін Януш Сегень пісаў: «Кляштар... кармеліцкі... займалі вайсковыя ўлады. Там быў клуб і жытло палкоўніка. ... У Лідзе ў той час стаяў полк данскіх казакоў. Трэба разумець, што ў горадзе размяшчаўся толькі штаб, а казакі з коньмі стаялі за горадам, займаючы гумны і стадолы для коней і сябе. З той нагоды шмат засталося казацкай натуры ў нашых вёсках».

У 1887–1891 гг. у Лідзе кватараваў 2-і чыгуначны батальён, які будаваў Палескую чыгунку. Пасля пераводу гэтага батальёна ў Баранавічы ў горад перадыслацыраваўся 89-ы рэзервовы батальён пяхоты з Дынабурга. Першапачаткова гэтая вайсковая адзінка ў складзе дзвюх рот была сфармавана 17 студзеня 1811 г.




Жаўнеры рускай арміі каля Паўночнага гарадка, каля 1913 г.




Палкавая царква-сталовая ў Паўночным гарадку, каля 1913 г.

у Пензе пад назвай Пензенскага ўнутранага губернскага паўбатальёна, ужо 27 сакавіка таго ж года паўбатальён быў перафармаваны ў батальён. 14 ліпеня 1816 г. пры стварэнні асобнага корпуса ўнутранай варты батальён атрымаў назву Пензенскага ўнутранага гарнізоннага батальёна. У 1864 г. пры скасаванні гэтага корпуса і арганізацыі мясцовых войскаў батальён названы Пензенскім губернскім батальёнам, а 26 жніўня 1874 г. – Пензенскім мясцовым батальёнам. У часы руска-турэцкай вайны 1877–1878 гг. батальён вылучыў кадры на фармаванне 46-га рэзервовага пяхотнага батальёна (скасаванага 11 верасня 1878 г.) і атрымаў 31 жніўня 1878 года назву 89-га рэзервовага пяхотнага кадравага батальёна. 7 красавіка 1880 г. батальёну прызначаны просты, без надпісу, сцяг.

25 сакавіка 1891 г., у царстваванне Аляксандра III, батальёну прысвоена назва Лідскага рэзервовага батальёна. 1 снежня 1892 г. батальён перафармаваны ў двухбатальённы полк і названы 185-м пяхотным рэзервовым Лідскім палком. 1 студзеня 1893 г. былі сфармаваны яшчэ два батальёны, і полк стаў 172-м пяхотным Лідскім палком. 27 сакавіка 1911 г. – у дзень 100-гадовага юбілею – палку падараваны новы сцяг узору 1900 г. Сцяг меў цёмна-зялёную аблямоўку, залатое шыццё, наверша ўзору 1857 г. і чорнае дрэўка. На адным боку сцяга малюнак Спаса Нерукатворнага. На абароце даты «1811–1911». На Аляксандраўскай юбілейнай стужцы надпісы: «1911 год» і «1811. ПЕНЗЕНСКІЙ ВНУТРЕННІЙ ГУБЕРНСКІЙ БАТАЛІОНЪ».

Камандзіры палка:

03.02.1902 – пасля 01.11.1907 – палкоўнік Тарасевіч Аляксей Іосіфавіч;

24.11.1908 – пасля 31.01.1913 – палкоўнік Раманаў Уладзімір Раманавіч;

06.08.1915 – пасля 09.1916 – палкоўнік Каломенскі Мікалай Пятровіч;

25.11.1916 – ? – палкоўнік Яралаў Лазар Іванавіч.

Нагрудны знак палка зацверджаны 25.02.1911 г., апісанне знака: «Лаўровы вянок, увенчаны чорным аксідаваным двухгаловым арлом і звязаны ўнізе стужкай з юбілейнымі датамі: “1811–1911”». На вянок пакладзены вензелі імператара Аляксандра I і Мікалая II, а пад імі нумар палка: “172”. Унізе на вянку змешчаны




Кайзер Вільгельм II прымае парад сваіх войскаў у Паўночным гарадку, 1916 г

два гербы: злева – Пензенскай губерні (у зялёным полі тры снапы), у памяць аб паходжанні палка ад Пензенскага гарнізоннага батальёна, і справа – горада Ліды ў царскія часы [наверсе сярэбраны вершнік на чырвоным полі, а ўнізе сноп і серп на зялёным полі – герб Ліды ў імперыі – Л. Л.]».

Цікава, што ў 1915 г. менавіта ў 172-м палку шарагоўцам пачынаў службу будучы сталінскі кат Мікалай Яжоў.

Асабовы склад 172-га пяхотнага Лідскага палка часткова кватараваў у прыватных наёмных дамах, часткова размяшчаўся ў маёнтку Нясікаўшчына пад Лідай, у мястэчку Беліца і нават у Алькеніках. Кожны год 28 мая полк выязджаў у летні лагер пад Араны, адкуль вяртаўся звычайна 28 верасня.

У 1908–1912 гг. на землях, падораных горадам, вайсковая будаўнічая камісія на чале з генерал-маёрам Канабіхам пабудавала для Лідскага палка прасторныя і на той час добра абсталяваныя казармы. На будаўніцтве выкарыстоўвалі цэглу з закрытага царскімі ўладамі шматпакутнага касцёла кармелітаў, разбураны будынак якога знаходзіўся недалёка ад фарнага касцёла.

Будаўнічая камісія абрала ўчастак гарадской зямлі, на якім меліся невялікія ўкрапванні прыватных гародаў – «моргі», як звалі іх лідзяне. Гаспадарамі «моргаў» былі сем'і Тумялевічаў і Брэйваў, яны пагадзіліся за сімвалічную плату ў 15 рублёў штогод перадаць гораду сваю ўласнасць у бестэрміновую арэнду, г. зн. фактычна на вечнае карыстанне.

Хутка вырас паўнавартасны вайсковы гарадок, які складаўся з дзвюх частак – салдацкай і афіцэрскай. У афіцэрскай яго частцы былі змешчаны: мураваны аднапавярховы флігель для камандзіра палка, мураваны будынак афіцэрскага сходу, пяць мураваных трохпавярховых афіцэрскіх флігеляў, адзін мураваны аднапавярховы афіцэрскі флігель, драўляныя адрыны пры афіцэрскіх флігелях для захоўвання дроў, чатыры мураваныя леднікі, абсыпаныя зямлёй, мураваная аднапавярховая афіцэрская лазня, бетонныя памыйныя ямы і прыбіральні пры афіцэрскіх кватэрах, дзве мураваныя студні пры афіцэрскіх флігелях. Вакол па мяжы афіцэрскага ўчастка быў пастаўлены крацісты драўляны плот. У салдацкай частцы вайсковага гарадка знаходзіліся чатыры мураваныя двухпавярховыя батальённыя флігелі, чатыры мураваныя двухпавярховыя сталовыя, два карпусныя мураваныя склепы, шэсць бетонных памыйных ям, тры артэзіянскія студні, мураваны двухпавярховы флігель для кулямётнай каманды, мураваны двухпавярховы флігель для вучэбнай каманды, мураваны двухпавярховы флігель для майстравых, абозных і музыкаў, мураваны трохпавярховы палкавы



Нямецкія жаўнеры каля казармы Паўночнага гарадка, 1916 г.

цэйхгаўз, мураваны аднапавярховы будынак майстэрняў, мураваная палкавая пякарня, мураваны павільён для практыкавання музыкаў, тры мураваныя абозныя адрыны, мураваная стайня, мураваная адрына для кулямётаў і патронны склад, драўляны падстрэшак для арцельных вазоў палка і гнаявая яма. Уся тэрыторыя салдацкага гарадка была абсыпана земляным валам з драцяной агароджай. Новая дарога, якой маглі карыстацца як ваенныя, так і цывільныя жыхары, павінна была прайсці ўздоўж лініі чыгункі з усходняга боку будучага казармавага комплексу. З паўночнага боку лазарэта ішла брукаваная дарога перпендыкулярна лініі чыгункі.

Пра нешчаслівы выпадак падчас будаўніцтва гарадка ў снежні 1912 г. пісала першая лідская газета «Лідскае слова»: «Пётр Пескавы будаваў студню на казарменным участку. Праходзячы каля гмаху афіцэрскага сходу, які яшчэ будуецца, ён, каб падтрымаць памост, захацеў узяць абрэзак бервяна, якое было зафіксавана ў сцяне. ...узняўся па лесвіцы на сцяну і паспрабаваў выцягнуць бервяно, але не ўтрымаў раўнавагі і ўпаў з вышыні. Прычым тым жа бервяном, якое ўпала, атрымаў удар па галаве, ад чаго памёр у лідскім шпіталі».

У 1912 годзе полк перасяліўся ў новыя казармы.

Паходная палкавая царква Святой Тройцы заснавана ў 1892 г. Пасля пераходу палка з прыватных наёмных казарм у новыя казармы за горадам палкавая царква ўладкоўвалася ў сталовай батальёна. Па штаце пры царкве быў адзін святар.

У 1919 г. 3-ці Сядлецкі полк Чырвонай Арміі быў часткова раскватараваны ў казармах на тэрыторыі сучаснага Паўночнага гарадка, а некаторыя яго часткі – у хатах і кватэрах лідзян. У красавіку таго ж года, калі польскія войскі выбівалі чырвоных з Ліды, толькі пры штурме казарм Паўночнага гарадка загінула 13 легіянераў і 80 было паранена.



Польскія жаўнеры 77-га палка (Сім-Сім) у Паўночным гарадку, 1930-я гг.

З пачатка дваццатых гадоў у кармах Паўночнага гарадка мясціўся польскі 77-мы Ковенскі полк пяхоты – «Сім-Сім» на мясцовым жаргоне.

У 1924 г. у Паўночным гарадку адбылося адкрыццё помніка загінуўшым жаўнерам 77-га палка. 25 мая 1924 г. Ліду наведаў прэзідэнт Польшчы Станіслаў Вайцяхоўскі: «У 9 гадзін раніцы цягнік прэзідэнта спыніўся ў Лідзе. На ўпрыгожаным пероне высокага госця сустракалі старшыня грамадскага камітэта і прадстаўнік Звязу землеўласнікаў князь Людвік Чацвярцінскі, прадстаўнікі гараджан разам з каталіцкім, праваслаўным і яўрэйскім духавенствам. Пасля сустрэчы на вакзале прэзідэнт у суправаджэнні коннага эскорту паехаў у горад. Прэзідэнт прыняў шэраг дэлегацый і наведаў казармы 77-га палка пяхоты, дзе прыняў удзел у ганаровым адкрыцці помніка загінуўшым жаўнерам 77-га палка. Помнік у выглядзе калоны быў пабудаваны па праекце падпалкоўніка Сестраневіча».

У першай палове мая 1926 г. у Варшаве адбыліся лёсавызначальныя падзеі, пра якія беларуская газета пісала: «12.05. Паасобныя часціны войск, раскватараваныя ў раёне Рэмбэртава (пад Варшавай)... адмовіліся падпарадкавацца сваёй уладзе, пайшлі ў сталіцу ды занялі часць места. Пасля палудня маршал Пілсудскі адбыў на нараду з п. Прэзідэнтам Рэспублікі ў справах, звязаных з выступленнем гэтых атрадаў. Увечары паміж стала раскватараванымі ў Варшаве войскамі і гэтымі атрадамі дайшло да сутычак...».

Пісьменнік Ежы Путрамент, які тады вучыўся ў лідскай гімназіі, пісаў пра адгалоскі гэтых падзей у Лідзе: «Пераварот страсянуў увесь горад. Стаялі тут два палкі: ...ужо 77-ы полк ковенскіх стральцоў і 5-ы лётны полк [насамрэч у Лідзе стаяў яшчэ 11-ы лётны полк – Л. Л.]. Камандзір першага, палкоўнік Альтар, здаецца, схільны быў падтрымаць легальны ўрад. На шчасце для сябе, ён не паспеў вызначыцца. Лётчыкі таксама вагаліся. Затое ў нашым класе дайшло да вострай барацьбы. Цікавы быў падзел сіл: сыны мясцовага старасты, Здановічы, сын ваенкама (каменданта PKU), ніжэй падпісаны, сын адваката Рынкевіч, сын уладаль-



Польскія жаўнеры 77-га палка (Сім-Сім) у Паўночным гарадку, 1930-я гг.

ніка маёнтка Маргевіч і яшчэ пару з «лепшых сфер» стаялі на боку Вайцяхоўскага. Сыны чыгуначнікаў, нап. Баклан (мянушка Булачка, дасканалы крайні), Клебан ці Юрага, некаторыя з мужыцкіх дзяцей (Круповічы) і, наогул, прадстаўнікі народа – ставілі на Пілсудскага. Даходзіла да боек. І адны, і другія, зрэшты, з-за няясных суадносін сіл, лічылі за лепшае выжываць у паштурхванні адзінага нашага яўрэйчыка Герша Любчанскага».

Пра тагачасныя падзеі ў Лідзе беларуская газета паведамляла: «Надоечы ў Лідзе адбываліся муштры 11-га палка летуноў. Калі колькінаццаць аэраплянаў знаходзіліся ў паветры, з аднаго з іх пасыпаўся град лістовак. У лістоўках была надрукавана гарачая адозва проці таго, што на чале міністэрства вайсковых спраў стаяць людзі, якія прымалі ўчасьце ў маёвым замаху. Устанавіць, з якога аэраплячну яны былі кінуты, ня ўдалося».

На пачатку 1928 г. адбыўся гучны палітычны скандал паміж Польшчай і Літвой, гэтая тэма працяглы час не сходзіла са старонак прэсы. Адным з складнікаў скандалу сталася падрыхтоўка на базе 77-га Ковенскага пяхотнага палка, які дыслацыраваўся ў Лідзе, баевікоў для ўварвання ў Літву. Кіраваў баевікамі літоўскі эмігрант Плячкайціс. У казармах Паўночнага гарадка знаходзіліся жаўнеры ў форме літоўскага войска, і таму лідская тэма прысутнічала ва ўсіх дыпламатычных нотах літоўскага ўрада і неаднаразова абмяркоўвалася ў Лізе Нацый. Польскі ўрад спачатку адмаўляўся ад свайго ўдзелу ў падрыхтоўцы баевікоў, але потым спыніў падрыхтоўку. Путрамент успамінаў: «Яшчэ адна драбніца з той эпохі... Некалькі разоў сустракаліся на вуліцы жаўнеры з досыць дзіўнымі адзнакамі. Замест мядзведзіка – традыцыйнага значка Сім-Сім – мелі на шапцы кавалак зялёнай стужачкі. Я быў яшчэ смаркаты, каб слухаць больш уважліва каментары, якія тая стужачка выклікала, бубнілі нешта пра марш на Коўню. Здаецца, што справа ішла пра паўтарэнне аперацыі Жалігоўскага, пра стварэнне на Літве ўра-



Афіцэрскае казіно ў Паўночным гарадку, 1930-я гг.

да, які пайшоў бы на прымірэнне, а можа, і унію з Польшчай. Падобна, што быў такі генерал Плячкайціс, які падтрымліваў такія планы. Зялёныя стужачкі павінны былі яму дапамагчы. Але ў снежні апярэдзіў яго Вальдэмарас, здзейсніўшы ў Коўне пераварот… Зялёныя стужачкі неяк зніклі, вярнуліся даўнія мядзведзікі».

На пачатку снежня 1928 г. у Паўночным вайсковым гарадку з'явілася паштовае аддзяленне Ліда-3.

На працягу двух днён – 9 і 10 лютага 1929 г. – у горадзе святкавалася 10-годдзе 77-га Ковенскага палка пяхоты. Ладзіліся святочныя набажэнствы, пасяджэнні грамадскасці з вайскоўцамі, выступы творчых калектываў Польшчы перад гараджанамі і жаўнерамі, дэфіляда (парад, урачыстае праходжанне) палка па вуліцах горада і баль у афіцэрскім казіно.

Кожны год 11 і 12 лютага 77-ы полк святкаваў палкавое свята. Звычайна адбывалася пасяджэнне ў кінатэатры «Эра», наведванне помніка загінуўшым у Паўночным гарадку, парад войск і служба ў гарнізонным касцёле.

Кожную вясну полк выязджаў у летні лагер і вяртаўся ў верасні. Вяртанне войска з вучэнняў заўжды праходзіла як гарадское свята. 13 верасня 1938 г. лідзяне апошні раз сустракалі полк з лагераў, бо ў наступную восень полк ужо ваяваў. Гараджане асыпалі кветкамі маршыраваўшых па вуліцах горада жаўнераў і афіцэраў.

**Вайсковыя могілкі**. У 1916 г. немцы заснавалі адмысловыя ваенныя могілкі недалёка ад Паўночнага вайсковага гарадка (зараз – каля СШ № 6). Могілкі былі агароджаны невысокім мурам. Па правым боку былі магілы нямецкіх і аўстрыйскіх жаўнераў, па левым – расійскіх, якіх сабралі па палях пасля заканчэння баёў вакол Ліды. На магілах расійскіх жаўнераў меліся надпісы «Невядомы жаўнер расійскай арміі» ці проста «Невядомы». Цікава, што асобна былі пахаваны чэхі – жаўнеры аўстра-венгерскай арміі – і палякі – жаўнеры нямецкай арміі. У



Помнік загінуўшым жаўнерам 77-га палка, каля 1930 г.


Нямецкія жаўнеры хаваюць сваіх забітых на ваенных могілках Паўночнага гарадка, 1917 г.

канцы могілак, з паўднёвага боку, недалёка ад выязной брамы знаходзіўся прыгожы помнік у форме піраміды, якая, як пісаў у 1936 г. адзін з аўтараў выдання «Лідская зямля» Аляксандр Снежка, «...пабудавана з пэўным мастацкім густам з вялікіх, груба абчасаных камянёў. Ля падножжа піраміды ляжыць паміраючы жаўнер (рыцар), адліты з жалеза, пад ім выразаны надпіс “Fur das Vaterland”».

У 1919–1920 гг. на гэтых жа могілках былі пахаваны салдаты польскай арміі: Сувальскага пяхотнага палка, 4-га і 11-га ўланскіх палкоў (1919 г.), 1-й дывізіі легіёнаў (1920 г.) На могілках былі пастаўлены цэментныя крыжы з надпісамі: «Невядомы жаўнер Вялікай Польшчы» без даты нараджэння і смерці. У адным з вуглоў могілак стаяў адзінокі цэментны крыж з надпісам: «Невядомы салдат бальшавіцкай арміі».

У 1924 г. была пабудавана невялікая капліца ў «закапанскім» стылі. У капліцу на набажэнствы, якія праводзіў капелан 77-га палка ксёндз Шабельскі, прыходзілі не толькі польскія вайскоўцы, але і жыхары бліжніх раёнаў горада. На жаль, інфармацыі пра капліцу не шмат, але вядома, што ў лютым 1925 г. старшы капелан ксёндз Юзаф Бляўскі праз газету «Слова» падзякаваў усім, хто 31 студзеня прычыніўся да папаўнення касы будаўніцтва гэтай капліцы, а перш за ўсё памянуў «грона непрацуючых паней-гаспадынь... Шукевіч, Здановіч (старасціна), Сестранцэвіч (інжынярова), Рашкоўскую, Фэглер (прафесарова), Юрагу, Зямкову (капітанова), Мярвінскую (інжынярова), панну Ядвігу Шкоп, Гарлінскую (капітанова), Рашкевіч (інжынярова), Скавінскую, Грэб, Чаславу Мейлун, Баркоўскую, дзякуючы якім была арганізавана імрэза, якая прынесла ў скарбонку будаўніцтва капліцы 634 зл. і 6 гр.».

У 1920-х гадах могілкі былі павялічаны, і тут, у асобнай агароджанай зоне хавалі памерлых жаўнераў 77-га пяхотнага палка і цывільных асоб, якія жылі на Кашарах [казармах – Л. Л.]. У 1939–1941 гг. на могілках былі пахаваны некалькі салдатаў Чырвонай Арміі. У 1941–1944 гг. могілкі былі месцам пахаванняў нямецкіх салдатаў, загінуўшых пад Лідай і памерлых у шпіталях.

Калі ў ліпені 1944 г. у Ліду ўвайшла Савецкая Армія, каля могілак усю зіму стаяла супрацьпаветраная артылерыйская батарэя. Каб перазімаваць, жаўнеры капалі зямлянкі.Зіма ў той год была надта суровай.Калі скончыліся дровы,жаўнеры пачалі шукаць паліва, каб было чым абагрэць зямлянкі. На могілках стаяла каплічка ў «закапанскім» стылі, у якой раней адпраўляліся жалобныя імшы пры пахаваннях, а ў маі – маёвае набажэнства. Жаўнеры пачалі разбіраць гэту каплічку на паліва. Так знікла капліца на могілках.

Без змен могілкі пратрымаліся да 1949 г. У той год ноччу адзін з жыхароў Ліды разбіў фігуру жаўнера, якая мясцілася на пірамідзе, і здаў яе на металалом. Сама піраміда працягвала стаяць. У 1966 г. могілкі зраўнялі з зямлёй, на зямлі, якая непасрэдна прылягала да могілак, пабудавалі школу № 6, а там, дзе былі магілы, паўстала спартыўная пляцоўка і памяшканні школьных майстэрняў.




Піраміда з жаўнерам (рыцарам) на ваенных могілках, малюнак лідскага гімназіста, 1931 г.

# Пасляслоўе

Матэрыял для гэтай кнігі збіраўся больш за 20 гадоў, і першыя фрагменты яе былі напісаны недзе каля 2000 г. Частка тэкстаў друкавалася ў маіх ранейшых кнігах і артыкулах, таму было праблематычна звесці ўсе напісанае ў адзін лагічны і паслядоўны тэкст без паўтораў гістарычнага матэрыялу. Спадзяюся, што мне гэта ўдалося. Таксама было цяжка скарачаць раней ужо напісаныя тэксты да памераў кніжнай главы, доўга прыйшлося думаць над тым, якому ілюстрацыйнаму матэрыялу аддаць перавагу.

Некаторыя аўтарскія высновы пра месцазнаходжанне старых дамоў Ліды зроблены на грунце шматгадовага аналізу і разваг, вывучэння тэкстаў тысяч газет розных часоў, інфармацыі ўспамінаў лідзян і камп'ютарнага мадэліравання. Але ўсё ж я мог у нечым памыліцца, і пасля таго, як будуць выяўлены новыя архіўныя матэрыялы ці ўспаміны лідзян, будучыя аўтары змогуць удакладняць мае высновы.

Старой Ліды няма, і тым каштоўней для нас тыя дамы, якія захаваліся да нашага часу, і тым з большай ашчаднасцю мы павінны берагчы і імкнуцца захаваць іх першапачатковы выгляд. Хачу закончыць кнігу словамі, якія ўжо цытаваліся на пачатку, словамі знакамітага жыхара Лідчыны, заснавальніка беларускай археалогіі Вандаліна Шукевіча, якія ён напісаў больш за сто гадоў таму: «Незайздросны лёс помнікаў мінулых вякоў у нашым краі! Дзесьці там, у цывілізаванай Еўропе, як урады, так і грамадства атачаюць такія помнікі клапатлівай апекай, шануюць іх, амаль пакланяюцца, сцерагуць ад усялякай шкоды. У нас наадварот, калі і існуюць яшчэ нейкія абломкі, то толькі дзякуючы нечуванай іх трываласці, бо ў нас усё робіцца, каб іх знішчыць... для нас мінулае павінна быць падвойна дарагім, бо ў ім адным мы можам чэрпаць натхненне для барацьбы за нацыянальнае існаванне».

# Змест

## Частка 4. Вуліца Каменская (3-га Мая, Ленінская)



## *Частка 5. Вакол чыгункі*

Лічу гэтую працу выдатным дапаможнікам для ўсіх, хто хоць нейкім чынам судакранецца з гісторыяй старажытнага горада Ліда. Для экскурсаводаў, каб мелі да дыспазіцыі большы аб'ём дакладнай гістарычнай інфармацыі і менш запаўнялі час выдумкамі ўласнымі фантазіямі. Для гісторыкаў, якія пішуць гісторыю рэгіёна і ўсёй краіны. Урэшце для турыстаў-індывідуалістаў, якія могуць з кнігай у руках прайсціся па ўсіх апісаных у ёй мясцінах, каб усё спраўдзіць на ўласныя вочы. Прызнаюся, што сам менавіта так і зраблю, неўзабаве пасля выхаду кнігі друкам.

*Аляксандр Краўцэвіч,*
*доктар гістарычных навук*

